ББК 81.2 Бел-4
Э 89

Седьмой том словаря строится на тех же принципах, что и предыдущие тома, и включает в себя анализ белорусской литературной и диалектной лексики на буквы М — Н. Особое внимание уделяется лингвогеографии и словообразованию.

Рассчитан на лигвистов, литературоведов, фольклористов, этнографов, историков и всех, кто интересуется связями белорусского языка с другими славянскими и неславянскими языками.

Укладальнікі:
І. І. Лучыц-Федарэц: Мг — Мя,
Г. А. Цыхун: На — Ня

Рэдактар
д-р філал. навук В. У. Мартынаў

Рэцэнзенты:
канд. філал. навук Л. Ц. Выгонная,
канд. філал. навук А. С. Сакалоўская

Э $\frac{4602030000-030}{М316(03)-91}$ 129—90

ISBN 5-343-00450-4



# М

**Мгла,** *мг̆ла* 'імжа' (Бес., Яруш., Сл. ПЗБ), 'тое, што выходзіць з магілы і можа забіць чалавека на месцы' (Федар. 1). Да *імглá* (гл.). Адсутнасць пратэтычнага *і-* і *-г̆-* пад уплывам польск. мовы. Больш падрабязна гл. Мяркулава, Этимология-1973, 59.

**Мгне́нне** 'імгненне' (Нас.), ст.-бел. *мгненіе* запазычана са ст.-польск. *mgnienie* 'тс'.

**Мдле** 'ваніты' (паст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мдле* запазычана са ст.-польск. *mdle* 'стан слабасці', 'стан, калі цягне на ваніты', як і іншыя ст.-бел. *мдлети* 'млець, слабець'<ст.-польск. *mdleć, мкглый*<*mgły, мдлый* 'аслаблены, вялы, сумны' (>*мдлявый, млявый*), ст.-польск. *mdły* 'тс', *мдлость* (XV ст.)<ст.-польск. *mdłość* (Карскі, Труды, 312; Булыка, Запазыч., 200; Булахаў, Гіст., 130; Жураўскі, Крамко, Зб. Крапіве, 141; Ташыцкі, SFPiSł, 2 (1957), 230—460). Махэк (356), аднак, выводзіць прасл. *mьdlěti.*

**Меге́ра,** *міге́ра* 'злая, сварлівая жанчына' (ТСБМ), 'старая, худая жанчына' (Растарг.), 'пачвара' (капыл., Жыв. сл.). Праз польск. мову з лац. *Megaera* — адна з фурый, багінь помсты і захавальніц маральных норм, якое са ст.-грэч. *Μέγαιρα*.

**Мег̆ета́ць** 'бляяць (аб авечцы)' (ганцав., ДАБМ, к. 302). Гукапераймальнае. Да *ме́кацьı* (гл.). Параўн. і польск. *mektać* 'тс'.

**Медабра́ня** 'медазбор' (ваўк., Сл. ПЗБ). З польск. *miodobranie* 'тс'.

**Медава́нне** 'частаванне пасля пахавання' (шчуч., Сцяшк. Сл.), *медава́ць* 'гуляць вяселле' (астрав., Сцяшк. Сл.). З польск. *miodować* (>*miodowanie*) 'запраўляць мёдам'.

**Медаед₁** 'мядзведзь' (Эр.). Магчыма, вельмі старое ўтварэнне накшталт прасл. *medvědь* 'тс', якое да *мёд* і *е́сці* (гл.). Параўн. новае рус. сарат. *медоед* 'аматар мёду', славен. *medojèd* 'тс', балг. *медун* 'мядзведзь', а таксама ст.-інд. *madh(u)vád* 'той, хто есць мёд'.

**Медае́д₂** 'лясная паўднёвая птушка атрада вераб'іных' (ТСБМ) — калька з лац. *meliphagidae* ' медаеды ' .

**Меда́ль,** *мяда́ль* 'знак пераважна ў выглядзе металічнага кружка для ўзнагароды' (ТСБМ, Яруш.). Праз рус. мову запазычана з франц. *médaille*, якое з італ. *medaglia*<с.-лац. *metallia* 'металічная манета'<лац. *metallum* 'метал' (Фасмер, 2, 589; Голуб — Ліер, 307). Формы даўг. *мэда́ль*, лудз. *міда́лек* 'медаль', 'медальён', дзятл. *медалёвы* 'які мае колер бронзы' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.) прыйшлі з польск. мовы.

**Меданіца** 'падзь' (дзятл., Сл. ПЗБ). З польск. *miodowica, miodanka* 'тс'.

**Медаўні́ца** 'кадушка, кадаўб на мёд' (чач., Жыв. сл.). Серб.-харв. *medovnica* 'няктарнік'. Утворана ад прыметніка *medvьnъ* 'мядовы'. Аб суфіксе *-іца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110.

**Ме́дзіць** 'цэліць' (пух., З нар. сл.). Да *ме́ціць₂*. Аб азванчэнні *ц* у інтэрвакальнай пазіцыі гл. Яшкін (там жа, 111).

**Медзь,** *міедь, мідь* 'вязкі і коўкі метал чырванаватага колеру', 'выраб з медзі', 'медныя грошы' (ТСБМ; драг., КЭС; Бес.). Укр. *мідь*, рус. *медь*, польск. *miedź* 'медзь', н.-луж. *měź* 'тс', 'бронза', 'латунь', в.-луж. *mjedź* 'руда', а значэнне 'медзь' — з чэш. мовы (Шустар-Шэўц, 12, 920); чэш. *měď*, славац. *meď* 'медзь', славен. *mệd* 'медзь', 'латунь', серб.-харв. *mjȅd*, макед., балг. *мед*, ст.-слав. **мѣдь** 'медзь'. Прасл. *mědь* не мае генетычна блізкіх і.-е. адпаведнікаў. Яе збліжаюць са ст.-ісл. *smiðr*, ст.-в.-ням. *smid* 'каваль', з ірл. *mēin(n)* 'метал руды', ст.-грэч. σμίλα 'нож для вырэзвання' (Міклашыч, 194; Аткупшчыкоў, Из истории, 157). Бернекер (2, 46) параўноўваў яе з ц.-слав. *смѣдь* 'цёмны, шэры'. Больш падрабязна літаратуру гл. Фасмер (2, 591), Покарны (697). Абаеў (Зб. Младэнаву, 321) выводзіць лексему *mědь* з назвы краіны *Мідзія* са ст.-іран. *Māda-* праз ст.-грэч. іян. Μηδία, з якой медзь іянійцы прывозілі ў свае калоніі на Чорным моры (Ольвія і інш.). Аналагічна лац. *cuprum* 'медзь'<ст.-грэч. Κύπρος 'Кіпр'. Сюды ж *медзякі* 'медныя грошы' (Яруш., ТСБМ) (відаць, з разм. рус. *медяки*), *ме́дны, медзя́ны, медзяні́сты* 'які мае адносіны да медзі: зроблены з медзі, падобны колерам на медзь або да іншых каляровых металаў' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ), *ме́дзень* 'медны кацёл' (паўд.-усх., КЭС).

**Медзюля́н** 'тоўсты, непаваротлівы', *мідзюля́н* 'тс', *медзюля́нскі сабака* (Нас., Бяльк.), *медзяля́н* 'свавольнік' (дзятл., Сцяшк. Сл.). З польск. *medelan, (pies) medelański* 'паляўнічы сабака, з якім хадзілі на мядзведзя', якое ад назвы г. Мілана — *Mediolano*<гальск. *Mediolanum* 'пасярод поля' (Насовіч, 283; Брукнер, 327),— з гэтага раёна Паўночнай Італіі паходзілі вялікія паляўнічыя сабакі. Неверагодна Карскі (Труды, 390), які тлумачыў лексему ўплывам літ. слоў з коранем *med-* 'лес': *medėjas* 'паляўнічы', *medìnis* 'дзічына'.



**Ме́дзены,** *ме́дзяны, ме́зены, ме́зіны, мі́зіны, мезё́нны, мезы́ны, ме́зяны, мязя́ны (палец)* 'мезенец' (Касп., ТС; мін., Шн. 2; Кліх, Нас., Растарг.; бялын., Янк. Мат.; лепел., бяроз., КЭС), віц. *мезін перст* 'тс' (Шн. 2). Укр. *мизи́нний*, рус. смал. *мезе́нный*, паўн., пск. *мизе́нный, мизи́нный (перст)*. Польск. *miedziany, mieziny, miezinny, mieziany* 'тс'. Да прасл. *mězinъ*, якое звычайна выводзяць з балт. моў: літ. *mãžas* 'малы', лат. *mazs* 'тс', ст.-прус. *massais* 'менш' (Бернекер, 2, 55 і інш. гл. у: Фасмер, 2, 620). Параўн. чэш., славац. *malík*, серб.-харв. *мали прст*, макед. *малиот прст*, балг. *малъкият пръст* 'мезенец' (<*malý* 'малы'). Аб мене *з*>*дз* гл. Карскі, 1, 358. Параўн. таксама *мезенец*. Гл. Мартынаў, Балто-слав.-іт. изогл., 30—31.

**Медзяні́ца** 'лістаблошка, Psylloidea, Psyllinea' (ТСБМ). Да *медзь* (гл.). Названа паводле жоўтага або чырвона-бурага колеру цела.

**Медлік** 'бабка з 30 снапоў' (бяроз., Выг. дыс.). Да *мэндлік* (гл.). Мена *-эн-* у *-е-* ў выніку «гіперправільнасці» (фанетычная адаптацыя польскіх лексем з насавым *ę*); параўн. польск. *święto* — бел. бяроз. *сьве́то* 'свята'.

**Ме́дная** *змяя* 'мядзянка' (брасл., Сл. ПЗБ) — калька літ. *varìnis žaltŷs* (літаральна 'медны вуж').

**Ме́днік** 'лудзільшчык' (ТС). Да *медзь* (гл.) Аб суфіксе *-нік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 161.

**Медуні́ца₁,** *мядуні́ца, мядуні́шнік* 'шчамяліца няясная, Pulmonaria obscura Dum. (віц., Кіс.; свісл., Сл. ПЗБ; Бяльк.), рус. смал., наўг. *медуни́чник*, сіб. *меду́нка*, укр. *меду́нка*, польск. *miodunka, miodynka*, серб.-харв. *меду̏нак, медуњак, меду̏ника, меду̏ница*, балг. *медуни́ка*, палес. *медуні́ца* 'зябер, Galeopsis L.' (ТС), рус. паўн. *медуни́чник, медуни́ца* 'тс'; *медуні́ца* 'спірэя вербалістая, Spiraea salicifolia L.' (віц., Кіс.; Грыг., ТСБМ, Дэмб.), *мяду́ніца* 'спірэя вязавая, Spiraea ulmaria L.' (Касп.), рус. валаг., наўг., смал. *медуни́ца*, серб.-харв. *меду̏ника* 'тс'. Да *мёд* (гл.). Названы паводле таго, што з'яўляюцца добрымі меданосамі. Таксама Каламіец і Шамота (Мовознавство, 1979, 4, 24).

**Медуні́ца₂,** *мідуні́чка* 'сорт яблыкаў' (Нас.; бялын., Янк. Мат.). Да *мёд*. Названа паводле салодкага смаку. Аналагічна: укр. *меду́нка*, польск. *miodówka* 'салодкая грушка', славен. *mệdovka*, серб.-харв. *меду̏ника, medvańa* 'салодкая груша, яблык'.

**Ме́дык** 'спецыяліст па медыцыне', 'студэнт медыцынскай навучальнай установы' (ТСБМ), ст.-бел. *медикъ, медыкъ* (XVII ст.) 'урач' запазычаны са ст.-польск. *medyk* 'тс', якое з лац. *medicus* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 129). Сучаснае значэнне прыйшло з рус. мовы.

**Медыкаме́нт(ы)** 'лячэбныя сродкі, лякарства' (ТСБМ), ст.-рус. *медикаментъ, медикаменты* (XVII ст.) прыйшло праз ням. *Medikament* (XVI ст.) з лац. *medicāmentum* 'тс'<*medeor* 'лячыць', 'дапамагаць, палягчаць' (Фасмер, 2, 590; Васэрцыер, 149).

**Ме́дыум** 'пасрэднік паміж людзьмі і «духамі»' (ТСБМ), ст.-бел. *медиумъ* 'публічнасць' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *medyjum* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 32), якое з лац. *medium* 'цэнтр', 'асяроддзе', 'грамадскасць, грамадскае жыццё', 'прызначаны для грамадскага карыстання'. Суч. значэнне бел. лексемы магло прыйсці як з польск., так і з рус. моў.

**Медыцы́на** 'сукупнасць навук аб хваробах, іх лячэнні і прафілактыцы' (ТСБМ), ст.-бел. *медыцына* 'тс' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *medycyna* 'тс', якое з лац. *medicīna (ars)* 'лячэбная навука' (Булыка, Лекс. запазыч., 129; Кохман, 85), насуперак Крукоўскаму (Уплыў, 89), які бел. лексему выводзіць з рус. *медицина.*

**Медыта́цыя,** ст.-бел. *медитация* 'роздум' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *medytacja,* якое з лац. *meditātio* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 131; Жураўскі — Крамко, Зб. Крапіве, 142).

**Медыя́тар** 'пасрэднік у адносінах, пагадненнях' (ТСБМ), ст.-бел. *медиаторъ, медыяторъ* 'пасрэднік, арбітр' (XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *medyjator,* якое з лац. *mediātor* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 44).

**Меж**₁ 'паміж' (Грыг.) — скарочаная форма (як *між*) ад *межы́, мяжы́, міжы́,* навагр. *мыжы* (Нас., Сл. ПЗБ; Шуба, Прыназ., 38). Укр. *меж, ме́жи́,* рус. паўн. *меж,* пск., цвяр. *ме́жи́,* ст.-рус. *межь,* ст.-польск. *między,* каш. *mjidzë,* памор. *mjizä, midzë, midzy,* н.-луж. *mjaz(y),* в.-луж. *mjez(e),* ст.-чэш., *mezi,* славац. *medzi,* славен. *mèd, mèj,* старое *meji,* серб.-харв. старое *међ(и)* (суч. серб.-харв. мѐђу, чак. *meju,* ст.-чак., ст.-шток. *meu*), паўн. і паўн.-зах. серб.-харв. *med, meda,* макед. кюстандз. *меѓи,* балг. *меж.* Гістарычна гэта застылая форма меснага склону адз. ліку — *medji* (захавалася ў ст.-серб. мове з XVI ст.— *meu: nenaviden biti meu puku nevernomu*) ад прасл. лексемы *medja*>бел. *мяжа́* (гл.), якая ў якасці прызоўніка ўжывалася ў ст.-бел. і вядома ў суч. бел. мове ў спалучэнні з назоўнікамі ў род., тв. і (рэдка) він. склонах (Карскі, 2—3, 431; ён жа, Труды, 312). І.-е. адпаведнікі: ст.-інд. *mághyē,* авест. *maidya,* ст.-грэч. аркадск. μέσουν 'пасярэдзіне, паміж', лац. *medius* 'сярэдні', гоц. *midjis* 'які ляжыць пасярэдзіне', ням. *Mitte* 'сярэдзіна' (Міклашыч, 181; Голуб — Копечны, 221; Зубаты, Studie, 2, 50; Мее, MSL, 20, 124—134; Бернекер, 2, 32; Фасмер, 2, 592; Махэк₂, 361; ESSJ SG, 1, 108—110). Гл. таксама *между, між, міз.*



**Меж**₂ 'колькасць канапель, якая бярэцца адзін раз для таго, каб мяць іх нагамі' (ельск., ЛАПП). Відавочна, скажонае польск. *mierza* 'мера'.

**Межава́ць** 'пракладваць межы', 'быць сумежным', 'чаргавацца' (ТСБМ; малар., Выг. дыс.), докш. *межава́цца,* тураў. *межова́цца* 'мець агульную мяжу, суседнічаць' (Сл. ПЗБ, ТС), укр. *межува́ти(ся),* рус. *межева́ть,* ст.-рус. *межевати* 'тс', в.-луж. *mjezować,* чэш. старое *mezovati* 'гранічыць', балг. *межо̀вам* 'працую ў талацэ'. Відаць, старое паўн.-слав. утварэнне з суфіксам *-ova-* ад *мяжа́* (гл.). Сюды ж *межавік* 'каморнік' (Бяльк.), якое з рус. *межевик* 'тс'.

**Межаву́ха** 'балотнае дрэва', 'кручаная драўніна з ускрайку леса, якая дрэнна колецца' (Сцяц., Інстр. II). Балтызм. Параўн. усх.-літ. *mēdžias* 'лес', лат. *mežs* 'лес', 'дрэва' — у балт. мовах лексемы з і.-е. коранем **medhi̯o* 'сярэдні' азначаюць 'тое, што служыла граніцай, размяжоўваннем чаго-небудзь'. Семантычна бел. лексема ўваходзіць у лік тых, якія маюць звязаныя семемы 'балота'↔'лес' (гл. Талстой, Геогр., 244). Параўн. *ме́жань*₂, а таксама бел. *ку́дра* 'ставок, азярцо, балота' — 'лясок сярод поля' і літ. *kūdra* 'ставок', лат. *kūdra* 'торф'.

**Ме́жань**₁, *ме́жэнь, межані́на* 'ўзровень вады ў рэчцы' (іўеў., Сцяшк. Сл.), 'доўгае сезоннае стаянне нізкіх узроўняў вады' (ТСБМ; вілен., Яшк.). Укр. *ме́жень, ме́жінь,* рус. *меже́нь* 'сярэдзіна лета'. Да *мяжа́* (гл.). (Фасмер, 2, 592).

**Ме́жань**₂, *ме́жынь* 'веснавы рух сокаў у дрэвах' (Бяльк.). Роднаснае да балтыйскіх лексем: усх.-літ. *mēdžias* 'лес', літ. *mēdė,* лат. *mežs* 'тс'. Параўн. яшчэ і рус. смал., арл., калуж. *меженя* 'нізкія мясціны, дзе расце асіннік,— там дзяруць кару і лыка' (КЭС). Гл. таксама і *межаву́ха.*

**Ме́жды** 'паміж' (Жд. 1, Ян.; смарг., Сл. ПЗБ), *ме́жду, мі̂ежду, між̀ду* 'тс' (Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), *мі́жды* (кліч., Жыв. сл.; пух., Сл. ПЗБ; ушац., Нар. лекс.), *мі́жда* 'тс' (Ян., Нар. Гом., Бяльк.). Укр. *міждо, міжда* 'тс' рус. *между,* пск. *между,* смал., арл., перм. *ме́жда, межда́,* ст.-рус. *между (междю)* і *междо, межды, межди.* Запазычаны з ц.-слав. *междоу,* якое са ст.-слав. **междоу** 'тс' — старая форма меснага склону парнага ліку *(medju)* лексемы *medja*>*мяжа́* (гл.). Параўн. таксама *меж* (Карскі, 2—3, 431; Бернекер, 2, 31; Фасмер, 2, 592; ESSJ SG, 1, 108—110). Мена канчаткаў абумоўлена, відаць, рознымі прычынамі: пераразлажэннем прыназоўніка на *меж* і *да,* кантамінацыяй форм *міжы* і *между* ці ўспрыманнем канчаткаў *-да, -ды* як даўніх часціц прыслоўяў і прыназоўнікаў прасл. *da/de/du/dy.* Сюды ж

мікратапонімы *міждарожжа, (па)міждурэчча, паміждарэчча* (слаўг., Яшк.).

**Ме́жнік** 'знак для размежавання ворнай зямлі' (паўн.-усх., КЭС), рус. зах. і паўн. *ме́жник* і *мяжни́к* 'мяжа', 'баразна', 'слуп на мяжы'. Да *мяжа́* (гл.).

**Межсо́б**, *межсо́бку* 'паміж сабой' (паўн.-усх., Нас., Рам. 3; віл., Мат.). Толькі беларускае. Карскі (2, 70 і 193) гаворыць аб незвычайным утварэнні. Лексемы можна лічыць калькай з літ. *tarpùsavyje* 'паміж сабой', да якой далучаўся прыслоўны суфікс *-ку* (магчыма, па аналогіі да прыслоўя *паасобку*). Параўн. і н.-луж. *mjazsobnje* 'паміж сабой'.

**Межу**, ст.-бел. *межю* (1405 г.), *межоу* (XVI ст.) 'паміж' (Кар. 1) — беларускі рэфлекс запазычанага ц.-слав. *междоу*, якое са ст.-слав. **междоу** 'тс'. Параўн. *между*. Да *мяжа́* (гл.).

**Межытока** 'мокрая дарога паміж двума азёрамі ці балотамі; дарога, якая злучае два возеры ці балоты' (ТСБМ), 'рукаў, які злучае два возеры' (смал., КЭС), рус. арханг. *межито́к* 'тс'. Бел.-паўн.-рус. ізалекса. Да *ток* і *меж* (гл.). Параўн. таксама паўн.-рус. *межу́ток* 'прамежак', 'суткі паміж пабудовамі', 'мяжа', іркуц. 'прастора паміж двума азёрамі'.

**Мезанін** 'няпоўны паверх, пабудаваны над сярэдзінай дома' (ТСБМ). З рус. *мезанин, мезонин*, якое праз франц. *mezzanine* зітал. *mezzanino* 'тс'<*mezzano* 'сярэдні' (Мацэнаўэр, LF, 10, 322; Фасмер, 2, 593 і 594; Крукоўскі, Уплыў, 79).

**Мездрану́ць** 'выцяць па твары да крыві', 'моцна ўдарыць' (Нас., Юрч.). Да *мяздра́* (гл.), *мяздры́ць* 'ачышчаць ад падскурнай клятчаткі' (Нас., ТСБМ).

**Ме́зенец** 'пяты, самы малы палец на руцэ і назе' (ТСБМ, Нас., Растарг.), арш. *ме́зініц*, уздз. *мі́зінец*, мазыр. *мезі́нчык*, шальч. *мязі́нчык* (КЭС, Сл. ПЗБ), *ме́зенік, мізіні́к* 'тс' (ТС), *ме́зінец* 'меншы, апошні сын', *мі́зіная (дачка)* 'апошняя' (Нас., Растарг., Федар. 2). Укр. *мизи́нець* 'тс', 'мезенец', рус. *мизи́нец* 'тс', *мизи́нный* 'малодшы', рус. ц.-слав. *мѣзиньць*, польск. *mizíniec* 'тс', ст.-чэш. *mězenec, mezenec*, чэш. 'безымянны палец', славен. *mezînec, mezînek* 'малодшы сын', 'мезенец', серб.-харв. *мје̏зимац, мљезимац, мѐзимац* 'тс', 'маленькі', чак. *mezinac, mazinac*, лікск. *мези́нак*, балг. *мизи́нец* 'апошні сын'. Прасл. *měz-in-ьсь* (параўн. літ. *mažỹnikas* 'маленькі'). Утварылася ў выніку намінацыі словазлучэння *mezinъ pьrstъ* (або *palьсь*). Да *ме́дзены* (гл.). Параўн. таксама Мартынаў, Балто-слав.-іт. изогл., 30—31.

**Ме́злева** 'аброк натурай' (Нар. Гом.), *мезлява* 'падатак у Вялікім княстве Літоўскім у выглядзе скаціны, птушак, яек', 'від абавязковай працы' (Ябл., Вяржб. дыс.; Бругнер, Litwa), ст.-бел. *мезлева, мезлива* 'падатак за быдла' (XV ст.). Балтызм. Параўн. літ. *mēzliava* 'падатак, складчына', лат. *mezlava* 'падатак' (Карскі, Труды, 390; Булыка, Лекс. запазыч., 85; Лаўчутэ, Балтизмы, 94).



**Ме́йсе** 'хлеб' (Карскі, 1). Балтызм. Параўн. ст.-пруск. *meise* 'пшаніца', лат. *maize* 'хлеб' (Карскі, Труды, 390; Лаўчутэ, Балтизмы, 70).

**Ме́йсца**, *ме́йсце* 'месца', 'мясцовасць', 'пэўны ўчастак цела, плацэнта' (Нас., Яруш., Касп., Сл. ПЗБ), мін. 'частка агарода, якая знаходзіцца за сцяной замка' (Яшк.), ст.-бел. *мейсце* (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *miejsce, miejsco* 'тс'. Форма *мейста* 'тс' (Яруш.) — кантамінацыя польск. *miejsce* і ст.-бел. *мѣсто*, дыял. *ме́ста* 'месца'. Сюды ж ст.-бел. *мейский, мейсцкий* 'гарадскі'<ст.-польск. *miejski* 'тс' (Булыка. Лекс. запазыч., 200).

**Ме́ка** (дзіцячае) 'мядзведзь' (Янк. 2, Сцяшк.), рус. смал. 'нячысцік, якім у цемры палохаюць дзяцей', ст.-рус. *мека* 'мядзведзь', ц.-слав. *мечька*, чэш., ст.-слав. **мечька** 'тс', серб.-харв. *ме̏чка* 'мядзведзіца', макед. *мечар*, балг. *мечка, мечкон, мечкун, мечок, мечор* 'мядзведзь (самец)'. *Ме́ка* ад *мечка*, якое з'яўляецца скарочанай табуістычнай формай ад *medvědь* (Бернекер, 2, 30; Брукнер, KZ, 43, 307; Фасмер, 2, 613). Мена $d > č$, як $t > č$ у чэш. *kočka* (ад *kot*) 'кошка' (БЕР, 3, 777—8).

**Ме́калка** 'коцік на дрэвах' (Янк. 2). Відаць, да *мека* 'мядзведзь'. Аналагічны семантычны пераход 'назва звера'> 'коцік на дрэвах' назіраецца ў бел. *коцік*, польск. *kotka*, славен. *mačica*, ням. *Kätzchen*, якія звязаны з 'кот', чэш. *jehněda* — з 'ягнё'.

**Ме́каць**[1] 'бляяць, крычаць (аб цялятах, козах, авечках)' (Янк. 2, ТС; рэч., Мат. Гом.). Укр. *ме́кати*, чэш. *mekati* 'тс', серб.-харв. *ме́кати, ме́чати* 'тс'. Прасл. *mekati*, якое да і.-е. гукапераймальнай асновы **meq*: літ. *mekénti, meknóti, mekčinoti* 'заікацца', 'мекаць', 'бляяць', арм. *makʻi* 'авечка', ст.-грэч. μηκάς 'каза'. Сюды ж (паводле Скока, 2, 402), магчыма, і паўд.-слав. *мечка* 'мядзведзь', што, аднак, звязана з семантычнымі цяжкасцямі (Бернекер, 2, 30, 32; Фасмер, 2, 594 і 613—614). Махэк[2] (358) лічыць, што гукапераймальныя формы ў слав. мовах узніклі самастойна.

**Ме́каць**[2] 'разважаць, думаць' (Бяльк.), рус. *ме́кать, мека́ть* 'тс', 'прыгадваць, адгадваць', 'лічыць'. Не зусім яснае слова. Бернекер (2, 33) суадносіць яго са ст.-грэч. μέδομαι 'маю на ўвазе', μήδομαι 'прыдумваю', лац. *meditor* 'думаю', ірл. *midiur* 'тс', уэльск. *meddwl* 'дух, розум, думка', гоц. *mitôn* 'абдумваць', Фрэнкель (IF, 51, 150) — з літ. *mēklinti* 'мераць, узважваць, абдумваць', лат. *meklêt* 'шукаць'. Брукнер (KZ,

48, 196) выводзіць рус. *мекать* з *мéтить* 'цэліць' (Фасмер, 2, 594).

**Мекітáць** 'знаходзіцца ў стане цечкі (пра авечку)' (ашм., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі лексем *мекаць*1 і *меркітаваць* (гл.). Параўн. чэш. вал. *mrkotat* 'тс'.

**Мекятáць** 'крычаць па-казінаму' (Грыг.), *мекетáць* 'бляяць (пра авечку)' (ТС). Ад абстрактнага прасл. *mekotъ/meketъ*, якое з *mekati*>*мекаць*1 (параўн. чэш. *mek(o)tati*, серб.-харв. *мекѐтати* 'бляяць').

**Мéкнуцца** 'ўпасці раптоўна' (Ян.). Гукапераймальнае. Да *шмяк, шмякнуцца* (гл.).

**Мекашэўя,** *мекішэўя* 'мышцы' (віл., чэрв., Сл. ПЗБ). Утворана ад *мякіш* (<*мяккі*)<прасл. *měkyšь* і суфіксаў *-ev-ьje*.

**Мéкшаны** 'біты' (Ян.). Да *мякацьз* 'біць' (гл.).

**Мел**1 'мяккі белы вапняк, які ўжываецца для пабелкі, чысткі, пісання' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Ян.; слаўг., Яшк.), слаўг. *мéла* 'тс' (Яшк., Бяльк.), *мел* 'гліна' (Ян.). Рус. *мел*, ст.-рус. *мѣлъ* 'мел', 'пыл, пясок'; польск. *miał* 'тс', *miałki* 'плыткі', 'дробны', н.-луж. *měł* 'крухмал', в.-луж. *mjeł, měł*, н.-луж. *rěcny mił* 'плывун у рацэ', *mělny* 'тонкі, дробны', ст.-чэш. *měl* 'прыбярэжны пясок', валаш. *měl'* 'дробная мука, соль', ст.-серб. *мѣль*, істрыйск. *melj* 'дробны пясок', 'урадлівая зямля', славен. *mêl, mil* 'пясок, рачны пясок', 'друз', балг. *мел* 'сыпкая скала, пясчаная глеба', *мель* 'роў', ст.-слав. **мѣлъ** 'вапна, вапняк'. Прасл. *mělъ* доўгая ступень чаргавання галоснай ад *mělti* 'малоць'. Генетычна блізкімі з'яўляюцца літ. *smėlỹs, smiltìs* 'пясок', лат. *smēlis* 'тс' і літ. *smilỹnė* 'пяскі', 'меліна', гоц. *smals* 'дробны', нарв. *smola* 'пакрышаны, раздроблены', ірл. *smal* 'пыл' (Бернекер, 2, 48; Мее, MSL, 14, 373; Брукнер, 329; Фасмер, 2, 594; Бязлай, 2, 176; Шустар-Шэўц, 12, 896—897; 921 і 922; БЕР, 3, 724—725). Паводле Скока (2, 403), няясна, адкуль з'явілася *ě* ў аснове: прымаючы да ўвагі значэнне 'дробны', прасл. *mělъ* можна вывесці і з і.-е. **mei-* (>ст.-слав. *мьньи*, лац. *minus*). Параўн., аднак, Махэк2 (349), які тлумачыць гэта другаснай даўжынёй галоснай і параўноўвае з *malъ*.

**Мел**2 'вадкі раствор з аўсянай мукі, з якога варыцца кісель' (стол., Вешт.). Да *мел*1. Параўн. н.-луж. *měł, mělk* 'крухмал', в.-луж. *mělk, womělk, womjełk* 'канцэнтраваны корм для кароў', н.-луж. *mił* 'бульбяная мука', *miel* 'змесціва зярнят, мука', рус. вяц., кастр. *мел* 'закваска для хлебнага цеста', паўн. 'дрожджы'.

**Мел**3 'млын' (паўн.-усх., КЭС). Няясна. Магчыма, з ням. *Mehl* 'мука' ў выніку пераносу значэння.



**Мел**4 (м. род) 'мель' (ТС). Да *мель*1 (гл.) Мена канчатка (і роду), як у бел. *пыл* — рус. *пыль*.

***Мелавáць,** *меловáць* 'гнесці, таптаць, мясіць' (ТС). Польск. велікапольск. *międłować* 'цэрці лён', варм.-мазур. *tarlica międłowna* 'церніца'. Утворана ад наз. *męndło*, якое да *męti* 'мяць, мясіць'. Аб пераходзе *ę*>бел. *я*>*е* гл. Карскі, 1, 104—105.

***Мелавáты,** *меловáты* 'непаваротлівы, павольны' (ТС). Да *мелавáць* 'мясіць, таптаць'>'таптацца на месцы, мяцца'.

**Меланхолія** 'сумны настрой, туга' (ТС). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 77), з рус. *меланхолия*. Аднак параўн. яшчэ ст.-бел. *мелянколия, мэлянколия, меленколия* 'тс', якія са ст.-польск. *melankolija* 'чорная жоўць' (Свяжынскі, БЛ, 7, 1975, 48; Булыка, Лекс. запазыч., 136), запазычанага з с.-лац. *melancholia*<ст.-грэч. μελαγχολία 'дэпрэсія, пакуты ад чорнай жоўці' — меркавалася, што сум, туга ўзнікалі ад чорнай жоўці.

**Меленýць** 'хутка пабегчы' (ТС). Да *малоць* (гл.) з пераносам значэння 'малоць'>'хутка махаць (нагамі)'. Аб суфіксе *-nǫ-ti* гл. Слаўскі, SP, 1, 44—45.

**Мéлес** 'кармавая патака' (ТС), мазыр. *меляз* 'павідла з гарбуза, груш, ягад' (Вешт.). Праз польск. мову (дзе *melas, melasa* 'мелес') запазычана з франц. *mélasse*, якое з ісп. *melaza* 'тс'<лац. *mel* 'мёд' (Голуб — Ліер, 308).

**Мéліва,** *мéліво* 'памол, малаццё, мліва' (Нас., Яруш., Касп., Др.-Падб.; паст., Сл. ПЗБ). Рус. *мéливо, мéлево* 'зерне', укр. *мéливо* 'зерне', 'мука', 'малаццё', чэш., славац. *melivo* 'тс', славен. *melîvo* 'малаццё збожжа', серб.-харв. *мѐљиво* 'зерне для памолу'. Прасл. *melivo* (Фасмер, 2, 545). Да *малоць* (гл.).

**Мéлін,** *мёлін* 'млён у жорнах' (Нік., Очерки; Касп.; талач., Шатал.). Балтызм. Параўн. лат. *miļens*, літ. *milinỹs* 'тс' (Блесе, SB, 5, 15; Вяржбоўскі, 498—500; Лаўчутэ, Балтызмы, 55).

**Мелініс** 'млён (у жорнах)' (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *milinỹs* 'тс' (Грынавяцкене, там жа, 3, 56).

***Мелíнне,** пруж. *мілíнне* 'сцяблы і лісце агуркоў' (ДАБМ, к. 279). Узыходзіць да **хмелінне*, якое з *хмель* 'расліна Humulus lupulus L.' (гл.). Параўн. стол. *хмеліно* 'сцяблы і лісце агуркоў' (ДАБМ, там жа). Аб адпадзенні пачатковага *х-* гл. Карскі, 1, 377. Параўн. тое ж у балг. гаворках (*мел* 'хмель' — БЕР, 3, 725).

**Мелíса,** *малíса* 'травяністая расліна Melissa officinalis L.' (гродз., Кіс.). З польск. *melisa, malisa* 'тс'.

**Мéліць** 'малоць' (Яруш.). Другасная форма, утвораная ад асновы цяперашняга часу *мел'-ю* (<прасл. *mel'ǫ*) пры дапамозе суфікса *-іць*, як *лéіць* (гл.).

**Меліярáцыя** 'паляпшэнне зямель шляхам асушэння і да таго

пад.' (ТСБМ). Праз польск. ці рус. мову з лац. *meliōrācio* 'паляпшэнне'<*meliorāre*<*melior* 'лепшы'.

**Мéлкі,** *мéлкій, мéленькі,* віл. *мялкі* 'які мае невялікую глыбіню', 'невысокі, з нізкімі краямі' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., ТС, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мѣлкий* 'дробны', 'неглыбокі', 'неістотны, малазначны' (Булахаў, Гіст., 128); укр. *мілкий,* рус. *мéлкий,* ст.-рус. *мѣлкий* 'невялікі', 'неглыбокі', 'нязначны паводле колькасці', 'бедны', 'дробны', польск. *miałki,* н.-луж. *mjałki, mełki,* в.-луж. *niłki,* чэш. *mělký,* славац. *melký* 'неглыбокі', славен. *mîwka, mîlka* 'дробны рачны пясок', ст.-серб.-харв. *миоки* 'плыткі' (Бернекер, 2, 48). Прасл. *mělъkъ.* Далей няясна. Магчыма, ад *melti* 'малоць' з падаўжэннем вакалізму асновы (Бернекер, там жа; Брандт, РФВ, 22, 356) і з дадаваннем фарманта і.-е. **-qo-,* параўн. ст.-ісл. *melr* 'мель'<*mala* 'малоць'. Буга (Rinkt, 1, 464; 2, 405), Мацэнаўэр (LF, 11, 169), Траўтман (165) і іншыя параўноўваюць прасл. *mělъkъ* з літ. *maĩla, maĩlius* 'маляўкі', лат. *maĩle* 'рыба ялец, Alburnus lucidus', *mailens* 'сетка для малькоў', ст.-ісл. *mjór* 'тонкі, дробны, вузкі, цесны' і з прасл. *mьnʼjь* 'меншы',— у чым Фасмер (2, 596) і Махэк$_2$ (359) сумняваюцца. Сюды ж віл. *мелкаводзь* 'мелкаводдзе' (Сл. ПЗБ), *мелкаслоіна, мелкаслойка* 'драўніна з павівастым слоем' (Мат. Гом.).

**Мелодыя** 'напеў, матыў', 'музыкальнасць, меладычнасць' (ТСБМ), ст.-бел. *мелодийный* (XVII ст.) 'меладычны', *меледия* 'мелодыя' (XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *melodyja,* якое з с.-лац. *melōdia*<ст.-грэч. μελῳδία 'спосаб спявання'< μέλος 'песня'+ᾠδή 'спяванне' (Булыка, Лекс. запазыч., 165; Фасмер, 2, 596). Памылкова Крукоўскі (Уплыў, 77) выводзіць бел. лексему з рус. *мелодия* 'тс', якое запазычана са ст.-бел. ці ст.-польск. мовы (Мольнар, SSlav., 6, 1966, 208).

**Мель,** *мéліна, меліна́, мелізна́,* нясв. *мяліня́,* слаўг. *мялы́нь* 'неглыбокае месца ў рацэ, возеры ці моры' (ТСБМ, БРС, Нар. Гом., Яшк.; докш., Сл. ПЗБ). Укр. *міль, мілина́,* рус. *мель,* польск. *miel, melizna* 'тс', чэш. валаш. *měl'* 'дробная мука ці соль', ст.-чэш. *měl* 'прыбярэжны пясок', 'дробная мука', славац. *mel'* 'задняя мука'. Паўн.-слав. *mělь,* утворанае ад *melti, mel'ję* 'малоць' пры дапамозе суфікса *-ь,* як *соль* (гл.). Гл. таксама *мéлкі.* Сюды ж *мéлісты* 'які мае мелі' (ТСБМ).

**Мельдава́ць** 'дакладваць' (Чартко, Бел. лінгв. зб.), беласт. *мэльдова́ті* 'паведамляць' (Сл. ПЗБ) — з польск. *meldować,* якое з ням. *melden* 'здраджваць' (Грынавяцкене, там жа, 3, 95).

**Мéлькам,** *мялько́м* 'нядоўга, імгненна, у адзін момант', 'няўважліва, бегла, мімаходзь' (ТСБМ, Нас.; калінк., З нар. сл.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. *-ам (-ом).* Да *мялька́цца, мялька́ць* (гл.). Не выключана запазычанне з рус. мовы.



***Мелькаце́нь, мэлькотэ́нь** 'балбатлівы чалавек' (брэсц., Нар. лекс.). Утворана з польск. *bełkotac* 'мармытаць, балбатаць', 'булькаць' (<прасл. *bъlk-ot-a-ti* — гукапераймальнае ад *bъlk'.,* параўн. польск. *bełk* 'водная бездань', ням. *bulken, bullern* 'ракатаць' — Слаўскі, 1, 30). Аб суфіксе *-ень (-энь)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Мелькену́ць** 'мільгануць', 'хутка есці' (ТС). З укр. *мелькнýти,* якое з *мелька́ти* 'мільгаць'. Гл. *мялька́цца.*

**Мелькята́цца** 'трапятацца, мільгаць' (ТС). Да *мялька́цца* (гл.). Утворана ад назоўніка *+мелькот (+мелькет),* які, відаць, узнік з гукапераймання. Параўн. укр. *миль-миль!* для выражэння мільгання.

**Мéльнік$_1$** 'млынар' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), валож., шальч. 'млён' (Сл. ПЗБ). Укр., рус. *мельник,* балг. *мелник,* польск. *mielnik,* н.-луж. *młynik* 'тс', макед. *мелник* 'камень млына', чэш. *Mělník* — назва горада ў Чэхіі. Відаць, познепрасл. утварэнне з суфіксам *-(n)ikъ* ад асновы цяперашняга часу *mel-* дзеяслова *малоць* (гл.). Аб суфіксе гл. Слаўскі, SP, 1, 90; Сцяцко, Афікс. наз., 54—55. Ад гэтай жа асновы ўтворана і *мельніца* 'млын' (мсцісл., З нар. сл.; Бяльк.; ветк., Мат. Гом.; Сл. ПЗБ, Ян.), 'жорны' (Ян.), рус. *мельни́ца,* польск. *mielnica,* макед., балг. *мелница* 'млын', серб. *Мельница* — назва вёскі.

**Мéльнік$_2$** 'малая ўкладка снапоў у полі' (валож., ДАБМ, к. 286; Сл. ПЗБ). З *мэндлік,* у якога выпала *-д-* і адбылася перастаноўка *нл' ...л'н.*

**Мельну́ць** 'сказаць' (ТС). Да *малоць* (гл.).

**Мéльня$_1$** 'млын' (палес., КЭС). Да *малоць* (гл.). Той жа суфікс *-ня* ў *пíльня, ста́йня, бойня* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 59).

**Мéльня$_2$** 'малая ўкладка снапоў' (валож., Сл. ПЗБ). З *мэндля* (гл.) у выніку выпадзення *-д-* і перастаноўкі *нл' ...л'н.*

**Мéльстынь,** *мяльстыня́* 'мель, доўгая каса ў рацэ, возеры' (нясв., Яшк.). Утварэнне з суфіксамі *-ынь (-ыня)* прасл. *-ynʼi* ад прыметніка *мелісты* (як *пустыня* ад *pustъ* і *-ynʼi*).

**Мельхіёр** 'сплаў медзі, цынку, жалеза з марганцам або з нікелем' (ТСБМ). Запазычана праз рус. ці польск. мову з ням. *Melchior,* якое з'яўляецца скажоным франц. *maillechort,* утвораным ад прозвішчаў вынаходнікаў *Maillot* і *Chorier* (XIX ст.) (Ін. сл., 1988; SWO, 464).

**Мéльшы** 'малодшы', 'меншы' (маст., Сл. ПЗБ; Сцяц.). Паводле Карскага (1, 324), гэта ўтварэнне ад прыметніка *мелкі* (<*мѣлъкъ*).

**Мелюзгва́,** *мілюзгéча, мілюзня́* 'малеча (дзеці)', 'дробязь,

глупства'. Рус. *мелюзга́, мелузга́* 'мальга', цвяр. *мелюзга* 'дробны акунь', пск., цвер. *мелю́зговатый* 'дробны', цвяр. *мелюно́к* 'дробная рыба'. Балтызм. Параўн. лат. *maĩle* 'малеча, моль-рыба', літ. *máila, zmaila* 'тс', *maĩlius* 'дробная рыба, драбната', а таксама рус. *мель* 'тс', *мелёк, мели́к* 'дробны акунь', укр. *мі́лька* 'тс' (Буга, Rinkt., 1, 464). Аднак Фасмер (2, 596) суадносіць з рус. *мелкий, мелю,* што можна разглядаць як народную этымалогію. Нарашчэнне асновы -'*уз*- надае аснове дадатковае адценне 'дрыжаць, мільгаць' (параўн. рус. арханг. *мельзить* 'здавацца дрыготкім', 'мільгаць ва ўяўленні', пск., цвяр. *мелюзить* 'мітусіцца, надакучліва мільгацець перад вачыма'. Зборныя суфіксы *-г-в-а, -ня, -еча* параўн. у *мальга́* (гл.).

**Ме́люс** (арго) 'мёд' (Рам. 9), 'цукар горшага гатунку' (Нас.), рус. *ме́люс, ме́лис* 'тс'. З новав.-ням. *Melis,* якое з франц. *mélis*<лац. *melitium* (Фасмер, 2, 597), *mellītus* 'салодкі, як мёд'<*mel* 'мёд'.

***Ме́люх,** *мэ́люх* 'вельмі рухомы хвост', 'балбатун, пустаслоў' (Клім.). Да *малоць* (ад асновы *мел-*). Аб суфіксе *-uchъ* гл. Слаўскі, SP, 1, 74; Сцяцко, Афікс. наз., 70.

**Меля́я** 'той, хто меле языком' (Янк. 3). Рус. пск., цвяр., валаг., вяц. *мелея* 'тс', 'млён', 'млын', 'млынар', серб.-харв. *мељаја* 'мліва', 'млын, кола якога круціць конь або асёл'. Прасл. *melěja.* Да *малоць* (гл.).

**Мемарыя́л** 'гандлёвая кніга для запісаў', 'скульптурнае збудаванне — помнік на месцы якой-небудзь падзеі', 'спартыўнае спаборніцтва ў гонар падзеі, асобы' (ТСБМ). З рус. *мемориал* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 82), якое праз новав.-ням. *Memorial* ці франц. *mémorial* (Фасмер, 2, 597) або праз італ. (Ин. сл., 1988) з лац. *memoriālis* 'памятны'<*memōria* 'памяць'.

**Мембра́на** 'тонкая пласцінка, здольная вагацца' (ТСБМ). З рус. *мембрана* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83), якое з лац. *membrāna* 'скурка', 'тонкі пергамент'. З апошняга праз ст.-польск. мову ст.-бел. *мембранъ, мамрамъ, мамранъ, мембрамъ, мемранъ* 'пергамент, дакумент на пергаменце' (XVI ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 57).

**Ме́мка** 'варшаўка — гатунак бульбы' (Янк. 1). Відаць, з *немка*<польск. *niemka,* параўн. польск. прудн. *m'ут'ес* 'немец'.

**Мему́ары** 'літаратурны твор у форме ўспамінаў аўтара аб падзеях мінулага' (ТСБМ). З рус. *мемуары* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 85), якое з франц. *mémoires* 'тс' (Фасмер, 2, 597).

**Мен** 'мена' (Нар. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *ме́на* і *абме́н* (гл.).

**Мена** 'абмен' (ТСБМ), укр. *мі́на,* рус. *ме́на,* ст.-польск. *miana,* польск. *zmiana,* в.-луж. *měna,* чэш. *měna,* славац. *mena,* славен. *mẹ̑na,* серб.-харв. *мијѐна,* макед. *мена,* балг. *мя́на, мена́,* ст.-слав. **мѣна.** Прасл. *měna.* Роднаснымі да яе з'яўляюцца літ. *maĩnas, ãtmainas* 'тс', *atmaina* 'перамена', лат. *maîna, maĩņa* 'тс', гоц. *ge-mains,* лац. *commūnis* 'агульны', ірл. *móin, máin* 'каштоўнасць', ст.-інд. *máyatē* 'мяняе',— і.-е. **moi-nā* (Бернекер, 2, 48; Фасмер, 2, 598; Махэк₂, 359; Скок, 2, 421; Аткупшчыкоў, Из истории, 148; Мартынаў, Лекс. взаим., 164). Сюды ж *мяня́ць* (гл.). Бязлай (2, 177) мяркуе, што прасл. *měna* ўзнікла з дзеяслова *měniti* 'мяняць'.

**Менава́ць** 'згадваць', 'называць паводле імені', *менава́цца* 'называцца' (Нас.), ст.-бел. *меновати, мяновати, менити, мянити* 'тс' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *mianować, mienić* 'тс' (Жураўскі, SlOr, 10, 1961, 40; Булыка, Лекс. запазыч., 130; Свяжынскі, БЛ, 7, 1975, 48). Сюды ж *ме́нка* 'згадка, упамінанне' (Нас.).

**Менаві́та,** *менаві́це* 'іменна' (ТСБМ, Нас.), ст.-бел. *меновите, мяновите* 'тс' (XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *mianowicie* 'пайменна', *меновитый* 'канкрэтны' (XVI ст.)<ст.-польск. *mianowity* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 194; Свяжынскі, БЛ, 7, 1975, 47).

**Ме́ндзель** 'укладка па 10 снапоў' (навагр., Сцяшк. Сл.). Да *мэ́ндлік* (гл.).

**Ме́ндлік** 'малая ўкладка снапоў у полі' (зах.-бел., ДАБМ, к. 286). Да *мэ́ндлік* (гл.).

**Ме́ней,** *ме́ній, ме́няй, ме́ні* 'менш' (ТСБМ, Жд. 1, Шат., Касп.; Лат. ССР, астрав., паст., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Рус. *ме́нее,* польск. *mniej,* н.-луж. *mjenjej,* в.-луж. *mjenje,* чэш. *méně,* славац. *menej,* славен. *mànj(e),* серб.-харв. *ма̏ње,* ст.-слав. **мьнѥ.** Прасл. *mьnje.* І.-е. паралелі гл. *меншы.* Сюды ж *ме́нець, ме́няць, ме́ніць* 'рабіцца меншым, змяншацца' (ТСБМ, Янк. 2, Юрч., Ян., Бяльк., Растарг.; смарг., Сцяшк. Сл.; міёр., Нар. сл.).

**Ме́нечкі** 'маленечкі' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *ме́ншы* і *мале́нечкі.*

**Ме́нка** 'абмен' (ТС). Да *ме́на* (гл.).

**Ме́нне**₁, *ме́ннье, ме́ня* 'маёмасць', 'маёнтак, багацце' (Яруш., Шат., Дун.-Марц.), ст.-бел. *менье, мене* 'маёнтак' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *mienie* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 78), якое ўзыходзіць да прасл. *jьměnьje* 'тс', 'скаціна' (Копечны, Zákl. zásoba, 141). Шатэрнік (157) выводзіць бел. лексему з польск. мовы.

**Ме́нне**₂, *ме́ньня, мэ́ньне, ймэ́ньне* 'імя' (докш., Янк. Мат., Сл. ПЗБ; стол., Нар. лекс.; Мат. Гом., Клім.). Да *іме́нне* (гл.).

**Менса** 'мяса' (мін., Шн.; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *менсо* 'тс'

(XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *mięso* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 204).

**Менструáцыя** 'штомесячны матачны крывацёк у жанчыны, якая дасягнула палавой спеласці' (ТСБМ). З новалац. *menstruatio* 'тс', якое з лац. *menstruus* 'месячны' (SWO, 466), праз рус. (Крукоўскі, Уплыў, 88) або праз польск. мову.

**Мéнта**$_1$, *мéнтка, мэнта, мянтá, мянця́* 'мянташка' (Зн. Мікуц.; ДАБМ, к. 264; Смулкова, Słown.; пруж., Выг. дыс.; Сл. ПЗБ), 'мешалка' (Сл. ПЗБ); 'балбатун, брыдотнік' (КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. літ. *meñtė, mentė̃, meñčia* 'лапатка, якой капаюць бульбу, мяшаюць (раствор) і інш.', *mentẽlė* 'мянташка' (Атрэмбскі, Gr., 2, 48; Урбуціс, Baltistica, 5, 65; Лекс. балт., 39—40; Грынавяцкене, LKK, 16, 183; Лаўчутэ, Балтизмы, 37). Сюды ж *ментавáць* 'вастрыць касу' (Бір. дыс.), хойн. *мянтавáць* (Мат. Гом.), *ментáць* 'тс' (ТС).

**Мéнта**$_2$ 'мята вадзяная, Mentha aquatica L.' (маг., Кіс.). Відаць, паланізм. Параўн. польск. *mięta* 'тс'.

**Мéнтаць** 'разглядаць' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Няясна. Відавочна, значэнне лексемы запісана не зусім дакладна ці недастаткова. З прыведзенага прыкладу можна было б вывесці 'разглядаць рэч, перабіраючы яе рукамі'. У такім выпадку *ментаць* можна было б генетычна вывесці з польск. *miąć* 'мяць', *miętolić, miętosić*.

**Мéнтух** 'гультай' (Ян.). Да *мéнта* (гл.). Утворана ад *мянтаць* 'балбатаць, малоць языком'. Аб суфіксе *-ух* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 70.

**Менш**, *меньш, мэнш, мэнч* 'меней' (ТСБМ, ТС; пруж., драг., Сл. ПЗБ), *мéншы, мéньшы, мéнчы* 'малодшы на гады', 'меншы' (ТСБМ, Чуд., Нас., Бяльк., Янк. 2, Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), ст.-бел. *менший, менши, меньший, менъший* (Булахаў, Гіст., 130). Укр., рус. *меньший*, рус. *мéньше, меньшóй*, укр. *менше*, польск. *mniejszy*, н.-луж. *mjeńšy*, в.-луж. *mjeńši*, чэш., славац. *menší*, славен. *mânjši*, ст.-слав. **мьнии**, **мьньши**, **мьньша**. Прасл. *mьńьjь*<*mьnjь-jь*<*mьnjes-*, *mьnjьš-*; роднасныя і.-е. адпаведнікі: літ. *meñkas* 'дробны, нязначны', лац. *minor* 'меншы', *minus* 'менш', гоц. *mins* 'тс', *minniza* 'меншы', ст.-грэч. μείων, μεῖον 'тс', μινύθω 'скарачаю', ст.-ірл. *menb* 'маленькі', ст.-інд. *mināti* 'скарачае', тахар. B *meñki* 'меншы' (Міклашыч, 181; Бернекер, 2, 19; Траўтман, 184; Фасмер, 2, 598; Бязлай, 2, 166; Махэк$_2$, 359). Сюды ж *меншáк* 'малодшы сын' (мядз., Жыв. сл.; паст., швянч., Сл. ПЗБ), *мéншаць, мéньшаць* 'убываць, змяншацца', *меншыць* 'памяншаць; вузіць боты' (ТСБМ, Др.-Падб., Нас., Растарг., Янк. 1, ТС, Сл. ПЗБ).

**Мень**, *мянёк, менёк, мінёк, менюх* 'мянтуз ,Lota lota' (ТСБМ, Жук., Бір. Дзярж., Янк. 3, Шат., Бяльк., ТС, Дразд., Яруш., Касп., Дэмб. 1, Нас., Мат. Гом., Ян.; бых., Рам. 8), 'тоўсты, непаваротлівы маўклівы чалавек' (Растарг.). Укр. *мень, мнюх*, рус. *мень, мен, мёнух, ментюк*, польск. *mień, mieniek*, н.-луж. *mńik*, в.-луж. *mjenk*, чэш. *meň, mník, mík*, славац. *mieň*, славен. *menĕk, mének, menjek*. Прасл. *mьnь* (Фасмер, 2, 599; Бязлай, 2, 177). Апошні падае яшчэ форму *тепь*, а Махэк$_2$ (370) — толькі *męń*. Блізкія і.-е. адпаведнікі: літ. *ménkė* 'траска', лат. *menca*, англ. *minnow* 'дробная рыба', с.-н.-ням. *möne*, галан. *meun*, ст.-в.-ням. *muniwa*, ст.-греч. μαίνη, μαινίς, μαινίδιον 'акунь' (Сольмсен, KZ, 37, 585; Фрэнкель, 436; Фасмер, там жа). Аб адпаведнасці ст.-грэч. μαίνη і ст.-інд. *mīnáḥ* гл. Шарпанцье, KZ, 47, 181; Майргофер, 2, 643. Махэк$_2$ (370) дапускае, што прасл. слова паходзіць з угра-фінскіх моў, параўн. чараміск. *men*, венг. *meny-hal*, фін. *monni* 'мянтуз'. Голуб — Копечны звязваюць лексему *мень* з *мéншы* (Трубачоў, Дополн.). Аб пашырэнні *мень* у рус. гаворках гл. УЗЛПІ, 825, 1968, 145—155. Параўн. таксама *мянтýз*.



**Меню́** 'набор страў да снедання, абеду, вячэры', 'лісток, дзе пералічаны стравы ў сталовай, кафэ, рэстаране' (ТСБМ). Праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 80) з франц. *menu* 'зменшаны пералік блюд'<лац. *minutas* 'зменшаны' (Голуб — Ліер, 310).

**Мéра**, *мéрка* 'адзінка вымярэння (мера збожжа ў 20 гарнцаў; круглая пасудзіна з клёпак для сыпкіх цел≈1 пуд; краўцоўскі метр; лубянка; для ручнога абмервання палеткаў; памер за памол у млыне)', 'велічыня, ступень' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Сцяц., Шат., Мат. Гом., Нас.; кір., Нар. сл.).

Укр. *міра*, рус. *мéра*, польск. *miara*, н.- і в.-луж. *měra*, чэш. *míra*, славац. *miera*, славен. *mệra*, серб.-харв. *мjѐра*, макед. *мера*, балг. *мяра*, ст.-слав. **мѣра**. Прасл. *měra*. Утворана ад і.-е. асновы **mē-* пры дапамозе суфікса *-ra*. І.-е. адпаведнікі: літ. *mãtas, mãstas*, ст.-інд. *māti* 'мерае', *mátram, mátrā* 'мера', лац. *mētior* 'мераю', ст.-грэч. μητίς 'рада, розум', μητιάω 'раблю выснову', гоц. *mēla* 'меха — мера збожжа', *mot* 'год', літ. *mētai* 'тс', ст.-в.-ням. *mezzan* 'мераць', *māa* 'мера' (Бернекер, 2, 50; Траўтман, 179; Мее, 404; Фасмер, 2, 600; Скок, 2, 437; Бязлай, 2, 178; Шустар-Шэўц, 12, 899; Чайкіна, РР, 1972, 2, 112—114). Сюды ж *мéраць, мéрыць* 'вызначаць велічыню, колькасць, ацэньваць', 'надзяваць для прымеркі' (ТСБМ, Др.-Падб., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *мéрны* 'рытмічны', 'сярэдні паводле сілы, памераў' (ТСБМ, Нас., ТС), *мéршчык* 'той, хто мерае' (Нас.), *мéрыцца* 'меціць, намервацца' (ТСБМ).

**Мéрат** 'нерат' (Бяльк.). Да *нéрат* (гл.). Аб мене *н*>*м* гл. Карскі, 1, 324.

**Мéрат**$_2$ 'д'ябал' (Уласт). Рус. наўг., цвяр. *мéрет* 'тс, нячысцік'. З рус. *мéрек*: пск., цвяр. 'трызненне', 'прывід, здань', вяц.

'д'ябал', зах.-рус. *мерéкать* 'здавацца, уяўляцца', перм. *мерещить* 'тс', вяц. *меречить* 'намервацца рабіць благое', балг., макед. *мерáк* 'моцнае жаданне да чаго-небудзь, цяга, ахвота'. Можна меркаваць, што *-т* у выніку спарадычнага чаргавання ўзыходзіць да *-k-* (**мерек'*>**мерет'*>*мéрат)*. Да прасл. *merk-/mьrk*. Роднасныя і.-е. адпаведнікі: літ. *mèrkti* 'жмурыцца', лат. *mir̃kšt̨êt* 'маргаць', гоц. *maurgis* 'ранак' (Фасмер, 2, 602 і 605). Паводле Уласта (Крывіч, 4, 1923, 30), звязваецца з *марá*$_1$.

**Мéрва**$_1$ 'твань, балота' (ТС), *мервá* 'вязкае, зыбучае балота' (лельч., Талст.), укр. житом. *мéрва, м'éрва, марвá, нервá, н'ервá* 'разрэджаны вадой чорны ніжні грунт', *мêрв'істі* 'мулкі' (ЛАПП). Балтызм. Параўн. літ. *mer̃kti, sumarkýti*, лат. *mẽrkt, mẽrcêt* 'мачыць', *mẽrks* 'невялікая сажалка на лузе'. Утворана пры дапамозе суфікса *-ва*, як *дрыгвá*, ад асновы *merk-*. Апошні зычны *-k-* мог выпадаць (як у *мерва*) або пераходзіць у *-х-* (гл. *мéрхалаць* 'тс').

**Мéрва**$_2$, івац. *мэ́рва* 'жамерыны, адходы пры тапленні воску' (іўеў., Сл.ПЗБ), бяроз. *мэ́рва* 'тс' (Шатал., Сл. Брэс.). Укр. *мéрва, мéрвисько* 'мятая, пацёртая салома, атава', 'дрэнь, непатрэбнае', ровенск. *мéрва* 'недаедзеныя рэшткі грубага корму', рус. пск. *мервá* 'дробныя адыходы пры трапанні льну', мазав. *mierzwa* 'тс', польск. 'мятая салома', 'дробны гной', луж. *mjerwa*, чэш. *mrva* 'тс', славац. *mrva* 'труха', славен. *mŕva* 'сена', 'труха', 'кавалак', серб.-харв. *мр̏ва* 'кавалак', макед. *мрва, мрвка* 'тс', 'мякіш хлеба', балг. *мърва* 'кавалачак мяса', ст.-слав. **мръвица** 'кавалак'. Прасл. *mьrva*, якое, відаць, з'яўляецца роднасным да літ. *marvà, mervà* 'сумесь розных рэчаў, прадметаў' і, магчыма, літ. *marvà* 'гурба, гурма, натоўп, чарада', ст.-в.-ням. *mara* 'рыхлы, далікатны', ст.-ісл. *merja* 'раздрабіць, растаўчы', ірл. *meil* 'мяккі, трухлявы', уэльск. *merv* 'тс', ст.-грэч. μαραίνω 'драблю' (Фрэнкель, 413; Бязлай, 2, 204; Мацэнаўэр, LF, 10, 344). Брукнер (334) і Скок (2, 472) узводзяць лексему да і.-е. асновы **mer-* 'расціраць', пашыранай фармантам *-ua*. Махэк$_2$ (381), беручы пад увагу першаснае значэнне 'мятая (салома)', прасл. *mьrva, mьrviti* збліжае з с.-в.-ням. *werren* 'мяць, кудлаціць, замотваць', якое кантамінавала з іншым чэш. *mrviti se*, в.-луж. *mjerwić so* 'кішэць' (параўн. і славац. *mrvit'* 'мяць, крышыць, перабіраць, варушыцца, шавяліцца'). Мартынаў (вусн. паведамл.) дапускае, што гэта кельтызм, параўн. кельц. *merb-* (*<merv-)* у с.-ірл. *ro-merblig* 'кішэць'.

**Мéргель** 'асадкавая горная парода (з гліністых мінералаў, кальцыту і даламіту)', слаўг. *мэргель, мэргéль* 'тс' (ТСБМ, Яшк.), *мергелявáць* запазычаны з рус. мовы (Крукоўскі,



Уплыў, 82), у якой з новав.-ням. *Mergel* 'тс'<с.-в.-ням. *mẹrgil*, с.-н.-ням. *mergel* з с.-лац. *margila*<лац. *marga* 'тс' з кельц. моў, параўн. брэт. *marg*, уэльск. *marl* (Клюге$_{12}$, 387; Вальдэ, 369; Фасмер, 2, 600).

**Мерд** 'мужчына' (Гарб.). Іранізм. Параўн. яцвяжск. *mard* 'чалавек'<'смяротны', а таксама перс. *merd* 'тс' (<ст.-перс. *martiya* 'чалавек').

**Мерзлатá** 'прамёрзлы стан глебы' (ТСБМ). Як навуковы тэрмін узята з рус. *мерзлота* 'тс'. Да *мéрзнуць* (гл.).

**Мéрзнуць** 'адчуваць холад', 'гінуць ад марозу', 'рабіцца халодным, дубець' (ТСБМ, Яруш., ТС, Сл. ПЗБ), *мёрзлы* 'зацвярдзелы, сапсаваны ад марозу', 'вельмі халодны' (ТСБМ). Укр. *мéрзнути*, рус. *мёрзнуть*, ст.-рус. *мьрзнути*, польск. *marznąć*, каш. *m'ar̃nǫc*, н.-луж. *marznuś*, в.-луж. *mjerznyć*, чэш. *mrznout*, славац. *mrznúť*, славен. *mŕzniti*, серб.-харв. *мр̏знути*, макед. *мрзне*, балг. *мръзна*, ст.-слав. **мръзнѫти**. Прасл. *mьrznǫti*, якое з'яўляецца інхаатывам ад *mьrzěti*: ст.-бел. *меръзки(й)*, *меръзокъ* (спачатку) 'халодны', потым 'гадкі, агідны, брыдкі, непрыстойны' (Булахаў, Гіст., 130—131), рус. *мерзкий*, серб.-харв. *мр̏зак*, чэш., славац. *mrzký, mrziti* і г. д., аснова якога з'яўляецца другой ступенню кораня *morz-* (гл. *мароз*). Зычны *-z-* у ёй узыходзіць да і.-е. *-*ĝ-* у аснове **merĝ-*, параўн. ірл. *meirc* 'згорнуты ў складкі', с.-в.-ням. *murc*>новав.-ням. *morsch* 'гнілы, стары, трухлявы, паморхлы' (Скок, 2, 472—3). Аб прагерм. *marzjan* — пранікненні з прасл. *mьrzěti, morziti* гл. Мартынаў (Лекс. взаим., 218—220). Гл. таксама *мерзці*.

**Мéрзці**, *мéрзьці* 'мерзнуць' (Шат.) — другаснае ўтварэнне ад *мéрзнуць* (гл.) па аналогіі да *ўмерці, дзерці, адперці, жэрці* — дзеясловаў з асновай на плаўную зычную.

**Меркавáць**, *міркавáць, міркувáць, мірговáць, міргувáць, міргoвáць, мярґавáць*, пін. *мэрґоваті*, драг. *мырґувáтэ* 'думаць, разважаць, раіцца, абмяркоўваць, рабіць дапушчэнні', 'мець намер', 'рабіць заключэнне', 'прыкідваць', 'разлічваць, планаваць', 'камбінаваць', 'старацца ўхапіць што-небудзь', 'патрапляць', 'мірыць' (ТСБМ, Грыг., Гарэц., Нас., Бяльк., Шат., Касп., Мядзв., ТС, Сл. Брэс., Сл. ПЗБ, Сцяц., свісл., Сцяшк. Сл.), 'меркавацца, разлічваць, прыстасоўвацца, ладзіць, дамаўляцца, дзяліцца' (Нас., Юрч.; карэліц., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *мерковати, мярковати* 'меркаваць' (XVI ст.). Запазычаны са ст.-польск. *miarkować* 'мерыць, рэгуляваць', 'стрымліваць, утаймоўваць', 'параўноўваць', *miarkować się* 'ладзіць, размяркоўвацца', якое з с.-в.-ням. ці новав.-ням. *merken* 'разумець', 'адзначаць', браць пад ўвагу', 'назначаць (бялізну)', 'запамінаць' (Булыка, Лекс. запазыч., 132; Кюнэ, Poln., 77).

***Меркацыя,** *міркацыя* 'меркаванне' (Грыг.). Беларускае. Утворана пры дапамозе лац. суфікса *-(а)цыя* (пашыранага ў дыялектах, параўн. драг. *страмо́цыя* 'сорам') ад *мерка-ваць* (гл.).

**Меркаце́ць** 'мармытаць' (Бяльк.), *міркітаць* 'тс' (жлоб., Жыв. сл.), укр. *миркота́ти, миркати, моркотíти,* рус. *моркота́ть,* польск. *morkotać* 'тс'. Паўн.-слав. гукапераймальнае ўтварэнне *mьrk-/mъrk-*. Параўн. таксама *меркітава́ць* (гл. наступнае слова).

**Меркята́ць,** *меркета́ць, міркіта́ць* 'знаходзіцца (пра авечку) у стане цечкі, паляваць' (мазыр., З нар. сл.; слонім., Нар. словатв.), *меркітаваць, міркітаваць, мяркітаваць* 'тс' (карэліц., Нар. сл.; Шат., Сл. ПЗБ), сюды ж *меркятаць* 'крычаць, як малы балотны бакас' (Шат.), зах. і ц.-укр. палес. *миркота́ти* 'тс', укр. *мирко́ти* 'пах авечак у час цечкі'; слав. адпаведнікі прасл. *mъrkotajet (sę)* 'мяркоча' зафіксаваны на карце АЛА у 2 нас. пунктах на поўначы ПНР, у макед., серб-харв. і балг. гаворках; ст.-слав. **мръкати**. Архаічнае гукапераймальнае ўтварэнне як тэрмін для абазначэння coitus авечак і коз (Скок, 2, 467; Бязлай, 2, 202). Сюды ж лун. *мэркіцу́н* 'маркач' (Шатал.), мядз. *мярката́ць* 'бляяць' (Сл. ПЗБ).

**Ме́ркнуць** 'цямнець, паступова траціць яснасць', 'слабець' (ТСБМ, Яруш.). Укр. *ме́ркнути,* рус. *ме́ркнуть,* н.-луж. *smerkaś,* в.-луж. *smjerkać,* ст.-чэш. *mrkati, mrknuti,* чэш. *smrknouti,* славац. *mrkat' sa, mrknút',* славен. *mŕkniti, mrkati,* серб.-харв. *мр̏кнути,* макед. *мркне се,* балг. *мръкне се,* ст.-слав. *мрькнѫти*. Прасл. *mьrknǫti* (аснова *merk-/mork->*гл. *марока*). Самым блізкім і.-е. адпаведнікам будзе ст.-інд. вед. *marka-* 'зацьменне сонца'. Іншыя з асновай **merg-* (ст.-ісл. *myrkr,* нарв. *myrk,* швед. *märk,* ст.-англ. *mierce,* ст.-сакс. *mirki* 'цёмны', а таксама літ. *mérkti* 'міргаць, жмурыцца', лат. *miȓklis* 'погляд, імгненне', гоц. *maurgins* 'ранак', ст.-сакс. *morgan* 'тс' (Махэк₂, 379; Фасмер, 2, 605; Скок, 2, 467—8; Бязлай, 2, 201). Куркіна (ОЛА, 1972, 215—218) гэту прасл. аснову перадае як *mъrk-,* ставячы яе ў рад роднасных *mъrg-* і *mъrd-,* якія развіліся з *mъr-*<і.-е. **mer-*.

**Ме́рлевіца** 'старое рэчышча' (вілен., Яшк.), укр. жытом. *ме́рлевиця* 'тс'. Да *мерлы* 'памершы'<прасл. *merti* 'паміраць'. Параўн. таксама каш. *mərlъca, mərlov'ina* 'дробная, нікудышняя салома', *mərləzna* 'неўрадлівае поле', *mərləna* 'нязжатыя мізэрныя збожжавыя'.

**Ме́рліны** 'цырымонія з прычыны смерці каго-небудзь' (Федар. 1), палес. *мэрлы́ны* 'тс' (КЭС). Да *мерці* 'паміраць' (гл.)> *ме́рлы* 'памершы' (Ян.). Аб суфіксе *-іны* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 43.



**Ме́рнік** 'градуснік' (лід., Сцяшк. Сл.). Паланізм. Параўн. польск. *miernik* 'вымяральнік'.

**Ме́рскі** *велі́кдзень* 'радаўніца' (ТС) — пераклад са ст.-рус., ц.-слав. *навь* 'мёртвы', параўн. укр. *на́вський великдень,* рус. *на́вий день* 'радаўніца', драг. *на́ўське* 'тс'. Да *мерці>мрэц* (гл.).

***Ме́рхалаць,** *ме́рхолоць* 'гразь, дрыгва' (ТС). Палескае. Балтызм. Утворана ад балт. асновы *merk-* (параўн. літ. *meȓkti,* лат. *mȇrkt* 'мачыць', лат. *mȇ̃rks* 'невялікая сажалка (азярцо) на лузе') пры дапамозе суфіксаў *-ол(а)-* і *-оць*.

***Ме́рхаць,** *ме́рхоть* 'рабізна на вадзе ад хуткага цячэння' (паўд.-усх., Бел.-рус. ізал.). З укр. мовы. Параўн. *мо́рхлий* 'зморшчаны', *моршо́к* 'маршчына', *ме́рхнути* 'гаснуць, губіць бляск', 'жухнуць'. Да *моршчыцца* (гл.). Параўн. таксама ЕСУМ, 3, 518.

**Мерці,** *мерць* 'гінуць, паміраць' (ТСБМ, Нас., Растарг., ТС), віл. *мярці* 'тс' (Сл. ПЗБ), укр. *ме́рти,* польск. *mrzeć* (<*mier-ć*), чэш. *mříti,* ст.-чэш. *mrieti, umierati,* а ў іншых слав. мовах з *-і-* (бел. *паміраць,* рус. *умирать,* славен. *umírati* і інш.). Да прасл. *mer-ti,* аснова якога *mer-* чаргуецца з *mьr-* і *mor-* (Махэк₂, 382; Брукнер, 346—347).

**Ме́рэч** 'гушчар' (ТС). Да *мярэча* (гл.).

**Ме́са** 'імша' (ТСБМ). Праз рус. мову запазычана з франц. *messe* 'імша, абедня', якое з лац. *missa* 'пасыланне, дару-чэнне'<*mittere* (дзеепрым. *missus* 'пасланы', паводле слоў ксяндза, у канцы месы: *ite, missa est* 'ідзіце, канец абраду' або 'ахвяра (пры імшы) ужо паслана (богу)' (Голуб — Ліер, 324).

**Ме́сік,** *ме́сяк, ме́сяка, ме́сячка* 'месяц (на небе)' (Нас., Яруш., Бяльк., Растарг., Мат. Гом., Ян., Нар. Гом., жлоб., Нар. словатв., горац., КЭС), смал., пск. *ме́сик, ме́сяк*. Усх.-бел.— зах.-рус. ізалекса. Да *ме́сяц* (гл.). Суфіксы *-ік, -як* надаюць памяншальна-ласкальнае значэнне і, магчыма, з'яўляюцца рэліктамі табуістычнага значэння (задобрывання свяціла).

**Месі́я** 'пасланец бога, які павінен прыйсці на зямлю і выратаваць род чалавечы ад пакут' (ТСБМ). Яшчэ ст.-рус. *мессия, месия* 'тс' (XII ст.), ст.-бел. *месия* (XV ст.). Форма *месіяш* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *месияшъ, месиашъ, мессияшъ, месыашъ* 'тс' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *mesyjasz* 'месія', якое праз лац. *messīas* ад ст.-яўр. *māšīăh* 'памазаны' (Булыка, Лекс. запазыч., 176).

**Ме́скасць** 'гарадское палажэнне, спосаб жыцця' (Нас.). Беларускае. Відаць, штучнае ўтварэнне ад *мескі* 'гарадскі'< ст.-рус. *мѣскии*<*мѣстскии*<*мѣсто* 'горад'.

**Ме́скі**₁, **ме́ські** 'гарадскі' (Бяльк.), 'мястэчковы' (ТС). Ст.-рус. *мѣский* 'тс', якое з *мѣстский* (XVI ст.). Да *ме́ста*₁ (гл.).

**Мéскі**$_2$ 'здобны, пышны (аб пірагу)' (Нар. Гом.). З польск. *miejski* 'гарадскі' (якое са ст.-польск. *mieścki*) у словазлучэнні *chleb miejski* 'хлеб з пшанічнай мукі, пытляванай не да канца'.

**Мéснасць** 'мясцовасць' (Ян.). З рус. *мéстность* 'тс'.

**Мéсніцтва** 'абарона вузкамесніцкіх інтарэсаў' (ТСБМ). З рус. *местничество,* якое са ст.-рус. *мѣстничество* 'сістэма феадальнай іерархіі ў Рускай дзяржаве ў XV—XVII стст., якая рэгулявала адносіны паміж членамі служылых фамілій у залежнасці ад знатнасці роду'.

**Мéста**$_1$, *мéсто, мястэ́чка, местéчко, місто* 'цэнтр мястэчка з будынкамі гандлёвага і адміністрацыйнага прызначэння', 'рыначная плошча', 'частка горада за сцяной замка' (ТСБМ, Грыг., Др.-Падб., Некр., Нас., Сл. Брэс., Яруш., Шн., Бяльк., Шат., Касп., ТС, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), ст.-бел. (спачатку) *торговое мѣстечко* (XVI ст.), потым *мѣсто* пад уплывам існуючага польск. *miasto* 'тс'. Ужо ў XV ст. ужывалася *мѣсто* і *място* 'горад' — апошняе з польск. *miasto* 'тс', што з'яўляецца калькай з с.-в.-ням. *stat* 'месца, горад' (Карскі, Труды, 312, 338; Фасмер, 2, 608; Анічэнка, SlOr, 18 (3), 327; Булыка, Лекс. запазыч., 34). Аналагічна ўкр. *місто* 'тс'. Аднак ст.-рус. *мѣсто,* рус. *место* 'месца', 'мясцовасць, край', 'участак зямлі', 'пасада', н.-луж. *město,* чэш. *místo,* славац. *miesto,* славен. *mesto,* серб.-харв. *мѐсто,* макед. *место,* балг. *място,* ст.-слав. **мѣсто** 'тс', агульнаслав. *město,* роднаснымі да якога з'яўляюцца, нягледзячы на цяжкасці ў інтанацыйных адносінах: лат. *mist* 'пражываць', літ. *mìsti* 'карміцца', *maĩstas* 'харчаванне', а таксама авест. *miϑnaiti* 'жыве', *maēϑana* 'месца пражывання, жыллё, дом' (Бартоламэ, 1105; Мацэнаўэр, LF, 11, 170; Траўтман, 185; Фасмер, 2, 607—608; Махэк$_2$, 365). Сюды ж *мéсны, мéсный* 'тутэйшы, мясцовы' (драг., КЭС; Бяльк.).

**Мéста**$_2$ 'паслед, плацэнта' (слуц., Нар. словатв.; в-дзв., Шатал.; Сл. ПЗБ), беласт. *мéсца* 'тс' (Сл. ПЗБ). Са словазлучэння *дзіцячае места* <рус. *детское место.*

**Мéста**$_3$ 'месца' (Шат.). Магчыма, пад уплывам рус. *место* 'тс'.

**Мéсца**$_1$ 'прастора, пункт, мясцовасць' (ТСБМ, Касп., Кліх, Янк. 1), *месцейка* 'тс' (Др.-Падб.), *месцечка* 'мясцінка' (Янк. 3), ст.-бел. *мѣстце, мѣстцо* 'месца', ст.-рус. *мѣстьце* (XV ст.). Да *мéста*$_1$ (гл.).

**Мéсца**$_2$, *месцо* 'рыначная плошча' (Кліх), 'мястэчка' (валож., іўеў., навагр., беласт., Сл. ПЗБ). Да *месца*$_1$. У выніку кантамінацыі бел. *месца* 'месца' і *места* 'горад'.

**Мéсці,** *месьці, мясьці* 'падмятаць', 'з сілай гнаць, кружыць снег' (ТСБМ, Касп., Яруш., Сл. ПЗБ, ТС; мiёр., З нар. сл.).



Укр. *мести́,* рус. *мести́,* польск. *mieść,* н.-луж. *mjasć,* в.-луж. *mjeść,* чэш. *mésti,* славац. *miesť,* славен. *mésti,* серб.-харв. *мѐсти,* макед. *мете,* балг. *мета,* ст.-слав. **мести**. Прасл. *mesti* (<*metti*), роднаснае да *metati*>*мятаць* (гл.). Дакладнымі адпаведнікамі агульнаслав. лексемы з'яўляюцца: літ. *mèsti* 'кідаць, шпурляць', 'пакінуць', 'снаваць', лат. *mest* 'кінуць', ст.-прус. *metis* 'кідок', лац. *mittō, mittere* 'тс', 'выпускаць' (Бернекер, 2, 40; Фасмер, 2, 611; Махэк$_2$, 361; Фрэнкель, 422; Бязлай, 2, 179; Шустар-Шэўц, 12, 926—927). Гл. *мятаць*$_2$.

**Мéсціць** 'змяшчаць' (Нас.), *мясці́ць* 'тс' (ТСБМ, Др.-Падб.), *мéсціцца* 'змяшчацца, садзіцца' (Нас.), 'умяшчацца' (іўеў., Сл. ПЗБ). Ст.-рус. *мѣстити* (XII ст.), *мѣститися* 'тс'. Да *мéста*$_1$.

***Месь,** *мíэсь* (ж. р.) 'месца' (асіп., Буз.). Да *мéсца* (гл.). Аб мене *с'ц'*>*с'* гл. Карскі, 1, 356.

**Месяндзовы** 'медны', 'жоўтага колеру' (Інстр. II, Булг., Жд. 1). Да *масянжовы*<*масенж* (гл.). Пачатковае *ме-* пад уплывам лексемы *месяц* у сувязі з колерам месяца, падобным да бронзы.

**Мéсяц,** *мéсіц, мéсец, мéсічык, мéсячка, мéсячак, мéсячко, мéсечык, мéсічак, мéсечок, мéсячык,* ветк. *мéсячка,* стол. *мíсац,* драг. *мíсяц(ь)* 'планета, найбліжэйшая да Зямлі', '12-я частка астранамічнага года' (ТСБМ, Яруш., Бес., Шат., Касп., ТС, Сл. ПЗБ, Кліх, Янк. 1, Бяльк.; бых., Янк. Мат.), 'рагалік на вясельным караваі' (Маш.). Укр. *мíсяць,* рус. *мéсяц,* польск. *miesiąc,* н.-луж. *mjasec,* в.-луж. *měsac,* чэш. *měsíc,* славац. *mesiac,* славен. *mêsec,* серб.-харв. *mjȅсец,* макед., балг. *месец,* ст.-слав. **мѣсѧць**. Прасл. *měsęcь,* якое, паводле Махэка$_2$ (360), мела значэнне як 'месяц-свяціла', так і 'месяц (30 дзён)'. І.-е. *mēs- (<*mēns-): літ. *mė́nuo, mė́nesis,* лат. *mēnesis* 'месяц', *mēness* '30 дзён', ст.-прус. *menins* 'свяціла', гоц. *mēna* 'тс', *mēnōþs* '30 дзён', лац. *mēnsis* 'тс', ст.-грэч. μήν 'тс', іян., ат. μείς<*μενς<μηνς, дар. μῆς 'тс', μήνη 'свяціла'; алб. *muai,* ірл. *mī,* ст.-інд. *mās- (māsas)* 'месяц', авест. *må,* новаперс. *māh,* тах. А *mañ,* тах. В *meñe,* арм. *amis* 'месяц'. Слав. *mě̆sęcь* разглядалася этымолагамі як аснова *mē-,* пашыраная элементамі *-n-* і *-es-* (як у балт. мовах), якая прысутнічае ў лексеме *мера (mě̆ra):* месяц мерае час. Суфікс *-*ko-* (>-ьсь) у **mě-senьcь* той жа, што і ў лексемы *sъlnьce,* і ўся лексема носіць табуістычны характар (задобрыванне). Гл. Бернекер, 2, 51; Траўтман, 179; Шпехт, KZ, 66, 53; Мее, 336; Фасмер, 2, 608—609; Скок, 2, 437—438; Бязлай, 2, 179; БЕР, 3, 755—756. Развадоўскі (Rozprawy, 25, 425) прапануе прыняць першапачатковае значэнне 'які мяняецца' і выводзіць лексему *měsecь* з і.-е. асновы **mei̯-/*moi̯-* 'мена'. Неперакanaўча. Як і Трубачоў

(ВЯ, 1980, 3, 5), які выводзіць з і.-е. **menyos* 'менш'. Атрэмбскі (Балто-слав. сб., 186—192) лічыць, што слав. *mēsęcь* і балт. *mēnuo* з'яўляюцца варыянтамі аднаго і таго ж славяна-балтыйскага слова (<і.-е. **mē(n)s*).

**Ме́сяц**$_2$ 'від танца' (кап., Жыв. сл.; Інстр. III). З рус. *ме́сяц* з назвы песні «Чудный месяц», на матыў якой танец выконваўся.

**Ме́сячка,** *ме́сечка* 'гатунак бульбы', 'радыска' (Мат. Гом., Ян.; лельч., Жыв. сл.). Да *ме́сячны*<*месяц*$_1$ (гл.): гэтыя культуры вырастаюць у месячны тэрмін.

**Ме́сячнік**$_1$ 'прыгонны селянін, які атрымліваў штомесячную натураплату ад памешчыка' (ТСБМ). Да *ме́сячны*<*ме́сяц*$_1$ (гл.). Параўн. *ме́сячна* 'штомесячна' (Ян.).

**Ме́сячнік**$_2$ 'месячны адрэзак часу, прызначаны для правядзення якога-небудзь грамадскага мерапрыемства' (ТСБМ). З рус. *месячник* 'тс'.

**Ме́сячнік**$_3$ 'лунацік' (іўеў., Сл. ПЗБ). З *ме́сячны,* параўн. ст.-рус. *мѣсячный* 'тс' (пач. XIV ст.). Не выключана і пасрэдніцтва польскай мовы. Параўн. польск. *miesięcznik, miesięczny* 'тс'. Устарэлай формай у суч. чэш. мове лічыцца *měsičník* 'тс'. Параўн. і серб.-харв. *mjesečanin, mjȅsečnjak*.

**Ме́сячына** 'натураплата, якую штомесяц выдаваў памешчык беззямельным прыгонным сялянам' (ТСБМ). Яшчэ ст.-рус. *мѣсячина* (X ст.), серб.-харв. *mjesečina* 'тс'. Да *ме́сяц*$_1$ (гл.)>*ме́сячны*.

**Ме́та**$_1$, *ме́тка, ме́ціна* 'штучны або радзімы знак, які адрознівае прадметы або істоты ад іншых падобных прадметаў, істот' (ТСБМ, Нас., Бяльк.), 'прыкмета, знак', 'пляма на целе, покрыва жывых істот' (кругл., Бел. хрэст. дыял.; ТСБМ), 'мяжа', след, лінія, вышка, маяк, межавая насечка на дрэве' (Сл. ПЗБ; слаўг., Яшк.), *ме́тны* 'прыкметны, вядомы, памятны', 'зграбны, спрытны, лоўкі' (Нас.; КЭС, лаг.; сувалк., КЭС; гарад., Нар. лекс.; даўг., Сл. ПЗБ), *ме́ціць* 'ставіць адметны знак, метку' (ТСБМ, ТС). Укр. кіеўск. *мєта* 'драўляная бразготка на шыі ў скаціны', *мітити,* рус. *ме́тить, мета,* ст.-рус. *мѣта* 'знак'; серб.-харв. *за-мијѐтити* 'прыкмеціць', балг. *сметам* 'лічу', 'мяркую', *сметка* 'рахунак'. Прасл. *mēta*. І.-е. адпаведнікі (балт. адсутнічаюць): ст.-інд. *mātiš* 'мера', *māti* 'мерае', авест. *māta-* 'памераны', 'утвораны', ст.-грэч. μῆτις 'рада', 'задума', 'кемлівасць', μέτρον 'метр', лац. *mētior, -īrī* 'мераць', якія ўзыходзяць да і.-е. асновы **mē-* 'мераць', параўн. *ме́ра* (гл.) (Бернекер, 2, 54; Траўтман, 179; Фасмер, 2, 610; Скок, 2, 423). Менш верагодным з'яўляецца супастаўленне з гоц. *maitan* 'сячы, высякаць' (Міклашыч, 196; Младэнаў, 596; Аткупшчыкоў, Из истории, 201).



**Ме́та**$_2$, *мі́та* 'доўгі, мелкі капец бульбы' (петрык., Нар. сл.). Праз польск. пасрэдніцтва (параўн. кацеўск. *mėt* 'тс') або непасрэдна з н.-ням. *miete* ці с.-гал. *mite* 'стог, сцірта', 'капец (для караняплодаў)', якія, аднак, з лац. *mēta (foeni)* 'сцірта, стог сена', 'хлеў для сена' (Васэрцыер, 152).

**Ме́та**$_3$, *ме́цішча* 'лінія ў дзіцячай гульні' (рэч., слаўг., чав., чэр., краснап., Яшк.), які і *ме́та* 'адлегласць' (ТС), звязаны генетычна з *ме́та*$_1$ (гл.), аднак у семантыцы можна бачыць агульнае з семантыкай *мэта* (гл.). Сюды ж *меціць* 'цэліць', 'намервацца ажыццявіць якое-небудзь дзеянне', 'імкнуцца заняць больш высокае становішча' (ТСБМ, Яруш.).

**Ме́тад,** *метода* 'спосаб даследавання рэчаў у якой-небудзь галіне дзейнасці' (ТСБМ). З польск. *metoda* 'тс'. Магчыма і другаснае запазычанне з рус. *метод* 'тс' (як навуковы тэрмін). Аднак у рус. мове — з польск. ці англ. (Фасмер, 2, 610). Крукоўскі (Уплыў, 77) лічыць, што гэта русізм.

**Мета́л,** *мята́л, міта́л* 'простае рэчыва або сплаў, якім уласцівы бляск, коўкасць, праводнасць цеплыні і электрычнасці' (ТСБМ; бабр., Воўк-Лев.; драг., Жыв. сл.). Ст.-рус. *металъ, метала (металя)* 'тс' (XVI ст.). Праз ням. *Metall* ці франц. *métal* з лац. *metallum* 'метал', 'мінерал, выкапень', 'руднік', якое са ст.-грэч. μέταλλον 'руднік' (Фасмер, 2, 609). Крукоўскі (Уплыў, 83) бел. лексему выводзіць з рус. мовы. Не выключана і пасрэдніцтва польск. мовы.

**Металу́ргія** 'галіна цяжкай прамысловасці, якая займаецца здабычай і вытворчасцю металаў' (ТСБМ). З рус. *металлургия* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83) або з польск. *metalurgia* 'тс', якія з с.-лац. *metallurgia*<ст.-грэч. μέταλλουργεον 'месца апрацоўкі металаў'.

**Метану́цца** 'мільгануць', 'падмесці, змесці' (Юрч.), *метану́ць* 'шпурнуць, кінуць аб зямлю' (ТС). Да *мята́цца, мята́ць* (гл.).

**Ме́тка,** *мётка* 'тонкі пруток, на які нанізаны жывыя ўюны, засмажаныя пасля гэтага перад чалеснікамі печы', 'нізка дробнай рыбы' (Эр., Маш., ТС, Нар. Гом., Крыв., Янк. 1; глус., КЭС), *мёдка* 'тс' (Сержп. Грам.). У выніку кантамінацыі лексем *мята́ць* 'надзяваць' (параўн. рус. *намётка* 'фастрыгаванне', серб.-харв. *мѐтати* 'надзяваць') і *ве́тка, вець* 'пруток'.

**Меткі** 'здольны беспамылкова пападаць у цэль', 'дакладна накіраваны ў цэль', 'трапны' (ТСБМ), паўд.-усх. *меткий* 'хуткі', 'лоўкі' (КЭС). Ст.-рус. *мѣтъкъ*. Да *ме́та*$_1$ (гл.). Аб утварэнні гл. Аткупшчыкоў, Этимология-1984, 197.

**Ме́тлік** 'укладка снапоў' (зах.—мін., Выг., Бел.-укр. ізал.). З *медлік,* якое з *мендлік* 'тс'. Да *мэндлік* (гл.).

**Метлюга́** 'мятлюг, Роа L.' (ТС). Зборны назоўнік, утвораны ад *мятлю́г* (гл.).

***Метлюхава́ць,** *метлюхова́ць* 'іграць' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *метлюха́цца* 'матляцца' і польск. *motłoch* 'натоўп, зграя', *metlować* 'дурыць галаву, рабіць галас, баламуціць'.

**Метлюха́цца** 'матляцца, хістацца' (ТС). Да *матла́ць* (гл.). Параўн. рус. вяц., урал. *метлеси́ть;* свярдл., перм. *метлеси́ться* 'надакучліва матляцца перад вачыма', урал. *метлеши́ть* 'тс'.

**Метр,** *ме́тар, ме́тра, мэтар, мэтр, мэтра* 'адзінка даўжыні, роўная 100 см, ёмістасці, роўная 100 кг, аб'ёму, роўная 1 $м^3$', 'вымяральная лінейка даўжынёй у 1 м' (ТСБМ, Сцяц., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Гом., Ян; свісл., Шатал.; Сл. Брэс.; кам., Хрэст. дыял.). З рус. *метр* і польск. *metr,* якія з франц. *mètre*<лац. *metrum*<ст.-грэч. μέτρον 'мера' (Фасмер, 2, 611).

**Метранпа́ж** 'работнік друкарні, які вярстае набор' (ТСБМ). З рус. *метранпаж* 'тс', якое з франц. *metteur en pages* 'складальнік старонак' (Фасмер, 2, 611).

**Метрапалітэн** 'гарадская падземная электрычная чыгунка' (ТСБМ). З рус. *метрополитен* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якое з франц. *métropolitain* 'які існуе (ёсць) у сталіцы' (Фасмер, 2, 611)<лац. *metropolitanus*<лац.-грэч. *mētropolis* 'сталіца'.

**Метрдатэль** 'распарадчык у рэстаране або гасцініцы', 'старшы лёкай'. З рус. *метрдотель* 'тс', якое з франц. *maître d'hôtel* 'тс', 'дварэцкі' (Фасмер, 2, 611).

**Метро** 'падземная чыгунка' (ТСБМ). Скарачэнне *métro* з франц. *métropolitaine*>*метрапалітэн* (гл.).

**Ме́трыка** 'выпіска з метрычнай кнігі аб даце нараджэння' (ТСБМ), смарг., пруж. *мэтрыка,* драг. *мэтрыкэ* 'тс' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *метрика, метрыка* 'канцылярская кніга' (пач. XVI ст.), *«Літоўская метрыка»,*— запазычаны са ст.-польск. *metryka,* якое з с.-лац. *matricula* 'каталог, вопіс'<лац. *mātrīx* 'тс'. Булыка (Лекс. запазыч., 57) памылкова выводзіць з лац. *metrica* '?'.

**Метуха́** 'страва з бульбы і малака' (лун., Шатал.). Да *мяць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 71.

**Метуша́цца** 'мітусіцца' (ТС). Укр. *метуши́ться,* рус. *мету-си́ться* 'тс', чэш. *metošiti se, metášiti se metešiti se* 'кідацца', 'ляцець хуткімі крокамі'. Да *мята́ць*$_1$ (гл.), *мята́цца* з нарашчэннем асновы *-уш-/-ус-*.

**Мет́ызы** (мн.) 'стандартызаваныя металічныя вырабы: металічныя стужкі, дрот і вырабы з іх' (ТСБМ). З рус. *метиз*= =скарочанае *мет-*(аллическое) *из-*(делие).

**Метэо́р** 'распаленае цела касмічнага паходжання, якое хутка рухаецца ў зямной атмасферы' (ТСБМ), *мецео́р*



'падаючая зорка' (Інстр. I). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 90), запазычана з рус. мовы.

**Мех,** *міх, міех, мяшок, мішок, машок* 'мех — мера, роўная 3—5 пудам', 'сярэдняя частка невада', 'сяннік', 'кавальскі мех', 'лічынка мурашкі', 'непаваротлівы, нязграбны чалавек' (ТСБМ, Нас., Булг., Грыг., Шат., Касп., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ, Тарн., Яруш., Бес., Сцяц.), *мяшочак* 'плавальны пузыр' (нараўл., З нар. сл.). Укр. *міх,* рус. *мех,* польск. *miech,* палаб. *mech,* н.-, в.-луж., чэш. *měch,* славац. *mech* славен. *mêh,* серб.-харв. *мијех, mêx,* макед. *мев,* балг. *мях,* ст.-слав. **мѣхъ**. Прасл. *měхъ* 'аўчына'>'мех'. І.-е. адпаведнікі: літ. *maĩšas,* лат. *màiss* 'мех', літ. *máisė* 'раптух', ст.-прус. *moasis* 'кавальскі мех', магчыма, таксама ст.-інд. *mēšá-* 'баран, шкура', *mēši* 'авечкі', авест. *maēša* 'авечка', ст.-ісл. *meiss* 'кошык', нарв. *meis* 'тс', ст.-в.-ням. *meisa* 'прыстасаванне для ношы на спіне', і.-е. **moisos* (Бернекер, 2, 46; Брукнер, 311; Траўтман, 165; Фасмер, 2, 612; Махэк$_2$, 356; Скок, 2, 421; Бязлай, 2, 176; Шустар-Шэўц, 12, 896). Аб развіцці семантыкі гл. Аткупшчыкоў, Из истории, 201. Абаеў (Этимология. 1984, 13) выводзіць і.-е. **meiso.*

**Механі́зм** 'частка машыны, прылады, апарата', 'унутраны лад, сістэма чаго-небудзь' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 83) — з рус. *механизм,* якое з еўр. моў, утворанае ад навалац. *mechanismus* на падставе ст.-грэч. μηχανέ 'інструмент'.

**Меха́нік,** *меха́ник* 'спецыяліст па механіцы' (ТСБМ, Некр.)'. З польск. *mechanik* (Кюнэ, Poln., 77), якое з лац. *mechanikus* 'тс'<ст.-μηχανικός 'умелы, вынаходнік'<μηχανή 'машына', 'выдумка', 'хітрасць', 'асадная машына'.

**Меха́ніка** 'фізіка руху цел і стану раўнавагі, а таксама ўзаемадзеянне цел', 'будова, канструяванне машын, апаратаў, прыстасаванняў'. Паводле Крукоўскага (Уплыў, 83), запазычана з рус. мовы, у якой *механика* (1709 г.) праз польск. ці ням. з лац. *mēchanica* 'механіка '<ст.-грэч. μηχανική τέχνή 'уменне будаваць машыны' (SWO, 461). Бел. лексема магла быць узята з польск. мовы.

**Механоша** 'непаседа' (Ян.) у выніку пераносу значэння пад уплывам *маха́ць* з *механоша* 'які носіць мяхі'. Параўн. *механош* 'рабочы ў млыне' (Бяльк.), *механоша* 'чалавек, які ў час калядавання збірае ў мех падарункі для шчадроўшчыкаў' (ТС, Растарг.). Да *мех* і *насі́ць* (гл.). Гл. таксама *маханоша.*

**Ме́цішча** 'спецыяльна адведзенае месца на рацэ для лоўлі рыбы' (Прышч. дыс.). Да *ме́та*$_1$. Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45—46.

**Ме́цца** ў словазлучэннях *меццa-сапрана* 'жаночы голас, сярэдні паміж сапрана і кантральта', *ме́цца-тынта* 'ручны спосаб гравіравання на метале' (ТСБМ). Праз рус. мову

(Крукоўскі, Уплыў, 84) з італ. *mezzo* 'сярэдні'<лац. *medius* 'тс'.

**Мець** 'мець што-небудзь у наяўнасці', 'валодаць кім-, чымнебудзь', 'намервацца рабіць што-небудзь', 'мець што-небудзь супраць' (ТСБМ, Нас., Мал., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *маць, мáтэ* 'мець' (Янк. 1, ТС, Ян.; гор., Мат. Маг.; драг., КЭС), *мецца* 'існаваць, быць у наяўнасці', 'даводзіцца', 'адчуваць сябе', 'быць багатым', 'збірацца зрабіць што-небудзь', *мацца* 'быць у стане' (ТСБМ, Нас., Яруш., Шат., Касп., Бяльк., Сцяшк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС; саліг., Нар. словатв.; КЭС, лаг.). Укр. *мати, маю;* рус. *иметь, имею;* ст.-рус. *имѣть, имѣю;* польск. *mieć, mam;* палаб. *met, mom;* н.-луж. *mieś, mam,* в.-луж. *mieć, mam,* чэш. *míti, mám,* славац. *mat', mám,* славен. *iméti, imám,* серб.-харв. *úмати, úмам,* чак. *imiti,* харв.-кайк. *imeti,* макед. *има,* балг. *úмам,* ст.-слав. **имѣти**, *имамь.* Прасл. *jьmě̂ti, jьmamь,* якое з прасл. *jьmǫ, (j)ęti* (параўн. ст.-слав. **имѫ, ѩти** '(пры)-му, (пры)-няць', але прасл. *vъz-ьmǫ, vъz-ęti* 'ваз-ьму, уз-яць'). Інфінітыў *jьmě-ti* мае аснову на *-ē-,* а 1-я ас. адз. ліку *jьma-mь* — гэта рэзультатыў на *-ā* з аслабленнем у корані (Махэк$_2$, 366)< і.-е. **imā-mi.* 1-я ас. адз. ліку бел. *маю* аформілася пад уплывам дзеясловаў з *а*-асновай *(зна-ць),* а стары канчатак *-мь* застаўся толькі ў *дам* і *ем.* У паўд.-бел. гаворках пасля адбылося выроўніванне паводле гэтай асновы і формы інфінітыва, як ва ўкр. мове. Анічэнка (Бел. лекс., 8) мяркуе, што ст.-бел. *мати* — украінізм. Гл. таксама: Фасмер, 2, 128; Голуб — Копечны, 225; Брукнер, 331; Скок, 1, 716; Шустар-Шэўц, 12, 895.

***Мецялýха**$_1$, *мытылýха, мэтэлýха* 'мяцеліца' (малар., Нар. лекс., Сл. Брэс.), *метэлюга* 'сумёт' (паўд.-беласт., БЛ, 11). Да *мéсці, мяцéль* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38). Сюды ж *мецялюжны* 'завейны, завірушны' (Нар. Гом.).

**Мецялýха**$_2$ 'вясёлка' (івац., ДАБМ, к. 312). Да *весялýха*$_2$ (гл.). Мена зычных адбылася пад уплывам *мяцель* — іншай з'явы прыроды.

**Меч**$_1$ (м. р.) 'старадаўняя халодная зброя' (ТСБМ, Яруш.), (ж. р.— Рам. 5; швянч., Сл. ПЗБ; Нар. Гом., ТС). Укр. *меч* і *міч,* рус. *меч,* перм. *мечó,* ст.-рус. *мечь,* польск. *miecz,* н.-луж. *mjac,* в.-луж. *mječ,* чэш., славац. *meč,* славен. *mêč,* серб.-харв. *mȁч,* макед., балг. *меч,* ст.-слав. **мечь**. Прасл. *mečь* і *mьčь,* якія разглядаліся як запазычанне з гоц. **mēkeis* (гоц. *mēki* — В. скл.), ст.-ісл. *mækir,* ст.-англ. *méce,* ст.-сакс. *mâki* (Міклашыч, Fremdw., 112; Mee, 110, 184; Вондрак, Vergl. gr., 1, 62), як роднасныя з лац. *mactō, -āre* 'забіць, зарэзаць' (Торп, 303), са ст.-грэч. μάχη 'бітва' (Младэнаў, 295), з ірл. *machtaim* (Вальдэ — Гофман, 2, 4). Фасмер (2, 612—613) дапускае



запазычанне слав. і гоц. слоў з адной, невядомай нам крыніцы; Мартынаў (Лекс. взаим., 217—218) дапускае магчымасць запазычання з Блізкага Ўсходу праз каўказскія мовы (пры цюркскім пасрэдніцтве), параўн. дзідойск. *mač'a* 'шабля', куанадск. *mīča* 'кінжал', груз. *maχva* 'востры меч' і інш., ст.-грэч. μάχαιρα<ст.-яўр. *mekērā(h).* Сюды ж *мéчнік* 'мечаносец', 'рамеснік, які вырабляў мячы' (ТСБМ), ст.-рус. *мечьникъ* (гл. Львоў, Рус. и слав. языкозн., 1972, 180).

**Меч**$_2$, *мечыны* 'плоская дошчачка ў пачатку і на канцы драбіны', 'папярочныя перакладзіны ў драўлянай баране' (Смул.), укр. валынск. *мéчики* 'лёстачкі ў драбіне'. Да *мыч* (гл.).

***Мечая́,** *мечея́, мячая́* 'адтуліна ў верхнім камені жорнаў' (В. В.; іўеў., Сл. ПЗБ). Да прасл. *ęca, ęcaja* (Трубачоў, Эт. сл., 6, 61)>*ячай, ячая́* (гл.) з менай пачатковай зычнай *j-: лечая́* (гл.), лях. *ачáй,* стол. *ячая́* (Сл. ПЗБ), *іча́й, ручáй,* рус. пск. *вицéя,* укр. *нечая́,* бел. гродз. *вéчай, вечая́* (апошнія памылкова выводзяцца з *ak'- ač-* услед за Ваянам, Зб. Курцу «Studia poleoslovenica», Praha, 1971, 381—382) — гл. ЭСБМ, 2, 111. Параўн. таксама семантычна кантамінаванае *дучáй* (там жа, 3, 167).

**Мéчыкі** 'цюльпаны' (паст., Сл. ПЗБ), драг. *мэ́чыке* 'гладыёлусы' (Лучыц-Федарэц), відаць, з польск. *mieczyk* 'тс', як і чэш. *mečík,* серб.-харв. *mȁч, mačika, mečika, mačić, mačinac,* 'тс', *mačac* 'стальнік, Ononis spinosa' славен. *mêč* 'гладыёлус', *mečíka* 'касач',— усе першапачаткова з'яўляюцца старым перакладам з лац. *gladiolus* 'невялікі меч'>'мечавідны ліст'< *gladius* 'меч' паводле падабенства лістоў да мяча.

**Мéша** 'страшыдла, пачвара, якая «блукае ноччу», «сядзіць у цёмным кутку»' (Янк. 3). Няясна. Наўрад ці звязана генетычна з літ. *maĩšas* 'цёмны, закураны кут у кузні'. Відаць, з *мяшáць* 'перашкаджаць', утвараная як, напрыклад, драг. *сновэ́да* ад *снóўдатысь* 'сноўдацца, хадзіць туды-сюды, перашкаджаючы'. Параўн.: літ. *maišýti* 'перашкаджаць, блытаць'. Гл. таксама *мэ́ша.*

**Мéшанец,** *мяшáнец* 'метыс', 'прыплод дамашняй жывёлы, птушкі, атрыманы ад скрыжавання розных парод' (ТСБМ, Нас., Юрч.), рус. смал. 'тс', ніжагар. 'чалавек, народжаны ад мяшанага шлюбу', ст.-рус. *мѣшанецъ* (XVII ст.), польск. *mieszaniec* 'мулат, метыс', 'гібрыд', чэш. *míšenec* 'тс'. Паўночнаславянскае. Да *мяшáць* (гл.).

**Мéшань** 'поле, узаранае вясною (другі раз) перад сяўбой збожжа' (Нас., Касп., Бяльк., Дэмб. I; Выг. дыс.; полац., Нар. лекс.; маладз., в.-дзв., мядз., Сл. ПЗБ; КЭС), лаг., шальч.

*мешаніна* 'тс' (Сл. ПЗБ), паўд.-пск., смал. *мéшань, мéшень*. Беларускае. Да *мяшáць* (гл.).

**Мéшка**₁ 'мешанка, корм', *мішанка, мішань* 'тс', 'трасянка' (Сл. Брэс., Бяльк., Растарг.), укр. новамаск. *мíшка* 'розныя гатунак сена', 'сумесь жыта, ячменю', рус. пск., смал., вяц., сіб. *мешка* 'сумесь з сена, саломы з вадой і вотруб'ем'. Да *мяшáць* (гл.).

**Мéшка**₂ 'непаваротлівы' (ігн., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 64), паходзіць з літ. *meškà* 'мядзведзь'. Перанос націску (!?). Параўн. таксама балг. *мéшко, мешкó* 'поўны, тоўсты чалавек', бел. *мешкавáты, мяшкавáты, мішкавáты(й)* 'нязграбны, непаваротлівы' (ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), якія разам з польск. *Mieszko* — імя караля, першага з дынастыі Пястаў, узыходзяць да балтыйскай першакрыніцы.

**Мешкавáць,** *мяшкавáць* 'насыпаць у мяшкі' (бераст., Сцяшк. Сл.; нясв., Сл. ПЗБ). Калька (пераклад) з польск. *workować* 'тс'.

**Мешкавіна** 'грубая моцная тканіна для мяшкоў ці для ўпакоўкі' (ТСБМ, мсцісл., Жыв. сл.). З рус. *мешковúна* 'тс'.

**Мéшкацца** 'марудзіць, рабіць памалу' (пін., З нар. сл.; ТС). Рус. *мешкать* 'тс', урал. 'чакаць', кіраў. 'разважаць', ст.-рус. *мѣшькати* 'чакаць, марудзіць', 'жыць, пражываць, быць падданым', *мѣшаный* 'павольны, вялы' (паводле Махэка₂, 361, павінна было пісацца *ме-*), польск. *mieszkać* 'марудзіць', 'забыць, не звяртаць увагі', 'жыць, прабываць, знаходзіцца', 'заставацца', 'быць у адносінах з кім-небудзь', *nieomieszkać* 'не занядбаць', в.-луж. *mješkoric* 'марудзіць', чэш. *meškati* 'марудзіць', 'знаходзіцца, перашкаджаць у рабоце', славац. *meškat'* 'спазняцца, адставаць', славен. *mečkati* 'паволі працаваць'. Не зусім яснае слова. Найбольш імаверна, што яно паходзіць з *мѣшати*>*мяшаць* (гл.) у выніку нарашчэння асновы. Укр. *мешкати* 'пражываць', як і ст.-бел. *мешкати, мяшкати* 'жыць, знаходзіцца' (XIV ст.), запазычана са ст.-польск. *mieszkać* 'жыць' (Жураўскі, SlOr, 10, 1961, 40; Булыка, Лекс. запазыч., ЕСУМ, 3, 455—456.

***Мéштам,** *мéштом* 'ускосна, незнарок' (ТС). Няясна.

**Мешчанін,** *мяшчáнка, мяшчáне* 'карэнны жыхар мястэчка, местачковец', 'прадстаўнік мяшчанскага саслоўя' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Янк. 2, Сцяц.), смал. 'анучнік', ст.-бел. *мещанинъ, мещанка, предмещанинъ* (XV ст.). Са ст.-польск. *mieszczanin, mieszczanek* 'гараджанін'(Булыка, Лекс. запазыч., 202; Кохман, 86). Значэнне 'абывацель' бел. лексема атрымала ў савецкі перыяд з рус. *мещанин* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 151), якое прыйшло ў рус. мову ў XVIII ст. (Фасмер, 2, 616) з бел. (Козыраў, Бел.-рус. ізал., 59). На Палессі ў значэнні 'абывацель' ужываецца *мешчанчýк* (ТС; драг., КЭС).



***Мéшыва,** сен. *мéшава* 'замешаны корм для скаціны' (Касп.). Да *мяшáць* (гл.) па тыпу прасл. *měsivo* (рус. *месиво*, серб.-харв. *mjesivo*).

**Мёд,** *мед, мэд, мід, мідь, мядьí* 'салодкае рэчыва з нектару кветак', 'напітак з мёду' (ТСБМ, Бес., Анох., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ, Ян; ашм., З нар. сл.; слаўг., Нар. сл.; драг., КЭС), 'нектар', 'смала на вішнях і слівах' (ТС), *мядьí* 'добрае жыццё' (Крыў., Дзіс.), *мэдовіца* 'рабочая пчала', *мэдовíк* 'пернік' (Анох.), *медавýха, мідавýха* 'вада, засаладжаная мёдам', 'хмельны напітак з мёду' (ТСБМ, Сл. ПЗБ; слаўг., Нар. сл.), *медавáя (мядовая) раса* 'падзь' (глыб., вілей., глыб., З нар. сл.). Укр. *мед, мід*, рус. *мёд*, польск. *miód*, н.-луж. *mjod*, в.-луж. *měd*, чэш., славац. *med*, славен. *mêd*, серб.-харв. *мȅд*, макед. *мед*, балг. *мед(ът)*, ст.-слав. медъ. Прасл. *medъ* (Р. скл. *medu*). І.-е. адпаведнікі: літ. *medùs*, лат. *medus*, ст.-прус. *meddo* 'мёд', ст.-інд. *mádhu* 'тс', 'медавуха', авест. *maδu-* 'мёд', 'віно', ст.-грэч. μέθυ, ірл. *mid*, ст.-в.-ням. *metu* 'хмельны напітак', і.-е. **medhu-* 'салодкі' (Бернекер, 2, 31; Траўтман, 173; Фрэнкель, 425; Фасмер, 2, 588—589; Махэк₂, 357; Скок, 2, 396—397; Бязлай, 2, 174; Абаеў, 3б. Младэнаву, 321—328).

**Мёнтка,** *мёнтачка* 'прылада для размешвання, узбівання чаго-небудзь' (паст., Сл. ПЗБ), Да *мéнта* (гл.).

**Мёртвы,** *мéртву, мóртвы, мáртвы* 'нябожчык, нежывы чалавек', 'нерухомы, бледны', 'пустынны, бясплодны', 'нямы', 'ціхі' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), ст.-бел. *мертвый, меръ́твый* 'не жывы' (Булахаў, Гіст., 131). Укр. *мертвий*, рус. *мёртвый*, польск. *martwy*, в.-луж. *morwy (mortwy)*, чэш. *mrtvý*, славац. *mŕtvy*, славен. *mrtèv, mŕtev*, серб.-харв. *мр̏тав, мр̏тви*, макед. *мртов*, балг. *мъртъв*, ст.-слав. **мрътвъ**. Прасл. *mьrtvъ;* і.-е. адпаведнікі: ст.-інд. *mṛtá-h* 'мёртвы', авест. *mərəta-* 'памерлы', афганск. *mər-* 'тс', ст.-грэч. эольск. βροτός 'паміраючы', лац. *mortuus*, гоц. *maúrþr*<і.-е. **mṛtos*, якое па аналогіі да *živъ* атрымала канчатак *-vъ* (Мее, 306, 388; Траўтман, 187; Покарны, 469; Фасмер, 2, 606; Бязлай, 2, 204).

**Мётка** 'мянташка' (беласт., Смул.). Да *мёнтка* (гл.) са стратай назалізацыі (імкненне да «гіперправільнасці»).

**Мётлы** (мн. л.) 'сонечныя палосы-прамяні паміж хмарамі' (брэсц., Нар. лекс.). Параўн. польск. *miotła* 'агонь з хваста каметы'. Да *мятлá* (гл.).

**Мжа** 'дробны дождж' (Ян., Растарг.; віл., КЭС; шчуч., Сцяшк. Сл.), *мжак, мжáка* (Багд., Мядзв., Касп., Мат. Гом., Ян.), *мжáвка* (беласт., Сл. ПЗБ), *мжачка* (круп., Жыв. сл.),

*мжун* (чач., Мат. Гом.), *мжыць* 'накрапваць (аб дробным дожджыку)' (Растарг.). Да *імжа́*₁, *імжы́ць* (гл.).

**Мжыць** 'заплюшчыць вочы', *мжы́цца* 'змыкацца, заплюшчвацца', 'мроіцца, здавацца' (Нас., Яруш.). Укр. *мига́тися, мигну́тися* 'мроіцца, здавацца', 'здацца', 'мільгаць', польск. *mżyć, mżeć* 'міргаць (вачыма)', 'драмаць', 'склейвацца (пра вочы)', 'глядзець, нібы праз туман', *mżonki* 'паўсон'. Да прасл. *migati*>*мiга́ць* (гл.) (Брукнер, 351) 'хутка рухацца туды-сюды'>'міргаць вачыма, калі надыходзіць сон' (параўн. літ. *miegóti* 'спаць')>'бачыць праз сон нешта час-ад-часу'> 'здавацца, мроіцца'.

**Мжэль** 'імгла' (усх.-гом., КЭС), 'дробны дождж' (Растарг.). Беларускае. Да *імжы́ць* (гл.). Аб суфіксе *-эль*<прасл. *-el'ь* гл. Слаўскі, SP, 1, 108.

**Мжэнь** 'імжа' (ветк., Мат. Гом.). Да *імжы́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Міг** 'імгненне, момант', *мíгам, мíгом* 'вельмі хутка, у адзін момант' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Яруш.; докш., Янк. Мат.), *міга́ць, мыга́ты* 'хутка паднімаць і апускаць павекі', 'мільгаць', 'бліскаць (пра маланку)', 'мігцець', 'хутка праносіцца перад вачыма' (ТСБМ, Анім., Бяльк., ТС; стол., Нар. лекс.). Укр. *миг, ми́гати*, рус. *миг, мигать*, ст.-рус. *мигати*, польск. *mig, migać*, палаб. *m'ėgojĕ să vicaima*, н.-луж. *mikaś, migaś*, в.-луж. *mikać*, чэш. *mih, mihati*, славац. *mih, mihat'*, славен. *mîg, mígati*, серб.-харв. *ми̏г, ми̏гати*, макед. *мига*, балг. *миг, мигам*, ц.-слав. **мьгнѫти**, ст.-слав. **по-мизати очима**. Прасл. *migati (sę)*. Найбліжэйшыя адпаведнікі: літ. *mìgti* 'засынаць', *miegóti* 'спаць', *miẽgas* 'сон', лат. *miêgt* 'заплюшчваць вочы', ст.-прус. *meicte* 'спаць', *maiǫgun* 'сон, спячка', лац. *micāre* 'блішчэць, міргацець', сагдыйск. *nimiž* 'маргаць', с.-перс. *miž* 'павека', с.-н.-ням. *micken* 'накіроўваць позірк, назіраць'. І.-е. аснова **meig- / *meĭk'-* (Бенвеніст, BSL, 38, 280; Ван-Вейк, IF, 28, 124; Бернекер, 2, 57; Фасмер, 2, 618—619; Скок, 2, 419—420; Махэк₂, 362; Бязлай, 2, 183; ЕСУМ, 3, 457; Мяркулава, Этимология-1973, 59). Фасмер і аўтары БЕР (3, 782—783) мяркуюць, што дзеяслоў *migati* ўтварыўся ад *migъ*, наадварот Махэк і Бязлай. Сюды ж *мíгунь!* 'раптам, у адзін момант', 'міг' (Нас. Доп.).

***Мігавіца,** *мыгавіца, мыга́віца* 'маланка'. Палескае (Дзендзелеўскі, Бел.-укр. ізал., 25). Рус. смал., пск. *ми́говка* 'тс'. Да *міг, міга́ць* (гл.).

**Міга́лка** 'газоўка', 'ліхтар, які ўспышкамі падае сігналы транспарту' (ТСБМ). З рус. *мигалка* 'тс'. *Мігальны* — калька з рус. *мигательный* (Крукоўскі, Уплыў, 118).

**Мігалі,** ст.-бел. *мигали* 'гарнастай' (XVII ст.) было запазычана праз ст.-польск. мову з с.-лац. *migale* (Булыка, Лекс. запазыч., 144).



**Мíгатам,** *мíгаткам* 'мігам' (слуц., Жыв. сл.). З прасл. *migъtъ*, якое з *migъtěti* 'бліскаць, мігаць, мігцець', параўн. польск. *migotać*, чэш. *mihotat*, славен. *migetáti*. Да *міг* (гл.).

**Мігацéць**₁ 'паказвацца на кароткі час і знікаць з поля зроку', 'свяціць няроўным бляскам' (ТСБМ, Яруш., Шат., Растарг.), 'ярка блішчэць' (Шат.), 'пераліваццa колерамі' (КЭС, лаг.), *мігцéць* 'тс', 'ледзь свяціць' (ТСБМ, Яруш.). Да прасл. *migъtěti* 'бліскацець, міргаць' (Мяркулава, Этимология-1973, 58—59), і.-е. аснова **meig-*, якая ў балт. групе моў мае значэнні 'спаць' (гл. *міг*) і 'туман' (літ. *miglà*, лат. *migla*), як і ў ст.-грэч. (ὀμίχλη), алб. (*mjegull*), ст.-інд. (*mēgha*), авест. (*mãeγa*) мовах (Скок, 2, 420).

**Мігацéць**₂ 'імжыць' (рэч., Нар. сл.). Семантычны балтызм. Параўн. літ. *miglà*, лат. *migla* 'туман', літ. *miglóti(s)* 'засцілацца туманам'. Да *мігацéць*₁, *міг* (гл.).

**Мігда́л,** *мікда́ль, мікда́ліна, мігда́лік, мігда́лы* 'міндаль (дрэва і плады)', 'нябесная манна', 'прысмакі, ласункі' (Нас., Дун.-Марц.; гродз., Сцяшк. Сл.; слуц., Жыв. сл.; паўд.-усх., КЭС), ст.-бел. *микгдалъ, мигдалъ* 'міндаль' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *migdał* 'тс', якое з лац. *amygdalum*<ст.-грэч. ἀμύγδαλος, ἀμυγδάλη, ἀμυγδάλιον,— апошнія з семіцкіх моў (Булыка, Лекс. запазыч., 148; Кюнэ, Poln., 77; Фасмер, 2, 623; ЕСУМ, 3, 457).

**Мігдалікі** 'бліскучыя зорачкі ці крыжы з адлюстраваннем святога, якія апраўляліся ў металічны абадок пад шклом і насіліся жанчынамі на шыі' (слонім., кобр., Шн. 3; Малч.). Да *мігдал* (гл.). Параўн. *міндаліна* 'жаўлак у горнай пародзе' (БелСЭ, 7).

**Мíгі,** *на мíгі, на мíгах* 'размаўляць пры дапамозе жэстаў, знакаў' (ТСБМ), польск. *(rozmawiać) na migi* 'тс'. Да *міг* (гл.), 'міргaннe'>'кароткі ў часе, хуткі рух'.

**Мíгікаць** 'ржаць (пра жарабя)', *мігіта́ць* 'тс' (ТС). Гукапераймальнае. Параўн. *мекята́ць* (гл.).

**Мігла́,** *мыгла́* 'імжа', *мігленне* 'тс', *міглíць, мыглíць, міглéць* (Сл. ПЗБ, ТС; лельч., Нар. лекс.; лун., Шатал.), *міглíца* 'імгла' (лях., клец., Федар. 5, 6). Балтызм. Параўн. літ. *miglà*, лат. *migla* 'туман', 'імжа', *miglénti* 'імгліць' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 65).

**Мігра́цыя** 'перасяленне насельніцтва, перамяшчэнне жывёльных арганізмаў, элементаў, клетак; пераход капіталу з адной галіны эканомікі ў іншую' (ТСБМ). З рус. *миграция* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 77), якое з зах.-еўр. моў (паводле

дзеяслова *мигрировать* — з ням.)<лац. *migrātio* 'пераход, пераезд'.

**Мігрэнь** 'боль галавы' (ТСБМ). З рус. *мигре́нь* 'тс', якое з франц. *migraine*<с.-лац. *hemicrania*<ст.-грэч. ἡμι 'палавіна'+κρανίον 'чэрап': пры мігрэні боль пачынаецца ў адной палавіне галавы' (Голуб — Ліер, 313).

**Мігт** 'імгненне' (Шат.). Да *міг* (гл.). Канцавое *-т* з прасл. формы *migъtъ* 'мігаценне', у якой *-а-* (<-ъ-) выпала (параўн. гродз. *умэнт* 'у адзін момант').

***Мігулькі,** *мыгу́лькэ* 'маленькія драўляныя палачкі, якія замацоўваюць знізу петлі мотузаў, што трымаюць ніт' (малар., Уладз.). Да *міга́ць* (гл. *міг*). Аб суфіксе *-уль* гл. Сцяцко. Афікс. наз., 67.

**Мігунь** 'імгла' (Нар. Гом.). Да *мігаце́ць*$_2$ (гл.). Аб экспрэсіўным суфіксе *-ип'ь* гл. Слаўскі, SP, 1, 135.

**Мідыґава́цца** 'быць у нерашучасці, вагацца' (ваўк., Сл. ПЗБ). З польск. *medykować, mendykować*<*medytować* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 65; Варш. сл., 2, 916).

**Мідыгава́ць,** *мідыго́ліць* 'разлічваць' (смарг., маст., Сцяшк. Сл.). Да *мадырава́цца, мадыгава́цца* (гл.).

**Між**$_1$, *міжы, між-* 'паміж, сярод' (ТСБМ, Нас., Яруш., Касп., Бяльк., Растарг., Янк. 2, ТС, Сл. ПЗБ; мядз., Жыв. сл.), ст.-бел. *мижъ*. Да *меж, межы* (гл.). Карскі (1, 187) разглядае пераход *е>і* як несапраўдны, які ўзнік таму, што прыназоўнік *між,* з'яўляючыся праклітыкай, страціў свой націск, у выніку чаго *-е-* звузілася і перайшло ў *-і-*. Сюды ж шматлікія ўтварэнні з першай часткай *між-: міжсобі, міссобку, міжсобку* 'паміж сабой' (КЭС, Бяльк.; іўеў., Сцяшк. Сл.), *міжакры́лы* 'частка цела паміж лапаткамі' (Касп.), *міжсошша* 'адлегласць паміж сохамі ў гумне' (Бяльк.), *міжывоч* 'між вачэй' (ТС), *міжы́калядзь* 'святы ад каляд да шчадрухі' (Шат.), або з яго варыянтам *міз-: мізо́градак* 'разора' (жлоб., Мат. Гом.).

**Між**$_2$ 'мяжа паміж сялянскімі палямі' (малар., Выг. дыс.). Генетычна да *мяжа́* (гл.). Адсутнасць канчатка: уплыў прыназоўніка *між*$_1$ ці працэс адваротны, як укр. *миш>міша* 'мыш'?

**Міжа́ць** 'імжэць' (ТС). Да *імжы́ць* (гл.).

**Міжджэ́ць** 'карцецъ' (астрав., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *maũsti* (1-я ас. *maũdžia*) 'ныць', 'жадаць', 'сумаваць', 'клянчыць', 'клапаціцца, трывожыцца'.

**Міжня́к** 'помесь цецерука з глушцом' (карм., Мат. Гом.). Відавочна, да *мяжа́,* рус. перм. *межник* 'тс'. Параўн. укр. *межений* 'сярэдні'. Менш верагодны перанос назвы з прасл. *тьskъ, тьzgъ*: рус., укр. *меск* 'мул', ст.-рус. *москъ, мъскъ,*



*мьскъ,* серб. ст.-слав. *мьзгъ,* серб.-харв. *мȁзгов, мазг, мазак,* кайк. *mezg,* славен. *mezȅg, mȅzg* 'мул', чэш. *mezek* 'лашак', рум. *mușcoiu,* алб. *mushk,*— усе з ілірыйск. крыніцы (Маер, 293; Міклашыч, 210; Скок, 2, 490; іншыя версіі гл. Фасмер, 2, 697; Бязлай, 2, 182).

**Міжпе́рс(т)ніца,** *міжы́парніца* 'трыпутнік ланцэталісты, Plantago lanceolata L.' (Кіс., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *міжыпа́рніца* (гл.). Матывацыя: лісты трыпутніка ў народнай медыцыне выкарыстоўваюцца як сродак для гаення ран. Аднак матывацыя наймення *мэжы́пэрснык, мыжы́персныца* для таемніка лускаватага, Lathraea squamaria L. (бяроз., Нар. лекс.) застаецца няяснай.

**Міжыну́ціна** 'памылка пры снаванні' (Дабрав., Кросны). Да *між*$_1$ і *ніць, нітка* (гл.).

**Міжыпа́рніца,** *міжы́пер(с)ніца, мізіперніца, мізыперэ́сьніца* 'прэласць, нарыў паміж пальцамі рук', 'хвароба ног у кароў' (Жд. 1, Чач., ТС; светлаг., Мат. Гом.; іўеў., Сцяшк. Сл.; лях., даўг., Сл. ПЗБ). Да *між*$_1$ і *перст* (<прасл. *рьrstъ* 'палец').

**Міжыт** 'малако ў каровы перад цяленнем' (ТС). З **нежыт.* Параўн. рус. перм. *нежить* 'сукравіца', якое з *ne-žitь*. Да *не* і *жыць* (гл.).

**Міжэ́нь** 'маленькі дождж' (паўд.-усх., КЭС). Да *мжэнь, імжа́*$_1$ (гл.).

**Міз,** *міс* 'паміж', 'сярод' (Кліх, Янк. 2, ТС; лях., дзярж., лаг., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; пух., З нар. сл.), 'каля' (Растарг.), 'побач' (стол., Сл. Брэс. Укр. чарніг. *міз,* рус. смал., арханг. *мез, мёзду, мёзу* 'тс'. Узнікла з *між* (гл.) як вынік мазурэння.

**Міза́рачка** 'дзяўчына з беднай сям'і' (швянч., Сл. ПЗБ). Паводле Мацкевіч (там жа, 3, 66), з польск. *mizerak* 'бядняк'.

**Мізгі́р** 'павук' (Растарг.), укр. *мизгир,* рус. *мизгирь* і *мазгарь* 'тс'. Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *mègsti* (1-я ас. *mezgù*), лат. *mezgt* (1-я ас. *megžu*) 'вязаць, завязваць', *mazgs,* літ. *mãzgas* 'вузел', ст.-в.-ням. *mâsca,* ст.-ісл. *mǫskvi* 'пятля' (Траўтман, 172; Мюленбах-Эндзелін, 2, 591; Фасмер, 2, 619; Дзмітрыеў, RES, 39, 1961, 176).

**Мізра́к** 'бядняк' (астрав., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі польск. *miderak* і *mizerak* 'тс'.

**Мізі́нец** 'найменшы сын' (Федар. II). З польск. *mizynek* 'апошняе дзіцё ў маткі', 'пястун' (аб ім гл. Нітш, JP, 119).

**Мізэрны** 'вельмі малы', 'худы, схуднелы', 'бедны', 'нікчэмны', 'благі (аб раллі)' (ТСБМ, Нас., Касп., Растарг.; КЭС, лаг.; гродз., Сл. ПЗБ), *мізэра* 'худы, бедны' (Шат.), *мізэрыя* 'беднata' (Растарг.), *мізэрня́к* 'бедны селянін' (Нас.), *мізе́рны* 'мізэрны' (ТС), *мызыро́та, мызыро́тьте* 'драбната, драбяза' (Клім.), ст.-бел. *мизерный, мисерный* 'бедны' (пач. XVI ст.),

*мизерия* 'беднасць' (XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *mizerny, mizerja, mizerota* 'тс', якія з лац. *miseria* 'гора, няшчасце, бяда', 'цяжкасці', *miser* 'абяздолены, гаротны', 'варты жалю, убогі, дрэнны' (Піўтарак, Бел. лекс., 134; Булыка, Лекс. запазыч., 76; Кюнэ, Poln., 77). Сюды ж *мізарне́ць, мізэрыць, мізэ́рнець* 'худнець, чэзнуць, рабіцца меншым', 'станавіцца нікчэмным' (ТСБМ), 'бяднець', 'даводзіць да галечы' (Нас.).

**Мікала́еўская** *дзе́ўка* 'старая незамужняя дзяўчына' (Сцяшк.). Ад імя цара Мікалая II. Аналагічна *польскі кава́лер* 'стары халасцяк'.

**Мі́канькі** 'плоскуні без насення' (езярышч., ДАБМ), рус. калін. *ми́квенница* 'мужчынскія каноплі', серб.-харв. *mikavnica* 'звязка трапанага льну'. Да *мы́каць₂* (гл.).

**Мі́каць₁** 'рыкаць, мычэць, мыкаць' (Юрч., Янк. 2, Ян.; паст., Сл. ПЗБ), *мічэць* 'тс' (полац., Нар. лекс.), *мік!* —пра мычанне (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Мена *-і-* (замест *-ы-*) — уплыў балт. моў (параўн. літ. *mýkti, mýkauti* 'мычэць'). Гл. таксама *мы́каць*.

**Мі́каць₂** 'неразборліва гаварыць, запінацца' (Нас., Шат.). Балтызм. Параўн. літ. *mýkti* 'няясна вымаўляць словы, запінацца', *mikėti, mikšėti* 'заікацца'.

***Мікіля́нка,** *мыкыля́нка* 'балбатлівы чалавек' (брэсц., Нар. лекс.). Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *mýkalas* 'той, хто мычыць', *mýkelėti* 'мармытаць, гаварыць як бы не хочучы і не ведаючы'.

**Мікі́та** 'стары танец: двое трымаюцца за канцы палкі і, перакідваючы ногі праз яе, па чарзе пытаюцца: — «Мікіта, ці ты-та? — Не я-та, мой тата!» (зах., Даль). Інакш у БелСЭ, 7 (гл.). Ад імя Мікіта (як і «Лявоніха», «Янка», «Юрачка»), якое з с.-грэч. *Νικήτης*.

**Мікі́ткі** ў выразе *пад мікіткі* 'пад рэбры' (Растарг.). Няясна. Магчыма, ад *Мікі́та*. Параўн. рус. сімб. *микитки* 'скулы' (?), цвяр. *никитки* 'ўздыхавіна', 'падрабрынне', варон 'бакі'.

**Мікі́ціцца** 'капрызнічаць' (ТС), *мікі́цяць* 'таіцца' (брасл., Сл. ПЗБ), як і бел. *змікі́ціць* 'зразумець, здагадацца' (ТСБМ), узыходзяць да імя *Мікі́та* — абагульненая назва чалавека з пэўнымі ўласцівасцямі. Параўн. і ўкр. *мики́тити* 'віляць, выкручвацца, шукаць адгаворкі, нячыста дзейнічаць'.

**Мікі́ш,** *мікі́шы* 'мускулы' (карэліц., Весці, 4, 1969). Паводле месца націску слова набліжаецца да літ. *minkìšas* 'мякіш', а таксама да *miñkštis, minkštìmas/minkstimà* 'тс' (там жа, 129).

**Мікольнік,** жытк. *мікольнікі, нікольнікі,* ст.-дар. *мікольные грыбы́* 'майскія грыбы (баравікі)', 'від дуба' (БЛ, 4, 33; лельч., Жыв. сл.; Сцяшк. Сл.; Мат. Маг.), 'лешч, які нерастуе недзе



каля свята Міколы' (бас. Нёмана, Жук.). Утвораны ад імя св. Міколы, якое з с.-грэч. *Νικόλαος*. Мена *н*>*м* адбылася на слав. глебе (параўн. таксама рус., укр. *Микола,* польск. *Mikołaj,* серб.-харв. *Mikola*.

**Мі́кра** — у шматлікіх назвах з навукі і тэхнікі: *мікраскоп, мікраметр, мікракосм, мікрафон* і інш., запазычаных у савецкі перыяд у асноўным з зах.-еўр. моў праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 83) са ст.-грэч. *μικρός* 'малы'. Пасрэдніцай магла быць і польск. мова.

**Мі́кра** 'дробнарыбіца' (дзятл., Сцяшк. Сл.). З новагрэч. *μικρός* 'малы, дробны'.

**Мікроб** 'дробны арганізм, бактэрыя' (ТСБМ). З франц. *microbe* (1877 г.), якое са ст.-грэч. *μικρός* 'малы' і *βίος* 'жыццё' праз польск. і рус. мовы.

**Мікры(й)** 'малы' (арго) (Рам. 9, 5), рус. калуж. *микрый* 'тс'. З новагрэч. *μικρός* 'малы'.

**Міксава́ць** 'нюхаць' (гродз., Сл. ПЗБ). У выніку перастаноўкі *шк*>*кш* з пазнейшай менай *ш*>*с* з *мышкава́ць, мішкава́ць* 'нюхаць', 'шукаць мордай' (Сл. ПЗБ).

**Мікстýра** 'вадкае лякарства, прыгатаванае з некалькіх рэчываў' (ТСБМ). З польск. *mikstura* 'мешаніна, мяшанка', якое з лац. *mixtūra* (або *mistūra*) 'змешванне', 'сумесь', 'спалучэнне'.

**Міктáйза,** *нактáйза, натáйза* 'гальштук' (гродз., Сцяшк. Сл.; беласт., Бел.-польск. ізал.). З англ. *neckties* 'гальштукі'. Слова прывезена рээмігрантамі Беласточчыны з Англіі і ЗША ў пач. XX ст. (Глінка, там жа, 30; Слушкевіч, JP, 1972, 377—378).

**Мікуліць** 'быць нясмелым, баяцца; баючыся, не ведаць, як паступіць' (мін., КЭС), укр. *микуля́ти* 'глядзець, адводзячы вочы, адчуваючы сябе няёмка', валын. *мику́лити* 'хітрыць', 'віляць', паўд. *мику́литися* 'мяць', 'хітрыць', рус. пск. *мику́лить* 'пры паляванні прапускаць, не заўважаць, зяваць', серб.-харв. *mikuliti se* 'корчыцца, скурчвацца, сціскацца, зморшчвацца'. Генетычна родныя з в.-луж. *mikać* 'маргаць', *mikotać* 'варушыць; міргаць', зах.-мар. *mikati se* 'спрытна, жвава рухацца', паўд.-мар. 'мільгаць', 'вагацца', серб.-харв. *ми̏гољити* 'круціцца, ёрзаць', 'павольна цягнуцца', *измѝгољити се* 'вырвацца, выслізнуць'. Усх.-слав. лексемы паходзяць з асновы *mik-(/mig-),* пашыранай дэмінутыўным суфіксам *-ul-/-ol-*. Да *міг* (гл.). Паводле ЕСУМ (3, 460), ад *Микола*.

**Мікýльнічак** 'сярпуха, Serratula tinctoria' (Маш.). З укр. мовы. Параўн. укр. *миколáйчик(и), миколáйка, миколáйці, николáйчик(и), николáєк* 'тс'. Утворана ад прыметніка *мікульны*<імя святога *Мікола (Нікола)*>*Мікула*.

**Міла́** 'чарот лясны, Scirius silvaticus L.' (Рук. сл. Бяльк.), *міліца* 'чарот лясны' (мін., Кіс.). У выніку пераносу назвы *міліца* з расліны сіт (Juncus L.) (гл.).

**Мілаваць** 'даравацъ віну', 'шкадаваць', гіст. 'выказваць увагу, любіць' (ТСБМ, Нас., Касп., Яруш., Растарг.), 'спачуваць і дапамагаць бедным, няшчасным і пакрыўджаным' (КЭС, лаг.). Са ст.-рус. (праз рус. мову) *миловати* 'даравацъ, выказваць ласку', якое да прасл. *milovati*. Гл. *мілы*. Жураўскі (SlOr, 10 (1), 1961, 40) памылкова выводзіць ст.-бел. *миловати са* ст.-польск. *miłować się*.

**Мілава́цца**, *мілава́ць*, *мі́ловаць* 'узаемна любіць, лашчыцца, абнімацца', 'песціць, любіць', *милова́ньне* 'далікатныя адносіны' (ТСБМ, Нас., Яруш., ТС). Да прасл. *milovati (sę)*. Гл. *мілы*.

**Мілагу́чны** 'прыемны на слых' (ТСБМ). Нататвор У. Дубоўкі (Каўрус, ЛіМ, 11.3.1988, 6). Магчыма, паводле польск. *miłodźwięk* 'гармонія' — калькай з н.-грэч. εὐφονία 'тс'.

**Мі́ласлівы** 'міласэрны' (Нас., Шат., Касп.), 'міласцівы, ласкавы' (Ян.), рус. *ми́лосливый* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса (з суфіксам *-л-*).

**Міласцівы** 'прыхільны, паблажлівы, літасцівы' (ТСБМ; КЭС, лаг.). Да ст.-слав. *милостивъ* 'тс' (Цэйтлін, Лекс. ст.-слав. яз., 169), якое з *милость* 'міласць, добрыя, велікадушныя адносіны', 'ахвяраванне, дар'<*милъ*>*мілы* (гл.).

**Мі́ласціна** 'ахвяраванне жабраку, бедняку' (ТСБМ), *мі́ласьціня* 'тс' (Янк. 2, Нас.), *мілостына, мілосціна* 'тс' (ТС). Агульнапаўд.-слав. *milostyn'i* 'літасцівасць, міласэрнасць', 'міласціна, міласць', якое наслаілася на ўжо існаваўшае *milostь* з такімі ж значэннямі, ад якога і ўтварылася пры дапамозе суфікса *-yn'i*. Ва ўсх.-слав. мовах ст.-слав. **милостыни** змяшалася з назоўнікамі на *-ina* (Слаўскі, SP, 1, 140; Цэйтлін, Лекс. ст.-слав. яз., 164, 177).

**Міласэрдны** 'міласэрны' (смарг., гродз., Сл. ПЗБ). Укр. *милосе́рд(н)ий*, рус. *милосе́рдный*, польск. *miłosierny*, чэш. *milosrdný*, славац. *milosrdný*, ст.-слав. **милосьрдъ**, прасл. *milosьrdъ* (пазней *milosьrdьnъ*) — калька заходняга паходжання: з лац. *misericors (misericordia)* 'міласэрнасць' або са ст.-в.-ням. *armiherzida*, гоц. *armahairts*, ст.-в.-ням. *armaherzí* (Мее, 233; Гебаўэр, 2, 361; Фасмер, 2, 621; Гумбах, WSl, 14, 1969, 351—353). Пра запазычанне ст.-польск. *miłosirdy* са ст. лав. гл. Сяткоўскі, БЕ, 31, 1981 (5), 407.

**Мілата́**, *мілыта́* 'чароўнасць, прыгажосць, абаянне' (ТСБМ, Бяльк.; ст.-дар., Жыв. сл.), 'пра захапленне, зачараванне' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'добра, прыемна' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Да прасл. *milota*. Гл. *мілы*. Сюды ж *мілоцця* 'любата, прыгажосць' (Крыў., Дзіс.) <*milotьje*.



**Мілёр** 'вугаль для кузні' (Ян.), *міляр* 'доўгі капец дрэва, закрытага зямлёй, з якога выпальвалі дрэўны вугаль' (усх.-палес., Лучыц-Федарэц), мазыр. *мулёры* 'печ, у якой выпальвалі дрэўны вугаль' (Іванова, «Рэгіян. традыцыі ва ўсх.-слав. мовах...», Гомель, 1980). З польск. *mielerz, milerz* 'касцёр бярозавых дроў, які выпальвалі ў яме' (>прозвішча *Мележ*). Параўн. таксама чэш., *milíř*, славац. *míla* (<ням. *Meiler*), якое з лац. *mīliārium* 'тысяча кавалкаў, напр., пален' — адзінка ліку (Махэк₂, 363). Гл. таксама *мыляр*.

**Мілісці́н** 'від тканіны' (рагач., Мат. Гом.). З *малескін* 'вельмі шчыльная баваўняная тканіна' — праз рус. *молескин* з англ. *moleskin* 'футра крата'.

**Мілі́ца** 'зараснік азёрнага сіту Juncus L.' (дзісн., Яшк.). З с.-лац. назвы *milica, melica* 'даволі рослая трава з роду Sorghum у паўд.-еўр. краінах'<лац. *milium* 'проса', роднаснага да ст.-грэч. μελίνη 'проса'.Трубачоў (Серболуж. лингв. сб. Даклад V з'езду славістаў, 181) на падставе в.- і н.-луж. *wódna mil* 'стрэлкаліст, Sigittaria L.', 'шыльнік, Subularia aquatica L.' выводзіць прасл. *milica* 'чарот, Scirpius'.

**Мілі́цыя** 'работнікі (і орган), якія ахоўваюць грамадскі парадак і бяспеку' (ТСБМ, Бяльк., Яруш.), *міліцэ́я, мілі́ца* 'тс' (Бяльк., Шат.). Міжнароднае слова (франц. *milice*, ням. *Miliz*, італ. *milizia*, ісп. *milicía*) з першакрыніцай лац. *mīlitia* 'войска', 'служба', якое ў бел. мову прыйшло з польскай (Брожэк, «Meander» 33, 1978 (3), 129—132).

**Мі́лка** 'любая' (Нас.; петрык., Мат. Гом.), *мілок* 'любы, дарагі' (Нар. Гом.). З рус. *милка* 'любімая', 'жонка', *милок* 'любімы чалавек, мілы чалавек' (аб пашырэнні гэтых лексем у рус. гаворках гл. СРНГ, 18, 161—162). Да *мілы* (гл.).

**Мілосны** 'прыемны, мілы', *мілосна* 'ласкава, з любоўю, люба, міла' (Нас.), *мілысна* 'ветліва, люба' (Бяльк.), ст.-рус. *милостный*, прасл. *milostьnъ*. Да *мілы* (гл.).

**Мі́лта** 'талакно, страва, прыгатаваная з паранай аўсянай мукі на халоднай вадзе' (Жд. 1, Др.-Падб., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.; КЭС, лаг.; ашм., Крачк.; ашм., вілен., Кар.; мядз., Нар. сл.), ст.-бел. *мѣлта, милта*. Літуанізм. Параўн. літ. шальч. *milta* 'ежа з кіслага малака і грэцкай мукі' (Урбуціс, Baltistica, 5, 65). Гэтак жа Непакупны (Связи, 172), Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 3, 67; Лаўчутэ, Балтизмы, 39). Карскі (Труды, 393) падае ў якасці крыніцы літ. *miltai* 'аўсяны кісель', Мікуцкі — *miltaj* 'талакно', Булыка (Лекс. запазыч., 119) — *miltai* 'мука'.

**Мілушка** — з *амялушка* 'птушка Bombycilla garrula' (Дэмб. 1). Пад уплывам народнай этымалогіі лексема наблізілася да *мілы* (гл.), параўн. тлумачэнне Дэмбавецкага (1, 459): птушка названа так паводле прыгажосці пер'яў і мілавіднасці.

Укр. *омелюх* 'жаўтаносы дрозд, Turdus viscivolus', гуц. *омелюха.*

**Мілы,** *мілый, мэ́лы* 'які выклікае прыемнае ўражанне', 'абаяльны', 'дарагі, любімы', 'каханы', *міленькі, мілюсенькі, мілёхенькі, мілютэнькі, мілюхны́* 'тс' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Кліх, ТС, Сл. ПЗБ, Нар. Гом.), ст.-бел. *милъ, милый* 'любы, любімы, дарагі, вельмі блізкі, прыемны, паважаны' (Булахаў, Гіст., 132). Укр. *милий,* рус. *милый, мил,* польск., н.-, в.-луж. *miły,* чэш., славац. *milý,* славен. *mȋl, míla,* серб.-харв. *мио/мѝла, мѝло,* мак., балг. *мил,* ст.-слав. **милъ.** Прасл. *milъ.* Утворана пры дапамозе суфікса *-lo-* ад і.-е. **mei̯-* 'сябраваць' (як і *mirъ*). І.-е. адпаведнікі: літ. *mielas, mýlas* 'мілы, шаноўны', *méilė* 'каханне', *mylė́ti* 'кахаць', лат. *mīl̦š* 'мілы', ст.-прус. *mijls* 'любы', ст.-інд. *máyas-* 'радасць', ст.-грэч. μείλιον 'прыемны падарунак' (Бернекер, 2, 58; Мее, 413, 421; Траўтман, 174; Фасмер, 2, 622). Махэк₂ (363) услед за Р. Раскам выводзіць прасл. *milъ* са ст.-грэч. φίλος *(<*bhilos)* — неверагодна. Сюды ж *міласць, мілысьць* 'велікадушнасць', 'ахвяраванне, дар', 'пачцівы зварот', 'дабрадзейства для бедных і няшчасных' (ТСБМ, Др.-Падб., Бяльк., Яруш.; КЭС, лаг.), брасл. *мілосць* 'ласкавасць' (Сл. ПЗБ).

**Мільга́** (м.) 'дробны, крохкі лёд, які ідзе па рэках ледаставам', 'шарош' (Крыў., Дзіс.). Да *мальга́* 'дробныя рэчы, дробязь' (гл.). Мена *a>i* адбылася праз рэдуцыраваны гук *ъ,* характэрны гэтым гаворкам. Не выключана магчымасць супастаўлення лексемы *мільга́* з *мільга́ць* (гл.).

**Мільга́ць,** *мельга́ць, мілька́ць, мільгаце́ць* 'паказвацца на кароткі час і знікаць', 'хутка праносіцца адно за адным', 'свяціць коратка, бліскаць' (ТСБМ, Нас., Шат.), *мелькану́ць, мількану́ць* 'мільгануць' (Нас., Яруш., Бяльк.), *мільгацца* 'мітусіцца' (Жд. 1). Укр. *мелька́ти,* рус. *мелька́ть* (а таксама новасіб. *мельга́вка* 'малёк', разан. *мельгу́н, мельгу́ша* 'той, хто падміргвае', 'гарэза'. Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *mérkti* 'жмурыцца'. Мена *r/l* — магчымая ў балт. мовах (напр. *mìrkterėti* і *mìrtelėti* 'заморгаць хутка, вочы заплюшчыць і расплюшчыць'. Азванчэнне *к>г* адбылося пад уплывам семантычна блізкай лексемы *міргаць* (гл.).

**Мільён** 'лік і лічба 1 000 0000', 'вельмі многа, мноства' (ТСБМ, Касп., Яруш.), *міліён* 'тс' (КЭС, лаг.), *мільёнішчык, мільянер* 'уладальнік багацця' (ТСБМ), ст.-бел. *милионъ, мелионъ, миллионъ* 'мільён' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *milijon* 'тс', якое з с.-лац. *millio, -onis* (Булыка, Лекс. запазыч., 154). Аднак аўтары SWO (1980, 478) мяркуюць, што у польск. мову лексема прыйшла з франц. *million<*італ. *millione,* якое з павелічальным суфіксам ад *mille* 'тысяча' (так Марка Пола, апавядаючы аб кітайцах, ужыў *mille+one* 'тысячышчы' («Звязда», 1.5.1987, 4)).



**Мількава́ць** 'маніць' (свісл., Сл. ПЗБ). Да *памылка, -мыліць, (па)мыліцца.* Параўн. і шальч. *мільну́ць* 'памыліцца' (там жа). Мена *мы->мі-* — балтыйскі ўплыў. Да паўн.-прасл. *myliti* 'памыляцца', 'замінаць'.

**Мільярд** 'лік і лічба 1.000.000.000', *мільярды* 'вялікая колькасць, мноства' (ТСБМ). З рус. *миллиард* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 89), якое з франц. *milliard,* утворанага ў XVIII ст. ад *mille* 'тысяча'+суфікс *-ard. Мільярдэр* (ТСБМ), якое, відаць, таксама з рус. мовы, утворанае паводле *мільянер<*рус. *миллионер<*франц. *millionaire* (1740 г.).

**Мілюга́** 'малаўрадлівая глеба' (полац., Яшк.). Паўкалька — балтызм, утвораная ад літ. *mė̃lynas* 'сіні', *mė̃lis* 'сінь' паводле *сінюга́* 'гліністая, падзолістая, неўрадлівая зямля' (шальч., Сл. ПЗБ).

**Міля** 'дарожная мера даўжыні' (ТСБМ, Бес., Федар. 6, Янк. БП, Яруш.), ст.-бел. *миля* 'міля' (XV ст.), якая ў ВКЛ абазначала 7, 798 км (БелСЭ, 7), запазычана са ст.-польск. *mila<*ст.-в.-ням. *mīla<*лац. *mille (passum)* 'тысяча двайных крокаў' (Чартко, Бел. лінгв. зб., 152; Жураўскі, Бел. мова, 63; Булыка, Лекс. запазыч., 154; Васэрцыер, 150).

**Мім** 'камічная імправізаваная сцэнка', 'акцёр гэтай сцэнкі', 'выканаўца пантамімы' (ТСБМ). З рус. *мим* 'тс', якое, відаць, праз франц. *mime* 'тс' (XVIII ст.) са ст.-грэч. μίμος 'пераймальнік, імітатар'.

**Міма** 'не спыняючыся, не затрымліваючыся пасля чагонебудзь', 'каля, побач' (ТСБМ, Яруш., Кліх; паст., Сл. ПЗБ), *мімо* 'акрамя, паміма' (ТС), *мімаходзь* 'мімаходам' (карм., Мат. Гом.). Укр. *ми́мо,* рус. *ми́мо, ни́мо,* ст.-польск. *mimo, nimo, imo, mieno, mino* (як і н.-луж. і славен.), каш. *mimö,* славін. *mjīvo,* палаб. *maimü,* в.-луж. *nimo,* арх. *mimo,* чэш. *mimo, ímo,* мар. *mimová, mimové,* славац. *mimo,* славен. *mȋmo, mímo, memo, mem, mino,* серб.-харв. *мѝмо,* макед. у прэфіксе: *мимолетен,* балг. арх. *мимо,* ст.-слав. **мимо**. Значэнні: 'каля, побач', 'без', 'акрамя', 'супраць', 'нягледзячы на', 'над-, вышэй-, больш за', 'у параўнанні з іншымі'. Прасл. *mimo* з'яўляецца прыслоўем, утвораным ад дзеяслова *mi-nǫti* пры дапамозе суфікса *-mo,* як бел. *крычма, дарма* і інш. (Міклашыч, 197; Бернекер, 2, 59; Зубаты, Studie, 412; Фасмер, 2, 622; ESSJ SG, 1, 112—114; БЕР, 3, 798; у іншых слав. мовах: Шлівіч-Шымшыч, ЗФЛ, 3, 1960, 135—152; Рытталь, Por. język., 2, 1972, 72—82; Қочыш, Kult. sl., 1, 1971, 14—17).

**Міміка** 'рухі мышцаў твару', 'мастацтва выражаць пачуцці і настрой рухамі мышцаў твару' (ТСБМ). Паводле Крукоў-

скага (Уплыў, 77), з рус. мовы. Далей указваюць на ст.-грэч. крыніцу запазычання (Ин. сл.₁₆, 321) μιμικός 'мімічны'. У сапраўднасці ж з с.-лац. *ars mimica* 'мастацтва жэстаў', якое са ст.-грэч. μιμική τέχνη 'тс'.

**Мімоза** '(суб)трапічная расліна Mimosa pudica', 'крыўдлівая, сарамлівая асоба', 'ленкаранская акацыя, Caragana Lam.' З рус. *мимо́за* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 88). Да *мім* (гл.). Матывацыя: пры дотыку да лісткоў яны згортваюцца, «мяняюць твар». Паводле формы — з лац. або франц. мовы (параўн. франц. *plante mimeuse* 'недатыка, незачэпа').

**Міна**₁ 'снарад з выбуховым рэчывам' (ТСБМ, Яруш.). З польск. *mina* 'тс' (Клюге, Poln., 77), якое з новав.-ням. *Mine* 'падземны ход'; апошняе ў XVII ст. з франц. *mine*<с.-лац. *mina* 'руднік'<с.-ірл. *mēin*, уэльск. *mwyn* 'руда' (Гамільшэг, 613; Клюге₂₀, 479).

**Міна**₂ 'выраз твару' (ТСБМ, Нас., ТС; КЭС, лаг.), *міны* 'тс', (Грыг.). З польск. *mina* ці з рус. *мина* 'тс', якія (праз ням. *Miene* 'тс', XVII ст.) з франц. *mine* 'тс' (Фасмер, 2, 623; SWO, 1980, 479; Даза, 477) ці італ. *mina*<лац. *mima* 'актрыса-мім'.

**Мінавіцы** (мн.) 'кружны шлях' (Кліх), 'наўкол, кругом' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З польск. *manowiec, manowisko* 'бездарожжа', 'невядомы, ілюзорны пераход', 'пабочная памылковая дарога'. Да *мана́, падма́н* (гл.). Пачатковае *мі-* (замест *ма-*) пад уплывам *абміну́цца, міну́ць.*

**Мінарэт** 'вежа мячэці' (ТСБМ). У літар. бел. мову прыйшло з польск. *minaret* або з рус. *минарет,* якія (праз ням. *Minarett* ці франц. *minaret*) прыйшлі з тур. *minare*<араб. *minār̄a* 'мінарэт',— першапачаткова *manāra* 'месца, дзе гарыць агонь або ёсць святло, маяк' (Фасмер, 2, 623). Аднак ёсць тур. *minaret* 'месца на вежы, з якога муэдзін ззывае на малітву'. Відавочна, лексема магла б быць вядомай у бел. гаворках тых населеных пунктаў, дзе пражывалі бел. татары.

**Міна́ць** 'праходзіць побач' (Нас., Шат., Касп., Растарг.), 'абыходзіць' (вільн., Сл. ПЗБ; ТС), 'прапускаць, абганяць' (паўд.-усх., КЭС), *міна́цца* 'сустракацца' (Нас.), 'праяжджаць, праходзіць міма' (Растарг., ТС; стаўбц., Сл. ПЗБ). Да *міну́ць* (гл.).

**Мінда́ль**₁ 'расліна і плады Amigdalus' (ТСБМ). З рус. *миндаль* (Крукоўскі, Уплыў, 73), якое з польск. *migdał* з другаснай назалізацыяй пад уплывам *м-* (Фасмер, 2, 623). З рус. мовы і *мінда́ліна* 'залоза ў глотцы', 'жаўлак у горнай пародзе' (ТСБМ, БелСЭ, 7).

**Мінда́ль**₂ 'медаль' (Шат.). З *меда́ль* (гл.); *-н-* пад уплывам другаснай назалізацыі з пачатковага *м-*.



**Мі́нджа** 'маўклівы чалавек' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *mindžoti* 'ненавідзець, пагарджаць, грэбаваць'.

**Міндру́к** 'свіны страўнік' (тураў., Выг. дыс.; ТС). З польск. *minderak, miderak* 'скураны фартух', 'ліф, гарсэцік', якое з ням. *Mieder* 'тс'. Суфікс, як у ⁺*каўбу́к,* бар. *каўбу́х* 'страўнік жывёлы', драг. *тэ́льбух* 'вялікі жывот', 'страўнік'.

**Мінера́л** 'прыроднае неарганічнае злучэнне (крышталі) — частка зямной кары' (ТСБМ). З рус. *минерал* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 87), у якой праз ням. *Mineral* (з XVI ст.) або франц. *minéral*<с.-лац. *(aes) minerāle* 'руда з шахты' (Фасмер, 2, 623—624). Роднаснае да *мі́на*₁ (гл.). Сюды ж палес. *мінера́лка* 'жоўтая пясчаная глеба' (Выг. дыс.).

**Міне́я** 'царкоўная кніга з тэкстам набажэнстваў на кожны дзень месяца, якая змяшчае і жыцці святых, апавяданні аб царкоўных святах' (ТСБМ). Ст.-рус. *минея* 'тс' (XI ст.), запазычанае з с.-грэч. μηναῖον, мн. л. μηναῖα 'месячныя' (Праабражэнскі, 1, 537; Фасмер, 2, 624).

**Мінёны** (мн. л.), *-аў* 'узоры на тканіне, вытканай у чатыры ніты', *мінёны(й)* 'які мае колеры вясёлкі' (Бяльк.) — калька з балт. моў, параўн. літ. *margin̄ys* 'узор' — *margúoti* 'мільгацець'. Да *мяня́ць, мяня́цца.* Параўн. таксама зах.-рус. асташк. *менне́ться* 'блішчэць'.

**Мінёр** 'спецыяліст па міннай справе — мініраванню і размініраванню' (ТСБМ). З рус. *мінёр* 'тс', якое з франц. *sapeur-mineur* 'сапёр'. Да *міна*₁ (гл.). Сюды ж віц. *мінорщык* 'мінёр' (Бел. хр. дыял.).

**Мі́німум** 'найменшая колькасць, сама менш, мінімальна', 'сукупнасць ведаў або мерапрыемстваў, неабходных у якойнебудзь галіне' (ТСБМ). Праз польск. ці рус. мову з лац. *minimum* 'вельмі мала', 'зусім не', 'менш за ўсё'.

**Мі́ністр** 'член урада, які стаіць на чале міністэрства' (ТСБМ), *мі́ністар* 'тс' (Яруш.), *мі́нісьцер* 'тс' (Шат.) паходзяць з польск. *minister* 'тс', а сучаснае бел.— з рус. *министр,* якія з франц. *ministre* 'тс'<лац. *minister* 'які дапамагае, садзейнічае', 'падручны, слуга, памагаты'. Ст.-бел. *минист(е)ръ* 'пратэстанцкі свяшчэннік', 'асоба, якая прычашчае' (XVI ст.) са ст.-польск. *minister* 'тс'<лац. *minister* 'служыцель культу' (Булыка, Лекс. запазыч., 172).

**Мініяцю́ра** 'невялікі рысунак або размаляваная закладка ў старадаўняй кнізе', 'мастацкі твор малой формы' (ТСБМ). З польск. *miniatura (minjatura)* 'партрэцік', 'пачатковая літара на старажытных рукапісах, аздобленая лісткамі, кветкамі, птушкамі', якое з італ. *miniatura*<італ. *miniare*<лац. *miniare* 'маляваць minium', г. зн. 'сурыкам (або кінаварам)'. Сучасная

бел. лексема афармлена паводле рус. *миниатюра* 'тс' (бо яшчэ ў Крукоўскага (Уплыў, 77) *мініятурны,* а не *мініяцюрны*).

**Мінніца** 'манетны двор' (Гарб.). З польск. *minnica, mennica* 'тс' і 'грош', якое са ст.-в.-ням. *muniza* (>ням. *Münze*)<лац. *monēta* (Брукнер, 328). Гл. *манéта.*

**Міног,** *мінога, мянёга* 'рыбападобная жывёліна ручайная, марская, якая сваёй формай нагадвае вугра, Lampetra planeri L., Lampetra fluviatilis L., Lampetra mariae Berg.' (ТСБМ, Інстр. II, ТС, Жук.; астрав., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *минногъ* 'мінога' (XVII ст.). Запазычана са ст.-польск. *minog* 'тс', якое з с.-в.-ням. *niunouge* 'дзевяцівокі' — гэта рыба апрача вачэй мае збоку па адной ноздрыне і па сем жабравых шчылін (Булыка, Лекс. запазыч., 145; Варш. сл., 2, 991).

**Мінор** 'музычны лад, акорд якога грунтуецца на малой тэрцыі', 'сумны, прыгнечаны настрой' (ТСБМ). З рус. *минор* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 84), якое з франц. *mineure* 'малая тэрцыя', 'сумны' ці з італ. *minore* 'тс', якое з лац. *minor* 'меншы'. Слова магло прыйсці і праз польск. мову.

***Мінталáць,** *мынтыляты* 'махаць, размахваць, матляць' (Клім.). Да *матляць* (гл.) з другаснай назалізацыяй пад уплывам наступнага *-т-*.

**Мінтрэ́га** 'затрымка, трывога, нечаканы клопат', 'перашкода' (глыб., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг), *мінтрэ́жыць* 'хваляваць, трывожыць' (Шат., ТС; докш., Янк. Мат.). Да *мітрэнга* (гл.). Другасная назалізацыя *(-н-)* і выпадзенне *-н-* перад *-га.*

**Мінтэрка** 'гайка' (Касп.). З *мутэрка* (гл.). З польск. *muterka*<*mutra* 'тс', якое з ням. *Mutter* 'тс'. Другасная назалізацыя *(-н-).*

**Міну́лька** 'чмель' (трак., Сл. ПЗБ). З +*ка-манулька* 'чмелік', якое да літ. *kamānė* 'чмель', ст.-прус. *kamnet* 'конь'. Пачатковае *мі-* (замест *ма-*) пад уплывам *міну́шкі* 'канюшына'.

**Мíнус** 'знак аднімання ад лічбы', 'недахоп, адмоўны бок' (ТСБМ), ст.-бел. *минусъ* 'мінус' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *minus,* якое з лац. *minus* 'менш' (Булыка, Лекс. запазыч., 154). Магчыма і другое запазычанне праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 77).

**Міну́та,** *міну́тка, міну́ціна, мінуціначка, мінюта, мінютка, мінютына* 'хвілінка, адзінка часу ў 60 секунд' (Нас., ТСБМ, Касп., Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Ян., Мат. Гом., Бес.; віл., Жыв. сл.; драг., КЭС), 'вельмі хутка' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *минута* 'мінута', 'кароткая выпіска, копія' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *minuta* 'тс', якое з лац. *minūta* 'маленькая, нязначная, дробязная' — скарачэнне выражэння *pars minūta prima* (Фасмер, 2, 625; Піўтарак, Бел. лекс., 134; Булыка, Лекс. запазыч., 156).



**Міну́ўшчына** 'мінулае, былое', 'старадаўнасць' (ТСБМ, Яруш., Бяльк.). Відавочна, ад ст.-рус. *минувший* 'прошлы'. Параўн. таксама рус. смал. *минувáлый* 'мінулы', *минувáться* 'мінуць, прайсці'.

**Міну́ха** 'пропуск пры сяўбе, касьбе' (Мат. Гом., Ян.), *міну́хá, менюхá, мінюхá, мынюха* 'памылка пры накіданні асновы і бёрда, калі прапушчана адна трысціначка' (Уладз.; мазыр., петрык., Шатал.). Польск. *ominucha* 'тс'. Бел.-польск. ізал. (Фалінська, 136). Да *міну́ць* (гл.).

**Міну́ць** 'прайсці, праехаць міма', 'пазбегнуць', 'скончыцца', 'споўніцца', 'прапусціць' (ТСБМ, Нас., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), *міну́цца* 'адысці ў мінулае', 'здохнуць, прапасці' (карэліц., Сл. ПЗБ, Нар. словатв.), драг. *мыну́тыся* 'размінуцца' (Лучыц-Федарэц). Укр. *мину́ти,* рус. *мину́ть, миновáть,* польск. *minąć,* н.-луж. *minuś,* в.-луж. *minyć so,* чэш. *minouti,* ст.-чэш. *minovati,* славац. *minút',* славен. *míniti,* серб.-харв. *ми́нути,* мак., балг. *мине, минува,* ст.-слав. **минѫти, миновати**. Прасл. *minǫti.* Магчыма, кельтызм. Параўн. с.-уэльск. *mynet,* гальск. *Moenus* 'Майн', а таксама лац. *meāre* 'ісці, праходзіць'. Да і.-е. **mei-/ *min-/*moin* 'ісці' (Бернекер, 2, 59; Сольмсэн, KZ, 37, 582; Фасмер, 2, 624). Першапачаткова (паводле Махэка$_2$, 364) мела значэнне 'сустракацца з некім', але пазней у славян стала абазначаць 'сустракацца без прыпынку, праходзіць'.

**Міну́шкі$_1$** 'мінушкі звычайныя, Chrysosplenum alternifolium L.' брэсц. *лянушкі, мінушкі,* віц. *мянушкі,* гродз. *мянюшкі* 'тс' (Кіс.). Да *міну́ць* (гл.). Матывацыя: хвароба (жаўтуха, кашаль, мочаспусканне) мінала, праходзіла пасля лячэння яе гэтай раслінай. Параўн. бел. *грыжавая трава, пухлінавая трава, залацянка.* Аб іншых назвах гэтай расліны гл. Лучыц-Федарэц, БЛ, 14, 68—69. Сюды ж пін. *міну́шка* 'селязёнка' (Сл. Брэс.).

**Міну́шкі$_2$** 'свінакроп звычайны, Spergula vulgaris Boen.' (мін., Кіс., Інстр. II). Няясна. Відаць, у выніку пераносу з *міну́шкі$_1$*. Матывацыя (?).

**Міну́шкі$_3$** 'раллявая канюшына, Trifolium arvense L.' (глыб., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі *міну́шкі$_1$* і *каманíца$_1$* (*каманічнік,* польск. *komonicznik* 'канюшына з жоўтымі кветкамі').

**Мінчавáцца** 'хвалявацца, трывожыцца' (Ян.). Няясна. Магчыма, з польск. *tęczyć się* 'мучыцца', 'дакучаць,назаляць'.

**Мір$_1$** 'згода, адсутнасць сваркі, вайны', 'спакой, цішыня' (ТСБМ, Яруш., Шат., Бяльк.; драг., КЭС), *мірнасць* 'спакой' (Нас., Гарэц.), *міравая* 'мірнае вырашэнне спрэчкі' (ТСБМ, Др.-Падб.). Укр., рус. *мир,* польск. *mir, mier,* н.-, в.-луж. *měr,* чэш. *mír,* славац. *mier,* славен. *mîr,* серб.-харв. *ми̑р,* макед.

*мир,* балг. *мир(ът),* ст.-слав. **миръ**. Прасл. *mirъ,* а таксама *merъ,* паводле сведчанняў з польск., славац., ст.-чэш. і харв. моў, утвораныя пры дапамозе суф. *-r-*. І.-е. адпаведнікі: ст.-літ. *mieras,* лат. *miērs* 'спакой, цішыня', якія Буга (Rinkt., 1, 352—353) лічыць слав. запазычаннямі, алб. *mirë* 'добры', ст.-інд. *mitras* 'сябар'. Да і.-е. **mei̯-* 'сябраваць, звязваць' (Бернекер, 2, 60; Траўтман, 175; Фасмер, 2, 626; Бязлай, 2, 185). Махэк₂ (364) у якасці крыніцы паходжання прасл. *mirъ* прапануе літ. *rìmti, rimóti* 'сціхаць, заспакойвацца, быць спакойным', у якіх адбылася перастаноўка зычных асновы *r — m>m-r*. Мала верагоднай з'яўляецца версія аб суаднясенні прасл. *mirъ* і *milъ* паміж сабою (протаі.-е. неадрозненне *l — r,* гл. F. Specht, Der Ursprung der indogerm. Deklination. Göttingen, 1947, 318—320) і з лац. *mitis* 'ціхі, лагодны, рахманы', ст.-інд. *mitráh* 'сябар, прыяцель, Мітра'. Апошняе падтрымліваецца Пухвелам (Etudes mithriaque, 1978, Tegeran — Liege, 335—343), які мяркуе, што прасл. *mirъ* трэба разглядаць як утворанае з **mitro-/*mitru* (або **meyro-/*meyru-*) — з таго ж кораня, што і імя Мітры, а не як запазычанае з іран. (скіфск.) **mihro,* як сцвярджае Траймер (Wiener slav. Jahrb., 14, 1967—1968, 77). Варбат (ОЛА-1979, 327), падтрымліваючы даследаванні Тапарова (Pratidānam. The Hague-Paris, 1968, 109—113; ён жа, Semiotyka i struktura tekstu, Wrocław etc., 1973, 366—370) і бачачы ў семантыцы і фразеалогіі прасл. *mirь* старажытныя і.-е. уяўленні (у вобразе інда-іранскага *Мітры*) аб сацыяльнай арганізацыі як выніку дамоўленасці, аб стане сяброўства, мяркуе, што каш. *m'ir̃a* 'жаніх', *mir̃ota* 'маладая' — рэлікты старажытнай семантыкі *mirъ* 'дагавор (шлюбны)', а **miriti* абазначала 'заключаць дагавор'. Тапароў (Этимология-1967, 18—21) гаворыць аб Мітры як аб аб'яднальніку людзей у сацыяльную структуру, рус. *в мир* у формуле *Mit(h)ra-yat-,* у якой **yat-* першасна азначала 'збіраць, згуртоўваць', і мяркуе, што верагоднай можа быць адпаведная прасл. формула тыпу **mirъ jatiti* 'збіраць людзей у грамаду' або **miromъ (mirъmъ) jatiti sę* 'збірацца грамадою'. Цалкам здавальняючай з'яўляецца этымалогія Мартынава (Зб. Аванесаву, 188—190): ён, абапіраючыся на словаўтваральную структуру лексем з *r*-суфіксам і *ŭ*-асновай, прыводзіць паралель да прасл. *žьrěti — žirъ, vьrěti — virъ* таксама і *mьrěti* 'паміраць' — *mirъ* (сувязь паміж *mirъ* і *mьrěti* гл., напрыклад, у славен. *mir!* 'маўчы', *zamréti* 'анямець'). Сюды ж *мірыцца, мірыць* 'наладжваць мірныя адносіны' (ТСБМ, ТС), *мірыльнік* 'той, хто мірыць' (Бяльк.).

**Мір₂** 'сельская грамада', 'народ, людзі', 'свет' (ТСБМ, Шат., Мат. Гом., Ян., ТС; пух., Нар. сл.; стаўбц., в.-дзв., Сл. ПЗБ).



З рус. *мир* 'сельская грамада', якое развілося са значэння 'мір, мірная суполка, згуртаванне' у *мір₁* (гл.). Пух. *мір* 'множства' (Жыв. сл.) развілося з *мір₂*.

**Мір₃** 'маруна, павіліца сапраўдная, Galium verum L.' (маг., Кіс.; Дэмб. 1). Да *мір₁, мірны* 'сяброўскі, дружны'. Матывацыя: лісты і плады лёгка чапляюцца да іншых раслін, прытуляюцца, як да сяброў, прыліпаюць. Адсюль і іншыя адпаведныя назвы: чэш. *přítula,* польск. *przytulia,* ляш. *přitulek,* рус. *дереза,* чэш. *lepenice, lepovica,* мар. *lipkač,* укр. *липчица.*

**Міра** 'пахучы алей, які ўжываецца ў хрысціянскіх абрадах' (ТСБМ), *міраваць, міраваньне* 'памазанне мірам' (Шат.), *адным мірам мірованы* (Ян.), ст.-бел. *миро, мюро* са ст.-рус., ст.-слав. **мѵро**, якое са ст.-грэч. μύρον 'міра, памазанне, націранне' (Фасмер, 2, 626; Булыка, БЛ, 9, 27).

**Міравіны** 'мір, прымірэнне, канец сваркі' (Шат.). Беларускае. Да *міравы*<ст.-рус. *мировати* 'мірыцца, заключаць мір'< <*мір₁* (гл.).

**Міравы** 'вельмі добры, выдатны, цудоўны' (ТСБМ; мієр., Нар. сл.). З рус. *мировой* 'тс', параўн. ст.-рус. *мировати* 'жыць у міры, добра ладзіць'.

**Міраж** 'аптычная з'ява ў атмасферы', (перан.) 'тое, што не адпавядае рэчаіснасці, што не можа здзейсніцца' (ТСБМ). Праз рус. *мираж* (Крукоўскі, Уплыў, 77) ці польск. *miraż* з франц. *mirage* 'тс'<лац. *mirāri* 'здзіўляцца'.

**Мірг!** 'хуткае марганне, шаволенне' (Нас., ТСБМ; мсцісл., Нар. лекс.). Да *міргаць* (гл.).

**Міргаць,** *мірг̆аць* 'маргаць, падморгваць', 'мігаць, мігацець', 'свяціць няроўным бляскам' (ТСБМ, Нас., Яруш., Шат., Касп., Растарг., Сл. ПЗБ), 'рухаць вачыма ці пальцамі' (КЭС, лаг.), *міргнуць* швянч 'падміргнуць', астрав. 'адысці ў мінулае' (Сл. ПЗБ), *мірганўць* (Бяльк.) шчуч. *міргацець* 'мігцець, мігацець' (Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. літ. *mirgėti, mirguoti* 'мігацець, ззяць, мітусіцца' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 69; Зданцэвіч, LP, 1960, 344). Сюды ж *міргун* 'маргун' (Нас.), *мірглівы* 'які часта маргае' (Нар. Гом.). Гл. таксама *маргацець.*

**Міргітаць** 'іржаць' (калінк., ДАБМ, к. 299), *міргітун* 'бакас, Capella gallinado' (дзятл., Сл. ПЗБ). Да *маркатаць, меркетаць*<*маркач, маркаль* (гл.). Матывацыя: птушка названа паводле голасу, які яна выдае у час палёту, падобнага да казлінага. Параўн. у сувязі з гэтым польск. *koziełek, baraniec* 'бакас'.

**Мірон₁,** *міронка* 'вусач, Barbus, barbus L.' (бас. Дняпра, Жук.; Дэмб. 2; ТСБМ), рус. *мирон, мерён, мерёна* 'вусач, Cyprinus barbus', пск. 'ялец, Squalius leuciscus L.' наўг., пск.

'галавень, Squalius cephalus L.'. Не зусім ясна. Міклашыч (202), Мацэнаўэр (LF, 10, 325), Фасмер (Этюды, 130) у якасці крыніцы прыводзяць ст.-грэч. μύραινα 'марскі вугор', што больш адпавядала б ст.-рус. *мѣрена* 'пячкур', 'вусач' (XVI ст.) і *морона* (XIV ст.). Непераканаўча Праабражэнскі (1, 538), які выводзіць назву рыбы з імя *Антон.*

**Мірота** 'людзі, грамадства' (ТС). Да *мір*$_2$. Аб суфіксе *-ота* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 205.

**Мірошнік** 'мельнік' (паўд.-усх., КЭС). З укр. *міро́шник* 'тс' (Фасмер, 2, 627). Аднак семантычна набліжаецца да укр., паўд.-рус. *борошно́* 'мука', укр. *борошни́тися* 'пэцкацца мукой', рус. арханг. *бо́рошно* 'на высокім месцы' (дзе звычайна стаялі ветракі), хаця цяжка растлумачыць вакалізм кораня. Імавернасць пераходу *мо->мі-* пацвярджаецца аналагічнай з'явай у *мірусце́ць* (гл.). Да мены *б>м* параўн., напрыклад, укр. чарніг. *мирлу́га — бярлога.* Аўтары ЕСУМ (3, 481) звязваюць яго, аднак, з дзеясловам *ме́ряти* 'мераць'.

**Мі́рра** 'духмяная смала ў кары некаторых афрыканска-аравійскіх дрэў (напр., Balsamea myrrha)'. Праз рус. або польск. мовы з лац. *murra<myrra<myrrha* 'мірра', якія са ст.-грэч. μύῤῥα 'куст бальзаму'<ст.-семіцк. *murr* 'горкі' (Васэрцыер, 158).

**Мірс** 'страх, які даводзіць чалавека да непрытомнасці' (Карскі, Труды). Балтызм, які Карскі (там жа, 393) супастаўляе з літ. *mirksóti, mirksaũ* 'сядзець з напаўрасплюшчанымі вачамі' або з *mir̃ti* 'паміраць'. Лаўчутэ (Балтизмы, 145) адносіць гэту лексему да слоў, паходжанне якіх аргументавана недастаткова.

**Мірт,** *мірта* 'паўднёвая расліна, Myrtus communis' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ), ст.-слав. **миръть** 'тс' (Пацлава, Paleoslovenica, 120). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 88), запазычана з рус. мовы. Аднак яшчэ ст.-бел. *мирта* 'тс' (XVII ст.), якое было запазычана са ст.-польск. *mirta*<лац. *mirta, myrta* (Булыка, Лекс. запазыч., 148)<ст.-грэч. μύρτος 'дрэва мірта'< μύῤῥα — гл. *мірра.* Сюды ж ст.-бел. *мирсина* (Булыка, БЛ, 9, 30).

**Міру́н** (іран.) 'стары халасцяк' (Сцяц.; ваўк., Сцяшк. Сл.). Каш. *m'ir̃a* 'жаніх, малады', *mir̃ota* 'маладая'. Да прасл. *miriti* 'заключаць шлюбны дагавор' (Варбот, ОЛА-1979, 327—328).

**Мірусце́ць** 'імжэць' (ТС). З *морась* 'імжа' (гл.) з устаўным *-т-* (гл. Карскі, 1, 360). Магчыма, аналагічным будзе рус. яросл. *мо́рость, мо́рост* 'шэрань, іней', *мо́росно* 'хмурна, туманна'. Аб пераходзе *о>і* гл. Карскі, 1, 159—160.

**Міс** 'між' (Жд. 1). Да *міз* (гл.).

**Мі́са,** *мыса, міска, мыска, мэ̆ска* 'гліняная, металічная або выдзеўбаная з наросту на дрэве шырокая і глыбокая, круглай формы пасудзіна для яды', 'таз' (ТСБМ, Яруш., Дразд., Шат., В.В., Сцяшк., Грыг., Бес., Яруш., Касп., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), *мі́сачка, мы́сочка,* 'пачатак матачніка', 'чарачка ў сотах' (бяроз., Анох.; нараўл., браг., ЛАПП), лаг. 'пладаножка жолуда' (Шатал.), ст.-бел. *миса* 'міса'. Укр. *ми́са, ми́ска,* рус. *ми́ска, миса,* польск. *misa,* чэш. *mísa,* славац. *misa,* макед., балг. *миса,* ст.-слав. **миса** — старажытнае запазычанне з нар.-лац. *mēsa* 'стол'<лац. *mēnsa* 'тс' (Бернекер, 2, 61; Брукнер, 338; Фасмер, 2, 627; Махэк$_2$, 364), магчыма, праз гоц. *mēs* 'стол' (Мее — Ваян, 47; Брукнер, AslPh, 42, 142).



**Мі́сія** 'заданне, даручэнне', 'высокае прызначэнне', 'дыпламатычнае прадстаўніцтва', 'місіянерская арганізацыя' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 77), запазычана з рус. мовы. Аднак яшчэ ст.-бел. *миссия* 'дэлегацыя, пасланая ў іншую краіну са спецыяльнай мэтай' (XVII ст.) са ст.-польск. *misyja, missyja,* якое з с.-лац. *missio* 'адпраўленне'<лац. *mittere* 'пасылаць' (Булыка, Лекс. запазыч., 32).

**Мі́сто** 'горад' (Клім., Булг.) *мі́цо* 'тс' (Д.-З., Пін.). Да *ме́ста* (гл.).

**Містры́ня** 'кіраўнік дома, ключніца' (Нас.). Да *ахмістры́ня* (гл.).

**Містрыпі́чка** 'рухавая, гаваркая асоба з тоненькім галаском' (полац., Нар. лекс.). Няясна.

**Мі́стыка** 'вера ў надпрыродныя, таямнічыя сілы і зносіны з імі чалавека', 'нешта загадкавае, нерастлумачальнае' (ТСБМ). З рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 77), якое праз зах.-еўр. мовы прыйшло са ст.-грэч. μυστικός 'таямнічы'. Не выключана ў якасці пасрэдніцы польск. мова, як у лексемы *містэрыя* 'тайныя абрады ў гонар бажаства ў старажытных краінах', 'рэлігійная драма ў сярэдні вякі', ст.-бел. *мистерия* 'містэрыя, таінства' (XVI ст.), якое са ст.-польск. *misteryjum*<с.-ням. *Mysterium* (мн. л. *Mysteria*)<лац. *mystērium*<ст.-грэч. μυστήριον 'тайна, таінства' (Булыка, Лекс. запазыч., 179; Фасмер, 2, 627)<ст.-грэч. μύω 'закрываю вочы, стульваю губы'.

**Місцю́к,** *місьцю́к* 'мастак, майстар, знаўца', 'зух' (Нас., Грыг., Бяльк.; паўд.-усх., КЭС), укр. *мистю́к,* рус. *мастюк.* Параўн. яшчэ бел. *мастак.* Усе з'яўляюцца пераўтварэннем са ст.-бел. *майстеръ, майстръ, мастеръ, мистръ, мийстръ* 'майстар, начальнік, правіцель', 'настаўнік', 'кат', якія праз ст.-польск. мову прыйшлі з с.-в.-ням. *meister*<лац. *magister*

'правіцель; кіраўнік, настаўнік' (Карскі, Труды, 312; Жураўскі, Бел. мова, 61; Булыка, Лекс. запазыч., 189).

**Місю́гін** 'вар'ят' (Шат.), рус. *мишйгинер* 'дурны, юродзівы'. З ідыш *ein Meschuggener* (чэш. *mišuge, mešuge* 'тс'), якое са ст.-яўр. *mesuggah* (Шатэрнік, 158; Фасмер, 2, 630). Не выключана магчымасць кантамінацыі ідыш і слова, утворанага (накшталт чэш. *misogyn* 'жанчынаненавіснік') са ст.-грэч. μισέω 'ненавідзець' і γυνή 'жанчына'.

**Мі́та** 'капец бульбы' (петрык., Выг. дыс.; мазыр., З нар. сл.). Праз польск. (паморск., варм.-мазурск.), каш. *mita* 'тс', якія з н.-ням., с.-гал. *mite* (ням. *Miete*)<лац. *mēta foeni* 'стог, сцірта'<*mēta* 'конус, піраміда' (Басара, Terminol., 2, 60; Васэрцыер, 152). Гл. таксама *мета*.

**Мі́талем,** *міталям, мы́талям, мітэлем, міцеллем* 'хутка, у момант, мігам, што ёсць сілы' (Бяльк., ТС, слонім., Жыв. сл.; жытк., Жыв.; рэч., нараўл., Мат. Гом.; Ян.), драг. *му́тылём лізтэ* (пра адзенне) 'хутка, ушчэнт рвацца, зношвацца' (Лучыц-Федарэц). Балтызм. Параўн. *mituliuoti* 'здыхаць', 'знікаць', *nu-mituliuoti* 'знікнуць'.

**Мі́тальнік,** *мі́тъльніца* 'непаседлівы, вярціхвост(ка)' (міёр., З нар. сл.). Да *мята́ць*$_1$ (гл.).

**Мі́тарства** 'пакута, мука' (Ян.). З рус. *мытарство* 'тс' (ад старавераў).

**Мі́тата** 'калок, слуп' (воран.) — рэдуплікацыйнае ад літ. *miẽtas* 'тс' (Грынавяцкене, LKK, 16, 183).

**Міта́цца,** *зьміта́цца* 'вылецеўшы з вулля, садзіцца (пра рой)', *метавішча, мітавішча* 'месца, дзе сеў рой', 'месца, дзе на пашы начуюць коні' (слаўг., Нар. сл.). Да *мятаць*$_1$ (гл.).

**Мі́таць** 'хутка насіць, вазіць, цягаць што-небудзь', 'хутка есці' (Крыў., Са сл. Дзіс.). Балтызм. Параўн. *mitrùs* 'хуткі, лоўкі', *mìtrinti* 'рабіць хутка, лоўка, умела'.

**Мітка́ль** 'самая простая баваўняная тканіна' (ТСБМ), рус., укр., ст.-рус. *миткаль,* запазычанае з чагат. *mutkal* 'тс'< <перс. *metqal* 'тканіна' або з араб. *mitakāli* (Міклашыч, 198; Бернекер, 2, 63; Фасмер, 2, 629).

**Мі́тра** 'галаўны ўбор вышэйшага духавенства' (ТСБМ), ст.-бел. *митра* 'тс' (пач. XVI ст.), ст.-рус. *митра* 'тс', 'павязка', 'галаўны ўбор', 'карона' — з с.-грэч. μίτρα 'павязка', 'пояс', 'чалма' (Фасмер, Этюды, 126).

**Мітрапалі́т** 'вышэйшы праваслаўны епіскап' (ТСБМ), ст.-бел. *метрополита* 'тс' (пач. XVII ст.), якое са ст.-польск. *metropolita* <лац. *mētropolīta* (Булыка, Лекс. запазыч., 172). Аднак суч. бел. са ст.-рус. *митрополитъ,* якое са ст.-слав. **митрополитъ**<с.-грэч. μητροπολίτης, якое з μητρόπολις 'сталіца, рэзідэнцыя' (Фасмер, Этюды, 127).



**Мітрэнга,** *мітрэнга, мітрэнка,* в.-дзв. *мітрэга* 'трывога, хваляванне, непакой, сумятня, разлад, турбота, шум, перапалох, перашкода, прыгода', бялын. 'вечарынка, бяседа' (ТСБМ, Нас., Касп., Янк. 1, Бір. Дзярж., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ; гродз., З нар. сл.; рагач., КЭС; бялын., Нар. сл.), стол. *замытрэ́шка* 'непакой' (Вярэніч, вусн. паведамл.), *мітрэнжыцца, мітрэнжыць,* ваўк. *мітрэжыць,* чэрв. *мітрэжыцца,* трак. *мітрангаваць* 'трывожыць, адчуваць непакой, недамаганне', 'марудзіць', *мітрэнжанне* 'сварка', 'перашкода' (Нас., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Нар. лекс.). З польск. *mitręga* 'перашкода', 'цыганіна' (Шатэрнік, 158; Пальцаў, Лекс. і грам., 38; Кюнэ, Poln., 77), якое ўтварылася пры дапамозе суф. *-ęga* ад *mitr-,* роднаснага з *mitwać* 'блытаць' *mituś* — гл. *мітусь*.

**Мітульга́**$_1$ 'мітусня, мільгаценне' (ТСБМ, Касп.) 'непарадак' (Касп.), 'шпаркасць' (Бяльк.), *міту́нь* 'пра аднаразовае мільганне' (мсцісл., Нар. лекс.). Да *мітусь* (гл.). Аб суфіксе *-г-а* (<*-д-а*) гл. Слаўскі; SP, 1, 70.

**Мітульга́**$_2$ 'матылёк' (Гарэц., Нас., Др.-Падб.). Пад уплывам *мітульга́*$_1$ ад *матыль* (гл.) пры дапамозе адцягненага суфікса *-г-а*.

**Мітурысы** *сабіраць* 'трызніць з гарачкі' (Бяд.). Няясна. Магчыма, звязана з рус. смал. *митулить* 'расказваць лухту' 'несці лухту', якое, мусіць, можна звязаць з *мі́тусь* (гл.).

**Мітусі́цца,** *мітузі́цца, мітушы́цца, мытушы́тысь, мытушя́тысь* 'хутка і бесперапынку перамяшчацца ў розных напрамках', 'бязладна рухацца, увіхацца', 'мільгацець перад вачыма', 'рабацець, каламуціцца, перамешвацца', 'перашкаджацца', 'свяціць няроўным бляскам', 'салавець', 'збівацца ў размове, губляцца, саромецца' (ТСБМ, Нас., Грыг., Гарэц., Мядзв., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Клім., ТС; паст., пух., іўеў., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; Крыў., Дзіс.). Рус. *ми́тусить* 'перамешваць, збіваць з панталыку', 'глядзець адным вокам, жмурыцца', *митуси́ться* 'мітусіцца', 'хвалявацца', 'рабацець', 'здавацца', смал. *митуса́* 'няўрымслівы'. Параўн. таксама рус. *мельтеши́ть* 'мільгаць'. Да *мі́тусь* (гл.). Карскі (Труды, 393) супастаўляе бел. *мітусі́ць* 'муціць, мяшаць, трывожыць' з літ. *mita, mitas* 'крыло мутніка (венцера)'. Мартынаў (Бел.-укр. ізал., 51) адносіць лексему *мітусіцца* да балтызмаў перыяду існавання Вялікага княства Літоўскага. Лаўчутэ (Балтизмы, 55—56) у якасці балт. крыніцы для бел.-рус. ізалексы падае лат. *mits, mitus* 'мена'.

**Мі́тусь** 'лежачы галовамі ў супрацьлеглыя бакі, «валетам»' (лях., Сл. ПЗБ), драг. *на́мытусь* (Лучыц-Федарэц), *мітуські* 'улукаткі' (Жд. 1), *мытусь* 'адзін да аднаго задам' (Кольб., 52). Укр. *мі́тусь, митьма́,* рус. *митуси́ть* 'падміргваць', ст.-

рус. *митусь, митусъ* 'адзін насупраць аднаго' (XIII ст.), ст.-слав. **митѣ** 'напераменку', польск. *mituś*, серб.-харв. *усу̀мит, су̑митице* 'крыж-накрыж'. І.-е. адпаведнікі: лат. *mits, mitus, mite* 'мена', *mitêt* 'мяняць', *mitežām* 'разам, талакою', ст.-інд. *mē thati, mitháti* 'чаргуе', *mithás* 'папераменны', авест. *miϑwa-* 'спараваны', лац. *mūtāre* 'мяняць', *mūtuus* 'узаемны', гоц. *missō* 'адзін аднаго' (Зубаты, IF, 3, 136; Бернекер, 2, 62; Брукнер, 338—339; Фасмер, 2, 628—629).

**Мітынг** 'масавы сход' (ТСБМ), *міцінг* 'сход, сходка' (Бяльк.). Праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 77) з англ. *meeting* 'сход, сустрэча' (Фасмер, 2, 629).

**Міту́к** 'злодзей, які можа прыхапіць усё, што ляжыць навідавоку' (КЭС, лаг.). Няясна. Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *mit-r-ùs* 'хуткі, спрытны, лоўкі'.

**Мітэнка** 'жаночая пальчатка без пальцаў' (ТСБМ), рус. *митенка* 'скураная пальчатка'. З франц. *mitaine* 'тс' (праз польск. *mitenka*), якое з нар.-лац. **medietāna* 'раздзеленая пасярэдзіне' (Фасмер, 2, 629).

**Мітэрка** 'драўляны блок, колца, якія прыводзяць у рух катушку ў калаўроце' (Касп.; міёр., Шатал.), 'драўлянае колца для замацавання шпулькі' (прасл., Сл. ПЗБ), 'гайка на вінце' (Нас.). Да *му́тра* (гл.).

**Міф** 'старажытнае фантастычнае паданне', 'вымысел' (ТСБМ). Кніжнае запазычанне са ст.-грэч. μῦθος 'слова, мова, апавяданне, вестка', 'апавяданне пра багоў і герояў', 'байка, казка, вымысел', прыстасаванае да візантыйскага вымаўлення (Фасмер, 2, 629). Праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 77). ЕСУМ (3, 486) дапускае сувязь з *myslь*.

**Міхіе́р** 'мачавы пузыр' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *михір, міху́р* 'пузыр', рус. *михи́рь*, ст.-рус. *мѣхирь, михирь, мѣхиръ (мѣхыръ)* 'пузыр — орган цела', '*membrum virile*', польск. *miecherz*, чэш. *měchýř*, славац. *mechúr*, славен. *mehír*, серб.-харв. *mjèhîr, мѐхур*, балг. *мехýр*. Прасл. *měxyrъ/měxyr'ь, měxirъ/měxir'ь*, якое ад *měchъ* (Слаўскі, SP, 2, 26 і 28). Да *мех* (гл.).

**Міхнідаўка** 'непаседлівая, хуткая ў рухах асоба' (Крыў., Дзіс.). Няясна. Магчыма, да *махну́ць* 'хутка адправіцца, адысці куды-небудзь'<*маха́ць* (гл.).

***Міхце́ць**, драг. *мыхті́ты* 'стракацець, пералівацца (аб колеры)' (Клім.), 'свяціць няроўным бляскам' (в.-дзв., шальч., Сл. ПЗБ). Да *мігаце́ць, міга́ць* (гл.).

**Мі́цілка** 'спрытная жанчына, якая хаця і не злодзей, але гатова падхапіць усё тое, што ляжыць навідавоку' (КЭС, лаг.). Да *міту́к* (гл.).



**Міцыя́** (іран.) 'імасць, важная асоба' (карэліц., Марц.). Утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суфікса *-ц-ыя* (напр., драг. *страмо́цыя* 'сорам') ад *моц* 'сіла, важнасць, магутнасць', якое з польск. *moc* 'тс'.

**Міцюк**, ст.-бел. *митюкъ* 'гунька з лямцу', рус. дан., кубан. *митю́к* 'лямцавая падкладка'. З асм.-тур. *müttekiā* 'падушка' (Булыка, Лекс. запазыч., 123).

**Міча́лка** 'адна з дзявочых вясельных пасад; яе займала сястра маладога: сядзела побач з братам маладога і трымала васковыя свечкі' (ТС). Няясна.

**Міча́ць**, *міча́ці* 'абзывацца слабым голасам (пра карову)' (мядз., Нар. сл.; беласт., Сл. ПЗБ), рус. калін. *мича́ть* 'тс'. Да *мыча́ць*.

**Мі́чман** 'воінскае марское званне' (ТСБМ). З рус. *ми́чман* (з 1710 г.) 'малодшы лейтэнант у флоце', якое з англ. *midshipman* 'марскі кадэт' (Фасмер, 2, 630; Крукоўскі, Уплыў, 83).

**Мічы́сетка** 'вотруб'е з пшанічнай мукі' (Грыг.), *мі́зісітка* 'пшанічная мука', *міжы́седка* 'дробнае вотруб'е з пшанічнай мукі' (паўд.-усх., КЭС). З *меж-сітка*<*паміж сітам*.

**Мі́шань** 'корм для свіней: мякіна, абмешаная мукой' (кам., Шатал.), *мешынь* 'другі раз пераворанае поле' (Нік. Очерки). Да *ме́шань* (гл.).

**Мі́шка** (разм.) 'мядзведзь', 'дзіцячая цацка' (ТСБМ), рус. *Ми́шка, Мишу́ха* 'мядзведзь'. Табуістычная назва мядзведзя ад імя ўласнага *Міхаіл* (Брандт, РФВ, 7, 61; Фасмер, 2, 631).

**Мішкава́ць**₁ 'тайком выведваць' (ст.-дар., Нар. сл.), 'шукаць' (гродз. Сцяшк. Сл.). Да *мышкава́ць* (гл.).

**Мішкава́ць**₂ 'кватараваць' (іўеў., Сцяшк. Сл.). З польск. *mieszkać* і *zamieszkiwać* 'жыць, пражываць'.

**Мі́шкіні**, *мі́шкінькі* 'абабкі, Leccinum scabrum' (шальч., Сл. ПЗБ), ашм. *мішкі́нь*, воран. *мяшкі́нь* 'тс' (Сцяшк. Сл.). З літ. *miškìniai* 'тс' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 71).

**Мішкуля́нка** 'змешаны пасеў збожжавых культур' (брасл., Сл. ПЗБ). Складанаскарочанае слова, утворанае ад *з-мешаныя культуры* пры дапамозе суфікса *-янк-а* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 180).

**Мішня́** 'замес' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *(за)мясіць* (гл.). Аб суфіксе *-н-я* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 59.

**Мішч** 'майстар' (Брасл., Сл. ПЗБ). З польск. *mistrz* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 71).

**Мішу́ліцца** 'памыляцца, ашуквацца' (Бяльк.), усх. *мішэніцца* 'тс' (КЭС). Да *абмішу́ліць* (гл.). Параўн. таксама рус. *мшел* (гл. Фасмер, 3, 22).

**Мішура́** 'пазалочаныя або пасярэбраныя металічныя

ніткі, з якіх вырабляюць парчу, галуны і інш.', 'знешняя, падманная бліскучасць' (ТСБМ). З рус. *мишурá* 'тс', якое, аднак, не мае надзейнай этымалогіі: мяркуемае араб. *muzevvere, mozavvir* 'падробка' не падыходзіць фанетычна (Фасмер, 2, 631).

**Мішýтка** 'маленькая падушачка' (шкл., Мат. Маг.). Відаць, балтызм. Параўн. *mišŭotas* 'стракаты, рознакаляровы'. Такія падушачкі звычайна вышываліся каляровымі ніткамі.

**Мішэнь** 'цэль пры вучэбнай або трэніровачнай стральбе', 'асоба, прадмет нападак' (ТСБМ), рус. *мишень* 'тс'. Ст.-рус. *мишень* 'пячатка, знак, кляймо, круглая пласціна' (XIV ст.), а з XVII ст. 'цэль, у якую страляюць', было запазычана са ст.-уйгурск. мовы, у якой — з перс. *нишан (nišan)* 'знак' (Аракін, Тюркизмы, 130). Крукоўскі (Уплыў, 73) мяркуе, што *мішэнь* як ваенны тэрмін пранікла з рус. *мишень,* якое Фасмер (2, 630) выводзіць з тур. мовы.

**Мкаць** 'кранацца, скакаць з месца', 'імчаць', 'кінуцца, схапіць разам' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), *мкнýцца* 'працiскацца', 'імчацца з месца', 'ударыцца', 'лезці, чапляцца', 'сунуцца, штурхнуцца наперад' (Нас., Гарэц.), 'рухацца' (Яруш.), *мкнуць* 'пацягнуць, ударыць дубцом', 'кінуцца бегчы' (Нас.). Укр. *за-мкнýти,* рус. *-мкнуть, -мыкáть, мчать,* ст.-рус. *промъкнути ся,* польск. *tknąć,* чэш. *tknouti,* славац. *tknút',* славен. *tekníti,* серб.-харв. *мàкнути,* балг. *мъ̀кна,* ст.-слав. **мъкнѫти сѧ, мъчати, промъкнѫти сѧ**. Прасл. *тък-/тук-,* роднаснымі да якіх з'яўляюцца літ. *mùkti,* лат. *mukt* 'вызваляцца, уцякаць, адлучыцца', літ. *maũkti* 'цягнуць', 'спускаць петлі', ст.-інд. *muñcáti, mucáti* 'вызваляе', *múktiṣ* 'вызваленне', авест. *fra-muxti-* 'развязванне, збаўленне',— і.-е. **meik-/*meig-* (гл. *міг*) (Фасмер, 2, 631; Бязлай, 2, 176; Брукнер, 339); у Махэка₂ (384—385) падаецца і.-е. форма, як **(s)muk* — (рухаперай-мальнае).

**Мла** 'туман' (брэсц., бяроз., Шатал., Сл. Брэс.), укр. *мла,* в.-луж., н.-луж. *mła* 'тс'. У выніку спрашчэння кансанантнай групы ў *імглá* (гл.).

**Младзéнец** 'малады на вяселлі' (віц., КЭС), 'дзяцюк, не зусім яшчэ дарослы хлопец' (Нас.). З польск. *młodzieniec* 'юнак'.

**Младзéнцы,** *младзóнцы* 'свята — забіванне дзяцей у Віфліеме' (Нас.). Са ст.-рус. *младенецъ* 'дзіцё'. Да *маладзéнец*₁ (гл.).

**Младзянковы** 'маладзіковы' (ашм., Сл. ПЗБ). З польск. *młodziankowy*<*młodzikowy*<*młodzik* 'маладзік'.

***Млáдшы,** *млáчшы* 'менш вопытны плытагон' (дзвін., Нар. сл.). З ц.-слав. *младший* 'маладзейшы' праз рус. мову. Да *малады́* (гл.).



**Млáкі** 'балота з іржавай вадой' (лельч., ЛАПП), укр. паўн.-жытом. *млáка* 'тс', зах., адэск. *млакóвина* 'трава, якая расце на багне', польск. *młoka, młaka,* чэш. *mláka,* паўд. *mlačina,* славац. *mláka,* славен. *mláka, mlakúža,* серб.-харв. *мла̏ка,* макед. *млака,* балг. *млакá.* Прасл. *melka* і *molka* (Скок, 2, 440; Бязлай, 2, 187), калі ўзяць ад увагу ст.-рус. *молокита* 'дрыгва', рус. чарапавецк. 'балотная расліна', роднасныя да лат. *plācis* 'балота' (мена пачатковых губных, як у прасл. *тъrkу* 'морква'). Аўтары ЕСУМ (3, 489) мяркуюць, аднак, што ўкр. і польск. лексемы запазычаны з усх.-раманскіх моў (малд. *млáкэ,* рус. *mlácă*), а апошнія з паўд.-слав. моў. Голамб (JP, 32 (5), 1952, 207—208 і MJ, 10 (1—2), 1959, 26) лічыць, што польск. і ўкр. лексемы прыйшлі са славац. (чэш.) мовы, а туды — з паўд.-слав. тэрыторыі. Гэтак жа Талстой (Геогр., 153). Голуб — Копечны (226) і Махэк₂ (367) выводзяць прасл. форму ў выглядзе *mlaka,* што, паводле аўтараў ЕСУМ, з'яўляецца недастаткова абгрунтаванай рэканструкцыяй.

**Млась** 'млосць' (паст., Сл. ПЗБ). Да *млосць* (гл.). Карэннае *-а-* замест *-о-,* як у ст.-бел. *членъ, членки* пры польск. *człon(ek)* (Карскі, 1, 137). Аб мене *-с'ць*>*-сь* гл. Карскі. 1, 356.

**Млéвіцца** 'думацца, здавацца, уяўляцца' (паўн.-усх., КЭС). Да прасл. *тьněti* (Фасмер, 2, 633). Параўн. рус. *мниться,* ст.-рус. *мьнѣние* 'падазрэнне, дапушчэнне', вяц. *млéнье* 'тое, што здаецца, уяўляецца'. Мена *мн-*>*мл-* і ў балг. *мля, мня* 'мяркую'.

**Млéйкі** 'які выклікае млявасць' (беласт., Сл. ПЗБ). З *+мдлейкі.* Параўн. польск. *mdleja* 'хваравіты, кволы чалавек'.

**Млéка,** *млéчка* 'малако, малачко' (Сл. ПЗБ, Яруш., мін., Шн.). З польск. *mleko, mleczko* (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 72; Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10).

**Мленнік** 'млынар' (Інстр. III). У выніку кантамінацыі польск. *mlenie* 'памол' і бел. *мéльнік.*

**Млець** 'траціць прытомнасць, свядомасць', 'абміраць', 'слабнуць, нямець', 'вянуць', 'баяцца', 'доўга парыцца ў закрытай пасудзіне' (ТСБМ, Нас., Яруш., Касп., Шат., Гарэц., Растарг., ТС; тураў., КЭС; КЭС, лаг.; смарг., Сл. ПЗБ). Укр. *млíти,* рус. *млеть,* ст.-рус. *мьдлити,* польск. *mdleć,* чэш. *omdlíti,* ст.-чэш. *mdléti,* славац. *mdliet',* славен *medléti, medȇl, medlȇn* 'слабы, худы', харв. *mlȇdan* 'худы', ст.-ц.-слав. *мъдлъ.* Не зусім яснае слова. Паводле Скока (2, 442), харв.-славен. прыметнікі — самастойныя ўтварэнні з *blijed* 'бледны, цьмяны'. Бязлай (2, 175) супастаўляе славен. *medléti* з рус. *модеть*

'слабець' (гл. бел. *мадзéць*) і з *медленный* (як Бернекер, 2, 64 і Фасмер, 2, 632), але і з літ. *maũsti* 'ныць, сумаваць, быць прыгнечаным', выводзячы прасл. форму *mъdъlъ* — другую ступень рэдукцыі да *muditi*, аднак дапускаючы таксама і кантамінацыю розных блізкіх лексем: *maleti, mleti, mlahav*. Махэк₂ (356—357) апрача рус. *медлить* дадае яшчэ *меледá* 'прамаруджванне', выводзячы прасл. форму *mьdlъ*, а паводле *меледить* — *meld-*. Сюды ж бел. *млявы* 'пазбаўлены бадзёрасці, вялы, слабы, стомлены, павольны' (ТСБМ)<*мляўкі* 'тс', 'парны, гарачы, які даводзіць да млявасці' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Мат. Маг.; КЭС, лаг.), *млевота* 'стомленасць' (Растарг.).

**Млеч** 'малако ў рыб' (Сержп., Грам.), *млéчны* 'які мае семевую вадкасць' (валож., Сл. ПЗБ). З польск. *mlecz, mleczko* 'тс'.

**Млéчаво** 'хмурна' (івац., Нар. сл.). Да польск. *mlecz* 'малочны сок'. Названа паводле бялявага колеру хмар. Параўн. таксама з гэтым коранем польск. *pamłoka* 'імгла', 'дажджавая хмара'.

**Млечай** 'асенні лаганец, Leontodon autumnalis L.' (гродз., Кіс.). У выніку кантамінацыі польск. *mlecz* і бел. *малачай*.

**Млéчнік₁** 'страўнік у цяляці' (віл., мядз., Сл. ПЗБ). З польск. *mleczny* 'малочны' і бел. *страўнік*.

**Млéчнік₂** 'адуванчык, Taraxacum officinale Web.' (даўг., Сл. ПЗБ). З *малочнік* 'тс' на ўзор польск. *mlecz* 'малачай і інш. расліны'.

**Млéчны₁** 'падобны на малако (пра туман)' (ТСБМ), 'удойны, малочны' (Шат.; шальч., Сл. ПЗБ), навагр. 'прыгатаваны на малацэ' (Сл. ПЗБ). З польск. *mleczny* 'тс' (гл. Варш. сл., 2, 1005). Гэтак жа Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10.

**Млéчны₂** 'рыба, якая мае семевую вадкасць' (валож., Сл. ПЗБ). Да *млеч* (гл.).

**Млéчны₃** *шлях* 'млечная паласа з зорак на начным небе' (ТСБМ). Калька з рус. *Млечный путь*, якое, як і польск. *droga mleczna*, ням. *Milchstrasse* 'тс', з лац. *via lactea*, ст.-грэч. *κύκλοσ γαλαξίασ*<*γάλα* 'малако' (Фасмер, 2, 632).

**Млён,** *млін, млюн, млюон,* кам. *млёныч* 'дзяржанне, якім круцяць верхні камень у жорнах' (Сл. ПЗБ, ТС, В. В., Дразд., Федар. 4, Выг. дыс., Янк. БФ; дзісн., Дзмітр.; КЭС, лаг.; Сл. Брэс.; лун., стол., ЛАПП; гродз., слуц., КЭС). Паўн.-укр. *мльон, млін, мл'ўн;* рус. *мéлен,* для якога Фасмер (2, 595) выводзіць прасл. *melenъ;* польск. *mlon,* серб.-харв. *mlȁn* 'тс', Прасл. *mel-nъ/mol-nъ,* і.-е. адпаведнікамі якіх будуць літ. *milinỹs, malinỹs,* лат. *milna, milns* 'тс'. Да прасл. *melti*>бел. *малоць* (гл.) (Бернекер, 2, 34; Брукнер, 340; Дзендзялеўскі, Бел.-укр. ізал., 22). Аднак для бел. *мелін, мёлін* 'млён' (Касп., Нікіф.). Блесэ (SB, 5, 1935—6, 15), Лаўчутэ (Балтизмы, 55) выводзяць у якасці крыніцы лат. *miļens,* літ. *milinỹs* 'тс'.



**Мліва,** *мліво, млівó* 'змолатае збожжа', 'збожжа, прывезенае ў млын', 'памол, малацце', 'балбатня' (Нас., Шат., Бяльк., Грыг., ТСБМ, ТС, Касп.; КЭС, лаг.; карэліц., Янк. Мат.; паўд.-усх., КЭС), смал., бран., ст.-рус. *мливо* 'тс', смал., арл. 'мука', польск. *mlewo, mliwo, mływo* 'малацце', 'мука', серб.-харв. *мли̏во*. Прасл. *mlivo*<*melti* (ад нулявой асновы *ml-*). Да *малоць* (гл.). Не выключана магчымасць тлумачыць паходжанне *мліва* з *mel-u̯o* паводле закона аб перастаноўцы (метатэзе) плаўных (Скок, 2, 444).

**Млін** 'млын' (Нас., Мал., Чуд., Янк. 1—2, Бес., Сцяшк., ТС, Ян., Сл. ПЗБ; слонім., Арх. Бяльк.; касцюк., паўд.-усх., КЭС; зэльв., Жыв. сл.). Укр. *млин,* рус. кур., омск. *млин,* ст.-рус. *млинъ, млинь, млынь,* польск. *młyjno, młen,* н.-, в.-луж. *młyn,* чэш. *mlýn,* славац. *mlyn,* славен. *mlȋn (málin, mélin),* серб.-харв. *мли̑н, ма̏лин, мѐлин,* балк. ст.-слав. **млинъ, мълинъ**. Прасл. *mъlinъ* запазычана са ст.-в.-ням. *mulī, mulīn* 'тс' (Чартко, Бел. лінгв. зб., 147; Жураўскі, Бел. мова, 62) або з нар.-лац. *malīnum, molīna* 'вадзяны млын' (Міклашыч, 186; Мее, MSL, 14, 373; Рэшатар, AfslPh, 36, 541; Фасмер, 2, 632; Бязлай, 2, 189). Махэк₂ (369) ст.-в.-ням., з якога прасл. *mъlinъ,* выводзіць з с.-лац., а саму рэалію лічыць вынікам распаўсюджання рымскай культуры. Шальч. *млінок* 'флюгер' (Сл. ПЗБ) з *млін* 'вятрак' (паводле падабенства крылаў).

**Млінéц,** *млынéц, млінчык* 'блін', *млінцы,* драг. *млынці* 'бліны' 'аладкі' (ТС, Мат. Гом., Нар. Гом., Ян., Сл. ПЗБ; ельск., Бел. хр. дыял.; мазыр., Шн.; браг., Шатал.; Сл. Брэс.). Ст.-рус. *млинъ,* укр. *млинéць,* н.-луж. *młync,* в.-луж. *mlinc,* славен. *mlínec,* серб.-харв. *мли̏нац,* балг. *млин* 'тс'. Прасл. *mlinъ* 'пірог' і.-е. **melēi-/*mlī-* (Солмсен, KZ, 37, 589; Міклашыч, 186, 429; Бернекер, 2, 64; Скок, 2, 443; Бязлай, 2, 189). Да *малоць* (гл.). Гл. таксама *блін*.

***Млíчавы,** *млíчові* 'які млее, убачыўшы кроў', 'слабы, невыносліві' (Нікан.). Да польск. *mdleć* 'слабець', *mdły* 'слабы, бяссільны'.

**Млíчарня** 'пункт прыёму малака ад насельніцтва' (драг., Сл. Брэс.). З польск. *mleczarnia* 'малачарня'.

**Млодачка** 'маладзіца' (Касп.) — кантамінаванае бел.-польск. утварэнне (польск. *młoda* і бел. суфікс *-ачка*).

**Млосць,** паст. *млось* 'пачуццё слабасці, якое наступае перад стратай прытомнасці, рвотай', 'прыкрасць' (ТСБМ, Нас.; мін., драг., КЭС; віл., воран., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *млосны* 'сумны, прыкры; які даводзіць сябе да знямогі' (Нас.), 'мала-

сольны' (маст., Сл. ПЗБ), *млосна* 'нядобра, моташна, нязносна' (ТСБМ, Грыг., Гарэц., Яруш., Мядзв., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., ТС). Ст.-рус. *мдлость* 'слабасць' (XVI ст.). Відаць, запазычана са ст.-польск. *mdłość*. Гл. таксама *млець, мдле*.

**Млын** 'будынак з прыстасаваннямі для размолу збожжа', 'машына для здрабнення розных прадметаў' (ТСБМ, Гарэц., Грыг., Сцяшк., Булг., Бес., Яруш., Шат., Касп., Бяльк., Янк. 2, Растарг., Сл. ПЗБ). З *млін* (гл.) пад уплывам польск. *młyn* 'тс'. Паводле Кюнэ (Poln., 74) — бел. *млын* і Булыкі (Лекс. запазыч., 97) — ст.-бел. *млынъ* (XIV ст.) запазычаны са ст.-польск. *młyn*.

**Млынар** 'уладальнік млына, мукамол' (ТСБМ, Нас.), ст.-бел. *млынаръ, млынарь* 'тс' (XV ст.), *млынарчикъ, млынарчыкъ* (XVI ст.). Запазычаны са ст.-польск. *młynarz, młynarczyk* 'памочнік млынара' (Булыка, Лекс. запазыч., 90).

**Млына́т** 'той, хто меле на жорнах' (навагр., Жыв. сл.). Да *млын*. Суфікс. *-ат* пад уплывам літ. *-atas, -uotas*, параўн. *balbātas* 'балбатун', *miltuotas* 'запэцканы ў муцэ' (Атрэмбскі, Gram., 2, 246, 252). Не выключана магчымасць утварэння пры дапамозе суфікса прыметніка *-ат-: барадаты, насаты, вусаты*, ст.-польск. *wąsat* 'вусач'. Сюды ж *млына́чыць* 'працаваць млынаром' (навагр., Жыв. сл.).

**Мльінка** 'млён' (лоеў., Мат. Гом.). Да *млын* (гл.) — перанос значэння з цэлага на частку.

**Млю́га** 'млявы, слабы чалавек' (зэльв., Жыв. сл.). Да *млець* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 66.

**Мля́на** 'млосна, млява', *мляны* 'слабы' (Мядзв., Бяльк.; чав., Мат. Маг.; навагр., Сл. ПЗБ). Да *млець* (гл.).

**Млянó**, *мля́но* 'туманна' (бяроз., Шатал. брэсц., Сл. Брэс.). У выніку кантамінацыі польск. *mglawo* 'тс' і бел. *туманна*. Націск на канчатку такіх прыслоўяў з'яўляецца характэрным для ц.-палес. тэрыторыі, параўн. драг. *холоднó* 'холадна', *выдранó* 'месца, дзе ёсць рэха'.

**Мляча́рны** 'прызначаны для малака' (астрав., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі польск. *mleczarski* і бел. *малочны* 'тс'.

**Мляча́рня** 'малочны завод', 'пункт прыёму малака', 'малочная' (Яруш., Бяльк., Сцяшк., Сл.; шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *mleczarnia* 'тс' (Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 72).

***Ммя,** *мьмя* 'імя' (Грыг.). З *мйя* ці з *мня* 'тс', якія з *імя́* (гл.).

**Мнажэ́нна** 'вельмі многа' (бых., Мат. Маг.). Ад *множны*< *многа* (гл.), як *страшэнна* (гл.).



**Мна́ўка** 'бочка, выдзеўбаная з дрэва' (бял., Мат. Маг.). Не зусім ясна. Відаць, са ст.-рус. *мна, мнаса, мнасъ* 'фунт'. Параўн. і рус. разан. *мнас* 'сасуд, у які збіраюць расу і ваду са «святых» крыніц', якое са ст.-слав. **мънасъ**< ст.-грэч. μνᾶ μνᾶσ 'міна, старажытная манета'. Апошняе ўзыходзіць да семіцк. моў (Міклашыч, 207; Фасмер, 2, 632).

**Мне́віцца** 'здавацца' (паўд.-усх., КЭС). Да *мле́віцца* (гл.).

**Мней** 'менш', *мне́йшы* 'меншы', 'маладзейшы' (воран., Шатал.; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мней* 'менш' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *mniej* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч.; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 73).

**Мнец** 'мяльшчык ільну ці канапель' (Нас.), укр. *мнець* 'кажамяка', славен. *mèněc* 'крупадзёр', 'алейнік'. Прасл. *тьпьсь,* якому поўнасцю адпавядае ст.-прус. *mynix* 'дубільшчык, гарбар', літ. *mìnikas* 'мяльшчык' (Трубачоў, Проспект, 62—63).

**Мнець** 'разаграvацца і расслабляцца (аб паветры)' (ТС). Да *млець* (гл.). Мена *л'*>*н'*.

**Мне́я** 'жанчына, якая трэ лён' (іўеў., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 73), з літ. *mynėja* 'тс'.

**Мніх** 'манах' (ТСБМ), рус. *мних*, ст.-рус. *мнихъ, мьнихъ*, ст.-слав. **мънихъ** 'тс'. Укр. харк. *мни́ха* 'вялы, непаваротлівы чалавек', польск., в.-луж., чэш. *mnich*, н.-луж. *mich*, славац. *mních*, славен. *mnìh, тэпі́h* 'манах', серб.-харв. *mnih*, якія са ст.-в.-ням. *munih*<нар.-лац. *monicus*<с.-грэч. μοναχὸσ< <ст.-грэч. μοναχῆ, μοναχοῦ 'у адным толькі месцы' (Фасмер, 2, 633; Брукнер, 341; Махэк₂, 370; Бязлай, 2, 177; ЕСУМ, 3, 490).

**Мні́хи** 'страва з падсалоджанага малака і накрышанай булкі (пшанічных каржоў)' (слонім., Жыв. сл.), *мні́шкі, мньішкі* 'сырнікі, запечаныя ў макотры' (Растарг.). Укр. *мни́шки* 'звараныя сырнікі'. Да *мяць* (гл.). Аб суфіксе *-іхъ* гл. Слаўскі, SP, 11, 73.

**Мні́цельны** 'недаверлівы, беспрычынна падазроны' (ТСБМ). Да рус. *мнительный* 'тс', якое з рус. *мнить*, ст.-рус. *мьнѣти*, ст.-слав. **мьнѣти** і г. д. Прасл. *тьпěti*, роднаснае да літ. *minėti* 'ўспамінаць', ст.-прус. *minisnan* 'памяць', ст.-інд. *má-nyatē, manutḗ* 'думае', ст.-грэч. μὲμονα, лац. *meminī* 'ўспамінаю'. Ст.-слав. **мѣнити** 'згадваць, успамінаць', славен. *méniti*, ст.-чэш. *mieniti*, польск. *mienić*, аднак, з'яўляюцца роднаснымі да ст.-в.-ням., с.-в.-ням. *meinen* 'думаць, меркаваць' (Фасмер, 2, 633).

**Мні́шка** 'рымска-каталіцкая манахіня' (Нас.), 'нерашучая асоба' (капыл., Жыв. сл.). З польск. *mniszka* 'манахіня' (Кюнэ, Poln., 77).

**Многа,** *мно́го,* драг. *мны́го* 'шмат; больш, чым патрэбна, лішне', 'часта, значна' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ); а таксама 'многае, многія' (ТСБМ). Ст.-бел. *многый* 'вялікі, істотны, сур'ёзны, моцны', *многые, многи* (мн. л.) 'шматразовы, шматлікі'. Укр. *мно́го,* рус. *мно́го, мно́гий,* ст.-рус. *много, многий, мъногый,* польск. *mnogo, mnogi,* н.-луж. *m(ł)ogi,* чэш., славац. *mnoho, mnohý,* славен. *mnógo, mnôg, vnogo,* серб.-харв. *мно̑г, мно̏го, mnógo, mlogo,* макед. *многу,* балг. *много,* ст.-слав. **м(ъ)ного, м(ъ)ногъ, м(ъ)ножити**. Прасл. *mъnogo, mъnogъ,* якое супастаўляецца з гоц. *manags* 'шматлікі', ст.-в.-ням. *manag* 'іншы, некаторы', ст.-ірл. *menice* 'часты, шматлікі' (Фасмер, 2, 633—634). Насуперак шматлікім аўтарам Бязлай (2, 190) не адносіць сюды літ. *minià* 'натоўп' і, як і Фасмер, адмаўляе герм. паходжанне прасл. лексем. Ён зыходзіць з і.-е. **men(e)gh-/*mn̥gh-:* ст.-інд. **magha-* 'падарунак' (гл. Майргофер, 2, 546); Махэк$_2$ (370) яшчэ супастаўляе з лац. *magnus,* ст.-грэч. μέγας 'вялікі'. хец. *mekki* 'шматлікі'.

**Множнік** 'лік, на які множыцца іншы лік' (ТСБМ). З польск. *mnożnik* 'тс', запазычанага ў 20-я гады, а не калька з рус. *множитель* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 118).

**Множыць** 'павялічваць', 'памнажаць адзін лік на другі', *множыцца* 'размнажацца', 'дабаўляцца' (ТСБМ, Нас., Яруш., ТС). Прасл. *mъnožiti(sę).* Да *многа* (гл.).

**Мноства,** *мну́ство, множства* 'вялікая колькасць' (ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Нас.; беласт., Сл. ПЗБ). Ст.-рус. *множство, мъножьство,* ст.-польск. *mnożstwo,* ст.-слав. **мъножьство**. Да *многа* (гл.). Не з'яўляецца запазычаннем з рус. мовы насуперак Крукоўскаму (Уплыў, 60).

**Мнужы́э́нь** 'мноства' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *множыць* (гл.). Аб суфіксе *-нь* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 89.

**Мнук** 'унук' (Інстр. I). У выніку мены *вн->мн-* (аб пераходзе *в>м* гл. Карскі, 1, 340).

**Мню́шка** 'звараная тоўчаная бульба' (малар., Сл. Брэс.). Да *мяць* (гл.), якое ў Зах. Палессі мае форму *мне́тэ, мня́ты.* Аб суфіксе *-'уха>-'ушка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 73.

**Мняк** 'мянтуз, Lota, lota' (лід., Сл. ПЗБ). Да *мень* (<прасл. *mьnь*), *мянту́з* (гл.).

**Мняку́ха** 'макуха з льнянога семя' (малар., Уладз.). Да *маку́ха* (гл.), аднак пад уплывам народнай этымалогіі пачатковае *ма-* перайшло ў *мня-* (ад'ідэацыя з *мня́ты* 'мяць, ціснуць').

**Мнямнё** (з дзіцячае мовы) 'мяса' (Клім.). Да *мя́са* (гл.). Рэдуплікацыя *мн'-,* якое на пачатку слова ў драг. гаворках з'яўляецца заканамерным: *мне́со, мня́со* 'мяса', *мне́тэ, мня́ты* 'мяць'.



**Мня́нка,** *м'я́нка* 'пюрэ' (нараўл., Мат. Гом.). Да *мяць* (гл.).

**Мня́со** 'мышцы', 'мяса' (Бес.), драг. *мне́со* 'тс' (Лучыц-Федарэц, КЭС). Да *мя́са* (гл.).

**Мо** — усечаная форма ад *можа, можы, можэ* 'магчыма, мабыць' (ТСБМ, Жд. 1, Кліх, Бір. дыс., Гарэц., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), выкліканая неабходнасцю адрознення мадальнага слова ад дзеяслова 3-й ас. адз. ліку *(можа).*

**Мова** 'размоўная, літаратурная мова', 'спосаб вымаўлення слоў, манера гаварэння', 'размова', 'гаворка, гутарка', 'казань', 'здольнасць гаварыць', 'слова' (ТСБМ, Нас., Мал., Гарэц., Булг., Яруш., Шат., Касп., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ; паўд.-усх.). Укр. *мова,* рус. *мо́лва́,* ст.-рус. *мълва,* польск. *mowa,* в.-луж. *mołwić,* чэш. *mluva,* славац. *mluvit',* славен. *mólviti,* балг. *мълва́,* ст.-слав. **млъва**. Прасл. *mъlva, mъlviti.* І.-е. адпаведнікі: ст.-інд. *bráviti,* авест. *mraoiti* 'гаворыць', зенд. *mraviti* 'тс'. Сэмерэны («Emérita», 22, 1954, 159) мяркуе аб роднасці слав. лексемы і лац. *pro-mulgāre* 'гаварыць уголас, публічна', **molgā* 'размова', ст.-грэч. гамер. νυκτὸς ἀμολγῷ 'у начной цішыні'<**mel-g-,* авест. *mar-,* ст.-грэч. μέλος 'песня', прасл. *mъlv-<*mel-w-,* ням. *melden,* хец. *meld-* 'даваць абяцанне'< <**mel-dh-* (Бернекер, IF, 8, 286; Трубачоў, Дополн., 2, 641—642; Бязлай, 2, 194; Плюта; JP, 40, 1961, (2), 126). Памылкова Кюнэ (Poln., 78) і Барысава (Бел.-рус. ізал., 9) гавораць аб запазычанні з польск. мовы, але ў ёй яшчэ ў XIV ст. было *mołwa,* а пераход *ł>u̯* адбываўся ў канцы XVI — пачатку XVII ст. У ст.-бел. мове пераход *ъл>ў* ужо да XIV ст. закончыўся.

**Мовачкам** 'моўчкі' (глыб., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі бел. *моўчкі* і рус. *молчком* 'тс'.

**Мовіць** 'гаварыць', 'сказаць, вымавіць' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Растарг.; брасл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мовити* 'валодаць мовай, размаўляць', 'прасіць', 'сведчыць', 'судзіцца' (з XV ст.). Аднак *мовіць па́цяры* 'маліцца' (паст., швянч., Сл. ПЗБ) з польск. *(od)mówić pacierz* 'чытаць малітву'.

**Мога** 'можа' (Ян.). У выніку выроўнівання паводле 1-й ас. адз. ліку *магу.* Да *магчы́* (гл.).

**Могаліцы** 'месца, дзе хаваюць нябожчыкаў' (КЭС, лаг.); маладз., валож. *могальнік* 'тс' (ДАБМ, к. 318; Сл. ПЗБ), *могільнік* 'тс'; 'старажытныя могілкі' (ТСБМ, Др.-Падб.), *могілкі, муогілкі* 'могілкі' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб.; ДАБМ, к. 318; Сцяшк., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, Янк. 1), віц., гродз. *магілкі* (ДАБМ, к. 318), *магільнік* (Сл. ПЗБ), мін., краснап. *магільле* (Яшк., Бяльк.), віл. *магіляцы* (Яшк.), *моглі́цы, моліцы, могіліцы, моглыці, могліца, моглыца, моглыцы*

'тс' (ДАБМ, к. 318; Сцяшк., Сержп., Жд. 1, Кліх, Касп., Сцяц., Сл. ПЗБ; ТС; палес., Нар. лекс.; Сл. Брэс.; Шатал.). Семантычная калька з балтыйскіх моў, параўн. літ. *kāpas* 'магіла'— *kapaĩ* 'магілы', 'могілкі'. Да *магíла* (гл.), якое на бел. тэрыторыі выступае з памяншальнымі суфіксамі *-ък* і *-іс-*. Гл. таксама Зданцэвіч, LP, 8, 1960, 344.

**Могці** 'магчы' (ТС). Да *магчы́* (гл.). Аб мене *-чы*>*-ці* гл. Карскі, 2—3, 277—278. Незвычайнасць націску на 1 складзе.

**Мода** 'пэўныя густы, звычаі, прывычкі (асабліва ў адзенні), у грамадскім асяроддзі' (ТСБМ, Жд. 1, Шат., Сл. ПЗБ), *моды* 'узор у клеткі на палатне' (бяроз., Сл. Брэс.; ТС, Сцяц.), *модзіць, модзіцца* 'моднічаць, хітрыць' (Сцяц., Сл. ПЗБ), *модна, монна, модне* 'незвычайна, мудрагеліста' (Сл. ПЗБ). З польск. *moda,* якое пры пасрэдніцтве ням. мовы з франц. *mode*<лац. *modus* 'спосаб', 'мера', 'правіла', 'прадпісанне'.

**Модла**₁ 'размер, шаблон' у выразе *пад адно модла* (Ян.). Укр. *модло.* З рус. *модель* ці польск. *model* 'мадэль', заканчэнне якіх афармілася паводле nomen instrumenti *(мяла, скрэбла, вілы).*

**Модла**₂ 'матавіла' (Бяльк.). Наватвор з⁺*мотла* (<*матаць*), якое ўзнікла ў выніку скарачэння *матавіла.*

**Модлы**₁ (мн.), *модла* 'малітва', 'моцная просьба; маленне' (ТСБМ, Яруш.), воран. 'набожныя людзі' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *модла* 'малітва' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *modła*<*modlić się.* Да *маліцца* (гл.).

**Модлы**₂ 'ўзоры карункаў на канцы рушніка, вязаных рукамі з рэшты нітак асновы' (петрык., Уладз.). Да *мода* (гл.). Суфікс *-л-* пад уплывам *модла*₁ (гл.).

***Модры,** ст.-бел. *модрый* 'блакітны' (XVI ст.) (Булахаў, Гіст., 136). Да прасл. *modrъ,* якое мае і.-е. адпаведнікі: літ. *mãdaras* 'бруд' (Мартынаў, Язык, 51) і хец. *andra-* (Махэк₂, 372).

**Модус** 'спосаб чаго-небудзь', 'разнавіднасць сілагізму' (ТСБМ). З рус. *модус* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 81).

**Модэль** 'мадэль' (Яруш.). З польск. *model,* якое з франц. *modèle*<іт. *modello* — памяншальнае да *modo*<лац. *modus* 'спосаб'. Гл. таксама *мадэль* і *модус.*

**Мож,** *можа, можэ* 'быць можа, напэўна, магчыма' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Мат. Маг., ТС; КЭС, лаг.; гор., паўд.-усх., КЭС). Да *магчы́* (гл.). У мадальным значэнні выступае ў форме 3-й ас. адз. л.

**Можна,** *можне, мажню́сенька, мóжно, можны* 'ёсць магчымасць, дазваляецца', 'вельмі магчыма' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Яруш., Янк. 1, Сл. ПЗБ, ТС; глус., Мат. Маг.). Прыслоўе, утворанае ад прыметніка *можны,* параўн. ст.-бел. *можный*



(XIV ст.) 'які можа адбыцца, ажыццявіцца, магчымы' (Булахаў, Гіст., 139), прасл. *mož-ьnъ-jь*<прасл. *mogti*> >*магчы́* (гл.). Канчатак *-не,* магчыма, пад уплывам польск. мовы. Сюды ж *можнасць* 'магчымасць' (Гарэц.).

**Можны** 'багаты, заможны', *можнасць* 'заможнасць' (Нас.), ст.-бел. *можный* 'тс', 'які мае ўладу' (XIV ст.), 'магутны, уплывовы' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *możny* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 37).

**Мозг** *(мозык, мозак, мозаг, мóзок, мосх), мазгі, мозгі, мозгі, мозкі* 'мозг у чэрапе і канале пазваночніка', 'розум', 'тканка ў поласці касцей, шпік' (ТСБМ, Нас., Дразд., Мядзв., Янк., Шатал., Бяльк., Грыг., Клім., ТС, Сл. ПЗБ), *мазгавíты* 'разумны, кемлівы, разважлівы' (ТСБМ, Бяльк.), *мозковáть* 'думаць, працаваць галавой' (ТС). Укр. *мóзок, мíзок,* рус. *мозг,* ст.-рус. *мозгъ,* польск., н.-луж. *mózg,* в.-луж. *mozh, mozy* (мн. л.), чэш. *mozek,* славац. *mozok,* словен. *môzg, môzeg,* серб.-харв. *мȍзак,* макед. *мозок,* балг. *мозък,* ст.-слав. **можданъ** (<*mozgěnъ*). І.-е. адпаведнікі: ст.-прус. *muzgeno* 'касцявы мозг', літ. *smãgenys* 'мазгі', *smãgenės,* лат. *smadzenes,* у якіх *s-* паходзіць з *s-* у *smãkrės* 'мозг', ст.-інд. *majján-, majjā́* 'касцявы мозг', авест. *mazga-,* ст.-в.-ням. *marag, marg,* тах. *maśśunt* 'тс'<і.-е. **mozg(h)os* (Махэк₂, 377; Міклашыч, 203; Траўтман, 172; Фасмер, 2, 638; Бязлай, 2, 118).

**Мозіш** 'ступка' (іўеў., Сцяшк. Сл.). З польск. *moździerz* 'тс'.

**Мозказліяне** 'інсульт' (калінк., Мат. Гом.). У выніку намінацыі словазлучэння рус. *кровоизлияние в мозг.*

**Мой** *(мая, маё), мойны, мойскі* 'які належыць мне, уласцівы мне, любімы мною' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. ПЗБ, ТС; лід., Сцяшк. Сл.). Укр. *мій,* рус. *мой,* польск., н.-, в.-луж. *mój,* чэш. *můj,* славац. *môj,* славен. *mój,* серб.-харв. *mȏj,* мак., балг. *мой,* ст.-слав. **мои, моꙗ.** Прасл. *mojь,* да якога і.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца ст.-прус. *mais* (<**majas*), гоц. *meins,* лац. *mens*<і.-е. **mojos*<**moi*/**mei* — у М. скл. (Бернекер, 2, 69; Траўтман, 166; Бругман, Grundriss, 2 (2), 404; Фасмер, 2, 639; Бязлай, 2, 191).

**Мойкаўшчына** 'мокрае месца, гразь (на дарозе)' (гродз., Сцяшк. Сл.). Рэгіянальнае (магчыма, аказіянальнае) утварэнне ад ⁺*мокраўшчына* пад уплывам *мойка*<*мыць* (гл.).

**Мок!** — 'хуткае абмачэнне чаго-небудзь' (Нас.). Да *мокнуць* (гл.).

**Моклы** 'мокры' (іўеў., Сл. ПЗБ). Аддзеепрыметнікавае ўтварэнне з суфіксам *-л-.* Да *мокнуць* (гл.).

**Мокнуць** 'станавіцца мокрым, вільготным', 'псавацца ад празмернай вільгаці', 'ляжаць у вадкасці' (ТСБМ, Яруш.).

Укр. *мóкнути*, рус. *мóкнуть*, ц.-слав. **мокнѫти**, польск. *moknąć*, в.-луж. *moknyć*, чэш. *moknouti*, славац. *moknúť*. Паўн.-слав. *moknǫti*. Параўн. літ. *makẽti* 'ўступіць у гразь', *maknóti* 'брысці па гразі', 'мясіць гразь', лат. *maknît* 'ісці па балоце', гл. літ. *makonė* 'лужа', лат. *makņa* 'балота, багністае месца'.

**Мокрадзь** 'мокрае месца, балота' (Гарб.), *мокраць* 'макрата' (паст., ашм., Сл. ПЗБ). Да прасл. *mokr'adь*, *mokradь*<<*mokrъ*>*мокры* (гл.). Аб суф. *-адзь* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 13; Слаўскі, SP, 1, 64; Аткупшчыкоў, Из истории, 149 і наст.

**Мокры** 'насычаны вільгаццю', 'дажджлівы', 'сыры', 'потны', 'гразкі', 'прамоклы', навагр. 'вараны (аб ежы)' (ТСБМ, Яруш., Сцяшк., Жд. 1, Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), *мокрасць* 'сырасць, вільгаць' (Нас.), ст.-бел. *мокрый* 'пакрыты, насычаны вадою, вільгаццю', 'сыры', 'балоцісты' (Булахаў, Гіст., 137). Укр. *мокрий*, рус. *мокрый*, польск., в.-луж. *mokry*, палаб. *mükre*, н.-луж. *mokšy*, чэш., славац. *mokrý*, славен. *móker*, серб.-харв. *мȍкар*, макед. *мокар*, балг. *мокър*, ст.-слав. **мокръ**. Прасл. *mokrъ*, утворанае ад асновы **mok-* і суфікса *-ro-* (Фасмер, 2, 641; Махэк₂, 372; Бязлай, 2, 192). Параўн. таксама *мачыць*, *мокнуць* (гл.).

**Мокрышча** 'скошаная трава' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Семантычна няясна. Да *мокры* (гл.).

**Мокуць** 'месца забалочанае' (Нар. Гом.). Відавочна, калька з балт. (параўн. *balutė* 'балотца'), утвораная ад асновы *мок-* і літ. суфіксаў *-utis*, *-utė*.

**Мокці** 'мокнуць' (віл., Сл. ПЗБ). Можна дапусціць утварэнне ад *мок-* (параўн. славен. *mok* 'вільгаць', 'дождж': *sonce gre na mok* 'збіраецца на дождж'), як *нес-ці* і інш. па тыпу двухскладовых літ. *šlàpti*, *drė̃kti*, *šliùrti*, *tìžti* 'мокнуць'.

**Мол**₁ 'высокі і доўгі вал у порце' (ТСБМ). З рус. *мол* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83), якое з італ. *molo* 'тс' (Фасмер, 2, 641).

***Мол**₂, ст.-бел. *молъ* 'мул' (Карскі, Труды, 312). Да *мул* (гл.).

**Моладзь** 'маладое пакаленне', 'маладыя людзі', 'маладосць', *моладдзю* 'ў маладыя гады' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш.). Укр. *молодь* 'моладзь'. Бел.-укр. ізалекса. На іншай слав. тэрыторыі семантыка адрозніваецца (параўн. Лучыц-Федарэц, Бел.-укр. ізал., 41). Прасл. *moldь*. Да *малады* (гл.).

**Молаж,** стол. *мóлож* 'частка пчалінай сям'і, якая шукае месца для пасялення рою' (ЛАПП). Утворана ад прыметніка *mold-ъ*>*малады* (гл.) пры дапамозе суфікса *-jь*.

**Молакі** 'малако' (Нас.) у выразе: *сёлета ў кароў молакаў мала — ведзьмы молакі адбіраюць*. Да *малако* (гл.). Няясным застаецца ўжыванне лексемы ў мн. л.



**Молан** 'маланка' (гарадоц., ДАБМ, к. 311), *молань* (в.-дзв.), *моланн*я 'тс' (глыб., Сл. ПЗБ). Да *маланка*₁ (гл.).

**Молат**₁, *мóлот* 'вялікі цяжкі малаток', *молотóк, малаток, мылаток* 'тс' (ТСБМ, Нас., Яруш., Шат., Бяльк., Тарн.; Сл. ПЗБ, ТС; драг., Жыв. сл.; нясв., Нар. словатв.). Укр. *молот* 'тс', валынск. 'даўбешка', рус. *молот(ок)*, польск. *młot*, чэш., славац. *mlat*, славен. *mlât*, серб.-харв. *млâт*, балг. *млат*, ст.-слав. **млатъ**; прасл. *moltъ* з'яўляецца іт. пранікненнем (*maltos*) на зах.-балт. моўную перыферыю (Мартынаў, Балто-слав.-ит. изогл., Мн., 1978, 28). Блізкай да гэтай версія Нідэрмана (IF, 15, 109) — лац. *malleus* (<*maltens*) і Махэка₂ (368). Іншыя (гл. Фасмер, 2, 647) — малаімаверныя.

**Молат**₂ 'мука са змешанага збожжа' (Нас.), беш. *мóлът* 'асадак з вадкасці' (Нар. сл.), *молата* 'сусла, піўная гушча' (Грыг.). Укр. *молот* 'солад', 'жамерыны', рус. валаг. *молодь* 'пена на маладым піве, квасе', польск. *młoto*, *młóto*, *młota* 'солад, які выходзіць пры прыгатаванні піва', чэш., славац. *mláto* 'адыходы пры гатаванні піва', славен. *mláto*, *mláta* 'тс', серб.-харв. *млȁта* 'стоўчанае і згатаванае зерне для варэння піва'. Прасл. *molto* (якое з *mel-ti*>*малоць*), запазычанае з прагерм. у выглядзе *malta* (Мартынаў, Лекс. взаим., 126—128; Уленбек, PBB, 20, 40; Бернекер, 2, 73 насуперак Міклашычу, 200, Мацэнаўэру, CS, 255; Траўтман, Altpreuß., 400).

**Мóлоцень** 'пустабрэх' (ТС). Да *малаціць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Молка** 'малацце ў млыне' (Нас.), рус. смал. *молка* 'тс'. Рэгіяналізм. Да *малоць*.

***Молкаса**, ст.-бел. *молкаса* 'глінішча' запазычана з літ. *molkasė*, *mólkasis* 'тс' (Яблонскіс, 128; Булыка, Лекс. запазыч., 209).

**Мóлмон** 'жоўты гарлачык, Nuphar luteum (L.) Sm.' (ТС). З *мóмол* 'белы гарлачык'<укр. *момич* 'жоўты гарлачык'. Гл. таксама *момель*.

**Молна** 'маланка' (целях., ганц., ДАБМ, к. 311). Да *маланка*₁ (гл.).

**Мóлока** 'топкая мясціна на лузе, у балоце' (ТС). У выніку гіперправільнага выраўнівання групы *-ol-* у *-оло-* з *+млака, млáкі* (гл.).

**Моль**₁, *міль, муль, мэль, мыль, муоль, малá, молька* 'матылёк Tineola biselliella, які псуе футра і шэрсць, а таксама іншыя матылькі з атрада лускакрылых' (ТСБМ, Яруш., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Бес., Дразд., Янк. 1, Сл. ПЗБ), *муоль* 'чарвяк' (Федар. 4). Укр. *міль*, рус. *моль*, польск. *mole*, н.-, в.-луж. *mól*, чэш. *mol*, славац. *mol'*, славен. *mòlj*, серб.-харв. *мољац*, макед. *молец*, балг. *молéц*. Прасл. *mol'ь*, роднаснымі да якога

з'яўляюцца гоц. *malô*, ст.-ісл. *mǫlr* 'тс' — усе ўзыходзяць да *malan* 'малоць' (<і.-е. **mol-*), што Махэк$_2$ (372) лічыць неправдападобным. Прыводзяць яшчэ роднасныя ст.-інд. *malūkas* 'від чарвяка', арм. *mlukn* 'клоп' (Бернекер, 2, 74; Мацэнаўэр, LF, 10, 332; Фасмер, 2, 648; Бязлай, 2, 192).

**Моль$_2$**, *молька, молюга* 'рыбы-маляўкі, малькі, дробныя рыбкі' (Янк. 1, Крыв., ТС, Ян.; гродз., Сл. ПЗБ; шчуч., Сцяшк. Сл., паўн.-усх., КЭС), *молька* 'дробная рэч, на якую не трэба звяртаць увагі' (Бяльк.). Рус. *моль, мольва, молька, мольга.* Відаць, балтызм. Параўн. літ. *malė* 'дробная рыбка', лат. *male* 'рыба Blicca argyrolenca' (Мюленбах — Эндзелін, 557; Фасмер, 2, 648—649). Гл. таксама *мальгá*.

**Моль$_3$** 'лес, які сплаўляецца па рацэ шарашом, асобнымі бярвеннямі, не звязанымі ў плыт' (ТСБМ; Маслен., ТС; навагр., Нар. лекс.). Да *мальём* (гл.).

**Мольбішча** 'месца рэлігійных маленняў і ахвярапрынашэнняў язычнікаў' (ТСБМ, Яруш.). Утворана ад абстрактнага назоўніка *molьba* і суфікса *-išče*. Да *мальбá* (гл.).

**Молыці** 'магілкі' (Клім.). З *моглыці*. Да *магíла* (гл.).

**Мом-мом!** — есці з поўным зачыненым ротам (полац., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Сюды ж *момніць, момліць* 'есці папоўніцы, умінаць' (Касп., Бяльк.; полац., Нар. лекс.), рус. разан. *момнить, момлить* 'тс', смал. *момрить* 'аб'ядацца'. Не выключана магчымасць уздзеяння лексемы *мяць, умінаць (ежу)*. Гл. таксама *мýмліць*.

**Момант**, *мóмэнт* 'імгненне, міг', 'пэўны прамежак часу', этап у гісторыі, развіцці, жыцці каго-, чаго-небудзь' (ТС, Нас., Яруш., Шат.), *мамэнт* 'момант' (Касп.; воран., Сл. ПЗБ), 'хутка, адразу' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *моментъ* 'момант' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *moment* 'тс', якое з лац. *mōmentum* 'рухаючая сіла, штуршок' (Булыка, Лекс. запазыч., 156; Кюнэ, Poln., 78)<*movimentum*<*movere* 'рухаць'.

***Момель**, *момэль, мóмол* 'белы гарлачык, Nymphea alba L.' (ТС). Відаць, да зах.-укр. *момич, мовнич* 'гарлачык жоўты', *момоч, момич, омич, умич* 'белы гарлачык', але з іншым суфіксам.

**Момля** 'той, хто гаворыць вельмі ціха, незразумела' (ваўк., Сл. ПЗБ), рус. перм. *момля* 'ціхоня'. Гукапераймальнае. Да *мумляць* (гл.).

**Момра**, *мýмра* (груб.) 'маўклівы чалавек' (ваўк., Сцяшк. Сл.), *момрыць* (груб.) 'невыразна гаварыць' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Старое анаматапеічнае ўтварэнне. Параўн. славен. *momljáti* (Бязлай, 2, 194). Да *мумра, мума* (гл.).

**Мондры** 'мудры, разумны' (івац., Сл. Брэс.; паст., карэліц., шальч., дзятл., Сл. ПЗБ; Сцяц.). З польск. *mądry* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 76). Сюды ж *мондрыцца* 'ганарыцца' (гродз., Сцяшк. Сл.). Параўн. аднак яшчэ ст.-бел. *мондрый* 'мудры', якое са ст.-польск. *mądry* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 204).



**Монстр** 'пачвара, страшыдла' (ТСБМ). Праз рус. мову, у якой з франц. *monstre* 'пачвара'<лац. *mōnstrum* 'дзіва, урод, страхоцце'.

**Мончка** 'цукар-пясок' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *mączka* 'мука дробнага памолу' (Мацкевіч, там жа, 3, 76).

**Монька**, *моня* 'малако' (дзіц.) (Растарг; мазыр., Жыв. сл.). З *монё, молё* 'тс' (Клім., Лучыц-Федарэц). Рус. кур., херс. *мóня.* Ласкальныя словы да *малако* (гл.). Гл. таксама Фасмер, 2, 651.

***Монькала**, *мóнькало* 'проська, канькала' (Нікан.). Утворана ад *монькать* 'канькаць'. Магчыма, узыходзіць да *moliti* 'прасіць'>**moljati* 'упрошваць', у якім *l'*>*n'* з дадаваннем суфікса *-k-* па тыпу *канькаць* (гл.).

**Моняла**, *мóняло* 'марудны чалавек' (драг., стол., Нар. лекс.), *монятысь* 'павольна рабіць' (драг., Лучыц-Федарэц), укр. *монятися* 'мяцца, марудзіць, кешкацца', рус. алан. *моньжа* 'вялы, хілы, хворы', 'маруда', 'п'яны чалавек', арх. *моня* 'непаваротлівая, ціхая дзяўчына'. Няясна. Фасмер (2, 651) дапускае, што, магчыма, слова паходзіць ад імя *Моня*<*Митрофан.* Неправаканаўча. Магчыма, што лексема *моня* паходзіць з народных вераванняў. Параўн. літ. *mõnas* 'лясун', *mõnai* 'чары' і іншыя слав.: польск. *zmora*, паўд.-слав. *mora*, бел. *манá* (гл.).

**Мопс**, *мопса, мопсік* 'парода пакаёвых сабачак', 'кірпаносы', 'які задзірае нос' (Нас., ТСБМ). Праз польск. мову з н.-ням. *Mops* (с.-в.-ням. *muff* 'грымаса, морда')<гал. *moppen, mopperen* 'бурчаць', 'рабіць незадаволеную грымасу', англ. *mop* 'скрывіць рот' (Фасмер, 2, 651; Васэрцыер, 155).

**Мопсік** 'клінок' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Не зусім ясна. Хіба ў сувязі з польск. *mopek* 'карлік' як нешта маленькае (?).

**Мор** 'павальная смерць, эпідэмія' (ТСБМ; віл., Сл. ПЗБ). Укр. *мір*, рус. *мор*, польск. *mór*, в.-луж. *mór*, чэш. *mor*, славен. *mór* 'тс'; серб.-харв. *мор* 'паміранне', макед. *мор* 'мор, чума', балг. *морът*, ст.-слав. *моръ* 'зараза, язва'. Прасл. *morъ*<*mer-ti* 'паміраць'. І.-е. адпаведнікі: літ. *māras, maraĩ* 'мор, чума', ст.-інд. *maras, māras* 'смерць, мор' (Бернекер, 2, 80; Фасмер, 2, 651).

**Мора**, *мóрэ* 'частка акіяна, вялікая прастора вады', 'вялікая колькасць' (ТСБМ, Яруш., Шат., Бяльк., Бес., ТС), стол. 'заліты вадою луг' (Нар. лекс.). Укр. *море*, рус. *море* 'мора', 'возера', польск. *morze*, н.-, в.-луж. *morjo*, чэш. *moře*, славац. *more*, славен. *morjê*, серб.-харв. *мȍрје*, макед. *море*, балг. *морé*,

ст.-слав. **море**. Прасл. *morje* 'мора'. І.-е. адпаведнікі: літ. *mãrios, mãrės* 'Куршскі заліў', жамайцк. 'мора', 'Балтыйскае мора', ст.-прус. *mary*, лат. *mare, mar̨a* 'заліў', гоц. *marei* 'мора', ірл. *muir*, лац. *mare* 'тс', з іншай ступенню чаргавання: ст.-в.-ням. *muor* 'лужына, балота', ст.-фрыз. *mâr* 'роў, ставок', англ. *marsh*, новав.-ням. *Marsch* 'забалочаная нізіна', хецк. *ma(r)-marrá* 'балота' (Фасмер, 2, 654—655 з л-рай). І.-е. **mari* 'мора, стаячая вада', якое на слав. глебе пашырылася суфіксам *-o-*, як *ezero, pleso* (Махэк$_2$, 374). Шпэхт (Dekl., 119) выводзіць і.-е. праформу **mor-(u)-* 'цёмны колер', параўн. ст.-грэч. *μόρυχοσ* 'брудны, цемнаваты, змрочны' каўказск. *mere, merede, merevi* 'вада, глыбіня, возера', манг. *mörö* 'вялікая рака' (Скок, 2, 456; Бязлай, 2, 195; Гамкрэлідзэ — Іваноў, 672—3, 943).

**Морак$_1$** 'змрок, цемра' (ТСБМ; Сцяшк.). Укр., рус. *мóрок*, польск., н.-луж., в.-луж. *mrok*, чэш., славац. *mrak*, славен. *mrâk*, серб.-харв. *мрâк*, макед., балг. *мрак*, балг. *мракът*, ст.-слав. **мракъ**. Прасл. *morkъ*, да якога роднаснымі з'яўляюцца: літ. *mérkti*, лат. *miȓgt* 'міргаць, маргаць', гоц. *maúrgins*, ст.-в.-ням. *morgan* 'ранак' (Бернекер, 2, 78; Траўтман, 182; Фасмер, 2, 657; Бязлай, 2, 199). Да і.-е. **meig-* (Мяркулава, Этимология-1973, 59). Сюды ж *морак* 'абмарачэнне' (ТС), 'адурэнне' (Рам. 8) — параўн. літ. *mán ākys aptar̃ko* 'ў мяне пацямнела ў вачах'.

**Морак$_2$** 'мор, пошасць' (ТСБМ). З польск. *po-morek* 'заразная хвароба на жывёлы'.

***Морак$_3$**, *мóрок* 'недабітая цурка пры гульні ў цурку' (ТС). Няясна.

**Морак$_4$** 'прымурак' (маст., Сцяшк. Сл.). З польск. *murek* 'тс', у якім адбыўся гіперправільны пераход польск. *ó* [у] ў бел. *o* [o].

**Морась** 'імжа' (Юрч.), чавус. *морысь* 'дробны дождж, імгла' (Нар. сл., Бяльк.; ваўк., Сцяшк. Сл.). Да *марасá* (гл.).

**Морб** 'абрубак з бервяна' (Сцяшк.). Няясна.

**Морва** 'тут, Morus L.' (Кіс.; віл., Сл. ПЗБ), 'чарнасліў' (свісл., Сцяшк. Сл.). Ст.-бел. *морва* 'шаўкоўніка' запазычана са ст.-польск. *morwa* 'тс', якое з лац. *mōrum* 'тс', 'ажына' (Булыка, БЛ, 9, 31) <ст.-грэч. *μῶρον* (Гесіхій), *μόρον* 'шаўковіца'. Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 3, 77) выводзіць з літ. *mōras/morva* 'тс', якое, аднак, таксама з польск. мовы.

**Морг$_1$** 'трупярня' (ТСБМ). Праз рус. мову з франц. *morgue* 'тс'.

**Морг$_2$** *морг̃, морх, морк* 'старая мера зямлі=0,71 га' (ТСБМ, Мядзв., Гарэц., Шпіл., Выг. дыс., Чуд., Сцяшк., Шат., Бяльк.), навагр., ст.-дар. 'мера зямлі каля 0,56 га' (Бел. хр. дыял., Прышч.), 'мера сенажаці ў селяніна' (Нас.), 'мурог' (петрык., Шатал.), *маргі* 'ўчастак лугу' (Касп.), *маргі жаць, маргі рабіць* 'выконваць павіннасць па ўборцы збожжа для пана' (полац., Хрэст. дыял.), ст.-бел. *моркгъ, моргъ* 'мера зямлі' (XIV ст.) запазычана са ст.-польск. *morg, morg, morga* (Чартко, Пыт. мовазн., 118; Юрэвіч, Зб. Крапіве, 291; Кюнэ, 76, 78; Булыка, Лекс. запазыч., 154; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 77).



**Морг$_3$** (выкл.) і *моргаць* 'маргаць' (ТСБМ), *морьг!* 'пра аднаразовае морганне' (мсцісл., Нар. лекс.). Да *маргáць* (гл.).

**Моргава** 'морква' (Жд. 1), *моргаўка, морг̃аўка, морг̃ава* 'тс' (Сл. ПЗБ; мядз., Жыв. сл.; смарг., Шатал.). Да *морква* (гл.). Фанетыка і марфалогія слова аформлены пад уплывам літ. мовы (суфікс *-avas*).

***Морд**, ст.-бел. *мордъ* 'забойства, разбой' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *mord*, якое з ням. *Mord* 'тс' (параўн. гоц. *maúrþrjan*) (Карскі, Труды, 338; Чартко, Пыт. мовазн. і метод., 118; Булыка, Лекс. запазыч., 41).

**Морда$_1$** 'пярэдняя частка галавы жывёлы' (ТСБМ, Шат., Бяльк.; лід., Сл. ПЗБ), 'твар чалавека' (Нас., Бес., Яруш., Шат., Сл. Брэс.; Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ; хойн., капыл., КЭС), 'шчака' (ТС; пін., Сл. Брэс.), *мардáць* 'надзяваць наморднік' (Крыў., Дзіс.), *мардáчы* 'мардаты' (лід., Сл. ПЗБ), *мардач* 'удар па твары' (Растарг.), *мардахлыст* 'п'яніца', *мардáсты* 'таўстагубы, таўстаморды' (Нас.), *мардагля́д* 'люстэрка' (Сцяшк. Сл.). Укр. *морда*, рус. *морда*, усх.-польск., мазавецк., паўн.-малапольск. *morda* 'морда свойскіх жывёл'. Паводле Бартоламэ (440), запазычана з іран. мовы (параўн. авест. *ka-mərəδa* 'агідная галава') і з'яўляецца роднасным да ст.-інд. *mūrdhán-* 'лоб, галава, вяршыня', англасакс. *molda* 'галава', ст.-грэч. *βλωθρόσ* 'які высока падняўся' (Фасмер, 2, 652—653); Пізані (Paideia, 9 (4—5), 1954, 312) дапускае роднаснасць слав. *морда* з лац. *mordēre* 'кусаць, грызці, есці, жэрці' і інш. Куркіна (ОЛА-1972, 215—217), прымаючы пад увагу семантычныя адносіны рада слоў у зах. і паўд.-слав. мовах з асновай *mъrd-* 'хутка рухацца'→'крыўляцца'→'грымаса', а таксама сінанімію ст.-рус. *мордати* і *моркати* 'крыўляцца', выказвае дапушчэнне аб роднаснасці ўсх.-слав. *морда* і славен. *mȓd* 'грымаса' і аб спрадвечнай агульнасці асноў *mъrk-/mъrd-/mъrg-*, якія развіліся з кораня *mъr-*<і.-е. **mer-* (Покарны, 1, 733). Яшчэ раней Краўчук (БЛ, 6, 79) выказаў меркаванне, што слав. *морда* не іранізм, а слав. пяратыўнае ўтварэнне ад дзеяслова тыпу славен. *mrdati* 'махаць, варушыць'>*mrda* 'грымаса'>'скрыўленая фізіяномія'. Сюды ж ст.-бел. *мордка* 'грашовая адзінка' (Юрэвіч — Яновіч, Зб. Крапіве, 297).

**Морда$_2$** 'лазовы кош для лоўлі рыбы' (гродз., Сцяшк. Сл.), брэсц. 'аднагорлавы буч з дубцоў або з дранак' (Браім, 61). Рус. паўн. *мóрда, мордá* 'нерат, венцер, буч', а таксама *мéрда, мерёда,* якія з унграфінскіх моў, параўн. карэльск. *merta,* эст. *mõrd,* ліўск. *m∅rda* 'буч' (Праабражэнскі, 1, 556; Каліма, 164; Фасмер, 2, 601 і 653).

**Мордач** 'ад цэпа' (Выг.). Уваходзіць у групу лексем з асновай *mъrd-* 'мяць, макаць, церці' (Куркіна, ОЛА-1972, 216). Роднаснае да *морда$_1$* (гл.).

**Морж** 'млекакормячая жывёла з атраду ластаногіх Odobaenus rosmarus' (ТСБМ). З рус. *морж,* ст.-рус. *моржъ* 'тс' (XVI ст.), якое з саамск. *morša, moršša* 'які пераймае голас маржа' (Крукоўскі, Уплыў, 73; Іткане́н, Зб. Мікале, 47—65; Фасмер, 2, 655; Петрыч — Гольмквіст, JS, 8, 1962—1963, 145).

**Морзы** 'твар, нос і губы' (Нас.). Балтызм. Параўн. літ. *mùrza* 'рот', 'твар'. Карэннае *-о-* пад уплывам семантычна блізкай лексемы *морда.*

**Морзаць** 'смаркаць, уцягваць соплі ў нос' (Нас.). Відавочна, з *mъrdati* (параўн. ст.-чэш. *mrdati* 'рухаць, варушыць', польск. *merdać, myrdać* 'віляць, махаць, хістацца', балг. *мъ́рдам* 'ківаць, махаць, люляць, *мръ́нкъ* 'варушыць, рухаць', серб.-харв. *мр̏днути* 'зрушыць', славен. *mȓdati* 'моршчыць нос', *mȓdati* 'рухацца туды-сюды') пад уплывам лексемы *морзы* (гл.).

**Морка** 'морква' (Сцяшк.; навагр., ваўк., маст., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 77), з літ. *morkà* 'тс'.

***Моркацень,** *мóркоцень, моркецень* 'баран-самец' (ТС), лун. *мóрк'іц'ень* 'тс' (ЛАПП). Да *маркáль* (гл.).

**Морква,** *моргва, моргва, морхва, моркаў, мóркоў, морка, моргаўка, моркаўка, мóркув, моркава, маркова, марквá* 'агародная культура Daucus sativus Roel.' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Яруш., Гарэц., Бес., Зн., Сцяшк., Касп., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяц., Шатал.; КЭС, лаг.; мсцісл., З нар. сл.; міёр., Нар. словатв.; шчуч., З нар. сл.); *маркоўя, марґавéня, маркавéньё, морковэньне, морковеннік, маркоўнік* 'націна морквы' (ТС, Шатал., З нар. сл., Жыв. сл.). Укр. *морков, морква,* рус. *морковь, морква,* польск. *marchew,* н.-луж. *marchwej,* в.-луж. *morchej,* чэш. *mrkev,* славац. *mrkva,* славен. *mȓkev,* серб.-харв. *мр̏ква,* макед., балг. *морков.* Прасл. *mъrky* (р. скл. *mъrkъve*), роднаснымі да якога з'яўляюцца: ст.-в.-ням. *mor(a)ha,* с.-н.-ням. *more,* ст.-грэч. *βράκανα* (Гесіхій), паходзіць з і.-е. **mr̥k-/*br̥k,* параўн. яшчэ літ. *burkũnas,* лат. *bur̃kans* 'морква' (Ііч-Світыч, ЭИРЯ, 1, 16—26). Іншыя версіі (гл.



Фасмер, 2, 655—656; Петрыч-Гольмквіст, JS, 8, 1962—1963, 147) менш верагодныя.

**Моркут** 'маркач' (малар., Нар. лекс.). Да *маркáль, маркáч* (гл.). Аб суфіксе *-ут* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 70.

**Морма** 'негаваркі чалавек' (хойн., Мат. Гом.). Да *мармыль* (гл.). Суфікс *-а,* як у *знайда, соня (сон'а).* Не выключана магчымасць запазычання ў якасці экспрэсіўнага са ст.-грэч. *Μορμώ* 'пудзіла, страшыдла, якім палохалі дзяцей', семантыка якога змянілася.

***Морны,** *морный* 'свабодны, вольны' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, звязана генетычна з серб.-харв. *ȍдморан* 'які адпачыў, бадзёры'<*ȍдмор* 'адпачынак'.

**Морс** 'ягадны або фруктовы напітак' (ТСБМ). Ст.-рус. *морсъ* 'тс', 'пладовы сок' (XVI ст.). Найбольш верагодна зблі́жаць з рум. *múrsă, mórsa* 'сыта', 'сок, вадкасць', 'морс', якія з лац. *mulsa* 'сыта, напітак з мёду' (Цікцін, 2, 1023; Фасмер, 2, 658).

**Морфій** 'хлорыставадародная соль марфіна, якая ў медыцыне ўжываецца як наркатычны заспакаяльны, болесуцішальны і снатворны сродак' (ТСБМ). З рус. *морфий,* якое з ням. *Morphium*<лац. *Morpheus* 'імя бога сну, сына Сну і Ночы'<ст.-грэч. *Μορφεύσ* 'які стварае форму' (Фасмер, 2, 659; Сл. иностр. сл., 1988, 331).

**Морхлы** 'маршчыністы, звялы, завялы' (ТС), *морхнуць* 'маршчыніцца' (ТС). Да *моршчыцца* (гл.).

**Моршак** 'смаржок' (лун., Шатал.). У выніку ўздзеяння лексемы *маршчыны* лексема *смаржок* згубіла *с-* і *-ж-* змяніла на *-ш-.* Да *смаржок* (гл.).

**Моршанкі,** *моршні* 'прымітыўны скураны абутак' (Малч.). З рус. *поршни, поршень* 'тс', ст.-рус. *поръшьнь,* якія Вахрас (Наим. об., 157, 160) зблі́жае з рус. *порхлый* 'рыхлы, мяккі' (гл. таксама Фасмер, 3, 337). *М-* пад уплывам лексемы *маршчына, моршчыць.* Тое ж і ва ўкр. *морщун,* сумск. *моршень* 'прымітыўны абутак з аднаго кавалка скуры'.

**Моршчыцца,** *моршчыць* 'збірацца ў маршчыны', 'моршчыць твар', 'пакрывацца рабізнай (аб паверхні вады)' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ; мсцісл., Жыв. сл.), *моршч, моршчáк, моршчэнік* 'маршчына' (ТС), *моршчы* 'маршчыны' (гродз., КЭС). Укр. *мóршчити, моршóк, мóрщина,* рус. *морщить, морщина,* ст.-рус. *съмърсканъ* 'зморшчаны', польск. *marszczyć,* н.-луж. *maršćiś,* в.-луж. *zmorsk, moršćić,* чэш. *mraštiti, -mrsknouti,* славац. *mŕštiť, mraštiť,* славен. *mŕščiti,* серб.-харв. *мр̏штити се, смр̏скати, мр̏ска,* макед. *мршти се,* балг. *мръщя,* ст.-слав. **съмрьснѫти** 'моршчыць'. Прасл. *mьrsk-/morsk-,* да якіх

роднаснымі з'яўляюцца лат. *mārskla* 'складка тлушчу, валлё-падбародак', *mārskna* 'тс' (Мюленбах — Эндзелін, 2, 584; Фасмер, 2, 659; Бязлай, 2, 203), ст.-інд. *mūrcchati* 'дранцвее, шэрхне, гусцее', якое з **mṛsk-* (Махэк$_2$, 380). Гл. таксама *маршчы́.*

**Мосенж** 'латунь' (ТСБМ), *мосенз* 'бронза' (Нас., Мядзв.), *масензовік* 'невялікі бронзавы грэбень' (Мядзв.), *мосанз* (Кюнэ, Poln., 78), ст.-бел. *мосязъ, мосендзъ, мосенц, мосиондзъ, мосяжъ* 'латунь' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *mosiądz* 'тс', якое з с.-в.-ням. *messinc* (Жураўскі, Бел. мова, 62; Булыка, Лекс. запазыч., 141) < ст.-в.-ням. *massing* < лац. *massa* (Шварц, ZfSlPh, 5, 400; там жа, 42, 304). Клюге$_{19}$ (388) выводзіць гэту лексему з Μοσσύνοικος χαλκός — назвы народа на паўн.-усх. Малой Азіі (Герадот, Ксенафонт), што Фасмер (ZfSlPh, 19, 450) лічыць беспадстаўным. Пра даўнюю сувязь з гэтым народам піша Махэк (LF, 72, 76), прыводзячы ў якасці доказу ст.-слав. *сынъ* 'башня'=ст.-грэч. μόσσυν πύργος (Гесіхій), якое супастаўляецца з асец. *mæsug, mæsyg* 'вежа' і лічыцца фракійска-фрыгійск. словам (Лідэн, Зб. П. Персану, Упсала, 1922, 393).

***Москаць,** драг. *москаты* 'стукаць' (Сл. Брэс.), *москотáтэ* 'біць' (Лучыц-Федарэц). Укр. *мóскáти, мускутáти* 'стукаць, біць малатком, лупцаваць', рус. *москотáть* 'доўга чым-небудзь пастукваць'. Відаць, звязана з *марсканýць* (гл.). Гл. таксама ЕСУМ, 3, 520.

**Мослы** 'смаркачы' (бых., Мат. Маг.). Да *мусоліцца* (гл.).

**Мосны$_1$** 'здаровы' (Рам. 1; рагач., Нар. Гом.). Да *моцны, моц* (гл.). Аб мене *ц*>*с* гл. Карскі, 1, 362—363.

**Мосны$_2$** 'мошчаны' (Крыў., Са сл. Дзіс.). Да *мост, масці́ць* (гл.).

**Мост,** *мýост, міст, мыст* 'збудаванне для пераходу або пераезду цераз раку, канал, чыгунку', 'падлога', 'памост, насціл (у лодцы, на паду пад стог і інш.)', палес. *масток* 'ганак, сходцы перад уваходам у хату', паўн.-усх. *масткі* 'падлога ў сенцах' (ТСБМ, Нас., Бес., Яруш., Юрч., Др.-Падб., Грыг., Сцяшк., Касп., Бяльк., Ян., ТС, Сл. ПЗБ, Растарг., Мат. Гом., Мат. Маг.; КЭС, лаг.; ДАБМ, к. 336), нараўл. *мост* 'дно ў калодзежы' (Нар. сл.), *маставíна* 'дошка ці бервяно ў памосце' (Др.-Падб., Ян.). Укр. *міст,* рус. *мост,* ст.-рус. *мостъ,* польск. *most,* н.-, в.-луж. *móst,* чэш., славац. *most,* славен. *môst,* серб.-харв. *мôст,* макед., балг. *мост,* ст.-слав. **мостъ.** Прасл. *mostъ.* Не зусім яснае слова. Напэўна выходзіць са ст.-в.-ням. *mast* 'шост, мачта', англасакс. *moest* 'тс', ст.-ірл. *maide* 'палка' (<**mazdi̯os*) (Мерынгер, 21, 303; Фасмер, ZfSlPh, 2, 55 і інш.). Фасмер (2, 662) сумняваецца



таксама ва ўзвядзенні прасл. *mostъ* да **mot-tos* 'тое, што пастаўлена, накідана, збудавана' і ў збліжэнні яго з дзеясловам *metati* 'кідаць', хаця Махэк$_2$ (374), выводзячы *mostъ* з *mesti* 'тс', прыводзіць у пацвярджэнне літ. прыклад, дзе *pamestas* азначае 'перакінуты (праз раку)' і аналагічна франц. *jeter le pont* 'збудаваць (г. зн. 'перакінуць, накідаць') мост'. Сюды ж *маставік* 'мостабудаўнік' (ТСБМ), якое з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 110), як, відаць, і *маставая* 'брукаваная або асфальтаваная вуліца' (ТСБМ).

**Мот** 'той, хто неразумна матае грошы, маёмасць' (ТСБМ), 'падманшчык' (гор., Мат. Маг.). Да *матáць* (гл.).

**Мотак** 'маток' (Ян.). З укр. *мóток* 'тс'.

**Мотар$_1$** 'прывязь, аркан' (Нас.). Да *матáць* (гл.). Аб суфіксе *-ар* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 30. Аднак Фасмер (2, 664) суадносіць гэту лексему разам з іншымі: чэш. *motorny,* укр. *motóрний* 'лоўкі', бел. *маторны* 'цяжкі' і інш. з літ. *mèsti* 'кідаць', *matãras* 'верацяно', *matarúoti* 'матаць', лат. *matara* 'гнуткі дубец', спасылаючыся на Бугу (РФВ, 72, 192); Мюленбаха — Эндзеліна (2, 566).

**Мотар$_2$** 'палка, пры дапамозе якой насілі вёдры, цэбры', 'ваданос' (Шат., Мікуц.). Да *мотар$_1$* (гл.). Значэнне 'рычаг' з'явілася пад частковым уплывам лексемы *матор* (гл.).

**Мотар$_3$** 'спецыяльная палка, якой заганялі рыбу ў сетку і кіравалі чоўнам' (гродз., Нар. сл.). З +*мутар,* якое да *муці́ць* (гл.).

**Мотаржна,** *мóторошно, мóторожно* 'цяжка' (Касп., ТС). У выніку кантамінацыі лексем *мотарна* і *моташна* (гл.).

**Мотарна** 'цяжка' (Касп.), 'млосна, дрэнна' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *матáць* (гл.).

**Мотачкі** 'анучкі, якімі закручвалі ногі нябожчыка' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *матáць* (гл.). Аб суфіксе *-ачк-* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 32.

**Моташлівы** 'моташны', *моташны* 'ад якога становіцца блага', 'агідны, прыкры' (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ; мазыр., Шн. 2; полац., Нар. лекс.), *моташна* 'трохі страшнавата' (КЭС, лаг.), 'млосна' (віл., Сл. ПЗБ). Да рус. *тошно* (<*тоска* 'туга, смутак'), да якога дадаецца экспрэсіўны прэфікс *мо-* (гл. Мяркулава, Этимология-1974, 74).

**Мотлах,** *мóтлух, мóтлох, мотлахі* 'вытраскі, атрэп'е, анучы, акраўкі', 'пыл, прах', 'дробная бульба' (Нас., Грыг., Гарэц., Растарг., ТС; кобр., Нар. лекс.), *у мотлах* 'на кавалкі' (усх.-маг., КЭС), ст.-бел. *мóтлохъ* 'натоўп, зброд' (XVI ст.) — апошняе Булыка лічыць запазычаным са ст.-польск. (Лекс. запазыч., 37). Укр. *мóтлох,* рус. бран., кур. *мотлах,* польск. *motłoch, motłota.* Брукнер (345) звязвае польск. лексему

з *mietlica* 'пустазелле', у чым Махэк₂ (561) сумняваецца пры разглядзе чэш. *smotlacha* 'пустазелле', зах.-славац. *šmatluha*, валаш. *smotlaka* 'нячыстае зерне'. Мяркулава (Этимология-1974, 71—74) узводзіць іх да прасл. *telkti* 'таўчы' і прызнае наяўнасць экспрэсіўнага прэфікса *то-* (з варыянтамі *та-, те-, ти-*). ЕСУМ (3, 522) звязвае з *motati, metati*.

***Мота**, лун. *мóто* 'мабыць' (Сл. Брэс.). Скарочаная форма з *мо'*<*мóжэ* (бел. *можа*) і *то*<*гэ́то* (бел. *гэта*).

**Моў** 'маўляў, нібыта' (Гарэц., Некр., Нас., ТС). Алегравая форма з *маўляў* '(калісьці, даўно) казаў' накшталт рус. *мол* 'тс' (Фасмер, 2, 641).

***Моўзаць**, лельч., ельск. *моўзать* 'кусаць без зубоў, дзяснамі', укр. *моўзат'* (Бел.-укр. ізал.). Да прасл. *melzti* 'ссаць', 'даіць' (рус. ц.-слав. *мълсти*, рус. цвяр., уладз., яросл. *молсать* 'смактаць, абгрызаць'.

**Моўкам**, *маўком* 'ціха, патаемна, маўчком' (Нас.) — форма твор. скл. ад *+моўк*, параўн. рус. кур., тамб. *молком*, славен. *môlk* 'маўчанне', ст.-слав. **млъкъ**. Да *маўчáць* (гл.). Сюды ж *моўчкам, моўчыкам* 'тс' (Касп., Шат.; іўеў., Сл. ПЗБ).

***Моўкна**, ст.-бел. *мовкна* 'лыка' запазычана з літ. *táukna* 'лыка', 'тоўстая кара з дрэў' (Яблонскіс, 128; Булыка, Лекс. запазыч., 209).

**Моўкнуць** 'заціхаць, замаўкаць' (ТСБМ, Яруш.), укр. *мовкнути*, рус. *(у)молкнуть* 'тс', ст.-рус.-ц.-слав. *умълкнути* 'здранцвець', каш. *rąka umãtkła* 'рука здранцвела', валаш. *mĺknut'* 'тс', польск. *milknąć*, в.-луж. *mjelknuć*, чэш. *mlknouti*, славен. *zamólkniti*, балг. *млъкна*. Прасл. *tъlknǫti*. Да *маўчáць* (гл.).

**Моўна** 'выразна, моцна' (Нас.), *моўнасць* 'вымова, дар слова, выразнасць' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.), *моўны* 'размоўны, гаваркі, які валодае прыгожай мовай', 'ветлівы' (Нас., ТС; гродз., Сцяшк. Сл.). Паланізмы. Параўн. польск. *mownie*, *mowność*<*mowny*, *mówny* 'які можа гаварыць, якому лёгка гаварыць аб чым-небудзь, гаваркі, балбатлівы'.

**Моўрыць** 'знаходзіцца ў стане панурасці, абыякавасці (напр., аб карове, калі яна не есць)' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *tauróti* 'раўці', 'румзаць', 'плакаць', *taũrinti* 'валачыся, плесціся па гразі', *tauriótі* 'блукаць, бадзяцца', *taũryti* 'плесціся па гразі'.

**Моўся** 'нібыта' (Гарэц., Нас.). Да *моў* (гл.) і прасл. дзеяслоўнае ўтварэнне *sę*>*-ся*, якое з займенніка *с'*=*сь* (гл. Карскі, 2—3, 90 і 97; ESSJ SG, 1, 325).

**Моўча** 'ціха' (Нас., Растарг., ТС). З рус. *молча* 'тс'.

**Моўчанька** 'ціхенька', 'моўчкі' (Гарэц., Юрч.). Памяншальнае ўтварэнне ад *моўча* (гл.).

**Моўчкі** 'нічога не гаворачы', 'паціху', 'тайком', 'пакорліва',



не пратэстуючы' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., ТС; КЭС, лаг.), *моўчачкі, моўчыкі* 'тс' (петрык., З нар. сл.; Ян.), ст.-бел. *мовчки* — прыслоўе ў форме Т. скл. мн. л. *о*-асноў (*-кы*>*-кі*), утворанае ад наз. *маўчок* (<*мовчокъ*). Сюды ж *моўчыкі* 'асобная частка ў дзіцячай гульні ў скокі, калі трэба маўчаць' (ТС). Да *маўчáць* (гл.).

**Мох**, *машок* 'споравая расліна без каранёў і кветак, якая расце ў вільготных мясцінах, на дрэвах, на камянях, Muscus' (ТСБМ, Яруш., Нас., Бес., Касп., ТС), 'плесень' (Нас.), 'лішайнік' (ТС), 'пушок, які ўзнікае ад руху бёрда аб шурпатую і нямоцную аснову' (Уладз., ТС), 'балота' (Касп.; віц., маг., ст.-дар., палес., паўн.-усх., Яшк.). Укр., рус. *мох;* польск., н.-луж. *mech*, в.-луж. *moch*, чэш. *mech*, славац. *mach, moch*, славен. *mâh, mèh*, серб.-харв. *mâx*, макед. *мов*, балг. *мъх(ът)*, ст.-слав. **мъхъ**. Прасл. *тъхъ*, роднаснымі да якога з'яўляюцца літ. *mùsos* 'плесень' (параўн. балг. *мýхъл*, макед. *мувла* 'тс'), *mūsas* 'тс', ст.-в.-ням. *mos* 'мох, балота', *mios, mies* 'мох', лац. *muscus* 'тс' (Педэрсен, IF, 5, 34; Міклашыч, 206; Траўтман, 190; Фасмер, 2, 665—666; Бязлай, 2, 160).

**Мохацца** (экспрэс.) 'марудзіць' (шальч., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, скарочанае ад *мудыхацца* 'тс'.

**Моц** 'трываласць, мацунак, моцнасць', 'фізічная сіла', 'аўтарытэт, магутнасць', 'устойлівасць', 'сіла, здароўе' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Мал., Шат., Касп., ТС, Сл. ПЗБ; гродз., КЭС; КЭС, лаг.), *моца* 'ўлада', 'сіла' (Нас.), ст.-бел. *моцъ* 'сіла, значэнне', *моць* 'паўнамоцтва' (Гарб.) запазычаны са ст.-польск. *moc* (Карскі, Труды, 312; Мядзв.; Кюнэ, Poln., 78; Пальцаў, Лекс. і гр., 38; Крапівін, Бел. лекс., 88; Булыка, Лекс. Запазыч., 208). Аналагічна *моцны*. Сюды ж *моцна (моцно, моцнэ), мацнавáты, моцнасць* (Нас., Гарэц., Булг., Касп., ТС, Сл. ПЗБ), *мацнéць* 'набірацца сіл, рабіцца мацнейшым', *мацніць* 'сцягваць, узмацняць' (ТСБМ, Нас.).

**Моцё** 'малако' (з дзіцячай мовы) (Бес.). Укр. лэмк. *моцьó* 'тс'. Утворана ад першага складу зах.-палес. лексемы *молоко*. Параўн. *молё*.

**Моцка** *брацьь* 'рабіць поўны паварот плытом' (Кольб.). З польск. *mocko* 'поўным паваротам'.

**Моцянка** 'дуда з 7 дудачкамі' (Нік. Очерки, 2, 1892) — відаць, *маццянка*, якое з польск. *multanka (mulitanka, mutyanki)* 'дудка, дудачка, кобза'.

**Моцыя** 'супрага, праца ў суполку, гульня ў сполку' (Бяльк.), рус. ёнаўск. (ЛітССР) *моция* 'ўдзел некалькіх асоб у адной справе, аперацыі', *в моцию* 'разам'. Праз польск. *mocja* з лац. *mōtio* 'рух, душэўны рух, парыў, эмоцыя'.

**Моч**, *моча* 'мокрае, дажджлівае надвор'е, вільгаць, макра-

та, сырасць' (Бяльк., Янк. БП, ТС; зэльв., Жыв. сл.; беш., Нар. сл.; ганц., Сл. ПЗБ). 'мача' (шальч., Смарг., Сл. ПЗБ; ТС). Да *мача́, мокры* (гл.).

**Моча** 'сіла, моц' (паўд.-усх., КЭС), рус. тул., калуж. *моча* 'тс', якая са ст.-рус. *мочь,* ст.-слав. **мощь**<прасл. *moktь*< *mogtь*<*mogti, mogǫ* 'магчы' (параўн. укр. *міч,* польск., чэш., славац. *moc,* в.-луж. *móc,* славен. *mǫ̂c,* серб.-харв. *моћ,* макед. *моќ,* балг. *мощ*), роднаснае да гоц. *mahts,* ст.-в.-ням., с.-в.-ням. *maht* 'сіла, моц' (Бернекер, 2, 70; Траўтман, 164; Фасмер, 2, 667).

**Мочала,** *мочула* 'мачулішча' (навагр., іўеў., Сл. ПЗБ). Да *мачу́ла*₁ (гл.). Параўн. таксама *мочыла* 'месца, дзе мачылі каноплі, пяньку' (іўеў., Сцяшк. Сл.).

**Мочалка** 'падліўка' (нараўл., Мат. Гом.), 'смажанае сала' (ТС). Да *мача́нка* (гл.). Націск на *мо-* і *-л-* пад уплывам *мочала* (гл.). Сюды ж *мо́чэло* 'смажанае сала ці што іншае для мачання' (ТС).

**Мочка**₁ 'ніжняя мясістая частка вуха' (ТСБМ). Укр. *мочка,* рус. *мочка* 'тс', ст.-рус. *мочка* 'тс' (XVII ст.), якія з *мъчъка*< *мкнути*<*(про)-мкнути* 'працягнуць' у выніку чаргавання *ъ : ы,* параўн. *прымыка́ць* (Міклашчыч, 206; Праабражэнскі, 1, 563; Фасмер, 2, 666; Булахоўскі, ВП, 3, 418).

**Мочка**₂ 'раменная ці вяроўчаная пятля, якой прывязваецца пуга да пугаўя або біч да цапільна' (Бяльк.), 'пятля ў кашулі' (Растарг.). Рус. *мочка* 'пятля на адзенні' (кур.), 'пятля на ботах' (варон., разан., маск., калін.). Да *мочка*₁<*(з)мыка́цца* 'змыкацца, стульвацца' >прасл. *mъknǫti* 'цягнуць'.

**Мочыва** 'мочка льну' (Касп.), рус. пск., цвяр. *мочиво* 'лён, каноплі, палатно, якія вымочваюцца ў вадзе'. Віц.-пск. ізалекса. Да *мачы́ць.*

**Мошаст** 'крэп, аксаміт' (ТСБМ), *мошаст, мошыст* 'плюш' (Сл. ПЗБ), 'вельвет' (іўеў., Сцяшк. Сл.), 'махнатая тканіна' (КЭС, лаг.). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 3, 79), паходзіць з літ. *mãšastas* 'аксаміт'. Аднак гл. *машэстэр* 'тс'.

**Мошка,** *мошка́* 'маленькае куслівае двухкрылае насякомае' (ТСБМ, Бес., Яруш., Бяльк., ТС). Укр., рус. *мошка, мошкара́,* польск. *mszyca* 'тс', н.-луж. *pšyca,* в.-луж. *šmic* 'камар', 'мошка', чэш. *mšice* 'тля'. Прасл. *mъsi, mъxa* (звязаныя чаргаваннем галосных з *тиха*>*муха*), да якога роднаснымі з'яўляюцца: літ. *musià, musẽ, musìs,* ст.-прус. *muso,* лат. *muša, mũša* 'муха', ст.-грэч. μυῖα, лац. *musca,* ст.-сакс. *muggia,* ст.-в.-ням. *muska* 'камар, мошка', алб. *mizë* 'камар' (Траўтман, 191; Буга, РФВ, 72, 193; Фасмер, 2, 667; Махэк₂, 382).

**Мошчы** 'высахлыя астанкі людзей, якія лічацца царквою святымі' (перан.) 'вельмі худы, знясілены чалавек' (ТСБМ).



З рус., ст.-рус. *мощи, моща,* якія са ст.-слав. **мощи** 'тс'. Да *моча* (гл.).

**Мра́га** 'дробныя мошкі' (ТС). Кантамінаванае ўтварэнне з суфіксам зборнасці *-аг-а* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 207) ад *мрака* (гл.). Аб паралелізме семантычнай структуры 'цемра' 'процьма' параўн. *імжа*₂ (гл.).

**Мражы́ць** 'імжыць' (лях., Сл. ПЗБ), інфінітыў, відаць, *мражэ́ць,* які ўяўляецца як кантамінаванае ўтварэнне ад *мрака* і *імжэць* (гл.).

**Мра́зіць** 'імжэць', *мразь* 'непагадзь' (хойн., Шатал.), рус. валаг. *мразь* 'туманная мгла ў золкае надвор'е', арл. 'нешта накшталт намаразі'. З ц.-слав. *мразь,* роднаснага да *мароз*< прасл. *morzъ.*

**Мрак** 'імжа' (Ян.). У выніку кантамінацыі лоеў. *мжак* і *мра́ка* 'тс'. Не выключана магчымасць запазычання з рус. мовы, дзе *мрак* — ц.-слав. лексема з прасл. *morkъ.*

**Мра́ка** 'непагадзь' (браг., Шатал.; Ян.), лельч. 'снег з дажджом' (ЛАПП), *мра́чны* 'дажджлівы' (Ян.), *мра́чыць* 'імжэць' (браг., Шатал.). З укр. мовы, параўн. *мра́ка, мря́ка* 'густы туман з дробным дажджом', *мря́чити* 'імжэць', *мра́чний* 'туманны, дажджлівы'. Узыходзіць да прасл. *morkъ*>*морак* (гл.). Параўн. таксама ЕСУМ, 3, 528.

**Мрова** 'дрыгвяністае балота' (пін., Шатал.). Генетычна ўзыходзіць да *мерва*₁ (гл.) з менай *-ер-*>*-ро-* (як у польск. мове) паводле чаргавання групы *tert.*

**Мроева** 'імгла' (Нар. Гом.). Да *мроі, мроіць* (гл.). Суфікс *-ев-а-* замест *ів-а,* відаць, пад уплывам рус. *марево.*

**Мроі,** адз. л. *мроя* 'тое, што створана фантазіяй; мары, летуценні' (ТСБМ), *мройлівы* 'жудасны' (смарг., Сцяшк. Сл.), *мроіцца* 'сніцца', 'здавацца', *мроіць* 'марыць', 'бачыць у прывідах' (ТСБМ, Сцяшк.; Пасожжа, Крывіч, 5, 1923), *мройна* 'летуценна' (Нар. Гом.). Укр. *мріяти, мріти* 'здавацца', 'марыць', *мрий* 'змрочны', *мриво* 'хмурнае надвор'е', рус. *мреять* 'мільгацець'. Роднасныя да прасл. *mьrěti (mьrějǫ)*>*памíраць, мара́*₁ (гл.). З'ява *-oį-* — дзеянне другаснага аблаўта *oi* паралельна з *ē*<*ě* (паводле рэгулярнага чаргавання *ě/oi,* напр., *pěti — pojǫ, rějati — rojь)* (Сольмсэн, Зб. Ягічу, 579; Міклашыч, 190; Фасмер, 2, 668; Варбот, Слав. и балк. языкозн. М., 1981, 52 і наст.). Сюды ж *мра́іво, мрай* (гл. Жучковіч, Местн. геогр. терм. в топоним. М., 1966, 22).

**Мроіва** 'марыва' (ТСБМ), 'цемра' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Да *мроі* (гл.). Аб суфіксе *-ів-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 41.

**Мрок** 'змрок, цемра' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Яруш., Гарэц., Бяльк.), *мрочна* 'цьмяна' (Др.-Падб.), ст.-бел. *мрокъ* запазычана са ст.-польск. *mrok* 'змрок, змярканне', 'цемра'

(Булыка, Лекс. запазыч., 203). Параўн. таксама бел. *морак* (гл.).

***Мроўка,** ст.-бел. *мровка* 'муравей'. Запазычана са ст.-польск. *mrówka* 'тс' і ўжывалася паралельна з бел. паўнагалоснай формай *моровка* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 203).

**Мру́гаць** 'маргаць' (беласт., Сб. 1866 г., Нас.), *намругжаны* 'хмурны' (КТС, Калюга). Запазычана з польск. *mrugać* 'маргаць, міргацець' (Цвяткоў, 59). Сюды ж пін. *мругнути* 'маргнуць' (Нар. лекс.).

**Мру́жыцца** 'жмурыцца' (лід., Сцяшк. Сл.; Нар. Гом.), *мру́жыць* 'жмурыць вочы' (ТСБМ, Нар. Гом.). З польск. *mrużyć, mrużyć się* 'тс'.

**Мрук** 'маўклівы, негаваркі чалавек' (беласт., Сл. ПЗБ), *мру́каць* 'мармытаць' (Нар. Гом.), *мруча́ті* 'муркаць, мурлыкаць, мармытаць' (Бес.). З польск. *mruk* 'бурклівы чалавек' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 79), *mrukać, mruczeć, mruknąć* 'мармытаць', 'бурчэць', 'мурлыкаць'. Ст.-бел. *мручати* 'мармытаць' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *mruczeć* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 130).

***Мры́каць,** *мры́каты* 'муркаць (пра ката)' (стол., Нар. лекс.). З $^{+}$*мрукати, якое з польск. mrukać* 'тс'. Да *мрук* (гл.).

**Мрэц** 'нябожчык' (Крывіч, 1923; Федар. 1; гродз., Шн. 2; Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк. Сл.), *мырэ́ць, мрэць* 'тс' (Клім., Бес., Сл. Брэс.). Прасл. *mьr-ьсь,* якое з *mьrěti>памíра́ць* (гл.). Гл. таксама *мярэц.*

**Мста** 'помста' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.), ст.-польск., каш. *msta,* чэш. *msta.* Можна дапусціць запазычанне са ст.-польск. у бел. мову. Ва ўкр., рус. мовах *месть,* якое з прасл. *mьstь* (параўн. ст.-рус. *мьсть,* балг. *мъст,* ст.-слав. **мьсть**) <**mit-ti-s* (Махэк₂, 382), роднаснае з *мітусь* (гл. Фасмер, 2, 608). Ад назоўніка быў утвораны дзеяслоў *mьstiti>мьстити,* а пазней — *помста* (гл.). Сюды ж *мсціцца, мсціць, мсцівы,* тураў. *мсціву,* слаўг., ветк. *мслівы(й), мсцівец* (ТСБМ, Нас., ТС, Яруш., Сл. ПЗБ; Нар. словатв., Мат. Гом.). Крукоўскі (Уплыў, 118, 124) лічыць лексему *мсцівец* калькай з рус. *мститель.* Не абавязкова. Магло быць і самастойнае адпрыметнікавае ўтварэнне накшталт *ліслівец* або запазычанае з польск. мовы.

**Мтары́каць** 'дражніць, перасмейваць, высмейваць' (Шпіл.). Гукапераймальнае.

**Му** (з дзіцячай мовы) 'карова' (ТС). Гукапераймальнае (Смаль-Стоцкі, Прыміт.).

**Муа́р** 'шаўковая тканіна з разводамі, якія пераліваюцца рознымі адценнямі' (ТСБМ). Праз рус. мову з франц. *moire* 'тс'.



**Му́віць** 'гаварыць' (брасл., ДАБМ, к. 320). З польск. *mówić* 'тс'.

**Мугава** 'кадола — вяроўка (каля 250 м), якая прыводзіць невад у рух' (лепел., Браім). Польск. *muga* 'тс', славен. *múga* 'паласа, смуга, лінія'. Роднаснае да *смуга* (гл.). Параўн. лат. *smaugs* 'тонкі, стройны', літ. *susmáugti* 'зацягнуць, зацягваць, сцягваць', ст.-ісл. *smeygja* 'прыцiскаць, нацягваць', ст.-грэч. μυχός 'самае аддаленае месца (заліва)' (Фрэнкель, 841; Бязлай, 2, 205).

**Му́гаць** 'жэрці', 'есці, гучна сёрбаючы' (полац., Янк. 2, Нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *mugóti* 'жэрці; хутка, многа есці, запіхваць'. Параўн. таксама ўсх.-польск. *mugać* 'ссаць, піць' (Зданцэвіч, LP, 8, 1960, 345). Лаўчутэ (Балтизмы, 145) адносіць лексему ў разрад слоў, паходжанне якіх аргументавана недастаткова.

***Муглява́ць,** *муглёваць* 'рабіць няспешна, памалу' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *mõglinti* 'няўклюдна, павольна цягнуцца, брысці', *mũglinti* 'ісці, цягнуцца', *mùgulis* 'няўклюдны'.

**Муґла́ты** 'бязрогі' (ганц., Сл. ПЗБ) у выніку кантамінацыі ўкр. *му́ґа* 'бугай' (ЕСУМ, 3, 529) і *мылаты* (гл.).

**Мугні́ць** 'мармытаць' (ашм., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі лексем *гугніць* і літ. *mũkti* 'мычэць'.

**Мудазвон** 'пустазвон' (Касп.). Да *муды́* і *звон* (гл.). Параўн. таксама лях. *мудзіць* 'гаварыць недарэчнае' (Сл. ПЗБ).

**Муда́к** 'павольны, нерашучы' (Касп.). 'дурань' (брасл., шванч., дзятл., Сл. ПЗБ). Да прасл. *mǫditi,* якое ў выніку дэназалізацыі, (што Фасмер (2, 669) лічыць малаімаверным) змянілася ў *muditi:* рус. *му́дить* 'марудзіць, спазняцца', польск. *mudzić* 'мітрэнжыць, мардаваць, марудзіць, адцягваць, спазняцца', *mudzić się* 'нудзіцца, доўжыцца', чэш. апаўск. *zmuditi* 'сарваць, перашкодзіць', *zmuditi se* 'вагацца', н.-, в.-луж. *komuda* 'затрымка', н.-луж. *komužiś,* в.-луж. *komudzić* 'затрымацца', *komudny* 'гультаяваты, павольны', *komudzić* 'марудзіць', славен. *mudíti* 'тс', балг. *муден* 'павольны, вялы, непаваротлівы', макед. *мадро, мадру* 'спакойна, смірна', ст.-слав. **моудити** 'адкладваць', **прѣмоудити** 'спазніцца'. Махэк₂ (382) звязвае прасл. *muditi* са ст.-інд. *manda-* 'гультаяваты, нерашучы, марудны'. Скок (2, 475) лічыць, што *-u-* аснова ўзыходзіць да і.-е. *-ou-,* і параўноўвае з літ. *maudà* 'клопат', *maudúoti* 'ныць, сумаваць, смуткаваць', ст.-інд. *mauda-* 'павольны, гультай'. Блесэ (SB, 5, 15—16) генетычна суадносіць рус. *мудить* 'марудзіць, спазняцца' з лат. *mūdities* 'цягнуцца, сунуцца', што Лаўчутэ (Балтизмы, 146) лічыць недастаткова аргументаваным.

**Муда́н** 'баран' (Тарн., к. 162). Польск. мазурск. *mędak*

'тс'. Да *муды́* (гл.). Аб суфіксе *-ан* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 147.

**Мударэ́з** 'разак, Stratiotes L.' (іўеў., Сл. ПЗБ), утворана па тыпу рус. *водоре́з, ногоре́з, ядроре́з, телоре́з.* Да *муды́* і *рэзаць* (гл.). З лексемай *mǫdo* звязаны назвы раслін у чэш. (*moudník* 'Chamaeorchis' паводле двух клубняў, ганацк. *mod'atka* 'чырвоны бэз'), серб.-харв. (*лисичjа, мачjа, пасjа, попова муда*), славен. (*popova moda* 'Evonymus', *moda* 'Paeonia peregrina', 'Colchium autumnale') і рус. (смал. *муди* '?', валаг. *му́дки коша́чьи* 'Geum rivale L.', смал. *мудорез* 'вадзяная крапіва', *му́дочка* 'канюшына раллявая, Trifalium arvense L.', цвяр. *мудé заячьи* 'тс') мовах.

**Му́дзікі** 'капшук' (смарг., Сцяшк., Сл.). Да *муды́* (гл.). Матывацыя: раней з машонкі бараноў рабілі капшукі на тытунь.

**Мудзя́ўка** 'слабы, кволы чалавек' (Бяльк.). Да *муда́к* (гл.). Відавочна, утворана ад +*мудзявы* пры дапамозе суфікса *-яўк-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 132). Да *мудохацца* (гл.).

**Мудкі́** (мн. л.) 'каткі, Trifolium arvense L.' (Бяльк.). Да *муды́* (гл.). Матывацыя: шэрыя касматыя каткі (канюшына раллявая) названы паводле падабенства касматага покрыва рэалій.

**Му́дны** 'хітры' (Касп.). Няясна. Магчыма, у выніку кантамінацыі слоў *му́дры* і *му́тны* 'падазроны, не зусім ясны'. Ці мена *-р->-н-*, выкліканая шматзначнасцю лексемы *мудры* для адрознення (?). Параўн. тураў., гродз. *му́дры* 'хітры' (ТС, КЭС).

**Му́днуць** 'шмыгнуць' (ТС). З +*мы́днуць*. Гукапераймальнае. Параўн. *мыд-мыд!* 'шмыг, шмыгануць' (там жа).

***Мудо́хацца,** драг. *мудохатысь* 'важдацца, поркацца', укр. *мудо́хатиси, мудо́ситиси, мото́хатись*, ст.-рус. *мудити* 'пазніцца', польск. *mudzić* 'марудзіць', в.-луж. *komudzić* Да прасл. *muditi*/*mǫditi* 'не спяшацца, быць разважлівым, памяркоўным'. Генетычна звязана з літ. *maũsti, maudžiù* 'ныць, жадаць' (Брукнер, 327 і 347; Фасмер, 2, 269; Шустар-Шэўц, 604; ЕСУМ, 3, 529). Параўн. таксама *му́дры* (гл.).

**Мудрава́ць,** *мудрава́цца, мудрова́цца* 'рабіць што-небудзь складанае, незвычайнае', 'залішне ўскладняць', 'хітрыць', 'выдумляць' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп., Растарг., Шат.; горац., КЭС), 'дурэць, сваволіць, мудрагеліць' (ТС, Бес.; паўд.-усх., КЭС), 'крыўляцца, выкручвацца' (КЭС, лаг.), *мудро́йшчык* 'выдумляльнік', *мудрава́нне, мудрува́ньня* 'хітрыкі, выдумкі' (Нас., Бяльк.). Укр. *мудрувати(ся)*, рус. *мудровать(ся)*, ст.-рус. *мудровати*, польск. *mędrować*, в.-луж. *mudrować*, чэш. *mudrovati*, славац. *mudrovat'*, славен. *mudrováti*, серб.-харв. *мудро̀вати*, макед. *мудрува*. Магчыма, прасл. *modrovati*. Да *му́дры*₁ (гл.).



**Мудрагéль** 'круцель, хітрун, шэльма', 'выдумшчык', 'разумнік' (ТСБМ, Нас., Гарэц.), 'дзівак, камедыянт' (КЭС, лаг.), 'мудрэц, педант' (кобр., КЭС). Укр. *мудрагéль, мудраге́ль*. Польск. *mędrohel, mudrahel* з укр. (Варш. сл., 2, 934). Міхневіч (БЛ, 1, 72) выдзяляе нізку суфіксаў *-ага, -ель*. Можна, аднак, разглядаць бел. *мудрагель* як кантамінаванае ўтварэнне ад экспрэсіўных: бел. +*мудра́га* (<*mǫdręga*) і польск. *mędrala, mądrela*.

**Мудрадрэ́ва** 'лістоўніца, Larix europae a DC.' (Касп.) у выніку намінацыі польск. *mądre drzewo*, якое з *modre drzewo* (Брукнер, 343), дзе *modre* 'блакітнае' (карона дрэва мае фіялетава-сіняе адценне — вынік народнай этымалогіі з польск. *modrzew* 'лістоўніца'. Яно сапраўды ўтварылася пад уздзеяннем прыметніка *modry* 'сіні' на *brzem*, якое з чэш. *břím, dřín, dřeň*). Паводле Махэка₂ (73), прасл. *brinъ* (параўн. славац. *brin* 'ядловец', *brina* 'яліна') з'яўляецца яшчэ праеўрапейскім словам, якое атаясамліваецца са ст.-грэч. πρῖνος 'дуб каменны, Quercus ilex'.

**Мудра́нка** 'ядавітая травяністая расліна Paris quadrifolia L.' (Кіс., ТСБМ). Да *мудрэць* (<*му́дры*₁) 'капрызіць, свавольнічаць' (драг., КЭС), іўеў. 'незвычайна сябе паводзіць' (Сл. ПЗБ). Параўн. паўд.-усх. *п'яніца* 'мудранка', укр. *бесіжник* (<*besiti*), *дурне лісове, дурна цибуля*. Параўн. таксама *мудру́шкі* (гл.).

**Му́драсць** 'уласцівасць мудрага', 'мудрыя думкі, выказванні', 'жыццёвы вопыт', 'нешта складанае' (ТСБМ). Прасл. *mǫdrostь* (Краўчук, Этимология-1984, 103). Да *му́дры*₁ (гл.).

**Мудраўны́** 'фарсісты' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *мудрэць* 'незвычайна сябе паводзіць' (там жа) <*му́дры*₁ (гл.).

**Мудроны** 'мудрагелісты' (ТСБМ). З рус. *мудрёный* 'тс'< ст.-рус. *мудреный, мудренъ*. Да *му́дры*₁ (гл.).

**Мудру́шкі** 'від ягад' (Рам. 8). Да *му́дры*₁ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 125. Параўн. таксама *мудра́нка* (гл.).

**Мудры**₁ 'вельмі разумны, празорлівы', 'заснаваны на глыбокім разуменні, вопыце, веданні', 'складаны, мудрагелісты, хітры' (ТСБМ, ТС, Яруш.; гродз., КЭС), *му́дзер* 'хітры', 'здагадлівы' (Нас.), ст.-бел. *му́дрый*. Укр. *му́дрий*, рус. *му́дрый, мудр*, ст.-рус. *мудръ*; польск. *mądry*, н.-, в.-луж. *mudry*, чэш. *moudrý*, славац. *múdry*, славен. *móder*, серб.-харв. *му́дар*, макед. *мадар, мудар*, балг. *мъ́дър*, ст.-слав. **мѫдръ**. Прасл. *mǫdrъ*, роднаснае да літ. *mandrùs, mañdras* (*mundrùs, muñdras*) 'свежы, бадзёры, горды, фанабэрысты, лат. *muôdrs* 'бадзёры, жывы', *muôst* 'разумець, сцерагчыся', ст.-в.-ням.

*muntar* 'лоўкі, бадзёры, дбайны, руплівы', гоц. *mundrei* 'мэта', ст.-ісл. *munda* 'меціць', алб. *mund* 'перамагаю, магу', ст.-інд. *mēdhā* 'мудрасць', авест. *mązdra-* 'мудры'. Да і.-е. **men-* (Шпехт, KZ, 63, 92; Бенвеніст, Индоевр., 220; Фрэнкель, ZfslPh, 20, 73; Фасмер, 2, 670; Бязлай, 2, 191). Складана ў Махэка$_2$ (376): *ǫ* ён тлумачыць з *-un-*. Аткупшчыкоў (Из истории, 152) адзначае поўнае фанетычнае, словаўтваральнае і семантычнае супадзенне для балт. і слав. слоў з суфіксам *-*d*-. Лурыя (SşiCL, 1960, 11, 553—560) збліжае словы *mǫdrъ* і *mǫdo*. Аб семантычным размеркаванні лексем *modrъ,* і *xytrь* гл. Мартынаў (Слав. взаим., 44). Аб аднос. *mǫdrъ, jędrъ* і *mǫd-* гл. Іванаў — Тапароў, Иссл. слав. др., 190.

***Му́дры$_2$,** *му́дрый* 'ганарлівы' (бяроз., Шатал.). Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *mandrùs* 'горды'.

**Му́дрыкі** 'мудрагельства' (ТСБМ, Юрч.), 'штукарства' (глус., Янк. Мат.). Да *му́дры$_1$* (гл.) па ўзору *хітрыкі.*

**Мудры́ла** 'мудрагель' (Бяльк.). Утворана ад *мудры́ць* 'залішне ўскладняць справу, мудрагеліць' (ТСБМ, Ян.). Аб суфіксе *-іла* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42.

**Мудрэц** 'мудры, разумны чалавек' (ТСБМ), 'кемлівы, знаходлівы, штукар' (міёр., З нар. сл.; ТС), 'хітрун' (Бяльк.). Да прасл. *mǫdrьcь*. Гл. *му́дры$_1$*.

**Муду́к** 'капшук' (іўеў., Сл. ПЗБ). Да *муды́* (гл.). Суфікс *-ук*, як у *капшу́к.*

**Муду́р** 'фанабэрысты, пыхлівы', 'упарты, выдумляльнік' (Нас., Гарэц.), *мудуро́йны* 'фанабэрысты' (Нас.). Балтызм. Параўн. літ. *mudrùs* 'слаўны, хвацкі, зухаваты', 'бадзёры, бойкі', *mùdrinti* 'упрыгожваць, выстройваць, прыбіраць'.

**Мудурава́цца$_1$** 'круціць, фінціць, фанабэрыцца', *мудурава́ць* 'трымаць у дысцыпліне', 'вучыць паводзіць сябе прыстойна' (Нас.). Да *муду́р* (гл.).

**Мудурава́цца$_2$** 'хітрыць, прыдумваць', *мудурава́ць* 'тс' (Нас.). Да *мудрава́ць* (гл.), якое зазнала ўплыў лексем *мудурава́цца$_1$*, *муду́р* (гл.).

**Муды́** (мн. л.) 'машонка' (астрав.), 'мужчынскія палавыя органы' (мядз., Сл. ПЗБ), укр. *мудо*, рус. *муде́, мудо́, му́ди,* польск. *mąda, mądzie,* н.-, в.-луж. *mud,* палаб. *mǫda,* чэш. *moud, moudí,* мар. *mudy,* славац. *mud', mudie,* славен. *módo, móda,* рэзьянск. *múda,* серб.-харв. *му́до, му́да,* макед. *маде,* балг. *мъдо́,* ц.-слав. **мѫдо, мѫдѣ**. Прасл. *mǫdo,* і.-е. адпаведнікі якога дакладна не вызначаны. Фасмер (2, 669) лічыць няпэўным варыянт з насавым да ст.-грэч. μέδεα, μήδεα, μέζεα 'сараматныя часткі цела', якія з **med-do,* да с.-ірл. *mess* (<*med-tu*) 'жолуд', блізкімі да лац. *madēre* 'сачыцца, быць мокрым', ст.-грэч. μαδάω 'расцякацца, выпадаць', а таксама адвяр-



гае дапушчэнні Уленбека (211), Мацэнаўэра (LF, 11, 173—174). Петэрсан (RS, 8, 30) выводзіць **mun-do* з **meu-/ *mou-* 'нешта набрынялае'. Скок (2, 476) дапускае роднаснасць прасл. *mǫdo* з дарымскім альпійскім словам *mandius,* якое ў рум. мове дало *mînz* 'жарабя', італ. *manzo,* алб. *mëzat* 'бычок', ням. (без суфікса *-i̯o*) *Mann*. Найбольш імаверным з'яўляецца суаднясенне прасл. лексемы з лац. *mentula* 'membrum virile' (Махэк$_2$, 376), а таксама з лац. *muttō, mūtō* 'тс', у якіх *-tt->* *-unt->-ǫt-*. Трубачоў (История терм., 43) выводзіць прасл. *mǫ-do,* ст.-слав. **мѫдо** з і.-е. **măn* 'мужчына, муж', Лурыя (SsiCL, 11, 1960, 553—560) збліжае *mǫdo* і *mǫdrъ*.

**Муды́хацца** 'марудна рабіць што-небудзь' (стаўбц., Жыв. сл.). Да *му́дзіць* (гл.). Суфікс *-ых-а-* выражае шматразовае дзеянне.

**Муж** 'жанаты мужчына ў адносінах да сваёй жонкі', 'дзеяч у якой-небудзь галіне' (ТСБМ, Маш., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Яруш., Пан. дыс.), *му́жні, му́жны, му́зькі* 'ўласцівы мужу', 'мужчынскі', 'храбры, рашучы, вытрыманы, статны', *мужне́ць* 'рабіцца дарослым, больш мужным, развівацца' (ТСБМ, Нас., Яруш., Касп.). Укр., рус. *муж;* ст.-рус. *мужъ, мужь* 'мужчына', 'знакаміты, важны, вольны чалавек', польск. *mąż,* н.-, в.-луж. *muž,* чэш., славац. *muž,* славен. *mǫ̂ž,* серб.-харв. *му̑ж,* макед. *маж,* балг. *мъжът,* ст.-слав. **мѫжь**. Прасл. *mǫžь* лічыцца роднасным са ст.-інд. *mánuṣ (mánu-, mánuṣ)* 'мужчына, чалавек', авест. *manuš-,* гоц. *manna,* ст.-ісл. *maðr,* лац.-герм. *Mannus* — імя прабацькі германцаў, фрыгійск. Μάνης — роданачальнік фрыгійцаў<і.-е. **manu-/*monu-* (Траўтман, 169; Мее, 209, 354; Фрыск, 1, 83; Фасмер, 2, 670—671; Покарны, 1, 700; Бязлай (M. Сној), 2, 198—199). Мартынаў (Язык, 56) мяркуе, што прасл. *mǫžь* з'яўляецца іран. інгрэдыентам у прасл. мове (з іран. *manuš,* якое аформілася пад уплывам прасл. мадэлі, параўн. *vǫžь, gǫžь*). Жураўлёў (Тезисы докл. Междунар. симп. по пробл. этимол., историч. лекс. и лексикограф. М., 1984, 12) аспрэчвае гэта, спасылаючыся на тое, што слав.-скіфск. пранікненні мелі месца за 1500 год да падзення рэдукаваных. Гл. таксама Шаўр (Etymologie, 17—18).

**Мужаве́нь** 'малады, жанаты мужчына' (Касп.). Да *муж* (гл.)>прыметнік *мужа́й*. Аб суфіксе *-авень* са значэннем 'носьбіт адзнакі' гл. Сцяцко, Афікс. наз., 143.

***Му́жаскае** *сэ́рца,* стол. *му́жэское сэ́рцэ* 'лілея кучаравістая, Lilium margaton L.' (Бейл.). Названа паводле формы ліста.

**Мужа́тка** 'замужняя кабета' (Нас.), ст.-бел. *мужатка* 'тс' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *mężatka* 'тс'.

**Му́жнасць** 'рыса характару, у якой спалучаюцца храб-

расць, рашучасць, вытрымка' (ТСБМ), укр. *мýжнiсть* 'тс'. Ст.-бел. *мужность* 'тс'. Уласна ст.-бел. (Анічэнка, Праблемы філал., 10). Да *муж>мýжны* (гл.).

***Мужлавáць,** *мужловáць* 'дрэнна есці, рыцца ў ежы (напр., аб свінні)' (ТС). Няясна. Магчыма, балтызм. Параўн. *mūžlioti* 'мучыць'.

**Мужскí** *падарожнік* 'трыпутнік ланцэталісты, Plantago lanceolata L.' (лельч., Нар. лекс.). З рус. *мужской* 'мужчынскі'. Параўн. *мужчынскі сардэчнік* 'буйміна лугавая, Cardamine pratensis L.' (Бейл.).

**Мужурнá** 'поўны, тоўсты, здаровы' (міёр., З нар. сл.), драг. *мужурно, мужурнэ́ско* 'грубы, нязграбны здаровы мужчына'. Да *муж* (гл.). Аб суфіксе *-ур-* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 174; *-н-ó* таксама надае экспрэсіўны характар, напр., драг. *пічнó* 'вялікая, але халодная печ'. Аналагічна рус. *-л-ó: мужлó* 'неадукаваны, грубы, некультурны чалавек'.

**Мужчы́зна** 'мужчына' (ашм., смарг., воран., трак., шальч., Сл. ПЗБ). Паўкалька з польск. *mężczyzna* 'тс'.

**Мужчы́на,** драг. *мушчэ́на* 'асоба мужчынскага полу', 'мужны чалавек' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ; міёр., Нар. словатв.; драг., КЭС), ласк. *мужчы́нка* 'тс' (Шат.). Рус. арханг. *мужчи́на* (ж. р.) 'тс', 'селянін', карэльск. (КАССР) *мужчи́нья* 'мужчыны', польск. *mężczyzna* 'мужчына', ст.-польск. *mężczyzna* (зб.) 'мужчыны'. Паўн.-слав. Да *муж* (гл.). Утворана ад прыметніка *mǫžьskъ* (Брукнер, 327) і суфікса *-in-a* (бел. *-ін-а* — гл. Сцяцко, Афікс. наз., 203), ст.-рус. **мѫжьщина.** Параўн. рус. том. *мужски́* 'мужчыны'.

**Мужы́к** 'муж', 'селянін'; 'грубы, нявыхаваны чалавек, мужчына' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Грыг., Яруш., Касп., Жд. 1, Касп., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.; Пан. дыс.), *мужычы́ло, мужы́чына* 'мужчына-здаравяк' (ТС), *мужы́чка* 'сялянка' (ТСБМ, Растарг., ТС), *мужучонак* 'сялянскі сын, невук' (Нас.). Першапачаткова — памяншальнае ад *муж* (гл.): людзей ніжэйшага стану трактавалі як недарослых, параўн. польск. *mużyk,* чэш. *mužík* 'карлік' (Фасмер, 2, 671; Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 356).

**Мýжына** 'муха' (трак., Сл. ПЗБ). З *мýшына<муха* (гл.). Аб мене *ш>ж* гл. Карскі, 1, 385—386.

**Мужэйшы** 'старшы' (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *муж* (гл.). Параўн. ст.-рус. *мужь* 'паважаны, паважны, знакаміты чалавек'.

**Музá**₁ 'мякаць у гарбузах, дзе знаходзіцца насенне' (навагр., З нар. сл.), 'іл' (бар., ст.-дар., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі *мязгá* (параўн. укр. *мізкá* 'мякаць у гарбузах'), якое з прасл. *mězga* (гл. таксама *музгá* ў Фасмера, 3, 3) і *бузá*₁,₂ (гл.).

**Музá**₂ (здзекл.) 'яда, варыва' (слонім., Нар. словатв.), сувалк. *muįza* 'нікудышны, пусты суп'. Балтызм. Параўн. літ. *mīzė, miīzė* 'крупнік, суп з мукі', 'суп з клёцкамі', якое з ням. дыял. *mûs,* с.-в.-ням., ст.-в.-ням. *muos,* суч. *Mus* 'мус, пюрэ, павідла'. Гл. таксама *мýзя.*

**Мýза** 'адна з багінь у грэчаскай міфалогіі — заступніца навук і мастацтваў', 'творчае натхненне' (ТСБМ), ст.-бел. *муза* 'тс' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *muza,* якое з лац. *musa<*ст.-грэч. Μοῦσα 'Муза — багіня песні, паэзіі і мастацтва'.

**Музавéр** 'дармаед' (Ян.). З рус. *музавер, музовер* 'бязбожнік, ліхадзей', якое з тур.-араб. *müzevvir* 'хлус, кручкатвор' (Міклашыч, 205; Фасмер, 3, 5).

**Муздáк** 'вітка, канат з вітых дубцоў' (в.-дзвін., Нар. сл., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, да *муздáць*₂ (гл.).

**Муздáць**₁ 'кілзаць', *муздзечка, муздэчка* 'аброць' (Нас., Грыг., Яруш., Др.-Падб., Гарэц., Бяльк., Юрч., Ян., Растарг.; бабр., Воўк-Лев.; мін., Шн. 2). Да *вуздá* (гл.). Пачатковае *м-* замест *в-* пад уплывам літ. *mãzgas* 'вузел'. Аналагічна *муздзіла* 'цуглі' (лудз., Сл. ПЗБ). Да *вуздзіла* (гл.).

**Муздáць**₂ 'моцна, балюча біць' (Гарэц., Юрч.), *музданýть* 'ударыць, выцяць' (Бяльк.), 'выцяць аброццю ці чым-небудзь іншым' (Нас.) — тут можна назіраць уздзеянне народнай этымалогіі, параўн. *муздáць*₁; *муздзануць* 'зваліць, збіць' (Сцяшк.). Рус. смал., бран., арл. *муздáть, музданýть* 'біць, сцёбнуць', маск., смал. *мы́знуть* 'ударыць, сцебануць', смал., бран., кур. *муздáть* 'жэрці, прагна глытаць', каш. *mižǯëc* 'мяць, давіць, драбіць'. Да прасл. *mug-/muz-/muzg-/mýzg-* (Куркіна, Этимология-1972, 64—68). Магчыма, што некаторыя бел. формы на *му-* знаходзяцца пад уплывам літ. *mùšti* 'біць', лат. *mušīt* 'выбіваць'.

**Музéй** 'музей, дзе знаходзяцца, вывучаюцца і выстаўляюцца на агляд помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, прыроды' (ТСБМ, Яруш.). Праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 77), у якой з польск. *muzeum* ці з ням. *Museum* ад лац. *museum<*ст.-грэч. μουσεῖον 'які належыць музам'. (Фасмер, 3, 5). Да *мýза* (гл.).

**Мýззя,** *мýзя* 'працёрты бульбяны суп', 'павідла з ягад і мукі' (драг., пін., Вешт.; іван., стол., Сл. Брэс.). Да *муза*₂ (гл.).

**Музіцы́раваць** 'іграць на музычным інструменце', 'займацца музыкай' (ТСБМ). З рус. *музици́ровать* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 84).

**Музкýль,** *мýзькуль, музкýоль, мусколь* 'машкара' (Лысен-

ка, СПГ). Балтызм. Лаўчутэ (Балтизмы, 121) супастаўляе іх з лат. *muskulis, muškulis* 'што-небудзь звязанае, заблытанае', 'клубок', літ. *mùsulus* 'маленькая мошка', лат. *muša,* літ. *músė* 'муха'.

**Му́злік,** *мозо́лік* 'вузельчык' (драг., Уладз.), драг. *мозі́ль, мозо́лык,* кам. *мôзы́ль* 'вузел' (КЭС, Шатал.; Сл. Брэс.). Паводле падабенства з мазалём ад *вузел* (гл.), у якім адбывалася мена *в*>*м.* Можна, аднак, дапускаць больш старажытныя семантычныя сувязі, у прыватнасці ўплыў балт. моў, параўн. літ. *mãzgas* 'вузел', *mégsti, mezgù* 'вязаць'.

**Му́зыка** 'галіна мастацтва', 'твор або сукупнасць музычных твораў', 'выкананне і гучанне музычных твораў на інструментах', 'музычны інструмент', драг. 'танцы' (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Бяльк., Лучыц-Федарэц), *музы́ка* 'музыкант', 'скамарох' (ТСБМ, Нас., Мядзв., Гарэц., Яруш., Касп., Шат., Бяльк.; Нік. Очерки, 2; Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС), ст.-бел. *мўзыка, музика, музыкъ* 'музыка' (1565 г.) запазычана са ст.-польск. *muzyk* 'тс', *muzyka* 'музычны інструмент', якія з лац. *mūsicus* 'музычны; музыкант; паэт', *mūsica* 'мастацтва Муз', 'музыка, музычнае мастацтва'<ст.-грэч. μουσικός 'які належыць Музам', 'музыкант', 'мастацкі, паэтычны, адукаваны' (Булыка, Лекс. запазыч., 159 і 161). У ст.-рус. мове лексема *мусикия, мусикиа* 'музыка', 'спевы', 'музычны інструмент', 'музыкант-жанчына' з XII ст. (Фасмер, 3, 6). Гл. таксама Краўчук (Праблемы філал., 60), Маргаран (ЭИРЯ, 4, 1968, 90—94).

**Музыка́нт** 'той, хто іграе на музычным інструменце' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ), (перан.) 'насякомае' (Бес.), ст.-бел. *музыкантъ* 'тс' запазычана са ст.-польск. *muzykant* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 160), якое з с.-лац. *musicans, -cantis* 'які музіцыруе' (Варш. сл., 2, 1080).

**Музыка́рства** 'заняткі музыкай (прафесія)' (Ян.). Да *му́зыка* (гл.). Утворана, як *цясл-яр-ства.*

**Музы́кі** 'танцы', 'вечарынка з музыкай', 'вячоркі з танцамі' (ТСБМ, Мат. Гом., ТС, Сцяц.). Ад *музы́ка* 'музыкант', якое, паводле польск. *muzyk,* з лац. *mūsicus* 'тс'. Да *му́зыка* (гл.).

**Му́зыкус** 'мастак-музыкант' (Нас.). З польск. *muzykus* 'музыка, музыкант', якое з с.-лац. *musicus* 'тс' (Варш. сл., 2, 1080).

**Музы́ль,** *музо́ль* 'мазоль' (ТС). Да *мазоль* (гл.).

**Музыла** 'марудзька' (Федар. 7). Ад *музіць* 'марудзіць, павольна рабіць што-небудзь, перашкаджаць', якое з *му́дзіць* (гл.).

**Музы́чыць** 'іграць' (ТС). Палескае. Да *музы́ка* 'музыкант'. Гл. *му́зыка.*

**Музь!** 'шмыг' (Ян.). Да слав. утварэнняў з коранем *mug-/ muz-/muzg-/myzg-* (гл. Куркіна, Этимология-1972, 64—68. Гл. таксама *мызь.*



**Му́зя** 'варанае семя, якое ўжывалася для прамочвання асновы для таго, каб ніткі не зблыталіся' (малар., Уладз.). Славен. штырск. *mugati* 'разгладжваць', *múzati* 'рабіць гладкім', балг. *музгам* 'церці, расціраць', макед. *музга се* 'слізгаць', каш. *mužǯëc sa* 'лашчыцца', *mᵘüsknąc* 'гладзіць, песціць', польск. *muziać się* 'гладка прычэсвацца'. Да прасл. *mug-/muz-/ muzg-/myzg-* (Куркіна, Этимология-1972, 64—68). Гл. яшчэ *му́ззя, му́за₂.*

**Му́ка** 'фізічная або маральная пакута', 'здзек, катаванне' (ТСБМ, Яруш., Шат., Бяльк., ТС). Укр., рус. *му́ка,* польск. *męka,* чэш., славац. *muka,* славен. *múka, mǫ́ka, moŋka, manka,* серб.-харв. *му̏ка,* макед. *мака,* балг. *мъ̀ка,* ст.-слав. **мѫка.** Прасл. *mǫka,* роднаснае ад асновы *męk-* (>*мягкі*) і *mǫka* 'мука́' (гл.). (Бернекер, 2, 42; Траўтман, 184; Фасмер, 3, 7; Махэк₂, 382; Бязлай, 3, 7).

**Мука́** 'прадукт размолу збожжа' (ТСБМ, Бес., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *мукоўня* 'мучная каша' (стол., Вешт.), *муке́нны* 'мучны' (лід., Сл. ПЗБ), *мука́ннае* 'ежа з кіслага малака і грэцкай мукі' (шальч., там жа). Укр., рус. *мука,* польск. *mąka,* н.-, в.-луж. *muka,* чэш. *mouka,* славац. *múka,* славен. *móka,* серб.-харв. *му́ка,* макед. дыял., балг. *мука,* ст.-слав. **мѫка.** Прасл. *mǫka* звязана чаргаваннем галосных з *męk-ъkъ* 'мяккі', *męti* 'мяць'. Роднасныя і.-е. паралелі: літ. *mìnkyti* 'мяць, мясіць', *mìnkle* 'цеста', *mánkyti* 'ціснуць, мучыць', *mankštyti* 'размякчаць', лат. *mîcît* 'ціснуць', *mīceklis* 'цеста', ст.-в.-ням. *mengen* 'мяшаць', ст.-грэч. μάσσω 'мну, мяшу', ст.-інд. *macate* 'раздрабляе' (Бернекер, 2, 42; Траўтман, 184; Фасмер, 3, 6; Бязлай, 2, 192). З двух дзеясловаў *(men-* і *mel'-)* *men-* згубіў значэнне 'малоць, раздрабняць'. Такім чынам, прасл. *mǫka* азначае не 'мятае зерне', а 'размолатае, раздробненае зерне' (Аткупшчыкоў, Из истории, 178). Аб семантычным размеркаванні лексем *mǫka* і *borsьno* 'мука' гл. Мартынаў (Балто-слав.-итал. изоглоссы, 31).

**Му́каць₁** (дзіц.) 'рыкаць', 'мычаць' (Янк. 2, Інстр. III, Шат., ТС). Гукапераймальнае. Ад *му-у!* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 79).

**Му́каць₂** 'часаць лён на грэбень' (ТС). Да *мы́каць* (гл.).

**Мул₁,** стол. *мыл,* лід. *мула́,* саліг. *муле́ц* 'іл, глей на дне возера, ракі' (ТСБМ, Бес., Сцяшк., Яшк., Сл. ПЗБ, ЛАПП; слонім., гродз., пін., КЭС; стол., Бел. хр. дыял.; Сл. Брэс.), малар. 'незамярзаючае балота' (Нар. лекс.), шчуч. 'балота', жытк. 'ілістае месца', стол. 'цякучы пясок пры капанні ямы' (Яшк.), *муль, муля́ка* 'месца на балоце, дзе ўтвараецца

цячэнне вады' (палес., Талст.), *му́ля* 'твань, іл на дне ракі, сажалкі, возера' (жабін., пруж., Сл. Брэс.; драг., Лучыц-Федарэц, З нар. сл.), 'гразь' (бяроз., Шатал.; Выг. дыс.; пруж., Сл. ПЗБ). Укр. *мул, на́мул,* рус. *мул, муль,* польск. *muł* 'тс', *mulać* 'валяць', чэш. *mula,* славац. *mul,* славен. *mûlj,* серб.-харв. *му̑љ* (з *му̑л*). Прасл. *mulъ.* Роднаснымі да яго з'яўляюцца: літ. *maulióti* 'запэцкацца плачучы', *maumúlti* 'запэцкацца брудам, засмэркацца', з іншай ступенню чаргавання *mùlti* 'запэцкацца', *mùlinas* 'чырвона-жоўты, гліністы, брудны', лат. *mula* 'цёмна-брудны', *mólis* 'гліна', лат. *māls* 'тс', а таксама лац. *mulleolus* 'чырванаваты', *mulleus* 'чырвоны, пурпурны' (Буга, Rinkt, 1, 465—466; Брукнер, 348; Фрэнкель, 418; Фасмер, 3, 7; Махэк$_2$, 382; Мартынаў, Лекс. взаим., 168). Скок (2, 429) выводзіць прасл. *mulъ* з і.-е. **meu-/*mou-* 'вільготны', якому ў балт. мовах адпавядае ўтварэнне з *-ro-,* параўн. *máuras* 'раска', 'брудны, запэцканы'.

**Мул$_2$** 'помесь кабылы і асла, Equus mulus' (ТСБМ), ст.-бел. *мулъ* (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *muł* 'тс', якое праз чэш. мову са ст.-в.-ням., с.-в.-ням. *mûl*<лац. *mūlus* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 144; Брукнер, 348).

**Мула́** 'мусульманскі свяшчэннік' (ТСБМ). Ст.-рус. *молла, молъла, молна,* польск. *mułła, mołła, mołna, mołda,* бел.-тат. *мулла́, молла, малла* 'тс' (Антановіч, Бел. тексты, 393), якія з тур. *mollā* 'тс', 'уладар, суддзя', крым.-тат. *mulla* (Міклашыч, Türk. El., 2, 127; Фасмер, 3, 8)<араб. *maulā, mewlā, mulā* 'пан, уладар'.

**Мула́т** 'патомак ад шлюбу белых і неграў' (ТСБМ). З рус. мовы, у якой з італ. *mulatto* ці ісп., партуг. *mulato*<ісп. *mulo,* 'мул', г. зн. 'байструк'. Мяркуецца, што ў раманскіх мовах — з араб. *muwallad* 'нечыстакроўны араб' (Фасмер, 3, 8).

**Му́ленік,** *муле́нік* 'мазоль' (лун., Шатал.; стол., Сл. Брэс.; Мат. Гом., ТС), драг. *муляны́к* 'тс' (КЭС). Да *му́ліць* (гл.).

**Му́лец,** *му́ліц* 'ручка касы' (віц., ДАБМ, к. 260; Касп.), *му́ліца, муліца* 'тс' (мядз., вілей., ДАБМ, к. 260; мядз., Нар. сл.), 'ручка сахі' (Дзміт.; мазыр., рэч., Смул.), 'мыліца, кастыль' (тур., Выг. дыс., ТС). Да *му́ліць* (гл.). Аб суфіксах гл. Сцяцко, Афікс. наз., 39 і 44.

**Мулён** 'млён у жорнах' (Жд. 1; воран., Сл. ПЗБ). Да *млён* (гл.).

**Мулёўка** 'дупло' (петрык., Шатал.). Няясна. Магчыма, роднасным да яе будзе польск. *muleszka* 'ракавінка слімака, выкінутая на бераг мора', якое Варш. сл. (2, 1067) адносіць да *muł* 'мул, твань, іл'.

**Мулінэ** 'баваўняныя або віскозныя штапельныя каляровыя



ніткі для вышывання' (ТСБМ). З рус. *мулине́* 'тс', якое з франц. *moulinet* 'суканы'<*mouliner* 'сукаць шоўк'.

**Му́ліца** 'ручка вясла' (стол., пін., Масл.; ТС), рус. *мы́лица, мы́льца* 'тс', якія з эст. *mõla* 'кармавое вясло', карэл. *mela,* фін. *mela* (Фасмер, 3, 23—24). Запазычанне з рус. мовы можна дапусціць, але больш імаверным здаецца семантычны перанос з *му́лец* (гл.), *му́ліца* 'ручка касы, сахі'.

**Му́ліць,** *му́ляць,* драг. *му́лятэ* 'церці, націскаць, рэзаць цвёрдым скуру, цела', 'пашкоджваць нагу, бок', 'не цярпецца', 'прычыняць боль', 'ціснуць', 'непакоіць, дакучаць', 'назаляць, перашкаджаць', *му́ліцца* 'не хацець, не адважвацца, адчуваць няёмкасць', 'націраць', *му́ляцца* 'ціснуць', 'мяцца, праяўляць нерашучасць' (ТСБМ, Нас.; Яруш., Шпіл., Шн. 2, Др.-Падб., Гарэц., Грыг., Растарг., Шат., Касп., Бяльк., Мат. Маг., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.), *му́ляяцца* 'вельмі хочацца' (Шат.), *му́ліць* 'настойліва прасіць' (КЭС, лаг.). Укр. *му́лити,* рус. *му́лить, му́леть* 'ціснуць', польск. *mulać* 'муліць', славен. *múliti* 'церці, прытупляць, абсоўваць, сашморгваць лістоту з галін', *muljâva* 'мяккая, маладая трава', *múlica* 'колас без зерня', *múl, múlast* 'лабаты', 'безбароды', серб.-харв. *му̏љати* 'размінаць вінаград', *ому́лити се* 'адвязацца', балг. *шму́ля* 'рваць фрукты з дрэва разам з лістамі, матлашыць'. Прасл. *muliti* (Трубачоў, О составе, 181). Роднаснымі з'яўляюцца: літ. *šmùlas,* лат. *šmauls* 'бязрогі, лысы', а таксама бел. *шмуляць, шмуляцца.* Аткупшчыкоў (Этимология-1984, 193) у якасці дадатковых «пучкоў» лексічных ізаглос прыводзіць рус. *муліць* 'выпрошваць' і літ. *maũlyti* 'канькаць, надакучліва прасіць', што семай 'шматразовае паўтарэнне дзеяння' збліжаецца з *му́ліць* 'націскаць, нарэзваць'. Гэтак жа і ЕСУМ, 3, 532—533.

**Му́лкі$_1$** 'цвёрды, цяжкі, невыносны', 'які муляе' (ТСБМ, Нас., Грыг., Яруш., Гарэц., Касп., Сцяшк., Янк. 1—2; Шат., Бяльк., Растарг., Ян.; КЭС, лаг.). Да *му́ліць* (гл.).

**Му́лкі$_2$** 'ілісты', 'які аплывае, апаўзае', гродз. *му́лісты* 'тс' (Др.-Падб., Сл. ПЗБ). Да *мул$_1$* (гл.).

**Му́лле,** *му́льля* 'шышкі на целе, скулы, якія перашкаджаюць спаць', 'ангіна' (Нас., Грыг.). Да *му́ліць* (гл.). Аб суфіксе *-ьje* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 46.

**Муль** 'дробязь' (стол., Сл. Брэс.). Да *моль$_2$* (гл.).

**Мульга́ўка** 'дробязь', 'маласільны, слабы' (Бяльк.). Да *мальга́* (гл.). Аб мене *а*>*у* гл. Карскі, 1, 112—113.

**Му́льгацца,** *му́ляцца* 'цягнуць справу, адчуваючы непрыемнасць ад нежадання рабіць што-небудзь' (Шат.). Да *му́ліць, му́ляцца* (гл.). Экспрэсіўны суфікс *-г-* падкрэслівае шматразовае кароткатрывалае дзеянне.

**Мульмо** 'мазоль' (Янк. БП, Інстр. II, Янк. 1). Да *му́ліць* (гл.). Аб суфіксе *-м-о* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 54.

**Му́льны** 'каламутны', 'брудны, запэцканы' (шальч., іганл., Сл. ПЗБ). Літуанізм. Параўн. літ. *mùlinas* 'брудны, запэцканы', 'светларуды' (Грынавяцкене, там жа, 3, 82).

**Мульт,** *му́льта, му́льтан, мульта́н, мульты́н* 'баваўняная тонкая варсістая тканіна' (ТСБМ, Гарэц., Мядзв., Яруш., Касп., Бяльк., Мат. Гом., Шатал., Сл. ПЗБ, Мат. Маг.; томск., КЭС), *мультаноўка* 'хустка ў кветкі' (слонім., Сцяшк. Сл.), 'кофта з мультану' (Жд. 1), *мульта́нка* 'баваўняная коўдра' (Нас.), *мультоўка, мультаноўка* 'фабрычная тканіна' (маг., Бел. нар. адзенне). З польск. *multan* 'вельмі тонкая шарсцяная тканіна', якое з франц. *molleton* 'тс'<*mollet* 'мяккі, пяшчотны'.

**Мульта́н,** *мульта́нка* 'гатунак тытуню' (ТСБМ, Нас.; маладз., Янк. Мат.), драг. *му́льтан* 'тс' (Лучыц-Федарэц). З польск. *multan* 'тс', якое ад назвы Валахіі — *Multany*. Адсюль і ст.-польск. *multan*, з якога ст.-бел. *мультанъ, мултанъ* (XVI ст.) 'кароткі двухбаковавостры меч' (Булыка, Лекс. запазыч., 70), 'від шаблі' (Жураўскі, Тюркизмы, 84).

**Мультба́йка** 'мультан' (Ян.). Да *мульт* і *байка*$_2$ (гл.).

**Мульчыроўка** 'падкормка дрэў' (акц., Мат. Гом.). Ад *мульчы́раваць* 'пакрываць паверхню глебы тарфяной крошкай, перагноем' (ТСБМ), якое ад *му́льча* 'перагной, тарфяная крошка, апалае лісце, кампосты'<англ. *mulch* 'прэлая салома'.

**Мулы,** ст.-бел. *мулы* 'высокія туфлі' (XVI ст.), запазычана са ст.-польск. *muły* 'тс', якое са ст.-франц. *mule*>франц. *mule* 'туфлі без абцасаў'.

**Мулю́** 'моў' (Нас.), скажоная форма з *муляў* 'тс' (ваўкав., БНТ, Лег. і пад.)<*маўляў*<*маўляць*. Да *мова* (гл.).

**Мулю́к** 'маленькая рыбка ўсіх парод' (пін., Кар.), рус. *мул, мулёк* 'рыба Mugil cephalus', арханг., наўг., сіб. *мулёк* 'малёк', 'дробны акунь', якія Фасмер (3, 8) суадносіць з *моль*> *мальва́* (гл.). Параўн. таксама польск. *mulawka, malawka* 'від рыбы'.

**Мулява́нне,** *мулява́ньня* 'амуніцыя' (Доўн.-Зап., 3). Няясна.

**Мулява́ць** 'маляваць алейнымі фарбамі' (Мал., Шат.). Да *маля́ва́ць* (гл.). Аб мене *а*>*у* гл. Карскі, 1, 112—113.

**Муля́ж** 'злепак, мадэль прадмета ў натуральную велічыню' (ТСБМ). З рус. мовы, у якой з франц. *moulage* 'фармоўка'< *mouler* 'адліваць'<*moule* 'форма'<лац. *modulus* 'мера' (Голуб — Ліер, 325).

**Муля́к,** *муля́ч* 'мазоль, нацёртае, мулянае месца' (Шат., Сцяц., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.; лельч., Нар. лекс.). Да *му́ліць* (гл.).



**Му́ляр**$_1$**,** *му́ляр* 'рабочы, які будуе з цэглы', 'пячнік' (ТСБМ, Яруш., Шн. 2, Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мулярь, мураль, мурарь* 'тс' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *mularz, murarz* 'тс', якія (як і іншыя слав.: палаб. *maurněk*, каш. *mulåř*, н.-луж. *muŕaŕ*, в.-луж. *murjer, muler*, славац. *murár*) узыходзяць да с.-в.-ням. *mūrer* (Булыка, Лекс. запазыч., 89; Трубачоў, Этимология-1973, 179). Гл. таксама *мур, мурава́ць*. Сюды ж *му́ляр* 'птушка, якая робіць гняздо з гразі' (Совещ. ОЛА — Гомель, 234) — у выніку семантычнага пераносу.

**Му́ляр**$_2$ 'драўляны вугаль' (хойн., Мат. Гом.). Да *мілёр* (гл.).

**Муля́р** 'жывапісец' (глус., паўд.-усх., КЭС). Да *маля́р, маляваць* (гл.).

**Муляя́** 'ніткі мулінэ' (Ян.). Скажонае *мулінэ* (гл.).

**Мум** 'глухое бурчанне', 'бурчанне мядзведзя' (паўн.-усх., КЭС). Гукапераймальнае. Параўн. аналагічнае літ. *mūmauti* 'раўці з перапынкамі, бляяць', *mūmė* 'карова' (дзіцяч.).

**Му́ма**$_1$ 'маўклівы чалавек, нелюдзень' (Растарг.; міёр., З нар. сл.), польск. сувалк. *muma* 'панурая дзяўчына'. Літуанізм. Параўн. літ. *mūmė̃, maũmas* 'маўчун' (Зданцэвіч, LP, 1960, 8, 344—345).

**Му́ма**$_2$ 'ўяўная змрочная істота, якою палохалі дзяцей' (Растарг.), польск. *mumacz* 'нячысцік, які жыве ў студні', сувалк. *muma* 'нячысцік, якім палохаюць дзяцей (што ён залезе ім у валасы)'. Балтызм. Параўн. літ. *mùmas, maũmas, maumà, maũmė* 'мэма, страшыдла, жупел'. Гэтак жа Зданцэвіч, LP, 8, 1960, 344—345.

**Мума́к** 'нарост на дубовых пнях', *мума́шка* 'грыб, што расце на дрэве — з яго робяць трут' (Бяльк.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *maũmas* 'соплі', 'вош' (дзіцячае слова).

**Мума́шка** 'порхаўка, Lycoperdon perlatum' (касцюк., Жыв. сл.). Відаць, генетычна ўзыходзіць да літ. *maũmas, maumà, mùmas* 'страшыдла'.

**Му́мія** 'бальзамаваны труп', 'худы, не здатны да моцных пачуццяў чалавек' (ТСБМ). Запазычана праз рус. мову, у якой з ням. *Mumie*<італ. *mummia* або і праз польск. мову (*mumia*), у якую слова прыйшло са ст.-франц. *mumie* (>франц. *momie*). Першакрыніцай лічыцца перс. *mūmijā*<*mom, mūm* 'воск' (Варш. сл., 2, 1068) або араб. *mômijâ*. (Фасмер, 3, 9).

**Му́мліць** 'жаваць з закрытым ротам' (Растарг.), 'есці бяззубым ротам' (Бяльк.), драг. *му́млятэ* 'тс' (Лучыц-Федарэц). Рус. *му́млить* 'тс', 'неразборліва гаварыць, мямліць', польск. *mumlać, memlać*, каш. *mumlac* 'паволі жаваць', н.-луж. *mumliś*, в.-луж. *mumlić, mumolić* 'жаваць з цяжкасцю', чэш.

*mumlati,* славен. *mumljáti* 'бурчэць', серб.-харв. *му̏мљати, му̏млати* 'мармытаць'. Гукапераймальнае (Бернекер, 2, 75; Мацэнаўэр, LF, 11, 162; Фасмер, 3, 9). Паводле Махэка₂ (383), магчыма, з прасл. *mъrmlati, mъrmъlati,* якія таксама гукаперайманні. Сюды ж бар. *мумлядца* 'здзекавацца' (Сл. Брэс.).

**Му́мра,** *момра* 'маўклівы, негаваркі, пануры чалавек' (ТС, Сцяц.; беласт., Сл. ПЗБ; слонім., Нар. словатв.), навагр. *мумрава́ты* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Відавочна, балтызм. Да *му́ма₁* (гл.).

***Мумрыта́ць,** драг. *мумрыта́ты* 'мямліць' (Клім.). Роднаснымі да яго Клімчук (ЛП, 16) лічыць серб.-харв. *му̏млати, му̏мљати, мр̀мљати* 'мармытаць', балг. *мъ́мря* 'дакараць, сварыцца'. Да *мумрыць* (гл.). Утворана ад назоўніка з суфіксам *-otъ*. Гл. таксама *му́мрыць.*

**Му́мрыць** 'раздражнёна, незадаволена гаварыць пад нос' (Сцяц.), 'паціху парыкваць (аб карове)', 'гугнявіць' (ТС), 'мармытаць' (іўеў., Сцяшк. Сл.), *мумрыну́ты* 'прамармытаць' (Клім.), драг. *мумрыта́ты* 'мармытаць' (З нар. сл.), *момрыць* 'невыразна гаварыць' (шчуч., Сцяшк. Сл.), рус. валаг. *му́мрить,* укр. *мимрати, мимрити,* польск. *mumrzeć,* чэш. *mumrati.* Старое анаматапеічнае ўтварэнне, роднаснае да *мумліць* (гл.) (Бернекер, 2, 75; Фрэнкель, 419; Фасмер, 3, 9; Бязлай, 2, 194).

**Муму́каць** 'рыкаць' (Корбан, КТС). Ад *му-му-у!* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 79).

**Му́мы** 'вошы' (шальч.) (пераноснае) 'малыя дзеці' (лаг., Сл. ПЗБ). З літ. *mũmas* 'вош' (Грынавяцкене, там жа, 3, 83).

**Мундзі́р** 'ваеннае або цывільнае форменнае адзенне', *мундзяры́* 'бульба, звараная ў лушпайках' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Вешт., Сл. ПЗБ). З рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 79), у якой *мундир* у XVIII ст. запазычана з франц. *monture* 'забеспячэнне', магчыма, і з ням. *Mundierung* 'тс' (Фасмер, 3, 9—10, параўн. с.-в.-ням. *muntieren* 'забяспечваць, рыхтаваць, збіраць (у дарогу), узбройваць'.

**Мунду́р,** ваўк. *мунду́рак* 'мундзір' (Нас., Сл. ПЗБ). З польск. *mundur, mundurek* 'тс' (Кюнэ, Poln., 79), якія з ням. *Montur* 'тс'. Голуб — Ліер (325) выводзіць ням. лексему з ісп. *montura* 'кавалерыйскі рыштунак'<*montar* 'надзяваць рыштунак'. Параўн. франц. *monter un cheval* 'выступіць на кані'. Гл. таксама *мундзір.*

**Мундэры** 'сорт вінных ружова-чырвоных яблык' (мядз., Нар. сл.). Няясна.

**Му́ні** *распусціць* 'расплакацца' (ТС). У выніку кантамінацыі рус. *нюни распустить* і *мумы,* якое з літ. *mаũmas* 'соплі' (дзіцячае).

**Муні́ца** 'амуніцыя' (Рам. 3; гом., Нар. Гом.) — скажонае



рус. *амуниция* 'тс' (з адпадзеннем пачатковага *а-*), якое з польск. *amunicja.* **Яно** ўзыходзіць да лац. *mūnītio* 'ўзвядзенне фартыфікацый', 'пракладка (мастоў)', 'умацаванне', *moenia* 'гарадскія сцены', як і ст.-бел. *муницыя* 'умацаванае<месца, фартыфікацыя' (XVI ст.), запазычанае са ст.-польск. *municja* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 65—66).

**Му́нкі** 'распуснікі' (віл., LKK, 16). Балтызм. Параўн. літ. *mánka,* усх.-літ. *mùnka* 'распусніца', якія з *mankýti* 'мяць, цісну́ць' (Грынавяцкене, там жа, 183; Лаўчутэ, Балтизмы, 70).

**Мунштý́к** 'цуглі', ст.-бел. *мунштукъ, монштукъ, мунтштукъ* 'тс' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *munsztuk, monsztuk,* якім у суч. ням. мове адпавядае *Mundstück* 'тс', 'мунштук' (Булыка, Лекс. запазыч., 120; Жураўскі, Бел. мова, 62).

**Му́ня** 'маруда' (стол., Сл. Брэс.). Да *моняла* (гл.).

**Мур₁** 'камяніца, мураваны будынак', 'цагляны панскі дом', 'сцяна, агароджа з каменняў, цэглы' (ТСБМ, Нас., Мядзв., Жд. 1, Грыг., Шн. 2, Федар. 1, Яруш., Сцяц., Шат., Касп., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ, ТС), 'руіны' (шальч., Сл. ПЗБ), *му́рачак* 'прымурак' (Сцяц.), *мураваны* 'цагляны' (Нас., Сцяшк., Касп.), 'надзейны' (Крыў., Дзіс.), *мураваць* 'будаваць з каменя або цэглы', 'пакрываць лёдам', *мураванка* 'невялікая камяніца' (ТСБМ, Нас., Жд. 1, Шат., Юрч., Касп.; КЭС, лаг.), 'брукаваная дарога' (ваўк., Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *муръ* 'цагляная або каменная сцяна', 'будаўнічы матэрыял', *мурован* 'мураваць' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *mur, murować,* якія з с.-в.-ням. *mûre, mûren* (Жураўскі, Бел. мова, 62; Булыка, Лекс. запазыч., 97 і 93; Чартко, Пыт. мовазн., 119 і Бел. лінгв. зб., 151; Кюнэ, Poln., 79)<лац. *mūrus* 'сцяна, вал, ахова, драўляная вежа'.

**Мур₂,** *му́рава, му́раўка* 'зялёная трава' (Нас., Растарг., Ян., Сцяшк. Сл.), *му́рава, му́раво, му́раў* 'трава, якой зарастае двор' (Бяльк., Сл. ПЗБ), 'дзірван' (Яруш.; КЭС, лаг.; паўд.-усх., КЭС), *му́рова* 'гладун гладкі, Herniaria glabra L.' (жытк., Бейл.), *мура́ва* 'метлюжок аднагадовы, Poa annua L.' (Гарэц.; маг., Кіс.), 'метлюжок звычайны, Poa trivialis L.' (гродз., Кіс.), 'мурожніца, Testuca elatior L.' (Касп., Мядзв.); брэсц., пін. 'аблог', мін., слаўг. 'самае лепшае лугавое сена' (Янк.), *мурава́, мура́ўка* 'густазялёная маладая трава', 'сухадольная сенажаць з добрай травой', 'газон' (ТСБМ, Касп., Яшк., Мядзв., Др.-Падб.), *мурава́нка* 'хаціна, пакрытая дзірваном ці муравою' (Нас.), *муравец* 'галадок аднагадовы, Scleranthus annus L.' (маг., Кіс.; Касп.), *муравы́, мураўцовы* 'светла-зялёны' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Укр. *мурава́,* рус. *мур, мура́, мурок, мура́к, муравей, муравина* 'зялёная трава, месца,

парослае ёю', пск. 'май', варон. 'плесень', ст.-рус. *муравá* 'трава'; польск. *murawa, murawa, murawnik, murawica, murawina, murawne* 'зялёная трава, дзірван', чэш. *muravěnka* 'сорт жыта', славац. *murava* 'дзірван', славен. *murâva* 'мяккая трава', *mûrava* 'казлаброд, Tragopogon pratensis', *morâvka* 'купальнік горны, Arnica montana L', серб.-харв. *му̀рава* 'чарнакорань махнаты, Scorzonera villosa L.', балг. *мурáва* 'нізкая трава'. Найбліжэйшыя і.-е. адпаведнікі: лат. *maũrs, maura, mauriņš* 'дзірван, газон, трава ля хаты, на двары', *mauragas* 'ястрабок валасісты, Hieratium philosello L.', 'падалешнік, Asarum L.', літ. *máuras* 'раска малая, Lemna minor L.' (Мацэнаўэр, 10, 349; Буга, Rinkt, 1, 468; Мюленбах — Эндзелін, 2, 569; Фасмер, 3, 10; Бязлай, 2, 207). Далей няясна. Абаеў (Studia linguistica, 8) параўноўвае слав. *murava* 'мурава' з грузінск. *muro-balaxi* 'сакавітая, густая трава'.

**Мур$_3$** 'зык, вэрхал, моцны крык, гармідар' (Растарг.), бран. *мур рвать* 'моцна квічэць, патрабуючы корму'. Балтызм. Параўн. літ. *tauróti* 'раўці'.

**Мур$_4$,** *мурк* 'пра мурлыканне' (мсцісл., Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. літ. *mur̃kti* 'мурлыкаць'.

**Мур$_5$** 'міра' (мсцісл., бых., віц., Рам. 8), *мýра* ў выразе *адным мýрам мазаны* (Нас.), рус. бран., новасіб. *мур,* варонеж. *мýрава* 'ялей, міра', 'лампадны алей'. Да ст.-рус., ст.-слав. **мѵро** 'міра, націранне алеем'. Да *міра* (гл.).

**Мурá** 'што-небудзь няважнае, пустое', 'глупства, бязглуздзіца' (ТСБМ), 'бульба, звараная ў мундзірах' (Растарг.). З рус. *мурá* 'цура'.

**Мýрава** 'месца, дзе многа мурашыных купін' (жытк., Яшк.), *муравéй* 'скопішча мурашак' (Дразд.), *муравéль* 'мурашка' (мазыр., Шатал.), *муравей* 'тс' (Яруш.), *муравельнік* 'мурашнік' (ТС), *муравéнік, муравéннік, маравіннік, муравейнік* 'тс' (Касп., Бяльк., Яшк., Сл. ПЗБ), *мýраў* 'тс' (ТС), *мураўё, мураўнік* 'тс' (ТС, Бес., Ян.; гродз., бар., Сл. ПЗБ). Укр. *муравéль,* рус. *муравéй,* ст.-рус. *моровии,* рус.-ц.-слав. *мравии,* польск. *mrówka,* палаб. *mórvě,* н.-луж. *mroja,* в.-луж. *mrowja,* чэш. *mravenec,* славац. *mravec, mravík,* славен. *mrávlja, mrâv, mrâvec, mravljinec,* зб. *mrâvje,* серб.-харв. *мрâв,* макед. *мрава, мравља, мравка,* балг. *мрáвка, мрава* — усе са значэннем 'мурашка'. Прасл. *morvьjь, morvьja* з і.-е. **moru̯o-:* авест. *maoriš, maoiri-,* перс. *mor,* ст.-інд. *vamraṣ,* с.-ірл. *moirb,* ст.-ісл. *maurr,* ст.-швед. *myr, mýra,* лац. *formīca,* ст.-грэч. μύρμηξ, βύρμᾱξ, ὅρμικας 'мурашка', літ. *merva, marvá* 'авадзень' (Міклашыч, 202; Бернекер, 2, 79; Траўтман, 170; Покарны, 749; Махэк$_2$, 378; Бязлай, 2, 199). Рус. *моровéй*



пад уплывам *муравá* ператварылася ў *муравей* (**Фасмер, 3,** 11).

***Муравáты,** *мурoвáты* 'цёмна-шэры' (ТС), *мýры* 'светла-карычневай масці' (мазыр., З нар. сл.), 'цёмна-сівы' (**лельч.,** Нар. лекс.), 'смуглы, светла-карычневы' (ТС), рус. *мурый* 'цёмна-карычневы', укр. *мýрий* 'цёмна-шэры з плямамі (аб масці)', 'смуглы', чэш. *mourovatý* 'пачарнелы, цемнаваты', *moura* 'шэрая (бурая) карова'. Да прасл. *murъ,* і.-е. адпаведнікамі якога з'яўляюцца: ст.-грэч. ἀμαυρός 'цёмны', аркадск. μαῦρος, с.-грэч. μαῦρος 'цёмны, чорны' (Цупіца, ВВ, 25, 101; Фасмер, 3, 15; Махэк$_2$, 377).

***Муравáць,** *мурoвáць* 'поўзаць, заседжваць (аб мухах, мурашках)' (ТС). Да *+мур* (магчыма, паўн.-прасл. *murъ):* рус. варон. *мур* 'цвіль', чэш. *mour,* славац. *múr* 'вугальны пыл, сажа'. І.-е. адпаведнікі: літ. *máuras* 'бруд, гразь', арм. *mrur* 'тс', літ. *mùrti* 'намакаць', *mùrdyti* 'пэцкаць', лат. *murît* 'тс' (Махэк$_2$, 377; Фасмер, 3, 10—11).

**Муравéйнік** 'парода мядзведзяў (Ursus formicarius, якія любяць раскопваць мурашнікі' (Анік., Нас., Касп.). Разам з рус. пск., цвяр., перм. *муравейник* складае адзіны паўн.-бел.-рус. арэал. Да рус. *муравéй* 'мурашка'.

**Муравіны,** *муравінки, мурыны, мур змываць* 'абрад купання дзіцяці на другі (трэці, восьмы) дзень хрысцін ад мірапамазання і частаванне з гэтай нагоды' (Нас., Анік., Мікуц., Шн., Мядзв., Касп., Чуд.; Нас. Бел. песни; Сцяшк. Сл.; Юрч. Фраз. 3). Да *мур$_5$*<ц.-слав. *мѵро* 'міра'. Параўн. таксама рус. пск. *мурúть* 'мазаць мірам'.

**Мурáвушка** 'масавы танец на адкрытым месцы' (воран., Сцяшк. Сл.). Да *мур$_2$* (гл.).

**Муражоўка** 'лугавая апенька' (ветк., Мат. Гом.). Да *мурог*>*муражок* (гл.).

**Мýрак,** *мýрачак* 'выступ у печы, на якім можна сядзець, прымурак', 'вузкая рамка пяколка для мыла і запалкаў' (Сцяшк., В. В.; шчуч., З нар. сл., Сл. ПЗБ; ветк., Мат. Гом.). Відаць, паланізм. Параўн. польск. *murek* 'тс'. Да *мур$_1$* (гл.).

**Мурáль** 'муляр' (Гарб., Нас.). Да *мýляр* (гл.). Распадабненне *р...р*>*р...л*.

**Мýрамка** — назва гульні «схованкі» (Ян.). Няясна.

**Мураніца** 'цагляны (каменны) дом' (Шат.). У выніку кантамінацыі *мур$_1$* і *камяніца* (гл.).

**Мураўцá** (навагр.), *мурáўка* (лях., дзятл.) 'мурава' (Сл. ПЗБ). Да *мур$_2$* (гл.).

**Мýраха** 'муравей' (драг., КЭС і З нар. сл.; малар., стол., Сл. Брэс.), *мурáха* 'тс' (Бес., Дразд.; бяроз., Шатал.), *мурахóўё* 'мурашкі' (рэч., Нар. сл.). Укр. *мурáха* 'тс', 'мурашкі'.

Утвораны ад *мур-ы* (гл. *муравáты*) пры дапамозе суфікса *-аха* (Слаўскі, SP, 1, 72). Палескае. З семантычным пераносам — *мураха* 'кузырка' (Дразд.). Аналагічна ў іншых гаворках: параўн. рус. яросл. *мурашá* 'ўсялякія дробныя кузуркі'.

**Мурáшка** 'насякомае з атрада перапончатакрылых, Formicidae' (ТСБМ, Гарэц., Мядзв., Зн., Яруш., Сцяшк., Нас., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *мурáш* 'тс' (ТСБМ, Нар. Гом.), *мурáшкі* 'месца, дзе многа мурашыных купін' (Янк.), *мурáшка-пумпáшка* 'божая кароўка', рус. арханг. *мурáш* 'мурашыны цар', яросл. *мурашá* 'усялякія дробныя кузуркі', томск. *мурашек* 'мурашка', кіргізск. *мурáшка* — аб нечым бурым, рыжым; польск. *muraszka, muraśka* 'мурашкі' пашырыліся аж на Мазуры з бел. моўнай тэрыторыі (Зданцэвіч, Бел.-польск. ізал., 39). Утворана ад *мýраха* (гл.) пры дапамозе памяншальнага суфікса *-ьk-*.

**Мурáшнік**₁ 'капец зямлі, лісцяў, дзе жывуць мурашкі' (ТСБМ, Шат., Др.-Падб., Касп., ТС, Сл. ПЗБ; слаўг., Яшк.), драг. *мýрашнык* (Лучыц-Федарэц), гродз. *мурáжнік*, лід. *мурашэчнік* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *мýраха* (гл.). Аб суфіксе *-нік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 117—118.

**Мурáшнік**₂ 'дзік' (Нар. Гом.). Да *мурáшнік*₁. Параўн. аналагічна рус. пск., цвяр., смал., перм. *муравéйник* 'тс'.

**Мурашы́вы** 'гнілы, спарахнелы' (маст., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі лексем *мурашнік*₁ (гл.) і польск. *zmurszaty* 'збуцвелы'.

**Мургáць** 'міргаць' (Жд. 1), рус. пск., цвяр. *мýргать* 'тс' можна разглядаць як балтызмы (параўн. літ. *murgai*, лат. *mùrgi* 'мроі', літ. *murgsóti* 'сядзець зажмурыўшыся'), якія, аднак, утвараліся побач з бел. *мíргаць, маргáць* (гл.).

**Мурдавáцца** 'не стаяць на адным месцы, быць неспакойным (аб скаціне), гізаваць' (Растарг.). Да прасл. *mъrdati* 'рухаць, варушыць, махаць' (гл. больш падрабязна Куркіна, ОЛА-1972, 215—219). Гл. *морда*₁.

**Мурдáсна** 'брудна'. Відавочна, балтызм. Утвораны паводле *жýдасна* (<*жудá*), параўн. літ. *mùrdyti* 'пэцкаць'

**Мурдзéль** 'тоўсты' (Пасожжа, Яшк., Бел.-польск. ізал., 153). У выніку кантамінацыі *мардзéль* 'морда' (параўн. рус. разан. *мордель* 'тс') і *мурлó* 'тс'.

**Мýрза**₁ 'неахайны або мурзаты чалавек' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Чач., Растарг., Нікан., Сл. ПЗБ, ТС), 'губа' (Нас.), *мурзéля* 'тс', 'бруднае дзіцё' (ТС), 'запэцканы твар' (паўн.-усх., КЭС), клец. *мурзэля* 'тс' (Нар. лекс.), міёр. *мурзáч, мурзэль, мурзэла, мурзэліна* 'брудны, мурзаты' (З нар. сл.), *мýрзаць, мýрзацца* 'пэцкаць твар, зубы', 'рабіцца брудным' (ТСБМ, Нас., Янк. 2, Шат., ТС; КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. літ. *mùrza*, лат. *mur̃za* 'брудны, мурзаты чалавек', літ. яшчэ 'твар, рот' (параўн. адпаведнае значэнне ў бел. лексемах), якія ад *mùrti* 'размакаць', 'гразнуць, вязнуць' пры дапамозе суфікса *-z-* (Лаўчутэ, Балтизмы, 121—122). Аналагічна ўкр. жытом. *мурзатий*, усх.-польск. *murza, murzacz, murzać; murzaty, murzasty*, 'сабака чорнай масці', *murzuwaty* 'шэры конь', *mrużaty, mrożaty* 'шэра-светла-карычневы конь', рус. *мýрза, мурзá, мурзáйка, мурзáки* 'твар' (Літ., Латв. ССР).



**Мýрза**₂ 'павідла з чарнікі і мукі' (стол., Вешт. дыс.), 'страва з чарніц' (ТС), *мурзáч* 'страва з мукі і смятаны' (петрык., Мат. Гом.). Укр. жытом. *мурза* 'павідла'. Відавочна, балтызм. Параўн. *murzóti* 'намазваць, мазаць'.

**Мурзá** 'тытул татарскай феадальнай знаці ў XV ст.; асоба з такім тытулам' (ТСБМ), ст.-бел. *мурза, мурса, мырза* 'тс' (XV ст.) запазычаны са ст.-рус. *мурза*<тат. *myrza*<перс. *mīrzā* або і непасрэдна з крым.-тат. мовы (Булыка, Лекс. запазыч., 27) Жураўскі (Цюркізмы, 86) лічыць гэта слова экзатызмам.

**Мурзáч** 'нягоднік' (пін., Сл. Брэс.). У выніку кантамінацыі лексем *мýрза*₁, *мурзáты* і *мярзотнік*, тураў. *мерзáву* 'нягоднік'.

**Мýрзацца** 'зацягвацца хмаркамі (аб небе)' (Янк. 2), *мурзáціцца* 'хмарыцца' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *мурза*₁, *мýрзаць* 'пэцкаць, чарніць, брудзіць'.

**Мýркаць,** *мýркнуты, мурнýць, муркотáць* 'ціха вурчаць, утвараючы гукі «мур-мур» (пра ката)', 'мармытаць, бурчаць, гаварыць сабе пад нос' (ТСБМ, Выг. дыс., ТС; З нар. сл., ігн., шальч., Сл. ПЗБ), 'паціху падаваць голас' (ТС). Укр. *мýркати, мýркнути, муркотáти* 'тс'. Бел.-укр. ізалекса. Балтызм. Параўн. літ. *mur̃kti, murkúoti, murksóti* 'мурлыкаць', 'сядзець прыжмурыўшыся' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 85). Сюды ж пін. *мýрка* 'мянушка сабакі' (КЭС). Спрошчана як гукапераймальнае тлумачыць паходжанне Васілеўскі (Прадукт. тыпы, 72, 79). Гэтак жа і аўтары ЕСУМ (4, 538).

**Мурлáт,** *мурлáта, мурлáціна* 'апрацаванае бервяно памерам 10×5 см' (Сцяшк.), 'апошняе бервяно (верхні вянец зруба), на якое абапіраюцца кроквы' (Тарн., Шушк., ТС; глус., Янк. Мат.; КЭС, лаг.; нараўл., КЭС; міёр., Нар. словатв.; Касп., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), 'бэлька' (Ян.), кам. 'кладзь, апора страхі на сохах', нараўл. 'падруба ў доме' (Нар. сл.); кобр. *мурлатэ* 'бярвёны над вокнамі' (Сл. Брэс.); ст.-бел. *мурлатъ, мулатъ, мулартъ, мурлятъ* (XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *murłat, murłata*, якое з с.-в.-ням. *mūrlatte*, суч. ням. *Mauerlatte*, якое з *mūr* 'сцяна' і *latte* 'жардзіна', 'паласа'

4. Зак. 922

(Чартко, Бел. лінгв. зб., 150; Булыка, Лекс. запазыч., 97; Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 85).

**Мурла́та** 'франтон' (кобр., ДАБМ, к. 230). Да *мурла́т* (гл.). Семантычны перанос паводле сумежнасці: відаць, франтон рабіўся з *мурлат* (ачасаных бярвенняў) накшталт больш старога *закоту* — узвядзення папярочнай сцяны аж да вільчыка з бярвенняў; а не з дошак, як пазней.

**Мурло** 'хара', 'тоўсты і шырокі твар чалавека', 'чалавек з такім тварам', 'грубы, неахайны', *мурла́ты, мурла́сты* 'мардаты' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Растарг.; мсцісл., Нар. словатв.; КЭС, лаг.; глус., Янк. Мат.; паўд.-усх., КЭС). Укр. *мурло,* рус. тамб., сіб. *мурло, мурно* 'морда жывёлы, рот', тул. *мурлё* 'шчокі'. Даль (2, 941), Гараеў (219) узводзяць да цюрк. *turun, burun* 'нос', а заканчэнне *-ло* пад уплывам лексемы *рыло.* Фасмер (3, 13) дапускае анаматапеічнасць. Можна, аднак, дапусціць, што усх.-слав. *мурло́* ўтварылася ў выніку кантамінацыі некалькіх лексем як са значэннем 'брудны, неахайны' (параўн. літ. *máura*), так і 'шырокая морда, рот, твар, губа, хара' (параўн. літ. *máulė, terlẽ, marmū̃ze, burnà*).

**Мурлы́каць** 'муркаць', 'гаварыць, напяваць мяккім голасам', (ТСБМ, Яруш.). Рус. *мурлыкать, мурлычить,* варон. 'неразборліва гаварыць', кастр. 'дрэнна спяваць', кур. 'няясна чытаць', пск., цвяр. 'манатонна, журботна і ціха пець'. Бел.-рус. ізалекса. Гукапераймальнае (Фасмер, 3, 13). Гэтак жа Васілеўскі (Прадукт. тыпы, 79).

**Мурмата́ць** 'мармытаць' (Гарэц., Др.-Падб.). Да *мармыта́ць, мумрыта́ць* (гл.).

**Мурме́ль** 'маўклівы, негаваркі чалавек' (астрав., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 85), паходзіць з літ. *mùrma* 'бурклівы чалавек'.

**Му́рнік,** *му́ршчык* 'пячнік' (брасл., Сл. ПЗБ). Рус. пск. *му́рник* 'муляр', прыбалт. (Літ. і ЛатвССР) 'пячнік'. Балтызм. Параўн. літ. *mūrininkas,* лат. *mùrnieks* 'тс' (Грынавяцкене, 3, 85).

**Мурны́каць** 'мурлыкаць', 'мармытаць, спяваць сабе пад нос' (Нас.). У выніку кантамінацыі лексем *мурлыкаць* і *курна́* 'мурлыканне'.

**Мурова** 'аблога' (бяроз., Сл. Брэс.). Да *мур₂* (гл.).

**Муровасты,** *муровастый* 'чорна-карычневы, чорна-чырвоны (аб адзенні, поўсці жывёл)' (Клім.). Да *мурава́ты* (гл.).

**Муровы** 'мураваны' (Маш.). Да *мур₁* (гл.).

**Мурог₁,** *мурога, муражы́на, муражок, маржок, мурожніца, мурожжа, мурожнае сена* 'лугавое сена лепшага гатунку з невысокай мяккай травы з сухога лугу', 'сухі луг' (ТСБМ, Чач., Др.-Падб., Сцяшк., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Яшк., Сл. ПЗБ, Ян., ТС, Сцяшк. Сл.; КЭС, лаг.), паўд.-усх. *му́рўог* 'дзірван' (КЭС). Укр. *мурі́г, морі́г* 'дзірван, мурава', рус. *мурог* 'сенакос, луг, дзірван'. Балтызм. Параўн. лат. *tauragas* 'ястрабок валасісты, Hieracium pilosella L.', *tauriņš* 'мурава, лужок' (Буга, Rinkt, 1, 468; Мюленбах — Эндзелін, 2, 569; Фасмер, 3, 13—14).



**Мурог₂** 'аўсяніца, Festuca L.' (Мядзв., Гарэц., Др.-Падб., ТС, Бір. Дзярж., Касп.), *мурожніца* 'тс' (маг., Кіс.), *мурог, моро́г* 'гладун гладкі, Herniaria glabra L.' (лельч., стол., Бейл.), 'вострыца дзярністая, Deschampsia caespitosa P. Beauv.' (маг., гом., Кіс.; Ян.), 'утаптанае каля дарогі месца, густа парослае драсёнам птушыным, Polygonum aviculare L. і дзяцелінай' (Яшк.), 'маннік водны, Glyceria aquatica Wahlb.' (Яруш.). Да *мурог₁* (гл.).

**Му́рож** 'будаўнік, каменшчык' (ТС). З польск. *murarz* 'тс'.

**Мурожка** 'аблямаванне зелянінай градак, клумбаў, дарожак у садах' (слаўг., Яшк.). Да *мурог₁* (гл.).

**Мурозны**к 'позняя кветка' (бяроз., Сл. Брэс.). Да *мароз* (гл.).

**Мурок** 'выступ у коміне, на які кладуць запалкі' (свісл., Шатал.; бераст., Сцяшк. Сл.). Да *мур₁, му́рак* (гл.).

**Муроўка₁** 'мураванне', 'матэрыял для муравання' (ТСБМ, Нас.). Да *мурава́ць* (гл.).

**Муроўка₂** 'божая кароўка, Coccinella septipunctata' (міёр., Шатал.). З+ *моро́йка*, роднаснае да польск. *mrówka*<прасл. *morvьja* 'муравей'. Гл. *мураве́йнік.*

**Муроўка₃** 'мурава, густая мяккая трава' (докш., Янк. Мат.; Бяльк.). Да *мур₂* (гл.).

**Муртаўня́** 'мурашнік' (Бір. дыс.). Відаць, у выніку кантамінацыі слоў *гурт* і *+мурай-ня.*

**Муру́гі** 'масць паляўнічага сабакі' (Інстр. II), ст.-бел. *мургъ* 'парода сабакі', якое, паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 143), запазычана са ст.-польск. *murga,* яно ў суч. польск. мове азначае 'назва сабакі', 'вол любой масці', 'некультурны чалавек'. Параўн., аднак, укр. *мору́гий, муру́гий* 'рыжы або цёмнашэры з цёмнымі палосамі', *муру́га* 'шэра-белы вол з больш цёмнымі палосамі', рус. *муругий* 'паласаты, з плямамі', якія ўзыходзяць да прасл. *morǫgъ* (польск. *morąg* 'цёмная паласа ў жывёл', *moręgi* 'чорны з чырвоным', славен. *maróga* 'пляма, паласа') — усе суадносяцца з *мара́ць* 'пэцкаць' (Фасмер, 3, 14). Сюды яшчэ чэш. *merhy* 'pági — 'палосы на запацелых вокнах', *merhovati* 'рабіць паласатым' (Махэк₂, 360).

**Мурту́шка** 'мачанне' (трак., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *mùrti* 'размакаць, размякаць'.

**Мурцава́ць** 'есці з вялікім апетытам' (КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. літ. *mùrdyti* 'запіхваць', 'таўчы'. Зычны *-ц-* пад уплывам *мурцоўка* (гл.).

**Мурцоўка** 'цура (хлеб з квасам)' (Касп., Сл. ПЗБ; паўн.-усх., КЭС; в.-дзвін., полац., Нар. Сл.), 'страва з накрышанага хлеба ў вар' (КЭС, лаг.), 'яечня з мукою' (Шат.), 'каша з ячных круп' (іўеў., Сл. ПЗБ), 'страва з цёртага канаплянага семя, вады, хлеба, солі і алею' (Бяльк.), бяроз. 'рулі' (Вешт.), *мурсоўка* 'зацірка з мукі, вады і алею' (Ян.), *мурцы́* 'цура (кавалачкі хлеба, вада, соль)' (даўг., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *mùrti* 'размакаць', *mirksóti* 'мокнуць': першапачаткова цуру рубілі з чэрствага, сухога хлеба, які размочвалі ў вадзе. Параўн. таксама рус. разан., новасіб. *мочёнка, мо́ченка* 'цура'. Аналагічна Вештарт (Бел.-рус. ізал., 17—18).

**Мурча́ць,** *мурчэць* 'бурчаць', 'ціха вурчэць (пра ката), муркаць' (Грыг., Сл. ПЗБ, Ян; мазыр., Шатал.), 'мармытаць' (Крыў., Са сл. Дзіс.). Укр. *му́рча́ти* 'тс', рус. *мурчать, мурчеть,* польск. *mruczeć* 'тс', чэш. *mručeti, mrukati, mrčeti,* славац. *mručať*, славен. *mŕčati,* серб.-харв. *мр̏штати* 'бурчэць у жываце'. Старое гукапераймальнае ўтварэнне, мае паралелі першай зычнай *m-/b-/v-*. І.-е. паралелі: літ. *uř̃kti* 'бурчаць', 'вурчаць', лац. *urcare* 'раўці, крычаць (аб рысі)' (Міклашыч, 384; Траўтман, 353; Буга, Rinkt., 1, 492; Фасмер, 3, 14; Махэк₂, 381; Бязлай, 2, 200).

**Мурша́вы** 'гнілы' (свісл., Шатал.; ваўк., Сл. ПЗБ; смарг., Сцяшк. Сл.); *му́ршыны* 'парахня' (ваўк., Сл. ПЗБ). Укр. ровенск. *му́рша* 'гніль, парахня ў сярэдзіне дрэва', 'лес з такой хваробай'. Запазычаны з польск. *murszeć* 'буцвець', *mursz* 'гніенне', *murszaty, zmurszały* 'збуцвелы', якія з с.-в.-ням. *mürsen* 'таўчы', усх.-с.-ням. *morsch* 'гнілы, стары, крохкі' (Брукнер, 655).

**Му́ры,** *му́рэнькі* 'светла-карычневы' (ТС). Да *мурава́* (гл.).

**Му́рыва** 'мурава-трава' (Бір. Дзярж.). Да *мур₂, му́рава* (гл.).

**Муры́жыць** 'церці', 'няўмела вастрыць', 'сварыцца, грызці' (Юрч.), 'цягаць туды-сюды' (Бяльк.). Рус. пенз., ленінгр. *муры́жить* 'нудна лаяць', *муры́сать* 'мучыць, тузаючы, торгаючы', варон. *мура́жить* 'лаяць', кастр. *мурзова́ть* 'даводзіць каго-небудзь гульнёй да стомы', перм. *мурлы́жить* 'здзекавацца'. Няясна.

**Му́рын** 'негр, арап', 'чорны, смуглы' (Грыг., ТСБМ, Нас., Шат., Сцяц.), *муры́нка* 'загарэлая, цёмная жанчына' (Нас.), ст.-бел. *муринъ* 'негр' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *murzyn,* якое са ст.-в.-ням. *môr* 'маўр'<лац. *maurus* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 126; Кюнэ, Poln., 79; Міклашыч, 204; Фасмер, 3, 13). Лексема *муры́нка* была ўтворана паводле польск. *murzynka* 'негрыцянка'.



**Мурынцоўка** 'каляровая хустка' (Інстр. II, Касп.). Няясна.

**Муры́цца** 'жмурыцца ў гульні' (Ян.). Славен. *múriti se* 'схіліць вушы назад (аб кані)', 'схіліць галаву', 'хітравата глядзець'. Бязлай (2, 207) генетычна суадносіць з літ. *maũryti* 'гультаяваць', 'патрэсвацца', *mauróti* 'капацца'.

**Мурышка** 'галадок многагадовы, Scleranthus perennis L.' (вілен., Кіс.), *муравец* 'галадок аднагадовы, Sclerantus annuus L.' (маг., Кіс.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *máuras* 'твань, гразь', *aрtaurо́ti* 'пакрыцца мохам'. Расліны названы паводле шызаватага колеру лісця. Параўн. чэш. *chmerek,* славац. *chmerek* 'галадок', якія паходзяць ад *mech*<прасл. *mъchъ* 'мох'.

***Мурэ́й,** *мурі́й* 'дробнае і мяккае сена' (малар., Нар. лекс.). Да *мур₂, му́рава* (гл.). Аб суфіксе *-ей (-эй)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 151.

**Мурэна** 'марская рыба Murena helena L.' (ТСБМ). Кніжнае запазычанне з рус. *мурена,* якое з ням. *Muräne*<лац. *muraena*<ст.-грэч. *μύραινα*<ст.-грэч. *μῦρος* 'марскі вугор' (Махэк, ZfslPh, 18, 55; Фасмер, 3, 12).

**Мурэц** 'нырэц (у ваду)' (пух., З нар. сл.). Да *ныра́ць* (гл.). Аб мене *н*>*м* гл. Карскі, 1, 324; *-у-* (замест *-ы*), магчыма, пад уплывам польск. *dać nurka* 'нырнуць, шмыгнуць', драг. *да́тэ ну́рта* 'тс'.

**Мус₁** 'павіннасць, неабходнасць, прымус, насілле' (Нас., Др.-Падб., Гарэц., Сцяшк., Бяльк., Сл. ПЗБ; добр., Рам. 1), 'гульня ў карты без пасаў' (Нас.), ст.-бел. *мусъ* 'неабходнасць, прымус' (XVI ст.) — запазычанне са ст.-польск. *mus* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 137), якое з *musieć* (ст.-в.-ням. *muozan,* с.-в.-ням. *müeзen* 'вольны час; мець магчымасць', суч. ням. *Muβ,* магчыма, з фразы *man muβ* 'трэба'). У ст.-польск. мове *mus (mos)* яшчэ мела значэнне 'гарнец (мера)'.

**Мус₂,** *мусы* 'зарослы травою выган' (Нар. Гом.— І. Навуменка, КТС). Няясна. Магчыма, з ням. *Mus* 'ежа' (г. зн. 'паша').

**Му́са,** *муса́, му́со, му́сіна* 'хара', 'морда жывёлы' (Янк. 1, Нікан., ТС; лельч., Мат. Гом., Нар. лекс.; жытк., мазыр., Жыв. сл.), 'не пакрытая поўсцю пярэдняя частка галавы каня' (гом., ЛАПП). Да *мыса* (гл.). -у- — характэрная замена фанемы [ы] ва ўсх.-палес. гаворках.

**Му́са́ка** 'сукравіца', 'гной раны', 'юшка (з носа)' (Нас.,

Касп.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *mūšis* 'рана', *mūsai* 'цвіль'. З апошняга польск. беласт. *musy* 'асадак, адстой' (Лаўчутэ, Балтизмы, 81).

***Мусат** 'крэсіва' (паўн.-усх., КЭС), ст.-бел. *мусатъ* 'сталь для вастрэння шабель' (XVI ст.) запазычана з польск. *musat*, якое з тур. *masad* 'тс' (Міклашыч, 184; Праабражэнскі, 1, 570; Булыка, Лекс. запазыч., 71). Аналагічна рус. *мусáт* (Фасмер, 3, 15).

**Мýсі,** *мýсе, муся, мýсіла* (Жд. 1, Сл. ПЗБ, Яруш.; шчуч., З нар. сл.; КЭС, лаг.; капыл., Нар. словатв.; Нас.), капыл. *мýсяка* (Жыв. сл.), драг. *мýсытька* 'тс' (КЭС), капыл., в.-дзв. *мýсябыць (Нар. словатв., Шатал.), мýсібыць* 'тс', 'мабыць' (Янк. 3), 'відаць' (ТСБМ; нясв., Сл. ПЗБ). Да *мýсіць* і *быць* (гл.).

**Мýсіць,** *мýсяць* 'падлягаць прымусу', 'быць вымушаным, абавязаным зрабіць', 'думаць, меркаваць', 'збірацца рабіць', 'мабыць, напэўна, магчыма' (ТСБМ, Гарэц., Мал., Мядзв., Яруш.; Нік. Очерки, Янк. Мат., Нас., Сцяшк., Касп., Шат., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.), *мýсіцца* 'быць змушаным', 'рашыцца' (Нас.), ст.-бел. *мусити, мусети* 'быць абавязаным', 'мусіць' (пач. XV ст.) запазычана са ст.-польск. *musić, musieć* 'тс', якія з с.-в.-ням. *müezen* 'тс' (Карскі, Труды, 205; Чартко, Бел. лінгв. зб., 151; Жураўскі, Бел. мова, 63; Кюнэ, Poln., 79; Булыка, Лекс. запазыч., 137). Гл. таксама *мусова.*

**Мускáт** 'арэх і насенне мускатніку, Myristica', 'сорт духмянага вінаграду і віно з гэтага вінаграду' (ТСБМ). З рус. мовы. Ст.-бел. *мушкатъ* 'мускатны арэх' (XV ст.) было запазычана са ст.-польск. *muszkat*<ст.-чэш. *muškát*, якія з с.-в.-ням. *muscât*<с.-лац. *muscātum* 'тс' (Міклашыч, 2, 175; Фасмер, 3, 20; Кюнэ, Poln., 79; Булыка, Лекс. запазыч., 148).

**Мусколь,** *мускýль, музколь* 'дробная кусліваая машкара' (ТС). Да *музкýль* (гл.).

**Мýскул** 'мышца' (ТСБМ, Бяльк.), светлаг. *мускýла* 'тс' (Мат. Гом.), драг. *мускýлэ* 'мышцы' (Лучыц-Федарэц). З рус. *мускул* 'тс', якое з'яўляецца кніжным запазычаннем з лац. *musculus* 'мышка' ад *mūs* 'мыш' (Фасмер, 3, 16).

**Мýскус** 'пахучае рэчыва' (ТСБМ), ст.-рус. *мускусъ, мъскусъ, москосъ* 'тс', якія праз лац. *muscus* ці ст.-грэч. μόσχος 'тс' з перс. *mušk* 'бабровая струя'<ст.-інд. *muşkás* 'яечка' (г. зн. сакрэт з залоз некаторых жывёл). У бел. мове (паводле Крукоўскага, Уплыў, 79) — з рус. мовы.

**Муслíн** 'тонкая бавоўняная ці шаўковая тканіна палатнянага перапляцення' (ТСБМ), браг. *муслíноўка* 'шарсцяная хустка' (Мат. Гом.), *мыслíноўка* 'сітцавая хустка з кветкамі' (Сцяц.). З польск. *muślin* (ці з рус. *муслин*), якія з франц. *mousseline* ці з ням. *Musselin* 'тонкая тканіна' ад назвы горада *Мосул,* што на рацэ Тыгр (Фасмер, 3, 16). Ад гэтай назвы горада паходзіць і ст.-бел. *муселбесъ, масалбасъ, мусалбасъ* 'бавоўняная падкладка' (<асм.-тур. *Mosul* і *bez* 'палатно') (Булыка, Лекс. запазыч., 114; Рабаданава, БЛ, 21, 54).



**Мýсліць** (іран.) 'думаць, меркаваць' (Нас.). З рус. пск., цвяр., смал. *муслить* 'тс', *муслять* 'мудрыць' складае адзін арэал. Утварылася як кантамінацыя лексем *мыслить* і *мусолить*. Пра апошняе гл. Фасмер (3, 16).

**Мусова,** *мусóво* 'неабходна, абавязкова, вымушана' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., Сцяц., карэліц., Жыв. сл.; драг., КЭС), *мусовы* 'абавязковы' (іўеў., Сцяшк. Сл.). З польск. *musowo, musowy* 'тс'.

**Мусоліцца** 'забруджвацца ад неахайнага карыстання, зашмальцоўвацца', *мусоліць* 'часта дакранацца насліненымі або бруднымі пальцамі' (ТСБМ). Не зусім яснае слова. Рус. *муслить, мусолить, муслякать* 'тс'. Магчыма, генетычна звязаны са ст.-грэч. μύδος 'вільгаць, гніллё', μύζω, μυζάω 'смакчу', ст.-інд. *mudirás* 'хмара', с.-ірл. *muad* 'тс', новав.-ням. *Schmutz* 'грязь, бруд' (Фасмер, 3, 16—17).

**Муст** 'свежы сок з вінаграду ці іншых фруктаў', 'маладое салодкае віно' (ТСБМ). Праз рус. мову з н.-ням. *most, must,* якія з лац. *mustum* 'маладое віно'.

**Мусульмáнін** 'магаметанін' (ТСБМ), ст.-бел. *мусулманинъ* 'тс' (XVI ст.), якое з татар. *musulman*, асм.-тур. *musulman*, тур. *musliman*, перс. *musulmân*<араб. *muslim* 'тс' (Міклашыч, 205; Фасмер, 3, 17; Булыка, Лекс. запазыч., 176).

**Мусы́ка** 'гнойная матэрыя' (Гарэц.). Да *мусáка* (гл.).

**Мусля́к** (груб.) 'нязграбны чалавек' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Рус. пск., цвяр. *муслúк, муслáк* 'неахайны чалавек', уладз., казан. *муслюм* 'нязграбны, дурнаваты мужчына, сапляк'. Апошняе, аднак, Корм (AfslPh, 9, 657) выводзіць з араб.-тур. *muslim* 'мусульманін'. Да *мусоліцца* (гл.).

**Мут,** *мýта, мутá* 'каламута, асадак, іл', 'блытаніна, блытанае тлумачэнне' (Нас., Юрч., Янк. 3, Янк., БФ., Шат., Сл. ПЗБ, Растарг., Яшк., Сцяшк. Сл.; КЭС, лаг.), 'памутненне ў вачах' (паст., Сл. ПЗБ). Рус. *мут* 'вір', 'асадак', *мýтá* 'асадак', 'непарадак', польск. *mąt* 'замяшанне', 'сутычка', *męt* 'асадак', ст.-славен. *smota* 'скандал', суч. *zmôta* 'памылка, недахоп', *mȍt* 'асадак, гушча'. Прасл. *mǫtъ, mǫta*<*mǫtiti*>*муціць* (гл.).

**Мýтар** 'клопаты; цяжкая, непрыемная праца' (Нас.). Да *мы́та* (гл.) 'плата, пошліна' і ад яго рус. *мытáрь*>*мытарство,*

*мыта́рить* 'мучыць, мардаваць, мары́ць, пакутаваць'. Аб пераходзе *ы>у* гл. Карскі, 1, 237—239.

**Мута́р** 'падманшчык, ілгун' (бяроз., Шатал.). Да *муці́ць* (гл.).

**Му́тарна,** *му́торно* 'моташна, вельмі цяжка, непрыемна, дрэнна' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Касп., Растарг., Нар. Гом., ТС, Сцяшк. Сл.; маладз., Янк. Мат.). Рус. тамб., цвяр. *му́торно* 'цяжка', бран. 'павольна'. Да *+му́торыць* (параўн. рус. кур. *муторить* 'ванітаваць; муціць', 'дурыць галаву'), якое ад *муці́ць* (гл.).

**Мутарэс** 'разак, Stratiotes L.' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *мударэз* (гл.).

**Мутасок** 'учкур у портках' (паўн.-усх., КЭС). Рус. тул. *муто́взок, мутовзо́к,* варон. *муто́зак, муто́вузок,* азерб. *муто́зик,* пенз. *мутове́зок,* пск. *мутовязь* 'вяровачка, тоўстая нітка'— усе (і іншыя) з *motovǫzъ.* Да *мата́ць* і *вузел* (гл.). Гл. яшчэ *мутавя́з, мату́з.*

**Му́тач** 'хлус' (пін., З нар. сл., Шатал.). Да *муці́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ач* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 31.

**Мутва́** 'канаўка з вадой, азярына' (нараўл., Яшк.). Да *мут* (гл.). Аб суфіксе *-ва* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 202. Сюды ж *мутвіца* 'рыбалоўнае месца, заліў' (Нас. АУ).

**Му́ткі** 'капшук' (ашм., Сл. ПЗБ). Да *муды́, му́дзікі* (гл.).

**Муткі** 'дрыжнік сярэдні, Briza media L.' (маг., Кіс.). Няясна. Да *муці́ць* (гл.) 'не даваць спакою, трывожыць': мяцёлка расліны амаль увесь час непакоіцца; трасецца, дрыжыць.

**Му́тлавіца,** *му́тлавыця* 'вельмі брудная вада ў непраточнай сажалцы' (Клім.). Да *муці́ць>мут>+му́тлавый* 'мутны'. Параўн. таксама усх.-палес. *му́тлаўка* 'мутная вада' (КЭС).

**Му́тнік** 'пучок саломы, які прывязваецца да ніжняй падборы невада ці брадніка' (паўн.-усх., КЭС), 'невад для лоўлі рыбы на вялікіх глыбінях' (Паазер'е, Браім). Да *мут* (гл.): салома ці анучкі муцілі ваду, і каламута адганяла рыбу на шлях руху невада.

**Му́тны** 'нячысты, каламутны', 'пацямнелы, затуманены', 'зямліста-шэры, туманны', 'недастаткова выразны, абгрунтаваны', хойн. 'сумны', хойн., калінк. 'брудны' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ; лаг., Жыв. сл.; гродз., КЭС). Укр. *мутни́й,* рус. *му́тный, мутно́й,* польск. *mętny,* луж. *mutny,* чэш., славац. *mutny,* славен. *môtèn,* серб.-харв. *му́тан,* макед. *матен,* балг. *мътен.* Прасл. *mǫtьnъ.* Да *мут, муці́ць* (гл.).

**Мутня́** *мутне́* 'узбоўтванне', 'плёткі', 'сварка, парушэнне згоды', 'хлусня', 'мешаніна вадкага з гушчай' (Нас.; кобр., драг., З нар. сл., Сл. Брэс.). Рус. *мутня́* 'беспарадак', 'плёткі', 'боль у жываце'. Да *муці́ць* (гл.).



***Мутовяз,** *муто́выз* 'дзяга (учкур) у штанах' (паўн.-усх. КЭС). Рус. *мутове́з, муто́виз, муто́ва́с* і інш. Да прасл. *motovǫzъ<motati* 'матаць' і *vǫzъ* 'вузел' (Фасмер, 2, 664). Гл. таксама *мату́з, мотуз.*

**Му́тра** 'гайка на возе, якая трымае кола ў драбінах' (Масл., Сл. ПЗБ, палес., Жыв. сл.; навагр., Шатал.), 'гайка, якая трымае атосу' (Масл., Сцяшк. Сл.), пін. *мутэрка* 'гайка' (Сл. Брэс.). Праз польск. *mutra* (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 88) з ням. *Mutter* 'гайка'<'маці' (Клюге$_{20}$, 496).

**Мутоўка** 'шост з 3—4 накіраванымі ўверх сукамі, які служыць для даставання з дна ракі адводзіны перамёту' (Дэмб. 2), рус. *мутовка* 'калатоўка', ст.-польск. *mątew* 'тс', ст.-чэш. *mutev, mutvicě,* новачэш. *moutev,* славац. *mutvica* 'таўкач, мяла'. Да прасл. *mǫty* (род. скл. *mǫtъve*) (Фасмер, 3, 18; Варбат, Слав. языкозн., 1973, 94). Гл. *муці́ць.*

**Мутрэна** 'непрыемна' (Бяльк.). У выніку кантамінацыі *мутарна* (гл.). і *нутро* 'ўнутранасці, жывот'.

**Муту́зіць** 'цягаць, валтузіць, непакоіць, ганяць' (ушац., Нар. лекс.). Генетычна ўзыходзіць да *мату́з* (гл.). Аналагічна рус. *канителиться* (<*тянуть канитель*).

**Мутэрка** 'гайка' (Гарэц., Др.-Падб.; ашм., Сцяшк. Сл.). Да *му́тра* (гл.).

**Муфлон** 'дзікі горны баран, які сустракаецца на астравах Міжземнага мора, Ovis musimon Schreb'. (ТСБМ), 'нязграбны чалавек' (смарг., Сцяшк. Сл.). Кніжны тэрмін, запазычаны з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 88); у гаворках, відаць, з польск. *muflon* 'муфлон', якое з франц. *mouflon*<італ. *mufflone* 'тс'.

**Му́фта$_1$** 'адкрыты з двух бакоў цёплы мяшочак для саграванне рук' (ТСБМ), *му́хта* 'тс' (драг., КЭС; Бяльк.). Запазычана з польск. *mufta* або з рус. *му́фта,* якія з гал. *mouwtje*< *mouw* 'рукаў' (Мацэнаўэр, LF, 10, 348; Фасмер, 3, 18). Канец слова аформлены паводле *кофта.*

**Му́фта$_2$** 'прыстасаванне, якое служыць для злучэння канцоў труб, валаў, стальных канатаў' (ТСБМ). З ням. *Muffe* 'тс'. Аформлена паводле *муфта$_1$* (гл.).

**Му́ха,** *муха́, му́шка* 'двухкрылае насякомае, Musca' (ТСБМ, Яруш., Бес., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС); шальч., круп. 'пчала, Apis mellifera' (Сл. ПЗБ), 'крапінка', 'частка прыцэльнага прыстасавання агнястрэльнай зброі' (ТСБМ). Укр., рус. *му́ха,* польск., н.-, в.-луж. *mucha,* чэш. *moucha,* славац. *mucha,* славен. *múha,* серб.-харв. *му̀ха, му̀ва, му̏шица,* макед. *мува, мувичка,* балг. *муха́,* ст.-слав. **моуха, мъшица.** Прасл. *mucha* чаргаваннем галоснай звязана з *mъšьka>мошка* (гл.). І.-е. адпаведнікі літ. *mùsė,* лат. *mūsa, muša,* лац. *musca,* ст.-грэч.

μυῖα (<*mus-ja*), алб. *mizë, myzë,* арм. *mun* (<*mus-no*). Да і.-е. **mū-/*mūs-* 'муха' (Міклашыч, 206; Траўтман, 191; Мюленбах — Эндзелін, 2, 673; Фасмер, 3, 19; Махэк₂, 376; Покарны, 752; Бязлай, 2, 205). Сюды ж: *мухавік* 'полаг ад мух', *мýшнік* 'папера-ліпучка', *мýшына* 'адна з мноства мух' (Касп.), *мухабойка* (паст., Сл. ПЗБ). Значэнне 'пчала' ёсць у чэш., польск., серб.-харв. мовах, як і ў франц. *(mouche à miel)* — табу. Параўн. аналагічна паўд.-усх. *муха свята* 'пчала' (КЭС).

**Мухавáць** 'сварыцца' (слонім., Сцяшк. Сл.), серб.-харв. *мȳхати* 'ўпарціцца, злавацца'. Бел.-серб.-харв. ізалекса. Да *мýха* (гл.).

**Мухамор,** *мухомóр, мухамóра, мохомóра, мухомóра* 'ядавіты грыб, Amanita muscaria' (ТСБМ, Маш., Касп., Бес., Янк. 1, Бяльк., Шат., ТС). Укр., рус. *мухомор,* польск. *muchomór, muchomorka,* чэш. *muchomůrka,* славац. *muchomôrka, muchomúrka, muchomorka,* серб.-харв. *мухòмора.* Прасл. *muchomorъ.* Да *мýха* і *марыцъ* (гл.). Аналагічна славац. *muchotravka* (<*trávit'* 'атручваць').

**Мýхаранка** 'мухамор' (івац., Нар. сл., Жыв. сл.), лун. *мýхорана* (Шатал.). Да *мýха* і *рáніць* (гл.): калісьці была распаўсюджана думка, што мухаморам можна вынішчваць мух; яго рэзалі ў малако і «атручвалі» мух. Сюды ж брэсц. *мухáрка, мухаронка* 'тс' (Сл. Брэс.).

**Мухнýць** 'прапасці' (зэльв., Сцяшк. Сл.). Відаць, да *мýха* (гл.). Параўн. выраз *згінуць, як муха,* г. зн. 'вельмі хутка прапасці'.

**Мухові́кі** 'грыбы махавікі' (бар., Сл. ПЗБ). Ад *махавік*< <*мох* (гл.).

**Мýцвіца** 'нізкае балоцістае месца' (Прышч. дыс.), ст.-бел. *мутвица* 'тс' прасл. *+mǫtvica.* Да *мут, муцíць* (гл.).

**Муцéль** 'той, хто ўносіць беспарадак, блытаніну' (івац., Сл. ПЗБ). Да *муціць* (гл.). Аб суфіксе *-ель* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Муцíць,** *муцíці, муцíцца, мутэ́тэ, мутыты, мутíті* 'рабіцца мутным, каламуціцца' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ, Ян.), 'паласкаць адзенне' (віл., Сл. ПЗБ), 'не даваць спакою, трывожыць', 'разводзіць плёткі', 'узбураць, каламуціць', 'хлусіць, падманваць', 'цягнуць на рвоту, быць у стане млосці', 'хварэць на жывот (пра парасят, калі іх аднімуць ад маткі)' (ТСБМ, Нас., Бес., Выг. дыс., Сл. бел. фраз.; пруж., Бел. хр. дыял.; палес., З нар. сл., Нар. лекс., Сл. Брэс., Шатал., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *мутúти,* рус. *мутúть,* польск. *mącić,* н.-луж. *mušiś,* в.-луж. *mucić,* чэш. *moutiti,* ст.-чэш. *mútiti,* славац. *mútiť,* славен. *motíti,* серб.-харв. *мýтити,* макед. *мати,* балг. *мътя,* ст.-слав. **мѫтити.** Прасл. *mǫtiti* — ітэратыў да *męsti* 'збіваць з панталыку'>*мяцéж* (гл.) — роднасны да ст.-інд. *manthayati, māthayati* 'трасе, перашкаджае', *mathnāti, mánthati, máthati,* авест. *mant-* 'мяшае, боўтае; сукае, круціць', ст.-ісл. *mǫdull* 'тачыла', а таксама (з іншай ступенню вакалізму) літ. *mentùris, mentùrė* 'калатоўка' (Міклашыч, 189; Бернекер, 2, 44; Траўтман, 181; Фасмер, 3, 18; Махэк₂, 355; Бязлай, 2, 197).



**Муцянка,** *муцьянка, муцянка* 'дуда з трыма маленькімі дудачкамі, прымацаванымі да пузыра' (Анім. дад., Кіркор). Польск. *mutyanki,* якое з *multanka* 'валынка', *mulitanka* 'тс', апошнія ад назвы *Multany* 'Валахія'.

**Муць** 'каламуць, дробныя часцінкі', 'туман, смуга, імгла' (Яруш., ТСБМ; рэч., слаўг., паўн.-усх., Яшк), 'непакой, хваляванне' (Бяльк.). Прасл. *mǫtь*<*mǫtiti*>*муцíць* (гл.).

***Муцю́н,** *мутю́н, мутюнéц, мутюнэ́ско, мутýн* 'ілгун, манюка, хлус' кобр., Сл. Брэс.; пін., Доўн.-Зап., 1; пін., драг., Нар. лекс. і КЭС). Да *муцíць* 'падманваць' (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 68.

**Мýця**₁ 'кашэль з вечкам, плецены з бяросты' (івац., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, з ням. *Mütz* 'шапка, фуражка, каплак'<с.-н.-ням. *mutze,* якое з с.-лац. *almutia* 'шапка для духоўных асоб'<араб. *al-mustaqah* 'кажух; футравае паліто' (Васэрцыер, 158).

**Мýця**₂ 'ілгун, манюка' (івац., Нар. сл.), *мутя́* 'хто гаворыць абы-што' (пін., З нар. сл.), пін. 'няпраўда' (Шатал.). Да *муцíць.* Аб суфіксе *-'а* гл. Слаўскі, SP, 1, 59—60.

**Муця́нка** 'падманшчыца, хітруха, жартаўніца' (ТС), драг. *мутю́нка* 'тс'. Да *муцíць* (гл.).

**Муця́р,** *мутя́р, мутıэр, муцярыско* 'хлус, ілгун' (Выг. дыс.; бяроз., Шатал.; пруж., Сл. ПЗБ; драг., Лучыц-Федарэц). Да *муцíць* (гл.). Аб суфіксе *-яр* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 29—30.

**Мýчалка** 'ўдзельніца вясельнага абраду ў маладога, якая трымае свечкі' (ТС). Няясна.

**Мучáн** 'талакнянка звычайная, Arctostaphylos Adans uva-ursi Spreng.' (мін., Кіс.; Жд. 1, Шат., Касп., мін., Сл. ПЗБ), барыс. *мучáрнік, мычáрнік,* ганц., мін., гродз. *мýчальнік, мучэльнік, мучáнік, мучáннік* (Сл. ПЗБ), *мучыннік, мучáннік, мучáнніца, мучанíчнік, мýчэнік,* чачэр. *мачанíшнік* 'тс' (мін., маг., Кіс.; ТС, Жыв. сл.), жытк. *мýчанік* 'зараснік талакнянкі' (Яшк.). Да *мукá* (гл.). Матывацыя: плады расліны маюць васкавы налёт. Аналагічна назва *талакнянка*<*талакно* 'аўсяная мука' (Махэк, Jména, 177).

**Мýчанік** 'той, хто перанёс ці пераносіць якія-небудзь мукі'

(ТСБМ, Др.-Падб.), *му́чальнік, му́чань* 'тс' (Гарэц., Яруш., Шат., Др.-Падб.). Да *му́чыць*<*му́ка* (гл.).

**Муча́нка**, *му́чанкі, му́чаніца, му́чаныця* 'каўбаса са свіной крыві і мукі, грэчневай кашы' (драг., пін., Вешт., Сл. Брэс. і Нар. лекс.; петрык., Мат. Гом.). Да *мука́* (гл.). Адпрыметнікавае ўтварэнне з суфіксам *-к-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 114).

**Мучы́льнік** 'брусніцы (расліна), Vaccinum vitis-idaea L.' (гродз., Кіс.). З *мачыльнік*, якое ад *мачы́цца* (гл.). Як і брушнічнік 'тс' (чэрв.), настой з яго п'юць ад хваробы мачавога пузыра.

**Мучы́цель** 'той, хто мучыць' (ТСБМ). З рус. *мучитель* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 57). Параўн. ст.-слав. **мѫчитель** 'тс'.

**Му́чыць**, драг. *му́чытэ* 'прычыняць пакуты, мукі; непакоіць' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, ТС, КЭС). Укр. *му́чити*, рус. *му́чить*, польск. *męczyć*, н.-луж. *mucyś*, чэш. *mučiti*, славац. *mučiť*, славен. *múčiti*, серб.-харв. *му̏чити*, макед. *мачи*, балг. *мъча*, ст.-слав. **мѫчити**. Прасл. *mǫčiti*. Роднаснымі да яго з'яўляюцца літ. *mánkyti* 'ціснуць', 'мучыць', ст.-сакс. *mengian* 'перашкаджаць', ст.-грэч. μάσσω 'мяшу (цеста)' (Бернекер, 2, 42; Траўтман, 184; Фасмер, 3, 20; Бязлай, 2, 205).

**Му́шаль** 'асадак' (лід., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, да *мусака* (гл.).

**Муша́рына** 'лясная трава карычневага колеру' (глус., Янк. Мат.). Утворана ад *му́ха* (гл.) пры ад'ідэацыі лексемы *віш (вішар, +віша́рына)*. Параўн. таксама *мша́ры* (гл.).

**Мушары́на** 'невялікая балоцістая мясцовасць, парослая мохам і альхой' (палес., Талст.). Да *імша́ра* (гл.).

**Му́шка$_1$** 'сівец, Nardus stricta L.' (браг., Шатал.). Да *мы́чка$_3$* (гл.).

**Му́шка$_2$** 'шчацінне на назе каля капыта' (браг., Шатал.). Да *мы́чка$_2$* (гл.).

**Мушкава́ны** 'тканіна для саянаў і спадніц з набіўнымі крапінкамі' (Растарг). Да *му́шка*<*му́ха* (гл.).

**Мушка́рыць** 'муштраваць' (мсцісл., Юрч.— Полымя, 7, 1987), *мушке́рыць* 'тс' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). З рус. вяц., валаг. *мушка́рить* 'тс', 'выхоўваючы, сурова караць', якое (пры ад'ідэацыі *мушка́рь* 'вялікі драўляны молат') з *му́шкель* 'тс'< <гал. *moskuil* 'тс' (пра апошняе гл. Фасмер, 3, 20).

**Мушка́т** 'хатняя кветка мушкат' (Бяльк.), відаць, пеларгонія духмяная, Pelargonium graveolens. Названа так паводле падабенства лістоў. Тое ж і ў чэш. мове: *muškát* 'пеларгонія' (Махэк, Jména, 108).

**Мушкатовы** 'мускатны' (Нас.). Да *муска́т* (гл.).

**Мушкаты́р** 'неспакойны, адчайны чалавек' (Федар. 4). У выніку пераносу семантыкі з *+мушке́тыр*, якое з польск.



*muszkietyr* 'салдат, узброены мушкетам'. Да *мушке́т* (гл.).

**Мушке́т$_1$** 'старажытнае буйнакаліберное ружжо з кнотам для запальвання замка' (ТСБМ, БелСЭ), 'самаробны пісталет' (Бяльк.). Сучасная форма з рус. *мушкет* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 86). Аднак ст.-бел. *мушкетъ* 'тс' (1616 г.) запазычана са ст.-польск. *muszkiet*, якое з франц. *mousquet* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 69).

**Мушке́т$_2$** 'бузіна, Sambucus L.' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, ад *мушкат, мускат* (ст.-бел. *мушкатела* 'сорт віна і вінаграду') паводле падабенства (ягады, колер?).

**Мушмула́** 'пладовае дрэва Mespilus germanica' (ТСБМ). Праз рус. мову з тур. *muşmula* 'тс'.

**Мушні́к** 'талакнянка звычайная, Arctostaphylos Adans. uva-ursi Spreng.' (воран., Сл. ПЗБ). З *мучні́к*. Да *муча́н* (гл.).

**Мушта́рда** 'гарчыца' (іўеў., Сцяшк. Сл.). З польск. *musztarda* 'тс'.

**Муштр**, *муштра́* 'ваеннае навучанне, заснаванае на механічнай дысцыпліне і завучванні прыёмаў ваеннай справы', *му́штры* 'прыдзіркі, празмерныя патрабаванні' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк.), *муштро́йны* 'задзірысты' (дзятл.), *муштро́йна* 'наўмысна' (іўеў., Сл. ПЗБ), *муштрава́ць, муштрува́ць* 'выхоўваць, навучаць залішне строга' (ТСБМ, Шат., Бяльк.), *муштро́йка* 'працэс навучання маладога паляўнічага сабакі' (Інстр. III). З польск. *musztra, mustra, muster* і *musztrować* 'тс' (Чартко, Бел. лінгв. зб., 152; Кюнэ, Poln., 79; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 91), якія з ням. *Muster* 'узор', *mustern* 'рабіць агляд'<італ. *mostra*<с.-лац. *monstra* 'паказ, дэманстрацыя' (Праабражэнскі, 1, 573; Варш. сл., 2, 1075; Фасмер, 3, 21).

**Муштрукі́** 'цуглі' (беласт., Сл. ПЗБ), лід., шальч., лях. *муштýк, муштык* 'тс' (там жа). Да *муштýк* (гл.). Устаўное *-р-*.

**Муштýк**, *муштык* 'невялікая трубачка, у якую ўстаўляюцца папяросы, цыгарэты', 'цыбук', 'амбушур духавога інструмента' (ТСБМ; стаўбц., З нар. сл.; карэліц., Жыв. сл.; навагр., Нар. словатв.). З польск. *musztuk, munsztuk* 'тс', якія з ням. *Mundstück* 'тс'. Націск паводле рус. *мундштук*.

**Мушы́на**, *мушы́нка* 'асобная чарка гарэлкі' (Нікіф., Посл., 2). Да *му́ха* (гл.). Узнікла з фразеалагізмаў: *быць пад мухай, рэзаць (біць, давіць) муху*.

**Мушчы́зна** 'мужчына вялікага росту' (Нас.). Кантамінаванае ўтварэнне з лексем *мужчына* і *вялізны*. Не выключана пераасэнсаванне паланізму *мужчызна* (<польск. *mężczyzna*) (параўн. ст.-бел. *мужчизна, мужечизна, музчизна, музчызна, мущизна*).

**Мхе́нішча** 'месца, дзе расце мох' (Нас.), 'месца, дзе ляжаў мох' (слаўг., Яшк.). Відаць, не вельмі старое ўтварэнне ад прыметніка *мъх-ѣнъ* 'імшаны' (не адбыўся пераход *х>ш*). Да *мох* (гл.).

**Мцяй** 'непаваротлівы, гарбатаваты' (Шпіл.). Не зусім ясна. Магчыма да *ля́мця* (гл.). Суфікс паводле *гультай*.

**Мша** 'імша, абедня' (мін., Шн.; Касп., Яруш.), ст.-бел. *мша, имша* (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *msza*, якое са ст.-чэш. *mše*<ст.-в.-ням. *missa, mëssa*<лац. *missa* 'набажэнства' (Міклашыч, 209; Голуб — Копечны, 234; Фасмер, 3, 22; Булыка, Лекс. запазыч., 183). Гл. *ме́са*.

**Мшанік**$_1$ 'махавік зялёны — заечы баравік, Xerocomus subtomentosus' (уздз., Нар. словатв.), *мшар, імшар, міша́рык, мша́рык* 'тс' (пін., Жыв. сл.), 'махавік, Suillus variegatus' (стол., Нар. лекс. і Жыв. сл.; пруж., Нар. словатв.). Да *мша́ны, імша́ра<мох* (гл.). Гл. таксама *імша́рнік*.

**Мша́нік**$_2$ 'месца, дзе зімой стаялі вуллі з пчоламі' (паўд.-усх., КЭС). Да *імшанік* (гл.).

**Мша́ра, мша́рынне, мша́рышча** 'балотнае месца, дзе расце мох ці купіны' (слаўг., Яшк.; Нас.), *мша́рысты* 'балоцісты, парослы мохам', 'кучаравы (аб свойскай скаціне)' (Нас.), *мша́рнік* 'месца, парослае мохам' (усх.-палес., Талст.), слаўг. *мша́рня* 'тс' (Яшк.). Рус. пск., цвяр., смал., кастр. *мша́ра*, зах. і паўн. *мша́рина, мшари́на*, ярасл. *мша́рище*, арх. *мша́ристый* 'тс'. Усх.-бел.-рус. ізалексы (Макіенка, Бел. лекс., 108). Да *імша́ра<мох* (гл.).

**Мша́ры** 'цёмна-гняды (аб масці каня)' (Др.-Падб., Гарэц., Нас.). Польск. *muszaty koń* 'конь бурай масці'. Да *му́ха* (гл.).

**Мшыць**$_1$ 'закладваць мох між бярвенняў' (красл., Сл. ПЗБ; ТС), *мшы́ты* 'перасцілаць і запакоўваць посуд на возе' (Вярэн.), зах.-укр. *мшити* 'канапаціць мохам', рус. *мшить* 'тс', кастрам. 'перасцілаць і пакаваць посуд на возе'. Да *імшыць*$_1$.

**Мшыць**$_2$, *мшы́ты, мшы́цца* 'пакрывацца тонкімі валаскамі (пры тканні), касмаціцца', *мшы́сты* 'калматы, касматы' (ТС; драг., жытк., лельч., Уладз.), рус. валаг. *мши́ться* 'зношвацца, рабіцца анучай, акраўкамі'. Да *мох* 'пух, пушок (на целе), воўна, валокны', *махнаты* 'касматы'.

**Мшэннік** 'імшанік' (б.-каш., Мат. Гом.). Да *імша́нік* (гл.).

**Мшэнь** 'імшэнь, пограб, зроблены на моху' (Бяльк.). Рус. забайк. *мшень* 'хлеў для авечак'. Да *імшэ́нь* (гл.).

**Мы**, драг. *мо*, тураў. *му* — займеннік для абазначэння дзвюх і больш асоб (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *ми*, рус. *мы*, польск., н.-, в.-луж., чэш., славац. *my*, славен. *mî*, серб.-харв. *ми̑*, макед., балг. *ми*, ст.-слав. *мы*. Прасл. *my*, роднаснымі да якога з'яўляюцца літ. *mēs*, лат. *mēs*, ст.-прус. *mes*, арм. *mek'* (Мее, Общеслав., 365; Мюленбах — Эндзелін, 2, 620). Форма *мы* неперакананаўча тлумачыцца як вынік уплыву формы асабовага займенніка другой асобы *вы* і Н. скл. мн. л. на *-у* асноў на *-а*. Гуер (LF, 45, 192) у *m-* бачыць уплыў канчатка дзеясловаў *-mes/-mos* (-μες, *-mas*). У сапраўднасці ж форма *my* з'яўляецца кантамінацыйнай у адносінах да протабалт. *mes* і прасл. *ny* (параўн. *нас, нам* і г. д.) — апошняе лічыцца італійскім інградыентам у прасл. мове (іт. *nōs*> протаслав. *nūs*>прасл. *ny*) (Мартынаў, Язык, 79).

**Мыва́лька** 'лазня' (Сцяшк.; ваўк., Яшк.), *мыва́льня* 'тс' (іўеў., Сцяшк. Сл.). З польск. *umywalka, umywalnia* 'умывальнік, умывальня', якія ад дзеяслова *umywać, mywać się* 'ўмывацца' (параўн. і *mywanie się* 'ўмыванне').

**Мыгла́** 'непразрыстае паветра, насычанае вільгаццю' (Сцяшк.). Балтызм. Параўн. літ. *miglà* 'туман'. Сюды ж *мыгліна́ць* 'імжэць' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Гл. таксама *мігла́*.

***Мыгы́каць**, *мыгы́каты* 'крычаць (пра бакаса)' (малар., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Параўн. аналагічнае *кугíкаць* 'тс'.

**Мы́дзель**, *мы́дэль* 'укладка ў полі з 10 снапоў' (пруж., ДАБМ, к. 286; Бес.), *мы́длі* 'ўкладка снапоў з 10—12 штук' (пруж., Выг. дыс.; лях., Бел. хр. дыял.), *мы́дзеляк* 'мэндлік' (Федар. 6), *мы́для* 'тс' (ц.-зах.-бел., ДАБМ, к. 286; Сл. ПЗБ, Сцяц.), лях. *мыдля́чка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Усе з польск. *mędel, mędl, mendel(ek)* 'пятнаццаць штук снапоў, пастаўленых разам', якія з паўн.-ням. *Mandel* 'мэндлік', 'пятнаццаць штук'<с.-лац. *mandala* 'кошык, каробка'.

**Мы́дла** 'мыла' (петрык., Мат. Гом.; Сл. ПЗБ). З польск. *mydło* 'тс'.

**Мыдлёўка**, *мыдлоўка* 'прылада для вымярэння таўшчыні цёсу' (Касп., Сл. Эп.-Шып.; браг., рагач., Мат. Гом.). З польск. *mydłówka* 'тс'.

**Мыдлік**, *мэдлік* 'мыльны парашок' (драг., пруж., Сл. Брэс.). З польск. *mydlik* 'мыльнік, Saponaria L.'.

**Мыдлíны** 'мыльная вада, у якой ужо мылі бялізну' (рэч., Нар. сл.). З польск. *mydliny* 'тс'.

**Мыдліца** 'таз' (гродз., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі лексем польск. *myjnica* і *miednica* 'тс'.

**Мы́дліць**$_1$ 'намыльваць', 'мыліць' (ашм., Сцяшк. Сл.; лід., Сл. ПЗБ). З польск. *mydlić* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 92).

***Мы́дліць**$_2$, кобр. *мы́длыты* 'ацірацца з мэтай што-небудзь украсці' (Нар. лекс.). З польск. *mydlić* 'уводзіць у зман, ашукваць, абдурваць'.

**Мыдля́цца** 'падлашчвацца' (астрав., Сл. ПЗБ). Не зусім ясна. Відавочна, кантамініраванае ўтварэнне, адным з кампа-

нентаў якога з'яўляецца польск. *mydłkować* 'віляць, круціць, хітрыць, маніць'.

**Мы́дзгаць** 'пэцкаць, брудзіцца' (Касп.). У выніку кантамінацыі бел. *вэдзгаць, вэзгаць* (гл.) і рус. *(за)мызгаць* 'завэдзгаць, запэцкаць'.

***Мы́жыць,** *мы́жыты* 'імжэць' (малар., Нар. лекс.). Да *імжы́ць* (гл.). Ацвярдзенне *мі-* (<прасл. *ть-*) у зах.-палес. гаворках.

**Мы́за**₁ 'мыса, морда жывёлы (каня, каровы, авечкі)' (Мал., Дразд., Кліх, Булг.; навагр., Жыв. сл.; Шат., Сл. ПЗБ), 'мордачка малой жывёлы' (Сцяшк.), 'твар' (лях., Сл. ПЗБ). Да *мыса* (гл.).

**Мы́за**₂ 'сядзіба, хутар у Прыбалтыцы', 'дача', 'мястэчка', 'маёнтак, вёска аднаго пана' (ТСБМ; быx., маг., Яшк.). Яшчэ ст.-рус. *мыза* 'сядзіба, хутар' (XVI ст.). Узыходзіць да эст. *mõiz,* водск. *mõiza* 'маёнтак, двор, сядзіба', ці ліўск. *moiz* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 23). У бел. мове праз рус. *мыза* 'тс' або лат. *muīža* — апошняе з ліўск. або эст. моў. Сюды ж *мызнік* 'уладальнік, арандатар сядзібы' (ТСБМ).

**Мызг** 'мозг' (Дразд.), *мызок* 'тс' (кам., КЭС). Да *мозг* (гл.). Пераход *о* (у закрытых складах)>*ы* — характэрная з'ява некаторых палескіх гаворак.

**Мы́згаць** 'перабіраць страву, есці з неахвотай' (круп., Жыв. сл.). Магчыма, роднаснае з рус. *мы́згать* 'абы як мыць бялізну', 'часта хадзіць туды-сюды', 'слізгацца', 'снoўдацца, бадзяцца'<прасл. *myzg-* (Куркіна, Этимология-1972, 67).

**Мыздра́** 'наздра' (Бяльк.). Да *ноздра* (гл.). Аб мене *н*>*м* гл. Карскі, 1, 324.

**Мызь** 'шмыг!' (Ян.). Гукапераймальнае. Відаць, генетычна тоеснае з рус. уладз., валаг. *мы́згать* 'часта хадзіць кудынебудзь', якое, магчыма, ад *мы́кать:* бел. *пры-мыка́ць, за-мыка́ць, і-мк-ну́цца.* Параўн. смал. *мык!* 'шмыг!', бел. *мык* (гл.), *мы́кнуць* 'хуценька прабегчы', 'толькі паказацца і знікнуць' (Нас.). Тое ж славац. *myknúť*.

**Мы́зя** (дзіц.) 'карова' (малар., Нар. лекс.). Да гукапераймання *мы-* (гл. *мы́каць*₁) з ласкальным суфіксам *-зя.* Параўн. аналагічна ўтворанае драг. *бэ́-ця* 'тс' (<*бы́-ця*<прасл. *bučati*) ці *мы́-ка* 'тс' (Нас.). Іншае ўтварэнне мае славен. *múza* 'карова з загнутымі назад рагамі' (Бязлай, 2, 208).

**Мы́йка** 'машына, прыстасаванне для мыцця чаго-небудзь' (ТСБМ). Калька з рус. *мойка* 'тс'.

**Мы́йніца**₁ 'начынне для мыцця' (горац., Др.-Падб., Нас.). З польск. *myjnica* 'таз'. Пазней развілося значэнне 'рукамыйнік' (Гарэц.).

**Мык** у фразе *мык а мык!* — 'частае хаджэнне, рух, кіданне' (Гарэц.), 'з'явіцца і так жа раптоўна знікнуць' (Нас.). Да *мы́каць*₂ (гл.). Гл. таксама *мызь.*



**Мы́каца** 'кідацца туды-сюды' (Бяльк.), *мы́каць* 'насіцца, вазіцца з чым-небудзь' (Юрч.). Укр. лемк. *ми́катися,* рус. *мы́каться,* н.-луж. *mykaś,* польск. *mykać się, pomykać,* чэш. *mykati se* 'тс', серб.-харв. *мu̇цати се* 'рухацца, варушыцца, перасоўвацца'. Да *імкну́цца* (гл.).

**Мы́каць**₁, *му́каць, мі́каць* 'раўці (аб карове, цяляці)' (ТСБМ, Юрч., Гарэц.; дзярж., ДАБМ, к. 300), 'ціха мычэць' (ц.-бел., лельч., там жа; Нас.). Рус. пск., валаг., калін., арханг. *мы́кать* 'тс'. Гукапераймальнае. Ад аднаразовага выклічніка *мы-ы!* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 79).

**Мы́каць**₂, *му́каць, мы́каты* 'часаць лён на грэбені і скручваць яго ў мычкі' (Гарэц., Юрч., Бяльк., Ян.; іван., петрык., лельч., Уладз.), *мы́кнуць* 'зрабіць трохі мычак' (Юрч.). Укр. *ми́канець* 'расчасанае і надранае з мычкі пачассе', *ми́канка* 'горшы гатунак прадзіва', *ми́кати* 'торгаць, рваць, цягнуць', рус. *мы́кать* 'мыкаць лён, пачассе', польск. *mykać* 'рваць лён', 'часаць лён', ст.-чэш. *mykati* 'часаць воўну', славац. *mykat'*, славен. *míkati* 'часаць'. Прасл. *mykati.* Да *імкну́цца* (гл.).

**Мы́каць**₃ 'раздаваць, марнатравіць', 'насіцца' (Юрч.). Рус. валаг. *мы́кать* 'траціць час'. Семантычна блізка стаіць да *мы́кацца* (гл.).

**Мы́каць**₄ 'мармытаць, неразборліва гаварыць' (ТСБМ, Шат.), любан. *мы́каць-пы́каць* 'тс' (Нар. словатв.), *мы́кнуць* 'буркнуць, крыкнуць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Гукапераймальнае. Утворана ад *м-м-м!* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 72).

**Мыл** 'іл' (лун., Шатал), 'занесены пяском участак' (стол., Сл. Брэс.). У выніку кантамінацыі лексем *мул* 'іл, твань' і *мыць* 'намываць' (гл.). Не выключана, што гэта стары балтызм. Параўн. літ. *mùlti* 'забруджваць', *mùlinas* 'глiністы', *mulvė* 'іл, твань'.

**Мы́ла**₁, *му́ло,* драг. *мэ́ло,* бран. *мылца* 'рэчыва з тлушчу і шчолачы, якое ўжываецца для мыцця', (перан.) 'белая пена ў коней ад поту' (ТСБМ, Бяльк., КЭС, Сл. ПЗБ, Растарг.), шальч., гродз., драг. 'нясмачныя ежа' (Сл. ПЗБ). Укр. *мило,* рус. *мыло,* польск., н.-, в.-луж. *mydło,* чэш. *mýdlo,* славац. *mydlo,* славен. *mílo,* серб.-харв. *мu̇ло,* ц.-слав. *мыло.* Прасл. *mydlo,* утворанае ад *myti*>*мыць* (гл.). (Міклашыч, 207; Фасмер, 3, 24). Аднак Трубачоў (Этимология-1963, 42) перакануча абгрунтоўвае пачатковую прасл. рэканструяваную форму ў выглядзе *mūtlo.* Сюды ж *мыліцца* 'намыльвацца', *мыліць* 'распускаць мыла ў вадзе' (ТСБМ, Юрч., Бяльк.).

**Мы́ла**₂ 'памылка', *мыла з'есці* 'памыліцца, атрымаць адмову' (Нас.). Можна бачыць тут кантамінацыю польск. *mylka*

'памылка', *mylać, mylić* 'памыліцца' і бел. *мыла* 'нясмачная ежа'.

**Мыла́ты** 'бязрогі (карова)', (чэрв., Нар. лекс.). Славен. *múliti* 'абшчыпваць', 'вырываць', 'пасціся', серб.-харв. *омýлити се* 'адарваць, адвязацца', балг. *шмуля* 'абтрасае, абшчыпвае'. Стары балтызм. Параўн. літ. *mùlas, šmùlas*, лат. *šmauls* 'без рог', а таксама літ. *gumulà* і *katuolỹs* 'тс' (Шульц, KZ, 40, 566; Бязлай, 2, 206 і 208).

**Мы́ленне** 'частыя памылкі' (Гарэц.). З польск. *mylenie*, якое ад *mylić (się)* 'памыляцца'.

**Мыле́ц** 'плывун, ілісты слой пяску' (ТСБМ; гродз., дзярж., ганц., Сл. ПЗБ), 'суглінак' (Бяльк.). Да *мыл* (гл.).

**Мылжэць** 'імжэць' (іўеў., Сцяшк. Сл.). З $^{+}$*мылга́*, якое ў выніку метатэзы ад *мыгла* (гл.).

***Мылізы́нка,** міёр., ушац. *мълізы́нка* 'выпеставаная асоба', 'ласы, пераборлівы ў ядзе чалавек' (З нар. сл., Нар. сл.; Бяльк.). Чэш. *mlsný* 'пераборлівы ў ежы', 'сладастрасны', *mlsěta* 'ласунак', 'смачны кавалак', дзеяслоў *mlsati*, ст.-чэш. *mlsoti, mlsiti, mls* 'ласы'. Прасл. *mьlsati*, якое (паводле Махка$_2$, 369) з'яўляецца *s*-інтэнсівам, родным да літ. *smiliáuti, smilinėti* 'ласавацца'.

**Мылі́са** 'меліса аптэчная, Melissa officinalis L.' (стол., Анох.). Праз укр. *меліса* ці польск. *melisa* 'тс' з лац. навуковай назвы *melissa* (у класічнай латыні называецца *apiastrum*, якое ў чэш. і польск. мовах існуе ў выглядзе калькі: чэш. *rojovník, včelník*, польск. *rojownik, pszczelnik*) <ст.-грэч. μέλισσα 'пчала'.

**Мы́ліца,** *мы́лічка* 'кастыль' (ТСБМ, Шат.), 'ручка ў сошцы' (Сержп. Земл.; КЭС, лаг.), мядз. 'ручка на кассі' (Шатал.), 'планка на дзяржанні лапаты' (іўеў., Сл. ПЗБ), кобр. *мэлыця* 'правая ручка сахі' (Выг. дыс.), *мы́льніца* 'ручка касы' (віц.; любан., ветк., ДАБМ, к. 260; паўн.-усх., КЭС; сен., Сл. Эп.-Шып.; Касп.), 'левая ручка касы' (Смул.), *му́льніца* 'ручка касы' (Касп.; віц., арш., ветк., ДАБМ, к. 260). Укр. *ми́лиця* 'кастыль, драўляная нага', рус. паўн. *мы́лица, мылúца* 'ручка вясла', арханг. 'планка на дзяржанні кармавога вясла', польск. маз. *namulnica, mulica*, хэлмск. *melnу̀cia* 'ручка сахі'. Да *му́ляць, наму́ляць* 'націраць, рабіць ранкі' (гл.); параўн. палес. *шму́лятэ* 'церці па паверхні', а таксама балг. *шмуля* 'рваць фрукты з дрэва разам з галінкамі, матлашыць'. Да форм з *мы-* параўн. бел. *смыле́ць* 'балець, пячы ад раздражнення скуры, ран'. Цалкам магчыма, што некаторыя ўсх.-слав. формы ўзыходзяць да эст. *mōla*, карэльск. *mela*, фін. *mela* 'кармавое вясло' (Фасмер, 3, 23—4).

**Мы́ліцца** 'вагацца, быць у нерашучасці' (Бяльск.), 'адчуваючы сумненне, нерашучасць, цягнуць з рашэннем якой-небудзь справы' (Рам. 3; раг., Нар. Гом.), 'дзьмуцца, крыўдзіцца', 'саромецца сказаць што-небудзь' (Юрч.), *мы́ліць* 'вельмі марудна рабіць' (навагр., З нар. сл.). Да *му́ліць* (гл.).

**Мылі́цца,** *мыля́цца, мылі́ць,* 'памыляцца, ашуквацца' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Касп.; Крыў., Дзіс.; віл., Сл. ПЗБ), маст. 'загаворвацца' (там жа), 'збіваць з панталыку' (КЭС, лаг), 'не разлічваць як трэба, блукаць' (свісл., ваўк., Сцяшк. Сл.), 'не трапляць' (Сцяц.); ваўк. *мыля́ць* 'перашкаджаць', шальч. *мыльну́ць* 'памыліцца' (Сл. ПЗБ). З польск. *tylić się*, *tylać* 'памыляцца, уводзіць у зман'.

**Мы́лка** 'ручка вясла, мылка' (Бяльк.). Рус. арханг. *мылка* 'дзяржанне вясла, шаста'. Усх.-бел.— паўн.-рус. ізалекса. Магчыма, уграфінізм. Параўн. эст. *mōla*, карэльск., фін. *mela* 'вясло'.

**Мы́лкі,** *мылкі́* '(пра бульбу) які не разварваецца' (шальч., Сл. ПЗБ). Відаць, да *му́лкі*$_1$ (гл.). Мена *ы*>*у* з'яўляецца характэрнай на балта-слав. пагранiччы.

**Мыль** 'плывун' (бар., Сл. ПЗБ). Да *мыл* (гл.).

**Мы́льнік**$_1$ 'травяністая расліна Saponaria officinalis L.' (маг., мін., Кіс.), *мыльня́нка* 'тс' (Бяльк.). Укр. *мильни́ця, миля́к, милянка, мильник, миляник, мыльнянка,* рус. *мыльная трава,* уладз., варон. *мыльник,* кур. *мы́льница,* польск. *mydlnica, mydło, mydelnik, mydłownik, mydelnica,* чэш. *mydlice, mydlenice,* славац. *mydlica* 'тс'. Усе да прасл. *mydlo, mydlьnъ.* Названы паводле таго, што корань расліны ўтрымлівае сапанін, і расліна ўжо ў Старажытнай Грэцыі і Рыме, а таксама ў Балгарыі і на Беларусі ўжывалася пры мыцці (Махэк, Jména, 8; Машынскі, Kultura lud., 1, 605; Каламіец і інш., Мовознавство, 4, 1979, с. 24).

**Мы́льнік**$_2$ 'прылазнік' (чачэр., Жыв. сл.). Да *мыльня* (гл.). Суфікс, відаць, паводле рус. *предба́нник* 'тс'.

**Мы́льніца** 'каробачка ці спецыяльны сподак для мыла' (ТСБМ). Відаць, з рус. *мы́льница* 'тс' (у польск. мове *mydlniczka*).

**Мы́льня** 'месца, дзе мыюць, прамываюць што-небудзь' (ТСБМ, Др.-Падб.), маг. 'лазня', капыл. *мы́лня* 'тс' (Яшк.), ст.-рус. *мыльня, мыльна, мыльно* 'лазня' (XVI ст.). Утворана ад *мы́йня*. Да *мыць* (гл.). Аб мене *-й-*>*-л'*-гл. Карскі, 1, 322.

**Мы́льца,** *мы́льцы* 'гарохавы кісель, густая каша з гарохавай мукі' (Нас., Касп., Анім. дад.). Да *мы́ла* (гл.). Названа так паводле формы, падобнай да кавалачкаў самаробнага мыла: кашу, пасля таго як яна застыне, рэзалі на кавалачкі і елі з канапляным алеем.

**Мы́льцы,** *мы́льцы* 'бульбянікі (аладкі з тоўчанай бульбы)' (ветк., Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі *мыльца* і *млінцы́* (гл.).

***Мыльча́к,** *мыльчя́к* 'рыба-самец са спермай' (Клім.). Утворана ад *малачча́к.* Да *малако* (гл.). Параўн. *малача́й*$_7$.

**Мыльчуган** 'малец-падростак' (мсцісл., З нар. сл.). З рус. *мальчуга́н* 'тс'.

**Мы́льчык** 'пояс паміж дзвюма кроквамі' (кам., Нар. сл.; брэсц., Сл. Брэс.). У выніку кантамінацыі лексем *мыч* і *вільчык* (гл.): рэаліі, названыя імі, знаходзяцца блізка паміж сабой.

**Мы́ляр,** *мылёр, мэ́ляр* 'доўгі, мелкі капец бульбы' (зах.-палес., Нар. лекс., Сл. Брэс.). Да *мілёр* (гл.).

**Мыля́ць** 'варушыць губамі' (ТСБМ). Да *му́ляць* (гл.). Параўн. рус. разан. *му́лить* 'паволі гаварыць'.

***Мы́мліць,** *мы́млыты* 'жаласна прасіць, скардзіцца' (драг., З нар. сл.). Гукапераймальнае. Магчыма, утворана ад *мама.*

**Мы́мра,** мсцісл. *мы́мря* 'злюка, надутая ад крыўды' (З нар. сл.), 'маўклівы чалавек' (івац., Сл. Брэс.). Рус. цвяр., пск., калін. *мы́мра* 'пануры, сумны чалавек', цвяр. 'плаксун', укр. *мі́мря, мі́мрій* 'мармытун'. Гукапераймальнае. Параўн. *му́мрыць* (гл.) і аналагічныя ўтварэнні: укр. *мі́мрити (ма́мрати, мо́мрити),* рус. *мы́мреть,* польск. *mumrać* і інш. (Бернекер, 2, 75; Брукнер, 348; Фасмер, 3, 9). Параўн. таксама *мумра.*

**Мындра**$_1$ 'бруква' (маг., Мікуц.). Няясна.

**Мы́ндра**$_2$ 'модніца' (пруж., Сл. Брэс.); з укр. *мі́ндра* 'тс', якое з малд. *мы́ндру,* рум. *mîndru* 'пышны, прыгожы'<ст.-слав. **мѫдръ** 'мудры' (ЕСУМ, 3, 402).

**Мы́нка** 'могілкі' (Мін. губ., Мядзв.). Няясна.

**Мынтыле́жка** 'мянташка' (кобр., кам. ДАБМ, к. 264). У выніку кантамінацыі +*мынтало* і *мынтэжка.* Да *ме́нціць, мянта́шка* (гл.).

**Мынца** 'манетны двор' (Гарб.), ст.-бел. *мынца, минца, минница* 'манета, манетная справа, манетны двор' (пач. XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *mynca, mińca, minica,* якія з с.-в.-ням. *münze* 'манета' (Булыка, Лекс. запазыч., 86; Чартко, Пыт. мовазн. і метад., 122). Аналагічна ст.-бел. *мынцаръ, минцаръ, минцеръ* 'загадчык манетнага двара' (XIV ст.) — гл. Булыка, там жа, 74.

**Мыньцы́** (мн.) 'блінцы' (нараўл., Мат. Гом.). Да *мыльцы́* (гл.).

**Мыр,** *мырк, мэр, мэрк* 'пра бляянне авечкі, калі яна падзывае ягня' (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Параўн. *маркач, марката́ць* (гл.).



**Мы́рза,** *мы́рса* 'морда жывёлы', 'твар' (дзятл., маст., беласт., шчуч., Сл. ПЗБ). Можна дапусціць кантамінацыю лексем *мыса, мыза* і *морда* (гл.).

**Мы́рка** 'нырка' (Бест.). Да *ны́рка* (гл.). Аб мене *н*>*м* гл. Карскі, 1, 324.

**Мы́ркаць** 'гаварыць, запінаючыся, спыняючыся на паўслове' (Мядзв.), 'наспеўваць праз зубы, сабе пад нос', 'выказваць незадавальненне нараканнем' (Нас.), 'мармытаць' (Шат.), *мырку́н* 'буркатун', *мырку́ння* 'гугнявая жанчына', 'жанчына, якая на ўсялякую прапанову выказвае незадавальненне' (Нас.), *мырчэ́ць* 'бурчаць, муркаць; мармытаць' (Юрч.). Укр. *ми́ркнути,* рус. *мы́ркнуть* 'мармытаць', 'наспеўваць сабе пад нос'. Гукапераймальнае (Шахматаў, ИОРЯС, 7, 2, 337; Фасмер, 3, 24; Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 72).

**Мы́рма** 'нелюдзень, сугней', 'маўчун' (клец., Нар. лекс.; капыл., Жыв. сл.), капыл. 'злосная асоба' (Нар. словатв.). У выніку перастаноўкі *мр*>*рм* з *мы́мра* (гл.).

**Мырня́к** 'вялікі гліняны гаршчок, у якім варылі ежу' (палес., малар., Сл. Брэс.; З нар. сл.). Да *мера, ме́раць* (гл.). Параўн. ст.-бел. *мерникъ* (Магілёўскія акты, Скурат, Меры, 87).

**Мыру́н** 'рамонак пахучы, Matricaria matricarioides (Less.)' (бяроз., Нар. лекс.). З *мірон,* якое пад уплывам імя *Мірон* з назвы *рамон* 'рамонак' у выніку перастаноўкі *р...м*>*м...р.*

***Мырча́ць,** *мырчя́ты* 'імжэць (аб дажджы)' (Клім.). Найбольш блізкім адпаведнікам з'яўляецца паўн.-рус. *морочи́ть* 'станавіцца хмурным', перм. 'імжэць'. Да *морак* (гл.). Параўн. таксама літ. *mérkėti* 'мокнуць, намакаць'.

**Мырызянка** 'жыжка ад паліваемага вадой гною, змешчанага ў старым рэшаце' (Нік. Очерки). Няясна. Відаць, генетычна звязана з літ. *bliurzė* 'жыжка'. На кансанантызм, магчыма, уплывала лексема *мурза* (гл.).

**Мырэц** 'нырэц, нырок' (дзярж., Нар. сл.). Да *нырэц, ныра́ць* (гл.).

**Мыс,** *мы́сік, мысок* 'вострая частка сушы, якая выходзіць у мора, возера, раку' (ТСБМ), 'вугал, насок, край' (Гарэц., Нас., Бяльк.), 'нос лодкі', 'лязо нажа' (Касп.), *мы́сікі* 'канцы завязанай хусткі' (стаўбц.). Рус. *мыс, мысок, мысочек, мысик* 'мыс', 'выступ, вугал прадмета', 'узвышша з вельмі крутымі схіламі', 'край лесу', 'адгор'е', 'востраў', 'галава рыбы', 'грудзі каровы'. Бел.-рус. ізалекса (Вярэніч, Бел.-рус. ізал., 27). Прасл. *mysъ* генетычна звязана з *мыса* 'морда', 'рыла' (як, напрыклад, *ќоръ — ќора* і інш. пары, гл. аб гэтым Ільінскі, AfSlPh, 29, 162 і наст.). Параўн. адпаведнікі *мыса* ў іншых

слав. мовах: чэш. *mys*<рус. *мыс,* славац. *mys* з чэш.; чэш. *cip* і польск. *cypel* з с.-в.-ням. *zipf* (суч. ням. *Zipfel* 'носік, насок'), балг. *нос,* серб.-харв. *р̂т,* славен. *ŕt,* макед. *'рт* (што фармальна адпавядае бел. *рот*).

**Мы́са** 'морда, пашча свойскай жывёлы' (ТСБМ, Сцяшк.; Янк. 1, слуц., пін., тураў., КЭС), *мы́сы* 'морда' (Клім.), *мы́ся, мы́ська* (дзіцячае) 'карова, кароўка' (Нас.), пін. *мыса́тый* 'чалавек з тоўстым адутлаватым тварам' (Вярэніч, Бел.-рус. ізал., 27), укр. *ми́дза, ми́зя, муса* 'морда, рыла'; рус. арханг., паморск. *мыс* 'галава рабіны', кур. *мыса́лы* 'скулы, сківіцы', заўральск. *мыса́ло* 'твар чалавека, морда'. Бел.-рус. ізалекса (Вярэніч, там жа, 27—30). Прасл. *mysa*. І.-е. адпаведнікі: літ. *mū̃za* 'морда', 'рот', 'твар', італ. *muso* 'морда, лыч жывёлы', 'твар, морда чалавека', лац. *mūcro, -ōnis* 'вастрыё', 'меч, шабля, кінжал', ст.-грэч. *μυχός* 'заліў, бухта', ст.-інд. *múkham* 'пашча, морда'. Да і.-е. **mu-*. Параўн. *мыс* (ЕСУМ, 3, 458).

**Мыса́ты** 'заточаны не на востры вугал' (слуц., Нар. словатв.), смал. *мысатый нож* 'нож з вострым канцом'. Да *мыс* (гл.).

**Мысе́ка**$_1$ (дзіцячае) 'мошка' (Нас.). Балтызм. Параўн. літ. *musēlė, musýtė* 'мушка', *mãšalas* 'мошка'.

**Мысека**$_2$ (дзіцячае) 'калматы мядзведзь' (Нас.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *meška* 'мядзведзь'. Гл. таксама *мышэка, машэка.*

**Мы́ска** 'сорт бульбы' (ганц., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Мыслён** 'паўбатыст' (Шпіл.). Да *муслі́н* (гл.). Канец слова аформлены паводле бел. *лён.*

**Мыслі́вец,** *мысліве́ц* 'паляўнічы' (Сцяшк.), *мысліўца* 'паляўнічы з гончымі', *мысліўства* 'паляванне з сабакамі' (Нас.), *мысліва* 'паляўнічы' (Янк. БП), ст.-бел. *мысливецъ, мысливство* 'тс' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *myśliwiec, myśliwstwo* (Булыка, Лекс. запазыч., 90; Кюнэ, Poln., 79), якія ад *myśleć, myśl*. Да *мысль* (гл.).

**Мыслі́вы**$_1$ 'кемлівы' (нараўл., Мат. Гом.). Укр. *мисли́вий* 'разумны, кемлівы', рус. тамб. *мысливый* 'тс', ст.-польск. *myśliwy* 'чалавек, які думае, задумваецца', чэш. *myslivý*, серб.-харв. *misliv, mišļiv*. Прасл. *myslivь*. Да *мы́сліць* (гл.).

**Мы́слік** 'ручны інструмент для прабівання невялікіх дзірачак у метале, камені, скуры і г. д. (ТСБМ, Сцяшк., Шат., Касп.; КЭС, лаг.; беш., Сл. Эп.-Шып.). З польск. *myślik* 'тс', якое з ням. *Meissel* 'далато' (Варш. сл., 2, 1088).

**Мыслі́цель** 'мудрэц, філосаф' (ТСБМ). З рус. *мысли́тель* (Крукоўскі, Уплыў, 38 і 57). Аналагічна *мыслі́цельны, мы́сліцца, мы́слімасць, мы́слімы* (Крукоўскі, там жа, 58).

**Мы́сліць** 'разважаць, супастаўляючы думкі або з'явы



рэчаіснасці і робячы з іх вывады', 'уяўляць у думках, жадаць' (ТСБМ, Нас., Яруш.), *мыслява́ць* 'разважаць' (мазыр., Нар. Гом.). Укр. *мислити,* рус. *мыслить,* польск. *myśleć,* н.-луж. *mysliś,* в.-луж. *myslić,* чэш. *mysliti,* славац. *mysliet'*, славен. *mísliti,* серб.-харв. *мѝслити,* макед. *мисли,* балг. *мисля,* ст.-слав. **мыслити (мышлѫ)**. Прасл. *mysliti,* якое з *myslь*>*мысль* (гл.).

**Мысль** 'думка', 'дума' (ТСБМ, Яруш.), *мы́слі* 'думкі' (мядз., іўеў., Сл. ПЗБ). Укр. *мисль, мисля,* рус. *мысль,* польск. *myśl,* н.-, в.-луж. *mysl,* чэш. *mysl,* славац. *mysel,* славен. *mîsel, mísel,* серб.-харв. *мûсао,* макед. *мисла,* балг. *мисъл,* ст.-слав. **мысль**. Прасл. *myslь* традыцыйна выводзяць з *mud-tlь* (Трубяцкой, ZfslPh, 2, 117) і падаюць роднасныя і.-е. адпаведнікі: літ. *maũsti (maudžiù)* 'ныць', 'сумаваць', 'вельмі жадаць', *ãpmaudas* 'прыкрасць', гоц. *gamaudjan* 'прыгадваць', *ufarmaudei* 'забыццё', ст.-грэч. *μῦθος* 'мова, слова', у Гамера 'думка' *μυθέομαι* 'гавару, размаўляю, абмяркоўваю', новаперс. *mōye* 'скарга', магчыма, ст.-ірл. *smūainim* 'думаю' (<**smoudniō*). (Міклашыч, 208; Траўтман, 171; Мее, 416; Фасмер, 3, 25; Махэк$_2$, 385; Бязлай, 2, 185). Фрэнкель (420) адхіляе роднаснасць паміж слав. *myslь* і літ. *maũsti* і суадносіць з *мудзіць* (гл.). Тапароў (Этимология-1963, 5—13) пераканаўча сцвярджае, што прасл. *myslь* — стары аддзеяслоўны назоўнік **monsli-* (<і.-е. **men-*), роднасны да *mǫdrъ* (гл. *мудры*), і параўноўвае з літ. *mąslus* 'удумлівы, кемлівы, разважлівы', *mąstýti* 'мысліць, меркаваць, разважаць' (<і.-е. **man-*<<**men-*), звязваючы прасл. *myslь* з *mьnitъ*. Ва ўсх.-слав. мовах у лексемы *myslь* завужана семантыка, і яна амаль выцеснена прасл. *duma*>*ду́ма* (гл.) (Мартынаў, Лекс. взаимод., 84).

**Мысок** 'насок' (ТСБМ, Нас.; добр., Мат. Гом.). Да *мыс* (гл.).

**Мыт**$_1$, *мы́та* 'падатак за правоз тавараў цераз граніцу ці на тэрыторыі дзяржавы' (ТСБМ, Гарб., Гарэц., Груш., Др.-Падб., Касп.). Укр. *мито,* рус. *мыто,* ст.-рус. *мытъ, мыто,* польск., н.- і в.-луж. *myto,* чэш., славац. *mýto,* славен. *míto,* серб.-харв. *ми́то, мûт;* макед., балг. *мито,* ст.-слав. **мыто.** Прасл. *myto*. Запазычана са ст.-в.-ням. *mûta* 'пошліна; мыта' (Міклашыч, 208; Уленбек, AfSlPh, 15, 489; Фасмер, 3, 26; Скок, 2, 434; Атрэмбскі, Sprache, 12, 1966, 61—62; Германовіч, Лекс. і грам., 3). Сюды ж *мы́тнік* 'служачы мытніцы, чыноўнік' (ТСБМ, Груш.).

**Мыт**$_2$ 'глыбокае месца ў рацэ з вірам' (паўн.-усх., КЭС). Да *мыць* (гл.): ад дзеепрыметніка *+мытъ* 'вымытае вадою месца'.

**Мыт**3, *мытýха* 'панос у парасят' (драг., З нар. сл.), 'панос' (усх., ҚЭС; Грыг., Қасп.), 'дызентэрыя' (Нас., Гарэц., Бяльк.), магчыма, 'хвароба скаціны' (Анік.). Вярэніч (Бел.-рус. ізал., 25) адносіць сюды і *мыт* 'інфекцыйная хвароба коней: запаленне слізістай абалонкі насаглоткі і падсківічных залоз' (ТСБМ; стаўбц., валож., ҚЭС), укр. *мит* 'тс', рус. калуж. *мытúца* 'тс'. Рус. *мыт* 'панос' (паўсюдна) Фасмер (3, 25) супастаўляе са ст.-інд. *mū̆tram* 'мача' і выводзіць з *мыть* 'мыць'. Параўн. таксама і польск. *mycić się, nicić się* 'хварэць на панос'.

**Мытавáць** 'спрабаваць, прымушаць, рабіць што-небудзь' (Кос.). Да *мыта* (> +*мытаваць* 'прымушаць плаціць мыта').

**Мы́тар** 'лазня' (Сл. Эп.-Шып.). З польск. *mytarstwo* 'чысцец, чысцілішча' пад уплывам (народная этымалогія) лексемы *мыць*.

**Мытáра** 'рубель (на возе сена)' (мсц., ісл., ДАБМ, к. 289). Няясна. Магчыма ад ст.-рус. *мытарница* 'таможня', дзе знаходзіўся шлагбаум — адна са знешніх прыкмет мытніцы.

**Мытарок** 'вяровачка, на якой вадзілі свойскіх жывёл і сляпцоў' (Нік. Очерки). Да *мотар* (гл.).

**Мы́тка**1 'анучка, якой мыюць посуд' (чав.). Да *мыць* (гл.). Аб суфіксе *-к-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 47.

**Мы́тка**2 'жанчына, схільная да падману' (шкл., Мат. Маг.) прымыкае да рускамоўнага арэалу, дзе вяц. *мытáрка* 'ілжывая, пранырлівая жанчына', варон. *мытоврить* 'хлусіць', 'мучыць', вяц., уладз., пск. *мы́тарный, мытáрный* 'ілжывы, каварны', 'здабыты няправўдай'. Да *мыт*1, *мыта* (гл.).

**Мы́тлахам** 'хутка' (слонім., Сцяшк. Сл.), *мы́тлям* 'імгненна' (дзятл., там жа). Да *мотлах* (гл.).

**Мы́тля** 'жанчына, якая разносіць плёткі' (навагр., Нар. словатв.). Да *муціць* 'хлусіць' (гл.).

**Мытлявáць** 'цыраваць' (свісл., Сцяшк. Сл.). З польск. *metlować* 'блытаць, перашкаджаць, рабіць замяшанне', люблінск. *mytlać śe* 'заікацца'.

**Мы́тнік** 'увярэднік балотны, Pedicularis palustris L.' (ТСБМ). Няясна. Рус. пск. *мытник болотный* (ужываецца супраць ліхаманкі). Можна дапусціць сувязь з *мыт*3 (гл.).

**Мы́тніца,** *мытня* 'таможня' (ТСБМ, Нас., АУ). З польск. *mytnica, mytnia* 'тс'. Больш падрабязна гл. Германовіч, Лекс. і грам., 3—5.

**Мыток** 'мыйшчык' (зэльв., Жыв. сл.). Да *мыць* (гл.). Аб суфіксе *-ok* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 59—60.

**Мытрахля́сьце,** *мытрахля́сці* 'абтрэпаны падол вопраткі, адзенне' (Қасп., Сл. Эп.-Шып.). Да *матрахля́сы* (гл.).

**Мытэнька** 'драўляная мянташка' (кам., Выг. дыс.), *мынтэнька* 'тс' (кам., ДАБМ, к. 264). Балтызм. Параўн. літ. *mentẽ* 'лапатка'. У першым слове *-н-* выпадае з прычыны разумення лексемы як польскай.



**Мы́ўніца** 'лазня' (віц., маг., мін., Яшк.), ст.-рус. *мовня, мовьня, мовьница, мовница* 'тс' (X ст.), якія ад дзеяслова шматразовага дзеяння *мывати*<*мыти*. Да *мыць* (гл.).

**Мы́ха** — у выразе *пад мыху* 'пад паху' (Ян.). Можна дапусціць кантамінацыю лексем *мы́шца* і *пáха* (гл.).

**Мыхтáйка** 'гальштук' (драг., З нар. сл.). З польск. *miktajza* 'тс', якое з англ. *necktie* 'тс', якое на Палессі асацыіравалася з дзеясловам *мыхтíтэ* 'мігацець': колеры на гальштуках звычайна былі яскравыя і мігацелі ў вачах. Гл. таксама *міктáйза* (Глінка, Бел.-польск. ізал., 30).

**Мы́цельнік,** *мы́цяльнік* 'куток у хаце, дзе мыюць посуд' (ТСБМ, Некр., Бір. дыс.; пух., ДАБМ, к. 335; шацк., ҚЭС; лельч., браг., Мат. Гом.; Мат. Маг.). Беларускае. Утворана ад +*мы́цель* (ці *мы́цельны*), як *суднік*. Параўн. укр. *ми́тель* 'цёплая вада для мыцця галавы', 'луг, у якім жлукцяць бялізну', а таксама польск. *myciel* 'луг', 'лазеншчык', чэш. *mýtel*, кладск. *mejtel* 'лазня', 'ванна'.

**Мыцéня** 'мыццё' (шчуч., З нар. сл.), ганц. *мыцéньe*, ваўк. *мыцэ́ня* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *мыць* (гл.). З двайным суфіксам аддзеяслоўных назоўнікаў.

***Мыцéчка,** пін. *мытéчка* 'вязка сушаных уюноў' (Сл. Брэс.). Да *вітка* (гл.) 'прут, дубец'. Параўн. серб.-харв. *витка* 'прут для пляцення кошыкаў', ст.-бел. *вить, виць* 'лаза, скрутак шнуроў'. Роднасныя да *віць* (гл.).

**Мы́цка**1 'круглая шапка, ярмолка' (Федар. 6), ст.-бел. *мыцка* 'тс' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *tycka* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 107), якое з с.-н.-ням. *mutze*<с.-лац. *almutia* 'шапачка для духоўных асоб'<араб. *al-mustaqah* 'кажух, футравае паліто'.

**Мы́цка**2 'мыза' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Да *мыса* (гл.). Магчыма, *-ц-* у выніку кантамінацыі *мыса* (ці *мыза*) і *пыца* (ці *пыка*) 'тс'.

**Мыцця́нка,** *маццянка* 'больш дасканалая дуда з некалькімі гукамі' (Інстр. III). Да *муцця́нка* (гл.).

**Мыць,** *мы́ці, муць, мы́ты, мэ́тэ* 'вадой з мылам ці іншай вадкасцю ачышчаць ад бруду', 'абмываць вадой бераг' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ; драг., Лучыц-Федарэц), *мы́цца (мы́ціса, му́цца, мэ́тыся)* 'умываць, мыць сябе' (там жа). Укр. *мити*, рус. *мыть*, польск. *myć*, н.-луж. *myś*, в.-луж. *myć*, чэш. *mýti*, славац. *myť*, славен. *míti*, серб.-харв. *ми̏ти*, макед. *мие*, балг. *мия*, ст.-слав. **мыти**. Прасл. *myti*, і.-е. адпаведнікамі да якога з'яўляюцца: літ. *máudyti* 'купаць, мыць', лат. *màut*

'плаваць, даваць нырца', ст.-прус. *au-mūsnan* 'умыванне', ірл. *mūn*, ст.-інд. *mūtram* 'мача', авест. *mūϑrəm* 'бруд'<і.-е. **meu-* 'вільгаць' (Міклашыч, 207; Траўтман, 191; Мюленбах — Эндзелін, 2, 570; Фасмер, 3, 26; Фрэнкель, 1, 417; Махэк₂, 386; Покарны, 1, 743; Скок, 2, 434; Бязлай, 2, 186). Сюды ж *мыцьво* 'ўсё тое, што мыюць' (гродз., Мат. АС), *мыцёха* 'жанчына, якая мые бялізну ці посуд' (КЭС, лаг.).

**Мыч** 'папярочнае бярвенца (пояс) паміж вертыкальнымі слупамі калодзежа' (Клім.; кобр., драг., іван., Лучыц-Федарэц, Сл. Брэс.); *мыч, мычова́ньне, ночова́ньне* 'пояс паміж дзвюма кроквамі' (зах.-палес., Нар. сл.), *мэчы́* 'гарызантальныя папярочныя планкі, якія замацоўваюць раму ткацкага варштату' (драг., Уладз.), польск. пазнаньск. *miecze* 'падпоркі слупкоў («дзядкоў») пад дахам'. З прасл. *mъčь*<*mъk-jь*,— гэта аснова пашырана ў шматлікіх слав. словах, параўн. бел. *замкнуць, замок, змыкаць* (гл.) і інш. (Фасмер, 2, 631).

**Мы́чка**₁, *му́чка* 'абчасаная на грэбені і скручаная скруткам жменька ільновалакна, падрыхтаваная да пражы' (Юрч., Касп., Бяльк., Растарг., Мат. Гом., Мат. Маг., Рам. 3, Нар. Гом., Нар. словатв., ТС, Ян.), 'недапрадак', 'абдзіркі' (нараўл., петрык., ЛАПП). Укр. *мі́чка,* рус. *мы́чка, мычка́,* польск. вармінська-мазурск. *tyczki* 'кудзеля'. Да *мы́каць*₂ (гл.).

**Мы́чка**₂ 'месца пад заднім пальцам на капыце каня' (кобр., Нар. лекс.). Да *-мыкаць, змыкацца* (прасл. *mъk-*): у гэтым месцы нага каня змыкаецца з капытом.

**Мы́чка**₃, *му́чка* 'пакручастая нярэзкая неядомая белая лугавая трава сівец, Nardus L.' (Бяльк., Мат. Гом., Нар. Гом., ТС, Ян.), 'густая сухадольная дзярніна сіўцу' (жытк., Яшк.). Да *мы́чка*₂. Названа паводле падабенства кусціка травы з валасістым покрывам пад заднім пальцам ля капыта каня.

**Мыча́ць,** *мычэць* 'ціха мыкаць (пра карову)' (ТСБМ, Бес., Др.-Падб., Янк. 2, Юрч., Бяльк., Сл. ПЗБ; паўсюдна, ДАБМ, к. 300). Гукапераймальнае. Да *мы́каць*₁ (гл.).

**Мычу́н** 'бык' (ваўк., Сцяшк. Сл.). Да *мыча́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ун* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 68.

**Мы́чыць,** драг. *мы́чыты* 'часаць ільновалакно на драўляным грэбені (на *мычкі* 'абчасаныя на грэбені і скручаныя скруткам жмені ільновалакна') (Нас., Клім., Юрч.), 'папіхаць кім-небудзь' (Нас.). Да *мы́каць*₂ (гл.).

**Мы́чыцца** 'круціцца, мільгаць каля чаго-небудзь' (Нас.). Інтэнсіў ад *імча́цца* (гл.). Роднаснае да рус. *мы́каться.* Параўн. рус. уладз. *мычкаться* 'мучыцца, гараваць, пакутаваць'.

**Мыш** 'грызун Apodemus agrarius' (ТСБМ, Бес., Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ), драг. *мэш* 'тс' (КЭС), *муш* (ТС), *мы́ша* 'тс'



(Бяльк., Сл. ПЗБ), *мы́шына* 'тс' (мсцісл., міёр., бялын., З нар. сл. і Янк. Мат.; Яруш., Бяльк.), петрык. *муш* 'пацук' (ЛАПП), *мыша́к* 'мыш' (Нар. Гом.). Укр. *миш, миша,* рус. *мышь,* польск. *mysz,* палаб. *mois,* каш. *mёš,* н.-, в.-луж., чэш., славац. *myš,* славен. *mìš,* серб.-харв. *мӥш,* макед., балг. *мишка* 'мыш', макед. *миш* 'глухі', ст.-слав. **мышь.** Прасл. *myšь.* Да і.-е. **mūs* 'мыш' (ст.-інд. *mūṣ-*, новаперс. *mūš,* лац. *mūs,* ст.-грэч. μῦσ, алб. *mī,* ст.-в.-ням. *mûs,* арм. *mukn*), якое да **meu-s-* 'красці', параўн. ст.-інд. *muṣṇā́ti, moṣati* 'крадзе', *moṣa* 'злодзей' (Міклашыч, 208; Траўтман, 191; Покарны, 743 і 753; Мее, 262; Фасмер, 3, 27; Скок, 2, 433; Бязлай, 2, 185). Трубачоў (ZfSl, 3, 1958, 676) мяркуе, што **mūs-* — адна з табуістычных назваў жывёл — «шэрая», роднаснае да *муха, мох* (гл.). Тапароў (СБЯ, 1977, 77) сцвярджае, што фракійск. **mūs* 'мыш' легла ў аснову μοῦσ->Μοῦϑαι 'Музы'. Сюды ж *мышаёддзя* 'рэшткі ад рэчаў, недаедзеныя мышамі' (Грыг.), *мыша́сты, муша́сты, мыша́ты, мышы́ны* 'шэры, цёмна-шэры' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл; КЭС, лаг.), 'шэры конь з чорнай паласой на спіне' (ТС).

**Мышабо́й** 'боцікі, Aconitum L.' (віц., Кіс.), як і маг. *ваўкабойнік* 'тс' (Кіс.), з'яўляецца калькай нейкай іншай назвы (параўн., напрыклад, іншыя слав. не зусім зразумелыя назвы: чэш. *omej, oman,* польск. *omięg, omieg,* славац. *omich* і ст.-польск. *omiąg* 'яд'; чэш. *nálep,* славен. *nálep,* харв. *nalijep* і ст.-чэш. *nálep* 'яд, якім націралі вострыя канцы стрэл'). Параўн. таксама чэш. *vlčí (psí) mor*<ням. *Wolfs-* або *Hundsgift* для *Aconitum vulparia.* Яд расліны выкарыстоўваўся наступным чынам: расліну сушылі, таўклі, пасыпалі ёю сырое мяса і раскідвалі яго па лесе, у полі. Існавала павер'е, што ваўкі, лісы, мышы, з'ядаючы гэта мяса, здыхалі. Параўн. яшчэ чэш. мар. *mordovník,* якое да *mordovati* 'мардаваць' (Махэк, Jména, 45—47).

**Мышава́ць** 'рыць зямлю лычом (пра свіней)' (вільн., Сл. ПЗБ). З літ. *mišýti* 'мяшаць' (Грынавяцкене, там жа, 3, 94).

**Мы́шак** 'мышасты конь' (шальч., Сл. ПЗБ). Відаць, паланізм. Параўн. польск. *myszak* 'назва вала'. Бел. лексема названа паводле шэрага колеру каня.

**Мыша́к**₁ 'плотавы гарошак, Vicia sepium L.' (маг., Кіс.), ветк. 'мышыны гарошак, Vicia cracca L.' (Мат. Гом.), віц. *мыш'я́к* 'гарошак, што расце ў жыце' (Бел. хр. дыял.). У выніку намінацыі з *мышыны гарошак,* параўн. паст. *мышыны гарошак* 'тс' (Сл. ПЗБ), міёр. *мышы́нъй гарошък* 'тс' (Жыв. сл., Бяльк.). Да *мыш* (гл.). У выніку кантамінацыі назваў *мышыны гарошак* і *ляд* 'тс' утварылася бяроз. *мышы ляд* 'тс' (Нар. лекс.). *Ляд* узыходзіць да *ляда,* параўн. рус.

*лядвенец, лядник,* польск. *lędźwiec,* славац. *l'adník, l'adnica*< прасл. *lędьпьсь.*

**Мыша́к**2 'неядомы грыб' (мсцісл., З нар. сл.; касцюк., Жыв. сл.); *мышакі́, мышшакі́, мыша́чча* — агульная назва неядомых грыбоў (Юрч., Анік., Нас., Бяльк.). Утварылася ў выніку намінацыі словазлучэння *мышыны(я) грыб(ы)* 'тс' (кругл., Жыв. сл.; бялын., Нар. сл.). Параўн. таксама *мышшак, мышакі* 'мышыныя фекаліі' (Нас., Шат.).

**Мышалоз** 'вярба размарыналістая, Salix rosmarinofolia L.' (гродз., Кіс.). Да *мыш* і *лаза́* (гл.). Названа паводле невялікага росту вярбы (параўн. маг. *ніцая лаза,* мін. *ніцалаза* (там жа).

**Мышапор** 'пранырa, які можа знайсці ўсё, нават добра схаванае' (маладз., Янк. Мат.; віл., Нар. сл.), 'дзіцё, якое поркаецца ў матчыных сховах' (КЭС, лаг.). Да *мыш* і *поркацца* (гл.).

**Мыша́рына** 'імшара' (лун., Шатал.; бар., Сл. ПЗБ). Да *імша́ра* (гл.).

**Мыша́тнік** 'каршун, што ловіць мышэй' (Бяльк.), рус. калуж. *мыша́тник* 'мышалоў'. Усх.-бел.-рус. ізалекса. Да *мыш* (гл.).

**Мышахвоснік** 'расліна Myosurus minimum L.' (Кіс, ТСБМ). Відаць, з рус. *мышехвостник* 'тс', якое з'яўляецца скандэнсаванай калькай з с.-лац. *cauda muris.* Аналагічна ўкр. *мишиий хвіст,* польск. *myszy ogon,* чэш. *myší ocásek,* славац. *myší chvostík,* славен. *mišji rep* 'тс', таму што плод расліны падобны да мышынага хваста (Махэк, Jména, 49).

**Мы́шка** 'пад пахай' (пух., стаўбц., КЭС), рус. *мышка, под мы́шкой,* польск. *myszka,* в.-луж. *myška,* чэш. *myška,* славен. *mîška,* серб.-харв. *ми̏шка,* балг. *мишка.* Калька з лац. *mūsculus* 'мышка' (Фасмер, 3, 27; Бязлай, 2, 185).

**Мышкава́ць,** *мушкава́ць, мушкова́ць* 'вынюхваць (пра жывёлу)', 'шукаць, выведваць, выпытваць' (Сл. ПЗБ; навагр., Нар. сл.), '(пра ліса) лавіць мышэй' (ТСБМ), 'вышукваць і лавіць мышэй' (ТС), 'шукаць смачнага, перабіраць у ядзе' (ТС; мазыр., З нар. сл.), драг. *мэ́шкатэ, мы́шкаты* 'тыкаць, поркаць; злёгку рыць рылам' (драг., Нар. лекс.; Клім.). Укр. *мишкува́ти* 'шукаць', 'лавіць мышэй', 'перабіраць яду', польск. *myszkować* 'лавіць мышэй (пра ліса)', 'вышукваць пажыву', 'рыцца', 'падглядаць'. Паводле Брукнера (350), Варш. сл. (1085), утворана ад *myszka.* Аднак можна дапусціць, што гэта ўплыў народнай этымалогіі. А тады лексема — балтызм (параўн. літ. *mišýti* 'мяшаць'). Гл. таксама *мышава́ць.*

**Мы́шкі** 'хвароба ў каня' (смарг., іги., Сл. ПЗБ), 'запаленне залоз' (лепел., КЭС), *мы́шкі хапілі* 'хвароба статку, колікі' (КЭС, лаг.). Укр. *ми́шка* 'міжвольнае паторгванне мышцы', рус. *мы́шка* 'пухліна, запаленне падсківічнай залозы', 'пухліна ў пахах жывёл', калуж. 'колікі'. Бел.-рус. ізалекса. Да *мы́шка* 'мышца'<*мыш* (гл.).



**Мышля́й** 'цямлівы, разумны' (Бяльк.). Да *мы́сліць* (гл.). Аб суфіксе *-яй* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 145.

**Мышля́к,** *мышле́к* 'саломенны матрац' (стол., пін., Сл. Брэс.). Няясна. Магчыма, роднаснае да *мяшок* (гл.).

**Мышняк,** *мышні́к* 'месца, зарослае мохам Dumetum' (Гарб.), 'зараснік, участак, які зарос кустамі' (ковенск., Антановіч, дыс.). Да *мох* (гл.). Аб суфіксе *-як* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 131.

**Мы́шца** 'мускул' (ТСБМ). Запазычана з рус. *мышца* (Крукоўскі, Уплыў, 72), у якой са ст.-рус. *мышьца*<ст.-слав. **мышьца**. Да *мыш* (Фасмер, 3, 27).

**Мы́шчалка** 'выступ або патаўшчэнне на канцах касцей шкілета, якое служыць для прымацавання мышц або ўваходзіць у склад сучлянення' (ТСБМ), расон. *мы́шчалкі* 'суставы пальцаў на руцэ' (Шатал.). З рус. *мы́щелка, мыщелок* 'шчыкалатка', 'галоўка касці, (Крукоўскі, Уплыў, 72), якія Гараеў (221) выводзіць з *мышка, мышь.* Не зусім пераканаўча.

***Мы́шчыкалатка,** *мышчыкълътка* 'костачка (чучалак) у пальцы' (гарадоц., Нар. лекс.). У выніку кантамінацыі *мышчалка* і *шчыкалатка* (гл.).

**Мышэка** (дзіц.) 'мыш і іншы невялікі касматы звярок' (Нас.). Да *мыш* (гл.). Параўн. таксама *машэка, мысе́ка*1.

**Мыш'я́к** 'хімічны элемент Arsenicum', *мышша́к* 'тс' (Нас.), *мыша́к* (Бяльк.). З рус. *мышьяк,* якое першапачаткова абазначала 'мышыны яд'. Параўн. *мыша́к*1 'мышыны гарошак'.

**Мэбля** 'прадметы абстаноўкі памяшкання' (ТСБМ, Сл. ПЗБ) з польск. *mebel, meble* 'прадметы абстаноўкі, звычайна сталярскай работы' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 95), якія з ням. *Möbel*<франц. *meuble* 'мэбля, хатняя абстаноўка' (Варш. сл., 912). *Мэблява́ць* 'абстаўляць мэбляй' — марфалагічная калька з рус. *меблировать* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 116). Сюды ж беласт. *мэ́бэль* 'сталярскі інструмент' (Сл. ПЗБ) — семантычны пераход 'мэбля сталярскай работы'> 'інструмент, якім вырабляюць такую мэблю'.

**Мэвы** 'чайкі' (ваўк., Сл. ПЗБ). З польск. *mewa* 'чайка', якое з ням. *Möwe* 'тс'<с.-в.-ням. *māwen 'крычаць'.*

**Мэглух** 'шматок' (Бяльк.). З *мэтлух* 'тс'. Да *мотлах* (гл.).

**Мэдзіцца** 'прымервацца да справы, мецицца яе зрабіць, доўга збірацца рабіць' (дзярж., Нар. сл.; Калюга, КТС). У выніку кантамінацыі лексем *мэта* і *мудзіць*<*муда́к* (гл.).

**Медлі,** *мэдлік, мэдля* 'ўкладка снапоў крыжыкамі' (Бір.

дыс.; капыл., ДАБМ, к. 286; ТСБМ), ганц. 'укладка з 20 снапоў', пух. 'укладка жыта ў 10 снапоў', 'укладка з 5 снапоў аўса' (Сл. ПЗБ), *мэтлік* 'капа' (Яруш.). Да *мэндлік* (гл.).

**Мэйсар** 'спецыяльны шавецкі нож' (гродз., Нар. сл.). З ням. *Messer* 'нож' (магчыма, праз ідыш).

**Мэ́каць** 'утвараць працяжныя гукі «мэ-мэ» (пра некаторых жывёл)' (ТСБМ; ц.- і ўсх.-палес., ДАБМ, к. 302), 'падаваць голас (пра цяля)', (ТС). Гукапераймальнае. Параўн. *ме́каць, мі́каць* (гл.).

**Мэкнуць** 'ударыць' (гор., Мат. Маг.). Да *шмя́кнуць* (гл.).

**Мэкшты** 'балеткі', 'льняныя, канапляныя палатняныя тапачкі для дзяцей, нябожчыкаў' (паст., астрав., воран., шальч., віл., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *mẽkštas, mãkštas* 'тапачка з нітак' (Грынавяцкене, там жа, 3, 95).

**Мэлдацца** 'валтузіцца' (ашм., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *máltis* 'круціцца, ёрзаць', 'важдацца, валтузіцца', 'працiскацца'.

**Мэлес** 'від варэння' (пін., Нар. лекс., Сл. Брэс.), *мэляс* 'смажаная морква' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Да *ме́лес* (гл.).

**Мэльду́нок** 'данос' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *meldunek* < *meldować* 'даносіць'.

**Мэ́лькоцень** (экспр.) 'вельмі неўгамонны чалавек' (івац., Жыв. сл.). З польск. *belkotliwy* 'балбатлівы, лепятун' і суфікса *-ень* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 99).

**Мэма$_1$** 'няўдачнік, маўчун', 'гультай' (ігн., барыс., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *mėmá, mėmẽ* 'зявака, маўчун' (Грынавяцкене і інш., Liet. term., 183).

**Мэма$_2$** 'вош' (шчуч., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *mūtas* 'вош' (Грынавяцкене, там жа, 3, 83).

**Мэма$_3$** 'бэба, якой палохаюць дзяцей' (РБС$_2$, 1, 76). Балтызм. Параўн. літ. *mėmẽ* 'ціхі, павольны, маўклівы'.

***Мэмляцца,** *мэ́млятісе* 'марудна што-небудзь рабіць' (беласт., Сл. ПЗБ), рус. *мумлить, мумрить* 'смактаць, павольна жаваць', каш. *mumlac* 'тс', н.-луж. *mumliś*, в.-луж. *mumlić, mumolić* 'жаваць з цяжкасцю', укр. *мýмрати* 'рабіць марудна'. Паўд.-слав. лексемы семантычна трохі аддаленыя ад бел. Гукапераймальнае. Параўн. с.-н.-ням., новав.-ням. *mummen, mummeln* 'мямліць, жаваць, як бяззубы' (Бернекер, 2, 75; Мацэнаўэр, LF, 11, 162; Фасмер, 3, 9). Гл. таксама *мýмліць*.

**Мэмэ́каць** 'абзывацца (аб авечках)' (Нар. Гом.). Гукапераймальнае. Параўн. *мэкаць*.

***Мэндаль,** міёр. *мэндъль* 'дурны, някемлівы, нездагадлівы' (З нар. сл.) ці *ме́ндаль* 'хітры ашуканец' (паўд.-усх., КЭС) утвораны, відаць, ад імя (прозвішча) ці мянушкі чалавека. Апошняе, магчыма, з польск. *mędral* < *mądry* 'мудры, разумны'.



**Мэндлік,** *мэндаль, мэ́ндэль, мэндыль, мэндзяль, мэндля, мэндла* 'маладая ўкладка 5 або 10—15 снапоў, пастаўленых у кучкі для прасушкі і накрытых распасцёртым снапом зверху' (ТСБМ, Бір. дыс.; івац., Сл. Брэс.; Шат., Сл. ПЗБ, Сцяц.; гродз., КЭС; карэліц., Шатал.; навагр., Нар. словатв.; паўн.-зах., ДАБМ, к. 286), 'укладка з 30 снапоў' (кам., Шатал.); ваўк. 'пятнаццаць штук чаго-небудзь' (Сл. ПЗБ). З польск. *mendel, mędel, mandel, mądel,* якія з паўн.-ням. *Mandel* 'мэндлік', '15—16 штук чаго-небудзь' (Чартко, Бел. лінгв. зб., 147 і 149; Выгонная, БЛ, 6, 1974, 64 і Бел.-укр. ізал., 15) < с.-лац. *mandala* 'кораб, кош' (Васэрцыер, 148).

**Мэндрыкі** 'печыва з мукі ці бульбы' (іўеў., Сл. ПЗБ). Магчыма, з літ. *méndrė* 'трысцёг'. Параўн. *палачкі (кукурузныя, салёныя* і да таго пад.). Не выключаецца запазычанне з польск. *małdrzyk* 'коржык з сырам' ці укр. *мандрык* 'тс' (Брукнер, 319; ЕСУМ, 3, 381).

**Мэнка** 'мука, пакута' (Сцяшк., Сцяц.; маладз., Янк. Мат.; бяроз., Выг. дыс.; стаўбц., Нар. сл.; Сл. ПЗБ), 'фігура распятага Хрыста' (швянч., там жа), *мэнчыць, мэнчыцца* 'мучыць, вельмі мучыць, цягнуць, валаводзіць', 'пакутаваць' (Мал., Шат., Юрч., івац., Сл. Брэс.; Сцяц., Сл. ПЗБ; міёр., З нар. сл.; віл., Нар. сл.). З польск. *męka* 'пакута', *męczyć* 'мучыць' (Шатэрнік, 161; Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10 і 13; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 96—97). Аналагічна *мэнчанік* 'пакутнік' (шальч., Сл. ПЗБ) з польск. *męczennik* (Мацкевіч, там жа).

**Мэнтам** 'хутка' (дзятл., Сцяшк. Сл.), *ме́нтам* 'вокамгненна, у момант' (Нар. Гом.). Чэш. *ani ment, ani za ment, ani o ment* 'нават, крышачку, зусім не', *do (g)mentu* 'да апошняга кавалачка'; *mentem, mentinou* 'ўсё без выключэння', 'усё запар'. Паводле Траўнічка (Literární noviny, 15.9.1942), *ment* было, відаць, назоўнікам ад *men-ší* 'меншы'. Бел. лексема магла ўзнікнуць з *у моментъ* (гл. *момант*).

**Мэнтаць** 'пераварочваць, разглядаць' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *meñtyti* 'мяшаць, перамешваць', якое з польск. *tęcić* 'круціць, выкручваць', 'ашукваць'. Гл. *ме́нтаць* (гл.).

**Мэнтка** 'мянташка' (беласт., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *mentà, meñtė* 'мянташка, лапатка'. Суфікс *-к-а,* як у *лапатка.*

**Мэрам** 'нібы, быццам' (Гарэц., КТС — Дунін-Марцінкевіч, Цішка Гартны), 'у большасці' (капыл., нясв., клец.). Ад ням. *mehr* 'болей' (Ababурка, Лінгв. дасл., 7).

**Мэрва** 'пацяруха ад сена' (Бес.). З польск. *merwa* < *mierzwa* прасл. *mer-ti (mьrǫ)* 'паміраць'.

**Мэрля,** *мэрліна, мэрлячка* 'марля' (бялын., Янк. Мат.; міёр.,

Нар. словатв.; капыл., Жыв. сл.; паст., смарг., лід., Сл. ПЗБ). З польск. *merla* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 97).

**Маркамэ́нты** 'клопаты, турботы' (Бяльк.). Відаць, скажонае польск. *mankament* 'брак, недахоп, памылка, загана, хіба', якое з італ. *mencamento* 'недахоп, дэфект, парушэнне'.

**Мэт**$_1$ 'ахвочы да чаго-небудзь, аматар' (стаўбц., Сл. бел. фраз.). Няясна. Магчыма, да *мэта* (гл.).

**Мэт**$_2$ 'дзікі крык' у выразе *(дзікім) мэтам крычаць* (Крыў., Дзіс.; віц., Садоўскі, вусн. паведамл.). Да *мат*$_1$ (гл.).

**Мэта** 'месца, прадмет, лінія ці іншы ўмоўны арыенцір, да якога трэба дабегчы, дакінуць (мяч) пры некаторых рухомых гульнях', 'тое, да чаго імкнуцца', 'пастаўленая задача' (ТСБМ, Касп., Бес.; КЭС, лаг.; рэч., Д.-З. Пін.; гродз., Нар. словатв.; бялын., Янк. Мат.), ст.-бел. *мета* 'цэль' (пач. XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *meta (i met)*, якія з лац. *mēta* 'цэль, канчатковы пункт' (Брукнер, 330 і 680; Булыка, Лекс. запазыч., 65). Яшчэ раз у літаратурную бел. мову гэта слова ўвёў У. Дубоўка (гл. Каўрус, ЛіМ, 11.3.1988, с. 6). Параўн. *мета*$_1$ і *мета*$_3$.

**Мэткі** 'кулік з саломы для пакрыцця страхі' (пруж., Нар. сл.). Не зусім ясна. Відаць, з +*мэнткі*, якое з літ. *mentà* 'лапатачка': плоскія снопікі з саломы падобны да лапаты. Выпадзенне *-н-* параўн. у *мэтэ́нька* (гл.).

**Мэтлахі,** *мэтлух, мэтлухі* 'астатак, шматкі, драбніца, кавалачкі', 'пажыткі; манаткі' (ТСБМ, Юрч., Сцяшк., Касп., Др.-Падб.; слонім., Нар. лекс.). Да *мотлах* (гл.).

**Мэтлік** 'малая ўкладка снапоў у полі' (цэнтр.-зах., ДАБМ, к. 286; Яруш.; лаг., Шатал.). Да *мэндлік* (гл.). Выпадзенне *-н-* абумоўлена лакальнай (палескай) гіперправільнасцю рэфлекса польск. *-ę-* перад зубным.

**Мэтр** 'настаўнік', 'майстар у якой-небудзь галіне' (ТСБМ), 'мастак, зух', *мэтроўка* 'мастачка, майстрыха', *мэтроўскі* 'зроблены па-майстэрску' (Нас.). Праз польск. *metr* з франц. *maître,* якое з лац. *magister* 'настаўнік' (Варш. сл., 2, 930). Не выключана магчымасць паўторнага запазычання праз рус. мову.

**Мэтра**$_1$ 'метр' (брасл., Сл. ПЗБ), 'дровы, складзеныя так, каб усе вымярэнні мелі 100 см', 'цэнтнер' (Сцяц.). Як навуковы тэрмін з II пал. XIX ст. Паводле аналогіі да *лíтра* 'літр', якое, аднак, узыходзіць яшчэ да с.-лац. мовы *(litra)*. Да *метр* (гл.).

**Мэтра**$_2$ 'землямер' (Бес.). Да *метр* (гл.). Перанос значэння з nomen instrumentis на nomen agentis.

**Мэтэ́лык** 'мятлік, матыль' (Дразд.). Укр. *метелик.* Да *мятлік*$_4$ (гл.).

**Мэтэлюга** 'буран, мяцеліца' (Бес.). Да *мецялуха, мяцеліца* (гл.). Аб суфіксе *-юга* (<*-'uga*) гл. Слаўскі, SP, 1, 68.



**Мэтэ́нька** 'лапатка з пяском, якой вострацъ касу' (Бес.). Балтызм (яцвяжскае?). Параўн. літ. *mentẽ* 'мянташка', 'лапатка'.

**Мэх** (жарт.) 'чалавек, які імкнецца паласавацца чужым з дапамогай хітрыкаў' (карэліц., З нар. сл.). З польск. *mecha* 'пітны мёд', якое з венг. *mēhsör, mézser* 'тс'<*méz* 'мёд', *mēh* 'пчала' (Варш. сл., 2, 913).

**Мэцаць** 'мацаць' (барыс., Сл. ПЗБ), *мэцнуць* 'намацаць' (Жд. 1). Да *ма́цаць* (гл.). Аб мене *э*>*а* гл. Карскі, 1, 104.

**Мэціць** 'намервацца' (віл., Сл. ПЗБ). Да *мэта* (гл.).

**Мэша** 'нячысцік, пачвара', 'неахайна адзетая жанчына' (кір., Нар. сл.), слуц. 'непаваротлівая, павольная ў працы жанчына' (Нар. словатв.). Да *ме́ша* (гл.). Не выключана магчымасць генетычнай сувязі з польск. *meszka, mech, marucha* 'мядзведзь'.

**Мэшты,** *ме́шты* 'плеценыя кручком лапці з тонкіх вяровачак' (Сцяшк.; гродз., Мат. АС), *мэштачкі, мэштачке́* 'тапачкі з нітак, вяровак, старога сукна для дзяцей, нябожчыкаў', 'апоркі' (Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *mègzti* 'вязаць, плесці' (Цыхун, Лекс. балт., 52). Лаўчутэ (Балтизмы, 146) адносіць гэту лексему да слоў, паходжанне якіх недастаткова аргументавана. Параўн. таксама зах.-укр. *мешти* 'татарскія туфлі, лёгкія чаравікі'.

**Мява́цца** 'мецца, мець намер' (Нас.). З польск. *miewać się*, *mieć się*. Да *мець* (гл.).

**Мя́гаць,** *мя́гнуць* 'хадзіць, бегаць па сене, саломе' (Жд. 2). Няясна.

**Мя́гнуць**$_1$ 'аслабець, зваліцца' (КЭС, лаг.; Нас.), 'хацець піць' (Юрч.), '(аб вуснах) трэскацца ў час спёкі' (Др.-Падб.). Да *смага, смагнуць* (гл.).

**Мя́гнуць**$_2$ 'моцна ўдарыць па мягкай частцы цела' (Шат.). Да *шмя́кнуць* (гл.).

**Мяда́рка,** *мэдарка* 'медагонка' (маст., ваўк., Сл. ПЗБ; бераст., Сцяшк. Сл.). З польск. *miodarka* 'тс'.

**Мядзве́джае вушка** 'талакнянка звычайная, Arctostaphylos Adans uva-ursi Spreng.' (гродз., Кіс.), *медвеж'е ушко* 'дзіванна скіпетрападобная, Verbascum tapsiforme Schrad.' (жытк., Бейл.). Укр. *ведмеже ухо* 'дзіванна', 'шалфей, Salvia L.', рус. *медвежье ухо* 'піжма, Tanacetum vulgare L.', 'дзіванна', 'ландыш'. Матывацыя: існавала павер'е, што: 1) гэтыя ягады падабаюцца мядзведзям; 2) усе менш каштоўныя расліны і грыбы «аддаюцца» ваўкам, мядзведзям, мышам. Так жа і ў германскіх народаў (Махэк, Jména, 177; РЯШ, 1973, № 1, с. 83).

**Мядзве́дзік,** *мядзве́дка звычайная, мядзьве́дзька* 'насякомае мядзвёдка, Gryllotalpa' (ТСБМ, БелСЭ, Бяльк., Мат. Гом.), польск. *ńeźvi̯odek* 'тс'. Да *мядзве́дзь* (гл.). Названа паводле падабенства магутных пярэдніх лап насякомага да мядзведжых (Унбегаўн, Selected Papers on Rus. and Slav. Phil. Oxford, 1969, 270). Сюды ж *мядвядок* 'скарпіён' (Машчэнская, Бел. лекс., 112).

***Мядзве́дзіны,** кобр. *мыдвэдыны,* малар. *мэдвэ́дыны* 'ажыны, Rubus fructicosus L.' (Нар. лекс., Бел. хр. дыял. Сл. Брэс.), мазыр. *медзьве́дзі* 'тс' (Бейл.), брэсц. *мідві́дны́к* 'зараснік ажыны' (Сл. Брэс., Жыв. сл.). Рус. *медвежьи ягоды* 'маліна', ст.-польск. *miedźwiedziny,* ст.-чэш. *medvězie (nedvězie) jahod(in)y, nedvědiny, černé nedvědice,* суч. *medvědice,* якое Махэк (Jména, 101—102) лічыць не надта старым. Да *мядзведзь* (гл.): яшчэ ў сярэднія вякі бытавала павер'е, што мядзведзі вельмі любяць гэтыя ягады. Некаторыя іншыя назвы таксама ад назваў звяроў: *ажыны<ёж;* рус. *куманика<комонь* 'конь', укр. *веприна<вепр.*

**Мядзве́дзь**₁, *мядзьве́дзь, недзве́дзь, вядзьме́дь, міdве́дь, мыдьві́дь, мэдві̂дь,* хоц. *мадзмедзь; мядзве́дзіца, мыдвідз́ха, мядзьве́дзіха, медзве́жыца, мядзьві́га* 'драпежная млекакормячая жывёліна Ursus arctos', 'няўклюдны, непаваротлівы дужы чалавек' (ТСБМ, Бес., Зн., Нас., Кліх, Яруш., Касп., Бяльк., Сцяшк., Шат., Нар. Гом., ТС, Сл. ПЗБ, Мат. Маг.). Укр. *ведмідь, медві́дь,* рус. *медве́дь,* польск. *niedźwiedź, miedźwiedź,* н.-луж. *mjadwjeź,* в.-луж. *mjedwjedź,* чэш. *medvěd, nedvěd,* славац. *medved',* славен. *médvẹd,* серб.-харв. *мѐдвјед, медо;* макед. *мечка, мечор, мечок, мечорок,* балг. *медвед, мечка,* ц.-слав. *медвѣдь.* Прасл. *medvědь* 'той, хто есць мёд' — да *мёд* і *е́сці* (гл.) — табуістычная замена і.-е. назвы мядзведзя **r̥k̂þos:* параўн. ст.-інд. *r̥kṣá-,* ст.-грэч. ἄρκτος, лац. *ursus* (Бернекер, 2, 30; Фрэнкель, ZfSlPh, 13, 207; Фасмер, 2, 589; Скок, 2, 398; Бязлай, 2, 175).

***Мядзве́дзь**₂, драг. *мыдьві́дь, мэдві́дь, мыдвэ́дык* 'грыб пеўнік жоўты, Hydnum repandum' (драг., пін., Жыв. сл.); лід. *мядзведзія вушы,* в.-дзв. *мядвежжы вушы* 'пеўнік стракаты, Sarcodon imbricatum' (Сл. ПЗБ). Рус. калуж. *медвежьи ухи* 'грыбы (якія?)'. Да *мядзве́дзь*₁ (гл.). Названы паводле карычневага колеру грыба і варсістага покрыва яго капялюшыка. Параўн. таксама літ. *meškà* 'нейкі карычневы грыб' і 'мядзведзь', а таксама назвы іншых жывёл, напр. *каза*₆ (гл.).

**Мядзве́дзь**₃ 'бульбяная каша' (Жд. 1). Няясна.

**Мядзвёдак** 'рама, у якую ўстаўляецца верацяно з ніткамі, каб звіваць іх на клубок' (Шат.), *мядзвёдка* 'рубанак з дзвюма ручкамі' (браг., Мат. Гом.), лоеў. *мядзведка* 'рычаг, якім паварочваецца шацёр ветрака' (ЛАПП). Да *мядзве́дзь* (гл.). Названы паводле падабенства з лапамі мядзведзя. Аналагічна *баран* 'рубанак з дзвюма ручкамі', *каза*₁₉, *каза*₂₁ (гл.).



**Мядзвя́на** *раса́* 'падзь' (бар., Сл. ПЗБ). Да *мёд* (гл.). Параўн. лудз., віл., глыб., воран., ашм. *мядовая (медавая) раса* 'тс' (там жа). *й*-аснова лексемы *мёд* абумовіла з'яўленне *-в-* перад суфіксам *-ян-* (насуперак правілу: *аўсяны, бульбяны*). Гэтак жа яшчэ ст.-рус. *медвеный, медвяный* 'які адносіцца да мёду' (XII ст.>XVI ст.), *медвеная роса* 'падзь' (алан., XVII ст.).

**Мя́дзеліна** 'канюшына палявая, Trifolium campestre Schreb.', 'дзікая лясная канюшына Medicago sativa', 'поле, дзе расла люцэрна' (віц., Кіс.; маладз., Яшк.). З *дзяцеліна* пад уплывам літ. *medēlis* 'лясок'. Сувязь з літ. словам дапускае Непакупны (Baltistica, 8 (1), 101—102).

***Мядзі́н,** ст.-бел. *медин* 'гай' з літ. *medynas* 'тс' (Ябл., 124); параўн. суч. літ. *medýnas* 'дрэвастой'.

**Мядзі́ны** 'частаванне ў дзень збору мёду' (паст., Сл. ПЗБ). Да *мёд* (гл.). Аб суфіксе *-ін-ы* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 87.

**Мядзя́нка**₁ 'неядавітая змяя, Coronella austriaca' (ТСБМ, БелСЭ, Касп.; в.-дзв., смарг., Сл. ПЗБ; свянцянск., КЭС). Да *медзь* (гл.). Названа паводле медна-чырвонага колеру спіны.

**Мядзя́нка**₂ 'зялёная фарба, прыгатаваная з воцатна-меднай солі' (ТСБМ), 'медная пасудзіна' (Нас.), 'алюміневая каструля' (б.-каш., Мат. Гом.). Да *медзь* (гл.).

***Мядзя́нкі,** *медзя́нкі* 'чына (гарошак) вясенняя, Lathyrus vernus (L.) Bernh.' (мазыр., Бейл.). Да *медзь* (гл.). Відаць, названа паводле чырвонага колеру кветак.

**Мядлі́вы** 'меданосны' (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *мёд* (гл.). Аб суфіксе *-лів-ы* гл. Бел. гр.₂, 1, 302—303.

**Мя́дліца**₁ 'мялка' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *międlica* 'тс'.

**Мядлі́ца**₂ 'мятліца, метлюжок звычайны, Poa trivialis L.' (рагач., Мат. Гом.). Да *мятліца* (гл.). Мена *т>д* выклікана звонкасцю санорных.

**Мядні́к,** *медні́к* 'пчаляр' (ТС; слаўг., Бел. лекс.— Яшк.; чачэр., Жыв. сл.), укр. паўн.-ровенск. *медя́р* 'тс'. Да *мёд* (гл.).

**Мядні́ца**₁ 'салодкая раса на лісцях дрэў і на траве, якую бяруць пчолы' (віл., З нар. сл. і Сл. ПЗБ). У выніку намінацыі з *мядовая расіца.*

**Мядні́ца**₂ 'медны або эмаліраваны таз ці міска', *мыдні́ца, мыдныця* 'тс' (ТСБМ, Нас., Сл. Брэс., Шат., Касп., Сл. ПЗБ; гродз., КЭС; маладз., карэліц., Янк. Мат.), ст.-бел. *медница* 'тс' (Скурат, БЛ, 8, 12) запазычана са ст.-польск. *miednica*

’тс’. Да *медзь* (гл.). Ст.-рус. *мѣдница, мѣдяница* ’медная пасудзіна’ (XI ст.) існавала самастойна.

**Мядніць** ’наносіць слой медзі на паверхню металічных вырабаў гальванічным спосабам’ (ТСБМ). Да *медзь* (гл.). Відаць, са словазлучэння *рабіць медным.*

**Мядня́к** ’грыб, падобны да апенькі’ (калінк., Мат. Гом.). Відаць, да *медзь, медны* (гл.). Названы паводле колеру.

**Мядок,** *медок* ’канюшына лугавая, Trifolium pratense L.’ (стол., Бейл.; Бяльк.). Рус. вяц. *медок* ’канюшына раллявая’, ’канюшына паўзучая’. Да *мёд* (гл.). Параўн. і іншыя назвы: *мядуніца, мядунка* (гл.). Названы паводле салодкага смаку нектару ў кветках.

**Мядовік** ’пернік з мёдам’ (лоеў., Мат. Гом.). Рус. пск., смал. *медовик* ’пірог з мёдам’. Да *мядовы*<*мёд* (гл.).

**Мядоўка**1 ’пакрывец лекавы, Anchusa officinalis L.’ (гродз., Кіс.). Да *мёд* (гл.). Матывацыя: гэта меданосная расліна. Параўн. укр. *медуниця польова,* польск. *miodanka.*

**Мядоўка**2, *медоўка* ’сіняк звычайны, Succisella Reck.’ (мазыр., Жыв. сл.). Відаць, да *мёд* (гл.), хаця сувязь (матывацыя) застаецца няяснай.

**Мядоўка**3 б.-каш. ’пернік з мёдам’, чачэр. ’напітак з мёду’, жлоб. ’салодкая груша’ (Мат. Гом.). З польск. *miodówka* ’пернік’, ’салодкая груша, яблык’. Параўн. таксама і рус. свярдл. *медовка* ’брага, настаяная на мёдзе’. Да *мёд* (гл.).

***Мядоўнік**1, іван., пін. *мэдо́ўнік* ’мядовы пернік’ (слонім., Сцяшк. Сл.; Вешт. дыс.). Польск. *miodownik* ’тс’. Параўн. ст.-рус. *медовникъ,* якому ў «Лексиконе полоно-словенском» (1670 г., с. 193) адпавядае польск. *piernik.* Аднак ст.-польск. *miodownik* ’пернік’ (Reczek S., Podręczny sł. dawnej polszczyzny, 210). Таму бел. лексему можна лічыць запазычанай з польск. мовы.

**Мядоўнік**2 ’яснотка (глухая крапіва), Lamium album L.’ (маг., Кіс.), лельч. *мідоўнік* ’канюшына лугавая, Trifolium pratense L.’, пін. *медоўніца* ’пакрывец лекавы, Anchusa officinalis L.’ (Бейл.), *мядулька* ’кветка чырвонай лугавой канюшыны’ (міёр., Жыв. сл.), ’медуніца, Pulmonaria L.’ (свісл., Сл. ПЗБ). Да *мёд* (гл.): усе расліны — добрыя меданосы.

**Мядоўніца** ’посуд для мёду’ (браг., Мат. Гом.). Да *мядовы*<*мёд* (гл.). Аб суфіксе *-оўн-іца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 171—172.

**Мяду́ніца**1, *мідуніца* ’вятроўнік шасціпялёсткавы, Filipendula hexapetala Gilib. (Бяльк.; маг., Кіс.), укр. *медуни́ця.* Да *медуніца*1 (гл.). Назва перайшла з расліны спірэя, якая раней называлася Spiraea filipendula. Аналагічна ў польск. мове *tawuła* — ’спірэя’ і ’вятроўнік’.



**Мяду́ніца**2, *мядуніца лугавая* ’пылюшнік вузкалісты, Thalictrum angustifolium Jacq.’ (маг., Кіс.; Дэмб. 1). Укр. *медунка, медуни́ця,* рус. калуж. *медуни́ца, медуничник* ’тс’. Відавочна, да *мёд:* расліна выкарыстоўвалася ў якасці прынады для таго, каб у вулей прыйшоў малады рой пчол, як і *меліса,* якая ў чэш. мове мае назвы: *meduňka* (ст.-чэш. *medunicě*), *medunka,* у славац. *medovka, mädonica, mädka,* у польск. *miodunka,* балг. *медуника.*

**Мяду́ніца**3 ’мінушкі звычайныя, Chrysosplenium alternifolium L.’ (маг., Кіс.). Няясна.

**Мядуніца**4, *мяду́нка* ’канюшына палявая, Trifolium arvense L.’ (віц., Кіс.), рус. цвяр., алан., арханг. *медуни́ца, медуни́чник* ’тс’, перм. *медунка* ’чырвоная канюшына’; польск. *miodunka,* балг. *медован трилистник* ’канюшына’. Да *мёд* (гл.): расліна з’яўляецца меданосам.

**Мяду́нка** ’люцэрна пасяўная, Medicago sativa L.’ (гродз., Кіс.), ’дзяцеліна, Trifolium medium L., Trifolium repens L.’ (паст., мядз., гродз., глыб., Сл. ПЗБ), ’братаўка дуброўная, Melampyrum nemorosum L.’ (вілен., Кіс.); *мядункі, мядунка* ’шчамяліца няясная, Pulmonaria abscura Dum.’ (жытк., Кіс.), ’медуніца лекавая, Pulmonaria officinalis L.’ (Касп.). Да *мёд* (гл.): расліны маюць мядовы пах.

**Мяжа́,** *межа́, міжа́* драг. *мыжэ́* ’вузкая палоска зямлі паміж двума палеткамі’, ’палявая сцежка’, ’лінія падзелу паміж уладаннямі, сумежнымі дзяржавамі’, ’норма, рубеж дазволенага’ (ТСБМ, Грыг., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, КЭС), брэсц. ’участак лесу паміж населенымі пунктамі’ (Яшк.), *у межах* ’у перыяд, калі няма месяца’ (ТС). Укр. *межа́,* рус. *межа́* ’мята’, пск. *мёжи, мёжы* ’перыяд, калі няма месяца перад маладзіком’, польск. *miedza,* н.-луж. *mjaza,* в.-луж. *mjeza,* чэш. *meze,* славац. *medza,* славен. *méja,* ’мяжа, агароджа’, зах. ’лес’, ’кусты’, серб.-харв. *мèђа* ’мяжа’, ’агароджа’, ’кусты’, макед. *меѓа* ’тс’, балг. *межда,* ст.-слав. **межда** ’сцежка, завулак’. Прасл. *medja* ’мяжа’, ’пагранічны камень’, ’край, мэта’, роднаснымі да якога з’яўляюцца літ. *mẽdis* ’дрэва’, жамайцк. *mẽdė,* ст.-літ. **mẽdžias* ’лес’, лат. *mežs* ’тс’, ст.-прус. *median* ’дрэва’, ст.-інд. *mádhya-,* арм. *mēǰ* ’сярэдзіна’, авест. *maiδya-,* ст.-грэч. μέσσος, μέσος, лац. *medius,* гоц. *midjis,* ірл. *mide,* гал. *Mediolanum* ’сярод поля’, і.-е. праформа **medhi̯o* або **medhii̯o* ’сярэдні’. Значэнне ’лес’ развілося з ’кусты на мяжы’ (Міклашыч, 185; Бернекер, 2, 31—32; Мацэнаўэр, LF, 10, 66; Траўтман, 173; Фрэнкель, 423; Буга, Rinkt., 2, 257; Мюленбах — Эндзелін, 2, 611; Фасмер, 2, 592; Скок, 2, 398—400; Бязлай, 2, 176).

***Мяжу́ха,** брэсц. *мыжу́ха* ’сасна, якая расце на адкрытым

месцы' (Сл. ПЗБ). Сёння ўспрымаецца як роднаснае да *мяжа́* (гл.). Аднак можна меркаваць, што гэта старажытны балтызм. Параўн. літ. *mẽdis,* лат. *mežs* 'лес'. Гл. таксама *межаву́ха.*

**Мяджу́ліць** 'душыць, раздушваць' (Бяльк.). Да *мяжджу́ліць* (гл.).

**Мяжджу́ліць** 'драбіць, мажджэрыць, дэфармаваць, раздушваць' (Гарэц., Др.-Падб., Нас.), міёр. 'уцісквацъ, умяшчаць', полац. 'есці марудна, размінаць ежу дзёснамі, не маючы зубоў' (Нар. сл.), *мяжду́ла* 'цяльпук, нязграбны, непаваротлівы' (Гарэц., Др.-Падб., Бяльк.). Да *мозг, мозак* (гл.). Параўн. рус. *размозжить голову* (Фасмер, 2, 637). Гл. наступнае слова.

**Мяжджы́** 'мазгі' (Рам. 5). Да *мозг* (гл.). Пачатковае *мя-* пад уплывам літ. *smēgenys* 'тс'. Чаргаванне *зг>ждж.*

**Мяжджэра** 'нешта грубае, порыстае, наздраватае' (Гарэц.), 'дзірка, пралом, пустата' (Др.-Падб.). Да *мажджа́ра* (гл.).

**Мяжнік** 'мяжа' (чачэр., Жыв. сл.; бых., Мат. Маг.), *мяжні́ца* 'сцяжынка ў полі' (Касп.). Да *мяжа́* (гл.).

**Мяжоўка** 'цімафееўка, жыцец, Phleum pratense L.' (Інстр.), *межавая трава* 'тс' (маг., Кіс.). Узнікла ў выніку намінацыі словазлучэння накшталт апошняга (гл.). Да *мяжа́* (гл.).

**Мяжы́перніца,** *межы́персніца, мяжыперсціц(а)* 'міжперсніца, нарывы рук (ног) паміж пальцамі' (Некр., Касп., Бяльк.), 'высыпка, асабліва пры каросце' (Нас., Бяльк.), *міжы́пірніца* 'глыбокае загнаенне далоней ад цвёрдай работы' (КЭС, лаг.). Рус. валаг. *междупе́рст(н)ица* 'хвароба паміж пальцамі ад забруджвання', с.-урал. 'кароста', смал. *меже́парщица* 'тс'. Фармальна да *меж- (між-)* і *перст* 'палец' (<прасл. *pьrstъ*). Аднак, улічваючы пашырэнне лексемы ва ўсх.-слав. гаворках, можна меркаваць, што гэта калька з балт. моў; параўн. літ. *tarpùpirščiai* 'прамежкі паміж пальцамі'.

**Мяжпе́рстніца,** *міжпе́рсніца, мяжыпе́рсьніца* 'ворлікі звычайныя, Aquilegia vulgaris L.' (маг., Кіс.; Дэмб. 1, Касп.), *мяжперсціца* 'гусялапка вostравугольная, Alchemilla (L.) acutangula Buser' (Дэмб. 1; паўн.-усх., Кіс.), *міжы́пірнік* 'трава, што расце вясной на лузе на поплаве, у якой ліст нагадвае пяць пальцаў рукі' (КЭС, лаг.). Рус. *междуперстница* — некалькі іншых назваў раслін; смал. *меже́парщица, межи́перстица* 'гусялапка'. Да *мяжы́перніца* (гл.). Расліны ўжываліся ў народнай медыцыне ў якасці прысыпак пры септычных захворваннях.

**Мяжэніна** 'самы гарачы час у сярэдзіне лета' (Нас.), *мяжэнінны* 'сабраны ў гэты час' (там жа), *мяжэнный дзянёк* 'дзень у летнюю гарачую пару' (паўн.-усх., КЭС) прымыкаюць



да рус. моўнай тэрыторыі (у асноўным паўн. і зах.-рус.— гл. СРНГ, 18, 82—85), дзе *межённый, межённый, межёнина* звязаны са значэннем 'летні', 'гарачы летні час, самае лета'. Узыходзяць да *мяжа* 'сярэдзіна'.

**Мязга́**₁, *мязга, мізга́, мізка́, мезка́, мезга́, меска́* 'мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай; камбій' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Грыг., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ, КЭС, лаг; бялын., Янк., Мат.; лельч., ЛАПП), 'бульбяныя жамерыны' (жлоб., Мат. Гом.; ТС), 'мякаць у гарбуза, дзе знаходзіцца насенне' (ТС, Сцяшк., Мат. Гом.), 'сушаная кара, якую (растоўчанай) падмешвалі да мукі' (паўн.-зах., КЭС); 'мязга маладых дрэў, якую ўжывалі ў ежу' (касцюк., паўд.-усх., КЭС); маладз., карэліц. *мязгра́* 'насенная частка гарбуза' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), Укр. *мезга́, мизка́, моска́, мізька́,* ст.-рус. *мѣзга,* рус. *мезга́* 'камбій', 'мякаць буракоў, бульбы, гарбузоў', польск. *miazga* 'адціснутая мякаць, жамерыны', 'камбій', *miazga/mlazga* 'сок дрэў', н.-луж. кніж. *mězga*, в.-луж. кніж. *měza,* чэш. *míza* 'сок дрэў', 'лімфа', 'свежасць, жыццёвая сіла', славац. *miazga* 'сок дрэва', 'лімфа', славен. *mézga, mezgà* 'сок дрэў', 'гразь, лімфа', 'варэнне, мармелад', *mezgáti* 'цісuуць мяккае', серб.-харв. *ме́зга, ме́згра* 'сок дрэў', 'мязга (камбій)', макед. *мазга, мезга* 'сок з-пад кары дрэва', балг. *мъзга́, млязга, млезга* 'тс'. Прасл. *mězga.* Роднасныя і.-е. адпаведнікі: с.-в.-ням. *meisch,* новав.-ням. *Maische* 'брага', ст.-англ. *meesc-, máx-wyrt* 'саладавы корань', англ. *mash* 'раздаўліваць', ст.-інд. *mēhati* 'выпускае мачу' (параўн. серб.-харв. *ми̏жати,* славен. *mezéti* 'мачыцца'), ст.-літ. *mžti* 'тс', авест. *maēzaiti* 'мочыцца, угнойвае', ст.-грэч. ὀμείχειν 'тс', лац. *mingere* 'мачыцца', арм. *mizem* 'мачуся', і.-е. **moiĝh* 'мачыцца' (Бернекер, 2, 54; Траўтман, 185; Фасмер, 2, 593; Скок, 2, 417—418; Бязлай, 2, 182). Аднак Аткупшчыкоў (Из истории, 148) супастаўляе словаўтварэнне лексемы *мязга́* з *мяздра́* і вылучае корань гэтых слоў **men-* 'мяць'. Гл. таксама *мяздра́.*

**Мязга́**₂, *мезга́* 'снег з дажджом' (ТС), славен. доленск. *mézga* 'гразь'. Палеска-славенская ізалекса. Да *мязга*₁ (аб'ядноўвае значэнне 'нешта мяккае; раздушанае').

**Мяздо** 'гняздо' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *гняздо* (гл.), у якім адпала пачатковае *г-,* а *н>м* (аб гэтым Карскі, 1, 324).

**Мяздра́,** *мездра́, міздра́* 'падскурная клятчатка ў жывёл, адваротны бок шкуры', 'благі бок выробленай скуры', 'мякаць у гарбузе, дзе знаходзіцца насенне', 'мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай' (ТСБМ, Яруш., Касп., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС; в.-дзв., Шатал.; КЭС, лаг.), *міздря́* 'нікчэмнасць', *міздрычка* 'нікчэмны, дробязь' (Бяльк.), ашм. *мяздрава́ты хлеб* 'ацеслівы' (Сл. ПЗБ), *мяздроны* 'не вельмі добра ачышча-

ны ад мяздры' (Нас.). Укр. *міздря́, міздро, мездро, ніздра́, ніздря́, мяздра* 'кара', 'унутраны бок скуры', рус. *мяздра́, мездра́,* рус.-ц.-слав. *мяздрица* 'абалонка яйка'; польск. *mizdra, miazdra, miązdra, miazda, mięzdra* 'мяздра', 'эпідэрміс', каш. *miåzdra* 'колер твару', в.-луж. *mjazdro* 'бяльмо', *mjadresko* 'плеўка на яблыку вока', чэш. *mázdra* 'скурка, плеўка', валашск. *m'azgra, mízgra, mjazdro* 'слабы (чалавек)', *mázderko* 'кавалачак', *mazgera* 'малы чалавек'; славен. *mezdro* 'лыка', *mézdra, mêzdra* 'ўнутраны бок скуры', 'смятана на малацэ', 'абалона пад карой дрэва', 'маладая плеўка на ране', серб.-харв. *ме́здра* 'скурка, плеўка', макед. *мездра* 'мяздра', 'брушына', балг. *мездра* 'ныркавы тлушч', 'сала'. Многія этымолагі выводзяць прасл. *męzdra* (Копечны, Zákl. zás., 203; Махэк₂, 356; Шустар-Шэўц, Этимология-1970, 88; Бязлай, 2, 182), якое не мае яснай этымалогіі. Рэканструюецца і.-е. **memsdhrom* (Бругман, 38, 437) і супастаўляецца з лац. *membrum* 'член', *membrāna* 'скурка', іншыя выводзяць **memsro-*, якое мусіла б даць **męstra* (а не *męzdra*). Мее (129 і 409), Фасмер, (3, 29) выводзяць лексему з *мяса* і *драць,* супраць чаго Ільінскі (RS, 6, 224). Аткупшчыкоў (Из истории, 148), падкрэсліваючы змешванне ў слав. дыялектах слоў *мязга* і *мяздра* па семантыцы, бачыць блізкае словаўтварэнне: ст.-слав. **мѧ-з-д-ра** мае суфіксальнае *-(z)d-;* назіраецца чаргаванне *d/g,* параўн. *мез-д-ра* і *мез-г-а,* якія ўзыходзяць да кораня **men-* 'мяць', і першапачаткова абедзьве абазначалі 'мякаць, цёртае, патоўчанае рэчыва'. Карпенка (у канд. дыс. «Слав. терминол. обработки кожи (назв. сырья и ремесленников)», Киев, 1984) выводзіць наступны шлях развіцця лексемы мездра: і.-е. *meiĝh* 'кіпець, віраваць, цячы'>**moiĝzghā, *moighsqā* 'тое, што цячэ, вільготнае'>*мезга* 'ўнутраная слізкая абалонка дрэва'>*мездра* 'падскурная клятчатка, адваротны бок скуры'.

**Мяздры́ць** 'біць, церці, каб зрабіць мяккім', 'біць безупынна' (КЭС, лаг.). Утворана ад *мяздра́* (гл.).

**Мязю́к,** *мезю́к, мізю́к* 'мезены палец' (ТС), *мезю́н, мізю́н* 'тс' (ТС). Аналагічна ўтварэнню літ. *mažẽlis, mažỹlis,* але з іншымі суфіксамі. Балтызмы. Параўн. літ. *mažiùkas* 'мезены палец'. У апошніх бел. лексемах суфікс *-ук* быў заменены на *-ун* у той жа функцыі (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 123).

**Мяйсцовы** 'стаячы (пра ваду)' (паст., Сл. ПЗБ). Паланізм. З польск. *miejscowy* 'звязаны з адным і тым жа месцам'< *miejsce* 'месца'.

**Мяк!**₁ 'тупы ўдар', 'падзенне, шмяк аб зямлю' (Нас.), 'глухі моцны ўдар тупым прадметам' (полац., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Да *шмяк!* (гл.). Сюды ж *мя́кацъ* 'валіць', *мя́кнуць* 'паваліць' (Юрч.), 'біць чым-небудзь тупым па мяккім' (Нас.), *мя́кнуцца* 'ўпасці, ударыцца, шлёпнуцца ў гразь' (Юрч., Нас.; усх.-гом., КЭС), а таксама *ме́кшаны* (гл.).



**Мяк**₂ 'мянтуз, Lota lota' (гродз., Сл. ПЗБ; шчуч., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *mẽknė* 'язь'.

**Мя́кацъ**₁ 'мяккая частка пладоў ягад, клубняў, цела жывёлы або чалавека', 'мяса без касцей', 'што-небудзь рыхлае, мяккае' (ТСБМ), 'ралля, якая без перапынку ўзорваецца некалькі год запар' (паўн.-усх., КЭС), *мя́кецъ* 'мякацъ' (Ян.). Да *мя́ккі* (гл.). Суфікс *-ть* (рус. *мякоть,* укр. *м'якіть*) утварыўся, відаць, з *-ostь* і *-ota.*

**Мяке́ка** 'мяла, цяльпук' (зэльв., Жыв. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *tekẽkė* 'прыдуркаваты, нездагадлівы чалавек'.

**Мякета́ць** 'утвараць гукі, падобныя на бляянне баранчыка (пра бакаса)' (ігн., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *tekénti* 'бляяць', *meketỹs* 'нейкая птушка'.

**Мякі́на,** *мекі́на* 'адходы пасля абмалоту і ачысткі зерневых, бабовых культур і льну' (ТСБМ, Яруш., Грыг., Маш., Бяльк., Бір. Дзярж., Сл. ПЗБ, ТС; бабр., Воўк-Лев.; КЭС, лаг.), 'бесхарактарны чалавек' (ТС); *мякі́нка, мякі́нны хлеб',* 'хлеб з сумесі жыта, аўса і ячменю' (Нік. Очерки; ТСБМ), мсцісл. *мякі́ніць* 'забруджваць мякінай' (Юрч., Полымя, 7, 1987). Укр. *м'які́на,* рус. *мяки́на,* польск. *tiękiny,* славен. *tekína* 'мякіна', серб.-харв. *мѐкиње* 'вотруб'е', балг. *мекина* 'мяккая салома', *м'ъки́на, мики́на, мекенице* (паўн.-усх.) 'мякіна'. Прасл. *tękupa,* якое з прыметніка *tękъ-kъ* 'мяккі' (Бернекер, 2, 43; Фасмер, 3, 29; Бязлай, 2, 176). Аб суфіксе *-ina (<-yn'i)* гл. Слаўскі, SP, 1, 140. Сюды ж *мякі́ннік (мякы́нник, мнякэ́нник); мякі́нніца* 'адгароджанае месца на таку, засек у застаронку гумна, куды ссыпаюць мякіну' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.; драг., КЭС; бяроз., Шатал.; ашм., Бел. хр. дыял.).

**Мя́кіш,** *мекі́ш, мя́куш, мякі́ш, м'які́ш, ме́кіш, мя́каш, мня́кіш, мякі́шык, мякі́шка* 'мяккая частка чаго-небудзь', 'мышца', 'лытка', 'сцягно', 'кончыкі пальца' (ТСБМ, Нас., Растарг., Янк. 2, Вешт., Грыг., Касп., Бяльк.; полац., Нар. сл.; івац., жлоб., Жыв. сл.; карэліц., Шатал.; Сл. ПЗБ), ганц. 'мяккая частка печанага хлеба', барыс. 'насенная частка гарбуза' (Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), 'мяккае месца пад капытом у каня, каровы' (ТС), 'чалавек уразлівы, слабавольны' (Нар. Гом.); *мяку́шак, мя́кушка* 'кончык, пупышка пальца', *мякі́шка* 'мочка вуха', *мякіша́* 'мяздра ў гарбузе' (чачэр., ветк., Мат. Гом.; бых., Мат. Маг.; Юрч.), *мякі́шы* 'мускулы' (рэч., гом., Мат. Гом.), *м'я́кішэк* 'мочка вуха' (ТС). Рус. *мя́киш, мяку́ш,* польск. *miękisz* 'мякіш', чэш. *měkkýš* 'малюск', 'рак без панцы-

ра', 'мяккі мергель', серб.-харв. *мѐкиш* 'мяккі плод', 'від рака', балг. *мекиш* 'мякаць', 'груша'. Прасл. *mękyšь*, якое да *mękъ-kъ*>*мяккі* (гл.). (Бернекер, 2, 43; Траўтман, 184; Фасмер, 3, 29; Махэк$_2$, 358; Скок, 2, 401).

**Мякіш,** *мекіш* 'мяккая вільготная трава' (Янк. 2), жытк. *мекішы* 'покрыва з мяккай травы на нізкіх месцах, у далінах' (Яшк.), *мякýха, мякýша, мякýшка* 'мяккая трава, атава' (докш., Янк. Мат.; полац., Нар. лекс.; брасл., Сл. ПЗБ). Рус. наўг. *мякýшка* 'канюшына', 'сакавітая трава', чэш. *měkkýš* 'мяккая трава', балг. банск. *мекиш* 'маладая мяккая трава', в.-луж. *mjakuš* 'мятліца'. Прасл. *mękyšь, mękušь*. Да *mękъ-kъ*> *мяккі*. Аб суфіксах гл. Слаўскі, SP, 1, 78; 79.

***Мякішнік,** *м'якішнік* 'балотная расліна з доўгімі вузкімі лістамі (падобная да рагозы)' (ТС), рус. кур. *мякишь* 'гарлянка, Ajuga L.', чэш. *měkoun, měkula* 'мяккавалоснік вадзяны, Malachium aquaticum Fries'. балг. *мекѝш* 'рагоз, Typha latifolia'. Усе ўзыходзяць да прыметніка *мяккі*<прасл. *mękъ-kъ* (гл.). Аб суфіксе *-нік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 118.

**Мя́ккасць,** тураў. *м'якосць* 'уласцівасць мяккага', 'мякаць', 'вялікая мяккасць' (ТСБМ, ТС). Укр. *м'якість*, рус. *мягкость*, польск. *miękkość*, н.-луж. *měkosć*, в.-луж. *mjechkość*, чэш. *měkkost*, славац. *mäkkost'*, ст.-славен. *mehkust*, серб.-харв. *мѐкост*, балг. *мекост*. Прасл. *mękostь*. Да *мя́ккі* (гл.).

***Мяккатá,** *м'яккотá* 'вялікая мяккасць' (ТС), укр. *м'якота, мнякота*, рус. наўг. *мягкотá* 'тс', чэш. *měkkota*, ст.-славен. *mehkóta*, серб.-харв. *мекòта, мекоћа*, макед. *мекота, мекотија*, балг. *мекотá, мекотúя*. Прасл. *mękota*. Да *мя́ккі* (гл.).

**Мя́ккі,** *мякі, мякі, м'яккі, мя́ккій* 'няцвёрды, няжорсткі', 'тонкі, шаўкавісты, эластычны', 'далікатны', 'падатлівы на апрацоўку', шаўкавісты, эластычны', 'далікатны', 'падатлівы на апрацоўку', 'прыемны для ўспрымання', 'свежы', 'не зусім выразны', 'хісткі', 'нястрогі', 'лёгкі', 'цёплы' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Грыг., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.; віл., Нар. сл.), ст.-бел. *мяккий* 'гнуткі, не цвёрды', 'лянівы', 'бесклапотны', 'ілжывы, здрадлівы' (Булахаў, Гіст., 128). Укр. *м'ягкúй*, рус. *мя́гкий, мя́гок*, польск. *miękki*, палаб. *mąkė, mątkė*, н.-луж. *měki*, в.-луж. *mjehki*, чэш. *měkký*, славац. *mäkký*, славен. *méhek, mėkek, mehak*, серб.-харв. *мѐк*, макед. *мек, мекан*, балг. *мек*, ст.-слав. **мѧкъкъ**. Прасл. *mękъ(kъ)*, да якога роднаснымі з'яўляюцца: літ. *minkyti* 'мяць, мясіць', *minkštas* 'мяккі', лат. *mìksts, mīkus* 'тс', *mîkt* 'размягчацца', *mîcît* 'мяць', ст.-інд. *mácatē* 'раздрабляе', ст.-грэч. μάσσω 'мяшу', алб. *mekë* 'слабы'. Да і.-е. **men(ə)k-* 'мяць, драбіць'. Іншая ступень чаргавання асновы — *мýка, мукá* (гл.) (Бернекер, 2, 42—43; Траўтман, 184; Буга, Rinkt, 1, 463; Mee,



Etudes, 326; Брукнер, 327; Фасмер, 3, 28; Скок, 2, 400—402; Бязлай, 2, 176; БЕР, 3, 719—720). Паводле Махэка$_2$ (358), прасл. *mękъkъ* утворана ад ужо не існуючага дзеяслова *męk-ati, mękq* (як славац. *šibký* ад *šibati*).

**Мяккун** 'малюск' (Флора). Тэрмін, перакладзены з лац. *molluscus* 'мяккаваты'<*mollis* 'мяккі'. Аналагічная калька — чэш. *měkkýš* 'тс'.

**Мяклінá** 'мышца', 'сцягно' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да +*мяклы*< *мякчэць*<*мя́ккі* (гл.). Параўн. рус. пск. *мяклый* 'размоклы', 'вялы, друзлы'. Аб суфіксе *-іна* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 107—108.

**Мя́клуша** 'матыль' (Інстр. II), *мя́клушак* 'тс' (рагач., КЭС), *мя́клыш* 'тс' (Касп.). Рус. пск., цвяр. *мя́клыш*, смал. *мя́клуша*, пск. *мяклýш*, смал. *мя́клышка* 'тс'. Паўн.-усх.-бел.-рус. ізалекса. Да +*мяклы*, рус. пск. *мя́клый* 'размоклы, намоклы', 'вялы, друзлы'<*мя́ккі* (гл.). Аб суфіксе *-уш-а, -ыш(к)а* гл. Слаўскі, SP, 1, 78 і 79.

**Мякнéць** 'мякчэць' (ваўк., Сл. ПЗБ). З польск. *mięknieć* 'тс'.

**Мя́кнуцца** 'шмякнуцца, шлёпнуцца' (мсцісл., З нар. сл.; Растарг.; Ян.), *мя́кнуць* 'кінуць з сілай аб што-небудзь, паваліць што-небудзь' (Растарг.), 'моцна ўдарыць' (Мікуц.). Да *шмя́кнуць, шмя́кнуцца* (гл.).

**Мя́кнуць** 'рабіцца мягкім, вялым, расслабленым', 'размякаць', 'мокнуць у вадзе, на дажджы', 'прыходзіць у стан чуласці, дабраты' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп., Растарг., Бяльк.). Укр. *м'я́кнути*, рус. *мя́кнуть*, польск. *mięknąć*, н.-луж. *měknuś*, в.-луж. *mjaknyć*, чэш. *měknouti*, славац. *mäknút'*, славен. *mękniti*, серб.-харв. *мѐкнути*, макед. *мекне*, балг. *мекна*, ст.-слав. **оу-мѧкнѫти**. Прасл. *męknǫti* 'тс'. Да *мя́ккі* (гл.).

**Мякоціна** 'мышца', 'лытка' (даўг., Сл. ПЗБ). Відаць, да прасл. *mękota*<*mękъkъ*>*мяккі, мяккота* (гл.). Параўн. таксама рус. пск., цвяр. *мя́котина* 'мяса', серб.-харв. *мекòтина* 'мяса без касцей'.

***Мякошы,** *мякóшый* 'мяккі' (гарад., Нар. лекс.) паводле суфікса *-ош-* аб'ядноўваецца з рус. валаг., арханг. *мякошенький* 'вельмі мяккі' у паўн.-бел.-паўн.-рус. ізалексу. Да *мя́ккі* (гл.). Аб суфіксе *-osь* гл. Слаўскі, SP, 1, 78.

**Мякýха**$_1$ 'ступа' (бешан., Касп.). Да *мяць* (гл.). Аб суфіксе *-уха* гл. Слаўскі, SP, 1, 75.

**Мякýха**$_2$ 'мякатніца адналістая, Malaxis monophyllos Sol.' (в.-дзв., глыб., воран.), 'від асакі (бывае асака і *мякуха* і *разуха*)' (глыб., Сл. ПЗБ). Да *мяккі* (гл.). Аб суфіксе *-уха* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 124. Параўн. таксама *мякіш, мякішнік* (гл.).

***Мякчуліць,** *мекчуліть* 'рабіць мягчэйшым, размягчаць' (Растарг.). Кантамінаванае ўтварэнне ад *мякчыць* (<*мяккі*) і *мяжджуліць* (гл.).

***Мякчык,** *м'якчык* 'самаробны меч' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *м'яккі* і *мячык*. Матывацыя: самаробны мяч з воўны значна мякчэйшы, чым гумовы.

**Мякша́** 'насенная частка гарбуза' (маст.), 'мякаць мяса' (лід., Сл. ПЗБ). Да *мя́ккі* (гл.). Аб суфіксе *-ш-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 76.

**Мякшы́ць** 'цвёрдую рэч церці, гнуць, біць, каб яна стала мяккай' (КЭС, лаг.). Укр. *м'якшити*, польск. *miększyć się*, серб.-харв. *мѐкшати*. З *mękčiti*. Параўн. ст.-рус. *мякчити* 'рабіць мяккім'. Да *мя́ккі* (гл.).

**Мя́ла,** *мя́ло, м'я́ло*, стол., іван. *мня́ло, мнéло* 'драўляны таўкач для бульбы або каб церці мак'; *мя́ла* (а таксама *мялава́ты, мя́лаваты*) 'няспрытны, непаваротлівы, нязграбны чалавек' (ТСБМ, Янк. БП, Федар. 2, Растарг., Шат., Мат. Гом., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ; слонім., Нар. словатв.), *мя́ла, мя́лка, мя́лачка* 'мялка для льну ці канапель' (Нас., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *мя́ла* 'лупцоўка' (Ян.), 'пашча, зяпа, рот' (Касп., Бяльк.). Укр. *м'я́ло, мня́ло*, рус. *мя́ло*. Усх.-слав. Узыходзіць да прасл. *mędlo* (Трубачоў, Этимология-1963, 17, 18 і 20). Да *мяць* (гл.). Параўн. таксама *мя́ліца*.

***Мя́ленне,** *мя́ляньня, мя́ліньне* 'кастрыца — адыходы пры першаснай апрацоўцы льну або канапель' (маладз., Янк. 2, Янк. Мат.; Касп.; КЭС, лаг.; віл., Сл. ПЗБ). З польск. *międlenie*<*międlić* 'церці лён', 'аддзяляць валакно ад кастрыцы'.

**Мялец** 'мужчына, які меле ў жорнах' (Інстр. III), чэш. мар. *melec*, славен. *mlêvec* 'тс'. Да *малоць* (гл.). Прасл. *mel-* — другая ступень чаргавання асновы *mol-/ml-*.

**Мяле́ць** 'рабіцца мелкім, неглыбокім' (ТСБМ). Да *ме́лкі* (гл.).

**Мялён** 'млён' (Гарэц., Др.-Падб., Касп., Сл. ПЗБ), мiёр. 'чалавек, які многа есць' (З нар. сл.), валож. 'балбатун' (Сл. ПЗБ). Да *млён* (гл.). Карэннае *-я-* другаснае (пад уплывам *ме́ле, ме́люць*).

**Мя́ліва** 'матэрыял, падрыхтаваны да мяцця' (Нас.). Да *мяць* (гл.). Карэннае *-л-* можна, відаць, растлумачыць уплывам *мя́ла, мя́ліца* (гл.).

**Мяліна** 'неглыбокае месца на рацэ або возеры' (Інстр. I). Да *мель* (гл.). Аб суфіксе *-іна* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 156.

**Мяліса** 'эльсгольцыя, Elsholzia Willd.' (гродз., Кіс.). Яна адносіцца да сямейства губакветкавых, дзе таксама і мяліса (Melissa officinalis L.'): перанос назвы аднаго віда на другі паводле падабенства паху.



**Мя́лісты** 'мялаваты' (карэліц., Нар. лекс.). Да *мя́ла* (гл.). Аб суфіксе *-іст* гл. Бел. гр.₂, 1, 303.

**Мя́ліца,** *мя́льліца, мя́льніца* 'церніца', 'цёрла, макацёр' (БРС, Нас., Дэмб., Гарэц., Бір. Дзярж., Федар. 1, Грыг., Яруш., Касп., Сл. Брэс., Бяльк., Сцяц., Сл. ПЗБ, Сцяшк.; КЭС, лаг.), 'чалавек, які вяла працуе, цяжкі на пад'ём у рабоце', 'дурнаваты, тупы', 'непаваротлівы', 'які паволі едзе' (Нас., Сцяшк., Сцяц., Шат.; Мат. Маг.), 'рот, пашча' (слонім., Арх. Бяльк.; Грыг., Касп.). Рус. *мя́лица*, укр. *м'я́лиця, мня́лиця*, польск. *międlica*, чэш. *mědlice* 'тс', славац. *mädlit'* 'мяць, размінаць', макед., балг. *мелица* 'мялка'. Прасл. *mędlica*<*męti*>*мяць*. 'расціраць'.

**Мялі́ць** 'бяліць вапнай' (Нас.). Кантамінацыйнае ўтварэнне з *мел* 'вапна' і *бялі́ць* (гл.).

**Мялі́чны** 'які мае добры апетыт' (ваўк., Сцяшк. Сл.). Да *мя́ла, мяць* (гл.). Магчыма, спачатку ўтварыўся назоўнік з суфіксам *-іч* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45), з якога пазней — прыметнік. Параўн. таксама паўн.-рус. *мя́лка* 'той, хто любіць паесці'.

**Мялка,** *мня́лка* 'драўляны таўкач', 'церніца' (ТСБМ, Уладз., Бяльк., Сл. ПЗБ), 'жанчына, якая церла лён' (чэрв., Сл. ПЗБ). Рус. *мя́лка*. Бел.-рус. ізалекса. Да *мяць* (гл.).

**Мя́лле,** *мя́льля, мяльлё, мя́лліка* 'кастрыца' (Нас., Грыг., Гарэц., Др.-Падб., Растарг., Мат. Гом., Мат. Маг., Бяльк.; касцюк., Янк. 2, мсцісл., З нар. сл.). Рус. смал., бран., калуж. *мя́лье* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса. Да *мяць* (гл.). Аб суфіксе *-ьje* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 46.

**Мя́льніца,** *м'я́льніца, мня́льніца* 'церніца для канапель' (Уладз., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ; мядз., Жыв. сл.), рус. *мяльница* 'церніца', укр. *м'яльниця* 'прыстасаванне, на якім размінаюць шкуры', польск. *międlnica* 'церніца'. Паўн.-слав. Да *мяць* (гл.).

**Мялька́цца,** *мелька́цца* 'трапятаць'. (ТС), *мялька́ць* 'мільгаць' (Ян.). З рус. *мелька́ть* 'тс'.

**Мяльня́,** пін. *мельня́* 'балбатун' (Нар. лекс., Сцяц.). Да *малоць*. Аб суфіксе *-н-я* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 58.

**Мяльта́шка** 'мянташка' (Янк. 2; жытк., Мат. Гом.). У выніку кантамінацыі лексем *мільга́ць* і *мянта́шка* (гл.): пры вастрэнні касы мянташка мільгае то з аднаго, то з другога боку касы.

**Мяльча́к** 'неглыбокая мясціна ў рацэ' (Янк. 3; лід., Сцяшк. Сл.), *мельча́к* 'нізіна' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *мелкі, мель* (гл.). Параўн. таксама польск. *miałcza* 'мелкае месца ў рацэ, возеры'.

**Мя́льшчык,** *мя́льшчыца* 'мужчына, жанчына, якія труць лён' (ветк., чачэр., карм. Мат. Гом.). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 110), з рус. *мяльщик, мяльщица*.

**Мя́мліць** 'невыразна і вяла гаварыць', 'павольна жаваць', 'павольна рабіць што-небудзь' (ТСБМ, Нас.), *мемло́* 'мямля' (ТС); *мя́млік* 'павольны, марудны ў рабоце' (Нас.), *мя́мля* 'вялы, нерашучы чалавек' (ТСБМ, Касп.). Рус. паўн.-зах. *мя́млить, мямля́ть, мя́мля, мямлю́й* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 30), гукапераймальнае, як і чэш. *mumlati* 'буркатаць', славен. *memljáti momljáti* 'мармытаць, гаварыць незразумелае', 'жаваць з цяжкасцю', лат. *mę̃mulis,* літ. *memeris* 'заіка', хец. *mema-* 'гаварыць'. Параўн. таксама *му́мляць.*

***Мяндру́к,** *мендру́к* 'страўнік з начынкай' (тураў., М. Дарошка, вусн. паведамл.). Роднаснымі з'яўляюцца славен. *mendráti* 'таптаць' і інш. (гл. Бязлай, 2, 177), утвораныя ў выніку рынезму ад прасл. *męti* 'мяць'. Аналагічна літ. *minti* 'тс' і інтэнсівы *mindyti* 'таптаць', *mìndžoti* 'ціснуць, камячыць'.

**Мя́ндры** 'рагоз шыракалісты, Typha latifolia L.' (Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *méndrė, néndrė* 'чарот' (Грынавяцкене, там жа, 3, 101 і Liet. term., 183), лат. *maldri* 'тс'.

**Мяне́** — род. склон займ. *я* (Гарэц., ТСБМ). Укр. *мене,* ст.-рус. *мене* (рус. *меня* з XV ст., у якім *-я* ўзнікла пад уплывам р. скл. адз. л. асноў на *-о* — Сабалеўскі, Лекции, 186; Праабражэнскі (1, 524) бачыць кантамінацыю ст.-рус. *мене* і старой формы В. скл. *мя*<прасл. *mę-*), славен. **mène**, серб.-харв. *ме́не,* макед., балг. *мене,* ст.-слав. *мене.* Прасл. *mene,* якому адпавядаюць ст.-прус. *mennei,* літ. *manę̃s,* ст.-інд. *máma,* авест. *mana,* ст.-перс. *mām.* І.-е. **me* (Міклашыч, 188; Бернекер, 2, 36; Голуб — Копечны, 227; Фасмер, 2, 599; Скок, 2, 405—406).

**Мянёга** 'мінога рачная, Lampetra planeri L.' (бас. Нёмана, Жук.). У выніку кантамінацыі *мянёк* 'мянтуз' і *мінога.*

**Мянёк** 'мянтуз' (ТСБМ, Крыв.; пін., КЭС). Да *мень* (гл.).

**Мянёнцы** 'пераліўвісты ў колеры' (іўеў., Сцяшк. Сл.) запазычана з польск. *mieniący* 'якому характэрна мігаценне колераў'.

**Мяні́ны** 'дзень нараджэння, дзень анёла' (Грыг.), *мяні́ннік* (Грыг., Нас.). Да *імяні́ны* (гл.).

**Мені́ння** 'мена' (валож., Сл. ПЗБ). З польск. *mienienie* 'тс'<*mienić* 'мяняць'.

**Мяні́ць** 'мяняць', *мяні́цца* 'мяняцца' (Гарэц., Нас.), ст.-рус. *мѣнитися* 'тс', *мѣнити* 'мяняць' (XV ст.). Да прасл. *měniti*<*měna*. Гл. *мена, мяняць.*

**Мянка,** ст.-бел. *мянка* 'рыба траска, Gadus morhua' (1539 г.) (Ябл.). Запазычана з літ. *menkė* 'тс' (Яблонскіс, 127; Вяржбоўскі, 512; Лаўчутэ, Балтызмы, 48).

***Мя́нта,** *м'я́нта* 'балбатун, гультай' (ТС). Да *ме́нта*₁ (гл.).



***Мянта́ць,** лаг. *мі́нта́ць* 'мянціць' (Шатал.). Утворана ад *мента*₁ (гл.).

**Мянта́шка,** *мянта́жка, мянта́чка, мынта́чка, мянты́шка, мэнтэ́шка, мэнтэ́нька, мэнты́шка, мэнту́шка, менту́шка, мянту́шка, мыньтю́шка, мянцю́шка* 'наждачная або намазаная глінай ці пяском лапатка, якой вострыць косы', 'трапло, балбатун' (ТСБМ, Некр., Яруш., Бір. Дзярж., Янк. 1, Шат., Сл. ПЗБ, Бяльк., Мат. Маг., Смул.; КЭС, лаг.; Сцяшк., Тарн., Выг., ТС; ДАБМ, к. 264), *мянта́шыць* 'мянціць касу', 'хутка есці', 'трапацца, гаварыць бязглуздзіцу' (ТСБМ, Янк. 1, Шат., Мат. Гом., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *meñtė, mentẽ* 'лапатка', *mentẽlė* 'тачыла' (Вяржбоўскі, дыс., 516—520; Смулкова, LP, 14, 56—57; Грынавяцкене, Liet. term., 183; Лаўчутэ, Балтизмы, 37—38). Непераканаўча Смулкова (Słownictwo, 94—95), якая дапускае крыніцай для *мянта́шка* і інш. прасл. *met-/m'ot-* (>польск. *miotać,* рус. *метать*) з другасным інфіксам *-н-*. Гл. яшчэ Свобада (Studies in Slavic Ling. and Poetics. N.-Y.— London, 1968, 246).

**Мянтовы** 'мятны' (маст., шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *miętowy* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 105).

**Мянтосіць** 'мянціць' (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *miętosić* 'мяць, камячыць' (Мацкевіч, там жа, 3, 105), але пры ад'ідэацыі *ме́нта, мянця́* ці *мянта́шка.*

**Мянту́з,** *мінту́з, мёнту́з, менту́с, манту́с* 'рыба мень, Lota lota' (ТСБМ, Грыг., Мядзв., Гарэц., Яруш., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС; лепел., КЭС). Ст.-бел. *ментусъ* (пач. XVIII ст.) запазычана са ст.-польск. *miętus* 'тс' (Кюнэ, Poln., 77; Булыка, Лекс. запазыч., 143; Брукнер, 332—333). Да *мень* (гл.). Аднак версія аб запазычанні можа пахіснуцца, калі параўнаць шырока прадстаўленыя на рускай моўнай тэрыторыі *ме́нтик, ме́нту́з, ментю́г, ментю́к, мёнух, ментю́шка* 'тс'.

**Мяну́шка** 'назва, дадзеная чалавеку жартам, у насмешку або для канспірацыі', брэсц. *мэню́шка* 'назва жывёлы' (ТСБМ, Сцяшк., Сл. Брэс.), *мяню́шка* 'тс' (навагр., Сл. ПЗБ), *мяню́шкі* (слуц., Мал.). Беларускае. Утворана накшталт польск. *mianowisko, mianówka.* Да *імя* (гл.). Гл. таксама Карскі, 1, 232.

**Мянце́ліць,** *менцеліць* 'біць' (ТС). Утворана ад *мянціць* (гл.) пры дапамозе інфікса *-ел-* з адценнем экспрэсіі.

**Мянці́ла,** *менці́ло* 'мянташка' (ТСБМ, Янк. 2; гродз., Сцяшк. Сл.), івац. *мэнці́лка* 'тс' (Жыв. сл.). Да *мянці́ць* (гл.). Аб суфіксе *-іл-* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42.

**Мянці́ць,** *мяньці́ць, ме́ньціць, меньці́ць, мэнті́ты, мынтэ́тэ* 'вастрыць касу мянташкай', 'многа гаварыць, лапатаць без толку' (ТСБМ, Бір. Дзярж., В. В., Шат., Бяльк., Выг. дыс., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.; карэліц., Янк. Мат.; гродз., драг.,

КЭС), гродз. 'круціць хвастом', нясв. 'біць' (Сл. ПЗБ) і, магчыма, сюды ж 'есці' (ТС). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 3, 106), паходзіць з літ. *menčiúoti* 'вастрыць'. Не выключана самастойнае ўтварэнне ад *мéнта, мянця́* (ДАБМ, к. 264), як бел. *лапатка — лапаткаваць*. Гл. Урбуціс, Baltistica, 5, 65.

**Мянцю́шачка** 'дошчачка з дзірачкамі для снавання красён' (воран., Шатал.). Да *мянта́шка* 'лапатачка' (гл.).

**Мянця́,** *мяньця́, мянтя́, мянта́, мéньця, мэ́нця* 'мянташка' (Сцяшк., Сцяц., Смул., Сл. ПЗБ; свісл., Шатал.). Балтызм. Параўн. літ. *menčià, meñtė* 'тс' (Грынавяцкене і інш., Liet. term., 183).

***Мяншэць,** *меншэць* 'рабіцца меншым' (ТС). Укр. *мéншати,* рус. смал. *меньшéть,* пск. цвяр. *меньша́ть*. Разам з польск. *mniejszeć* 'тс' складаюць адзіны арэал лексемы, утворанай ад прыслоўя *менш*. На іншай слав. тэрыторыі — з прыстаўкамі або ад *меней*.

**Мяню́шацца,** *мяню́шкацца* 'дражніцца, абзывацца' (шчуч., гродз., Сцяшк. Сл.). Да *мяну́шка* (гл.).

**Мяню́шкі,** *мяну́шкі* 'мінушкі звычайныя, Chrysosplenium alternifolium L.' (гродз., віц., Кіс.). Да *міну́шкі*$_1$ (гл.).

**Мяню́шчыць** 'лаяць' (шчуч., гродз., Сл. ПЗБ). Утворана ад *мянушка:* 'абзываць па мянушцы'>'лаяць'.

**Мяня́ць**$_1$, *меня́ць* 'абменьваць', 'рабіць іншым', *мяняла, меняйло* 'той, хто займаецца абменам грошай, адных рэчаў на другія' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, ТС), *міня́ньне* 'абмен' (Рам. 7). Укр. *міня́ти, міни́ти,* рус. *меня́ть,* ст.-рус. *мѣняти,* польск. *mienić, mieniać,* н.-луж. *měniś,* в.-луж. *měnjeć,* чэш. *měniti,* славац. *menit'*, славен. *ménjati,* серб.-харв. *мију̀енити;* макед. *мени* 'змяніць', *менува* 'мяняць', балг. *меня,* ст.-слав. **мѣнити.** Прасл. *měniti*, роднаснае да літ. *maĩnas, mainaĩ* 'мена', лат. *maĩnît* 'мяняцца', гоц. *gamains,* лац. *commūnis* 'агульны', *mainikáuti* 'займацца перакупніцтвам', лат. *maĩnît* 'мяняцца', ст.-інд. *máyatē* 'мяняе, і.-е. **mei* 'тс' (Міклашыч, 195; Бернекер, 2, 48; Фасмер, 2, 600; Бязлай, 2, 177—178).

**Мяня́ць**$_2$ 'гаварыць абы-што, недарэчнае; малоць языком' (свісл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мѣнити* 'называць, казаць, гаварыць няпраўду, узводзіць паклёп' (Літ. статут 1529 г.). Укр. *поміни́ти* 'абяцаць', польск. *nad-mienić* 'згадаць', палаб. *menăt,* н.-луж. *měniś,* в.-луж. *měnić* 'думаць, меркаваць', чэш. *míniti,* славац. *mienit'*, славен. *meníti/méniti* 'тс', серб.-харв. кайк. *meniti se,* чак. *miniti,* шток. *намију̀енити* 'паправіцца', *домéнути се* 'дамовіцца', макед., балг. у кампазітах, ст.-слав. **мѣнити.** Прасл. *měniti* 'помніць'. Паводле вакалізму з'яўляецца роднасным да ст.-в.-ням. *meina* 'сэнс, думка, меркаванне', *meinem* 'думаць, меркаваць', новав.-ням. *meinen,*



ст.-ірл. *māin* 'жаданне', ірл. *moin* 'погляд, адносіны', уэльск. *mwyn* 'густ'. Да і.-е. **men-* (Мее, MSL, 13, 364; Фрэнкель, 455; Покарны, 726; Бязлай, 2, 177; Махэк$_2$, 363).

**Мяпу́шка** 'кончык (пальца)' (б.-каш., Мат. Гом.). Да *мяку́шка*<*мя́ккі* (гл.).

**Мяра́нка** 'невялікая яма, запоўненая вадой' (лях., Сл. Брэс.). Да прасл. *merna* (укр. *мерена, мерéнька* 'жабіна ікра'), якое з ўграфін. моў. Параўн. хантыйск. *мäрән,* мансійск. *мä°рнэ* 'ікра', 'жабіны малькі' (ЕСУМ, 3, 440).

***Мярва́**$_1$, *мэрва́, мерва́* 'іл' (Нікан.; лельч., Нар. лекс.). Да *мéрва*$_1$.

***Мярва́**$_2$, ельск., нараўл., браг. *мерва́* 'памяты, зблытаны лён' (ЛАПП). Да *мéрва*$_2$ (гл.).

**Мярдва́** 'татары' (лях., Сл. ПЗБ). Да этноніма *мардва́*< рус. *мордва́* (Фасмер, 2, 653). Параўн. бел. *мардва* 'дзеці' (гл.) і смал. *мордвин* 'сваволькік', а таксама рус. *мордвин* і *татарин* 'дзядоўнік', 'чартапалох'.

***Мярза́вы,** *мерза́ву, мерзéны* 'агідны, дрэнны' (ТС), *мярзя́ва* 'нягоднік, паганец' (Ян.), укр. *мерзéнний, мерзосві́тний,* рус. *мерзкий,* ст.-рус. *мьрзъкъ,* чэш., славац. *mrzký,* славен. *mŕzək,* серб.-харв. *мр̏зак,* макед. *мрзешен, мрзешник,* ст.-слав. мръзъкъ. Звязана з *мёрзнуць, мароз* (Фасмер, 2, 603), параўн. алб. *mardhem* 'дрыжу ад холаду', *marth* 'мароз'. Параўн. аналагічна чэш. *ostuditi* 'выклікаць агіду', *ostuda* 'сорам' — рус. *студить,* ням. *Schauder* 'дрыготка' і 'жах, агіда'. Супраць такіх паралелей выступае Махэк$_2$ (381) і звязвае чэш. *mrzeti* з ц.-слав. *мръсьнъ* 'гідкі, агідны, жудасны'.

**Мярзля́к,** *мерзля́к* 'чалавек, вельмі адчувальны да холаду, марозу', 'мёрзлы прадмет', 'замерзлы выступ гразі', 'лядзяк' (ТСБМ, Шат., Ян.; клец., Нар. лекс.; смарг., Сл. ПЗБ), *мярзьля́чча* 'мёрзлыя камякі', 'мёрзлая гародніна' (Бяльк., Растарг., ТС). Да *мёрзлы*<*мёрзнуць* (гл.). Аб суфіксе *-як* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 130—131.

**Мярзота** 'подласць, погань', 'тое, што выклікае агіду', *мярзлотнік* 'нягоднік' (ТСБМ, Нар., Гом.), капыл. *мярзотка* 'нягодніца, благая жанчына' (Жыв. сл.). Укр. *мерзота* 'тс', славен. *mersota* 'агіда', серб.-харв. *мрзота.* Магчыма, прасл. *mьrzota*. Гл. *мярза́вы.*

**Мярзя́чка** 'дрыжыкі, калоціць' (Нас.). Да *мярзя́вы* (гл.).

**Мярка́с** 'мерка' ў прымаўцы: *чаркас, мяркас* 'чырканём па мерцы' (Нас.). Жартаўлівае (экспрэсіўнае) утварэнне ад *мерацъ* і суфікса *-ас* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 62).

**Мярка́цыя** 'разгляд, разлік' (Нас.). Да *мерка́цыя* (гл.).

**Мярка́ць** 'сцямнецца', 'цямнець' (Уласт.), рус. арханг. *мерка́ть* 'тс'. Да *змрок* (гл.), *змярка́цца.* Адсутнасць зварот-

най часціцы *-ца,* магчыма, пад уплывам балтыйскага субстрату, параўн. літ. *brẽksti, témti, žlėjúoti* 'тс'.

***Мя́ркаць,** *м'я́ркаць* 'мяўкаць' (ТС). Гукапераймальнае. Магчыма, пад уплывам *міркітаваць* у лексемы *мяўкаць -ў->-р-*.

**Мярлін,** *мярлюй* 'мешкаваты, непаваротлівы чалавек' (Касп.). Утворана ад *(па-)мёрлы*<ст.-рус. *мьрлъ*<прасл. *mьrěti*. Суфікс *-ін-,* магчыма, балтыйскага паходжання.

**Мярліна** (груб.) 'соня' (ушац., Нар. сл.). Да *па-мірáць* (гл.), ст.-рус. *мьрлъ* 'мёрлы'.

***Мярліны,** *мерліны, мырлы́ны* 'першая частка хаўтурнага абраду, калі нябожчык ляжыць у хаце' (Клім.), 'пахаванне' (маст., свісл., Сл. ПЗБ), 'хаўтуры, пахаванне і жалобная вячэра па нябожчыку' (хойн., свісл., Шатал.), 'жалобны дзень' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *-мёрлы*<*мéрці* (гл.). Утворана ад дзеепрыметніка *мьрлъ* і суфікса *-ін-ы* (як і ў іншых назвах традыцыйных свят і абрадаў). Гл. таксама *мерліны.*

**Мярло₁,** *мірло* (груб.) 'бярлога, пасцель', *мярлог, мярлох, мярлога* 'бярлога мядзведзя, ваўка, ліса', 'месца, дзе ляжыць жывёла', 'лагво, лежа, пасцель звера', паст. 'подсціл' (Нас., Грыг., Яруш., Гарэц., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, Касп., Бяльк., Растарг.; слаўг., Яшк.; полац., Хрэст. дыял.), арш. 'месца на раллі, на пяску, дзе ляжаў звер або качаўся конь' (Яшк.), 'гняздо' (дрыс., КЭС). Да *бярлога* (гл.). Паводле Карскага (1, 328), у дадзеным выпадку мае месца народнае пераасэнсаванне.

**Мярло₂** (груб.) 'ненасытнае стварэнне' (мсціл., З нар. сл.), 'ненасытны, прагны чалавек' (гор., Мат. Маг.), 'абжора' (Юрч. Фраз. 3). Няясна. Магчыма, звязана паходжаннем з рус. тул. *мурлé* 'шчокі', ст.-рус. *мурлетка* 'тоўсты, тлусты твар', сіб. *мурло* 'пыса жывёлы'.

**Мярлю́к** 'тоўсты, непаваротлівы чалавек' (расон., Шатал.; Крыў., Дзіс.). Няясна. Да *мярлін* (гл.).

**Мярля́к** 'нябожчык' (Уласт). Да *мéрці* (гл.). Утворана ад дзеепрыметніка *мьрлъ* і суфікса *-ак.*

**Мярні́чы,** *мерні́чы* 'землямер' (смарг., шальч., Сл. ПЗБ; шчуч., Сцяшк. Сл., Юрч. Фраз. 3). З польск. *miernic**zy* 'каморнік' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 59).

***Мярня́к,** *мерня́к* 'вялікі гаршчок' (ТС), малар. *мырняк* 'тс' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *мѣрникъ.* Да *мера* (гл.) прасл. *měra.*

**Мярож** 'мярэжа' (паст.), *мярожа* (в.-дзв., барыс., докш.), *мірэжа* (рас., в.-дзв.), *міропса* 'тс' (брасл., паст., лудз., Сл. ПЗБ). Да *мярэжа* (гл.).

**Мярсіць** 'імжыць' (мядз., Сл. бел. фраз.). Да *марасá* (гл.). Няпоўнагалоссе — другаснае; адбылося, відаць, пад уплывам літ. *mer̃ga* 'ціхі дождж', *merguôt* 'ціха ісці (пра дождж)'.



**Мярсцéнь** 'нябожчык, які даўно ўжо памёр', 'здань' (паўн., КЭС), *мéрсьціцца* 'здавацца', *прымярэсціцца* 'вярзціся' (там жа), рус. *мерещиться* 'тс', рус. ярасл. *мерести́ть* 'здавацца', разан., кастр. *мерéститься.* Да прасл. *merk-st-,* суфікс якога са *-sk-* (Бернекер, 2, 38; Фасмер, 2, 603).

**Мя́ртвы,** *мяртвы́* 'мёртвы' (Шат., Растарг.; чэрв., Сл. ПЗБ), 'абамлелы' (мядз., паст., лях., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *мя́ртвых вялікдзень* 'радаўніца' (Шат.). З польск. *martwy* 'мёртвы' пры ад'ідэацыі бел. *мёртвы.*

**Мярцвéц,** *мерцвéц* 'нябожчык' (Жд. 1, Уласт., Сл. ПЗБ, ТС, Янк.; касцюк., КЭС). Ст.-рус. *мьртвецъ, мьртвьць,* утвораныя ад *мьртвъ*>*мёртвы* (гл.). Прасл. *mьrtvьcь:* укр. *мертвець,* рус. *мертвец,* польск. *martwic, martwiec,* чэш. *mrtvec,* славен. *mrtvâc, mȓtvec,* серб.-харв. *мр̀твац,* балг. *мъртвец.* Усх.-маг. *мяртвец* 'тс' (Бяльк.), відаць, пад уплывам ц.-слав. ці рус. мовы. Сюды ж *мярцвець* 'станавіцца мёртвым', 'нямець', 'рабіцца пустынным' (ТСБМ, Уласт, Сл. ПЗБ).

**Мярцвік** 'мярцвяк' (віл., чэрв., Сл. ПЗБ). У выніку кандэнсацыі састаўнога выразу *мёртвы чалавек.*

**Мярцвіца** 'мёртвая вада' (Яруш.). У выніку кандэнсацыі словазлучэння. Аб суфіксе *-іца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110. Аналагічна *жывіца, дажджавіца* і да таго пад. Параўн. макед. *мртвица* 'мёртвая вада; вада, якая не цячэ'.

**Мярцвя́к,** *мірцьвяк* 'нябожчык' (ТСБМ, Кліх, Бяльк.; паўн.-усх., КЭС), дзятл. *мертвя́к* 'зерне, якое не дае ўсходаў' (Сл. ПЗБ). Укр. *мертв'я́к,* рус. анеж. *мертвя́к.* Усх.-славянскае. Да *мёртвы* (гл.). Аб суфіксе *-акъ* гл. Слаўскі, SP, 1, 89; Сцяцко, Афікс. наз., 130—131.

**Мярці́** 'паміраць' (Яруш.). Да *мéрці* (гл.).

***Мяршчы́на,** *мыршчы́на* 'бязлюддзе (як быццам усё вымерла)' (малар., Нар. лекс.). Відаць, з *умыршчы́на*<*умырáты*< *мéрці* (гл.). Аб суфіксе *-шчына* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 127.

**Мярэжа,** *мерэжа, мярэжка* 'ажурны ўзор, празрыстая вышыўка на тым месцы, дзе з тканіны выцягнуты ніткі' (ТСБМ, Гарэц., Растарг., Мат. Гом., ТС); *мярэжа, мярэжына, морожа, мерэжа, мірэжа, мірожа, мярожа, мірожы* 'рыбалоўная снасць з двума заходамі, нацягнутымі на абручы і злучанымі сценкай' (ТСБМ, Крыв., Др.-Падб., Касп.; полац., З нар. сл.), 'сетка, конусападобна нацягнутая на палкі' (Сл. ПЗБ; паўн.-усх., КЭС), іўеў. 'нерат з крыламі' (Сцяшк. Сл.), 'лавушка, падобная да аднакрылага венцера' (Паазер'е, Браім, 67), *мерожа* 'лазяны самалоў-пастка' (Крывіцкі, Зб. Крапіве). Укр. *мерéжа,* рус. *мерёжа,* ст.-польск. *mrzeža,* каш. *mřeža,* чэш. *mříže,* ст.-чэш. *mřieže,* славац. *mreža,* славен. *mréža,* серб.-харв. *мрѐжа,* макед., балг. *мрежа,* ст.-слав. **мрѣжа**. Прасл. *mergja* (>*merža*

'рыбалоўная сетка'> 'агароджа'), роднаснымі да якога з'яўляюцца лат. *mer̃ga, mar̃ga* 'парэнчы, рашотка, галерэя', 'плот', 'хор у царкве', літ. *márška* 'невялікая рыбалоўная сетка', *marškiniaĩ* 'кашуля', ст.-грэч. βρόχος (<*μρόχος) 'сіло, вяроўка, пятля', ірл. *braig* (<*mragi-) 'ланцуг', *braga* (<*mragant-) 'вязень' (Бернекер, 2, 38; Траўтман, 182; Мюленбах — Эндзелін, 2, 563; Фартунатаў, AfSlPh, 4, 580; Фасмер, 2, 601; Бязлай, 2, 201). Сюды ж *мережыць* 'мярэжыць', 'імжэць' (ТС).

**Мярэжыцца,** *мережыцца* 'здавацца ў сне' (ТС). Рус. *мережить* 'мігцець', чэш. *mřežit se* 'мігцець перад вачыма'. Да прасл. *merg-*, роднаснай да літ. *mirgė̃ti* 'мігцець, міргацець', лат. *mirgt* 'зіхцець, бліскаць', *marga* 'бляск, ззянне', літ. *márgas* 'стракаты' (Фасмер, 2, 601—602; Махэк$_2$, 382).

**Мярэкаць**[1] 'мала знаць, біцца ў цямноце', 'з цяжкасцю пазнаваць, разумець' (Уласт). Укр. закарп. *мереконіти* 'здавацца', 'мроіцца', рус. *мерекать:* тамб. 'марыць, задумвацца', уладз. 'вельмі мала ведаць', пск., цвяр. 'здавацца, мроіцца', 'вярзціся, блюзніцца', *мéрек* 'злы дух, страшыдла', *мерéчить* 'задумваць благое'. Роднасныя — рус. *меркнуть,* бел. *змяркацца, змрок* (гл.), літ. *mérkti* 'міргаць', гоц. *maurgins* 'ранак', ст.-в.-ням. *morgan* 'тс', ст.-інд. *markáḥ* 'зацменне сонца' (Фасмер, 2, 602 і 605; ЕСУМ, 3, 440).

**Мярэкаць**[2] 'кеміць, абмяркоўваць' (Растарг.), рус. сіб. *мерековать* 'кеміць, разбірацца', уладз. 'доўга думаць', 'прыкідваць, меркаваць'. З *меркавáць* (гл.).

**Мярэц,** *мерэц, мэрэ́ц* 'нябожчык' (Сцяшк., Сцяц., ТС; шчуч., маст., Сл. ПЗБ; лун., бяроз., Шатал.), *мерцы́* 'мерцвякі' (Растарг.). Да *мéрці* (гл.); прасл. *merьcь*. Параўн. таксама *мрэц* (гл.).

**Мярэча** 'буралом і гушчыня лесу, праз якія цяжка прайсці' (Мядзв., Касп.; крыч., слаўг., Яшк.), паўн.-усх. *міpэчча,* слаўг. *мярэчча* (Яшк.), 'непралазнае балота' (Бяльк.), 'цяжкапераходнае месца' (Мат. Маг.), смал. *мярэча* 'рэдкі сасоннік на імшары' (Максімаў), *мéрэч* 'гушчар' (ТС), чарніг.-сумск. палес. *мерéч, мярéча, мярéччя* 'густы зараснік', 'густыя кусты ў балоцістай нізіне', 'непраходны лес', *хмерóча, хмернéча* 'густы цёмны лес на забалочанай нізіне', арл. *меречь* 'грузкае балоцістае месца з драбналессем'; польск. *mrocz* 'змрок, цемра' і інш. Да прасл. *morkъ, merkja,* роднаснымі да якіх будуць літ. *mer̃kti, sumarkýti,* лат. *mèrkt, mèrcêt* 'мачыць, намочваць', *mãrks* 'сажалка на лузе', гальск. ἔμβρεκτον 'намочаны кавалак ежы', лац. *marcidus* 'вялы, слабы' (Траўтман, 182; Мюленбах — Эндзелін, 2, 584 і 619; Патабня, РФВ, 3, 99; Брукнер, KZ, 45, 103; Фасмер, 2, 602—603).



**Мярэшчыцца,** *мерэшчыцца* 'здавацца, уяўляцца' (браг., З нар. сл.; в.-дзв., Шатал.; ТС). З рус. *мерещиться* 'тс', якое з прасл. *merk-sk-* (Бернекер, 2, 38; Фасмер, 2, 603).

**Мя́са,** *мя́со, м'я́со, м'я́са, мнéсо* 'туша ці частка тушы забітых жывёл або птушак', 'мышцы цела рыб', 'мышца', 'мякаць, мяздра пладоў і ягад' (ТСБМ, Яруш., Жд. 1, Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.; зэльв., Жыв. сл.; в.-дзв., Шатал.), *м'я́со* 'слёзная залозка ў воку' (Дразд.). Укр. *м'ясо, мнясо,* рус. *мясо,* польск. *mięso,* каш. *mjąso,* палаб. *mąsi<męsьje,* н.-луж. *měso,* в.-луж. *mjaso,* чэш. *maso,* славац. *mäso,* славен. *mesô,* серб.-харв. *мêсо,* макед. *месо,* балг. *месó,* ст.-слав. **мѧсо** 'мяса'. Прасл. *męso* роднаснае да ст.-прус. *mensā* (або без устаўнога *-n-:* літ. *mėsà, meisa,* лат. *misa, miesa,* ст.-інд. *māṁsám, máṁs, māḥ,* алб. *mish,* арм. *mis* 'тс', тахар. B *misa.* I.-e. *mē(m)so-* (Бернекер, 2, 43—44; Траўтман, 178—179; Фрэнкель, 427—428; Покарны, 725; Фасмер, 3, 30—31; Бязлай, 2, 179; БЕР, 3, 759). Сюды ж *мясаéд, мясаéдніца* 'перыяд ад каляд да масленіцы, калі дазваляецца (паводле законаў праваслаўнай царквы) есці мяса' (ТС, Яруш., Сл. ПЗБ; шчуч., Сцяшк. Сл.) — параўн. серб.-харв. *месојеђе,* ст.-славен. *mesojeja, мясíва* 'мясная страва' (Нас.), *мясюга* 'мяса добрай якасці' (капыл., Жыв. сл.), *craвы*... *меся́ны* 'мясісты' (ТС).

**Мясёнжка** 'гатунак хуткаспелай рэдзькі' (КЭС, лаг.). З польск. размоўнага +*miesiączka<miesiąc* 'месяц'. Названа паводле таго, што яна вырастае за месяц. Назва перайшла і на бульбу, параўн. *мясёнишка* 'сорт бульбы' (Жд. 1). Параўн. таксама *мéсячка* (гл.).

**Месёнчны** 'месячны' (віл., Сл. ПЗБ). З польск. *miesięczny* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 59). Карэннае *-ё-* з польск. *miesiąc* [*m'esionc*] 'месяц'.

**Мясíць,** *мíсíць, месíць,* драг. *мысэ́тэ* 'мяць, размінаць густую масу, перамешваючы яе з вадкасцю', 'таўчы', 'біць, дубасіць', 'хадзіць, ездзіць па гразкім, топкім, сыпкім' (ТСБМ, Грыг., Шат., Сл. ПЗБ, ТС; гродз., драг., КЭС), *мясíлка* 'машына для размешвання' (ТСБМ). Укр. *місúти,* рус. *месúть,* польск. *miesić,* н.-луж. *měsyś,* в.-луж. *měsyć,* чэш. *mísiti,* славац. *miesiť,* славен. *mesíti/mésiti,* серб.-харв. *мијѐсити,* макед. *меси,* балг. *мéся́,* ст.-слав. **мѣсити**. Прасл. *měsiti,* да якога роднаснымі з'яўляюцца: літ. *maišýti* 'мяшаць', лат. *màisît* 'тс', ст.-прус. *maysotan* 'перамешаны', ст.-інд. *mékṣayati* 'мяшае'. Першасны прасл. атэматычны дзеяслоў не захаваўся (у літ. мове ёсць група з аблаўтам: *mišti — miẽšti — maišýti*). У іншых і.-е. мовах з суфіксам *-sk-:* лац. *misceō* 'мяшаю', ірл. *mescaim* 'тс', ст.-в.-ням. *miscan* 'мяшаць', нарв. *meisk* 'сумесь', ст.-грэч. μίσγω (<*mig-skō) 'мяшаю' (Бернекер, 2, 52; Траўтман, 175; Мюлен-

бах — Эндзелін, 2, 551, 636; Фрэнкель, 450; Фасмер, 606—607; Махэк₂, 365; Бязлай, 2, 180; Буга, Rinkt., 1, 478; 2, 166 і 487). Сюды ж *місіва* 'густая, вадкаватая маса', 'сумесь', 'мешаніна' (ТСБМ, Грыг.). Гл. таксама *мяшáць*.

**Мясніцы,** *мясніці, мняснэ́цэ* 'мясаед' (паст., беласт., драг., Сл. ПЗБ), рус. (?) паўд. *мясни́ца* 'скаромныя дні' (Даль). Утворана ад прыметніка *мясны (<мяса)* пры дапамозе суфікса *-іц-ы* (як *радаўніца*). Лексема ўжываецца ў мн. л., таму што перыяд мясаеду працягваецца цэлы тыдзень.

**Мястэчка,** *мясце́чка* 'пасёлак гарадскога тыпу', 'цэнтральная частка сяла', 'сяло з некаторымі прыкметамі горада' (ТСБМ, Мядзв., Нас., Яруш., Грыг., Бяльк., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), ст.-бел. *мястечко* (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *miasteczko* (Кохман, Kontakty, 86; Булыка, Запазыч., 212).

**Мясце́рыцца** 'прыстройвацца, прыладжвацца' (ушац., Нар. сл.). Скажоная на рускі лад форма бел. *майстравáцца* 'тс' (ТСБМ).

**Мясціна,** *месціна, ме́сціна, ме́сцінка* 'пэўная частка якойнебудзь тэрыторыі; асобнае месца', 'мясцовасць', 'край, раён, акруга' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), укр. чаркаск. *місти́на* 'месца', рус. *мести́на, ме́стина:* смал., пск. 'месца', уладз., арл. 'мясцовасць'; польск. *mieścina* 'мізэрны горад', 'непрыгожая, бедная мясціна', серб.-харв. *mjestina* 'вялізны горад' (у Стуліча). Прасл. *městina<město>ме́ста* (гл.).

**Мясціцца** 'ўсаджвацца' (Бяльк., ТС), у выразе *не месціцца ў шкуры* 'неспакойны, непаседлівы' (Ян.). Яшчэ ст.-рус. *мѣститися* 'займаць месца, змяшчацца' (XII ст.). Да *ме́ста* (гл.).

**Мясывіды** 'мясаед' (Грыг.). Да *мясаéд* (гл.). Замена другой часкі *-ед(ы)* на *-віды* можна растлумачыць беднасцю (у мінулым) некаторых слаёў грамадства, якія мяса мелі мала і «толькі бачылі» *(«толькі відзелі»)* яго.

**Мя́та,** *мне́та* 'травяністая расліна з моцным пахам, Mentha L.', малар. *мне́тва* (ТСБМ, Кіс., Касп., ТС, Сл. ПЗБ; міёр., Жыв. сл.; драг., КЭС; Сл. Брэс.), бяроз. *мня́та* 'мята палявая, Mentha arvensis L.' (Нар. лекс.). Укр. *м'я́та,* рус. *мя́та, мятва,* польск. *mięta, miętew,* н.-, в.-луж. *mjatej,* чэш. *máta,* славац. *mäta,* славен. *mêta, mêtva,* серб.-харв. *мѐта, мѐтва,* макед. *мента,* балг. *мята, мятва,* ст.-слав. **мѧта, мѧтва**. Прасл. *męta/męty,* Р. скл. *mętъve* — старое запазычанне з лац. *mentha,* якое са ст.-грэч. μίνθη (міжземнаморскі тэрмін), магчыма праз герм. пасрэдніцтва (Фрыск, 2, 241; Міклашыч, 190; Бернекер, 2, 44; Mee, MSL, 15, 162; Фасмер, 3, 31; Бязлай, 2, 180).

***Мятáць**₁, *мятáцца* 'мільгаць блізка, перад вачыма' (Юрч.), укр. *метáти,* рус. *метáть (мечу́),* польск. *miotać* 'кідаць', палаб. *mice* 'шпурляе', н.-луж. *mjetaś,* в.-луж. *mjetać,* чэш. *metati,* славац. *metat',* славен. *méati, metáti,* серб.-харв. *мѐтати,* 'кідаць', 'падаваць', макед. *метка се* 'кідацца, мільгаць, матляцца', *мета,* балг. *метна* 'кіну', ст.-слав. **метати** 'кідаць'. Прасл. *metati.* І.-е. адпаведнікі: літ. *mèsti* 'кідаць', лат. *mest* 'тс', *mets* 'куча збожжа' (Бернекер, 2, 41; Траўтман, 183; Фасмер, 2, 614). Дапускаецца роднаснасць з *ме́сці* (гл.). Іншая ступень вакалізму — *motati>матаць* (гл.). Сюды ж *мятáльнік* 'фокуснік', *мятáльніца* 'жанчына, якая бегае без толку', 'непаседа', 'якая ўмешваецца не ў свае справы' (Нас.), *мятну́цца* 'кінуцца ў якім-небудзь напрамку' (ТСБМ, Растарг.).



**Мятáць**₂, *мітáць* 'месці' (мін., КЭС). Да *ме́сці* (гл.).

**Мя́тка** 'бульбяная каша' (лід., Сцяшк. Сл.), малар. *мне́ткы* (Сл. Брэс.), рус. разан. *мятка* 'тс'. Да *мяць* (гл.). Параўн. драг. *тоўча* 'тс'<*таўчы́* (Лучыц-Федарэц), а таксама *камы*< прасл. *komiti* 'ціснуць' (Вештарт, Бел.-рус. ізал., 17).

**Мятлá**₁, *метлá, мітлá, мытлá* 'пучок звязаных галінак без лісцяў, насаджаны на палку, які служыць для падмятання; венік' (ТСБМ, Янк. 1, Бір. дыс., Бес., Яруш.), польск. *miotła,* палаб. *metla,* н.-луж. *mjetła,* в.-луж. *mjetla;* чэш., славац. *metla,* славен. *mȇtla,* серб.-харв. *мѐтла,* макед. *метла,* балг. *метлá.* Прасл. *metъlā*. Фасмер (2, 610) падае форму *metьla* насуперак Ваяну, які (RÉS, 12, 235) выводзіць прасл. форму *metlá.* Да *ме́сці* (гл.).

**Мятлá**₂, *мітлá, метлá* 'камета' (Бес., Федар. 1), брэсц. *мытлá* 'сонечны прамень' (Нар. лекс.). У выніку семантычнага пераносу паводле падабенства з *мятлá*₁ (гл.). Аналагічна балг. банацк. *миклѣ* 'камета'.

**Мятлá**₃, *метлá, мітлá, мяцёлка* 'мятлічка звычайная, Apera spica-venti (L.) P. Beauv.' (Бес., Касп., Яруш., Выг. дыс.; паўд.-бел., Смул.; міёр., Жыв. сл.), 'прасянік разгалісты, Milium effussum L.' (гом., паўд.-усх., Кіс.), 'зараснік чароту Phragmites communis Trin.' (лёзн., Яшк.). Да *мятлá*₁ (гл.). Названы так паводле таго, што з гэтых раслін вяжуць венікі, якімі вымятаюць печ перад тым, як саджаць у яе хлеб (Махэк, NŘ, 30, 61), або паводле падабенства кветак да мятлы.

**Мятлáцца,** *метлáцца* 'матляцца' (ТС). У выніку кантамінацыі *метлá* 'мятла' і *матляцца* (гл.).

**Мятле́йшы** 'больш уважлівы, памятлівы' (Юрч. Фраз. 2). Скажоная форма лексемы *памятліве́йшы.* Да *пáмяць* (гл.).

**Мя́тлік**₁, брасл. *мя́тлічак* 'матылёк' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ). Да *маты́ль* (гл.)<прасл. *metelь.*

**Мя́тлік**₂ 'метлюжок звычайны, Poa trivialis L.' (Шат., Мат. Гом., Ян.), 'свербігуз усходні, Bunias orientalis L.' (маг., Кіс.). Відаць, праз *мя́тлюк* (гл.) пры ад'ідэацыі *мя́тлік* 'матыль'

узыходзіць да *мятла́*₁ (паводле падабенства кветкі, коласа да мяцёлкі). Аналагічна метлюжок у рус. гаворках: *метлига* (табол.), *метлик* (перм., цвяр.), чэш. *metlice*.

**Мя́тлік**₃ 'чыстае, мяккае палатно з разрэзам для галавы, якое кума надзявае або накрывае дзіця пры хрышчэнні' (бых., Рам. 8; лельч., Арх. ГУ; Мат. Гом.), 'сарочка, якую надзявалі дзіцяці першы раз пасля хрышчэння' (ТС), 'канверт для немаўляці' (свісл., Шатал.), 'карункавае пакрывала' (гродз., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Метлі́на** 'мятліца ў жыце' (Растарг.). Да *мятла*₁. Параўн. там жа *мятлі́на* (павелічальнае) 'мятла'.

**Мятлі́нак** 'трава мятліца, Agrostis, L.' (слонім., Сцяшк. Сл.). Відаць, з польск. *miotlina, mietlina* 'благая мятла'. Да *мятла*₁ (гл.).

**Мятлі́ца,** *метлі́ца* 'мятлюг, Agrostis vulgaris L.' (ТСБМ, БелСЭ, Шат., ТС; слуц., Шн. 2; ваўк., Сл. ПЗБ), 'метлюжок аднагадовы, Poa annua L.' (шчуч., шальч., Сл. ПЗБ), 'жарновец мяцёлчаты, Sarothamnus scoparinis (L.) Wimm. et Koch.' (Др.-Падб.; гродз., Кіс.), 'трыснёг, Phragmites communis Trin.' (мазыр., Жыв. сл.; стол., Яшк.; Бяльк.), 'каласоўнік аржаны, Bromus secalinus L.' (Нас.; мін., Кіс.), *мятлі́чка* 'мятлічка звычайная, Apera spica-venti (L.) P. Beauv.' (маг., Кіс.). Усе да *мятла*₁. Названы паводле падабенства кветканоснай (пладаноснай) мяцёлкі да мятлы. Аналагічна шматлікія назвы з гэтым коранем у іншых славянскіх мовах. Брукнер (345) звязвае польск. *motloch* 'чэрнь, натоўп' з *mietlica* 'пустазелле', 'тое, што адкідаецца', супраць чаго Махэк₂ (561). Мяркулава (Этимология-1974, 72—74) падтрымлівае Брукнера.

**Мятлі́ца**₂ 'дробная соль' (іўеў., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Мятліца**₃ ў фальклорным запісе: *Пташачкі садзілісь па мястам, усё па дзерайцам, па мятліцам, па ракітавым кустам* (паўн.-усх., КЭС). Відаць, у выніку народнай этымалогіі з *па вятвіцам*.

**Мятлі́чкі** (мн.) 'від вышыўкі' (чачэр., Мат. Гом.). Да *мятліца*₁: вышыта раслінным арнаментам.

***Мятлі́шча,** *метлі́шчэ* 'ручка мятлы' (ТС). Да прасл. *metъlisko/metъlišče*. Гл. *мятла́*₁. Аналагічна в.-дзв. *мітлавішча* 'тс' з суфіксальным нарашчэннем *-ov-*.

**Мя́тлуха,** *мятлу́ха, мя́тлушка, мятлу́шак* 'матыль' (Юрч., Гарэц., Грыг., Яруш., Бяльк.; б.-каш., чач., Мат. Гом.; лід., Сцяшк. Сл.), 'матыль, лічынка камара' (касцюк., Мат. Маг.). Да прасл. *metelь*>*матыль* (гл.). Аб суфіксе *-уха*, гл. Слаўскі, SP, 1, 75. Сюды ж: *мятлю́шка, мя́тлух, мя́тлышка* 'матылёк' (Мядзв., Касп.; в.-дзв., Шатал.).



**Мятлю́г,** *мятлюга́, мятлюжок* 'мятліца, Agrostis vulgaria With.' (ТС, Гарэц., ТСБМ; лельч., Арх. ГУ; гродз., маг., Кіс.), 'жарновец мяцёлчаты, Sarothamnus scoparius (L.) Wimm. et Koch.' (Др.-Падб.), 'каласоўнік аржаны, Bromus Secalinus L.' (Шат., Нас., Бяльк.), 'мятлічка звычайная, Apera spica-venti (L.) P. Beauv.' (маг., Кіс.), 'метлюжок, Poa pratensis, Poa trivialis L.' (маг., Кіс.), *мятлю́к* 'тс' (Шат., Мат. Гом.). Да *мятла*₁ (гл.). Аб суфіксе *-юг(а)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 177—178.

**Мятлю́га** 'завея' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Да *мяце́ль* (гл.) (Мурашка, Бел. лекс., 117). Аб суфіксе *-'uga* гл. Слаўскі, SP, 1, 68.

**Мятля́к,** *мятлячок* 'мятлюг, Agrostis vulgaris L.' (Сл. ПЗБ). Да *мятла́*₁. Названа паводле суквецця, падобнага да мяцёлкі. Аб суфіксе *-як* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 146.

**Мятне́йшы** 'адметны, больш паважаны' (Юрч. Фраз. 3), рус. смал. *метнейший* 'самы блізкі'. Да *ме́та* (гл.), *адметны, прыкметны.*

**Мятну́шка** 'лазаніца звычайная, Lysimachia vulgaris L.' (Шат.). З *мятлу́шка.* Названа паводле мяцёлчатых суквеццяў (БелСЭ, 6, 243).

**Мя́тны** 'дробны' (Выг.— Смул., БЛ, 3, 21). Да *мяць* (гл.)> *мяты;* суфікс *-н-*, як у *дробны.*

***Мяточніца,** *мето́чніца* 'маленькі шчупачок' (Крыв.). Відаць, з +*менточніца.* Параўн. там жа *ментачка* 'тс'. Да *мен-т-* (рус. *ме́нтик, ментю́к*)<*мень*<прасл. *тьпь.*

**Мяту́шка** 'нізка (рыбы, грыбоў)' (беш., Нар. сл.). Да *мату́шка* (гл.).

**Мятушы́цца** 'мітусіцца' (дзярж., Нар. сл.; стаўбц., Жыв. сл.). Да *мітусі́цца* (гл.).

***Мятчы́шча,** *метчы́шчэ* 'нізка, на якую нанізваюць рыбу' (ТС). Да *ме́тка* (гл.).

***Мятэнька,** беласт. *мэтэ́нька, мытэ́нька* 'мянташка' (Смул.). Балтызм. Параўн. літ. *tentẽ* 'лапатка, мянташка', магчыма, *tentẽlė* 'лапатачка'. Памяншальнасць перадаецца адпаведным зах.-палес. суфіксам *-эньк-*. З прычыны гіперправільнасці пры ад'ідэацыі польск. *-ę-* карэннае *-н-* выпала.

**Мя́ўкаць** 'крычаць (пра катоў)' (ТСБМ, Сцяшк., Яруш., Зн., Бяс., Нас., Касп., Сл. ПЗБ; ДАБМ, к. 301), *мя́ўчыць* 'мяўкаць' — у стараабрадцаў (Растарг.). На Беларусі пашырана паўсюдна побач з іншымі гукапераймальнымі: *ка́ўкаць, курня́ўкаць, я́ўкаць, няўчэ́ць, кня́ваць* (Смаль-Стоцкі, Приміт., 24; Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 80).

**Мяхе́д** 'непаваротлівы, таўстун', *мяхе́да* 'непаваротлівая,

нерахманая жанчына' (Нас.). У выніку кантамінацыі лексем *мех* і ўласнага імя *Міхед*.

***Мяхі́р,** *мыхір* 'паветраны пузыр у рыб' (брэсц., Нар. лекс.), кобр. 'мачавы пузыр' (Нар. лекс.). Укр. *міхúр, міхýр* 'вадыр', 'пухір', польск. *miechyrz, mięcherz, macherzyna* (якія, паводле Брукнера (331), утвораны паводле *pęcherz* 'пухір'), чэш. *měchýř*, славац. *mechúr*, славен. *mechúr, mehír*, серб.-харв. *мjѐхур, мjѐхир, мѐир, мѐур, мице̑р*, макед. *меур, меурче* 'тс'; балг. *мехýр* 'тоўстая кішка', ст.-слав. **мѣхырь**. Прасл. *měchyrь, měchurъ*, утвораныя ад *měchъ>мех* (гл.). (Бернекер, 2, 46; Фасмер, 2, 612; Махэк$_2$, 358; Бязлай, 2, 176). Гл. таксама *міхіéр*.

**Мяхотка** 'вехцік для мыцця посуду' (Касп.). Да *вяхотка*$_1$ (гл.).

**Мяцéж** 'стыхійнае, узброенае паўстанне' (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ), 'разбой, сумятня, знішчэнне', 'завея, мяцеліца' (ТС), *мяцежá* 'паўстанне' (валож., Сл. ПЗБ), *мяцежыць* 'трывожыць, прыводзіць у замяшанне' (Нар. Гом.). Укр. *метíж*, ст.-чэш. *metež*, славац. *mätež* 'сумятня', славен. *mêtež* 'бура, мяцеліца', серб.-харв. *мéтеж*, макед. *метеж*, балг. *метéж*, ст.-слав. **многомѧтеженъ**, чэхаслав. **мѧтежь** 'мяцеж'. Прасл. *mętežь: mǫtežь* (Варбат, Слав. языкозн. VII Междунар. съезд, М., 1973, 95), утворанае ад *męsti* (рус. *мястú* 'прыводзіць у сумятню', ст.-рус. *мясти* 'перамешваць' (XII ст.), 'блытаць', 'падбухторваць', 'мітрэнжыць', 'грэбаваць', н.-луж. *měsć*, в.-луж. *mjasć*, чэш. *másti*, славац. *miast'*, славен. *mẹ́sti* 'тс', серб.-харв. *мéсти* 'збіваць масла', *мéсти се* 'блытацца, бударажыць') (Бернекер, 2, 44; Фасмер, 3, 31 і 32; Скок, 2, 413; БЕР, 3, 767).

**Мяцéліца,** *мецéль, мяцéль, мытэ́льица* 'снежная бура, завея', 'беларускі народны танец' (ТСБМ, Гарэц., Грыг., Мал., Яруш., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС; драг., Нар. словатв.), *мяцéліцай* 'хутка' (Сл. ПЗБ). Укр. *метéлиця, заметíль*, рус. *метéлица, метéль*, польск. *zamieć*, н.-луж. *změt(awa)*, чэш. *metelice*, славац. *metel'*, *metelica*, славен. *méteż, snę̑g méte* 'ідзе снег', серб.-харв. *мѐћава*. Да *мéсці* (гл.). Аб суфіксе *-еліц-а* і ўтварэнні слова гл. Сцяцко, Афікс. наз., 50. Гл. яшчэ аб слове Львоў (РР, 1969, 2, 99).

**Мяцéліць** 'хутка рухацца' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *мяцé-ліца* (гл.).

**Мяцéльнік** 'дзяржанне ў мятле' (паст., Сл. ПЗБ). Да *мятлá*$_1$ (гл.). Аб суфіксе *-льнік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 52.

***Мяцéнька,** *метéнька* 'мянташка' (лун., Шатал.). Да *мятэ́нька* (гл.).

**Мяцёва,** *мя́ціва, мя́ціво, мя́ціўя* 'бацвінне' (Жд. 1; іўеў., маст., Сцяшк. Сл.), 'націнне гародніны' (бялын., Нар. сл.). З *нацьь* 'націна'. Параўн. чэш. *nat'*, *ňat'*, *mňat'*, *mjat'* і інш. слав. лексемы, якія да прасл. *natь<nyti, naviti>navъ* 'мёртвы'. Мяркуецца, што націна — адміраючая, ужо не зялёная частка пераважна раслін-караняплодаў (Махэк$_2$, 391). Аб суфіксе *-ів-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 41.



**Мяцёлка** 'мятла', 'суквецце некаторых раслін', 'мятліца' (ТСБМ), 'доўгія валасы на канцы хваста ў каровы' (шчуч., Сл. ПЗБ), *мяцёлачкі* 'адросткі пер'я ў птушкі ў час ліңькі' (гродз., Сцяшк. Сл.). Укр. *метéлочки* 'смеццевы клапоўнік, венічкі, Lepidium ruderale L.', *мітéлка* 'венік', рус. *метёлка* 'тс', 'суквецце раслін'. Усх.-слав. Да *мятлá*$_1$ (гл.).

**Мяць** 'размінаць', 'аддзяляць валакно ад трасты', 'таўчы', 'камячыць', 'прыгінаць, прытоптваць (расліны) да зямлі', 'умінаць, есці з апетытам' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Ян.; міёр., Нар. лекс.). Укр. *м'я́ти, мня́ти*, рус. *мять*, ц.-слав. *мѧти;* польск. *miąć*, ст.-чэш. *mieti*, славац. *mät'*, славен. *méti*, балг. *мъ̀на*. Прасл. *męti (тьnǫ)*, да якога роднаснымі з'яўляюцца літ. *minti* 'таптаць (пасевы)', 'мяць лён', лат. *mīt* 'тс', *mīne* 'месца, дзе мнуць гліну', ст.-прус. *mynix* 'дубільшчык', ст.-інд. *carmam-nāh* 'кажамяка', ірл. *men* 'мукá', уэльск. *mathr* 'таптанне, размешванне нагамі'— і.-е. **men-* 'таптаць' (Траўтман, 185; Мюленбах — Эндзелін, 2, 646; Фасмер, 2, 634; Бязлай, 2, 181).

**Мя́цьва** 'корм свіней: дробна насечаная трава, пасыпаная мукой' (Мядзв.), 'тс', 'страва, прыгатаваная з зялёнай агародніны' (КЭС, лаг.). Да *мяць* (гл.). Аб суфіксе *-ва* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34.

**Мяцю́к** 'спакладаны парсючок' (брасл., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *meičiùkas* 'тс' (Грынавяцкене, там жа, 3, 111).

**Мяч,** *мя́чык, мéчык* 'шар для гульні, зроблены з пругкага матэрыялу', драг. *мнеч*, пруж. *м'яч* 'тс' (ТСБМ, Бяльк., Янк. 1, Рам. 8, Сл. ПЗБ, КЭС), *мéчык* 'мячык з валовай шэрсці, абшыты панчохай' (Растарг.). Укр. *м'яч, мняч*, рус. *мяч*, чэш. *míč*, ст.-чэш. *mieč*, славен. *mẹ̑č, mẹčá* 'тс', серб.-харв. *мећа* 'нешта мяккае, мякіш, сярэдзіна', балг. *мéчка* 'хлеб з сырам, спечаны ў выглядзе кулі'. Прасл. *теčь* 'нешта сціснутае, скамечанае', утворанае ад *tękъ(kъ)* 'мягкі' пры дапамозе суфікса *-jь* (Бернекер, 2, 42; Міклашыч, 189; Фасмер, 3, 32; Махэк$_2$, 362; Бязлай, 2, 173).

**Мя́ча** 'адліга пасля толькі што выпаўшага снегу' (кір., Нар. сл.). Рус. цвяр. *мяч* 'дажджыстае надвор'е', польск. *zmięk*, чэш. *odměk*, славац. *odmäk* 'адліга'. Да *tękъ* 'мяккі'+ +суфікс-*ja>mǫk-ja* (Петэрсен, AfSlPh, 36, 442; Махэк$_2$, 358; Трубачоў у Фасмера, 3, 32).

**Мя́чка** 'жанчына, якая вядзе канчатковую апрацоўку льну

церніцай, мне лён' (Жд. 1, Сл. ПЗБ; смарг., Сцяшк. Сл.; КЭС, лаг.), 'церніца; мяліца' (Бяльк., Сл. ПЗБ; бялын., Бел. хр. дыял.). Усх.-слав. (бел.) утварэнне з фармантам *-jь* ад *мяти* 'мяць' (як *біч* ад *біць*) з дадаваннем суфікса *-ъка*.

**Мя́чыць** 'мяць' (рэч.), 'есці' (гом., Мат. Гом.). Другаснае ад *+мячкаць:* параўн. укр. *м'яцкати, м'ядзгати,* рус. *мя́чкать* 'мяць', чэш. *mačkati,* мар. *m'ačkat',* славен. *mečkáti* 'ціснуць, камячыць, марудна працаваць', макед. *мачка* 'мне', 'мажа, пэцкае', балг. *мачкам* 'мну', ст.-слав. **омѧчити** 'змякчыць'. Прасл. *męčьkati*<*męk-* 'мяккі' (Бернекер, 2, 2; Фасмер, 3, 32; Махэк₂, 347, які гаворыць аб супадзенні асноў *magati* і *męčьkati* у чэш. *mačkati*).

**Мячэўнік** 'трыснёг звычайны, Phragmites communis Trin.' (паўн.-усх., Кіс.), 'чарот, Scirpus L.' (смарг., Сцяшк. Сл.), 'сіт, Juncus L.' (віл., Сл. ПЗБ), 'касач, Iris pseudacorus L. (круп., Нар. сл.), 'заразнік касачоў' (Бяльк.), 'пухоўка, рагоз шыракалісты, Typha latifolia L.' (маг., чэрв., Сл. ПЗБ; расон., Шатал.; Касп., Мат. Маг., Мат. Гом.), слаўг. *мéчаўнік* 'тс' (Яшк.). Усе да *меч* (гл.). Аб суфіксе *-оўнік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 171. Параўн. аналагічна ст.-рус. *мечевник* 'трыснёг' (XV ст.), польск. *mieczyk* 'касач', 'гладыёлус', чэш. *mečík* 'тс', харв. *mačić, mačinac* 'тс' — ад *мечь* — пераклад лац. *gladiolus*. Названы паводле падабенства па форме лістоў раслін да мяча.

**Мячэць** 'малітоўны дом у мусульман' (ТСБМ), ст.-рус. *мечеть (мѣчить, мечать)* 'тс' (1584 г.). Раней, з XIV ст. *мезгить* — з тур.-араб. *mäsdžid*, тат. *mäčit* 'тс' (Радлаў, 4, 2110; Корш, AfSlPh, 9, 665; Бернекер, 2, 29; Фасмер, 2, 613). Ст.-бел. *мечеть* 'тс' (1540 г.) было запазычана з асм.-тур. *mesčit, mečit*<араб. *masğid* (Расанен, 336; Булыка, Лекс. запазыч., 184). У польскай мове такая ж форма — *meczet* 'тс' (Заянчкоўскі, PF, 18 (1964), 2, 169.

**Мяша́нец,** *мішáнец* 'патомак ад шлюбу людзей рознай нацыянальнасці, расы', 'жывёла змешанай пароды' (ТСБМ, Нас., Нік. Очерки; лудз., Сл. ПЗБ). Паводле націску можна дапусціць запазычанне з польск. *mieszaniec* 'тс'; рус. ніжагар.— *мéшанец*.

**Мяша́ць,** *мешáць, мішáць, мышéтэ* 'размешваць, перамешваць', 'злучаць разнароднае', 'уцягваць, умешваць', 'паўторна пераворваць', 'баранаваць другі раз', 'перашкаджаць', 'замешваць, расчыняць цеста' (ТСБМ, Нас., Яруш., Нік. Очерки, Выг. дыс., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, Жд. 1, ТС; полац., Хрэст. дыял.), *мяшáць свіння́м* 'рыхтаваць корм для свіней' (КЭС, лаг.), кам. *мíшань, мíшанка, мéшань* 'корм для свіней, кароў' (ТСБМ, Нас., Касп., ТС, Шатал.), *мéшанка* 'кармавая сумесь для жывёлы, птушак, рыбы', 'змешаны пасеў кармавых раслін' (ТСБМ, Шат., Шатал., Сл. ПЗБ, Нік. Очерки; паўн.-усх., КЭС), *мешанíна* 'сумесь разнароднага', 'блытаніна', 'адсутнасць яснасці' (ТСБМ, Нас.; міёр., Нар. словатв.), шальч. 'поле, узаранае другі раз' (Сл. ПЗБ), нясв. *мéшанка* 'зводная сястра' (там жа), *мяшáнка* 'тоўчаная бульба, пюрэ' (Ян.), 'мешанка' (Сл. ПЗБ), *мяшáлка* 'мешалка' (шальч., Сл. ПБЗ; мін. сляпянск., КЭС). Укр. *мішáти,* рус. *мешáть, мехáть,* польск. *mieszać,* н.-луж. *měšaś,* в.-луж. *měšeć,* ст.-чэш. *miešeti,* дыял. *míšet těsto,* славац. *miešat',* славен. *mešáti, měšati,* серб.-харв. *mijèšati. мéшати,* макед. *меша,* балг. *мешам,* ст.-слав. **съмѣшати**. Прасл. *měšati*. Да *мясíць* (гл.).



**Мяшкáць** 'жыць', *мяшканец* 'жыхар', *мяшкáне* 'часовы прытулак', 'месца пражывання' (Нас.), 'хата, жыллё' (брасл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *мешкати, мешканецъ, мешкане, мешканье* 'тс' (XIV, XVI стст.) запазычаны са ст.-польск. *mieszkać, mieszkaniec, mieszkanie* 'тс' (Жураўскі, 10 (1), 1961, 40; Булыка, Запазыч., 202).

**Мя́шкі** 'назвы плоскуняў' (староб., ДАБМ к. 283), *замáшкі* 'яшчэ растучыя плоскуні' (ДАБМ, с. 870). Няясна.

***Мяшкорыць,** *мешкóрыць, мешкóліць* 'калашмаціць' (ТС). Магчыма, складанае слова з *мясіць* і *шкура* 'скура' (гл.); параўн. *даць у скуру* 'набіць'.

**Мяшлá,** *мешлá* 'мешалка, лапатачка' (чырвонасл., З нар. сл.). Да *мяшáць* (гл.). Здзіўляе ўтварэнне пры дапамозе суфікса *-л-а* без галоснай асновы інфінітыва *-а-* (параўн. *мяшáлка, мéшалка*). Відаць, пад уплывам балт. моў, параўн. літ. *saĩlas* 'каромысел', *siũlas* 'ніць' (Атрэмбскі, Gram., 2, 102).

**Мяшня́к** 'змешаны лес' (зэльв., Сцяшк. Сл.). Да *мяшáць* (гл.). Аб суфіксе *-няк* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 118—119.

**Мяшок** 'мех' (ТСБМ, Яруш.). Да *мех* (гл.).

**Мяшолка** 'лапата для замешвання корму жывёле' (Касп.). Да *мяшáць* (гл.)>*мяшалка.* Аб мене *а*>*о* гл. Карскі, 1, 94—102.

**Мяшонка** 'мяшанка' (Бяльк.; паўн.-усх., КЭС), 'мятая бульба, замешаная мукой' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *мяшáць* (гл.)>*мяшáнка.* Аб мене *а*>*о* гл. Карскі, 1, 94—102.

**Мяшочнік,** *мяшэчнік* 'той, хто мяшкамі скупляе харчовыя прадукты з мэтай іх спекуляцыі' (ТСБМ). З рус. *мешочник* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 110).

**Мяшýлка** 'мешалка, лапатка' (Бяльк.; хоц., Мат. Маг.; іўеў., Сцяшк. Сл.), смал. *мешулка* 'тс', 'вясло'. Да *мяшáць* (гл.)>*мяшалка.* Аб мене *а*>*у* гл. Карскі, 1, 113.

**Мяшча́нка** 'абывацелька', *мяшчанства* 'абывацельшчына' (ТСБМ). З рус. *меща́нка, меща́нство* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 74). Гл. таксама *мешчанін.*

***Мяшы́на,** ст.-бел. *мешына* 'выррабленая аўчына' (XVI ст.), ст.-рус. *мечина, мячина, мѣшина* 'тс', рус. *меша, мешина* 'сырая неапрацаваная аўчына' запазычаны з асм.-тур. *mešin*, крым.-тат. *mašin* 'аўчына' (Радлаў, 4, 2114; Булыка, Лекс. запазыч., 114) < перс. *mēš* 'авечка, баран' (Бернекер, 2, 47; Фасмер, 2, 614). Ст.-рус. формы з *-ч-* пад уплывам *мячити* 'рабіць мяккім'.

**Мяшэй,** *мяжэй* 'расліна з сям. злакавых, Setaria glauca (L.) P. Beauv.' (маг., Кіс.). Укр. *мишій, мишéй,* рус. *мышей,* раст. *мышай,* якія, паводле аўтараў ЕСУМ (3, 470), з'яўляюцца вынікам відазмены гукавай формы *мушій, мушйй,* зближанай з *ми́ша* 'мыш'. Лексема *мушій (мушйй, мушійка, мушиця, му́шка)* 'цімафееўка' і інш., якім у іншых слав. мовах адпавядаюць: чэш. *tišec,* серб.-харв. *му̏хар, мӣвар, мо̀хар* 'брыца, Echinochloa crus galli Roem.', славен. *múšec, múhec* 'тс', звязваюцца з *му́ха* (яшчэ Мацэнаўэр, Cizí sl., 258), што з'яўляецца другасным. Этымалогія, аднак, няясная (Махэк, Jména, 294; Бязлай, 2, 208; ЕСУМ, 3, 544).

**Мяшэніцца** 'мяшацца, збівацца, блытаць' (Нас.). Рус. смал. *мишениться* 'падманвацца', уладз. *мишенить* 'вяла рабіць што-небудзь'. Утворана ад *мешань* < *мяша́ць* (гл.).

# Н

**На**$_1$ прыназоўнік (з він. і месн. скл.) і прэфікс, параўн. укр., рус. *на*, польск. *na*, палаб. *no*, в.-луж., н.-луж. *na*, чэш., славац. *na*, славен. *na*, серб.-харв. *на*, макед., балг. *на.* Побач з прасторавым і часавым значэннем можа выражаць кірунак, мэту, прызначэнне, на базе якіх узнікла больш спецыфічнае значэнне аб'екта (адрасата), якое звычайна выражаецца дав. скл.: *кажу на яго* (=яму), *гаварыць на маці* (=маці), што лічыцца «латгала-крывіцкай інавацыяй» (гл.: Прохарава С. М. Сов. славяноведение, 1986, 3, 76), аднак апошняе вядома і інш. слав. мовам, асабліва на поўдні Славіі, параўн. балг. *казвам на него, давам на Иван,* макед. *му зборува на можот* і інш., што можа сведчыць пра больш ранюю тэндэнцыю да такога ўжывання прыназоўніка *на.* Прасл. **na*, роднаснае да літ. *nuõ*, лат. *nùo* 'ад, з', ст.-прус. *no/na* 'адпаведна, па', далей параўноўваюць з грэч. ἀνὰ 'на, уверх', гоц. *ana* 'на, у, супраць', ст.-в.-ням. *an(a)* 'на'. У якасці прэфікса ўжываецца пры дзеясловах, прыметніках і (рэдка) назоўніках, што адпавядае літоўскай прыстаўцы *nu-* ў дзеясловах і *nuo-* ў назоўніках, параўн. Фрэнкель, 511; у прыметніках у большасці зах.-слав. і паўд.-слав. моў мае дэмінутыўнае значэнне, параўн. в.-луж. *naběl* 'белаваты', серб.-харв. *на́црн* 'чарнаваты' і пад., ва ўсх.-слав. і польск.— узмацняльнае значэнне, параўн. рус. *на́крепко*, польск. *naprzykry* 'вельмі прыкры' і пад., што адпавядае значэнню прыстаўкі *най-*, пры дапамозе якой утвараюцца формы найвышэйшай ступені ў слав. мовах, параўн. укр. *най-*, рус. *наи-*, польск. *naj-*, в.-луж. *naj-*, чэш. *nej-*, славен. *naj-*, серб.-харв. *нај-*, макед. *нај-*, балг. *най-*, гл. Фасмер, 3, 33, параўн. Копечны (ESSJ SG, 1, 121), які ўслед за Міклашычам (4, 213) лічыць градацыйнае *на-* іншага паходжання. Гл. таксама Махэк$_2$, 387 (адмаўляе роднаснасць паміж *на* і літ. *nuo* з-за антанімічнага значэння), Скок, 3, 495, ESSJ SG, 1, 115 і далей (з аглядам літаратуры і версій).

**На́**$_2$, *на́це* 'на, бяры(це), вазьмі(це)' (Шат., Касп., Бяльк., Гарэц., БРС, Байк. і Некр., Грыг.), сюды ж *на́, на́* — падзыўныя словы для сабакі, палеск. *ня́, ня́* 'тс' (ТС); укр. *на́, на́те*, рус. *на́, на́те*, польск. *na, nacie*, чэш. *na, nate*, славац. *na*, славен. *nâ, nate*, серб.-харв. *на*, макед. *на*, балг. *на́* 'вазьмі; вось'. Роднаснае да літ. *nà*, лат. *na* 'ну', ст.-інд. *nā́-nā* 'ў розных месцах, па-рознаму' і інш., гл. Фасмер, 3, 33; Махэк$_2$, 387; Брукнер, 351; Скок, 3, 495; Шустар-Шэўц, 13, 977.

**На-** — часц. для ўтварэння вышэйшай ступені параўнання:

*набольш* 'найбольш' (Нас., ТС), *наболі, наболя* 'больш за ўсё' (Рам.), *намилейший* 'самы мілы' (Карскі, 2—3, 50; віцебск.), ст.-бел. *напервей* 'спачатку', *наболей* 'найбольш', *наболший* (Скарына); параўн. рус. *нáбольший*, польск. *nalepszy, nawyszszy*, кашуб. *nólepši*, чэш. *nálepší, návyšší, náprvé*, славен. *námlajši*. Прасл. **na-*, якое Зубаты (I, 1, 52) атаясамлівае з выклічнікам **na* (гл. *на₂*), што ўзыходзіць да ўказальнай часціцы; Фасмер (3, 33) лічыць яго ідэнтычным прыназоўніку **na* (гл. *на₁*) і ўсх.-слав. узмацняльнаму *на-* (рус. *нáкрепко, нáскоро*). Ва ўсіх слав. мовах мае архаічны характар, актыўна выцясняецца паходзячай ад яе больш новай формай *nai-* (гл. *най-*); у прыватнасці, на польскай тэрыторыі формы з *nai-* распаўсюджваюцца з боку Беларусі, гл. Дэйна, Atlas polskich innowacji dialektalnych. Warszawa, 1981, к. 77. Гл. таксама Карскі, 2—3, 50; ESSJ SG, 2, 433—435.

**Наагýл** 'увогуле, наогул' (Гарэц., Яруш., Касп., Бяльк.), *наогул* (ТСБМ), укр. *навгýл* 'агульна, усе разам', польск. *na ogół* 'увогуле, агульна, без дэталізацыі'. Ад *агýл* 'усе разам, гурт' (гл. *агульны*); адносна літаратурнай формы можна выказаць меркаванне аб запазычанні з польск. (націск, адсутнасць пратэзы перад *ó*).

**Наадварот** (Шат., Яруш.), *наодворóт* (ТС), *на атварот* 'наадварот, узаемна' (Нас.); параўн. польск. *naodwrót* 'насуперак, адваротна, у іншы бок'. З *на+адварот*, гл. *варочаць*.

**Наадлéг** 'наводмаш' (Арх. Федар.). Гл. *наводліў* 'тс'.

**Наазéм** 'на зіму': *нааром наазем* (Мат. Гом.). Хутчэй за ўсё са спалучэння *на+о+зімé*.

**Наапосле**, *наопасле* 'пасля; нарэшце' (Нас.). З *на+апосле*, гл. *апошні*.

**Наастáтак** 'нарэшце, у канцы' (Яруш.), *на астáтак* 'нарэшце', *на астáтку* 'у рэшце рэшт' (Нас.). Ад *астáтак*, параўн. укр. *наостáнку, наостáнці* 'нарэшце, у канцы', гл. *астаціца*.

**Наатскоце**, *на атскоце* 'на некаторай адлегласці, асобна, далей' (Нас.). Хутчэй за ўсё ўтворана ад *адскок, адскочыць*, гл. *скакáць*.

**Нáба** 'добра што' (слуц., Сержп.: *наба яшчэ скора хамянýўся*), *нáба* і *нáбо* 'тс' (Янк. 1, мазыр., Шн. 3, 412; жытк., Арх. ГУ), *нáбе* і *нáбо* 'добра што; паколькі' (ТС), *нáбу* 'дзякаваць богу, на шчасце' (драгіч., З нар. сл.); параўн. рус. арханг. *на-б*, якое Даль тлумачыць 'надобы, надобе, надо', што можа разглядацца як магчымая этымалагічная версія: *нáба* з *нáдаба* 'патрэба, своечасовасць', *нáбе* з *нáдобе, нáбу* з *нáдобу* і пад., параўн. славац. *nábe, nadbe, nadbä* 'патрэбна', якое Махэк₂ (387) разглядае як русізм. Гл. *нáдабі, дабá*. Відаць, не звязана



з *на бах* 'акурат, якраз' (Арх. Федар.) і серб.-харв. *nàbas* 'прыгожы, харошы', якое Скок (3, 496) выводзіць з *na bas* 'хуткім крокам'.

**Набабэ́ніць** 'накласці' экспр. (Жд. 2). Да *бабэніць* 'піхаць, набіваць' (гл.).

**Набабэ́хаць** 'наліць без патрэбы, разліць' (слонім., Нар. лекс.). Экспрэсіўнае ўтварэнне, варыянт *набэхаць*, гл. *бэхаць* 'бухаць, ліць', параўн. *набабáхаць* 'наліць празмерна' (Яўс.), *набабýхаць* 'накласці, наліць без меры' (Сцяшк. Сл.).

**Нáбадры** 'шоры, шляя' (БРС), 'шлеі, частка збруі' (Янк. БФр. 297, слуц., Сл. бел. нар. фраз.), 'медныя бляхі для збруі' (Лупсякоў, Фалькл. Гом.), *нáбадрыкі* 'шоры' (стаўбц., Нар. сл.). Відаць, фанетычна зменена *набéдры, набéдрыкі* (*набэ́дрыкі*) 'тс' (гл.).

**Нáбажны.** Гл. *набожны*.

**Набажэ́нства** 'богаслужэнне' (БРС, Гарэц., Байк. і Некр.), ст.-бел. *набоженство* 'багаслужэнне; веравызнанне; богабоязь' разам з укр. *набожéнство* 'тс' запазычана з польск. *nabożeństwo* 'тс' (дзе ў сваю чаргу з чэш. *náboženství* 'рэлігія, вера, веравызнанне'), гл. Кохман, Stosunki, 91; Сташайтэне, Абстр. лекс., 80.

**Набайсіць** 'нагаварыць' (ТС). Да *байсіць* 'гаварыць, абгаворваць' (гл.).

**Нáбак** 'набок' (Байк. і Некр.), 'у бок' (Нас.), *нá-бак: набак шапачки не носишь?* (дзісн., Дзмітр.). З *на+бок*, гл. *бок*.

**Набáкір** 'набак' (Нас., Байк. і Некр., Др., Гарэц., БРС), *набакéр* 'тс' (Янк. 1), *набáкер* і *набáкір* (ТС). Разам з укр. *набáкир* запазычана з польск. *na bakier* 'тс' (звычайна пра галаўны ўбор), якое разам з рус. *набекрéнь* Брукнер (12) выводзіць з каманды плытнікаў, што паходзіць з ням. *back kehren* 'назад, налева варочаць'; паводле Бяднарчука (JP, 1984, 44, 1—2, 31), плытніцкае вілейск. *na baker* 'налева; назад' ад н.-ням. *bakbort* 'левы борт, ззаду (адносна стырна)'. Варыянты *набагéр* (Сцяшк. Сл.) і *намáгір* (ТС) можна разглядаць як другасныя, узнікшыя ў выніку азванчэння *к* у інтэрвакальным становішчы і, магчыма, збліжэння з *маёрка* (гл.). Іншы выпадак збліжэння ў спалучэнні *на башкір: staí nasić czapku na baszkir* (Пятк.).

**Набалоціць** 'забрудзіць': *Набалоціў хату* (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *балота* 'гразь, бруд', відаць, пад уплывам польск. *błoto* 'тс', *błocić* 'пэцкаць', гл. *блоціць*.

**Набамбéрыць** 'насыпаць' (любан., Жыв. сл., 150), *набамбéрыцца* 'наесціся' (Сцяшк. Сл.). Утварэнні тыпу *набабэ́хаць, набабэ́ніць* 'наліць празмерна, накласці' і г. д. узыходзяць да

адпаведных дзеясловаў з рэдуплікацыяй (гл. *бабáхаць*); назальны элемент, як і незвычайны вакалізм, у прыведзеных словах можа тлумачыцца экспрэсіўным характарам слоў або як вынік уплыву літоўскіх слоў тыпу *bambėti* 'бурчаць', *bambinti* 'лупіць, біць', *bámbt* 'бух' і г. д. Параўн. *абамбéрыць* (гл.).

***Набамбýліць**, *набамбýлыты* 'надуцца, пакрыўдзіцца' (драгіч., Клім.). Да *бамбýла* 'надуты' (гл.), што ў сваю чаргу, відаць, можна звязаць таксама з літ. *bambėti* 'бурчаць, быць незадаволеным', *bambl̃ys* 'буркун' і інш., гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 98.

***Набанýцца**, *набонýцца* 'напароцца' (ганц., Сл. ПЗБ). З **набодницца* (ад *бадáць* 'калоць') у выніку фанетычнага пераходу *дн*>*н*, магчыма, праз стадыю падваення *-нн-*, параўн. *спадніца*, дыял. *спанніца, спаніца* (гл. ДАБМ, к. 60, 329 і інш.).

**Набандыжыць** 'напіхаць, наладаваць' (ТС), параўн. укр. *набендюжитися* 'надуцца'. Да экспрэсіўнага *бандыжыць*, што можа ўзыходзіць да *бáндыш* 'калун, сякера' (гл.) або да літ. *bandà* 'статак, гурт' ці пад.

**Набарк** 'напавер' (Сцяшк. Сл.). Хутчэй за ўсё ад польск. *na borg* 'у крэдыт' (сярэдневяковае *na borg służyć* — пры несвоечасовай выплаце грошай, гл. Брукнер, 36), параўн. *naborg* 'крэдытаванне' (Варш. сл.), *borgować* 'пазычаць', што ў сваю чаргу з ням. *borgen* 'тс'. Гл. *борг*.

**Набарохтацца** 'навалтузіцца, набоўтацца' (Нас.). Да *барохтацца* (гл.).

**Набасанож** 'на босую нагу' (ТСБМ). Да *босы* і *нага*.

**Набасанос** 'на босую нагу' (Сцяц., Сцяшк. Сл., стаўбц., Нар. сл.). Відаць, ад *набасанож* з дыстантнай асіміляцыяй *ж* да *с*.

**Набасонак** 'на босую нагу' (Мат. Гом., Янк. 1), *набасонач* 'тс' (Мат. Гом., Янк. 1, Сцяшк. Сл.). Ад *босы* і *нага* з аглушэннем канцавога зычнага, параўн. *набасанож* (гл.).

**Набасякá** 'басанож' (Сцяц., Жд. 2), *набасекá* 'без панчох' (калінк., З нар. сл.), *набосякы* (драгіч., З нар. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад прыслоўя *басякá*, параўн. *дрáла, драпакá* і г. д.

**Набáт** 'трывога, сігнал трывогі' (БРС). Запазычана з рус. *набáт* 'тс', куды, відаць, трапіла праз цюркскае пасрэдніцтва з араб. *nauba* 'ахова, змена часу', мн. л. *naubât* 'барабаны, у якія б'юць перад дамамі знатных асоб'. Гл. Фасмер, 3, 34.

**Набатавáць** 'насварыцца на каго-небудзь, ціха, павучальна' (Янк. 3). Гл. *батавáць* 'дакараць'.

**Набатрáчыць** 'нестаранна зрабіць работу' (ТС). Да *батрáчыць, батрáк* (гл.).

**На бáх** 'акурат, якраз' (ваўкав., Арх. Федар.). Магчыма, суадносіцца з серб.-харв. *бах, убах* 'зусім' (параўн. у выразе *удрити у бах* 'пярэчыць, адмаўляць') і балг. *хващам бъх* '?', з якімі Брукнер (19) звязвае польск. *bechtać, nabechtać* 'паклёпнічаць, абгаворваць', ц.-слав. *бехма, бохма* 'зусім, цалкам'. Гл. *бах, бахаць*.



**Набáхаць** 'наліць (звыш меры)' (Сцяц.). Гл. *бáхаць*.

**Набахтýрываць** 'прагна піць, звыш меры наліваць што-н. (Нас.), *nabachtùryć* 'напіць гарэлкай' (Пятк. 2, 200), *набахтэрыць* 'наліць вельмі поўна' (любан., Нар. сл.), укр. *набахтýрити* 'набіць лухтой, дробяззю (галаву)', сюды ж, магчыма, славац. *nabachtany* 'добра наедзены', польск. *nabechtywać* 'нагаворваць, паклёпнічаць, пляткарыць', балг. *набъхтвам* 'біць, лупцаваць' і іншыя экспрэсіўныя ўтварэнні з падобнай семантыкай. Утворана ад **бахтýрыць*, параўн. *бахтáць* (гл.) з нарашчэннем *-ур-*; адносна славац., польск. і балг. гл. Махэк₂ (41, да *bácat* 'біць'), Брукнер (19, да *bach*).

**Набгом** 'прагна, нагнуўшы посуд (піць)' (Касп.) і *нагбом* 'нагінаючы пасудзіну' (Нас., Бяльк., БРС), *піць набгом* 'піць з вялікай пасудзіны, нагнуўшы яе' (барыс., бялын., Янк. Мат., калінк., З нар. сл.), 'хутка, адразу' (Сцяшк.), 'піць не шклянкаю, а з бутэлькі, збана ці іншай пасудзіны, нахіліўшы яе' (Янк. 1), '(піць) нагінаючы пасудзіну або прыгнуўшыся да вады (возера, ручая)' (Гарэц.). Гл. *нагбом* 'тс' (да *нагібáць*), згодна з Карскім (2—3, 75). Выпадкова супала з укр. *нáбгом* 'бітком' (ад *бгáти* 'піхаць'); сюды ж, відаць, і *набгомка* 'невялікая міска' (Жд. 2) (бо ядуць з яе нахіліўшы ?).

**Набдá** 'прыбытак, зыск' (Ласт.), параўн. ст.-бел.: *Да не даси набды от блудніцы*, што цытуе Ластоўскі з Супрасльскага летапісу. Да *нáўда* (гл.); не выключана народна-этымалагічная сувязь з *дбаць* (з метатэзай) або з *надоба* (гл.).

**Набéдры**, *набéдрыкі* 'шлеі, частка збруі' (докш., бабр., Янк. Мат., Янк. 1), 'шоры' (карэл., Янк. Мат.), 'бакавыя раменьчыкі на мордзе каня' (Маслен.), 'рамяні, каб хамут на вушы не падаў' (ТС). Ад *бядро* (бо шляя апаясвае круп каня), значэнне 'шоры', 'частка вузды' ў выніку падабенства па функцыі, параўн. Сцяцко, НЛС; параўн. таксама іншую назву гэтай дэталі — *на-рытнікі* (гл.), корань якой Непакупны (Балто-северно-слав. яз. связи 48) звязвае з літ. *rìetas* 'бядро'.

**Набеёдаваць** 'наваліць звыш меры' (Нас.). Гл. *бяёдаваць, баёдаваць*.

***Нáберажны**, *нáбэрэжны* 'перапалены (аб гаршках)' (Вярэн.). Магчыма, да *бераг* 'край', г. зн. 'з надтрэснутымі краямі' або 'той, які стаяў з краю (пры абпальванні)'.

**Нáбережня** 'папярочнае ўмацаванне паміж капылоў у са-

нях' (рэч., Мат. Гом.). Відаць, да *бéраг* 'край', што адлюстроўвае месца дэталі ў санях.

**Набéраткі** 'набедрыкі, збруя' (Бяльк.), *нáбераткі* 'паўшоры' (маладз., Янк. Мат.), *нáберадкі* 'шляя' (лаг., маладз., Шатал, Сл. ПЗБ). Відаць, дэфармаванае ў выніку дээтымалагізацыі *набéдрыкі* (гл.).

**Нáбердкі** 'набіліцы' (Бяльк.). Ад *бёрда* (г. зн. рамка, у якую ўстаўляецца бёрда), відаць, па мадэлі *нáбілкі* з «праясненнем» унутранай формы, параўн. балг. дыял. *набрдалки, набрѣделки* 'тс', а таксама чэрв. *нáберкі* (Сл. ПЗБ) з выпадзеннем *д* і магчымай ад'ідэацыяй да *браць*.

**Нáбілка** 'рухомая рамка ў кроснах, у якую ўстаўляецца бёрда' (Касп., Воўк.-Лев., Татарк.; ТС), *нáбілкі* (Байк. і Некр.; Шат.; Янк. 1; Тарнацкі, Studia; Гарэц., Бяльк.), *набíлкі* (Др.-Падб., Янк. 1, ТС), *нáбіліца* (ТС), *набíліца* (Касп.), *нáбіліцы* (БРС, Байк. і Некр.; Шат.; докш., Янк. Мат.; полац., Хрэст. дыял.; Воўк.-Лев., Татарк.), *набíліцы* (Янк. 1, Грыг., Маш., Мядзв., Кліх, Бір. Дзярж., Др.-Падб., Тарнацкі, Studia; ТС; Бяльк.), *набылíца* (Дразд.), *нáбелкі* (Бяльк.). Параўн. укр. *нáбілки*, рус. *набúлки* і *нáбелки*. Хутчэй за ўсё ад *біла* (гл.), якое ў розных слав. мовах абазначае ў тым ліку дэталь у кроснах, якая служыць для прыбівання нітак пры тканні, параўн. чэш. *bidlo*, н.-луж. *bidlo* і інш., а таксама *біла, было* 'набіліцы' (в.-дзв., бяроз., Шатал.), тады *набілкі, набіліцы* абазначае тое, што накладваецца, надзяецца на білы, вертыкальныя рухомыя часткі дэталі.

***Набільнік,** *набыльнык* 'пласт сена, які можна ўзяць на вілы' (брэсц., Нар. лекс.). Гл. *навільнік*.

**Нáбільніца** 'дэталь у кроснах' (Сцяшк., пух., З нар. сл.), *набíльніцы* 'рамкі, у якіх замацоўваюцца бёрды' (Тарнацкі, Studia; Сцяц.), *нáбільніцы, нáбыльніцы* (воран., бяроз., Шатал.). Гл. *нáбілка*.

**Набільніцы** *(nabilnicy)* 'пухіры на нагах, апрэласці' (ваўкав., Арх. Федар.). Да *набіваць*, параўн. *набіць мазалі, набой* 'тс' і г. д.

**Набірáнка** 'посцілка (рознакаляровая)' (Мат. Гом.). Ад *набіраць* (гл. *браць* у розных значэннях), у тым ліку і *набіраць у ніт* 'накідаць пражу ў ніт' (ТС), што адлюстроўвае тэхналогію падрыхтоўкі да ткання посцілак названага тыпу.

**Нáбіржына** 'вузкая дошка, што накладваецца на капылы паверх вязаў' (смарг., Шатал.). Відаць, да *бераг* 'край', параўн. іншую назву той жа дэталі — *набережня* (гл.); дэфармацыя і дээтымалагізацыя можа быць звязана з уплывам дзеяслова тыпу літ. *bir̃žyti*, сярод значэнняў якога сустракаецца і 'лупіць, біць, сцябаць', што адпавядала б унутранай



форме іншай назвы гэтай дэталі — *нáплестка* (ад *пляскáць?*), або назоўнікаў тыпу *bir̃žlis* 'бярозавая галінка' ці *béržinė* 'бярозавы дубец', што можна разглядаць як іншую версію паходжання слова, бо першапачаткова названую дэталь у санях маглі рабіць са скручаных бярозавых дубцоў, параўн. *намаразень* (гл.).

**Нáбірка** 'кошычак для збору ягад, звычайна з кары' (докш., Янк. Мат., лунін., Шатал., кіраўск., Нар. сл.), *набíрак* (глуск., бабр., Янк. 1), *набíрок* (палеск., З нар. сл.), *набíрачка* (докш., Янк. Мат.), *набíрушка* (палеск., З нар. сл.); рус. *набúрка, набúрок, набúрушка*. Ад *набірáць, браць*.

**Набíрычыць** 'насварыцца' (мінск., Песні сямі вёсак). Параўн. *абíрычыць* 'абстрыгчы, абабраць, абрэзаць', што, відаць, да *бíрыч* 'зборшчык дані', адкуль і адпаведная «адмоўная» семантыка (прымус, сварка і да т. п.).

**Набíты** 'вопытны' (БРС, Нас., ТС), параўн. *набіты дурань* 'закончаны дурань' (Байк. і Некр., полац., Нар. лекс.). Да *біць: набіць вока* 'навучыцца нешта добра адрозніваць' і пад., параўн. таксама чэш. мар. *nabíjena šelma* — пра чалавека «з вопытам», часта бітага і інш.

**Набíўка** *(nabiŭka)* 'прыстасаванне для ткання паясоў' (ваўкав., Арх. Федар.), укр. гуцульск. *нáбівка* 'набіліцы'. Ад *набівáць* 'прыбіваць ніткі', *біць* (гл.).

**Набíць** 'накалоць (дроў)' (мядз., Нар. сл.). Ад *біць* 'калоць (дровы)', параўн. тэрытарыяльнае размеркаванне *біцца* і *калоцца* 'бароцца (пра карову)'.

**Набічкавáць** *(nabiczkawać)* 'напоўніць, наладаваць' (ваўкав., Арх. Федар.). Гл. *бічкавáць*.

**Наблажы́ць** 'нарабіць глупства' (Нас.). Да *блажыць, благі* 'кепскі, дрэнны', параўн. з супрацьлеглым значэннем укр. *наблажúти* 'прынесці дабро' (ад *блáго* 'дабро').

**Наблíжай** 'бліжэй', 'прыстойней, лепш' (Нас.). Утворана пры дапамозе прэфікса *на-*, які мае градуальнае лексічнае значэнне ў адрозненне ад граматычных сродкаў выражэння градуальнасці (г. зн. ступеняў параўнання). Гл. *на*₁.

**Наблíскáць** 'напырскаць, нападаць' (ст.-дар., Нар. сл.). Гл. *бліскаць* 'пырскаць'.

**Наблýтаць** 'напутаць, наблытаць' (Шат., Др.-Падб.). Гл. *блýтаць, блы́таць*.

**Наблышы́ць** 'награзіцца' (Касп.). Гл. *блышы́ць*.

**Набо** 'добра што': *Я люблю черную Гапочку, хоць ена маленька//Набо ена черненька* (мазыр., Шн. 3). Гл. *нáба*.

**Набожнік** 'вышыты рушнік, які вешалі на абразы' (Касп., Сцяшк., Др.-Падб., Дэмб. 1; бых., Янк. Мат., Гарэц.; круп., Нар. сл., Бяльк.), укр. чарн. *набóжнік* 'тс'. Да *багí* 'абразы',

хутчэй за ўсё ў выніку сцяжэння *набожны рушнік* або па прадуктыўнай мадэлі, параўн. *нарожнік, налобнік, нарукáўнік* і пад.

**Набожны** 'набожны, веруючы, рэлігійны' (Нас., Гарэц., ТСБМ), укр. *набóжний* 'тс', рус. *набóжный*, польск. *nabożny*, чэш., славац. *nábožný*, в.-, н.-луж. *nabożny*, славен. *nabožen*, балг. *набóжен*, макед. *набожен*; параўн. таксама *набожнасць* (Байк. і Некр.). Да *бог* (гл.), літаральна 'хто ўскладае надзеі на бога'; крыніцай слова ў славянскіх мовах лічыцца чэшская (са спалучэння *na bozě*, Махэк$_2$, 75), адкуль яно трапіла ў польскую, лужыцкія, славенскую і інш., а праз польскую — да ўсх. славян, адкуль, верагодна, у балгарскую і македонскую (Брукнер, 34; Шустар-Шэўц, 13, 978; Кохман, Stosunki, 90—92; Вінаградаў, Этимология-1965, 161 і інш.). Гл. *нáбажны*.

**Набой$_1$** 'зарад' (Касп., Шат., Байк. і Некр., Яруш., Гарэц., БРС, ТС), укр. *набíй* 'тс', рус. *набóй* 'тс', польск. *nabój* 'тс', чэш. *náboj*, славен. *naboj* 'зарад, патрон'. Ад *набіць, набівáць* (стрэльбу) 'заражаць', што адлюстроўвае старажытны спосаб зарадкі праз ствол. Магчыма, праз польскую з чэшскай, паралельна да славен. *naboj*, якое, паводле Бязлая (2, 210), запазычана з чэш. *náboj* (<*na-biti*), бо толькі ў чэшскай адначасова значыць 'кулак', што блізка да ням. *Nabe*, тады збліжэнне з **biti* другаснае. Гл. Махэк$_2$, 387; Брукнер, 35.

**Набой$_2$** 'мазоль, бітае месца' (Сцяшк.), 'болька на падэшве нагі, узнікае ад непрывычкі хадзіць босымі нагамі' (Сцяц.), *набᵘой* (*nabᵤoj*) 'пухір на пяце' (Арх. Федар.), рус. *набой* 'набітае месца, жаўлак'; няясна, ці звязана з укр. *набій* 'вусень насякомага Arctia' (Грынч.), параўн. шматлікія выпадкі супадзення назваў розных болек і вусеней: *вусеніца* 'нарыў паміж капыта ў каровы' і 'вусень' (ТС), славац. *liška* 'лішай' і 'вусень, матылёк', што, як паказаў Важны (O jménech, 106 і наст.), звязана з уяўленнямі пра насякомых як разносчыкаў хвароб. Ад *набівáць*, параўн.: *Набіў ботам мазоль* (Сл. ПЗБ). Серб.-харв. *набој* 'нарыў на ступні, у якой засталася калючка', балг. *нáбой* 'балячка, скула, пухліна ад пацёртасці', магчыма, дае падставы для рэканструкцыі адпаведнай праслав. лексемы.

**Набой$_3$** 'след на дарозе, выезджаны санямі' (Арх. Федар.), 'высокі пласт снегу на дарозе, які перашкаджае яздзе' (Кліх), 'тупкая частка зімняй дарогі' (Сцяц., ТС), 'наезджаная частка зімняй дарогі' (в.-дзв., Шатал.), 'астаткі саннага шляху' (столін., Яшк.), укр. *набій* 'утаптаная снежная дарога, сляды саней на ёй', рус. *набóй* 'тс'. Ад *набівáць, біць, бітая* (дарога).

**Набой$_4$** 'набойка, прылада набіваць абручы на бочку'



(Бяльк.), *набойка* 'тс' (гродз., Нар. сл.; ТС). Ад *набівáць, біць*.

**Набольш** 'найбольш, больш за ўсё' (Нас., ТС), *нáбаля, наболі* 'тс' (Рам. 1, 4), ст.-бел. *наболшᵘи* (XVI ст.). Паводле Карскага (1, 231), у апошнім слове можна бачыць пропуск *й*, але верагодней гэта форма з прэфіксам *на-*. Гл. *на$_1$*.

**Набор$_1$** 'неабходны матэрыял, каб пашыць боты' (в.-дзв., Шатал., Жд. 2). Ад устар. *набірáць* 'купляць матэрыял (у магазіне ў адрозненне ад выабленага самім)'.

**Набор$_2$** 'каменне (у печцы, лазні)' (рагач., Мат. Гом.). Магчыма, ад *набрáць* 'назбіраць (у кучу)'. Гл. *браць*.

**Наборкі** 'посцілкі з узорамі' (брасл., Сл. ПЗБ). Гл. *набірáнка*.

***Наборсавацца**, *наборсуватысь* 'наесціся, нахлябацца' (кам., Сл. ПЗБ). Відаць, да *борсаць, бэ́рсаць* 'блытаць' або *барсáць* 'працягваць аборы ў лапці; кідаць' (гл.) з характэрным для экспрэсіўных утварэнняў пераходам ад канкрэтнай семантыкі да 'есці', параўн. *нарэ́зацца, налупіцца, набрáцца* і пад.

**Набоўкнуць** 'набрацца вадой' (Юрч. Фр. 1), 'нахмурыцца, набрацца хмарам' (Бяльк.). Відаць, утворана ад гукапераймальнага *боўк*, што перадае гук падзення ў ваду, параўн. каранёвыя часткі ў *набýхнуць, набрáкнуць* і інш., што ўласціва такога тыпу ўтварэнням. Гл. SP, 1, 349 і інш.

**Набохаць** 'наліць' (Жд. 2), рус. *набóхаться* 'наесціся, напіцца'. Гл. *бохаць, бох*.

**Набрáдзены** «набранный слишком много» (Нас.). Відаць, ад *набраць*, параўн. *напіцены* 'напіты', азванчэнне *ц*, магчыма, звязана з экспрэсіўнасцю слова або пад уплывам іншых слоў (*накрадзены, наедзены* і пад.).

**Набрáжыцца** 'празмерна напіцца, нахлябтацца' (ТС). Да *брáга* (гл.), параўн. фразеалагічны выраз: *набрáцца, як свіня́ брагі* 'тс' (гродз., Цых.).

**Набрáзнік** 'рушнік, які вешаюць на абразы' (Касп.). З **наабрáзнік* (<*на абразы*), як *надзежнік, набожнік* (гл.), з наступным сцяжэннем галосных на стыку марфем, параўн. *набражнік* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Набракáць**, *набрáкнуць* 'набухаць; раздувацца, намакаць' (БРС, Байк. і Некр., Нас.), 'набухнуць' (Касп., Гарэц.), *набрáкці* 'тс' (Шат.), *ныбрікáць* 'набірацца вільгаці', *ныбря́кнуць* (Бяльк.), *набрýківаць* 'намакаць, набірацца вільгаці' (Нас.), *набрáклы* (Байк. і Некр., Шат., Нас., Гарэц.), *набрáкшае, набрáклае насенне* 'намочанае, але не праросшае насенне' (Жд. 1), укр. *набрякáти, набря́клий*, рус. *набрякáть* 'апухаць', *набря́кнуть*, польск. *nabrzękać, nabrzęknąć* 'набухаць,

апухнуць', славен. *nabrękati, nabręknìti,* 'ацякаць, наліваццa', серб.-харв. *набрекѝвати, набрèкнути* 'набухаць, уздувацца', макед. *набрекнува, набрекне* 'набухаць, пухнуць'. Аснова **bręk-* звычайна ў прыставачных утварэннях, што дае падставу для рэканструкцыі прасл. дзеяслова, гл. *бра́кнуць*, згодна з Бернекерам, анаматапеічнага паходжання (Бернекер, 1, 84); звязваюць з літ. *brę̃sti* 'ўзмацніць, напрэгчы' (Фрэнкель, 53). Гл. таксама Бязлай, 2, 210; ЕСУМ, 1, 273; БЕР, 1, 76—77; ЭССЯ, 3, 23.

**Набра́нка**₁ 'вымова, прачуханка' (Нас., Байк. і Некр.). Відаць, ад рус. *набранѝть* 'насварыцца'.

**Набра́нка**₂ *(ныбря́нка)* 'сукенка з куплёнага (набранага) тавару' (Бяльк.). Ад *набра́ць* 'купіць'.

**На́браўкі** 'мяшкі пад вачамі' (жлобін., Нар. сл.). Хутчэй за ўсё ад *набра́ць* 'зрабіць складкамі, маршчынамі', параўн. славен. *nabrati* 'сабраць складкамі', *nabran* 'у зборкі, маршчыністы'; *ў<л* у выніку дээтымалагізацыі (*-л-* у аснове ў такіх умовах звычайна захоўваецца, параўн. *бра́лка* 'прылада для збірання чарніц', *насі́лкі* і г. д.). Менш верагодна ўтварэнне ад *набрака́ць* 'набухаць', што выклікае пэўныя фанетычныя цяжкасці (устаўное *ў*?).

**Набрачок** 'світанак' (Касп.). Ад *броск* 'світанне', першапачаткова хутчэй за ўсё прыслоўнае словазлучэнне тыпу *на броску* 'на світанку'. Гл. *браск*.

**Наброд** 'валацуга, заходжы падазронага выгляду' (Бяльк.), 'зброд': *Наброд карова, глядзі і ня ўледзіш* (Юрч. Фр. 3: 'шкадлівая'), *наброды* 'прыезджы чалавек, сям'я' (мсцісл., Янк. 1), *набродны* 'прыблудны' (рэчыц., Нар. сл.), рус. *набро́д* 'навалач'. Ад *набрысці́, брысці́* (гл.).

**Наброзгнуць** 'набруснець' (ТС). Гл. *брозгнуць, брозкі*.

**Наброіць** 'нагарэзнічаць' (Нас., Гарэц.), укр. *набро́їти* 'навытвараць, нарабіць глупстваў'. Гл. *броіць*.

**Наброхацца** *(набрёхацца)* 'напіцца' (мсцісл., З нар. сл., Юрч. Фр. 1), рус. *набрёхаться* 'наесціся, напіцца'. Гл. *брохаць*.

**Набру́знуць,** *набру́зці* 'набрацца вільгаці', 'апухнуць' (Нас.), 'намокнуць, насыціцца вільгаццю', *набрузлы* 'прамоклы' (Байк. і Некр.). Гл. *бру́знуць, бру́злы*.

**Набруня́ць** 'набракнуць' (ТС), *набруня́ўшае* 'набраклае (намочанае, але не прарасшае)' (Жд. 1), укр. *набрунѝтися* 'распускацца (пра дрэва)'. Гл. *бруня́ць, бру́нька*.

**Набрусава́ць** 'натачыць', 'абчасаць' (Нас., Байк. і Некр.). Гл. *брусава́ць*.

**Набры́днуць** 'надакучыць, абрыднуць' (Бяльк., Сцяшк.), *набры́даць* 'моцна надаесці' (Шат.), укр. *набрида́ти* 'тс', рус. *набри́днуть* 'тс'. Гл. *бры́днуць, брыда́*.



**На́брыдзь** 'валацуга' (Бяльк.), 'чужыя людзі, непрыемныя для мясцовых жыхароў перасяленцы' (бялын., Нар. сл.), укр. *на́брід* 'навалач'. Ад *набрысці́*. Гл. *брысці́*.

**Набры́нуць** 'набрысці, трапіць' (ТС). Відаць, кантамінацыя: *набрысці́×нары́нуць* 'натрапіць' (гл.).

**Набры́цца** 'натрапіць': *набры́йся на грыбы* (паст., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі: *набрысці́×нарыцца* 'натрапіць, напароцца' (гл.).

**Набрыня́ць** 'набухаць' (Касп.), 'набухнуць ад вільгаці' (Шат., Сцяшк., Чач.). Гл. *брыня́ць*.

**Набрэ́нкнуць** 'набрыняць (вадою)' (Сцяц.). Запазычана з польск. *nabrzęknąć* 'тс' з субстытуцыяй *rz>р*, спрадвечная форма *набра́кнуць*.

**Набу́бнець** 'набухнуць' (браг., З нар. сл.), *набубні́цца* 'набрыняць (пра пупышкі)' (в.-дзв., Нар. сл.), *набубе́ніцца* 'наесціся' (полац., Нар. лекс.), укр. *набубні́ти* 'набухнуць (пра зерне), надуць (жывот)', балг. *набъ́бна* 'набухнуць, распухнуць', макед. *набабне* 'тс', в.-луж. *nabubnić* 'набухнуць, уздуцца'. Ад *бу́бнець*, прасл. *bǫbъnąti* 'пухнуць, набухаць'.

**Набу́гліцца** 'напрацавацца' (полац., Нар. лекс.). Няясна, магчыма, ад незафіксаванага **бу́гліцца*.

**Набугорываць** 'навальваць многа, накладваць', *набугораны* «наваленный подобно бугру» (Нас.), параўн. рус. *набугри́ться* 'ўздуцца гарбом'. Ад *бугор* (гл.).

**Набудава́ць** 'набраць, накласці поўную пасудзіну' (ушацк., Нар. лекс.), *набудава́цца* 'наесціся' (полац., Нар. лекс.). Хутчэй за ўсё ад *бутава́ць* 'напіхваць' з ад'ідэацыяй да *будава́ць* ці ў выніку азванчэння *т* у інтэрвакальным становішчы.

**Набу́ніцца** 'ўздуцца, набухнуць' (ТС). Бясспрэчна, звязана з *бу́нька* 'бурбалка', *буня́к* 'пухір на целе' (гл.).

**Набу́хаць** 'наліць празмерна' (Арх. Федар.), укр. *набу́хати* 'тс', рус. *набу́хать* 'тс'. Ад *бу́хаць* 'ліць'.

**На́буць** 'мабыць' (ТС). Гл. *ма́быць*.

**На-бы́кі**=рус. *на нет* (Мядзв.). Няясна. Магчыма, *на бакі* 'ўбок' ад *бок* (фанетычна *на бъкі*), як адхіленне ад нармальнага шляху; аднак параўн. польск. *na psy pójść* сапсавацца', што дапускае існаванне падобнай мадэлі і ў беларускай мове, але сувязь з *бык* застаецца неабгрунтаванай.

**Набэ́дрыкі** 'збруя' (Байк. і Некр., Бяльк.), 'частка збруі' (карэл., Янк. Мат.). Гл. *набе́дрыкі* 'тс'; цяжка вытлумачыць спалучэнне *бэ*, што, магчыма, звязана з дээтымалагізацыяй слова і ўспрыняццем яго як запазычанага, але польск. *nabiedrznik* 'тс'. Можна дапусціць таксама ўкраінскае пасрэдніцтва, параўн. палеск. *набе́дрыки* 'тс' (Лысенка, СПГ).

**Набякрэ́нь** 'набок, набакір' (Сцяшк.). Магчыма, запазы-

чана з рус. *набекрéнь*, дзе лічыцца зрашчэннем прыназоўніка *на* са склонавай формай назоўніка *бекрень* 'бок', гл. КЭСРЯ, 280.

***Нáвад**, *нáвод* 'вышыўка' (ТС). Ад *водзíць* 'вышываць' (ТС), што, відаць, адлюстроўвае спецыфічны спосаб вышыўкі, параўн. *водзіць водзікі* 'тс' («Водзікі водзілі на сороццы»); параўн., аднак, балг. дыял. *нáвод* 'працягванне нітак асновы праз берда і нічальніцы для ткання', *навóтки* 'тканне ў некалькі нічальніц («у фігуры»)', *нъвóтки* 'тонкае палатно з узорамі па ім', чэш. *návod* 'спосаб пратыкання, працягвання нітак асновы праз берда', што ўтвораны ад праслав. **navesti, navedǫ*, якое ў шэрагу слав. моў ужываецца і ў якасці ткацкага тэрміна (Герай-Шыманьска, БЕ, 31, 1, 48—49).

**Нáвадзень** *(нáва дзень)* 'бохан хлеба' (Грыг.), *навадзянь* 'тс' (Пал.). Укр. чарніг. *нáводзень* 'бохан, вялікі жытні хлеб'. Карскі (2—3, 99) лічыць чарніг. *новодзень* 'усякі цэлы (непачаты) хлеб' складаным словам тыпу *вялікдзень* і пад., аднак семантыка яго застаецца нявытлумачанай. Можна бачыць у ім табуізаваную назву або эўфемізм, параўн. *naujìnis, naũjas* 'новы' як назва баравіка ў літоўскіх дыялектах, гл. Атрэмбскі, Gramatyka, II, 193, што пацвярджаецца таксама забаронай рэзаць хлеб да заходу сонца, параўн.: *Нельга было почынаць бóхона увéчэры нáноч* (ТС). Страхаў сведчыць пра рытуальнае дзяленне хлеба на Палессі: «...бралі буханку і ішлі на двор, станавіліся там, дзе зайшло сонца, і пачыналі рэзаць. Лусту адрэжа гаспадар і вяртаецца ў хату» (Полесье и этногенез славян. М., 1983, 99). Магія цэлага, непачатага адлюстравалася і ў паняцці *новы*, параўн. ст.-рус. *новый* 'іншы; яшчэ адзін', што павінна было забяспечыць працяг дастатку і ў будучым; параўн. таксама выкарыстанне таго ж паняцця ў гадавым сялянскім цыкле: чэш. мар. *prednov(ok)*, славац. *dônovok, dônovie* 'час перад жнівом, як правіла, непасрэдна перад жаданым «новым» хлебам, калі трэба вытрымаць «да новага» хлеба'. З фармальнага боку другая частка слова можа быць узведзена да **děti* 'рабіць', параўн. польск. дыял. *dziono, dzienie, dzień* 'выраб' і рус. пск. *борть новодетъ, борть стародетъ* 'дрэвы з новымі і старымі борцямі', *новодѣль* 'новая борць' і пад.; у такім выпадку першапачатковае значэнне слова можна ўзнавіць як 'новапачаты'.

**Наважáць**₁ 'прывязаць, прыжывіць' (Сцяшк.). Калі гэта не фанетычным шляхам зменена *навязáць* 'прывязаць', то можа быць супастаўлена з укр. *навáжити*, адно са значэнняў якога 'навучыць, прывучыць', тады ўсё да **vaditi*, гл. *вадзіць*. Другая магчымасць — да *вáжыць* (гл.), параўн. *навáжваць* 'прыцісkаць' (лунін., Шатал.).



**Наважáць**₂, *naważać(i)* 'наведваць' (Федар.). Відаць, ітэратыў ад **voziti*, параўн. дакладную паралель серб.-харв. *navážati*, суадноснае з *navóziti* 'навазіць' (RHSJ); меркаванні Лаўчутэ (Литуанизмы, 43) аб запазычанні бел. *-важаць* з літ. *važiúoti* 'ехаць' у святле названай паралелі здаюцца неперакальнымі. Параўн. *навяжоны, навяжáць* (гл.).

**Наваждоліць** 'намазаць што-н., больш чым трэба' (віл., Нар. сл.). Гл. *важджоліць, вазголіць*.

**Навазголіваць** 'намазваць, замазваць' (Юрч.). Гл. *вазголіць*.

**Навазёкацца** 'наваждацца, набрацца клопату з чым-н.' (Нас.). Да *вазíцца* 'важдацца' з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. *мазюкаць* (ад *мáзаць*) і пад.

**Навазю́рыць** 'разліць, размазаць' (Жд. 2). Гл. *вазю́рыць*.

**Навáла** 'стыхія, напасць' (БРС, Байк. і Некр.), 'напасць, нападзенне' (Касп.), 'бяда, гора' (Сцяшк.), 'прымус, непрыемная прэтэнзія, патрабаванне; нападзенне; бура' (Др.-Падб., Гарэц.), 'націск' (Яруш.), польск. *nawała* 'націск, вялізны наплыў; стыхія', 'навальніца', 'прымус'. Да **valъ, valiti*, параўн. *валíць вáлам* 'ісці вялікай масай, натоўпам'.

**Навалаводзіць** 'навадзіць, навазіцца' (Шат.). Гл. *валаводзіць*.

**Нáвалак** 'паверх' (Гарэц.). Паводле Гарэцкага, «слова рэдкае і старое»; вядома на ўсходзе беларускай моўнай тэрыторыі, параўн. смал. *нáвалыкъ* 'тс' (Мат. Смал.). Да *валачы́ць, валакý*, што адпавядала спосабу пабудовы, параўн. *сволак* 'кладзь, якая служыла апорай страхі на сохах', рус. дыял. *наволокъ* 'заліўны луг з навалочанай вадою глебай', палеск. *настáва* 'паверх' і інш.

**Нáвалач** 'зброд' (БРС), 'дрэнны, шкодны чужы чалавек' (Сцяшк.), 'чужыя людзі, перасяленцы' (стаўбц., З нар. сл.). Укр. *нáволоч* 'зброд'. Хутчэй за ўсё шляхам адваротнай дэрывацыі ад *навалачы́цца* 'напрыходзіць, назбірацца', што ў сваю чаргу ад *валачы́цца* 'цягацца'.

**Нáвалка** 'чахол на падушку' (БРС, Сцяшк., Бяльк.), рус. *нáволока* 'тс'. Беларуская форма з *нáвалака* 'тс', відаць, успрынятая як звычайная форма пры памянш. *нáвалачка;* гл. наст. слова.

**Навалочка** 'мяшок' карэл. (Шатал.), *нáвалачка* 'навалка' (БРС, Сцяшк.), *нáвылычка* 'памянш. ад *нáвылка*' (Бяльк.), рус. *нáволочка* 'навалка', польск. дыял. *nawleczka, nawłoczka* 'тс'. Ад *навалачы́ць* 'надзець, накрыць', параўн. *навалока* 'бурка, доўгае адзенне з саматканага сукна' (Сцяшк. Сл.).

**Навáльнік** 'гульня ў хованкі' (ваўкав., Сцяшк. Сл.). Няясна. Калі гэта не памылка ў запісах (**хавальнік?*), то хутчэй за

ўсё звязана з дзеясловам *навалíцца* 'напасці, накінуцца', аднак сувязь цяжка вытлумачыць характарам гульні.

**Навальнíца** 'рус. гроза' (БРС, Касп., Бяльк., Кліх, Сцяшк., Яруш., Байк. і Некр.), 'бура, ураган; наплыў, вялікая маса, тлум' (Гарэц., Др.-Падб.), польск. крак. *nawalnica* 'вялікі, раптоўны, моцны дождж', паўн.-зах. *nawalnica, nawałnica* 'бура з градам, моцным ветрам і праліўным дажджом', усх. 'дажджавая хмара', славін.-кашуб. *nωvωlńica* 'бура'. Беларуска-польская інавацыя, утвораная хутчэй за ўсё незалежна на абедзвюх тэрыторыях са спалучэння тыпу *навальны дождж (nawalny deszcz)* 'тс', што ў сваю чаргу да *навала (nawała)* 'стыхія'; 'бура', *валíць* 'ісці' (пра ападкі) і пад., гл. Цыхун, Бел.-польск. ізал.,145—146.

**Нáвар** 'двор для скаціны' (Бяльк.). Да *вор* 'загарадка, агароджа', утворана хутчэй за ўсё з першапачатковага прыназоўнага словазлучэння *на вор*, гл. у Бялькевіча *навыр* 'пад карову, даіць карову (і на двор)'. Паралельна да *надворак* 'двор', параўн. *ворак* 'двор для скаціны'.

**Нáварат** 'бервяно ў зрубе, над прасценкамі, над вокнамі і над дзвярамі' (брагін., Шатал.), 'тс' і 'верхні вушак у дзвярах' (жытк., Нар. сл.), *нáваратня* 'бервяно, якое кладзецца над вокнамі і дзвярыма' (цэнтр.-палеск.), *нáворотні* 'бярвенні з выдзяўбанымі паглыбленнямі, у якія ставяць кроквы' (пінск., Нар. лекс.), *нáварацень* 'бервяно, якое кладзецца на куравіцы і на якім умацоўваецца вясло (на плыце)' (падзвін., Нар. сл.). Мяркуючы па семантыцы, найбольш верагодна ад *вароты* 'праём, прастора паміж дзвюма вертыкальнымі апорамі', тады *нáварат* і пад. 'тое, што перакрывае такі праём'; менш верагодна ад *навярнýць* 'накаціць', *варочаць* 'куляць, варочаць', хаця не выключана, што для плытагонскага тэрміна гэта зусім магчыма.

**Навáрка** 'прыбытак' (мсцісл., Юрч. СНС), сюды ж, відаць, і 'адзін з прыёмаў кідання скручаным ланцужком пры гульні ў *шашкі*(=бабкі)' (гродз., Нар. сл.). Да *вары́ць*, параўн. жарг. навагр. *навáр* 'прыбытак', першапачаткова 'тое, што застаецца таму, хто варыць'.

**Навáркі** 'ільснівыя плямы, пералівы': *«Конь гладкі, аж навáркі ходзяць по ём»* (ТС, 3, 112). Разам з *навáр* 'тлушч, які ўсплывае наверх пры варцы стравы', да *вары́ць*.

**Нáварня** 'бервяно, якое кладзецца над вокнамі і дзвярыма' (столін., Нар. сл.). Хутчэй за ўсё з *нáваратня* 'тс' (гл.), аднак не выключана, што гэта самастойнае ўтварэнне ад кораня *вор-*, прасл. *ver-/vor-* са значэннем 'замыкаць, закрываць'; зыходным, магчыма, быў прыметнік тыпу **наворны*, параўн. *наворысты* 'пахілы', г. зн. 'накрываючы, закрываючы, замыкаючы', што адпавядае прызначэнню рэаліі.

**Навароніць** 'многа наліць' (Грыг.), *нываропіць* 'накласці шмат [наварочаць]' (Бяльк.). Параўнанне са ст.-рус. *наворопъ* 'налёт, нападзенне, абрабленне', польск. *nawropieć* 'бурчаць, гневацца', макед. *наврапито* 'паспешна, абы-як' дае падставы для рэканструкцыі прасл. **na-vorpiti* са значэннем 'зрабіць нешта раптоўна, хутка, абы-як'. Гл. *варапай, ворап* (і асабліва лац. паралель *repens, -ntis* 'раптоўны, нечаканы', Фасмер, 1, 354), параўн. макед. *врапит* 'праворны, шустры' і інш.

**Наварот** 'вяртанне, зварот' (Др.-Падб.), *наворот* 'заход': *«Ужэ другім наворотом грыбы несуць»* (ТС, 3, 115); *нáваратам* 'у першы, другі, трэці прыём' (Некр.). Калі першае слова з пэўнымі падставамі можна разглядаць як фанетычна адаптаваны паланізм, параўн. польск. *nawrót* (гл. Вячорка, БЛ, 30, 1986, 51), то астатнія несумненна ўяўляюць мясцовыя ўтварэнні ад *варочаць, варочацца*, вядомыя і іншым славянскім мовам. Параўн. *наварачацца* 'заходзіць час ад часу' (Мат. Гом.), серб.-харв. *нáврат: у више наврата* 'шматразова' і пад.

**Нáват**, часціца і злучнік, *нáвет* (пух., 3 нар. сл., ТС), *нáвэт* (Мал.), *нáвыт* (Бяльк.), *нáвіт* (маладз., Янк. Мат.), *нáвець* (ТС), *нáвэцца* (пінск., Нар. лекс.). Разам з укр. *нáвет, нáвіт, нáвіть* запазычана з польск. *nawet* (Карскі, 1, 337), першапачаткова *na wet*, дзе *wet* значыла 'заканчэнне справы', а з XVI ст. 'апошняе блюда на стале' (Брукнер, 607; ESSJ SG, 2, 441); формы з *-ц-*, магчыма, у выніку ўплыву канчаткаў інфінітыву.

**Наватáжыць** *(наватáжытсь)* 'нагрузіць, загрузіць' (Шпіл.). Відаць, нельга разглядаць асобна ад укр. *навантáжити* 'наўючыць, нагрузіць', якое звязваюць з *вантáж* 'цяжар, груз', што ў сваю чаргу з франц. *avantager* 'садзейнічаць; павялічваць долю' або з *ватáга* 'атрад, натоўп; чарада'. Беларускае слова, магчыма, сведчыць на карысць другой версіі. Гл. ЕСУМ, 1, 329. Параўн. *вантáжыцца*.

**Навéдаць** 'зайсці, адведаць' (ТСБМ, Сцяшк.), *навéдываць* 'адведваць', *навéдчык* 'наведвальнік' (Бяльк.). Рус. дыял. *наведать*, укр. *навíдати*, польск. *nawiedzić, nawiedzać*, ц.-слав. *навѣждати* да **vĕdati* 'знаць, ведаць', гістарычна звязанага з **viděti* 'бачыць', што часам знаходзіць адлюстраванне і ў збліжэнні сучасных форм, параўн. *навíды* 'наведванне парадзіхі' (віц., Падлужны, вусн. паведамл.), рус. дыял. *нáведы* 'зачын, зачацце' і інш.

**Навéй** 'хвароба ў выніку чараў' (Машынскі, Kultura, II, 1, 180), 'падвей шыракалісты' (міёр., Жыв. сл.). Ад *навéяць*

'нанесці ветрам', параўн. палес. *щоб щось не навіяло* — засцерагальная формула ў адносінах да наванароджанага і парадзіхі (Полесский этнолингвистический сб. М., 1983, 38); назва расліны ў выніку пераносу назвы хваробы на сродак лячэння, параўн.: *Навеім вушы заклъдаюць, яг гълъва баліць* (Жыв. сл., 203). Параўн. *падвей* 'тс'.

**На́вертам** 'мімаходам, між іншым' (Гарэц.). Параўн. укр. *на́вертом* 'мімаходам (зайсці), у першы раз', што ад *верта́тися* 'заходзіць, заязджаць'. Да *вярта́ць, вярта́цца*.

**Наве́ц** 'мярцвяк, нябожчык': *не чалавек нават — як бы жывы навец* (Васючэнка, зб. Тутэйшыя. Мн., 1989, 161). Адсутнасць дакладнай дыялектнай лакалізацыі слова, што ўзыходзіць да прасл. **навь*, ц.-слав. *навь* 'мярцвяк' і пад., не выключае яго запазычанне з іншых, не народных крыніц ці штучнае ўтварэнне. Параўн., аднак, *на́ўскі* (гл.).

**Навод**1 'навучэнне, падвучванне' (Бяльк.), ст.-бел. *наводъ* 'настаўленне' (Скарына), укр. *на́від* 'указанне, падвучванне'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *наве́сці* (гл. *весці*), якое яшчэ ў прасл. мела значэнне 'накіраваць, навесці (на што-н.)', параўн. бел. *навесці на дарогу, навесці на думку*, ст.-слав. **навести на пѫть**, польск. *nawieść na dobrą drogę* і інш. (Герай-Шыманьска, БЕ, 31, 1, 49); у сувязі з гэтым беспадстаўна Булыка (Лекс. запазыч., 205, 208) лічыць яго «лексічным чэхізмам» у Скарыны або запазычаннем з польск. мовы.

**Навод**2 'самастрэл на мядзведзя' (Маш.). Ад *наве́сці* (гл. *весці*) 'нацэліць', параўн. *наве́сці стрэльбу на каго-н.* 'прыцэліцца' або 'настроіць наладзіць', параўн. *наве́сці пілу́, касу́* і інш.

**Наводліў** 'наводмаш' (ТСБМ), *навотліў* 'тс' (калінк., З нар. сл.), *наўотліў: «паганымі рукамі рву* [завітку] *наўотліў — направа ці налева, толькі не ўверх»* (хойн., Полес. этнолингвист. сб. М., 1983, 100), *навотляў* 'наводліў, наводмаш' (карэл., Нар. лекс.), *навотляй* (лях., Янк. Мат.), *навотля, наотля* 'наводмаш; наадварот, не так, як трэба; ад сябе' (гродз., Сцяшк. Сл.), *навотля, навотлю* 'наводмаш; на адлегласці' (Сл. ПЗБ). Сюды ж, відаць, *навотвіль, наотвіль* 'наводмаш' (ТС), *навотляг* (стаўбц., Жыв. сл.), *навотлях* (слонім., Нар. лекс.), *na wodlach* 'тс' (Федар. II, 159). Параўн. укр. *наві́длі, наві́длів, наві́дліг, наодлів* 'наводмаш', польск. *naodlew, na odlew* 'з левага боку, левай рукой'. Існуе некалькі версій паходжання названага слова: ад *ле́вы*, параўн. польск. *odlew* 'з левай рукі, левай рукой; перан. махнуўшы рукой ад сябе, адным замахам' (Варш. сл.), такой версіі адносна бел. *навотліў, навотлю* прытрымліваецца Шуба (Прыслоўе, 114), які лічыць іх п付ставачна-суфіксальнымі; або ад *ліць*, як лічыць Брукнер



(289), для польск. слова, г. зн. *на-(в)од-ліў*, як *на-(в)од-маш* (ад *махаць*), *на-(в)од-шыб* (ад *шыбаць*) і г. д. Не выключана, што тут мы маем справу з узаемаўплывам розных па паходжанні слоў, пра што можа сведчыць спецыфічнае для польск. *odlew* значэнне 'ад сябе, праз руку', зафіксаванае ў слоўніку Ольгебранта (у т. зв. Віленскім слоўніку): *lać do szklanki na odlew*, што, відаць, адлюстроўвае праз т. зв. пальшчызну крэсову ўплыў беларускай мовы. У такім выпадку частка аднесеных сюды слоў можа мець іншае паходжанне: *наводлег, навотлях* ад *легчы, ляжаць* (<*на-од-лег*), *навотвіль, наотвіль* ад *віляць* і г. д. Улічваючы магічны сэнс розных кірункаў дзеяння (параўн., напрыклад, адліванне, адкідванне хваробы ў знахарскай практыцы), перш за ўсё з мэтай засцярогі (*«Серпа, косу откідалі от себе, ек грымело»*, ТС, 3, 280), а таксама недапушчальнасць з пункту погляду народнай этыкі наліваць каму-небудзь ад сябе (што павінна сведчыць пра злыя намеры), можна прыняць для *наводліў* другую версію. Параўн. таксама Журэк, JP, 57, 1977, 36—38 (польск. па odlew — пра замах шабляй з левага боку).

**Наводляг** 'наводмаш'. Гл. *наводліў*.

**Наводны** 'пра свойскую жывёліну ці птушку, якая нарадзілася, выведзена дзе-н. у другім месцы; такая жывёліна адбіваецца ад свайго двара, ад чарады' (Янк. 2), 'чужы, прыблудны' (стаўбц., Жыв. сл.; маладз., Янк. Мат.), 'прыведзены (з іншага месца)' (ТС). Відаць, ад *наводзіць* 'асочваць, выяўляць месца знаходжання' (ТС), параўн. *наводзіць куру* 'высочваць, дзе нясецца курыца', што ў сваю чаргу звязана з *наводзіць* 'чараваць, уплываць пры дапамозе чараў': *«Коліся моя невестка наводзіла»* (як згубіцца што) (ТС); пра апошняе больш падрабязна гл. Машынскі, Kultura, II, 1, 343 і інш. Усё да *ве́сці, вяду́* (гл.).

**Навоз**1 'загуменне, дарожка, якая ідзе ўздоўж вёскі па загуменнях, поле за загуменнем' (Хрэст. дыял., 334; Сл. ПЗБ), 'дарожка ў вёсцы па-за будынкамі' (Чуд.), 'вялікі ўчастак поля, на якім размешчана некалькі хутароў' (нясвіж., Яшк.), 'месца за агародамі ўздоўж вёскі' (слуц., Нар. сл.), *навозы* 'ўчастак поля ля вёскі' (карэл., Янк. Мат.), *навозам* 'загуменнем, задамі, сцяжынкай за вёскай' (Жд. 1); відаць, сюды ж *навоз* 'прыстань' (рэч., Яшк.), *навозъ* 'привоз на рынок', якое параўноўваецца з чэш. *návoz* 'звоз, звожванне' (Грыг.); параўн. таксама польск. *nawóz* 'тое, што навозяць для засыпкі калдобін, няроўнасцей'. Улічваючы апісальны выраз *навозная дарога* 'загуменная дарога' (маладз., дзятл., Сл. ПЗБ), можна дапусціць утварэнне шляхам семантычнай кандэнсацыі: *навозная дарога (шлях)*>*навоз*, усё да *везці, вязу*.

**Навоз**₂ 'гной' (асіп., Буз.; ганц., Сл. ПЗБ; гродз., Сцяшк. МГ), *навозны* 'угноены' (Сл. ПЗБ), 'звязаны з вывазкай гною', параўн.: «между С. Иоанном и С. Петром играются на Белоруси *навозныя толоки»* (Фалют., 84). Разам з рус. *навоз* 'гной' да *вазіць, вязу,* гл. Фасмер, 3, 34 («то, что навезено»).

**Навой** 'дэталь у кроснах' (Бяльк., Гарэц., Тарн., Сцяшк. МГ, Сл. ПЗБ, ТС), *навоі* 'частка кроснаў' (Воўк-Лев., Татарк.), *навойка* 'тс' (полац., Нар. сл.; Янк. 1, Мат. Гом., ТС). Укр. *навій,* рус. *навóй,* польск. *nawoj,* чэш. *návoj,* славац. *návoj,* н.-луж. *nawoj* 'тс', серб.-харв. дыял. *нáвој* 'дзве расошкі, на якія кладзецца задняе вараціла пры навіванні асновы'. Да *навіваць, віць,* параўн. *навіць* 'наматаць' (Бяльк.), першапачаткова адносілася, відаць, да задняга вала ў кроснах, пра што сведчыць значэнне серб.-харв. дыялектнай назвы (Машынскі, Kultura, 1, 349), і звязвалася з навіваннем нітак асновы на яго; не выключана, што гэтым словам называлася само навітае прадзіва, пра што можа сведчыць балг. дыял. *навой* 'тонкая звітая вяроўка, якой абвязваюць абмоткі на нагах', перанос назвы на вараціла і іншыя дэталі, якія звычайна маюць праславянскія назвы, праз стадыю 'вал з навітым на яго прадзівам', параўн. докш. *Навой — пяць губак і болей* (Сл. ПЗБ). Адносна чаргавання гл. Шустар-Шэўц, 994.

**Навокал,** таксама *навакол, навокала, навакола* (ТСБМ), *наóколо* 'навокал, кругом' (ТС), укр. *наоколо,* польск. *naokoło,* серб.-харв. *нàоколо,* балг. *наóколо,* мак. *наоколу* — з **na-okolo,* што ў сваю чаргу з прыназоўнікавага спалучэння з він. скл. *o-kolo,* гл. *вакол,* параўн. *наўкрýг* 'тс'. Няправільна сцвярджаецца, што бел. *навóкала* выконвае толькі прыслоўную функцыю (ESSJ SG, 2, 91), параўн. *Навокала агню стаяць і сядзяць людзі...* (Колас). Гл. таксама Шуба, Прыслоўе, 160.

**Навоны,** *навýоны* 'пабочны' (гом., Сержп. Отч., 9). На аснове прыназоўнікавага спалучэння **na vъnъ* 'знадворку, вонкі' (гл. *вон*₁), параўн. балг. *навън* 'тс'.

**Наворашнік** 'шкло ад газавай лямпы' (беласт., «Ніва», 24 чэрв. 1979 г.). Хутчэй за ўсё ад *навірáць* 'насаджваць, насоўваць', параўн. *аўрáць* (гл.), што ў сваю чаргу ўзыходзяць да праславянскага ітэратыўнага дзеяслова **verati/*virati* (гл. Варбат, ОЛА, 1981, 281), параўн. рус. пск., наўг. *вирать, верать* 'соваць, усоўваць', балг. *вра* 'тс' і інш.

**Наворысты** 'пахілены (пра дрэва)' (лельч., Нар. лекс.), 'пахілы, нахілены (пра дрэва)' (ТС). Відаць, належыць да вялікай групы слоў з коранем *-ver-/-vor-,* якія абазначаюць розныя жэрдкі, рычагі, загароды і пад., параўн. палес. *вор* 'плот у дзве ці тры жэрдкі', укр. *ворина* 'калок у частаколе', *завора* 'калок, якім закрываюць вароты', славен. *navor* 'рычаг' і інш., усе да **verati* 'ўсоўваць'. Гл. *вор*₂.



**Наворышча** 'нечаканае (выпадковае) спатканне' (Бяльк.). Ад *наўрацца* 'выпадкова набрысці, нечакана сустрэцца'. Гл. *наўрышча.*

**Навотны** 'незнаёмы' (бераст., Сцяш. Сл.), 'пра жывёлу, якая першы раз пасвіцца ў статку' (мазыр., Жыв. сл.), *новóтны* 'наежджы, прыбытны аднекуль' (ТС), ст.-бел. *новотный* 'новы' (1499 г.), укр. *новітний* 'які нядаўна з'явіўся, новы', польск. *nowotny,* чэш. *novotný,* славац. *novotny,* в.-луж. *novotny* 'тс'. Выказваецца меркаванне аб запазычанні ст.-бел. слова са ст.-польск. *nowotny* (Булыка, Лекс. запазыч., 194), што мае, відаць, пэўныя падставы, паколькі ў бел. мове не зафіксаваны зыходны назоўнік, які шырока прадстаўлены ў зах.-слав. мовах, параўн. польск. *nowota* 'навіна', чэш. *novota* 'тс', в.-луж. *novota* і інш. Гл. *новы.*

**Нáвуж** 'наўскапыта, галопам' (мсцісл., З нар. сл.), *навуш: «бегла навуш»* (Куляшоў), у запісах Шымкевіча *навожъ* «очень быстро, во весь дух» (Грыг.). Няясна, магчыма, звязана з *вужлы, вушлы* 'шпаркі, жвавы, борзды'; калі зыходзіць з *нáвож,* то да *вазіць, везці,* параўн. рус. *науезд уехать, наудёр удрать, наулёт лететь* і г. д.

**Нáвуза,** *нáўза* 'вашчына' (паст., З нар. сл.), 'соты без мёду, вашчына' (слаўг., Нар. сл.), 'аснова для пчаліных сотаў, выробленая штучна' (мядз., Нар. словатв.), 'неператоплены воск', 'рамка для вашчыны ў калодачным вулеі' (Сл. ПЗБ), *навужваць* 'рыхтаваць рамкі для мёду' (Мат. Гом.), *навýзнік, навýжнік* 'невялікі вулей у лесе на дрэве, пастаўлены для лаўлення раёў, што вылецелі са свайго пчальніка' (Гарэц.); параўн. рус. *науза* 'сухія ці пустыя канцы сотаў, падрыхтаваная вашчына без мёду', *науз, наузник* 'невялікі вулей у лесе на дрэве (для лаўлення дзікіх пчол)'. Да *вуза* (гл.), *вязаць;* адносна словаўтварэння параўн. таксама рус. *науз* 'частка конскай збруі', літаральна 'прывязь'; тады семантыка слова тлумачыцца як 'тое, што навязана, начэплена', што адпавядае старажытнаму спосабу натыкання вашчыны на спецыяльныя калочкі ў калодачным вулеі.

**Навýка** (ТСБМ, Яруш., Гарэц.), ст.-бел. *наука* 'навука, сістэма ведаў; вучоба; навучанне; урок, нешта павучальнае; казань, пропаведзь; парада' (Сташайтэне, Абстр. лекс., 65). Укр., рус. *наука,* польск., чэш., славац. *nauka,* в.-луж. *nawuka,* балг., макед. *наука,* серб.-харв. *наука,* славен. *nauk* 'навучанне, вучэнне, урок, прыклад, папярэджанне'. З **na-* і *-uk,* гл. *вучыць* (Фасмер, 3, 49; Махэк₂, 666; спец. адносна ўсходнеславянскага слова гл. Кохман, SOr, 29, 115—120).

**Навулéчка** 'навалачка' (навагр., З нар. сл.). З польск. *nawleczka* 'тс', параўн. *наўлечка;* устаўное *у* з'явілася, відаць, для перадачы характару гучання польскага *w*, якое не ідэнтыфікуецца з бел. *ў, што* сведчыць хутчэй за ўсё аб вусным шляху запазычання слова.

**Навýрзацца** 'наесціся многа' (Грыг.), *навурзгацца* 'тс' (полац., Нар. лекс.). Ад *вýрзаць, вýрзгаць* 'хлябтаць, сёрбаць' (гл.).

**Навурзнá** 'непаваротлівы пузаты чалавек' (полац., Нар. лекс.). Відаць, ад *навýрзацца* 'наесціся многа, насёрбацца' з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. *мазгаўнá* і пад.

**Навурыцца,** *навýрыцца* экспр. 'наесціся' (ушац., полац., Нар. лекс.; мядз., Жд. 2). Ад *вýрыць* 'апетытна есці, гучна сёрбаючы' (гл.).

**Навучыцéлька** 'настаўніца' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Запазычанне з польск. *nauczycielka* 'тс', пра што сведчыць перш за ўсё націск на другім складзе ад канца слова.

**Навучыць** 'навучыць, вывучыць', *навýчка* 'навука, вывучка' (Бяльк.). Да *вучыць* (гл.).

**Навучэнец** 'вучань старшых класаў, слухач сярэдніх навучальных устаноў' (ТСБМ). Наватвор 30-х гадоў для перадачы рус. *учащийся;* упершыню ўведзена ў норму РБС-53 (гл. Лужанін у зб. Слова наша роднае. Мн., 1986, 97), аўтарства прыпісваецца П. Глебку (Маладосць, 1981, 9, 172; Каўрус, Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989, 219). Ад *навучáцца* 'праходзіць курс навучання', што ў сваю чаргу калькуе рус. *обучáться* 'тс', якое належыць да сферы канцылярска-адміністрацыйнай лексікі.

**Навýшнік** 'вуха ў *шапцы-вушанцы*; спецыяльнае прыстасаванне для аховы вушэй ад холаду; прылада, якая надзяваецца на вушы для праслухоўвання гукаперадач і гуказапісаў' (ТСБМ). Усходнеславянскае ўтварэнне ад *вуха (ухо),* параўн. рус. *наушник,* укр. *наушник* 'тс'; падобныя незалежныя ўтварэнні вядомы ў многіх славянскіх мовах, параўн., напрыклад, в.-луж. *nawušnik* 'завушніца' і г. д.

**Навýшніца** 'шапка-вушанка' (акцябр., Мат. Гом.). Відаць, мясцовы наватвор 'шапка, што адзяваецца на вушы, закрывае іх', параўн., аднак, рус. пск. *наýшница* 'тс', што можа сведчыць аб адноснай старажытнасці слова на ўсходнеславянскай тэрыторыі.

**Навушчáць** 'падбухторваць' (калінк., Арх. ГУ). Укр. *нащущáти* 'навучаць, настаўляць; падгаворваць, падбухторваць', рус. *наущáть* 'падбухторваць'; усе са спалучэння *на+устá* (Фасмер, 3, 49), гл. *вустá,* што добра відаць у формах закончанага трывання: ст.-рус. *наустити,* рус. *наустíть* 'угаварыць, падбухторыць', укр. *наустíти* 'падвучыць, падбухторыць', семантычнае развіццё, відаць, ад 'пастаянна мець на вуснах' — 'угаворваць', як у рус. *внушать* 'намаўляць', літаральна 'укладваць у вушы'. Не выключана сувязь з *вуськаць* 'падбухторваць; цкаваць' (Яўс.), якое выводзяць з *вусь, усь* 'вокліч, якім нацкоўваюць сабак' (што ў сваю чаргу з *кусь* 'тс', гл. ЭСБМ, 2, 234) ці рус. *науськать* 'намовіць; паслаць', якое Фасмер (там жа) лічыць расшырэннем з *наустить;* блізкасць беларускага і рускага слоў прымушае не пагадзіцца з апошнім меркаваннем, хутчэй за ўсё гэта другаснае збліжэнне, таксама як і збліжэнне з *навучаць,* што паўплывалі на семантыку слова. Роднаснае літ. *áuščioti* 'балбатаць, шаптаць'~прасл. **ustjati*, гл. Трубачоў, Проспект, 36; Мартынаў, Лекс. Палесся, 14.



**Навыглыд** 'наадварот' (Бяльк.): *а ты ўсё навыглыд дзелыіш.* Няясна. Магчыма, недакладнае тлумачэнне значэння, бо кантэкст дапускае і іншае разуменне слова: 'для выгляду, для блізіру'; тады хутчэй за ўсё з *на+выгляд.*

**Навыдла** 'падобна, накшталт' (Гарэц.), параўн. рус. смал. *наудла* 'тс': *Рыба наудла змеи* (СРНГ). Няясна, другая частка слова вельмі падобна да заканчэння слова *паводле* 'па' (гл.), якое ўтворана пры дапамозе прыназоўніка *па-* і *-водле,* што ўзыходзіць да агульнаслав. *vodle/vodli* (<*-dьl-/-dьlg-*), гл. *доўгі* (ESSJ SG, 2, 203, 265); тады *на+(в)одле* з фанетычнымі пераўтварэннямі, характэрнымі для гаворак усходу Беларусі. Параўн. *навéдлуг.*

**Нáвыр** 'пад карову, даіць карову; на двор': *Ці хадзіла ты, таічка, навыр?* (Бяльк.). Гл. *нáвар.*

**Навырýнку** 'навідавоку' (?): *Тут, у нас, любы чалавек навырунку, відзен увесь* (Масарэнка). Няясна; магчыма, звязана з *навыр* (Бяльк.), якое можа мець значэнне 'на двор'; тады першаснае значэнне 'як на двары' (відаць). Гл. *нáвар.*

**Навытар** 'практыкаванне' (Дуж.-Душ.), *навытарынный* 'навучаны, звычны да справы, набіўшы руку, не навічок', дзеепрым. залежнага стану ад дзеяслова *навытырыць* (Нік. Оч.). Этымалогія няпэўная; паводле Ластоўскага, бел. *навытар* 'навык да выканання чыннасцяў' паходзіць ад *тор* 'шлях, дарога', *торыць* 'праціраць дарогу' (Ласт. 106) і, відаць, звязана з рус. *поднаторéть* 'навучыцца, набіць руку ў якой-небудзь справе', аднак няясным застаецца пачатак слова. Спробы звязаць з *новы,* параўн., напрыклад. чэш. *novotář* 'аматар новага, наватар', славен. *novotorija* 'навіна, новыя парадкі' і пад., ствараюць семантычныя цяжкасці. Мартынаў (вусна) выводзіць з **na-o-tor-*.

**Навышній** 'усявышні' (Юрч. Сін.). Вышэйшая ступень ад прыметніка *вышній,* утвораная пры дапамозе архаічнай пры-

стаўкі *на-* (гл.), сінанімічнай да *най-*, параўн. *набольшый* 'найбольшы' і пад.

**Навэ́длуг,** *наве́длуг, наву́длуг* 'у параўнанні' (Сцяшк. Сл., ТС), *навэ́длух* 'тс' (мядз., Сл. ПЗБ). Мясцовае ўтварэнне на базе польск. *według* 'паводле, у параўнанні' (гл. *вэдлуг)* па тыпу *накшталт* і пад., магчыма, па ўзору архаічнага, захаванага на ўсходзе Беларусі *навы́дла (<на-водле)* (гл.).

**Навю́ткі** 'новенькі' (віц., Мат.). Хутчэй за ўсё запазычана з польск. *nowiutki*, перш за ўсё паводле словаўтваральнага крытэрыю, параўн. Карскі, 2—3, 44.

***Навяжоны,** *навежоны* 'дзіўны, дзівакаваты' (ТС), параўн. укр. *навіжений* 'вар'ят'. Відаць, ад дзеяслова *навяжа́ць* 'наведваць' (Нас.), параўн. палес. *навыж'а́ты* 'развітвацца з нябожчыкам' (драгіч., Клім.), якое, як відаць з ілюстрацыі *(Бабы пошлы покоjника навыж'аты)*, хутчэй мае значэнне 'наведваць', параўн. ст.-бел. *ест хоробою обложною навежоны*, што суадносіцца з дзеясловам *навежати* 'наведваць', адзначаным у пісьмовых помніках з XV ст., які Булыка (Лекс. запазыч., 197) лічыць запазычаннем са ст.-польск. *nawiedzać*. Польск. дыял. *nawiedzony* 'ненармальны чалавек, які знаходзіцца пад уплывам злых духаў, знахар' тлумачыць семантыку беларускага слова (='чалавек, якога наведалі злыя духі, у выніку чаго ён страціў здольнасць нармальна сябе паводзіць'), аднак не дае фармальных падстаў лічыць яго непасрэдным запазычаннем, паколькі ўсходнеславянскі рэфлекс *ж*<**dj* характэрны і для тураўскай гаворкі, параўн. *на́жа* (<**nadja*), *ну́жа* (<**nudja*) і г. д.

**На́вязка** 'нешта навязанае': *навязкі навязваць* (Л. Калюга), 'загавораная шаптухай ніцяная перавязка на балючым месцы' (дзярж., Нар. сл.), ст.-бел. *навязка, навезка, навеска* (1444 г.) 'барыш, прыбытак; штраф' (Гарб.): *за шестеро коней по рублю грошей платити з навезкою*. Да *вязаць*, першапачаткова 'тое, што прывязвалася', у тым ліку пры ўзважванні ці вымярэнні — 'адрэзаная частка, якая прымацоўвалася да цэлага, каб не згубілася; даважка', пазней 'дадатак звыш пэўнай меры', 'прыбытак', 'штраф'; старабеларускі юрыдычны тэрмін Булыка (Лекс. запазыч., 84) лічыць запазычаннем са ст.-польск. *nawiązka* 'тс', што ў святле прыведзеных вышэй меркаванняў патрабуе дадатковай аргументацыі.

**Навя́ліцца** 'навязвацца, нападаць; пападацца' (Нас.), 'унадзіцца, дзейнічаць настойліва і неадступна' (Бяльк.), 'настойліва і ўпарта ажыццяўляць сваё жаданне, сваю думку' (Гарэц.), 'прывязацца да чаго-небудзь раптоўна' (Мядзв.), 'накінуцца на каго-н. з лаянкай, папрокамі' (ушац., Нар. сл.), *навя́лівацца* 'настойваць, настойліва дамагацца' (Гарэц.), 'прыставаць, чапляцца, навязвацца' (Юрч.). Да *вя́ліцца* 'прагна хацець чаго-н.', далейшая этымалогія якога няпэўная (гл.).



**Навяра́піцца** 'напаткацца' (слонім., Сцяшк. Сл.). Сярод магчымых паралелей звяртае на сябе ўвагу ст.-рус. *наворопити* 'напасці' (Сразн.), найбольш блізкае семантычна да названага слова; тады ўсё да **vorpъ*, гл. *варапай, ворапень*, ці з іншым вакалізмам **verpъ*, параўн. *варопаўка* і *вярэпаўка* 'земляная жаба, рапуха'.

**Навярну́ць** 'схіліць, пераканаць; нахіліць, пахіснуць; нагаварыць на каго-н.' (Гарэц.), 'прымусіць' (астрав., Сл. ПЗБ), 'надумацца (сказаць)' (карм., Мат. Гом.), сюды ж *навярну́цца* 'павярнуцца' (мядз., Жыв. сл.), 'адведаць' (круп., «Полымя», 1980, 8, 253). Да *вярну́ць* з развіццём семантыкі 'вярнуць назад', 'прымусіць адступіць' да 'адведаць', 'навалiць', 'схіліць да чаго-н.' і г. д., характэрнай для большасці славянскіх моў, параўн. укр. *навернувся в хату*, польск. *nawrócić grzesznika* (=схіліць да пакаяння), серб.-харв. *навр́нути се* 'зайсці, наведаць' і інш., відаць, адлюстроўвае акрамя шматзначнасці каранёвай марфемы, разгорнутую сінанімію прэфікса *на-*.

**Навярта́ць** 'пагражаць' (чачэр., Мат. Гом.). Няясна, ці звязана з *вярта́ць* 'аддаваць назад'; магчымая сувязь праз аргатычнае *навярну́ць* 'моцна ўдарыць' ці рус. разм. *дать сдачи* 'пабіць'. Гл. таксама *навярну́ць* 'нагаварыць на каго-н.' (Гарэц.).

***Навяшча́ты,** *навышча́тый: навышчатый кошэлік* 'кашэль з накрыўкай, які падвешваўся за спіной' (палес., З нар. сл.). Ад *наве́сіць* 'павесіць, падвесіць', параўн. «згорнутую» назву такога кашаля — *на́выска* (там жа).

**Нага́** 'ніжняя канечнасць' і інш. значэнні. Укр., рус. *нога́*, польск. *noga*, чэш., славац., в.-луж. *noha*, славен. *noga*, серб.-харв. *нòга*, макед. *нога*, балг. дыял. *ногá*. Прасл. **noga*, роднаснае літ. *nãgas* 'пазногаць, кіпець', *nagà* 'капыт', лат. *nags* 'пазногаць, кіпець', ст.-прус. *nage* 'нага' і інш., што сведчыць аб зыходным значэнні 'ногаць, капыт'. Гл. Фасмер, 3, 78; Бязлай, 2, 226; Шустар-Шэўц, 13, 1018.

**Нага́баць,** *нага́баці* 'знайсці, натрапіць' (Федар. 2, 45), *нага́баты нага́баты* 'знайсці, назбіраць' (драг., Жыв. сл.), *нагабаты* 'нагнаць, спасцігнуць' (Клім.), *нага́баті* 'сустрэць' (беласт., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *нагабати (накгабати)* 'прыгнятаць' (1388 г.) Булыка (Лекс. запазыч., 37) лічыць паланізмам, што пры наяўнасці зыходнай формы ў іншых славянскіх мовах цяжка давесці. Значэнне 'прыгнятаць' выводзіцца з 'нападаць' і ўзыходзіць да 'хапаць, браць', характэрна для *габа́ць* (гл.).

**Нагавíцы** 'штаны' (ТСБМ, жлоб., Мат. Гом., Сцяшк. Сл.; слуц., ганц., пруж., беласт., Сл. ПЗБ), 'рукавіцы' (докш., Цыхун, вусн. паведамл.), укр. *ногавиці* 'штаны суконныя', *ногавиця* 'калашына', рус. *ногáвицы, ногавúцы* 'шкарпэткі, гамашы', *ногавúцы* 'частка адзення ці абутку, якая прыкрывае калені і галёнкі', 'рукавіцы без пальцаў, каб рваць каноплі ці лён', польск. *nogawicy* 'штаны', 'панчохі, шкарпэткі', *nogawica* 'калашына', чэш., славац. *nohavice* 'калашына', 'штаны', в.-луж. *nohajcy* 'панчохі', н.-луж. *nogawica* 'штаны', славен. *nogavica* 'панчоха, шкарпэтка', серб.-харв. *нȍгавица* 'калашына', балг. *ногáвици* 'абмоткі з казінай шкуры, якія надзяваюцца пастухамі для аховы ног ад калючак', макед. *ногавица* 'калашына'. Прасл. **nogavica*, вытворнае ад *noga*, паводле Махэка, па ўзору *rǫkavica (<rǫkavъ),* паколькі адсутнічае прыметнік **nogavъ* (Махэк₂, 401); развіццё семантыкі ад першапачатковага 'тое, што надзяваецца на нагу' да 'штаны'; спецыфічнае для ўсходнеславянскіх гаворак значэнне 'рукавіца', відаць, вынік пераносу назвы па функцыі ('тое, што служыць для аховы канечнасцей') — ці не пережытак старога сінкрэтызму назваў, што абазначалі адначасова і верхнія і ніжнія канечнасці, параўн. лат. *nagas* 'рукі і ногі' і інш.? Гл. таксама *ганавíцы.*

***Нагадавáць,** *нагодовáць* 'накарміць': *нагодуй дзіця* (лельч., Нар. лекс.). Ад *гадаваць,* што мае шырокую семантыку, у тым ліку і 'карміць': *ходзем свіньа годоваць* (ТС), параўн. чэш. *hodovati* 'піраваць' і інш.

**Нагадáць** 'напомніць, прыпомніць, успомніць' (ТСБМ). Хутчэй за ўсё запазычана на раннім этапе фарміравання літаратурнай мовы з укр. *нагадáти* 'тс', што ўжываецца і ў народнай мове, паколькі ўплыў суседніх больш развітых літаратурных моў на беларускую ў пэўныя перыяды яе развіцця быў зусім натуральным. Няма падстаў прыпісваць названаму слову «эмігранцкае» паходжанне, як гэта робіць Жураўскі (Беларуская мова і літаратура ў школе, 1988, 2, 14), супрацьпастаўляючы яго народна-дыялектнаму *нагадáць* 'задумаць' (Сл. ПЗБ). Гл. *гадаць.*

**Нáгадле** 'хутка, спяшаючыся' (зэльв., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё ад **нагáльне,* гл. *нагáльны,* у выніку распадабнення і пераступоўкі зычных.

**Нагáй** 'заезд (пры лоўлі рыбы невадам)': *у два нагая ловілі* (ТС). Няясна, магчыма, звязана з назвай цюркскага племені *noγai* ў Крыме; можна выказаць здагадку, што гэта перанос нейкага вайсковага тэрміна (атака коннікаў асобнымі падраздзяленнямі, эскадронамі?) на спосаб рыбнай лоўлі.

**Нагáйка** 'бізун' (ТСБМ; гродз., Сл. ПЗБ). Запазычана з рус. ці ўкр. *нагáйка,* што паходзіць ад назвы цюркскага племені, што жыло ў Крыме і на Каўказе (Фасмер, 3, 35; Брукнер, 354; Махэк₂, 388 і інш.), літаральна 'нагайскі бізун' ('ногайская плётка'), параўн. КЭСРЯ, 280.

**Нагáйны** '?' у песні, запісанай у Сакольскім павеце на Беласточчыне: *Oj, wydu ja za worota/ne bere mene ochwota,/a moje-mu mileńkomu/ne nahajna robota* (Кольб. 498). Укр. *нагáйний* разглядаецца як фанетычны варыянт прыметніка *нагáльний* 'спешны, тэрміновы' (Грынч.), гл. *нагáльны;* аднак няяснасць семантыкі дапускае і іншыя версіі, напрыклад, сувязь са славен. *nagajati* 'раздражняць, надакучваць, назаляць, задзяваць', якое Бязлай (2, 212) звязвае з **goditi*, гл. *год, згода.* Паводле Мартынава (вусна), звязана з укр. *негáйний, негáйно* 'неадкладны, неадкладна', што ад *гáяти* 'марудна рабіць' (**gajati*). Гл. *гáіцыся.*

***Нагалабоску,** *наголобóску, наголобýзку* 'набасанож, на голую нагу' (ТС), *наголобíску* 'тс' (пінск., Нар. лекс.), *наголобýскы, наголобýську* 'тс' (столін., Нар. лекс., Жыв. сл.). Складанае слова, відаць, вынік кантамінацыі выразаў *на голую ногу* і *на босую ногу* 'тс'.

**Нагаловíч** 'перакладзіна паміж вушакамі над дзвярамі' (браг., Шатал.), 'верхні брус над акном' (рэч., Мат. Гом.), сюды ж *нáгалавень* 'вушак над варотамі', 'брус над дзвярамі' (маст., Шатал.), *нагловень* 'тс' (браг., Шатал.). Да *галавá* на аснове метафары («галава дзвярэй»), параўн. іншую назву рэаліі — *шапка;* цікавую паралель даюць польск. *nagłówek, nagłówka* 'архітэктурная дэталь; пліта, якая накрывае капітэль', н.-луж. *nagłowk* 'верхні брус над дзвярамі' і інш., якія могуць мець і першаснае значэнне 'шапка, шалом' ('тое, што знаходзіцца на галаве', параўн. Шустар-Шэўц, 13, 982); адсутнасць апошяга значэння ў бел. слова, таксама як і арыгінальнае словаўтварэнне, не дае падстаў адносіць яго да запазычанняў, хаця яны характэрны для народнай тэрміналогіі цяслярства.

**Нагáльны** 'напорысты', 'тэрміновы', 'праліўны (пра дождж)' (Сл. ПЗБ), укр. *нагáльний* 'спешны', 'раптоўны', 'бурны, парывісты'. Відаць, можа быць звязана з **naglъ* (гл. *наглы),* якое мае ўсе пералічаныя значэнні. Магчыма, сюды ж і рус. *нагал* 'заклік, вокліч ці песня ў такт працы', якое Фасмер (3, 35) выводзіць з *гáлить* 'смяяцца, насміхацца' і якому ў сваю чаргу адпавядае укр. *галити* 'прыспешваць, паганяць' (Брукнер, 133), серб.-харв. *гáлити* 'жадаць, прагнуць' і інш., гл. *галíцца* (дзе дапускаецца супадзенне ў корані **gal-* розных па паходжанню лексем).

**Нага́н** 'від рэвальвера'. З рус. *нага́н,* што ў сваю чаргу ад уласнага імя канструктара *Nagyan* (Фасмер, 3, 35).

**Нага́на** 'ганьба, знеслаўленне' (Нас.). Аддзеясloўны назоўнік; параўн. дзеяслоў зак. трыв. ад *ганіць* (гл.): *наганіць* (Нас.), што, як здаецца, не дае падстаў лічыць яго запазычаннем з польск. *nagana* 'ўшчуванне, прачуханка', а таксама 'загана, недахоп', якое адносяць да **ganiti* 'гнаць' (Варш. сл.) або да *gana, ganić;* апошняе Брукнер лічыць выключна чэшска-польскім словам, запазычаным усходнімі славянамі (Брукнер, 134). Сюды ж, відаць, і *нага́ны* 'дрэнны' (Жд. 1), параўн. польск. *naganny* 'дрэнны, ганебны'.

**Наганашы́ць** 'нарваць' (Жд. 1). Да *ганашы́ць* (гл.).

**Нагану́ць** 'настаяць, дамагчыся' (Сл. ПЗБ), 'зажадаць' (Сцяц.), 'вырашыць' (Сл. ПЗБ), 'задумаць' (Сцяц.), укр. *нагану́ти* 'ўспомніць, напомніць'. Прыставачнае ўтварэнне ад дзеяслова тыпу *гану́ць* 'усвядоміць, падумаць' (ТС) і пад., што, відаць, звязаны з *гадаць* (гл.), параўн. *адга́нуць* 'адгадаць' і інш., або ад дзеяслова *га́нуць* 'хлынуць', параўн. *нага́нуць* 'наваліцца, напасці' (ТС).

**Наганя́й** 'ушчуванне' (Яўс.). Пры наяўнасці *наганя́ць* 'паўшчуваць' (Яўс.), відаць, няма патрэбы лічыць запазычаннем з рус. *нагоня́й* 'тс', аднак усходняя лакалізацыя ў межах Беларусі робіць такое меркаванне дапушчальным. Этымалагічна ўзыходзіць да **goniti*, гл. *гнаць,* але на семантыку слова маглі ўплываць утварэнні ад *га́ніць* 'ганьбіць, абгаворваць', параўн. *нага́на, нага́нны* і інш.

**Нагарава́цца** экспр. 'наесціся' (полац., Нар. лекс.). Відаць, іранічнае ўтварэнне ад *гарава́ць* 'цяжка працаваць'.

***Нагара́тацца,** *нагара́татыся* 'нагараваца, намучыцца' (драг., Нар. лекс.). Відаць, ад *нагарава́цца,* гл. *гарава́ць,* змененага пад уплывам слоў тыпу *гаратай* 'араты' і пад.

**Нагарода** 'ўзнагарода' (Нас.); *za naharódaju za trudý wiérniecsa* (Пятк. 2); ст.-бел. *нагарода* і *нагрода* (апошняе з польск., гл. Булыка, Лекс. запазыч., 203); укр. *нагорода,* рус. *награда (<*ц.-слав., гл. Фасмер, 3, 37), польск. *nagroda,* чэш. *náhrada* 'замена', славен. *nagrada*, серб.-харв. *нȁграда,* балг. *награ́да,* макед. *награда.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне, першапачаткова **nagorditi*, на думку Міклашыча (74) — 'узнагародзіць горадам', што лічыцца неперааканаўчым; Фасмер (3, 37) і Трубачоў (там жа) звязваюць з 'накласці кучай', параўн. рус. *нагородить;* Бязлай (2, 212) праз славен. *graja* 'рэпутацыя', *grajati* 'праслаўляць' *(j<dj)* звязвае з літ. *gar̃dinti* 'паведаміць, абвясціць', роднасным ст.-інд. *gir-* 'слава, гонар', лац. *grates* 'хвала' і інш. Сумніцельна вывядзенне з **gheld-* (ням. *vergelten* 'узнагароджваць, даваць плату'), пры гэтым



бел. і ўкр. паўнагалосныя формы тлумачацца другасным збліжэннем з *горад* (Махэк$_2$, 388). Брукнер лічыў усх.-слав. словы паланізмамі, а ўзнікненне значэння 'дар, плата'лакалізаваў на польскай тэрыторыі, першапачаткова праз стадыю 'ўзвесці, узнавіць разбуранае' — 'замяніць' — 'кампенсаваць страты' — 'заплаціць'; усё да *grodzić* 'будаваць, гарадзіць' (Брукнер, 353).

**Нагаса́цца** 'нагойсацца' (карэл., Нар. лекс.). Ад *гаса́ць,* гл. *гойсаць.*

**Нага́та** 'старажытная грашовая адзінка' (Рабцэвіч), параўн. ст.-бел. у Летапісе Аўрамкі XV ст.: *по двѣ нагатѣ* (Карскі, 2—3, 106), ст.-рус. *ногата.* Выводзяць з кыпч. тур. *nakt* 'наяўныя грошы', крым.-тат. *naxt* ад араб. *nakd* 'дробныя грошы'; аднак не выключана і мясцовае ўтварэнне ад мяркуемага **нагата* 'сабаліная шкурка з чатырма нагамі' вытворнага ад *нага́,* параўн. бел. *нога́ты* 'з доўгімі нагамі' (ТС), што характэрна для ўсх.-слав. назваў грошай; гл. Кіпарскі, ВЯ, 1956, № 5, 135; Фасмер, 3, 79.

**Нагбом** 'нагнуўшы вядро, збанок' (піць) (Нас., ТСБМ, брасл., глуск., бялын., ДАБМ, камент. 145; полац., Нар. лекс.), *нагбом* і *на́гбам* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *нагба́ць* 'нагнуць' якое Насовіч лічыць вытворным ад *гбаць* (гл.); часцей ужываецца ў форме з перастаноўкай — *набгом* (гл.).

**На́гды** 'іншы раз' (Жд. 1), *на́гдысь* 'нядаўна' (Бяльк., навагр., Сцяшк. Сл., Мат. Гом.), *на́гдась, на́гдай* 'надоечы' (Нас.), *нагдое* 'пазаўчора' (Жд. 2), *нагдоя* 'надоечы' (мін., Жыв. сл.), *нагдовя* 'тс' (навагр., З нар. сл.), *нагдове* 'надоечы, днямі' (ТС), *нагдовісь, нагдовясь* 'нядаўна' (Мат. Гом.), *нагдовінь* 'нядаўна' (Мат. Гом.), *нагдовінь* 'нядаўна, надоечы' (ушац., Нар. сл.), рус. *нагды́сь, нагда́сь* 'тс' (пск., цвяр., разан., Даль). Складанае слова, першую частку атаясамліваюць з указальным займеннікам *онъ* (тут форма ж. р. *она*, са стратай пачатковага галоснага), што адсылаў да аддаленага па месцы або ў часе прадмета ці з'явы, параўн. **оного дня* 'таго дня, пазаўчора' і **сего дня* 'сёння'; група *-гд-*, маючая няпэўнае часавае значэнне, трактуецца як суфіксальная (Шуба, Прыслоўе, 60), да якой далучаюцца розныя часціцы: *-сь (<си* або *се,* гл. Карскі, 2—3, 71); *-й (<jь), -о(в)е (<овъ), -нь (<онъ).* Гл. таксама *надоечы, надоясь, надоў, на́дась, ана́дысь, анодысь, аногды, анагдое, анагдовень* і інш., якія маюць адпаведнікі ў большасці славянскіх моў і ўзыходзяць да **onagъda/ -dy:* укр. *оногди,* рус. *оногда,* польск. *onegdy*, каш. *wönegde*, чэш. *onehdy*, славац. *onehdy*, н.-луж. *wogano*, серб.-харв. *онаде* і інш. (ESSJ SG, 2, 525—527).

**На́гель (**nágel**)** 'драўляны гвозд (для замацавання плытоў)' (зах.-палес., Кольб.). Запазычана з ням. *Nagel* праз польск.

*nagiel* 'драўляны гвозд для збівання плытоў паміж сабой' (Варш. сл.).

***Нагéльніца,** *нагэ́лныца* 'раптоўная смерць' (драг., Нар. лекс.), сюды ж *нагэ́лно* 'неадкладна, дазарэзу', *нагэ́лный* 'неадкладны' (драг., З нар. сл.). Пры наяўнасці эўфемістычнага *нáгла* 'смерць' (гл.) хутчэй за ўсё звязана з *нáглы* (<**naglъ*) 'хуткі, раптоўны', гл. таксама *нагáльны;* Лаўчутэ непераканаўча збліжае з літ. *pagelà, pagelẽ* 'сырое прамозглае надвор'е, моцны боль' ад літ. *gélti* 'моцна, нясцерпна балець; жаліць, раніць' (Балтизмы, 29), запазычанага ў бел. мову, параўн. *геліць* 'моцна хацець; ныць; качанець; ванітаваць'.

**Нагінáць** 'схіляць, нахіляць' (ТСБМ, Нас., ТС), укр. *нагинáти* 'тс', польск. *naginać* 'тс'. Другаснае ўтварэнне ад *гнуць* (<**gybnǫti*) па мадэлі *пну, пінáць* замест першаснага *гну, гібáць,* якое дае рэгулярнае *нагібáць* 'тс', параўн. Брукнер, 140.

**Нáгла** 'смерць' (эўфемізм) (брэсц., Нар. лекс.), 'згуба, смерць; бяда, гора' (ТС), параўн. таксама: *нагла яго ведае* (Сцяц.). Вынік семантычнай кандэнсацыі ўстойлівага спалучэння; *нагла(я) смерць* 'раптоўная, неспадзяваная смерць'> *нагла* 'тс', параўн. суфіксальнае ўтварэнне *нагельніца* 'тс' (гл.) і спалучэнне *нагáльная смерць: нагальная смерць бацькі* (Гартны), гл. *нагальны, наглы.*

**Нáгле** 'вельмі' (Бяльк.), *нáгле, нáгло* 'надта, вельмі' (ТС), *нáгля* 'тс' (лях., Янк., Мат.; Сцяшк. Сл.). Мясцовае семантычнае ўтварэнне на базе прыметніка *наглы* (гл.) са значэннем 'вялікі, высокі', параўн. *дýжа* 'вельмі, надта' ад *дýжы* 'моцны, вялікі' і пад., параўн. Варбат, Этимология-1964, 29.

***Наглéдзіны,** *наглядзяны* 'абрад знаёмства бацькоў жаніха і яго сваякоў з нявестай' (навагр., Жыв. сл.). Да *глядзець,* параўн. іншыя назвы абраду *агледзіны,* рус. *смотрины* і пад.

**Нáгліць** 'нахабна хлусіць' (Бяльк.), 'прымушаць' (Нас.). Відаць, ад *наглы* (гл.) са значэннем 'нахабны'.

**Нáглы** 'раптоўны, нечаканы' (Сл. паўн.-зах., З нар. сл.), 'круты', 'злосны, люты' (слонім., Сцяшк. Сл.), 'вялікі, высокі' (ТС; лельч., Нар. лекс.; мазыр., З нар. сл.; ельск., жытк., петрык., Мат. Гом.), 'нахабны' (уздз., Жд. 1; рэч., Мат. Гом.; ТС), укр. *наглий* 'хуткі; раптоўны, нечаканы', рус. *наглый* 'дзёрзкі, нахабны', польск. *nagły* 'раптоўны, нечаканы, пільны, неадкладны; хуткі, жвавы', чэш., славац. *náhlý* 'раптоўны, нечаканы, круты', в.-луж. *nahły* 'круты, рэзкі; хуткі, раптоўны; запальчывы', н.-луж. *nagły* 'тс', славен. *nagel* 'тс', серб.-харв. *nâgao* 'хуткі, паспешны; мітуслівы, неабачлівы', балг. *нáгъл* 'нахабны', макед. *нагол* 'тс'. Прасл. **nagъlъ* (або **naglъ*), поўная форма **naglъjь,* збліжаюць з санскр. *añjas, añjasā* 'жвавы, раптоўны', гоц. *anaks* 'раптоўны, хуткі' (Фасмер, 3, 36; Скок, 2, 498; Бязлай, 2, 212; Шустар-Шэўц, 2, 982), з лат. *naguot* 'спяшацца', *nagtiês* 'хутка рабіць' (Махэк₂, 388); сумніцельнай здаецца спроба вывесці прасл. **naglъ* з **na-lьg-lъ*<*ležati* (Тэдэска, Language, 27, 151, 28—33). Варбат рэканструюе першасную семантыку слова як 'хуткі, паспешны, раптоўны', з якой выводзяцца іншыя пераважна экспрэсіўныя значэнні, і звязвае яго з прасл. **snaga* ад дзеяслова з коранем **(s)nag-,* страчанага ў славянскіх мовах, якому адпавядае літ. *nogė̃tis* 'жадаць, хацець' (Варбат, Этимология-1964, 27—30). Літ. *nõglas* 'раптоўны, хуткі, імклівы' запазычана з бел. або польск. (Фрэнкель, 1, 506). Цікавыя беларускія семантычныя інавацыі: палес. 'вялікі, высокі' на базе значэння 'рэзкі, круты' (*«наглы бэрэг»,* ТС), параўн. таксама *нáглік* 'вельмі высокая асоба' (ТС), *нáгліца* 'велікан' (саліг., Нар. сл.) і 'скупы, прагны, хцівы' на бел.-літ. пагранiччы, параўн. таксама *наглéц* 'той, хто скупы', відаць, пад уплывам літоўскай мовы, параўн. літ. *nogė̃tis* 'жадаць, хацець'.

**Наглядчык** 'чалавек, які за кім-, чым-н. наглядае' (ТСБМ). Пры зафіксаваным ужо ў Насовіча дзеяслове *наглядáць* 'сачыць, назіраць' дапушчэнне калькавання рус. *надсмотрщик* (Баханькоў, Весці АН БССР, 1981, 1, 116) мае неабавязковы характар, паколькі словаўтваральны тып, прадстаўлены назоўнікамі тыпу *адгáдчык,* прадуктыўны ў літаратурнай мове і адзначаны ў гаворках (Сцяцко, Афікс. наз., 75).

**Нагнéтка** '?': *Як-бы з руты ды нагнетак/Букет велькі май уклаў* (Цётка). Няясна, якая кветка маецца на ўвазе; фармальна слова вельмі падобна да польск. *nogietek* 'наготка', сустракаецца і ў форме *nogietka* (Steffen. Słownik Warmiński. Wrocław, 1984), аднак не выключана, што гэта іншая расліна, лекавыя ўласцівасці якой могуць выкарыстоўвацца ў народнай медыцыне, напрыклад для лячэння навярэджванняў, параўн. тураўск. *нагнёт* 'ціск, прыгнёт', чэрв. *нагнéсці* 'набіць', воран. *нагнётка* 'мазоль' і інш.

**Нагнётка** 'мазоль' (Сл. ПЗБ). Ад *нагнéсці* (гл. *гнясці*) 'набіць', параўн. іншую назву — *набой.*

**Нагнíсты** 'моцны, магутны' (астрав., Сцяшк. Сл.). Як відаць з ілюстрацыі (*«Рука ў йаго нагн'истайа, адразу паршука ўложыць»*), тлумачэнне слова занадта абагульненае; хутчэй за ўсё гэта аказіяналізм ад *нагнýць* або ад *гнясці* 'прыціскаць'.

**Нагном** 'нахіліўшы пасудзіну' (піць) (Сл. ПЗБ, дзярж., З нар. сл., Нар. сл.), 'адным глытком, не адпачываючы, піць' (беласт., Ніва, 22 красавіка 1979 г.), 'з бутэлькі, з гладыша, без шклянкі (піць)' (бяроз., КЭС). Да *нагнýць* 'нахіліць', параўн. больш архаічную форму *нагбом (набгом)* 'тс'.

**Наґóґа** 'капрызны чалавек', *наґóґытыся* 'капрызіць' (драг.,

Нар. сл.), параўн.: *міргай сабе, кулацкая нагога* (Барадулін), сюды ж, магчыма, укр. *нагогóшитися* 'надзьмуцца, натапырыцца'. Экспрэсіўнае аддзеяслоўнае ўтварэнне з характэрнай рэдуплікацыяй каранёвага элемента, параўн. *нафуфы́рыцца, надудоніцца* і пад., у аснове якога ляжаць, як правіла, гукапераймальныя ці іранічныя ўтварэнні накшталт т. зв. дзіцячых слоў тыпу *бýба, мýма, вова* і інш., параўн. польск. *gogo* 'франт, моднік, пуставаты і лянівы чалавек'.

**Нагода** 'прычына, выпадак' (ТСБМ), параўн. таксама *нагодачка-погóдачка* 'божая кароўка' (лаг., Шатал.). Укр. *нагода* 'выпадак, зручны час', польск. *nagoda* 'прычына, аказія, выпадак, прыгода', чэш. *náhoda* 'выпадак, выпадковасць, няшчасны выпадак'. Усё да **goditi* з шырокай семантыкай, у тым ліку 'чакаць зручнага выпадку, рыхтавацца да нечага', параўн. балг. *нагодя се* 'прыстасавацца, патрапіць'; выходным для беларускага слова можа быць дзеяслоў *нагадзіцца* 'трапіцца, выпадкова сустрэцца, нечакана з'явіцца', параўн. безасабовы дзеяслоў *нагодзіло* з супрацьлеглым (адмоўным) значэннем 'не ў пару прынесла каго-н. ці што-н.' (Нас.). Наяўнасць падобных утварэнняў у народнай мове, здаецца, здымае пытанне аб магчымым пранікненні названага слова з чэшска-польскага арэала або з эмігранцкіх выданняў, дзе яны, на думку Жураўскага (Беларуская мова і літаратура ў школе, 1988, 2, 14), «адзначаюцца значна раней, чым у нашых мясцовых беларускіх».

**Нагодкі** 'наготкі (кветкі)' (Янк. 1). Гл. *наготкі*; змена зычнага выклікана, відаць, ад'ідэацыяй да *нагадзíцца*, параўн. *нагода* (гл.), або азванчэннем у інтэрвакальным становішчы, параўн. *нагадок* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Нагокаць** 'зрабіць многа' (чач. Мат. Гом.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *гокаць* 'стукаць, біць', у аснове якога гукапераймальны выклічнік *гок!*, параўн. *набýхаць* 'наліць'.

**Нагонка** 'ўшчуванне': *Дырэктар прыдзе, нагонку дасць* (Крапіва). Наўрад ці звязана з польск. *nagonka, naganka* 'загон жывёл пад стрэлы паляўнічых, што сядзяць у засадзе', хутчэй самастойнае ўтварэнне ад *гнаць*, параўн. *наганяць* 'насварыцца' (Нас.), *нагонка* 'прыгон жывёлы на рынак', 'даганянне' і 'строгая вымова' (там жа).

**Наготкі** 'расліна Calendula officinalis', адз. л. *наготка* (мёр., Жыв. сл.; хойн., Пятк.), іншыя назвы: *нагодкі, нагаткі, ногцікі* (гом., гродз., Кіс.), адз. л. *нагадок* (віл., Сл. ПЗБ), укр. *нагідкі*, рус. *ноготки*, польск. *nogietki, nagietki*, чэш. *nehtíki*. Памянш. да **nogъtь*, гл. *ногаць*, з-за падабенства формы пладоў (Брукнер, 365; Махэк₂, 394), што, аднак, не можа вытлумачыць фармальныя змены, якія хутчэй за ўсё — вынік



дэтымалагізацыі на глебе асобных славянскіх моў, параўн. тураў. *наводка* 'тс', змененае пад уплывам дзеяслова *наводзіць* 'нараджаць': *«Часамі цельна худобіна хочэ звергаць, то напараць наводкі, даюць напіцца, то оно судзержыцца»* (ТС).

**Нагрáны,** *найгрáны* 'аплоднены (пра яйцо)' (мін., слонім., Жыв. сл.; барыс., чэрв., Сл. ПЗБ; ТС). Да *ігрáць* 'спарвацца (аб птушках)'.

**Нагýла** 'гуляка, гультай' (Нас.), 'свавольніца' (чач., Мат. Гом.), 'той, хто нахабны' (беласт., Сл. ПЗБ), *нагýловаты* 'упарты' (мазыр., Жыв. сл.). Выходная семантыка, прадстаўленая ў Насовіча, сведчыць пра сувязь з *гуля́ць*, словаўтварэнне, відаць, як у *назола* (ад *назаляць*); сувязь з літ. *nuogùlis* 'той, хто ходзіць у падраным адзенні' (Сл. ПЗБ) застаецца праблематычнай.

**Нагэ́лный** 'неадкладны', *нагэ́лно* 'неадкладна, дазарэзу' (драг., З нар. сл.). Гл. *нагéлніца*.

**Над**₁, прыназ., рэдка *нада (нада мной)*; укр. *над, надо*, рус. *над, надо*, польск. *nad, nade*, чэш. *nad, nade*, славац. *nad, nado*, в.-луж., н.-луж. *nad, nade, nado*; славен. *nad*, серб.-харв. *над*, *нада*, балг. *над*, макед. *над*. Прасл. **nadъ* роднаснае да *на*; праблему складае паходжанне *-dъ*, якое звычайна трактуецца як узмацняльнае. Найбольш пашыраная версія тлумачыць з'яўленне гэтага элемента пад уплывам антанімічнага *podъ* (Фасмер, 3, 37; Махэк₂, 387; Бязлай, 2, 210 і інш.). Згодна са Стангам (Scando-Slavica, 3, 236), *-dъ* у *nadъ, podъ, perdъ* аднолькавага паходжання са ст.-прус. *-dau* у *pirsdau* 'перад', *sirsdau* 'сярод', *pansdau* 'пасля', што разглядаецца як іменная флексія месн. скл., паколькі некаторыя прыназоўнікавыя формы з *-dъ* узніклі на базе назоўнікаў і прыслоўяў; напрыклад, балг. *зад* 'за', якому ў іншых славянскіх мовах адпавядаюць толькі назоўнікавыя і прыслоўныя функцыі, развіло прыназоўнікавае значэнне ў гістарычны час на Балканах, гл. ESSJ SG, 1, 127—128 (з л-рай). У народна-дыялектнай мове сустракаюцца выпадкі канкурэнцыі *на* і *над*, параўн.: *Над сонцэ надышоў похмарок* (ТС).

**Над**₂ у выразе: *Як нема на наду, так чорт даў ходу* (пра запаслівасць, гаспадарлівасць) (саліг., Нар. сл.). Рэдкая паралель да серб.-харв. *нâд, нâда* 'надзея', параўн. яшчэ славен. *nâda* 'тс', гл. *надзея*. Аднак не выключана, што тут выступае аддзеяслоўны назоўнік, утвораны ад *нáдзіць* 'вабіць, прыцягваць'.

**Нáда** 'трэба' (Бяльк.), *нáда, нáды* (Сл. ПЗБ), рус. *нáдо* 'тс'; упершыню фіксуецца ў Полацкай грамаце 1264 г. (Сразн.). Скарочаная форма ад прыслоўя *надобѣ*, утворанага ад месн. скл.

назоўніка *даба* з прыназоўнікам *на* (Карскі, 2—3, 76; Фасмер, 3, 38). Форма на *-ды* адлюстроўвае, відаць, уплыў прыслоўяў тыпу *тады, туды* і г. д. Гл. *нáдабе*.

**Нáдабе** 'патрэбна, трэба' (Нас.), *нáдобі* 'трэба' (в.-дзвін., шуміл., Сл. ПЗБ); *ён нам крайні надабі* (гарад., Сл. бел. нар. фраз., 141), ст.-бел. *надобѣ* (1406 г.), *ненадобѣ* (1492 г.), *надобеть* («з далучэннем дзеяслоўнага суфікса», Карскі, 2—3, 76), рус. *надобе, надоби, надоб, надобеть* 'тс'. Са спалучэння *на добѣ*, гл. *даба*, г. зн. 'на часе; калі ёсць неабходнасць'. Сюды таксама *нáдабна* 'патрэбна, трэба', *нáдабіцца* 'патрабавацца' і інш. Гл. і *надоба*.

***Надабéнь,** *надобéнь* — слова з няясным значэннем у архаічнай формуле сватання без сватоў; жаніх ідзе з вязкай лапцей за плячыма, падыходзіць пад акно хаты маладой і пытаецца: *«Надобéнь толубень? А як недоўбень, то я дале подоўбень»* (ТС). Хутчэй за ўсё зашыфраваны па этычных матывах выраз з прапановай прыняць у прымы, у такім разе *надобéнь* да *нáдобе* 'патрэбна, патрэбен, трэба', параўн. рус. *нáдобень* 'неабходная ў хаце рэч'. Гл. таксама *нáдаўбень, надоба*.

**Надáвяча** 'нядаўна' (ляхав., Сл. ПЗБ), відаць, не можа разглядацца асобна ад *надоечы* (гл.), *нагдовя, анагдове* і інш., якія выводзяцца з прасл. **onogъda* (гл. *нáгды*), прыслоўя адзайменнікавага паходжання (ESSJ SG, 2, 527), аднак націскное *а* ў корані дае падставы дапусціць сувязь з рус. *давеча* 'нядаўна', на што звярнулі ўвагу аўтары слоўніка. Апошняе, як і бел. *дáвечы* (Бяльк.), мае паралелі ў іншых славянскіх мовах (рус. *даве* 'нядаўна', укр. *даві*, ст.-слав. *давѣ* 'калі-небудзь, нядаўна', славен. *dáve* 'сёння, зранку' і інш., прасл. **davě*, звязанае з *davьnъ* 'даўні'). Гл. Фасмер, 1, 480—481; Бязлай, 1, 95—96; Трубачоў, Эт. сл., 4, 198; SP, 1, 360—361. Магчыма, кантамінацыя *надоечы* і *дáвечы*, што, аднак, цяжка дапусціць з лінгвагеаграфічнага пункту погляду.

**Нададзéць** 'надакучыць' (ваўк., лід., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *нادодзéць* 'надаесці, абрыднуць' (ТС). Вытворнае ад *дадзець* 'тс', што мае адпаведнікі ў іншых славянскіх мовах, на падставе якіх рэканструюецца прасл. **doděti*, прыставачны дзеяслоў ад **děti* 'дзеяць, рабіць', таксама 'гаварыць'; звяртае на сябе ўвагу аднолькавае развіццё семантыкі беларускага і паўднёваславянскіх слоў, параўн. балг. *додея*, макед. *додее*, серб.-харв. *додијати* 'надаесці, надакучыць, абрыднуць', якая развілася на базе першаснага значэння 'дакрануцца, чапляцца', параўн. тлумачэнне бел. *дадзéць* 'задеть за живое' (Нас.). Падрабязней гл. Цыхун, БЛ, 1974, 5, 48; ЕСУМ, 2, 102.

**Надаéсць** 'надакучыць' (ТСБМ, Бяльк., Пятк), *надаéсці* 'тс' (Сл. ПЗБ), *надоéсці* 'тс' (ТС), рус. *надоéсть* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 38), да *есть* (гл. *есці*) з развіццём семантыкі, як у *прыесціся*, пра што сведчыць значэнне славац. *dojedat'* 'тс'.



**Надазаляць** 'надакучаць' (бяроз., КЭС), укр. *надозоляти* 'даймаць, дапякаць', рус. *надозолять* 'рабіць на зло, дапякаць', *надзолять* 'тс': *сердце надзолять* (=*сердце надрывать*) (СРНГ). Гл. *назаляць*.

**Надакýчыць** 'надаесці' (Бяльк., Сл. ПЗБ), *надокýчыць* 'тс' (ТС), *надакушны* 'надаедлівы' (Мат. Гом.), *надакучлівы* 'тс' (Сл. ПЗБ), укр. *надокучати*, рус. *надокука* 'тое, чым дакучаюць', *надокушить* 'надаесці'. Прыставачнае ўтварэнне, параўн. *дакука*, якое Насовіч тлумачыць як 'турботы з боку наведвальнікаў ці прасіцеляў', *дакучáць* 'турбаваць просьбамі ці напамінкам пра што-н.' (Нас.), што звязваюць з **kukati*, гл. *кукаць, кукаваць* 'кукаваць' і 'знаходзіцца ў прыгнечаным стане, у чаканні чаго-н.': *Я дайно тут кукую* (=не магу адлучыцца, прымушаны знаходзіцца на месцы) (Фасмер, 2, 403; БЕР 3, 87), або з **kučiti* гукапераймальнага характару (Слаўскі, 3, 314—315).

**Нáдалаба** 'вузкая планка, што набіваецца на капылы паверх вязоў' (маст., Шатал.). Гл. *надаўб*.

**Надалізоный** 'надакучлівы, назойлівы' (браг., З нар. сл.), *надалызоны, надалызлівы* 'дакучны' (лоеў., Ян.), параўн. рус. *надалызня, надолызня* 'пра надаедлівага, неадчэпнага чалавека', *надалызить, надолызить* 'абрыднуць, надаесці', *надалызть* 'тс'. Няясна, магчыма, з метатэзай складоў ад *надазаляць* 'надакучаць' або ад *талызаць* 'тузаць, тармасіць, біць' з азванчэннем *т* у інтэрвакальным становішчы; у карысць апошняга сведчаць таксама фанетычныя прыкметы (формы з *-да-*, паралельныя да форм з *-до-*, якія фіксуюцца ў паўночнарускіх гаворках) і зыходная семантыка, характэрная для рада дзеясловаў са значэннем 'надаядаць, надакучаць', параўн. *нададзець*.

**Надалончыць** 'залатаць (рукавіцы)' (Сцяшк. Сл.), рус. *надолóнить* 'залатаць звернуты да далоні бок рукавіцы', укр. *надолóнчити* 'тс', *нáдолонка* 'нашыўка са скуры ці сукна на ўсю далонь, каб не праціраліся рукавіцы'. Да *далонь* (гл.).

**Надалýжыць** 'сэканоміць, нагнаць час' (Сцяц.), 'пажыць добра' (Сцяшк. Сл.), *надалýжваць* 'дабаўляць' (лях., Сл. ПЗБ), *надолýжыць* 'надбавіць, задаволіць патрэбу', *надолýжваць* 'надбаўляць, дапамагаць пакрыць нястачу' (ТС), параўн.: *ja swaje nadałužy* (=пакрыю, адраблю, вярну) (Пятк. 2, 192), укр. *надолужити* 'нагнаць, навярстаць, пакрыць, кампенсаваць, дапоўніць', 'насаліць; надаесці', магчыма, сюды і рус. *надалуга* 'гультайка'. Відаць, корань той жа, што і ў прыметніку *недалугі, недалужны* 'слабы, хворы', што суадносіцца (запазыча-

ны?) з польск. *niedołężny* 'тс', *dołęga* 'сіла, моц; дастатак, запас' (варыянт *dołęka* звязваюць з *łączyć* 'лучыць', Брукнер, 360); тады першаснае значэнне дзеяслова 'прыдбаць сілу, дастатак'. Згодна з Махэкам₂ (393), усе славянскія формы (чэш. *nedolužný*, польск. *niedołężny*, укр. *недалуга*, рус. *недолугий*) даюць падставу рэканструяваць прасл. **nedolǫžьnъ* і дзеяслоў **nedolęgati* з асновай *-lęg-*, роднаснай ням. *langen* 'быць дастатковым', што большасцю даследчыкаў лічыцца праблематычным. Найбольш блізкімі фармальна да разглядаемых усходнеславянскіх слоў з'яўляюцца славен. *nadlegovati* 'надаядаць, дакучаць', *nadloga* 'бяда', *nadlega* 'цяжкасць, прыкрасць', на якія, на думку Бязлая, паўплывала народнаэтымалагічнае збліжэнне з **lęgti, lǫžiti* (Бязлай, 2, 211), чым, відаць, і тлумачыцца іх семантыка, супадаючая з усходнеславянскай толькі часткова.

***Надамахі́**, *надомохі* 'мудрагеліста, алегарычна' (ТС). Гл. *намахі*.

**Надаража́цца** 'здзекавацца' (Бяльк.), 'рабіць наперакор, на злосць; дражніцца, кпіць' (жлоб., Жыв. сл.), *надража́цца* 'ганьбаваць, здзекавацца, рабіць прыкрасць' (Нас.), *надара́жывацца* 'дражніцца з кім-н., злаваць каго-н.' (міёр., Нар. сл.), *надаражы́цца* 'зрабіць што-небудзь назло' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), рус. *надора́живаться* 'фанабэрыцца, выхваляцца чым-небудзь', *надражня́ться* 'насміхацца'. Калі прыняць за выходную форму са слоўніка Насовіча, найбольш верагодна да *дражні́ць* (гл.), якое можа выступаць у рускіх гаворках у форме *дражить, драживать* (СРНГ), тады іншыя формы ўзніклі шляхам устаўкі галоснага перад *р* (другаснае поўнагалоссе?).

**Надары́цца** 'выдацца, трапіцца' (ТСБМ). Запазычана з польск. *nadarzyć się* 'тс', пра што сведчыць адсутнасць слова ў народных гаворках, ізаляваны характар у лексіконе літаратурнай мовы (гл., аднак, *зда́рыцца*, якое па тых жа меркаваннях таксама можа быць аднесена да запазычання), а таксама месца націску ў слове.

**На́дась** 'нядаўна, на днях' (Нас., Бяльк.; калінк., З нар. сл.). Гл. *анагдысь, нагды*.

**Нада́ткі** 'надбаўка зямлі (да прысядзібных участкаў)' (лунін., Шатал.), 'кароткія загоны, дадаткі' (беласт., Сл. ПЗБ). З *надда́ткі*, да *даць*, параўн. у Насовіча: *надда́ток* 'надбаўка' (Нас.); формы з *на-* і *над-* адлюстроўваюць характэрную для славянскіх моў «канкурэнцыю» адпаведных прыназоўнікаў (ESSJ SG, 1, 127).

**На́даўб** 'папярэчны брус, што злучае палазы ў санях, накладаецца на капылы' (смарг., Шатал.), *на́даўбня* 'тс' (маст., Шатал.), *на́доўбня* 'тс' (ТС), *на́доўбень* 'тс' (ТС),



*на́даўбкі, на́далабы, на́далабкі* 'намарзні' (Сл. ПЗБ), *на́дабкі, на́дубкі, на́дулубкі* 'вязкі ў санях' (маларыт., Нар. сл.), *на́даланка* 'доўгая планка, што накладваецца на капылы паралельна полазу (паверх вязаў)' (Сцяц.), рус. *на́долба* 'верхні прадольны брус у возе'. Усё да *даўба́ць* (гл.), выходныя формы *надаўба́ць, надолуба́ць, на́длубаць* (Нас.).

**На́даўба** 'засядзеўшаяся ў дзеўках, якую возяць па вёсках і прапануюць: Ці не трэба надаўба?' (ушац., Панюціч, дыс.), рус. пск. арх. *на́долба* 'дзяўчына з беднай сям'і, якую бацькі возяць па вёсцы, прапануючы ўзяць замуж', 'векавуха'. Да **nadoba*, параўн. *надаб* 'патрэба', *надоба* 'хатнія рэчы, неабходныя гаспадыні', *надобніна* 'патрэбная рэч', укр. *надоба* 'патрэба, неабходнасць', рус. *надоба* 'патрэба, неабходнасць', гл. *надоба*. У выніку пеярызацыі збліжана са словамі *надаўба* 'незгаворлівы ўпарты чалавек', *надоўб* 'асталоп, неразумны', рус. *надолба* 'дурны чалавек, дубіна, балда', што ў сваю чаргу ўзніклі на аснове канкрэтнага значэння 'слуп, калода', параўн. Фасмер, 3, 38. Гл. таксама *надабень*.

**Надбольшы** 'найбольшы' (ТС). Замена *най-* на *над-* пад уплывам кампаратыўнай функцыі прыназоўніка, які ўжываецца ў спалучэннях тыпу: *нема над лінка смашнейшой рыбы* (ТС).

**Надве́чар**, *на́двячар* 'пад вечар' (Сл. ПЗБ), *надвычі́р* 'тс' (драг., З нар. сл.), *надве́чо́р, надвечэ́рэ* 'тс' (ТС), *надвечары* (Колас). Спалучэнне прыназоўніка *над* у часавым значэнні, які па семантыцы адпавядае прыназоўніку *перад*, з назоўнікам у акузатыўнай форме, што характэрна як архаічная рыса шэрагу славянскіх моў, параўн. чэш. *nad večer již jest*, серб.-харв. *над вечер*, укр. *над вечір*, балг. *над вечер* 'перад вечарам'; формы на галосны адпавядаюць спалучэнню з лакатывам (ESSJ SG, 1, 125), паводле Шубы — вынік кантамінацыі *надвечар*×*увечары* (Шуба, Прысл., 115).

**Надвор** 'падворак': *cèły nadwór* (Пятк. 2). Узнікла ў выніку пераасэнсавання і зліцця прыназоўнікавай канструкцыі *на двор*: 'вонкі, за межы хаты'>'прастора па-за хатай'>'месца каля хаты, абмежаванае гаспадарчымі пабудовамі'.

**Надворак**₁ 'двор, падворак' (Яруш.), 'двор каля хаты' (БРС), 'прастора паміж хатай і гаспадарчымі пабудовамі' (нясвіж., слуц., смілав., шчуч., Яшк.; гродз., астрав., дзятл., маст., лід., навагр., Сл. ПЗБ). Заходнебеларускі нawатвор, відаць, у выніку кантамінацыі мясцовага *надвор'е* 'дворышча' і *падворак* (<польск. *podwórek, podwórko*?).

**Надворак**₂ 'стул' (нясвіж., Сл. ПЗБ), 'панос' (Сцяц.). Эўфемізм, да *двор*.

**Надвор'е**₁ 'месца па-за жылымі пабудовамі; дворышча' (Нас., Яшк., Федар.), параўн. укр. *надвір'я*, рус. *надворье*,

польск. *nadworze*, чэш. *nádvoři* — усё да *надвор* 'вонкі, не ў памяшканні' (месца), гл. *двор, надворак*.

**Надвор'е**₂ 'чыстае паветра, пагода' (Нас.), 'надвор'е' (Сл. ПЗБ, ТС), *надвор'я* 'надвор'е, пагода' (Бяльк.), рус. *надворье* 'тс'. Да *надвор* 'вонкі, не ў памяшканні' (стан паветра і інш.), гл. *двор*.

**Надвор'е**₃ '*медыц.* стул' (ТС). Эўфемізм, да папярэдняга слова.

**Надворсак** 'дворышча' (навагр., Нар. сл.). Да *надворак* з цяжка вытлумачальнай устаўкай зычнага *с*; магчыма, пад уплывам прыметніка *дворскі* 'дваровы, уласцівы панскаму двару' (Нас.).

**Надвосень** 'перад пачаткам восені' (калінк., З нар. сл.), *на́досень* 'пад восень', 'першая палова восені' (ТС). З *над* 'перад'+*восень* (він. скл.), параўн. *надвечар* (гл.).

**Надвы́ш** 'больш, вышэй' (Нас.), *nàdwyż* 'плата звыш дамоўленага' (Арх. Федар.). Са спалучэння прыназоўніка *над* (указанне на меру) з назоўнікам у форме старога він. скл. *выш* 'вышыня', параўн.: *упасць з вышы* (Нас.), параўн. ESSJ SG, 1, 126. Форма з канцавым *ж* (калі гэта не прыкмета польскай арфаграфіі) пад уплывам польск. *wyżej*, што дало дыялектнае *выжай* замест *вышай* (Карскі, 1, 385).

**На́дгаладзь** 'не даядаючы, галодна' (калінк., З нар. сл.), *надгаладзень* 'тс' (слуц., Нар. сл.). З *над* (значэнне меры) і назоўніка **голодь(нь)* 'галадоўля' ў старым він. скл.

**Надгру́зачкі** 'кавалачкі': *разб'илас'а на надгрузачк'и* (Сцяшк. Сл.). Са спалучэння *на+друзачкі* 'на дробныя častачкі', гл. *друзачка*; у выніку частага ўжывання з прыназоўнікам *на* адбылося яго нарашчэнне перад назоўнікам, з'яўленне ўстаўнога *г* — вынік дээтымалагізацыі і пераразлажэння *(над-грузачкі)*, пры гэтым устаўны гук узнікае на месцы марфемнага шва.

**Над'е́хаць** 'наехаць' (Бяльк.) — вынік «канкурэнцыі» прыназоўнікаў *над* і *на*, што знайшло адлюстраванне і ў прыстаўках, падрабязней гл. ESSJ SG, 1, 127.

**Наджга́ць** 'накусаць', параўн. *наджы́гаць* 'тс' (Бяльк.). Да *джгаць* (гл.), дзе *джг*, паводле Карскага (1, 383), з *жг*.

**Надза́хад** 'перад захадам' (Сл. ПЗБ). Са спалучэння прыназоўніка *над* (у часавым значэнні) з назоўнікам *захад* у форме він. скл.; *над* у такіх канструкцыях звычайна мае значэнне 'перад' (ESSJ SG, 1, 125).

**Надзвы́чай** 'вельмі, надта; у высокай ступені' (ТСБМ). Са спалучэння прыназоўніка *над* (выражэнне меры) і назоўніка *звычай* (гл.) у він. скл. Шуба (Прысл., 148) адносіць да прыслоўяў, утвораных нулявым суфіксам.



**Надзе́жа**₁ 'надзея' (Нас., Сл. ПЗБ), *надзёжа* (Бяльк., Сл. ПЗБ). Прасл. **nadědja*, вытворнае ад **děti*, гл. *дзець* (ст.-слав. **деждѫ** 'кладу'), рус. дыял. *надёжа*, літар. *надежда* (<ц.-слав., Фасмер, 3, 37), ст.-рус. *надежа*, ст.-слав. **надєжда**, балг. *надежда*, макед. *надеж*. Параўн. *надзе́я*.

**Надзе́жка** 'накідка' (лоеў., Мат. Гом.). Ад *надзе́ць* 'апрануць, накінуць' пад уплывам *адзе́жка* 'тс'.

**Надзе́жнік** 'кавалак палатна, якім пакрывалі дзяжу' (Сл. ПЗБ, Жд. 1, Сцяшк., Бяльск.; талач., Шатал., Мат. Гом., круп., Нар. сл.), *надіжнык* 'тс' (драг., З нар. сл.), *надзежніца* 'тс' (Мат. Гом.). У выніку семантычнага згортвання *надзежны абрус* або *накідка на дзяжу*>*надзежнік, надзежніца*, да *дзяжа, дзежка*, адносна словаўтварэння параўн. *набожнік*.

**Надзе́і** 'дажджавыя чэрві' (в.-дзв., расон., Сл. ПЗБ), рус. *надеи* 'ўсё, што надаецца для прынады на вуду (чарвякі, матыль і пад.)', 'чарвякі, вусені', 'гнаявыя чарвякі', 'глісты', *надеина* 'чарвяк; вусень', 'земляны чарвяк'. Цёмнае слова. Можа выказаць некалькі версій, якія пры адсутнасці надзейнай этымалогіі маюць права на існаванне. Магчымая версія — ад *надзець*, параўн. ст.-слав. *надѣти* **тръвь на ждицѫ**, тады да **děti*, форма адз. л. магла быць аманімічнай назоўніку *надзея* 'спадзяванне', параўн. у сувязі з гэтым звязанае з рыбалоўствам *на́жа* 'ўдача': *на езі нема нажы, не ловяцца* (ТС), а таксама рус. *надёны* 'надзеі' і *наденка, надеенка* 'земляны чарвяк', г. зн. магчыма табуізацыя сапраўднай назвы і яе замены эўфемізмам з мэтай «паспрыяць» рыбнай лоўлі. Аднак нечаканая смаленская паралель *гнадейка* 'дажджавы чарвяк' (СОС, 2) з пачатковым *г* прымушае разгледзець і іншыя магчымасці этымалагізацыі слова, пры якіх улічваецца гэты факт, што можа атрымаць розную інтэрпрэтацыю. Паводле Мяркулавай, побач з шырока вядомым у славянскіх мовах працэсам з'яўлення *g*- пратэтычнага перад плаўнымі маюцца выпадкі страты этымалагічнага *g* перад *n* і *l* (Этимология-1983, 67—68; спецыяльна: Пятлёва И. П. К вопросу о *g* протетическом в слав. яз. Этимология-1976, 51—55), параўн. *ніда* 'гніда' (Сл. ПЗБ). Калі прыняць у якасці зыходнай форму з *г*-, то можна яе выводзіць са спалучэння *к надзе* (ад *надзіць* 'прыманьваць', параўн. *пры-нада* 'прыманка'), падобна да таго, як рус. дыял. *гнадобить* 'берагчы, капіць' выводзяць са спалучэння *к надобе*, пры *надоба* 'патрэбная рэч' (Фасмер, 1, 410), або славен. *gnaditi (=naditi)* 'загартоўваць' параўноўваюць з серб.-харв. *кнадити* і пад. (Дэбеляк, Predpone, 173).

**На́дзелень** 'зеленаваты, недаспелы' (слуц., Нар. сл.), 'недаспелая садавіна' (карэл., Сл. ПЗБ), *на́д'зялян, на́д'зялянь* 'зеленаваты' (навагр., Жыв. сл.). Са спалучэння *над* (прына-

зоўнік са значэннем меры) і назоўніка *зелен(ь)* у форме старога він. скл.

**Надзéльны** 'вясельны' (светлаг., Мат. Гом.), рус. *надéльный* 'падораны для вянчання'. Да *надзяля́ць* (гл. *дзяліць*), параўн. ілюстрацыю да слова: *Як дораць маладым на вяселле, тады надзельныя песні пяюць* (там жа).

**Надзéць**$_1$ 'апрануць', 'уздзець' (Сл. ПЗБ, Бяльк., Пятк.), *надзéцца* 'апрануцца' (Жд. 1). Да *дзець* (гл.), што звязана з прасл. **děti* рознымі семантычнымі пераходамі, у прыватнасці пераход 'рабіць' — 'адзяваць' акрамя славянскіх моў прадстаўлены ў літ. *dėvėti* 'насіць адзенне', англ. *to do on* 'надзяваць', асецін. *koenyn* 'апранаць, надзяваць' і інш. (Абаеў, ВЯ, 1988, 3, 36). Гл. таксама: Фасмер, 1, 509; Трубачоў, Эт. сл., 4, 229—230.

**Надзéць**$_2$ 'нафаршыраваць' (навагр., З нар. сл., Сцяшк. Сл.), *надзявáць* 'начыняць' (карэл., Шатал.; Жд. 2; ваўк., Сл. ПЗБ), *надзяваны* 'надзеты', 'нафаршыраваны, начынены' (ТС; ашм., гродз., Сл. ПЗБ). Да *дзець* (гл.), семантычны пераход 'рабіць' — 'наліваць, насыпаць, напіхваць' прадстаўлены ў гаворках яшчэ дзеясловам *начыні́ць* 'нафаршыраваць, напіхаць' (ад *чыніць* 'рабіць'), у іншых славянскіх мовах: укр. *начини́ти*, рус. *начини́ть*, польск. *nadziać*, чэш. *nadíti*, славен. *nadeti*, серб.-харв. *нàденути*, балг. *надя́на*, макед. *надене* 'тс'; такім чынам, мяжа паміж арэаламі вытворных ад **děti* і **činiti* праходзіць праз беларускую моўную тэрыторыю. Паводле Махэка$_2$ (118), пераходнае значэнне ў гэтым выпадку — 'нацягнуць нешта на нешта, насадзіць, надзець', гл. *надзéць*$_1$.

**Надзéя** 'надзея, спадзяванне' (Нас., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), укр. *надíя*, рус. *надéя*, польск. *nadzieja*, чэш. *naděje*, дыял. *náděja*, славац. *nadéj*, *nádeja*, в.-луж. *nadźija*, н.-луж. *naźeja*, славен. *nâdeja*, серб.-харв. *nada*, дыял. *nadeja*, макед. дыял. *надеја*. Прасл. **naděja*, вытворнае ад *děti*, гл. *дзець* (Міклашыч, 43; Бернекер, 1, 193; Брукнер, 353; Скок, 2, 497; Бязлай, 2, 211; Шустар-Шэўц, 13, 981). Махэк лічыць праславянскае слова аддзеяслоўным назоўнікам ад **naděјati sę* 'спадзявацца', узнікшым на базе пераноснага значэння **děti* 'класці; меркаваць', параўн. рус. *полагать* (Махэк$_2$, 387).

**Надзёжа,** *надзёжына* 'адзенне' (Нас.), параўн. рус. смал. *надёжа* 'тс'. Да *надзець*$_1$ (гл.).

**Надзё̄жнік** 'рачная губка, бадзяга' (Ян.), *надочнік, ладочнік* 'тс' (ТС), параўн. рус. *надожник, надошник* 'тс', укр. *надошник* 'тс'. Няясная зыходная форма слова не дазваляе даць надзейную этымалогію. Звяртае на сябе ўвагу збліжэнне розных форм са словамі *надзёжа* 'надзея', *ладны* 'добры, прыгожы', *нада* 'трэба', параўн. рус. дыял. *надошный* 'патрэбны' і інш., што



можа сведчыць пра народнаэтымалагічнае пераасэнсаванне невядомай зыходнай формы як вынік яе дээтымалагізацыі.

**Надзё̄нны** 'актуальны' (ТСБМ). Паводле Баханькова (Весці АН БССР, 1981, 1, 120), «недакладная калька» са ст.-слав. **насущный** 'штодзённы', параўн., аднак, утворанае па той жа мадэлі *надобны* 'своечасовы, патрэбны' (<**на дабе*, гл. *даба, надабе*), тады *надзённы* са спалучэння *на дне*, гл. *дзень*. Паводле той жа мадэлі ст.-слав. **наднєвьныи**, адзначанае ў Заграфскім евангеллі, якое адпавядае грэч. ἐφήμερος.

**Надзíклі** 'на ветры': *У нас у хаце заўсёды холадна, бо стайиц' йана надз'икл'и* (слонім., Сцяшк. Сл.). Няясна, хутчэй за ўсё адаптаванае запазычанне з балтыйскіх моў; адзін з магчымых этымонаў — літ. *dykrà* 'пустое месца, пустка', адаптацыя адбывалася шляхам замены зычных і зліцця прыназоўніка *на* са словам у выніку частага ўжывання спалучэння з ім.

**Надзімáнкі** 'пацеркі, пустыя ўсярэдзіне' (навагр., Нар. сл., маст., Сцяшк.), *надыманкі* 'каралі' (рэч., Мат. Гом.). Ад *надзімаць, надмаць*, да *дзьмуць* (гл.); форма з *-дым-* адпавядае хутчэй за ўсё ітэратыву ад дзеяслова *дзьмуць*, параўн. *надымацца* 'надувацца' (Нас.), польск. *dymać, nadymać* 'дуць, надуваць', чэш. *dýmati, nadýmati* 'тс', гл. Махэк$_2$, 124.

**Нáдзіць** 'вабіць, прыцягваць надзеяй' (Нас.), 'прыманьваць, прынаджваць' (Сцяшк.), *надзіцца* 'захапляцца надзеяй', 'падкрадвацца', 'набываць звычку' (Нас.), 'спадзявацца, чакаць' (ТС), укр. *надити* 'прыцягваць, прыманьваць', 'лавіць рыбу вудай', *надитися* 'прываблівацца', польск. дыял. *nadzić* 'прыманьваць, прывабліваць', магчыма, сюды ж чэш. *nadíti se* 'спадзявацца, чакаць', якое, паводле Махэка, з **na-dejati sę* (Махэк$_2$, 118), гл. *надзея*.

**Надзявáнікі** 'ежа з начынкай: парасяты, гусі, булкі' (докш., Янук.), 'бульба (адвараная ў лушпінах)' (рэч., Мат. Гом.). Ад *надзявáць* 'фаршыраваць', параўн. іншаславянскія паралелі: польск. *nadzianka* 'ежа з начынкай', чэш. *nadívanina*, *nádivka* 'тс', балг. *нáденица* 'дамашняя каўбаса, надзеніца'; 'бульба, адвараная ў лушпінах' атрымала назву хутчэй за ўсё ад *надзяваць* 'апранаць', г. зн. 'адзетая бульба', параўн. *бульба ў мундзірах* 'тс' у адрозненне ад бульбы, якую вараць без лушпін.

**Надзянькí** прысл. 'адпачынак у свята': *Добра падраб'ілас'а, ц'ап'ер схаджу да Йул'и надз'янк'и* (воран., Сцяшк. Сл.). Утворана са спалучэння *на дзень*, суфіксацыя на *-кі*, характэрная для прыслоўяў, параўн. *удойжкі, ушыркі, навелічкі* і пад.; у якасці ўзору выкарыстана *наначкі* 'на цэлую ноч' (гл.).

**Надкоснік** 'шафер' (Сл. ПЗБ), 'брат маладой, які бярэ ў маладога выкуп за касу нявесты' (Сцяшк. Сл.), 'меншы брат

маладой, які бярэ грошы за касу ў маладога' (в.-дзв., Шатал.). Ад выразу *над касой* (стаяць, быць і г. д.), г. зн. быць «адказным» за касу.

**Надла́пкі** 'вузкая планка, якая накладваецца на капылы наверх намаразняў' (карэл., Шатал.), *надлобы* 'тс' (пінск., Шатал.). З **надоўбкі (<na-dъlb-ki)*, паколькі ў іх выдзёўбвалі гнёзды, якія надзяваліся на капылы, гл. *надаўба* 'тс', з магчымай ад'ідэацыяй да *лапіць, лапкі* для першага і да *лоб* для другога назоўніка.

**Надоба** 'хатнія рэчы, неабходныя гаспадыні' (карэл., Сцяшк.), 'убранне' (стаўбц., Нар. сл.), *на́даб (надыб)* 'патрэба' (Бяльк.), *надоб'е (надоб'я)* 'госці' (чэрв., Нар. лекс.), *nadobak, nadobinka, nadobnina* 'аздобная рэч, патрэбная рэч' (Федар.), *nadóbnina* 'драўніна для вырабу сельскагаспадарчых прылад' (Арх. Федар.), *надобейка* 'нагода, падзея' (Песні сямі вёсак). Укр. *надоба* 'неабходнасць, патрэба', *надібок* 'кавалак дрэва або жалеза, прыдатны для справы', 'гаспадарчыя прылады', *надіб'я* 'рэчы, маёмасць', рус. *надоба* 'патрэба, неабходнасць', *надобье* 'тс', *надобень* 'неабходная ў доме рэч', польск. *nadoba* 'хараство, прыгажосць', 'начынне', *nodobie* 'прылады', *nadobek* 'любы пусты посуд (гаршчок, бутэлька)', чэш. *nádoba* 'начынне, посуд', *nádobí* 'прылады', славац. *nádoba* 'посуд', в.-луж. *nadoba* 'прылады, начынне; даход; багацце', н.-луж. *nadoba* 'веліч; дабрабыт; начынне'. Вытворнае ад **doba*, гл. *даба*; першасная форма, відаць, *надабе* (гл.), што ўяўляе спалучэнне прыназоўніка *на* з формай дав., месн. скл. адз. л. ад названага назоўніка са значэннем 'на часе, у (патрэбны) час', адкуль развілася форма *надоба* 'патрэба, неабходнасць' і іншыя, больш канкрэтныя значэнні, што ўскосна пацвярджаецца і больш ранняй фіксацыяй прыслоўя ў помніках пісьменнасці. У якасці чэхізма ў Скарыны разглядаецца *надобье* 'пасуда' (Булыка, Лекс. запазыч., 206), што неабавязкова, паколькі такая форма і семантыка прадстаўлены ў гаворках. З большымі падставамі ў якасці запазычання, відаць, з польскай мовы можна разглядаць вытворнае ст.-бел. *надобный* 'прыгожы, зграбны' (з XVI ст., Жураўскі, SOr, 10, 40; Булыка, Лекс. запазыч., 194), бо, як паказвае семантычная паралель польск. *śliczny*, чэш. *sličný* 'падобны, прыгожы', такое развіццё значэння характэрна для заходнеславянскіх моў (Машынскі, Kultura, II, 1, 101). Зрэшты, некаторыя этымолагі адрозніваюць аманімічныя зыходныя словы і іх вытворныя ад кораня *dob-: doba* 'спосаб, від' (сюды адносяць і *падобны, надобны, аздобны* і г. д.) і *doba* 'часавы перыяд', да якога трэба аднесці астатнія пералічаныя формы (Махэк₂, 121—122; Бязлай, 1, 105). У адпаведнасці з гэтым у якасці зыходнай формы для *надоба* 'прылада; пасуда' дапускаецца зборны назоўнік **nadobьje* 'патрэба, неабходнасць', з якога шляхам сінгулярызацыі ён быў утвораны (Махэк₂, 387; Шустар-Шэўц, 13, 980).



**Надобрыцу** 'на правы бок' (смарг., Шатал.; ашм., Сцяшк. Сл.). З *на* (прыназоўнік) і *до́брыца* (назоўнік ў він. скл. адз. л.), апошні хутчэй за ўсё — вынік семантычнай кандэнсацыі атрыбутыўнага спалучэння тыпу *добры бок* 'правы бок', рус. 'лицо' ў адрозненне ад *ліхі бок* 'левы бок', рус. 'изнанка'.

**Надовень** 'участак поля каля вёскі' (полац., Яшк.). Цёмнае слова. Варбат зближае з в.-луж. *nadows* 'вясковы выган, выпас' (паводле Шустара-Шэўца, з **nadъ* і **vьsь*, гл. *вёска*), на падставе чаго прапануе рэканструкцыю **na-do-vьsь-nь*, параўн. прыметнік в.-луж. *nodowsny* 'выганны, пашавы', з наступнай субстантывацыяй і фанетычнымі зменамі (падзенне рэдукаваных і як вынік гэтага спрашчэнне спалучэння *sn>n*), што можна прыняць з вялікай доляй верагоднасці. Менш падстаў мае, як здаецца, зближэнне в.-луж. *nodows*, а значыць, і *надовень*, з прыслоўямі тыпу *надовесь* 'нядаўна', *надовись* 'пазаўчора' і інш. (Варбат, Этимология-1979, 31—32), якія, як і беларускія словы *нагдысь, нагдовесь, надое, надовень*, з **onogъda-* (ESSJ SG, 2, 525). Гл. наступнае слова. Можна прапанаваць і іншую версію: *надовень<надобень* 'карысная (зручная) рэч' (да *даба́*, гл.), параўн. семантычна блізкае *выгада* 'паша', рус. 'угодье' (гл.).

**Надовесь** 'нядаўна, на днях' (Нас.), *нагдавісь* 'тс' (Мат. Гом.). Хутчэй за ўсё да **onogъda/-dy*, гл. *нагды́*, расшыранага ўказальнымі займеннікамі *овъ* і *сь* (ESSJ SG, 2, 525—527). Меркаванні Варбат пра сувязь рус. смал. *надовесь, надовись* 'нядаўна' з бел. *надовень* 'участак поля каля вёскі', якое паводле словаўтваральнай сувязі з в.-луж. *nadows* 'вясковы выган, выпас' выводзіцца ад **vьsъ* 'вёска' і адлюстроўвае прасторавую блізкасць, у той час як *надовесь, надовись* адлюстроўваюць блізкасць у часе, адсюль развіццё значэння 'нядаўна' на базе першаснага 'блізка (ад вёскі)' (Варбат, Этимология-1979, 32) — здаюцца непераканальнымі.

**Надодніцы** 'на світанні' (Сцяшк. Сл.), *надоднік* 'да світання' (Сл. ПЗБ). Са спалучэння *на* (прыназоўнік), назоўнікаў *додніца, доднік* 'досвітак' (гл.) у форме дав.-месн. скл. адз. л. (да *дзень*).

**Надоечы** 'нядаўна, днямі' (ТСБМ, Мат. Гом., Янк. 2, Ян.), *надоячы* 'тс' (Бяльк., Пятк.), *надойчы* 'тс' (Сцяшк.), *надовечы, надовячы* 'тс' і 'сягоння раніцай' (Нас., Янк. 2, Мат. Гом., Сцяшк. Сл., Ян.), *надоіч* 'днямі' (Сл. ПЗБ), *надое* 'тс' (Жд. 2), рус. бран., смал. *надоичи, надойчи, надовичи*. Найбольш блізкімі да названых зыходнымі словамі маглі быць формы тыпу

бел. *нагда*, рус. *онады, оноды* 'тс', (<*onogъda*/-*dy*, гл. ESSJ SG, 2, 525), расшыраныя партыкуламі, што ўзыходзяць да ўказальных займеннікаў *jь* і *овъ*. Карскі (2—3, 71) і Шуба (Прыслоўе, 63) лічаць *-чы* суфіксам, больш правільным было б разглядаць яго ў якасці ўзмацняльнай партыкулы (параўн. ESSJ SG, 1, 305). Магчыма, зблiжэнне канца слоў з прыслоўямі тыпу рус. *давеча* 'недавно', параўн. *надавяча* (гл.).

**Надозарку** 'назіркам' (расон., Шатал.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *зор-*, гл. *зорыць*.

**Надоў** 'даўно' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *анадоў* (<*onogъda*, гл. *нагды, надоечы*), у якім *-оў* пад уплывам утварэнняў тыпу *дамоў* (Карскі, 2—3, 71).

**Надочнік** 'рачная губка, бадзяга' (ТС). Гл. *надзёжнік*.

**Надоясь** 'учора' (Мат. Гом.), *надось* 'надоечы' (Ян.), рус. *надысь*. Можа паходзіць ад розных зыходных форм: **onъdy*/*onъda*, **onogъdy*/-*da*, **onъgъdy*/-*da*, гл. *анагдысь* (параўн. ESSJ SG, 2, 535; Фасмер, 3, 38).

**Надру́га** 'здзек, кпіны' (Сцяшк.). Гл. *нару́га* 'тс', паралельныя формы з *над-* і *на-* сведчаць аб «канкурэнцыі» адпаведных прыназоўнікаў у шэрагу славянскіх моў (параўн. ESSJ SG, 1, 127; Махэк₂, 387).

**Надры́ва** 'навес для захавання дроў': *У надрыв'е дроў н'и пал'енца* (Сцяшк. Сл.). Са спалучэння прыназоўніка *на* (значэнне мэты, прызначэння) і назоўніка *дрыва* 'дровы'; цікавая мадэль універбацыі, узнікшая на падставе семантычнай кандэнсацыі *паветка (навес) на дрыва*>*на дрыва*>*надрыва*, параўн. *надзіклі* (гл.).

**Надрэ́ґаць,** *надрэ́каць* 'нашкодзіць', 'нагаварыць абы-чаго' (ТС). Відаць, да *ракці́* 'сказаць' з экспрэсіўным азванчэннем зычнага; прэфікс *над-* у значэнні *на-*.

**Надса́днік** 'талакнянка' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), рус. *надсадник* 'увярэднік балотны'. Відаць, да *надсадны* 'сумны, цяжкі' (Ян.), параўн. рус. *надсадно* 'балюча, сумна' і *надсадная трава* 'нейкая лекавая расліна', *надсадка* 'тс', *саднить* 'шчымець', *досада* 'прыкрасць'; усё да *садзіць* (Фасмер, 1, 531), параўн. размоўнае *надсадзіць* 'надарваць, нашкодзіць', *надсада* 'надарванасць, хвароба ад цяжкай работы', пра гэта ж сведчыць і ілюстрацыя да слова: *Натсаднік — як бруснічнік, ат почак* (Сл. ПЗБ, 188).

**На́дсыр** 'сыравата' (Янк. 1), 'сыраваты, недавараны' (Мат. Гом., калінк., З нар. сл.; мін., Жыв. сл.; слуц., Нар. сл.; ТС). Са спалучэння прыназоўніка *над* (значэнне меры) і назоўніка *сыр* 'сырызна' ў форме старога він. скл. адз. л. Параўн. *надзелень* (гл.).

**На́дта** 'вельмі' (Бяльк., Сл. ПЗБ), *на́дто* 'тс' (Сцяшк. Сл.; ТС), *на́тта, на́тто* 'тс' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *надто* 'акрамя таго' (XVI ст.), ст.-рус. *надъ* 'тс', укр. *надто* 'занадта; звыш таго', рус. *надто* 'надзвычай', 'верагодна, відаць', польск. *nadto* 'надзвычай, занадта', 'акрамя таго', ст.-польск. *nadto* 'звыш', славін. *nout-to* 'акрамя таго', чэш. *nadto* 'звыш таго, да таго ж, у дадатак', ст.-чэш. 'звыш таго, акрамя таго'. Празрыстае сінтагматычнае спалучэнне прыназоўніка **nad* і займенніка **to* (ESSJ SG, 2, 436), які выступае ў форме наз.-він. скл. (Карскі, 2—3, 72, 92); Шуба разглядае беларускія формы з пункту погляду сучаснай мовы як невытворныя, страціўшыя суадносіны з адпаведнай прыназоўнікава-іменнай канструкцыяй (Шуба, Прыслоўе, 148).



**На́дубель** 'гэбель выбіраць канты ў дошках' (Сцяшк. Сл.). Запазычанне з нямецкай мовы (?), другая частка выразна адлюстроўвае ням. *Hebel*.

**На́дубень** 'намаразень' (свісл., Шатал.). З **на-дълб-ень*, гл. *надаўба*, відаць, зблiжанае з *дуб* (бо часцей рабілася з дуба?), ці пераасэнсаванне ўнутранай формы тэрміна *намараз-ень* з наступным калькаваннем, параўн. *надубецца* 'намерзнуцца' (Сцяшк. Сл., Сцяц.).

**На́дубіна** экспр. 'вялікі гультай' (міёр., Нар. сл.). Гл. *надубень, надаўбень*.

**Надубы́рыцца** 'наставіць хіб, надзьмуцца, натапырыцца' (Юрч. Сін.). Новаўтварэнне на базе фразеалагізма *стаць дубарам* (*дубырым*, Бяльк.) 'стаць на дыбы; натапырыцца', што звязана з *дуб*, параўн. тыпалагічную паралель: ням. *sich bäumend* 'устаючы на дыбы' пры *Baum* 'дрэва' (Фасмер, 1, 549). Гл. *ду́ба*.

**Надува́нчык** 'адуванчык, дзьмухавец' (ТС), *надува́ньчык* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ). Зменeная пад уплывам *надуць* 'надзьмуць' руская назва *одуванчик* 'тс', відаць, у выніку цяжкасцей пры ўспрыняцці пачатку слова (ідэнтыфікацыі *а-* =*аб-*) і змены матывацыі («як надуты»); параўн. таксама рус. маск. *надуванчик* 'тс', што сведчыць аб дээтымалагізацыі тэрміна і спробах «мадэрнізацыі» яго формы ў межах самой рускай мовы.

**Наду́дліцца** 'напіцца праз меру, насмактацца' (Бяльк.). У аснове экспрэсіўнага ўтварэння — гукапераймальны элемент *-дуд-*, што можа быць звязана з *дуда, дуць* (гл.), параўн. *дудзіць* 'іграць на дудзе' і 'прагна піць' (Байк. і Некр.), рус. *надудо́литься, надуди́ться, надуда́риться* 'напіцца ўдосталь', а таксама іншыя дзеясловы з тым жа значэннем: *надудо́ніцца, наду́ндзіцца* і пад. (Трубачоў, Этим. сл., 5, 147).

**Надуко́ваны** 'выхаваны' (Пятк.). З *на-адукованы*, да *адукаваць, адукацыя* з наступным сцяжэннем галосных. Гл. *дукаваць*.

**Наду́м** 'мысленнае рашэнне' (Бяльк.). Аддзеяслоўны на-

зоўнік, параўн. *надумацца* 'задумаць, рашыць', *одум* 'развaжанне, роздум'. Гл. *думаць*.

**Надумáць** 'надуваць, навейваць' (бешанк., Нар. сл.). Да *дзьмуць* (гл.), параўн. таксама *надмáць* 'надуць' *надымáць* 'надуваць' (Нас.); *-ду* — у аснове, відаць, пад уплывам *дуць* — для ўсіх славянскіх моў характэрна змешванне асноў **duti* і **dǫti* (**duti*: **dujǫ*×*dǫti*: *dъmǫ*), гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 99—100.

**Надумбáшыцца** 'нахмурыцца': *небо надумбашылось* (ТС). Няясна.

**Надýндзіцца** 'напіцца ўдосталь, уволю' (слонім., Нар. лекс.), 'нассацца' (Сцяц.). Гл. *дундзець, дунда*.

***Надхлішча,** *nadchliszczo* 'адрыжка' (слонім., Арх. Федар.). Гл. *натхла, тхло*.

**Надчэ́кваць** 'чакаць' (мін., Жыв. сл.). Мясцовае ўтварэнне ад *чакаць* (відаць, пад уплывам польск. *czekać* 'тс'), аднак *э* на месцы *а* пад націскам можа адлюстроўваць дыялектную з'яву, параўн. *штаны́* — *штэ́нікі* і пад., і прэфікса *над-*, які тут перадае «адценне малой меры», параўн. *надкусваць* і пад. (ESSJ SG, 1, 127).

**Надыбаць** 'натрапіць, сустрэць' (Сцяшк. Сл.; Сцяц., в.-дзв., Шатал.), *надыбаць* 'наткнуцца, набрысці' (слонім., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ), параўн. *надыбаць рой* 'знайсці ў лесе дупло з роем' (ашм., З нар. сл.). Да *ды́баць* 'ісці, чыкільгаць' (гл.), параўн. *надыйсці́* 'натрапіць': *надышоў на грыбы* (Сл. ПЗБ).

**Надымáнкі** 'каралі' (рэч., Мат. Гом.). Гл. *надзімáнкі* 'тс'.

**Нады́сь** 'нядаўна, на днях' (Нас., Бяльк., Сцяшк. Сл.), 'цяпер, зараз' (Мат. Гом.), 'надоечы' (Жд. 1, Ян.), параўн. рус. *надысь* 'на днях, нядаўна', 'сягоння', укр. *надісь, надійсь* 'бадай, верагодна' (калі гэта не ад *надіятися* 'спадзявацца'). Узыходзіць да **onogъdy*+**si* або **onъdy*+**si* (ESSJ SG, 2, 526; Фасмер, 3, 38), гл. *нагды, надоечы*.

**Надыхáнка** 'хлеб з цеста, замешанага грэцкай мукой на аржаной рошчыне' (мядз., Нар. сл.). Відаць, да *дыхаць* 'падыходзіць, уздымацца (пра хлеб)', семантычная паралель — *пышка, пышны* ад *пыхаць* (гл. Фасмер, 3, 422).

**Надэ́чыць**₁ 'падбухторыць', *надэ́чыцца* 'падбухторыцца', *надэ́чаны* 'падбухтораны' (Яўс.). Утворана ад *дэ́чыць* 'павучаць, падбухторваць', *дэ́чыцца* 'навучацца, пераймаць', *дэ́чаны* 'навучаны', для якіх не выключана адналькавае паходжанне з *дэ́чыць* 'гаварыць', *надэ́чыць* 'нагаварыць', што выводзяцца з літ. *dėti* 'абгаворваць' (Сл. ПЗБ, 182). Можна меркаваць і пра блізкасць да дзеяслова незакончанага трывання *дукаваць* 'павучаць, падбухторваць' (гл.), форма закончанага трывання



ад якога была б *надукаваць* або **надучыць*, што вельмі блізка фармальна і семантычна да разглядаемага слова.

**Надэ́чыць**₂ 'змяшчаць' (Каханоўскі, Повязь часоў. Мн., 1985, 87), з тэксту не відаць, дзе распаўсюджана слова. Каханоўскі спрабуе звязаць з уласнай назвай *Маладэчна*, якая этымалагізуецца як 'малазмяшчальнае месца', паколькі населены пункт быў заснаваны паміж поймай ракі і Ашмянскім узвышшам. Няясна, магчыма звязана з літ. *dėti* 'класці, змяшчаць', *nudėti* 'залажыць, засунуць', што адпавядае слав. **dėti*, адно са значэнняў якога 'дзець, класці, змяшчаць' (гл. Абаеў, ВЯ, 1988, 3, 36); тады назва горада рэканструюецца як **malo-dětь-no* (суч. *Маладзечна*).

**Нае́дак** 'пажытак для арганізма ад з'едзенай стравы, сытнасць' (полац., Янк. 1; ТС), 'ежа (сытная)' (рагач., жлоб., жытк., Мат. Гом.), *нае́дкі* 'яда' (саліг., Нар. сл.), рус. *нае́дка* 'ежа, яда'. Параўн. *нае́дзены, нае́дны* 'сыты, пад'еты' (ТС), да *есці* (гл.).

**Нáедзь** 'хвароба коней' (пухав., Жыв. сл.), 'камень на зубах у каня', 'жалвакі ў сале пад сківіцамі ў свіней' (ТС). Ад *нае́сці*, гл. *е́сці*.

**Нáжа** 'удача' (ТС), *нáджа* 'надзея, спадзяванне' (драг., З нар. сл., столін., Нар. лекс.; лунін., Шатал.), параўн. *ненáджэно* 'нечакана, неспадзявана; незнарок' (ТС). Праславянскі дыялектызм **nadja*? Параўн. серб.-харв. *нáда* 'надзея, спадзяванне', славен. *nâda* 'тс'. Гл. *надзе́я*. Не выключана, што аналізуемае слова з'яўляецца аддзеяслоўным назоўнікам ад *нáдзіцца* 'спадзявацца, чакаць' або *нáдзіць* 'вабіць, прымяньваць'.

***Нажавáты,** *ножовáты* 'абзолісты' (ТС). Да *нож*, бо дошкі маюць няроўныя, вострыя краі (падобныя да ляза нажа).

**Нажалопкацца** 'наглытацца' (гродз., Цых.), *нажолупáцца* 'наглытацца не жаваўшы' (ТС), *нажлопацца* 'напіцца гарэлкі, нахлябтацца' (Сл. ПЗБ), рус. прыбалт. *нажелубáться* 'наесціся', польск. *nażłopać się* 'нахлябтацца'. Экспрэсіўныя словы, у аснове якіх ляжыць каранёвы элемент **žlop-* (параўн. польск. *złopać* 'прагна піць'), які чаргуецца са **žlok-* (параўн. *жлокаць* 'хлябтаць', *нажлокацца* 'нахлябтацца' (Нас.), што могуць узыходзіць да *лопаць* 'жэрці', *локаць* 'хлябтаць' з узмацненнем пры дапамозе пачатковага *ж-* (гл. *жлокаць*)). Звяртае на сябе ўвагу значнае падабенства ў семантыцы і фанетыцы літ. *žluõbti* 'жэрці, глытаць вялікімі кавалкамі' да славянскіх форм, таксама як і паралелізм *žluõbti*: *žluõbas* 'кармушка (для каровы)' і адпаведных славянскіх форм і назоўніка *жолаб (žłób)* 'драўлянае карыта; кармушка', што, улічыўшы кампактны арэал распаўсюджання экспрэсіўных

слоў, магло б сведчыць аб запазычанні ці хутчэй аб агульным паходжанні названых слоў.

**Нажлу́кціцца** 'напіцца празмерна' (ТС, мядз., Сл. ПЗБ). Да *жлу́кціць* 'піць' (гл.). Сюды ж *нажлугціцца* 'напіцца (гарэлкі)', якое Грынавяцкене (зб. Letuvių kalbos specialioji leksika. Vilnius, 1983, 186) выводзіць непасрэдна з літ. *žlùgti* 'мокнуць', *žlùgtas* 'жлукта', *нажлагта́цца* 'напіцца (гарэлкі)' (дзятл., ашм., там жа), што суадносіцца з літ. *žlaũgti* 'жлукціць (бялізну)', а таксама *нажлюхацца, нашлюхацца* 'напіцца (гарэлкі)' (Сл. ПЗБ).

**На́жма** 'крынічнае месца на схіле ўзгорка, дзе заўсёды сочыцца вада; гразкае месца', 'вялікая колькасць вады пад снегам або пад лёдам у час адлігі', 'прыліў вады ў рэчку, напор вады на плаціну' (Яшк.), рус. *нажи́м* 'топкае месца пад гарою, дзе збіраецца вада з крыніц', 'нізкае забалочанае месца', *нажо́м* 'тс'. Варбат параўноўвае з чэш. *na žmach* 'хоць выціскай', мараўск. *nažit vodú* 'набракнуць, набрацца вільгаці (пра грыбы, адзенне, зямлю)' (ОЛА, 1981, 277—279). Да **žęti*, **žьmǫ*, гл. *жаць, жмаць* 'ціснуць', параўн. іншыя назоўнікі з такім жа значэннем: *на́ціск, на́ціскі, напор* і пад. (Яшк.).

**Нажмяні́ць** 'пашкодзіць, натрудзіць руку работай на агародзе' (брэсц., Нар. лекс.). Да *жме́ня* (гл.).

**Нажні́цы**₁ 'ножны, нажнічкі' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *нажэ́нкі, нажэ́нькі* 'тс' (Сцяшк. Сл.; Жд. 1), *нажы́чкі* 'тс' (Нас.), *нажэ́нцы* 'тс' (Бяльк.). Гл. *ножны, ножніцы*.

**Нажні́цы**₂ 'панажы ў кроснах' (воран., Сцяшк. Сл.). Да *нага́, нажны́* 'які прыводзіцца ў рух пры дапамозе ног', параўн. *нажная сту́па* і пад.

**Нажор** 'вада пад вясеннім снегам' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Відаць, да **žьrati* 'паглынаць', параўн. *нажорціся* 'нажэрціся', а таксама рус. *нажо́р* 'набуханне скуры пасля апрацоўкі спецыяльным растворам', *нажораться* 'напіцца, нажэрціся'. Да словаўтварэння гл. *на́жма*.

**Нажоўка** 'невялікая пілка', Пяткевіч тлумачыць па-польску 'piłka t. zw. złodziejska' (Пятк.), рус. *ножо́вка* 'тс'. Да *нож, нажовы* 'які мае адносіны да нажа', хутчэй за ўсё ў выніку семантычнай кандэнсацыі атрыбутыўнага спалучэння тыпу *нажовая пілка,* параўн. тураўск. *ножо́ва ха́тка* 'похва для нажа'.

**Нажу́тка** 'жакет' (Жд. 1, Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ), 'летнік з сівага даматканага сукна' (навагр., Нар. сл.), 'безрукаўка' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.). З польск. *narzutka* 'жаночая накідка', ад *narzucić* 'накінуць'.

**Наза́д** (Нас., БРС, ТСБМ), рус. *назад,* укр. *назад,* польск. *nazad*, чэш. *nazad*, славац. *nazad*, в.-луж. *nazad*, славен. *nazaj*, серб.-харв. *на̏зад,* балг. *назад,* макед. *назад*. Са спалучэння прыназоўніка **na* і назоўніка **zadъ* у форме він. скл. адз. л., параўн. з формай дав.-месн. скл.— *наза́дзе* 'ззаду' (Сцяшк. Сл.), *назадзі́* (гродз., З нар. сл.) *назаду́* (ТС). Гл. Брукнер, 643; Шустар-Шэўц, 13, 995.



**Наза́рак** 'на наступны год' (Сцяшк. Сл.). Са спалучэння *на* (прыназоўнік) і *зарак* (прыслоўе), аналагічна да *наза́ўтра* 'на наступны дзень'; другая частка ў сваю чаргу са спалучэння прыназоўніка *за* і назоўніка *рок* 'год', якое ў выніку зліцця аформілася ў адно фанетычнае слова з пераносам націску на першую частку. Падобным чынам утворана і *назатакрок* 'пазалетась' (Сцяшк. Сл.), гл. *такрок*.

**Наза́ўтра** 'на наступны дзень'. Іншыя формы: *наза́ўтрэ, наза́ўтрае, наза́ўтрая, наза́ўтрыя, наза́ўтрага* (Сл. ПЗБ, Жд. 1; жлоб., Мат. Гом.; калінк., З нар. сл.), *наза́ўтро, наза́ўтрэй* (ТС). Са спалучэння *на* і *заўтра* (гл.), што ўяўляе род. скл. адз. л. ад назоўніка **utro* з прыназоўнікам **za*. Паводле Карскага, апошняя форма часта разглядаецца ўжо як наз. скл. і можа стаяць пасля розных прыназоўнікаў, у залежнасці ад чаго змяняецца і канцавое *-а: na zaųtra, ų zaųtry, da zaųtry* (Федар.), можа таксама прымаць канчаткі прыметнікаў (Карскі, 2—3, 74—75), як гэта дэманструюць прыведзеныя формы. Падобныя ўтварэнні вядомы іншым славянскім мовам, параўн. рус. *наза́втра, наза́втрие, наза́втрия, наза́втрее, наза́втраго* і пад., укр. *наза́втра, наза́втре,* польск. *nazajutrz, nazautrze,* чэш. *nazítří,* в.-луж. *nazajtra,* н.-луж. *nazajtša* і інш., аднак узніклі яны, відаць, самастойна ў кожнай з іх, параўн. Шустар-Шэўц, 13, 995.

**Наза́ўша** 'назаўсёды' (зэльв., Жыв. сл.), *наза́ўшэ* 'тс' (Сл. ПЗБ). Цалкам запазычана з польск. *na zawsze* 'тс' або ўтворана на мясцовай глебе пры дапамозе прыназоўніка *на* ад польск. *zawsze,* гл. *за́ўшэ*.

**На́збыт** 'празмерна, надзвычайна' (Нас.), ст.-бел. *назбытъ* 'занадта' (1518 г.). З польск. *nazbyt* 'тс' (Жураўскі, 1961, 10, 40; Булыка, Лекс. запазыч., 200).

**На́збышам** 'з надбаўкай, з вярхом' (Арх. Федар.). Прыслоўе ў форме твор. скл. адз. л. назоўніка **назбыш,* які ўяўляе хутчэй за ўсё вынік кантамінацыі *на́збыт* 'празмерна, надзвычай' (гл.) і *назвы́ш (<на+звыш)* 'вышэй, звыш' (Нас.).

**На́зва** 'назва, найменне' (Байк. і Некр., БРС, ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), *назва́нне (nazwáńnie)* 'тс' (Пятк.), *назва́ньe, назва́ніе, называ́ньe* 'тс' (ТС), *на́звішчэ* 'тс' (ТС), *назы́вішча* 'тс' (Сл. ПЗБ), рус. *назва́ние, на́звань, назва́нка, на́звище,* укр. *на́зва, на́звище,* польск. *nazwa, nazwanie, nazwisko,* балг.

*назва́ние*. Аддзеяслоўны назоўнік ад **nazъvati*, **nazyvati*, гл. *зваць*.

**Назві́ска** 'прозвішча' (астрав., Сцяшк., Сл.; пін., З нар. сл.), *назві́ска, назві́ско* 'найменне' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *назвиско (назвыско)* 'імя, прозвішча, мянушка', 'назва' (1576 г.). Запазычана з польск. *nazwisko* (Булыка, Лекс. запазыч., 185), у значэнні 'прозвішча' стабілізавалася, паводле Матушэўскага (Rozpr. Kom. Językowej Zódzkiego Tow. Nauk., 21, 83—99), толькі ў XX ст.

**Наздра́** 'кішкі ў гарбузе' (докш., Жд. 1). Гл. *мяздра́* 'тс', пачатак слова зменены, відаць, у выніку народнаэтымалагічнага збліжэння з *ноздры* 'ноздры' і асабліва 'поры ў харчовых прадуктах' (Сл. ПЗБ).

**На́зімка** 'азімая пшаніца' (Сцяшк.; брэсц., Нар. лекс.). Хутчэй за ўсё вынік семантычнай кандэнсацыі словазлучэння тыпу *пшаніца на зіму* (пасеяная) або са сцягнутага **назімая пшаніца*, параўн. укр. *назі́мий* 'азімы', такая мадэль з прыназоўнікам **na* вядома і іншым славянскім мовам, параўн. серб.-харв. *на́зиме* 'парася да аднаго года', *на̀зимац* 'паршук'; іншае значэнне прыназоўніка (прэфікса) у в.- і н.-луж. *nazyma* 'восень', першапачатковая семантыка 'ў напрамку зімы, паказваючы на зіму' (Шустар-Шэўц, 13, 995), польск. дыял. *nazima* 'позняя восень', параўн. *нале́цце* 'будучы год' (гл.).

**На́зіркам**, *на́зяркам* 'не спускаючы з вачэй (ісці, бегчы)' (Сл. ПЗБ, Бяльк., Нас., Янк. 2, Сцяшк. Сл.), *на́зірком* 'следам, не выпускаючы з поля зроку' (ТС), *на́зір* 'тс' (дзярж., Нар. сл.), рус. *назо́рком* 'тс', укр. *на́зирком* 'тс', польск. *nazierkiem*, *nazircem* 'тс'. Пры наяўнасці назоўніка *на́зір*, памянш. *на́зірак*, паводле распаўсюджанай мадэлі — твор. скл. назоўніка ў функцыі прыслоўя.

**На́зма** 'нара (лісіная)' (Мат. Гом.). Няясна; магчыма, звязана з рус. *назьма́* 'гной', *назьмы́* 'звалка гною', *назмить* 'угнойваць', якія выводзяць са спалучэння прыназоўніка *на* і назоўніка *земля* (Фасмер, 3, 39, пад *назём*); магчымая матывацыя — неахайнасць лісінай нары.

**Назна́йніцу** 'навыварат' (смарг., Шатал.; свісл., Сцяшк. Сл.), таксама *назна́нок, назна́нку* 'тс' (Нас.), параўн. рус. *наизна́нку* 'тс'. З *на*+**ізнаніцу*, апошняе з *на́ніц* 'навыварат' (гл.), у выніку дээтымалагізацыі збліжана са *знаць* 'ведаць', параўн. *зна́йніца* 'выварат, левы бок матэрыі' (Сцяшк. Сл.); аналагічна *на-знанок*, параўн. *зна́нок, зна́нка* 'тс', гл. Фасмер, 3, 123. Параўн. *найліхо́йніцу* (гл.).

**Назнарок** 'знарок, наўмысна' (Янк. 1, Мат. Гом., Сцяшк. Сл., ТС), *назнарокі* 'тс' (калінк., З нар. сл.), *назнаракі́* 'тс' (Янк. 3), *назнарочай* 'тс' (Ян.). З *на*+*з*+*на-рок*, параўн. *нарок* 'прадвызначэнне' (гл.); формы на *-і* адлюстроўваюць, магчыма, спалучэнне прыназоўніка з месн. скл. адз. л. або мн. л., канчатак *-ай*, відаць, пад уплывам прыслоўяў тыпу *надзвы́чай* і пад. (Фасмер, 3, 45; Махэк$_2$, 390). Гл. *нарокам*.



**Назобак** 'аброчная торба' (ДАБМ, камент., 825). Да *зоб* 'корм каню', параўн. *зобка* 'аброчная торба', літаральна 'торба на зоб'.

**Назола** 'дакука, прыкрасць, журба', 'надакучлівая асоба' (Нас., Яруш., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), *назол, назольнік* 'надакучлівая асоба' (Юрч., СНС), рус. *назола* 'нуда, журба, смутак', 'шкода', 'надакучлівы чалавек', укр. *назола* 'хто робіць многа турбот'. Сюды ж *назаля́ць* 'надаядаць, дакучаць' (Нас., Яруш., Шн., Сл. ПЗБ, ТС), *назале́лы* 'надакучлівы' (Сцяшк. Сл.), *назольный* 'тс' (Яруш.), *назо́йны* 'надакучлівы' (Бяльк.), а таксама выразы: *у назо́лу* 'на зло' (Булг.), *даваць назолу* 'назаляць' (Шн.), *назоля́ць на се́рцэ (на душу)* 'трывожыць у непадыходзячы час' (ТС). Прыведзены матэрыял, асабліва апошні фразеалагічны выраз, у аснове якога ляжыць нейкае канкрэтнае значэнне, аб чым сведчыць прыназоўнікавая канструкцыя з *на*, дае падставы для пошукаў архаічных адпаведнікаў у іншых славянскіх мовах, параўн. макед. *назоља̀м* 'пасаліць, пасыпаць нечым' у народнай песні, запісанай Міладзінавым: *«Му донесе билки чемерики/И назоли нему бело сърце»*, дзе *бело сърце* 'страўнік' (Тошев, Струшкиот говор. Скопје, 1979, 38, 103). Параўн. іншыя дыялектныя формы: макед. *zolit* 'пырскаць; пасыпаць; накрапваць' (Hendriks, The Radožda-Vevčani dialect of Macedonian. Lisse, 1976, 301), *зоља, зола* 'пасыпаць соллю, цукрам, парашком' (Белић, Галички дијалекат. Београд, 1935, 213), *золте* (<*зол те*, літаральна 'золь цябе', ужываецца як дакор, Поповски, Македонски јазик, 1959, 10, 133), балг. *назоля́вам* і *назолвам* 'пасыпаць' (Гераў), *назоля́ва* 'адкладвае яйкі на прадуктах, у якіх заводзяцца чарвякі (пра муху)' (БЕР, 1, 652), серб.-харв. *назоjё* 'пра нападзенне мух': *naзоjёле мӱе мёсо* (Елезовић, Речник косовско-метохиског дијалекта, 1. Београд, 1932, 435), *зоља, soља* 'камары' (Павловић, Говор Јањева. Нови Сад, 1970, 179). Такім чынам, першапачатковае значэнне дзеяслова рэканструюецца як 'пасыпаць ці пакрапіць нечым з мэтай лячэння' і фармальна звязана з прасл. **zola* 'попел' (гл. *зала́*), параўн.: *да ми гьи позолите ръцето со пепелта, кье ми оздравеат* (Младенов: Сб. Солун. София, 1934, 62); развіццё значэння да 'надаядаць, дакучаць, дапякаць' на падставе 'раздражняць рану, уздзейнічаючы на яе пры дапамозе лекаў, зёлак', параўн. народны выраз *надаеў, як горкае зелле*, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **zoliti* 'пасыпаць (попелам, парашком і інш.)'.

Агляд іншых версій: Гаўлава (Etymologica Brunencia. Praha, 1978, 34—35) рэканструюе прасл. **zoliti* 'шкодзіць, мучыць' на падставе ўсходнеславянскіх слоў і і.-е. паралеляў. Скок (3, 664): *зоља* 'мушка'<*zujati* (гукапераймальнае). Фасмер (3, 39) аддзяляе рус. *назойливый* 'надаедлівы' ад *назола*, выводзячы яго з *зой* 'шум', падрабязны разбор гэтай версіі і спробу фармальнай і семантычнай рэканструкцыі развіцця слова гл. Шалепіна: Русские говоры Сибири. Томск, 1981, 67—69; Шустар-Шэўц указвае на паралель в.-луж. *zelić* (⩽*zolić*) 'голасна клясці, праклінаць' і славен. *zoliti* 'крычаць, шумець', што можа сведчыць аб старажытнасці такой семантыкі (ВЯ, 1983, 46), параўн. яшчэ бел. *зяліць* 'тлуміць': *Зеліш ты сваімі песьнімі ўсю хату* (Яўс.). Не выключана, што ў развіцці асобных славянскіх моў назіралася змяшэнне розных дзеясловаў, блізкіх па форме, у прыватнасці са значэннем 'пасыпаць (попелам і інш.)' і 'крычаць, шумець'. Дарэчы, прыгатаванне лекаў у выглядзе парашкоў ці раствораў, атрыманых шляхам спальвання зёлак і іншых матэрыялаў, а таксама разбаўлення атрыманага попелу ў вадзе, з'яўляецца старажытнай практыкай народнай медыцыны (у прыватнасці, знахарства). Тым самым магчыма звязаць значэнне 'пасыпаць (попелам і інш.)' і значэнне 'заліць лугам (бялізну і інш.)'. Што датычыць *зяліць* 'тлуміць', звычайна *азяліць галаву*, то не выключана, што тут асноўнае значэнне не 'шумець', а 'выклікаць стан ачмурэння, выпіўшы настоенага зелля', пра што сведчыць і другое значэнне *азяліцца* 'напіцца гарэлкі' (параўн. *чортава зелле*=гарэлка), *азелены* 'затлумлены, п'яны' (Яўс.). Гл. *зала́, зелле, заліць*₁, *зяліць*.

**Назор** 'нагляд' (Дуж.-Душ.), параўн. у т. зв. духоўнай песні: *Ай сынку мой, сынку, царь небесный!/Да с ким мяне, деву, покидаешь?/Да кому ты назор святый оставляешь?* (магіл., Шн. 2, 615). Ад *назорыць* 'назіраць' (Бел. каз. эпас, 53). Рус. *назор* 'нагляд, дазор', укр. *назорити* 'убачыць, заўважыць'; у іншых славянскіх мовах адпаведныя словы ад **zъrěti* 'глядзець' маюць іншыя значэнні (чэш. *názor* 'погляд, думка', серб.-харв. *на́зор* 'думка, погляд', 'увага' і пад.), што, відаць, сведчыць аб незалежным характары іх развіцця. Гл. *зорыць*.

**Назорку** 'на золку, на світанні' (жлоб., будакаш., Мат. Гом.). Да *зара, зорка* (гл.), параўн. рус. *на зорьке* 'тс', магчыма, пад уплывам *на золку*, гл. *золак* 'світанак'. Аднак не выключана і больш старажытнае паходжанне слова, асабліва калі ўлічыць паралелізм у развіцці прасл. **zoliti* і **zoriti*.

**Назоў** 'назва' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), рус. *на́зовь, назовь* 'назва, найменне', *на́зыв, назы́в* 'тс', чэш. *název* 'тс', серб.-харв. *на́зив* 'тс', макед. *назив* 'тс'. Аддзеяслоўны назоўнік ад **nazъvati, *nazyvati*, гл. *зваць*.

**Назоўнік.** Гл. *назоўны*.

**Назоўны** (склон). Агульнаеўрапейская калька з лац. *nominativus*, параўн. рус. *именительный* (ад *имя*), польск. *mianownik* (ад *miano* 'імя', *mianować* 'называць') і г. д. (гл. Словарь славянских лингвистических терминов, т. 1. Прага, 1977, 344); апошні тэрмін або, магчыма, укр. *називний (відмінок)*, з'явіўся непасрэдным узорам калькавання. У далейшым, паводле адносін лац. *nomen* 'імя' — *nominativus* 'назоўны склон', шляхам семантычнай кандэнсацыі была створана пара *назоўны склон* — *назоўнік* з пераасэнсаваннем значэння 'форма, якая выступае ў назоўным склоне'.

**Назу́блены** 'прарослы' (ТС), *назубленае насенне* 'насенне, якое толькі пачынае прарастаць' (Жд. 1, Мат. Гом.), *назубіцца* 'прарасці' (Мат. Гом.), *назубіць* 'нарабіць вострых зубоў на лазе' (Яўс., Яруш., Сл. ПЗБ). Усё да *зуб*, параўн. літ. *žė́mbėti* 'прарастаць, пускаць расткі', літаральна 'зубіцца'.

**Называ́ты** 'запрашальнік (на вяселле)' (Мат. Гом.). Цікавае аддзеяслоўнае ўтварэнне на *-а́ты* са значэннем Nomina agentis, параўн. *ара́ты, памага́ты*. Да *зваць* (гл.), параўн. *пазыва́ты* 'пасланы для запрашэння', 'пасыльны ў судзе' (Нас.).

**Назы́знуць** 'напухнуць, набрыняць': *віма назызла* (у каровы) (полац., шарк., ул. інф.). Да *зызнуць* (гл.), адносна этымалогіі параўн. балг. *зъ́зна* 'дрыжаць ад холаду' (гукапераймальнае), адкуль магло развіцца значэнне 'апухаць ад холаду, рабіцца аслізлым (напрыклад, пра рукі)', параўн. Цыхун, Бел.-рус. ізал., 90.

**Назы́каць** 'напазычаць' (Мат. Гом.). Пры наяўнасці польск. *nażyczyć*, якое сярод іншых мае і значэнне 'пазычыць', можна было б думаць пра запазычанне, як сцвярджаецца адносна ст.-бел. *жичити, зычити* (Булыка, Лекс. запазыч., 114). Аднак варонеж. *жи́чить* 'пазычаць', а таксама геаграфія беларускага слова прымушаюць бачыць у ім мясцовае ўтварэнне, магчыма, на базе *па-зыка* 'доўг', параўн. тураўск. *іці (бегці) у позыку (позыкі)* (ТС); не выключаны ўплыў з боку дзеяслова *зыкаць* 'бегаць, гізаваць'.

**Назы́нуць** 'наваліцца, напасці' (Юрч.). Да *зы́нуць* (гл.).

**Назы́рны** 'неадчэпны, надакучлівы' (Сцяшк.). Няясна. Па структуры вельмі падобна да *настырны*; магчыма, да *зырыць, зырыцца* 'пільна ўглядацца', што ў сваю чаргу **zьrěti* 'глядзець'.

**Назява́ць** экспр. 'накрычаць' (паст., Сл. ПЗБ). Да *зява́ць* 'моцна крычаць, гарланіць' (Нас.), параўн. *зява́ць* 'пазяхаць'

(там жа), гл. Звяртае на сябе ўвагу аднолькавае развіццё значэння ад 'пазяхаць' да 'крычаць' у беларускага і славенскага дзеяслова *zęvati*.

**Назяліць:** *дзеці населюць галаву* (бялын., Янк. 3). Да *зяліць* 'надакучаць, дурыць' (гл.).

**Наіграны**, *найгра́ны* 'пра яйцо з зародкам' (стаўб., Нар. сл.; нараўл., Мат. Гом.). На базе эўфемізма *іграць*, параўн. тураўск. *певень с курой грае* (=апладняе яе). Параўн. таксама *награ́ны* (гл.).

**Наіўны** 'недасведчаны, легкаверны' (ТСБМ). З франц. *naïf* праз рус. *наивный* або польск. *naiwny*, вядомае і ў народных гаворках (параўн. Reczkowa B. Wyrazy pochodzenia francuzkiego w gwarach polskich. Wrocław, 1982, 92).

**Най-** — прыстаўка найвышэйшай ступені параўнання, рус. *наи-*, укр. *най-*, польск. *naj-*, чэш. *nej-*, славац. *naj-*, славен. *naj-*, серб.-харв. *нај-*, балг. *най-*, макед. *нај-*. Прасл. **nai-* з *na₁-* пры дапамозе ўзмацняльнай часціцы *-j (į)* (ESSJ, SG, 2, 433—435; Фасмер, 3, 33, 39; Шустар-Шэўц, 13, 982; Бязлай, 2, 213). Гл. *на-*.

**Найба́рдзей** 'асабліва, рус. в особенности' (Яруш.). Відаць, запазычанне з польск. *najbardziej*, найвышэйшая ступень ад *bardzo* 'вельмі'; значэнне беларускага слова найбольш блізкае да другасных значэнняў польск. *najbardziej* 'зусім не, самае меншае' (Варш. сл.).

**Найбогу** 'яйбогу, дадушы, папраўдзе' (Бяльк.). З *ну, яйбогу?*

**На́йда** 'знайдыш' (Гарэц.), 'прайдзісвет' (Жд. 1), 'нахабная, непаседлівая, назола' (Бяльк.), 'гаваркая жанчына' (ветк., Мат. Гом.), 'жанчына, якая любіць хадзіць па хатах' (жлоб., Жыв. сл.), 'распусная жанчына' (Яўс.), а таксама *на́йдыш* 'знайдыш' (суфікс *-ыш*, гл. Карскі, 2—3, 38). Усе экспрэсіўныя значэнні, відаць, на аснове першаснага 'знайдыш', параўн. заўвагу Насовіча да слова *найдыш* — «употребл. как ругат. слово на возрастного» (Нас.). Ад *найсці* 'знайсці'.

**Найдзён** 'знайдыш, пазашлюбнае дзіця', 'падкідыш' (Нас., ТС), *найдзёна* 'тс' (пра дзяўчынку) (Нас., ТС), а таксама *найдзёнок, найдзённік*. Пры наяўнасці субстантываванага прыметніка *найдзёны* і словазлучэння *найдзёнэ дзіця* 'пазашлюбнае дзіця' (ТС) лёгка ўявіць працэс утварэння назоўнікаў шляхам семантычнага згортвання. У выніку аналагічных працэсаў узніклі рус. *найдён, найдёна* 'тс', чэш. дыял. *najdený* 'тс', славен. *najdenec, najdenik* 'тс', балг. *Найден* (імя ўласнае), *найдено дете* 'знайдыш', што магчыма, дае падставы для рэканструкцыі прасл. **naįdьnъ*, субстантываванага прыметніка, адносна семантыкі якога можна выказаць



наступныя меркаванні: хутчэй за ўсё першаснае значэнне было 'знойдзены', што мела засцерагальную функцыю ў адносінах да дзіцяці. Машынскі піша пра надаванне імені 'знайдыша' ў Балгарыі (уласныя імёны Найден, Найда), што мае на мэце абмануць злыя сілы, якія не спрыяюць патомству пэўнай сям'і (Kultura, II, 1, 277). Гл. *найці, найціся*.

**Найліхоўніцу** 'навыварат' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Ад незафіксаванага **ліхоўніца*, што магло быць утворана шляхам семантычнай кандэнсацыі з устойлівага словазлучэння *ліхі бок (ліхая старана)* 'левы бок матэрыі і пад.', проціпастаўленага ўстойліваму словазлучэнню *добры бок* 'правы бок', параўн. *надобрыцу* 'на правы бок' (гл.); апошняе магло стаць узорам для ўтварэння слова і без стадыі семантычнай кандэнсацыі. *Й* пасля прыназоўніка (=прыстаўкі) *на з*'явілася, магчыма, на марфемным шве ў выніку універбацыі (=зрашчэння) прыназоўнікавага словазлучэння (як кампенсацыя знікаючай паўзы?).

**Найм** 'наём, найманне' (ТС), часцей мн. *на́ймы* 'тс' (Нас., Гарэц.), укр. *на́йми* мн., адз. *на́єм*, рус. *наём*, польск. *najem*, чэш. *nájem*, славац. *nájom*, н.-луж. *najam*, славен. *nájem*, серб.-харв. *на̏јам*, балг. *на́ем*, макед. *наем*. Прасл. **najьmъ*, вытворнае ад **jęti, jьmǫ*, гл. *няць, яць*.

**Наймéнна** 'абавязкова' (ашм., Сцяшк. Сл.), *найі́менна* 'абавязкова, дакладна' (маладз., Янк. Мат.). Са спалучэння **на іменне*, параўн. *іменне, іме́нне* 'імя' (Нас.), якое магло значыць 'на імя (ведаць)', г. зн. 'дакладна, пэўна', тады канцавое *-а* пад уплывам адпаведных прыслоўяў. Цікавую семантычную паралель, якая можа сведчыць у карысць версіі, даюць *іменна* (ад *імя*) і *менавіта* (<польск. *mianowicie* ад *miano* 'імя'), згодна з Брукнерам (329), першаснае значэнне 'называючы (па імёнах)'. Гл. наступнае слова.

**На́ймі** ў выразе: *наймі відзець* — бачыць сваімі вачамі (іўеў., Сл. ПЗБ). Відаць, са спалучэння *на імя (ведаць)*, першапачаткова 'добра, дакладна (ведаць)', пасля ў выніку дээтымалагізацыі спалучаецца і з іншымі дзеясловамі; канцавое *-і* адлюстроўвае, відаць, зменена *-е* (<*на́йме*). Параўнанне з польск. *przynajmniej* 'прынамсі' (Сл. ПЗБ) не мае падстаў, бо не стасуецца да прыведзенага кантэксту. Дакладная паралель чэш. *pajmě*, славац. *najmä* 'іменна' (ад *jméno*, Махэк₂, 230), серб.-харв. *наиме* 'а іменна'. Гл. таксама Копечны, LF, 89, 1966, 1, 82—86.

**На́йміт** 'наёмны работнік, парабак' (БРС, Нас., Гарб., Грыг., Пятк., ТС), 'наёмнік' (Гарэц., Яруш.), *на́йміты* 'наёмны рабочы, парабак' (ТС), таксама *на́ймітка* 'парабчанка, служанка' (Грыг., ТС, Сл. ПЗБ), *на́йметка* 'тс' (Нас.), *на́ймічка* 'тс'

(Янк. 1, Кліх, Сл. ПЗБ, ТС), *наймітная* 'служанка' (клімав., Растарг., Да характ., 207), *наймітá* 'наёмныя работнікі ці работніца' (Ян.). Рус. *наймит, наймúта, наймитка, наймичка,* укр. *нáймит, нáймичка, нáйміття* (зборн.), польск. *najmit, najmitka* (з укр., Варш. сл.). Утворана ад **najьтъ,* гл. *найм* 'наём, найманне', пры дапамозе рэдкага суфікса *-іт-*, параўн. *касьбіт, малацьбіт,* што далучаецца пераважна да асновы аддзеяслоўных назоўнікаў (Сцяцко, Афікс. наз., 53).

**Нáймя** (Нас. Сб., 168) 'імя' (Нар. сл.), *нáйме* 'найменне, празванне, мянушка' (Нас., Гарэц., Яруш.), *найменне* 'тс' (Гарэц., Яруш.), *найменье* 'назва, абазначэнне' (ТС). Са спалучэнняў *на імя, на іменне* 'па імені' ў выніку зрашчэння прыназоўніка з назоўнікам *імя,* гл. у Насовіча: *Як тобе найме?* Параўн. *наймі.*

**Нáйніца** 'левы бок адзення' (мядз., Нар. сл.). Параўн. *знайніца* 'тс', што з **ізнаніца (<*из+наниц* 'навыварат'). Гл. *назнайніцу.*

**Найпагатові** 'больш за ўсё, асабліва' (Яруш.). Прэфікс найвышэйшай ступені параўнання *най-* з прыслоўем *пáгатаві (пóготови)* 'больш за ўсё, тым больш': *Коли тобѣ, такъ мнѣ поготови треба* (Нас.); апошняе — з *па-* (ужываецца для ўзмацнення вышэйшай ступені параўнання) і *гатовы* (гл.) у кампаратыве.

**Найпáчэ** 'больш за ўсё, асабліва' (Пятк.), укр. *найпáк, найпáче* 'найбольш, асабліва', рус. *наипáки* 'асабліва', *наипáче* 'іншым разам, часам', 'як быццам, накшталт', смален. *найпаче* 'больш за ўсё, асабліва', балг. *нáй-пáче* 'тс', макед. *најпаче* 'тс', ст.-слав. **наипаѵе** 'тс'. Найвышэйшая ступень параўнання ад *пак(і)* 'усё ж' (гл.), падрабязней гл. ESSJ SG, 2, 537.

**Найсáма** 'звыш меры': *найсамо хужэй* (ТС). Найвышэйшая ступень параўнання ад займенніка *сам (сама),* які сам ужываецца для перадачы найвышэйшай ступені прызнака, адпавядаючы па функцыі часціцы (прэфіксу) *най-: само больша* 'найбольшая', *само трудней* 'цяжэй за ўсё', тады *найсамо хужэй* 'звыш меры дрэнна'. Гл. ESSJ SG, 2, 591.

**Найсампярод** 'перш за ўсё, раней за ўсё': *ciuciun najsampieród wyras na mahíli niéjakaho wielíkaho czaraùniká* (Пятк. 2, 42). Зрашчэнне *найсам(а)* (гл.), выконваючага структурную функцыю часціцы для ўтварэння найвышэйшай ступені, і прыслоўя *пярод,* параўн. славац. *najsamprv, najsamskôr* 'перш за ўсё, хутчэй за ўсё' (ESSJ SG, 2, 591).

**Найстрыць** 'навастрыць', *найстрыны* 'навостраны' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Паводле Карскага (1, 159), вытворнае ад *істрыць* (гл.): у гаворках, якія ведаюць на месцы *о* ненаціскнога ў пэўных складах *ы,* пачатковае *о* ненаціскное ў некаторых словах



змяняецца ў *і,* паколькі *ы* ў пачатку слоў не сустракаецца: *іпяць, ігарод, ігурец, імбарь* — усе прыклады з паўночнага ўсходу Беларусі, дзе *і* фактычна не на месцы *о,* а замяніла рэдукаваны галосны, які з'явіўся на яго месцы. Аднак фіксацыя *найстрыць* на захадзе ставіць пад сумненне такое тлумачэнне. Магчыма, тут уплыў форм тыпу *войстры, гойстры.*

**Найсці́,** *найці́* 'найсці', 'знайсці', 'нарадзіць' (Бяльк., Яруш., Кліх, Пятк., Сл. ПЗБ, ТС), *найсціся, найці́цца* 'знайсціся', 'нарадзіцца' (Жд. 1, Сцяшк. Сл., Мат. Гом., Юрч., Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. рус. *найтú,* укр. *найтú,* польск. *najść,* чэш. *najít,* славац. *nájsť,* в.-луж. *nańć, nadeńc,* н.-луж. *najś,* славен. *nájti,* серб.-харв. *нáћи,* балг. *нáйда,* макед. *найде,* што дае падставы для рэканструкцыі **na-iti* (гл. *ісці),* звычайна са значэннем 'найсці, напасці, натрапіць' і 'знайсці' (параўн. Копечны, Zakl. zasoba, 65). Значэнне 'нарадзіць', 'нарадзіцца', якое адлюстроўвае эўфемізм, што мае засцерагальную (ахоўную) функцыю (паводле Машынскага, «ma na celu wprowadzenie w błąd złych mocy», Kultura, II, 1, 277), таксама вядома больш шасці славянскім мовам, параўн. рус. *найти сына* і прынятыя формулы, што «тлумачаць» дзецям іх з'яўленне: *найти в крапиве, найти за углом,* серб.-харв. *нашло се дијете* (Вук) і інш.

**Найяснéйшы** 'святлейшы (граф, князь)' — тытул (Гарэц.). З польск. *najjaśniejszy* (напр., *najjaśniejszy królu)* 'найдастойнейшы', што ў сваю чаргу калька з заходнееўрапейскіх моў, параўн. рус. *ваша светлость* — зварот у царскай Расіі да асоб пэўнага рангу.

**Накагáліцца** 'назбірацца' (ТС). Да *кагáл* (гл.).

**Накáз** 'запрашэнне', 'паведамленне, апавяшчэнне', 'наказ' (Яруш., Гарэц.; валож., Жыв. сл.; Яўс.). Ад *наказáць* 'паведаміць праз каго-небудзь (запрашэнне, вестку)', да *казаць* (гл.).

**Наказáнне** 'пакаранне' (уздз., Жд. 1). Відаць, запазычана з рус. *наказание* 'тс' або праз ц.-слав., дзе са ст.-слав. **наказаниѥ** 'настаўленне, павучанне, пабуджэнне, выпрабаванне' (Саднік, Айцэтмюлер, Handwörterbuch, 60), на аснове чаго развілося значэнне 'распараджэнне, пакаранне', 'загад'. Усё да **kazati,* гл. *казаць, наказаць,* параўн.: *Прыедзь, накажы, каб хлеб прывязлі* (=загадай, Сл. ПЗБ, 150) і балг. радоп. *наказ* 'мука, наказанне, напружаная праца да зморы'.

**Наказíрыць** 'разверадзіць, дапячы' (слонім., Жыв. сл.). Няясна, магчыма, да *кáзіць* 'псаваць, шкодзіць' з экспрэсіўным суфіксам *-ір-(-ыр-).*

**Наказлавáцца** экспр. 'наванітаваць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Гл. *казлаваць* 'ванітаваць', *казлы*[12] (у выразе *казлы драць).*

***Наказнáць,** *накэзнáты* 'закілзаць (каня)' (брэсц., Нар. лекс.). Калі гэта не пераробка з *кілзáць,* то хутчэй за ўсё можа

быць аднесена да **kaznь*, параўн. польск. *kaźń* 'пакаранне', гл. *казна́, казні́ць*.

***Наказу́біцца,** *накозу́бытыся* 'натапырыцца, надзьмуцца, пакрыўдзіцца' (пін., столін., Нар. лекс.), *накозубытысь* 'тс', *накозубленый* 'насуплены' (Клімч.), *накозобіцца* 'надзьмуцца, насупіцца' (ТС). Параўн. тураўск. *козубом стаць* 'натапырыцца, запярэчыць, заўпарціцца', ад *козуб* 'вялікі кошык з кары'.

**На́калеска** 'планка, якая змацоўвае капылы саней' (Сл. ПЗБ), *накалесніцы* 'наклесніцы, намаразні, плашкі, што насаджваюцца на капылы для звязкі', *накылісьніцы* 'тс' (Бяльк.). Хутчэй за ўсё з **на-колес-ка*, да *калясо, кола* (гл.), параўн. рус. *на́клеска, накле́ска, наклёска,* якое побач са значэннем, аналагічным беларускаму слову, мае іншае, якое можна лічыць першасным: 'верхні падоўжны брус у возе, што злучае заднюю вось з пярэдняй' (СРНГ), параўн. і больш празрыстае этымалагічна *наколеска, наколёска* 'тс'.

**Накале́снік** 'воз (сена)' (жытк., Мат. Гом.), рус. уральск. *наколёсник* 'невялікі воз (сена)'. Да *калёсы* 'воз', параўн. *калявнік* 'воз (сена і інш.)', літаральна 'колькі змяшчаецца на калёсы', тая ж мадэль — *навільнік* 'колькасць чаго-небудзь, што змяшчаецца на вілы, можна ўзяць на вілы' і пад.

**На́калле** 'ўсё, што ёсць навакол' (Яўс.). Відаць, з **на-окол-ье*, гл. *вокал, навокал,* са сцягнутым двайным *а* (другое, у выніку акання з *о*).

**Накалпа́к** 'вузлом на патыліцы (пра манеру завязваць хустку)' (Сцяшк. Сл., маладз., Янк. Мат.), *нъкалпы́к* 'тс' (мёр., Нар. сл.), *накалпа́к* 'абы-як (завязваць хустку)' (Жд. 2). Да *каўпак* 'высокая шапка' (гл.), захаванне *л* пасля галоснага сведчыць аб параўнальна новым запазычанні з цюрк. (крым.-тат.?) kalpak 'шапка'.

**Накалтані́ць** 'убіць, удзяўбці': *трэба яму добра накалтаніць у галаву*. Запіс Грынавяцкене, якая лічыць слова балтызмам, суадносным з літ. *į-kálti* 'тс' (Lietuvių kalbotyros klausimai, XXII, 188); хутчэй мясцовае ўтварэнне на базе літ. kálti 'тс'.

**На́кальны** 'упарты, свавольнік, разбэшчаны, дураслівы, непаслухмяны (пераважна пра дзяцей падросткаў)' (бялын., Янк. 3). З **на-коль-ны,* да *кол,* г. зн. 'варты, каб пасадзіць яго на кол', параўн. *накольнік* (гл.).

***Нака́мкаваць,** *нака́мкуваты* 'скардзіцца на хваробу, боль' (Клімч.). Да *ка́мкаты* 'квакаць (пра лягушку); скардзіцца, ныць', хутчэй за ўсё гукапераймальнае.

**Накане́чнікі** 'дзве дошкі, якія прымацоўваюцца па краях страхі і сходзяцца ўверсе, утвараючы канёк' (расон., Шатал.). Як відаць з тлумачэння, да *канёк* 'вільчык', аднак фанетычная форма сведчыць аб магчымым збліжэнні з *канец*.



**Наканована,** *наканава́на* 'суджана, прадвызначана' (бялын., Янк. 3; Гарэц.; барыс., Шн. 2), параўн.: *калі памру, значыць, гэто так накановано* (Дэмб.). Да *кон, канаваць* 'вызначаць лёс', што звязана з уяўленнем пра вызначэнне лёсу чалавека ў самым пачатку яго жыцця, параўн. у Насовіча: *Кому бог якую смерць конуець, наконуець, так і ўміраець кажен* (Нас., 244).

**Накану́ні** 'напярэдадні' (ТС). Запазычана з рус., ц.-слав. *накануне* 'тс', дзе ад *канун* 'богаслужэнне напярэдадні свята', гл. Фасмер, 3, 38. Не выключана і самастойнае ўтварэнне ад ц.-слав. *канун* 'пярэдадзень', пра што можа сведчыць заканчэнне слова.

**На́капась** 'напасць' (круп., Сл. ПЗБ). Відаць, да *ка́пасць* 'зло, непрыемнасць', *на ка́пась* 'на зло', гл. *ка́пасны.*

**Накапса́ць** 'наштурхаць' (Янк. 2). Да *капса́ць* (гл.).

***Накапу́зіцца,** *накапу́зытыся* 'мець выгляд хваравітага чалавека з пахіленай набок галавой' (драг., Нар. словатв.). Відаць, ад *капу́за* 'вялікая шапка' (гл.).

**Накара́скацца** 'навязацца' (кіраўск., Нар. сл.). Да *карас-кацца* 'карабкацца' (гл.), аднак семантыка сведчыць аб сувязі з *адкара́скацца* 'адвязацца, адчапіцца', з якога, відаць, шляхам субстытуцыі суфіксаў і было ўтворана слова.

**Накаса́цца** 'навязацца, прычапіцца' (Гарэц., Бяльк., Сцяшк. Сл., Юрч., Шн., Рам.), сюды ж *на́кась* 'назола' (Яўс.), *на́касць* 'няшчасце, бяда' (Сцяшк. Сл.), *накаснік* 'злыдзень' (Полымя, 1980, 8, 253); параўн. таксама *накасні́ць* 'адабраць сілы' (Сл. ПЗБ). Гл. *касны* 'дрэнны', якое суадносяць з рус. *касть* 'сваволыства, паскудства', 'дрэнь, брыдота' і інш., што, паводле Трубачова (Эт. сл., 9, 158), узыходзіць да прасл. дыял. **kastь,* параўн. *накасціць* 'паскудзіць, брудзіць' (Нас.). Параўн. таксама *касі́цца* 'спраўляць гулі': *Касяцца чорты ў Радзіцком болоці* (ТС). Не выключана, што дзеяслоў *накасацца* суадносіцца з рус. *касаться* 'дакранацца', параўн. асабліва *адкасацца* 'адвязацца, адчапіцца', гл. *адкасывацца;* у такім разе, магчыма, што пералічаныя вышэй словы могуць мець рознае паходжанне: словы са значэннем 'навязвацца, надаядаць' належаць да **kasati (sę),* што чаргуецца з *часаць* (Бернекер, 1, 491; Фасмер, 2, 206), астатнія да **kastь,* што звязана з **kostь* (Трубачоў, Эт. сл., 9, 157), гл. *касціць.*

**Накастры́чыць** 'накласці абы-як, многа' (слонім., Жыв. сл.). Магчыма, да *касцёр* 'града ці стажок дроў' (гл.).

**На́кась** 'наўкос' (Гарэц., Др., Сцяшк. Сл.; калінк., З нар. сл.), 'коса' (Яўс.), *накаські* 'тс' (Яруш.), *накася́к* 'перакошваючы, абыякава, няправільна' (Янк. 3). Утворана з прына-

зоўнікавага словазлучэння *на кось,* дзе выступае адпрыметнікавы назоўнік са значэннем 'нешта касое'.

**Нака́т** 'дарога, вымашчаная бярвеннямі' (Жд. 1), 'рад бярвенняў, якія накладваюцца на ўжо звязаны плыт' (Нар. сл.), 'след ад колаў, воза' (Бяльк.). Усё ад *накаціць, наката́ць,* гл. *ката́ць* у розных значэннях. Сюды ж *нака́тнік* 'тонкае бервяно' (Гарэц.).

**Накатага́ніць** 'наварыць' (Мат. Гом.). У слове ідэнтыфікуецца прыстаўка *на-* і канцавая частка, звязаная з *тага́н* 'вялікі касцёл', што датычыць *-ка-,* то яна можа быць суаднесена з вядомай экспрэсіўнай прыстаўкай *ка-,* параўн. *кату́рхаць* (гл.) і пад.

***Накаўба́сіць,** *накоўба́сіць* экспр. 'няроўна напрасці' (ТС). Магчыма, да незафіксаванага **каўба́сіць* 'блытаць', утворанага пры дапамозе экспрэсіўнага суфікса *-ас-* ад асновы, прадстаўленай у *коўб* 'вузел, камяк', параўн. *джыг-ас-іць* 'сцябаць крапівой' і пад. Ад названага дзеяслова таксама *коўбаса́* 'патаўшчэнне на дрэнна спрадзенай нітцы': *Напрала — там каўбаса, а там тонко* (ТС).

**Накашалі́ць** 'нагаварыць недарэчнага' (трак., Сл. ПЗБ), 'нарабіць беспарадак' (свісл., Сцяшк. Сл.). Параўнанне з літ. *kašelė́ti* 'пашкодзіць па глупству' не здаецца пераканаўчым, тым больш што і само літоўскае слова вельмі падобна на запазычанне са славянскіх моў, напрыклад, можа апірацца на фразеалагізм *кашалы́ гарадзіць* 'гаварыць недарэчнае' (Сл. ПЗБ). Гэта датычыць і беларускага слова, для якога зыходным мог стаць шырока вядомы фразеалагізм *пле́сці кашалí* — гаварыць недарэчнае, прамое ж значэнне прыведзенага спалучэння магло быць падставай для значэння 'нарабіць беспарадак'.

**Наквéкаць** экспр. 'намазаць' (Мат. Гом.). Да *квэ́цаць, квéцаць* 'мазаць' з узнаўленнем канцавога *к.*

**Накéрзаць** 'зрабіць абы-як' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *кéрзаць* 'плесці няўмела', згодна з Лаўчутэ (Балтызмы, 67), з літ. *ker̃zinti, kerzénti* 'марудна рухацца'.

**Накéўзаць** 'наквэцаць' (ТС), *накéлзаць* 'тс' (рэч., Нар. сл.). Да *кéўзаць* (гл.), якое Лаўчутэ (Балтизмы, 113) выводзіць з літ. *kiaũzoti* 'мазаць, пэцкаць' на падставе фанетычнага крытэрыю (спалучэння *ке,* нехарактэрнага для беларускай мовы).

**Накмéтнік** 'нейкая расліна': *а накметнік штоночы мярэсціцца* (Бічэль-Загнетава). Відаць, да *накмéціць* 'прымеціць, пазначыць', гл. *кмéціць.*

**Накол** 'рог хусткі' (чэрв., Сл. ПЗБ), *наклы́* 'па вуглах' (там жа), рус. пск. *накло́* 'мыс берага, каса', 'неглыбокае месца, парослае трыснягом' (СРНГ), польск. *Nakło* (тапонім), чэш.



*nákli* 'зараслі маладой вярбы', *nákel* 'вільготнае месца з вярбовымі 'зараслямі', *náklo* 'месца каля ракі', славен. *Naklo* (тапонім, гл. Бязлай, Eseji, 163), серб.-харв. *на̂кла* 'глыбокае месца ў рацэ', *nákla* прысл. 'дадолу, на зямлю' (Šimunović, Olesch. Čak.-deut. Lexikon, 3, 538). На падставе наяўных матэрыялаў можна рэканструяваць у якасці зыходнай формы прасл. **nakъlъ, *nakъlo* 'выступ', прыставачнае ўтварэнне з прэфіксам *na-,* параўн. сінанімічнае да яго **zakъlo* (гл. *за́кла),* ад асновы *kъlъ* 'зуб, клык, малады парастак', якая ўзыходзіць да **kolti* 'калоць', гл. Брукнер, 354; Махэк₁, 317; Скок, 2, 500; спецыяльна гл. Варбат, Этимология-1972, 49—53. Для шэрагу вучоных аснова і першаснае значэнне слова застаюцца няяснымі (Махэк₂, 388; Бязлай, 2, 213). Ондруш звязвае з балг.-макед. *натлак* 'нанос' і праз стадыю пераходу *-tьl->-tl->-kl-* спрабуе звесці да *-tьlo* (Slavica Slovaca, 16, 1981, 3, 230—235). Гл. таксама: Борысь, Onomastica Jugoslavica, 11, 1984, 1—9. Наяўнасць беларускіх і рускіх форм пярэчыць сцвярджэнню Налепы пра выключна заходнеславянска-паўднёваславянскі характар слова, на якім грунтуюцца далёка ідучыя этнагенетычныя вывады, параўн. Nalepa J. Słowiańszczyzna północno-zachodnia. Podstawy jedności i jej rozpad. Poznań, 1968, 70—72.

**Накольнік** 'неслух, свавольнік, гарэза' (Касп., Яўс., ТСБМ), *накольніца* 'круцёлка, гарэзніца' (слуц., Жыв. сл.). Казлова (БЛ, 21, 62) лічыць, што яно ўтворана на базе прыметніка *на́кальны* 'ўпарты, разбэшчаны, дурасліві, непаслухмяны' (гл.), і параўноўвае яго з балг. *нако́лник* 'вулічны хлапчук, вісус, гарэза', што дае падставы для рэканструкцыі лакальнага прасл. **nakolьnikъ* — суфіксальнага дэрывата ад прыметніка **nakolьnъjь.* Балг. *нако́лник* выводзяць ад *ко́ло* 'кола' (Младэнаў, 328) з першапачатковым значэннем 'вёрткі, рухавы чалавек'. Казлова (там жа) адносіць сюды ж бел. *падкольнік* 'чорт', 'той, хто надакучае сваім свавольствам і пранырствам', суадноснае з *падкольны* 'чартоўскі', параўн. яшчэ *подко́льная* 'злы дух, які, паводле павер'яў простых людзей, жыве пад колам у млыне' (Нас.). Іншы падыход дыктуе параўнанне з *раскол* 'разбойнік', *аскола* 'вісус, чалавек, што ўсюды паспее' (Бяльк.). Хутчэй больш прыдатнай з'яўляецца іншая этымалогія, згодна з якой *на́кальны,* параўн. таксама *накольны* 'даходлівы' (Сцяшк. Сл.), відаць, 'праныра', са спалучэння *на кол* (пасаджаны), пра што сведчыць і архаічны тып націску на прыстаўцы (прыназоўніку); семантычная паралель добра прадстаўлена ў *аторва* 'шыбенік, вісус', рус. *сорване́ц* 'тс', польск. *urwaniec* 'тс', г. зн. 'той, хто вырваўся з-пад шыбеніцы (калі адарвалася вяроўка)'. Тады *накольнік* 'той, хто варты быць

пасаджаны на кол'. Такая этымалогія не перашкаджае пагадзіцца з рэканструкцыяй праславянскага дыялектызма, прапанаванай Казловай, паколькі і балгарскія факты сведчаць аб такім жа паходжанні слова, параўн. тлумачэнне, якое даецца слову *накóлник* ў слоўніку Герава — 'обесник, въжник' (='шыбенік'), народную прымаўку: *Събрали се ут кол, уд въже* і тлумачэнне да яе 'набітыя на кол' і 'павешаныя на вяроўцы' (Сборник на Българско книж. дружество в София, 1, София, 1901, 27).

**Накопіч** 'сноп, якім накрываюць мэндлік' (навагр., Нар. словатв.), *накопычыты* 'накласці' (Клімч.). Да *капá, капіца* 'ўкладка снапоў'.

**Нактáйза** 'гальштук' (воран., Сцяшк.), *мiктáйза* 'тс' (гродз., Сцяшк. Сл.), *міхтáйка, мыхтáйка* 'тс' (драгіч., Бел.-польск. ізал., З нар. сл.), *нактáйза, натáйза* 'тс' (беласт., Бел.-польск. ізал.), польск. *naktajza* 'тс'. З англ. *necktie* 'тс', якое трапіла ў заходнія раёны Беларусі і ў паўночна-ўсходнюю Польшчу ў пач. XX ст. праз эмігрантаў са Злучаных Штатаў Амерыкі (гл. Стэфэн, JP, 52, 1972, 51—53; Слушкевіч, JP, 1972, 377—378; Глінка, Бел.-польск. ізал., 30). Змяненні ў фанетычным вобліку слова, паводле Лучыца-Федарца, тлумачыцца народнаэтымалагічным зближэннем з *міхтíты (мігтíты)* 'мігцець, стракацець' (БЛ, 9, 1976, 71). Замацаванне слова ў раёне, суседнім з Літвой, тлумачыцца, відаць, блізкасцю да літ. *niẽktauza* 'пра таго, хто гаворыць глупствы', што, магчыма, выклікала іранічныя асацыяцыі і садзейнічала экспрэсіўнай маркіроўцы слова, а таксама пераафармленню яго канца; літоўскае слова этымалагізуецца на мясцовай глебе з *niẽkai* 'глупства' і *taũzyti, taũzija* 'балбатаць, прастарэкаваць', гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 12.

**Накувéсіцца** 'навaліцца, навіснуць?', параўн., *Вот немец пракляты, вот ірад накувесіўся на нашу голаву* (В. Поляк, ЛіМ, 19 лютага 1971 г.), *наковéсіцца* 'нахмурыцца (пра надвор'е)', *наковéсіць* 'нахмурыць': *брові наковесіў* (ТС), *накувéзіцца* 'прыстаць, прычапіцца без дай прычыны' (парыц., Янк. Мат.). Фармальна і семантычна блізкае да серб.-харв. *наквѐсит се* 'нагнуцца, нахіліцца, схіліцца, скрывіцца': *Што си ми се наквесио ту више главе?* (Елезовић Г. Речник косовско-метохиског дијалекта, 1. Београд, 1932, 437), *наткéсим се* 'звесіцца, навіснуць над чым-небудзь ці над кім-небудзь' (Ђирићљ. Говор Лужнице. Београд, 1983, 147), якія Скок адносіць да *kvečiti se* 'нагібацца' (Скок, 2, 252), аднак несумненная сувязь з беларускім словам дае падставы меркаваць пра агульнае паходжанне ці развіццё ў аднолькавым напрамку на кожнай з адзначаных тэрыторый. Хутчэй за ўсё да прасл. **vě͡siti*, гл. *вé-*



*сіць, вісець*, з экспрэсіўнай *ko- (ky-, k-)* прэфіксацыяй, адносна якой гл. Дебеляк, Slavistična revija, 5—7, 1954, 169 і інш.; Фасмер, 2, 271 і інш. *З* у *накувéзіцца* ў выніку азванчэння *с* у інтэрвакальным становішчы або збліжэння да *вязáць, вязáцца*.

**Накурыць** 'напыліць': *Накурыў ужо п'аском аўтобус* (свісл., Сцяшк. Сл.), параўн. таксама: *аж пыл курыць* (ТСБМ). Да *курыць* 'пускаць дым, куродыміць', магчыма, пад уплывам польск. *kurz* 'пыл' ці *kurzyć* 'пускаць пыл'.

**Накýтнік** 'набожнік, рушнік, які вешаюць на абразы' (Мат. Гом.). Да *кут* 'вугал, покуць'.

**Накштáлт** 'накшталт' (Яруш., Байк. і Некр., ТСБМ, ТС). З польск. *ksztalt, naksztalt* 'накшталт, падобна да, як бы' (<*ksztalt* 'воблік, аблічча, форма' з ням. *Gestalt* 'фігура, форма', гл. Брукнер, 278).

**Нáлаб** 'да дна' (круп., Полымя, 1980, 8, 254), 'набгом, адразу, у адзін прыём' (навагр., Нар. сл.; Юрч. Фраз.), *нáлба* 'нагнуўшы вядро, збанок (піць)' (пухав., Бел. дыял.; Сцяшк. Сл.), *налбом* 'нагбом' (Сл. ПЗБ), рус. *нáлоб* выпить 'выпіць да дна, поўнасцю, закінуўшы пры гэтым галаву' (Даль), *налобóк* 'поўнасцю, да канца (выпіць)' (СРНГ). Тлумачэнне Даля дае кірунак этымалагізацыі — да *лоб* (нагнуўшы пасудзіну *на лоб)* у выніку сцяжэння — *налаб*, або *на лба*>*нáлба*.

**Налабавозіцца** 'напрацавацца, стаміцца ад працы', *налабавозіць* 'нарыхтаваць, навазіць, нанасіць' (Яўс.). Ад *лабавозіць* (гл.).

**Налажыцца** 'прывучыцца, прыстасавацца' (Нас.), 'прызвычаіцца, прывыкнуць': *Ты хлопец чэпкі, скора наложышся рабіць як трэба* (Кудравец), параўн. польск. *nalożyć się* 'тс', параўн. рус. *наложи́ть* 'шчыра працаваць, займацца чым-небудзь'. Ад *налажыць* 'схіліць, прывучыць', параўн. з іншым вакалізмам *налягáць, налéгчы* 'рабіць намаганне; насядаць'. Гл. *налог, налога*.

**Налажыць,** у выразе: *налажыць галавóю* 'панесці смерць, памерці', параўн.: *Баба варажыла, пакуль галавою налажыла* (Янк. БП); *И коникоў потрацишь, и сам голоўкой наложышь* (Шн.), укр. *наложи́ти головóю, душéю* 'ахвяраваць жыццём, загубіць жыццё, душу; скласці галаву', польск. *nałożyć głową, zdrowiem, życiem* 'заплаціць галавой, здароўем, жыццём'. Развіццё значэння дзеяслова *налажыць* 'накласці', гл. *лажыць*, праз стадыю 'накласці плату, ахвяру на што-небудзь', параўн. *налог* 'падатак', да 'заплаціць (галавою)', параўн. тураўск. рус. *накласці (наложыць) головóю* 'загінуць' (ТС).

**Нáлапам** 'нечакана' (дзярж., Нар. сл.), 'знячэўку, інтэнсіўна' (слуц., Нар. словатв.), *налáпам, налопам* 'раптоўна, хціва'

(Сцяшк. Сл.), *налопам* 'нечакана, нахабна' (Бяльк.), *налоп* 'нечаканасць' (Бяльк.), укр. *нáлопом* 'нахабна'. З прыназоўнікавай канструкцыі **на лап*, ад *лáпаць, лáпнуць* 'схапіць' (параўн. выкл. *лап!* 'цап!'), прадстаўленай у славац. *strielat' na lap* 'доўга не цэлячыся (страляць)', параўн. таксама укр. *лапі* 'лёгка, хутка', ст.-рус. *лапь* 'не думаючы, проста', польск. дыял. *łopie* 'хутка', ст.-чэш. *lap* 'адразу, хутка, не задумваючыся' сюды ж адносяць і *лапчыва, лапшыва* 'прагна (есці, піць)' (Брукнер, 306; Фасмер, 2, 459; Махэк₂, 320). Канчатак *-ам* па ўзору прыслоўяў, утвораных на базе назоўнікавай формы творн. скл. адз. л.

**Налáс** 'захворванне скуры' (Касп.). Хутчэй за ўсё ад *налáзіць* 'напаўзаць', гл. *лáзіць*.

**Наластавáць** 'накласці' (любан., Нар. словатв.). Да *лашт, лаштавáць* (гл.).

**Налашчы́ць** 'адбяліць (пражу)' (Мат. Гом.), *налосціцца* 'наглянцавацца, зашмальцавацца' (ТС). Да *лоск* 'бляск, глянец'.

**Налé** 'ага, так, але' (шчуч., 3 нар. сл.), *нолé* 'тс' (кап., Нар. словатв., карэл., Нар. лекс., Жд. 1), *нуле* 'тс' (Нар. лекс.). З *ну* 'так' і *але* 'ага, так', параўн. польск. дыял. *nale* 'акрамя таго, зрэшты' (<*no ale*), чэш. дыял. *nále* 'ну і' (<*no ale*), гл. Махэк₂, 400; ESSJ SG, 2, 437; іншага паходжання ст.-бел. *ноли* 'але толькі' (XVI ст.), гл. Карскі, 2—3, 83; ESSJ SG, 2, 503—504 (з *nъ li*).

**Налéмбік** 'слабіцельнае' (Бяльк.). Відаць, са спалучэння *на алембік* (перагнаць), параўн. у слоўніку Насовіча пад *алéмбік* 'перагонны апарат, рэторта, куб', вядомае з XVII ст.; ст.-бел. *алембикъ (олембикъ)* запазычана (Булыка, Лекс. запазыч., 94) са ст.-польск. *alembik* (<лац. *alambicum*, ад араб. *al- 'anbīq*).

**Нáлепкі** 'кідком з рукі': *Кідай мячык налепкі* (Бяльк.). Няясна.

**Налéцце** 'будучы год' (Нас., Гарэц., Яруш., Др., Юрч., Сл. ПЗБ), *налéцьця* 'тс' (Бяльк.; бялын., Янк. Мат.; чавус., Нар. сл.; Яўс.; віл., Жыв. сл.), *налéцце* 'лета (наступнае)' (Мат. Гом.). Сюды ж *налéта* 'ў будучым годзе' (Янк. Мат.; Сл. ПЗБ), *на-лéто* 'на будучы год' (Мядзв.), якія тлумачаць паходжанне слова. Цікавую паралель уяўляюць в.-луж. *nalěćo*, н.-луж. *nalěto* 'вясна', якія Шустар-Шэўц (13, 985) выводзіць **na lěto*, **na letьje* 'час, калі паварочвае на лета'. Ва ўсіх гэтых выпадках пад летам разумеецца 'спрыяльная пара для палявых работ', пра што сведчыць наступны тэкст у слоўніку Насовіча: *Загадаю загадку; закину за грядку; нехай моя загадка лежыць до налецця,* г. зн. сяўба жыта на зіму. Слова вядома таксама паўднёварускім гаворкам: *налéтье, налéтие* 'будучы год; будучае лета' (СРНГ).



**Налíм** 'мянтуз, мянёк' (Бяльк., Сл. ПЗБ), рус. *нали́м,* укр. *нали́м*. Паводле Фасмера (3, 40), цёмнае слова; Ліуканен прапануе рэканструкцыю **nalip-mъ* ад **na-lipati* 'наліпаць' або ад *nalipnǫti* 'наліпнуць', паколькі ў рыбы ліпкая слізь, а не скура (Лиукконен, Восточнославянские отглагольные существительные на *-м-*, 1. Хельсинки, 1987, 89—90), што цалкам верагодна, аднак застаецца вызначыць умовы пераходу рэканструяванай формы **naliртъ*>*налім,* паколькі звычайна *наліпнуць*>*наліп,* параўн. тураўск. *наліпнуць* 'наліпнуць, напрыліпаць' і *наліп* 'намаразь, намёрзлы снег' (ТС).

**Налíснік** 'тонкі блін з пшанічнай мукі' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Янк. 1, Вешт.; быx., Янк. Мат., Некр., ТС), *налéснік* 'тс' (Нас., Бяльк., Яўс.), 'блінчык з начынкай' (Мядзв., ТС), *налéснікі* 'бліны з мукі, крухмалу без соды, дражджэй' (Янук.), укр. *нали́сник* 'блінчык', рус. *нали́стник* 'аладка, спечаная на лістах капусты, чамярыцы або на блясе' (СРНГ), польск. *naleśnik* 'тонкі блін, спечаны на патэльні', чэш. *nálesník* 'хлеб, спечаны на капусным лісце'. Паводле найбольш вядомай этымалогіі (Даль, Варш. сл., пазней Крэя, JP, 38, 1958, 204 і наст.), ад *ліст;* іншая версія — ад **lěsa* 'рашотка' з пазнейшым народнаэтымалагічным збліжэннем з *ліст,* параўн. Трубачоў — Фасмер, 3, 40 (з л-рай).

**Налíчнік** 'ліштва (у вокнах, дзвярах)' (расон., Шатал., Шушк.), *налíшнікі* 'маляванне асады на вокнах з надворнага боку' (Бяльк.). Відаць, запазычана з рус. *нали́чник* 'тс', дзе ад *лицó* 'вонкавы бок, фасад', г. зн. 'тое, што набіваецца *на лицо*'.

**Налíшно** 'асабіста' (Мядзв.). Параўн. рус. *нали́чно* 'тс', з *на лицо,* г. зн. 'быць прадстаўленым самой асобай'.

**Нáлля** 'гурт': *Наляцела налля дзяцей* (паст., Сл. ПЗБ), *нáльля* 'пра таго, хто нагла і неадступна лезе ў шкоду' (полац., Нар. лекс.), 'навала, напасць' (ушац., Нар. сл.). Відаць, з **нагля,* гл. *наглы.*

**Налог** 'дрэнная схільнасць, звычка' (Нас.), 'звычка' (міёр., Нар. сл.), *налога* 'тс' (віл., Жыв, сл.), укр. *налога* 'звычка, звычай', польск. *nałóg* 'схільнасць, прывычка, звычка да чагонебудзь дрэннага'. Ст.-бел. *налог* 'прывычка' (1598 г.) лічыцца запазычаннем з польск. *nałog* (Булыка, Лекс. запазыч., 133); Булахаў (Развіццё беларускай літ. мовы ў XIX—XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі. Мн., 1958, 27) лічыць паланізмам у беларускіх творах Чачота, што зусім верагодна, улічыўшы значную колькасць дэрыватаў у польскай мове і адмоўнае сэнсавае адценне слова, што адсутнічае ў бе-

ларускім дзеяслове *налажыцца* 'прызвычаіцца, прывыкнуць' (гл.), які мог быць асновай утварэння аддзеяслоўнага назоўніка.

**Налой** 'наезджаная санная дарога' (свісл., Шатал.). Аналагічна да *набой* 'тс' ад *набіць* 'наездзіць' павінна ўтварацца *налой* ад *ліць,* параўн. рус. *налой* 'верхні слой вады', аднак застаецца не зусім яснай матывацыя ('як палітая'?).

**На́лпа** 'малпа' (Шпіл., Грыг., Мядзв., Федар., Сцяшк. Сл., ТС), *па́łра* 'тс' (Пятк.), *на́впа* 'тс' (драгіч., З нар. сл.), *на́лупа* 'тс' (Сцяц.), н.-луж. *nałpa* 'тс'. Пераробка з *ма́лпа* 'тс' (гл.) (<польск. *małpa* 'тс') у народнай мове ў выніку дысіміляцыі *м*>*н* тыпу *канбайн* (<*камбайн*), *ланпа* (<*лампа*), *кунпанія* (<*кампанія*), звычайна ў кантактным ці дыстантным спалучэнні з губнымі, параўн. *набыць* (<*мабыць*) і пад. (Бел.-дыял.[2] Мн., 1980, 63—64), а таксама шляхам народнаэтымалагічнага пераасэнсавання, параўн. Шустар-Шэўц, 13, 985.

**Налоп** 'нечаканасць' (Бяльк.), *налопым* 'налопам, нечакана, нахабна' (там жа). Гл. *на́лапам.*

**Налы́гач** 'вяроўка для налыгвання валоў' (мазыр., З нар. сл.), 'повад' (нараўл., Мат. Гом.), 'рамень для папарнага звязвання валоў пры аранні' (докш., Сл. ПЗБ), укр. *налигач* 'вяроўка, якой прывязваюць за рогі рагатую жывёлу'. Утворана ад *налыга́ць* 'навязаць', гл. *лыга́ць.*

**Нама́ґір** 'набакір, набок', *на ма́ґер* 'тс' (ТС), *нама́ґірыць* 'адзець набакір' (там жа). Відаць, *набакір,* перароблена пад уплывам *маґерка* 'валяная з воўны шапка' (гл.), што ад венг. *magyar* 'венгр'.

**Намазклі́вы** 'ўпарты' (браг., рэч., Мат. Гом.), параўн. укр. палес. *намазклі́ва, намо́зклювата, намо́склювата, намі́зкувата* (Полесский этнолингвистический сборник. М., 1983, 191). Няясна, магчыма, да *ма́зацца* 'капрызнічаць, песціцца', *ма́за* 'капрызніца, песта', *мазлі́вы* 'капрызны, спешчаны' (ТС).

**Нама́к** 'куль (саломы)' (Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, звязанае з *на́макань* 'палена' (полац., Нар. лекс.), *намакліна* 'дрэва, якое доўга ляжала ў вадзе' (навагр., Нар. сл.), з развіццём значэння да 'нешта вельмі цяжкае'; ад *мокнуць, мачыць* (гл.).

**Наманы́** 'наўгад' (навагр., Сцяшк. Сл), 'наўздагад, навослеп, пэўна не ведаючы дарогі' (слуц., Полымя, 1988, 7, 203). З прыназоўнікава-іменнай канструкцыі **на маны́,* дзе другая частка — аддзеяслоўны назоўнік у він. скл. мн. л. (Шуба, Прысл., 141), параўн. *наману́ць* 'намерыцца' (Сцяшк. Сл.), *патапи́ć* 'надумацць' (Арх. Федар.), *наману́цца* 'надумацца' (Сл. ПЗБ), дзе ў якасці зыходнага аўтары слоўніка дапускаюць літ. *тапу́tys* 'надумаць'; тады першаснае значэнне спалучэння 'куды ўздумаецца (ісці, ехаць і пад.)'. З фармальнага боку пры наяўнасці *мана́* 'абман, хлусня', 'пах, тое, што прываблівае', 'здань' і інш. аддзеяслоўных утварэнняў ад **maniti* няма патрэбы дапускаць уплыў літоўскай мовы.



**На́маразень** 'падоўжны брусок, які набіваецца на капылы ў санях' (Сл. ПЗБ; карэл., Нар. лекс.), *на́маразні* мн. (шчуч., Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ; Сержп. Грам.), *на́марзень* (ТСБМ), *на́марзня, на́мерзня* (Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), *на́марзні* (Бяльк., Сл. ПЗБ), *на́мярзні* (Сл. ПЗБ), *на́морожэнь, на́морозень* (Маслен.), *на́маражня, на́морожня* (Мат. Гом., Маслен.; лунін., Шатал.; ельск., КЭС; Сл. ПЗБ, ТС), *на́маражні* (Пятк., Сл. ПЗБ), *на́маржні* (Сл. ПЗБ), *на́марзня* 'вяровачная пятля на капыл саней, якой прымацоўваецца аглобля' (дзярж., Нар. сл.), укр. *на́морозень, на́моржень,* рус. сіб. *на́морзни, на́морожни.* Цікавы выпадак народнай этымалогіі, якая грунтуецца на іншай назве дэталі саней, параўн. *усту́жына* 'вязок у санях на першых капылах' (гарадок., Нар. лекс.), палес. *сту́ззэнь, сту́жені, сту́дні* 'тс' (Маслен.), рус. *сту́жень* 'вязок, пры дапамозе якога гнутыя высокія галоўкі палазоў прымацаваны да першых капылоў у санях са *стуженем* або ўсходнееўрапейскіх санях' (гл. Вийрес, Из истории саней в Прибалтике//Проблемы этнич. истории балтов. Тезисы межресп. конф. Рига, 1985, 129). Элемент *стуж- (студ-),* што паходзіць ад *сту́га* 'палоска, сувязь, мацаванне' (<**sъtǫga,* да *тугі, цяга, цягну́ць,* гл. Фасмер, 3, 786), быў атаясамлены з адпаведным элементам у *стуж-а* 'сцюжа', *стуж-ны* 'халодны', у выніку чаго стала магчымай яго субстытуцыя (замена) блізкім па сэнсу элементам *мароз* і стварэнне паўкалькі *на́маразень,* дзе прэфіксацыя *на-* адлюстроўвае надзяванне дэталі зверху на капыл, а суфіксацыя, як у *стужень,* параўн. той жа словаўтваральны тып у іншай назве дэталі — *на́даўбень* (гл.), у якім адлюстравана «тэхналогія» вырабу дэталі. Можна меркаваць, што магчымасць для дээтымалагізацыі назваў са *стуж-* узнікла ў выніку замены скручаных з гібкіх прутоў вязоў «даўбанымі» вязамі, якія ўжо не сцягвалі капылы з галоўкамі, параўн. палес. *сця́гі, усця́глі* — іншыя назвы разглядаемай дэталі. Знешнім стымулам для стварэння паўкалькі стаў вобраз з намярзаючага на дэталь снегу ці льду, параўн. *на́морожня* 'намаразь' (ТС). У плане адноснай храналогіі назва *на́маразень* больш новая ў параўнанні з назвамі на *стуж-* і *сцяг-,* аднак больш старая за назвы тыпу *на́даўбень, на́дубень* і пад.

**На́марач** 'дурман, одум' (астрав., Сцяшк. Сл.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *намарочыць* 'напусціць туману, затлуміць галаву', гл. *марочыць, морак.*

**Намарска́цца** 'напрацавацца' (Янк. 1). Да *марска́ць,*

*марсанўць* (гл.); згодна з Мяркулавай, значэнне 'хутка рухацца' (у тым ліку ў працы) развілося на базе супольнага для беларускага і чэшскага дзеясловаў значэння 'махаць, біць', параўн. чэш. *mrsknouti sebou (pri praci)* 'хутка павярнуцца' і пад., якія ўзыходзяць да прасл. **mьrskati*, што разглядаецца як утварэнне з інтэнсіўным суфіксам *-sk-* ад прасл. **merti* 'біць' (Этимология-1974, 60—61).

**Намасты́р** 'манастыр' (Грыг., Мядзв.: «исковерк. монастырь»; мін., магіл., Мат. 2; Сержп.), *номасты́рь* (мін., Шн. 2; слуц., Чуд.), ст.-бел. *намастыръ* (Булыка, Лекс. запазыч., 215). Вынік перастаноўкі складоў *ма* і *на;* Чудоўскі (РФВ, 1894, 3—4, 68) прыводзіць прыклады такіх перастановак у народнай мове: *маталок* зам. *малаток, Ванагрудак* зам. *Навагрудак, Ванадворцы* зам. *Навадворцы* і інш. Апель (РФВ, 1988, 2, 71) тлумачыць *намастырь* зам. *монастырь, фарфур* зам. *фарфор* дзеяннем аналогіі ці падвойнай аналогіі. Параўн. таксама *камазы́н, гамозі́н* зам. *магазі́н.* Вядома і іншым славянскім мовам, напр. серб.-харв. *нȁмастӣр* (Вук). Этымалогію гл. пры *манасты́р.*

**Намахí** 'жэстамі' (ТС). З прыназоўнікава-іменнай канструкцыі **на махí*, г. зн. *ма́хамі,* дзе другая частка — аддзеяслоўны назоўнік у форме він. скл. мн. л.

**Намацём** 'вобмацкам' (Клім.). Да *ма́цаць* (гл.); беспадстаўна гэта слова лічыць балтызмам Лаўчутэ, гл. Праблемы этничной истории балтов. Тезисы межресп. конференции. Рига, 1985, 185.

**На́мачы** займ. 'нам': *Дарога к намачы нялёхкая была* (узд., Жд. 2). Афармленне займенніка прыслоўным суфіксам *-чы,* параўн. *цяпе́рачы, се̂ннячы, надоечы,* відаць, у сувязі з сінтаксічнай функцыяй акалічнасці месца *(к на́мачы).*

**Наме́лісты** 'спорны пры мліве' (слонім., Сцяшк. Сл.). Параўн. мараўск. *nátelné obilí* 'збожжа, з якога можна намалоць многа мукі; выдатнае збожжа', якое Махэк$_2$ (388) звязвае з чэш *nátel* 'спарыш' (наяўнасць спарынні ў збожжы, паводле народных уяўленняў, садзейнічае спорнасці пры мліве, што адлюстравалася і ў самой назве з коранем **spor-*). Да *мялю, малоць* (гл.).

**Намелькава́цца** 'наканаваць': *Як яму намелкуецца на вяку з раджэння, так і будзя* (карм., Мат. Гом.). Няясна, магчыма, дэфармаванае *намяркýецца,* гл. *меркава́ць.*

**Наме́снік** 'службовая асоба, што замяшчае кіраўніка' (ТСБМ), 'удзельнік абраду з боку маладой, які сядзеў побач з ёй да прыезду дружыны жаніха' (віл., З нар. сл.), 'аканом' (Мал.), *namiéśnik* 'намеснік аканома ці карбовы' (Пятк.), 'аканом у маёнтку' (Арх. Федар.), параўн. глосу ў Скарыны: *анфипатомъ//намесникомъ,* укр. *намі́сник* 'намеснік', рус. *наме́стник* 'тс', польск. *namiestnik, namiastek,* ст.-чэш. *náměstník,* чэш., славац. *náměstek* 'тс', н.-луж. *namjaśnik,* славен. *naměstnik,* серб.-харв. *на̏месник,* балг. *наме́стник,* макед. *наме́сник,* ст.-слав. **намѣстьникъ** 'намеснік', 'пераемнік'. На падставе таго, што дзеяслоў **naměstiti,* ад якога магло быць утворана слова, у славянскіх мовах не зафіксаваны, Львоў (Этимология-1979, 62) услед за Скокам (2, 438) мяркуе, што яно з'яўляецца семантычнай калькай з ням. *Statthalter,* што ўзнікла ў Маравіі ў час распаўсюджання хрысціянства ў IX ст., адкуль пісьмовым і вусным шляхам стала вядомым на іншых славянскіх землях у значэнні 'намеснік', 'пераемнік', 'прадаўжальнік'. Аднак наяўнасць слова ў народнай мове, у прыватнасці ў вясельным абрадзе, дзе яно несумненна паходзіць з прыназоўнікавага спалучэння **na město* (*намеснік* да прыезду жаніха сядзеў *на* яго *месцы* побач з маладой), дапускае і іншы шлях утварэння слова.



**Наме́сь** 'іменна' (Яруш.). Няясна.

**На́ме́тка**$_1$, *наме̂тка, на́мітка* 'доўгі, вузкі кусок палатна, звычайна з каймой ці вышыўкай', 'накрыццё галавы ў замужніх жанчын у выглядзе рушніка з аздобамі, пакрывала нявесты' (Шн. 3, Чач., Др., Маш., ТС, Сл. ПЗБ, Жд. 1, Кольб., Грыг., Чуд., Сцяшк., Бяльк., Мат. Гом.), ст.-бел. *наметка* 'даўняе народнае жаночае накрыццё галавы з доўгага і вузкага палатна, якім перавязвалі галаву. І паколькі палатно было заўсёды белае, то і жанчын звычайна называлі белагаловымі' (Гарб.), укр. *намі́тка,* рус. *намётка.* Паводле Фасмера (3, 41), з *на* і *мета́ть* 'кідаць', літаральна 'накідка', параўн. *на́мятка* 'цёплая хустка' (маст., Сцяшк. Сл.), што, відаць, адлюстроўвае незалежнае больш позняе ўтварэнне. Гл. *намёт*$_1$.

**Наме́тка**$_2$ 'пазнавальны знак (напрыклад, на вуху ў авечкі, на лапцы ў гусі)' (Янк. 1), 'памета' (рагач., Мат. Гом.). Да *наме́ціць, ме́ціць* 'памячаць'.

**Намёт**$_1$ 'вельмі тонкае палатно ў два ніты з каляровымі палоскамі па баках' (докш., Янк. Мат.), 'абрадавы ручнік (даматканы')' (ветк., Мат. Гом.; чэрв., Сл. ПЗБ), 'кавалак тонкага кужэльнага палатна, які жанчыны абмотвалі вакол галавы' (чэрв., пухав., калінк., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *наметъ* (XVI—XVII стст.) 'шацёр', укр. *намет, намі́т* 'шацёр, палатка', рус. *намёт* 'сховішча, навес, шацёр', польск. *namiot* 'палатка, шацёр, полаг'. Старабеларускае слова лічыцца запазычаннем з польскай (Жураўскі, SOr, 1961, 1, 40); адносна абрадавага ручніка і накрыцця галавы замужніх жанчын гэта меркаванне цяжка было б прыняць, паколькі ў польск. мове для слова *namiot* такіх значэнняў не фіксуецца. Фасмер (3, 41) прымае самастойнае развіццё ад *на* і *метать,* аспрэчваючы больш раннюю этыма-

логію, якая выводзіць усходнеславянскае і польскае слова ў значэнні 'шацёр' з іран., афган. *namd* 'лямец'. Літ. *nuometas* 'накрыццё галавы з тонкага палатна' Буга (Rinkt., 2, 502) лічыць запазычаннем з усходнеславянскіх моў. Пра магчымасць самастойнага ўтварэння слова *намёт* сведчыць наяўнасць аманімічных форм ад *мятаць*, напр., *намёт* 'кошык на рыбу' (Бяльк.), 'падатак' (Нас.), рус. *намёт* 'паветка', 'капна' і інш. Гл. *наметка*$_1$.

**Намёт**$_2$ 'гурба, сумёт' (Юрч., СНС), рус. *намёт* 'тс'. Да *мясці́* (гл.), *намята́ць*, параўн. таксама *на́мець* 'тс' (ТС).

**Намі́тусь** 'у розныя бакі (галовамі, камлямі і інш.)' (смарг., Сцяшк. Сл., ТС), 'галовамі ў супрацьлеглыя бакі, «валетам» (легчы)' (глыб., Сл. ПЗБ), *намітуз* 'тс' (брасл., Сл. ПЗБ), *намытусь* 'адзін да аднаго спіной (ляжаць)' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *на-мітусь* 'наадварот' (Мядзв.), *намітусь* 'спосаб вязання: вочка направа, вочка налева' (Жд. 1), *намітуські* 'адна насупраць другой' (лаг., Сл. ПЗБ). Можна параўнаць з балг. *на́мито* 'крыва, коса, у розныя бакі', што звязваюць са ст.-слав. *митѣ* 'паперамена'; серб.-харв. *mìtīti* 'прайсці побач', лат. *mitêt* 'змяняць' і інш. (Фасмер, 2, 628; Куркіна, Этимология-1980, 629; Скок, 3, 291), параўн. таксама *ўмі́туські: За ім леціць стрэла умітускі* 'хвалепадобна' (Сержп., Прымхі). Усё да *мітусь* 'у розныя бакі' (гл.), *мітусіцца*.

**Намне́сь** 'нядаўна' (Грыг.), 'учора' (маг., Мат.). Згодна з Карскім, з **на дьньсь* (Карскі, 2—3, 74).

**Намова** 'нагавор, паклёп' (Гарэц., Др.), 'падгавор' (Яруш.), 'дагавор, згода' (Сцяшк.), а таксама *намоў* 'нагавор' (Нас., Гарэц., Бяльк.), *на́мо́ўка* 'паклёп' (Нас., Гарэц.), *на́маўка* 'загавор, урокі' (Нік. Оч.), ст.-бел. *намова* 'нагавор, падбухторванне, парада', 'нарада суддзяў' (Гарб.). Ад *намовіцца* 'згаварыцца, дамовіцца', гл. *мова*.

**Намонацца** 'натаміцца, намарыцца' (Сцяшк. Сл., ТС), *намонькацца* 'тс' (ТС). Няясна, магчыма экспрэсіўнае ўтварэнне ад польск. *męka* 'мука' ці да *мяць, мну*.

**Намосклый** 'прамоклы, размоклы (толькі пра драўлянае)' (драгіч., Клімч.). Звязана з рус. *мозглый* 'гнілы' (<**mъzglъjь*), аглушэнне зычных, магчыма, у выніку збліжэння з *намоклы;* аднак не выключаны і зыходны варыянт кораня з аглушэннем, гл. укр. карп. *москола́* 'непагода', а таксама гідронім *Масква́*, які параўноўваюць з чэш., славац. *moskva* 'сырое збожжа' (Фасмер, 2, 660).

**Намот**, *намотка* 'намітка' (Жд. 1), *на́матка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Ад *намёт*$_1$, *наметка*$_1$ 'тс' (гл.), збліжана з *мата́ць, намотваць*, 'накручваць'.



**Наму́льніца**, *намы́льніца* 'ручка сахі' (беласт., Смул.). Смулкова звязвае з *наму́ляць* 'націснуць, нацерці', *наму́л* 'нацёртае месца', параўн. таксама *муле́ц* 'ручка касы', аднак, на яе думку, формы з *ы* нельга вытлумачыць вядомым на Палессі чаргаваннем *ы*>*у* пасля губных, паколькі формы з *ы* засведчаны таксама ў паўночнарускіх гаворках, параўн. *мылица* 'ручка вясла' (Смул., 33—34). Фасмер (3, 23—24) звяртае ўвагу на варыянтнасць *мыл-* і *мул-*, параўн. рус. *мульга́* 'тс', аднак схільны аднесці названыя формы да *му́ляць* (там жа, 9), параўн. таксама смал. *намы́лівацъ* 'націраць, націскаць' (збліжана з *мы́ла, мы́ліць?)*.

**Намушча́ць** 'падгаворваць, падбухторваць' (Нас.), 'навучаць' (Гарэц., Др.). Відаць, да *муці́ць* 'муціць, перан. падбухторваць', параўн. *намуці́ць* 'нагаварыць, напляткарыць', збліжана таксама да *навушча́ць* 'падгаворваць, падбухторваць' (гл.).

**На́мша** 'памінкі па нябожчыку' (іўеў., Сцяшк. Сл.), 'плата папу за памінанне памёршых' (Клім.), параўн. н.-луж. *namša* 'богаслужэнне'. Відаць, са спалучэння *на мшу (даць)* 'заплаціць за памінкі', ад *мша* 'служба, богаслужэнне' (<польск. *msza* 'тс', лац. *missa* 'тс', параўн. Брукнер, 347; Шустар-Шэўц, 13, 987) з далейшым афармленнем як назоўнік ж. р. адз. л.

**Намы́знік** 'наморднік' (воран., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), 'скураная палоска ў аброці' (маст., Шатал.; Маслен.), *намы́рзнік* 'вуздэчка' (шчуч., Сл. ПЗБ). А *мы́за, мы́рза* 'морда, пыса' (гл.).

**Намыля́цца** 'напамыляцца' (Янк. БП). Гл. *мыля́цца*.

**Намы́снік**, *наму́снік* 'частка вуздэчкі' (слуц., Полымя, 1988, 7, 201; Маслен.). Да *мы́са (му́са)* 'морда ў жывёлы' (гл.).

**Намэ́дрыкі** 'частка збруі — пляцёнка з раменю, накладваецца на спіну каня, падтрымлівае хамут' (Сцяц.), *намэ́трыкі* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ), *нама́ндрыкі* 'набадры' (карэл., Нар. словатв.). Гл. *набэдрыкі*.

**Намэ́ціцца** 'намерыцца' (ашм., Сцяшк. Сл.). Да *мэ́та (гл.)*.

**Намяка́ць** 'намякаць' (Яруш.). Відаць, з рус. *намекать*, адносна якога гл. Фасмер, 3, 41.

**Намя́кацъ** 'адлупцаваць' (Мат. Гом.), 'набіць чым-небудзь тупым' (Нас.), *намя́кшыць* 'набіць' (Мат. Гом.). Да *мя́к!* выкл. 'шмяк!' (Нас.).

**Намяні́цца** 'лічыць сябе за роўню з кім-небудзь' (Гарэц.). Няясна; ці не да *мяняцца* (гл.), што змяшчае значэнне прыроўнівання?

**Нане́т** 'зусім': *Зваліся ягады нанет* (браг., калінк., З нар.

сл.), 'зусім, нанішто' (Бяльк.). З прыназоўнікавага спалучэння *на* і *нет* 'няма' (гл.), дзе апошняе выступала ў якасці субстантываванага прыслоўя.

**Нанзіцца** 'накалоцца' (Гарэц., Др.). Ад незафіксаванага ў беларускай мове **нзить*, прадстаўленага ў рус. *вонзить*, якія Фасмер (3, 71) звязвае з *занóза, нож.*

**Нáніц** 'навыварат' (воран., Сцяшк. Сл.; расон., Шатал.; міёр., Нар. сл.), рус. *нáниц* 'навыварат', 'ніцма, ніц'. Са спалучэння *на* і *ніц* 'ніц, тварам уніз' (Фасмер, 3, 41). Зусім іншага паходжання *наніц* 'зусім' (Сцяшк.), якое з *на* і *ніц* 'нічога' (<польск. *nic* 'тс').

**Наоблап** 'пакідаючы каляіну ў сярэдзіне, між колаў (адно кола пасярэдзіне дарогі, а другое — за дарогай) пры яздзе па гразкай ці выбітай дарозе' (ТС). З *на+об+лап,* параўн. *аблáпіць* 'абхапіць', гл. *лáпа.*

**Наодлукі** 'абы-як (рабіць)' (беласт., Ніва, 5 жніўня 1979 г.), параўн. укр. *наодлуці* 'аддзяліўшыся'. Семантычна цяжка звязаць беларускае і ўкраінскае словы; магчыма, да *адлучыць* 'аддзяліць' (гл. *лучыць)* у сэнсе 'адвязацца, адчапіцца', тады першапачатковае значэнне прыслоўя было б 'абы адвязацца (рабіць)'. Фармальна суадноснае серб.-харв. *ǒдлука* 'рашэнне' дэманструе процілеглую семантыку як вытворнае ад дзеяслова *одлýчити* 'скончыць, падвесці вынікі і пад.'. Іншая версія: да *лука* 'выгін, крывізна', **на-од-лукі* адпавядала б семантычна рус. 'вкривь и вкось', параўн. *улýкаткі* 'зігзагамі (бегчы)'.

**Наопал** 'напалову змешанае' (Булг.). З **на-о-пол,* параўн. *нáпал* 'напалавіну' (гл.), *аполак (о-пол-ок),* гл. *поў* 'палавіна'.

**Наотбег** 'убок ад берага' (ТС). З **на-от-бег,* параўн. *адбягаць* 'аддаляцца', першапачаткова, відаць, са спалучэння **на отбег* (бяры, кіруй і г. д.).

**Наотвіль** 'наводмаш, наводліў' (ТС). Гл. *наводліў.*

**Наотля** 'ад сябе, наводмаш' (Сцяшк. Сл.). Гл. *наводліў.*

**Наошлап** 'пакідаючы каляіну між колаў воза' (ТС). З *на* і *ошлап,* гл. *ашлáпіць* 'абхапіць'.

**Нáпа** 'зачэп пры лоўлі рыбы сеткай, вудай': *Невода зачэпіло, то напа* (ТС). Калі гэта не памылковы запіс (апіска, магчыма, **чапа,* ад *чапляць* і пад.), то ў якасці рыбалавецкага або плытніцкага тэрміна можна звязаць з ням. *Napf* 'чашка, міска', параўн. таксама в.-луж. *nop, пура* 'чэрап, галава' (з ням., Шустар-Шэўц, 2, 1020), г. зн. 'выступаючая частка дна, выступ і пад.', або з ням. *Nypa* 'вузлік на тканіне'. Значная колькасць запазычанняў з ням. у гэтай сферы робіць такое дапушчэнне верагодным, аднак застаецца актуальным пошук непасрэднай крыніцы запазычання. Такой крыніцай магло быць і іт. *пара,* прадстаўленае таксама ў славен. і серб.-харв. са значэннем 'страха над камінам; паліца; зэдлік', блізкім да значэння 'выступ на дне', што не здаецца зусім неверагодным, улічыўшы наяўнасць значнага пласта італьянізмаў у рыбалавецкай лексіцы дняпроўскага басейна тыпу ўжо вядомых *трымуктáн* 'паўночны вецер', *грэ́га* 'ўсходні вецер', як і іншых міжземнаморскіх тэрмінаў тыпу *таласá* 'зыб', зафіксаваных у паўднёва-ўсходняй Беларусі.



**Напавáць** 'напаіць' (Рам.), укр. *напувáти* 'тс', н.-луж. *napowaś* 'тс' разглядаецца як беларуска-ўкраінска-лужыцкая сепаратная ізаглоса, што, на думку Трубачова, дае падставы рэканструяваць праславянскі дыялектызм **napovati,* гл. Трубачоў, Серболуж. сб.; Слав. языкозн., V, 181. Параўн. яшчэ ст.-польск. *napawać* 'тс', якое Брукнер прыводзіць з польскай Бібліі, адзначаючы яго выключны характар, паколькі іншых дэрыватаў ітэратыўнага *-*pawati* ў польскай мове няма (Брукнер, 355, 426). У беларускіх формах тыпу *наповаці, наповае,* суадносных са ст.-слав. **напаити**. Карскі (1, 339) бачыў устаўку *в* на месцы *і,* што адзначалася таксама ў старабеларускіх помніках: *найованого* (XV ст.). Ітэратыў да *напаіць,* гл. *напой.*

**Напавéр** 'у доўг, у крэдыт' (Грыг., Гарэц.), 'у пазыку' (Вайск. сл.), *наповéр* 'без грошай, у крэдыт' (ТС). З **на-повер,* гл. *вера, верыць,* гістарычна — гэта спалучэнне назоўніка ў він. скл. адз. л. з прыназоўнікам *на* (Карскі, 2—3, 73).

**Нападарэ́ндзе** 'бачна, на віду' (Сцяшк.), *нападарэ́ндзі* 'пад рукой' (Сцяц.), 'на відным месцы, пад рукой' (Чэрн.). Запазычанне з польск. *napodorędziu* 'пад рукой, напагатове, блізка', якое разам з *надарэ́ндзе* 'навідоку, пад рукой' (Сцяшк. Сл.), польск. *na dorędziu* 'тс' і 'пакуль'звязваюць з *orędzie* 'паведамленне', 'від драўлянага жазла для склікання сходу' і інш., што ў сваю чаргу ўзыходзіць да с.-в.-ням. *arant* 'наказ' (Варш. сл.).

**Нападмéці** 'хутка, імгненна?': *Праляцеў, як нападмеці — яму здалося, што ногі не кранаюць падлогі* (Калеснік, Пасланец Праметэя. Мн., 1984, 64). Са спалучэння *на* і **пóдмець,* відаць, да *падмéціць* 'заўважыць', выходнае значэнне 'ледзь заўважна'.

**Нападоймішча** 'цяжкі' (ушац., Нар. сл.). Са спалучэння *на* і *падоймішча,* вытворнага ад *падойм, падойма* 'падыманне' (Нас.), гл. *падняць*; першаснае значэнне 'цяжкі, як падняць'.

**Напакавáцца** 'наесціся ў волю' (Жд. 2). Ад *напакавáць* 'накласці многа чаго-небудзь', гл. *пакаваць.* Цікавая семантычная беларуска-польская ізаглоса, параўн. польск. дыял. (вармін.) *napakówać się* 'добра наесціся'.

**Нáпал**₁ 'напалавіну, папалам' (Бяльк., Сцяшк., Юрч., Янк.

3, Жд. 2), 'напалам, на дзве роўныя часткі' (калінк., З нар. сл.), *нáпол* 'напалавіну, напалову' (ТС), *нáпалы* 'на дзве роўныя часткі' (Нас.), ст.-бел. *наполъ, наполы*, рус. *нáпол*, укр. *напів*, польск. *napół*, чэш *napolo*, в.-н.-луж. *napoł*, славен. *napol*, серб.-харв. *напола*, балг. *наполо*, макед. *наполу*. Прасл. **na polъ* 'напалову', гл. *поў* 'палавіна'. Формы на зычны гістарычна са спалучэнняў прыназоўніка *на* з він. скл. адз. л. назоўнікаў, форма на галосны — з він. скл. падв. л. (Карскі, 2—3, 74).

**Напáл₂**, *напол* 'бочка для мукі, выдзеўбаная з дрэва' (Мат. Маг.). Гл. *напол*.

**Напалáм** 'напалову' (Гарэц., Др.), 'на дзве роўныя часткі' (Сл. ПЗБ), *наполáм* 'напалам, у роўнай долі' (ТС). Паводле Шубы (Прыслоўе, 115), вынік кантамінацыі *напал* (гл.) і *папалам*, што ўяўляе прыназоўнікавае спалучэнне з формай дав. скл. падв. л., гл. *поў*.

**Напалову** 'напалам' (Сл. ПЗБ), *напаловіну* 'тс' (ТС), *напалавіну* 'больш у два разы' (валож., Жыв. сл.). Прыслоўі на *-у* фармальна суадносяцца з канструкцыяй *на*+назоўнік ж. р. у форме він. скл. (Шуба, Прыслоўе, 140). Гл. *палова, палавіна*.

**Напамкé** 'ні ў галаве' (Жд. 1). Як відаць з ілюстрацыі *(Я паляджу, але мне ні напамке запытацца)*, значэнне іншае 'ў галаве, на памяці'. З прыназоўнікавай канструкцыі **на памкі*, назоўнік у форме він. скл. мн. л. ад незафіксаванага **памок*, аднак не выключана ўтварэнне па мадэлі тыпу *напрасткі, нацямкі* і г. д., дзе ў якасці структурнай часткі выступае каранёвая марфема адпаведнага прыметніка, дзеяслова, назоўніка і г. д. Гл. *пáмяць, памятáць*.

**Напапá** 'вертыкальна' (Яўс.), *па рарá* 'тс' (Пятк.), *напопá* 'стаймя' (ТС). Са спалучэння **на попа*, дзе назоўнік суадносяць з *поп* 'святар' і 'цурка ў гульні, якую збіваюць палкамі' (Фасмер, 3, 327).

**Напараджáць** 'збіраць, рыхтаваць' (Юрч.). Магчыма, да **параджáць*, дзеяслова, які мог быць утвораны ад *парадак, парадкаваць* пад уплывам *нараджаць* 'адзяваць, упрыгожваць, рыхтаваць'.

**Напáрстак** (Нас., ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'напарстак', 'металічны абручык, з дапамогай якога каса прымацавана да касільна' (слуц., Нар. словатв., Сцяц., Янк. 2), *неперсток* 'тс' і 'пярсцёнак' (ТС), *неперстак* 'металічнае колца, якім прымацавана каса да касся' (навагр., свісл., кап., Шатал., Ян.), *напэрсток* 'тс' (драг., Нар. словатв., пруж., Выг.), 'сякерка для кляпання кос' (драг., Жыв. сл.), сюды таксама *наперснік* 'напарстак' (ТС), 'пярсцёнак' (Ян.), *наперсньк* 'пярсцёнак', 'напарстак' (Мат. Гом.). Формы з *а* ў беларускай мове ўспрымаюцца як запазычанні з польск. *naparstek* (параўн. заўвагу Насовіча: «употребляется шляхтою»); што датычыць іншых форм, то яны могуць быць працягам даўніх утварэнняў ад **pьrstъ* 'палец', у тым ліку вытворнага **napьrstъkъ*, параўн. рус. *напёрсток*, укр. *наперсток*, чэш., славац. *náprstek* серб.-харв. *напрстак*, балг. *напръстек*, дыял. радоп. *нáпарстек*, макед. *напрсток*, першапачаткова, відаць, 'пярсцёнак' або іншае ўпрыгожанне, якое надзявалася на палец. Значэнне 'рэхва, колца ў касе' — вынік пераносу. Формы на *-нік*, вядомыя і іншым славянскім мовам (рус. *наперстник*, в.-луж. *naporstnik*, славен. *naprstnik*, балг. *напръстник*), пазнейшыя па ўтварэнню (Брукнер, 354; Махэк₂, 486—487; Шустар-Шэўц, 13, 988).



**Напастырáцца** 'частымі дробязнымі сваркамі выклікаць непрыязныя да сябе адносіны, апастыляцца' (Нар. сл.). Гл. *настырáцца* 'тс'.

**Напáсць** 'несправядлівае абвінавачванне, паклёп' (Нас., Яруш.), 'нагавор, паклёп', 'гора, бяда' (Гарэц.), 'дарэмшчына' *(робіць як за напасць)*, 'нагавор, паклёп', 'бяда, гора' (ТС), *напась* 'выдумка, памылковае непраўдзівае абвінавачванне, нападкі' (бялын., Янк. Мат.), *напáсць (napáść)* 'бяда, гора' (рагач., будакаш., Мат. Гом., Пятк.); сюды ж *напáслівы* 'які ўзводзіць на іншых паклёп, ставіць іх пад падазрэнне', *напáсны* 'небяспечны', *напáставаць* 'несправядліва ўзводзіць на каго-небудзь віну, паклёп; паклёпнічаць' (Нас.), *напасньк* (<*напастник*) 'чалавек, які прыносіць бяду, няшчасце' (Булг.); рус. *напасть* 'няшчасце, бяда', 'нагавор', 'прыцясненне', 'нечаканае шчасце, удача', укр. 'прычэпка', 'бяда, няшчасце', 'штраф', 'паклёп', польск. *napaść* 'напад, прычэпка', 'прымус', 'бяда, няшчасце', 'хвароба коней і інш.', чэш. *nápast* 'няшчасце', 'прынада; западня', ст.-чэш. 'цяжкасць', 'жах', славен. *napâst* 'нападзенне', серб.-харв. *нáпаст* 'няшчасце, бяда, напасць', балг. *напáст* 'напасць, бяда, няшчасце', макед. *напаст* 'тс', ст.-слав. *напасть* 'спакуса', 'нападкі', 'няшчасце'. Шырокая семантыка сведчыць, што гэта хутчэй за ўсё самастойнае для кожнай славянскай мовы, аднак дастаткова старажытнае ўтварэнне ад дзеясловаў тыпу *напáсць, нападáць*, што маюць вялікі спектр значэнняў: 'напасці, наляцець', 'наваліцца', 'апанаваць', 'раптоўна з'явіцца', 'прыгнятаць' і інш. (Махэк₂, 389; Фасмер,3, 43).

**Напаткáць** 'сустрэць', 'натрапіць' (Яруш., ТСБМ, Сл. ПЗБ), *напаткнýцца* 'сустрэцца твар у твар' (Сцяшк.). Прыставачнае ўтварэнне ад **tykati* 'тыкаць, кранаць, сутыкаць', вядомага большасці славянскіх моў, параўн. яшчэ ў Насовіча *паткáць*

'сустрэць выпадкова', *паткнýць* 'раптам наткнуцца на каго-небудзь', *паткнýцца* 'выпадкова сутыкнуцца' і інш., цяпер звычайна малаўжывальныя без дадатковага прэфікса *(с-, на-,* гл. *спаткаць)*.

**Напатоліць** 'задаволіць': *Цэлага быка зарезаў... то ўс'их напатол'иў на в'ас'ел'л'и* (Сцяшк. Сл.). Вытворнае ад *патоля* (гл.), якое ў беларускіх гаворках мае розныя значэнні; тут найбольш падыходзячым з'яўляецца значэнне 'воля', параўн. *задаволіць*. Няясна, ці звязана з польск. (мальборк.) *napatolić sie* 'прыйсці ў госці без запрашэння, нечакана', якое Непакупны звязвае з назвай прускага бога *Patollus, Patols (Potols)*, што літаральна значыла 'падземны' (г. зн. чорт), параўн. *як з пад з'ямлі чорт прынёс* 'пра нечаканага наведвальніка' (Непакупны, Связи, 138—139; Лаўчутэ, Балтизмы, 81), да апошняга параўн. *патоля* 'непрыемнасць, скруха' (гродз., Сцяшк.). Бел. *напатоліць*, калі яно нейкім чынам і звязана з указанымі словамі, выразна дэманструе уплыў семантыкі славянскага **toliti* 'заспакойваць, задавальняць', параўн. рус. *утолить голод* і пад.

**Напатомны** 'які мае наступіць, быць потым, далейшы' (Гарэц.). Гл. *патомны* 'тс'.

**На пачáі** 'на самым пачатку, напярэдадні' (Мат. Маг.). Нязвыклая форма назоўніка **пачай* 'пачатак' утворана, відаць, ад *пачаць*, як *наганяй* ад *наганяць*, рус. *случай* 'выпадак' ад *случаться* і пад. Хутчэй за ўсё лакальны архаізм, суадносны з дзеясловам *напачаць* 'пачаць'.

**Напаў-** — першая частка складаных слоў *напаўгнілы, напаўдзікі, напаўмёртвы* і г. д., якая абазначае частковую прысутнасць прызнака, выражанага ў другой частцы слова. Да *напоў (*напол)* 'напалавіну' (гл.). Баханькоў (Весці АН БССР, 1981, 1, 120) беспадстаўна лічыць названыя словы недакладнымі калькамі з рус. *полугнилой, полумертвый* і інш., хутчэй тут прысутны ўплыў польск. *napółdziki* і пад., паколькі ў народнай мове такога тыпу ўтварэнні сустракаюцца рэдка, параўн., аднак, *напоўсмерць, напоўсмерці* 'страшэнна, да паўсмерці' (ТС) і пад., якія паказваюць, што першапачаткова падобныя ўтварэнні ўзніклі сярод прыслоўяў, а потым распаўсюдзіліся і на прыметнікі. Зубаты лічыць утварэнні тыпу чэш. *na půl* пазнейшымі, першаснымі былі спалучэнні са склонавай формай падвойнага ліку *na poly*, параўн. чэш. *na poly živý* 'напаўжывы', польск. *napoły pijany* 'напаўп'яны', што ўжывалася паралельна з *napół* (Зубаты, Studie, 171). Выказваецца думка пра ненатуральнасць утварэнняў з *напаў-* у беларускай мове (параўн. Каўрус, Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989, 162).



**Напáшкі** 'накінуўшы на плечы' (докш., Янк. Мат., Янк. 1, Сцяц., калінк., рагач., Мат. Гом., Мат. Маг.), *напáшку* 'тс' (навагр., Нар. словатв.). З *наапашкі* 'тс' (гл.).

**Напашэ́ве** 'пад рукамі, нагатове, у патрэбную хвіліну' (слуц., Вітка, Полымя, 1988, 7, 201), 'на такім месцы, дзе можна ўзяць адразу, не шукаючы' (слуц., Нар. словатв.), *напашэ́вя* 'пад рукою, навідавоку' (дзярж., Нар. сл.), *напашэўку* 'пад рукамі, пад рукой' (мін., Жыв. сл.; стаўбц., Нар. сл.; Янк. Мат.; шчуч., Сцяшк. Сл.), 'блізка, пад рукамі' (Сл. ПЗБ). Відаць, са спалучэння *на пашэве,* дзе другая частка — назоўнік у месным склоне **пашэ́ва* ці **пашэ́ў* 'пахва', параўн. польск. *poszew, poszwa* 'тс', першапачаткова 'трымаючы руку на похве са зброяй'; у выпадку спалучэння *на пашэўку* — 'паклаўшы руку на похву', параўн. польск. *poszewka* 'похва', усё да *шыць, шво* (гл.). Магчыма і іншая версія, якая ўлічвае наяўнасць у радзе славянскіх моў прыслоўяў тыпу польск. *poszewo* 'коса, нахілена, крыва' (магчыма, да *szawiać* 'кранаць, рухаць', што Брукнер (542) параўноўвае з *chwiać*, параўн. *шáваць* 'рухаць', рус. *шевелить* 'тс'), славен. *pošev* 'коса', асабліва *napošev* 'коса, накасяк', што дае падставы гаварыць аб адноснай старажытнасці слова, аднак адсутнасць фіксацыі зыходнай формы ў беларускіх гаворках прымушае лічыцца з магчымасцю запазычання. У карысць апошняй версіі сведчыць, магчыма, і ўкр. *на-похваті* 'навідавоку, пад рукой', дзе другая частка — аддзеясloўны назоўнік *похват* (да *хватати* 'хапаць'); тады магчымае **пашэў* 'рух, крананне' (да *шаваць* 'рухаць, кранаць'). Цікава, што пры гэтым захоўваецца фармальная суадноснасць з іншым варыянтам назвы ножнаў — *похва*, што не выключае магчымых зближэнняў у развіцці семантыкі слова.

**Напаяўцы** 'навідавоку, пад рукамі' (круп., Полымя, 1980, 8, 254). З *на* і **паяўка*, відаць, памянш. ад *паява* 'з'яўленне, наяўнасць'.

**Наперагонкі** 'навыперадкі' (Сл. ПЗБ). Ад *перагнáць* 'апярэдзіць', да словаўтварэння параўн. *навы́перадкі* 'тс'.

**Напéрад** 'уперад' (ТСБМ, Ян.), *наперэ́д* 'тс' (ТС), *напéрад, наперэ́д, напярод* 'раней', 'спачатку' (Жд. 2, Ян., ТС; пруж., Сл. ПЗБ), укр. *наперед* 'уперад', 'спачатку', 'надалей', рус. *наперёд* 'раней', 'спачатку', 'у будучым', польск. *naprzód* 'спачатку', 'уперад', серб.-харв. *напред* 'уперад', балг. *напред* 'тс', макед. *напред* 'тс'. Са спалучэння **na* і назоўніка ў він. скл. адз. л., гл. *перад*$_1$, *пярод* 'пярэдняя частка'; семантыка 'спачатку', 'раней', 'надалей' развілася з прасторавага значэння для абазначэння часу, пры гэтым пунктам адліку можа стаць як мінулы, так і будучы адрэзак часу.

**Напе́рак** *(напе́рек)* 'папалам': *Наперак перарэзаў* (Нас.). Гл. *пе́рак* 'упоперак' (прасл. **perky*).

**Наперакі́** 'насуперак, назло' (Арх. Федар.), *напяраке́* 'насупроць' (Жд. 1), *напярэк* 'тс' (Нас.), польск. *naprzeki* 'упоперак', чэш. мараўск. *nap̌íky* 'насуперак', ст.-чэш. *nap̌ieky*, славац. *naprieky*, в.-луж. *naprěki*, балг. *напреки*, макед. *напреки*. Прасл. **naperky*, ад **perky* (ESSJ SG, 2, 129), гл. *пе́рак*.

**Наперахоп,** *напярахоп, напярахапэ́* 'навыперадкі' (кіраўск., Нар. сл.), *наперахопкі* 'тс' (Яўс.). Да *перахапіць* 'пераняць, апярэдзіць', да словаўтварэння, параўн. *наперагонкі* 'навыперадкі'.

**Напе́рва** 'спачатку' (в.-дзвін., Шатал.), *на́перва (на́перво)* 'тс' (Нас.). Са спалучэння *на* і **перво*, він. скл. н. р. ад лічэбніка **pьrvъ*, відаць, спачатку ў складзе сінтагмы тыпу **na pьrvo vertę* 'першапачаткова', з якой ў выніку страты апошняга элемента (=семантычная кандэнсацыя) узнікла канструкцыя, што пазней ператварылася ў прыслоўе. Параўн. ідэнтычнае па структуры *напе́ршо* 'перш-наперш' (лях., Сл. ПЗБ) ад *першы* (гл.).

**Напе́рыч** 'насыпка' (браг., Нар. словатв.), *напе́рніч* 'тс' (Сцяшк., ветк., лоеў., Мат. Гом.), *напернік* 'тс' (рэчыц., Нар. сл.; браг., добруш., гом., Мат. Гом.). Да *пяро, пе́р'е* (гл.), прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне на базе прыназоўнікавага спалучэння *на пе́р'е*, параўн. *нагаловіч* 'чапец', гл. Сцяцко, Афікс. наз., 252.

**Напе́таваць** 'накласці, наладаваць' (Некр.). Гл. *петаваць*.

**На́пінка** 'накідка' (ТС), *напіна́нка, напіна́ха* 'вялікая хустка' (Ян.). Ад *напінаць* 'нацягваць, насоўваць, накрываць, надзяваць'; да *пяць, пну* 'цягнуць' (гл.), параўн. *насоў, напра́тка* і пад.

**Напіргáць** 'наштурхаць' (маладз., мін., Янк. 2). Гл. *піргаць*.

**На́піта** 'насцеж' (Гарэц., Бяльк., Мат. Маг.; віц., Бел. дыял.), 'шырока, да канца расчыніць (акно, дзверы)' (бялын., Янк. Мат.), *на́пята* 'тс' (ветк., Мат. Гом.), 'наўсцяж, наросхрыст' (Юрч.), рус. *напяте́, на́пяту, на́пято, на́пяты* 'насцеж (пра дзверы, вароты)'. Відаць, да *пяць, пну* (гл.), параўн. *на́пяты* 'расцягнуты, нацягнуты'. Не выключана, аднак, і іншая версія: да *пята́* 'гняздо, у якім мацавалася вось дзвярэй', параўн.: *На ўвесь пятнік расчыніў дзверы* (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.), пры *пя́тнік* 'перакладзіна, верхні вушак' (Мат. Маг.), г. зн. 'так, каб быў відаць увесь вушак'. Гл. таксама Шаур, Etym. Brun., 99.

**Напітошыць** 'напхаць' (кап., Нар. словатв.). Гл. наступнае слова.



**Напіцава́цца** 'запрацавацца' (Янк. 2). Да *піцава́ць* 'цяжка працаваць' (гл.).

**Напіцава́ць** 'натаптаць, напхаць, набіць' (слонім., Жыв. сл., Сцяц., стаўбц., Нар. сл., Янк. 2). Да *піцава́ць* 'піхаць і інш.', відаць, спачатку 'збіраць фураж, корм' з польск. *picować* 'тс' ад *pica* 'корм, яда'.

**Наплагу́ніць** 'паналіваць' (карэл., Сцяшк. Сл.). Няясна, магчыма, звязана з *пля́га* 'дрэннае надвор'е'.

**Напла́ў** 'смецце (ад прыбою, разліву)' (гом., Мат. Гом.). Да *плавіць* 'сплаўляць', *плаў* 'смецце, якое наносіць вада', *наплаваць* 'наплываць, набірацца' (ТС).

**На́плестка** 'вузкая планка, якая накладаецца на капылы паверх намаразняў' (свісл., Шатал.). Магчыма, з *на́калеска* 'тс' (гл.), збліжанае з *плясці́* або з *пляскаць*, параўн. рус. *внахлёст* 'зверху, наверх (прыбіць)' ад *хлестать* 'сцябаць'.

**Наплоіць** 'завіць': *наплоіць валасы́* (Бяльк.; полац., Нар. лекс.). Да *плоіць* 'закручваць, укладваць' (гл.).

**Наплю́жыць** 'наплюхаць, напаскудзіць' (ТС). Магчыма, звязана з *плюга́вы* 'брудны, агідны' (гл.), чэш. *plihati* 'валачыць, пэцкаць у гразі', славац. *pľuhat'* 'тс' (гл. Махэк$_2$, 462) або ўтворана ад *плюгаць*, варыянт да *плюхаць* 'ліць' з азванчэннем зычнага ў інтэрвакальным становішчы. Параўн. таксама *плеву́жыць* 'моцна ліць' (ТС).

**Наповерку,** *наповеркі* 'несці груз удвух, прымацаваўшы да сярэдзіны палкі і ўзяўшыся за яе канцы або палажыўшы іх на плечы' (Юрч.), 'наперавес' (Нас.), *наповірку* 'тс' (Яруш.), 'трымаючыся ўдвух за абодва канцы' (Бяльк.), параўн. балг. дыял. *на по́веречки* 'спосаб несці груз удвух на палцы, да якой ён прымацаваны'. Балгарская паралель дае падставы рэканструяваць першапачатковае спалучэнне з прыназоўнікам **na poverku*, дзе другая частка назоўнік, параўн. польск. *powerek* 'кій', *powyrek* (з 1532 г.) 'кій для нашэння вёдраў, каромысла'; чэш. *poverek* і *povereň* 'кій для пераноскі цэбраў (прасоўваецца праз абодва вухі цэбра)', ст.-чэш. *pověrek*, славен. *povêrek* 'каромысла' параўноўваюць з серб.-ц.-слав. *повора* (XVI ст.) 'насілкі, паланкін' (да **verti*) (Махэк$_2$, 476; Варбат, АДД, 14), адносяць да **vyriti* 'тырчэць' (Брукнер, 639), параўн. таксама рус. *верать, вирать* 'піхаць, усоўваць', гл. *аўраць, вор$_2$*. Згадка ў Насовіча пра сувязь з *поверх* 'зверху' не мае падстаў (гл. Нас., 314).

**Напо́й** 'пітво' (Нас.; рэч., Груз.), 'запой' (Грыг.), 'гарэлка' (смарг., Сцяшк. Сл.), укр. *напій* 'напітак', рус. *напой* 'напітак; перыяд ап'янення', польск. *napój* 'пітво, напітак', чэш. *nápoj* 'тс', славац. *nápoj*, в.- і н.-луж. *napoj*, славен. *napoj*, серб.-харв. *напој*, балг. дыял. *напой* 'вадапой'. Аддзеяслоўны назоў-

нік ад *napoiti 'напаіць', што да *poiti, *piti (гл. паіць), параўн. навой ад навіць, набой ад набіць і г. д. (Махэк₂, 452; Шустар-Шэўц, 13, 988; Герай-Шыманьска, БЕ, 30, 1980, 2, 153—155). Спроба вывесці ст.-бел. напой 'напітак, пітво' (1518 г.) са ст.-польск. napoj 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 118) цалкам беспадстаўная.

**Напол** 'вялікая кадушка, выдзеўбаная з дрэва' (Бяльк.), *напал, напол* 'тс' (Мат. Маг.), рус. *напол* 'тып кадушкі'. Паводле Фасмера (3, 43), першапачаткова 'перапілаваная папярок бочка, кадушка', што з *на+пол* 'палавіна', параўн. ст.-бел. *напольı* 'напалавіну' (XVI ст.), са спалучэння *на+*він. скл. мн. л. назоўніка *полъ* 'палова' (Карскі, 2—3, 158), сучаснае *напалы* 'на дзве роўныя часткі, папалам'. Гл. *напал*.

**Наполак** 'жалезная лапатачка ў сахі, пры дапамозе якой зямля пры аранні адкідваецца на адзін бок' (Нас.), 'тып лапаткі над лемяшам' (Грыг.). Адсылка Насовічам да іншай назвы рэаліі *паліца* — фактычна дае этымалогію слова, параўн. *полка, паліца* 'дошка, прымацаваная рабром да сцяны' (гл.). Наўрад ці сюды *наполак* 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, камент., 809); хутчэй да папярэдняга слова (гл. *напол*), тут — 'адна з частак калодкі, расколатай напалову', параўн. *аполак*.

**Напонка** 'верхняя планка ў папяровым змеі, сцягнутая ніткай' (Растарг.). Ад *напінаць* 'нацягваць', гл. *пяць, пну*.

**Напопускі** 'наўздагон' (карэл., Сцяшк. Сл.). З *на-, по-* і *пускаць*, параўн. *прыпусціць* 'кінуцца бегчы', рус. *взапуски* 'навыперадкі' і інш., першапачаткова, відаць, ад *папусціць* 'уступіць, паддацца, даць сябе апярэдзіць', словаўтварэнне як у *наперагонкі* (гл.).

**Напор** 'упартасць' (Нас.), *напора* 'ўпарты' (Бяльк.). Да *напірáцца* 'ўпарта дзейнічаць з мэтай ажыццяўлення свайго жаданная, настойваць' (Нас.), параўн. *вупар* 'упарты чалавек', усё да *перці* 'ціснуць, націскаць', сюды таксама *напорам* 'націскам' (чач., Мат. Гом.), *напором* 'гвалтам, сілком' (ТС); іншая семантыка ў *напор* 'прыпар, напружаная пара' (ТС), *напорны* 'напружаны' (Жд. 2), параўн. *наперці* 'наваліцца', *наперціся* 'напружыцца' і пад.

**Напоў** 'папалам' (Гарэц., Др.). З прыназоўнікавага спалучэння **на polъ*, гл. *поў* 'палова, палавіна', параўн. рус. *напол* 'папалам, напалавіну', польск. *napół* 'тс', в.-, н.-луж. *napoł* 'тс', славен. *napol* 'тс' і пад. (Фасмер, 3, 43; Шустар-Шэўц, 13, 988). Пераход *л>ў* звычайна не характэрны для канца слоў, параўн. *вол, кол* і пад., хутчэй за ўсё ў выніку частага ўжывання ў складаных словах і ўстойлівых выразах тыпу *паўтара* (Карскі, 1, 318), гл. таксама *напаў-*, параўн.,



аднак, *напал, напол* (гл.), магчыма, з *напалы* 'папалам, напалавіну' (ст.-бел. *напольı* 'тс').

**Напочат** *(напочет)* 'па прыкладу, па ўзору, падобна да' (Нас.). Да *почат* 'прыклад, узор, падабенства' (гл.).

**Напрáва** 'рамонт; выпраўленне' (Нас., Гарэц.). Да *прáвіць* 'рабіць, выпраўляць' (гл.), першапачаткова 'рабіць роўным', параўн. балг. *прав* 'прамы' і пад.; па гэтай прычыне малаверагодна запазычанне *направіць* 'адрамантаваць' з польск. *naprawić* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Напрадвéсні** 'ў пачатку вясны, ранняй вясной' (Гарэц., Сл. ПЗБ), *напрадвяснé* 'тс' (Сцяц.), *na paradv́eśńe* 'тс' (Кліх). Гл. *прадвéсне* 'пачатак вясны'.

**Напразэ́нці** 'наперадзе': *Мы напразэнц'і удвох стайалі, нас п'ершых пазвал'і* (Сцяшк. Сл.). Відаць, запазычанне з польскай, аднак дакладнай крыніцы не выяўлена; параўн. *prezentować się*, адно са значэнняў якога 'выстаўляцца, вылучацца, дэманстраваць сябе', што да *prezencja, prezenta* 'прадстаўленне, пастава' (з лац. *praesentia*).

**Напракýдзіць** 'нагарэзнічаць' (ТСБМ), *напракуднічаць* 'тс' (Нас.). Гл. *пракýда* 'гарэза, сваволънік'.

**Напрáма** 'кірунак, напрамак' (Яруш.), *напрáмак* 'тс' (Байк. і Некр., ТСБМ). Відаць, наватвор беларускай літаратурнай мовы, што ўзнік шляхам запазычання з укр. *напрям, напрямок* 'тс' ці ў выніку калькавання рус. *направление* 'тс' (з ц.-слав. *правъ* 'прамы'); пры гэтым варта адзначыць, што магчыма і самастойнае развіццё на базе народных прыслоўяў тыпу *напрамік, напрамкі* 'напрасткі, нацянькі' (Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС) праз абагульненне семантыкі 'напрасткі' — 'напраму, у кірунку да мэты' — 'кірунак'.

**Напранýць** 'накрыць': *Напрані яе радном* (гродз., З нар. сл.), *напрануцца, напрянуцца* 'накрыцца': *Лісцяйкам напрянуся* (Кос.), *Naprańŭśia kažichóm* (Пятк.); *напрануць, напрянуць* 'надзець, апрануць' (Нас., Бяльк., Пал., Мат. Гом., Ян.), *напрянуцца* 'адзецца, апрануцца', 'укрыцца' (Нас., Мат. Маг.), рус. дыял. *напрянуть* 'надзець, накінуць', укр. *напрянути* 'пакрыць, накрыць, нацягнуць', незак. *напрядати*. Відаць, да прасл. **prędati*, шматзначнага дзеяслова, які сярод іншых меў значэнне 'рабіць рэзкія рухі' (параўн. рус. *конь прядет ушами*), 'накідваць', гл. *прадаць* 'бегаць' (Растарг.), *пранууць* 'стукнуць, ударыць' (Нас.); збліжэнне з **prętati* 'хаваць' праз стадыю 'прыбіраць', 'нараджаць і хаваць нябожчыка', 'апранаць', да якога Мяркулава (Этимология-1974, 67) адносіць бел. *напрануць, напрануцца*, можа быць другасным, параўн. *апранаць*. Гл. таксама *напрáтка*.

**Напрáсны** 'дарэмны', *напрáсна, напрáсне, напрáсня, на-*

*прáсно* 'дарэмна' (Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *напрáсць, напрáсніца, напрáсліна* 'паклёп, дарэмшчына' (Нас., Грыг., Нік. Оч., Мядзв., Мат. Маг., Сл. ПЗБ), *напрáснаваць* 'нападаць, беспадстаўна чапляцца' (Нас.), рус. *напрáсный* 'дарэмны, непатрэбны', *напрáсная смерть* 'выпадковая, нечаканая смерць' (СРНГ), укр. *напрáсний* 'раптоўны', серб.-харв. *нàпрасан* 'гарачы, круты; раптоўны', *нàпрасна смрт* 'раптоўная смерць', балг. дыял. *напрáсна болъс* 'апаплексія', *нáпрасен дъжд* 'моцны, буйны дождж', ст.-слав. *напрасьнъ* 'раптоўны'. Пры першапачатковым значэнні 'раптам, знянацку' можна звязаць з балг. *прáсна* 'трэснуць, стукнуць', серб.-харв. *прȁснути* 'трэснуць; успыхнуць; раптоўна з'явіцца, пачацца; здохнуць', рус. *прáскать* 'ляскаць, шчоўкаць' і пад., якія лічацца гукаперайманьнага паходжання (Фасмер, 3, 43; 354); не выключана другасная сувязь з прасл. **porzdьnъ* 'пусты, парожні' для паўднёваславянскіх слоў, параўн. балг. *напрáзно,* макед. *напразно*, серб.-харв. *напразно* 'дарэмна', што праз царкоўнаславянскую мову маглі ўплываць на семантыку ўсходнеславянскіх слоў, параўн. таксама славац. *naprázdno*, польск. *napróżno* 'тс'. У святле гэтых фактаў не выключана магчымасць запазычання. Іншыя версіі гл. Варбат, Этимология-1964, 30—36 (ад *прасіць*), Куркіна, ВЯ, 1981, 5, 88 і інш.

**Напрасты́** 'прамой дарогай, напрамік' (Бір. дыс.), *напросці* 'тс' (ТС), *напрасці́к* 'тс' (Янк. 1), *напрасцікі́* 'проста, бліжэйшай дарогай' (Некр., Мат. Гом.). Да *просты* 'прамы'.

**Напрáтка,** *напрáтка* 'верхняе адзенне, вопратка' (Нас., Мат. Маг., Бяльк., Пал., Сцяшк., Юрч., Мат. Гом.), 'від адзення' (Грыг.), памянш. *напраточка* (Шн.). Гл. *напранýць*.

**Напровесні** 'напрадвесні' (зэльв., Жыв. сл.; калінк., З нар. сл.). Гл. *провесна*.

**Напродзіў** 'надзіва, на здзіўленне' (Нас., Гарэц.), *напрыдзíў* 'на погляд' (Доўн.-Зап., Пінч.). Гл. *продзіў* 'дзіва'.

**Напрóст**1 'напрасткі, напрамую' (ТС). Да *просты* 'прамы'.

**Напрост**2: *жаць напрост (на прост)* 'не звязваючы ў снапы' (Янк. 1, ТС), 'жаць, рассцілаючы жмені' (калінк., З нар. сл.). У народных уяўленнях звязваецца з *просты* 'прамы, просты, нескладаны (спосаб уборкі)'; хутчэй да *прасцілáць* 'рассцілаць, раскладваць', гл. *просцілка* 'посцілка' і пад., ці да *прасцірáць, прасцéрці* 'тс' (прасл. **(pro-)sterti, *(pro-)stьrǫ)*, тады зыходная форма была б **na prostьlъ* ці **na prostьrъ*, змененая пад уплывам **prostъ*.

**Напроці,** *напроцій* 'насупраць; насустрач' (Яруш., Сл. ПЗБ, Жд. 2, Мат. Гом., ТС), 'насуперак' (Янк. 1, ТС, Сл. ПЗБ, ТС), 'у параўнанні' (Мал., ТС), 'перад': *напроці дня* (лельч., Нар. лекс., ТС), 'да': *Нема напроцій кого отозвацца*



(ТС), 'за, па': *напроці ягод едзе* (ТС), *напроця* 'насупраць' (Юрч.), *напроць* 'насупраць, насуперак' (Яруш., Сл. ПЗБ, Жыв. сл.), *напроцíйку* 'тс' (Нас.). Да *проці, процій* (гл.).

**Напрýд** 'насілу' (Сержп., Отч.), сюды ж *напрýдзіцца* 'напружыцца' (Пал.), 'напрэгчы ўсе сілы' (Растарг.). Да **prǫd* 'цячэнне', што звязана чаргаваннем з **pręd-*, гл. *прадáць, пранýць*; іншыя значэнні прадстаўлены ў *пруд* 'запруда', *прудкі* 'хуткі' і пад. Цікавы архаізм, у якім захавалася першасная семантыка славянскага слова 'сіла, напружанне'.

**Напры́клад** 'прыкладна' (Нас.), 'напрыклад' (Гарэц., Яруш., Байк. і Некр., ТСБМ). Згодна з Кюнэ, разам з укр. *наприклад* 'тс' запазычана з польск. *na przykład* (Кюнэ, Poln.). Малаверагодна, гл. *прыклад*.

**Напры́шля** 'напрыклад' (бяроз., Выг.), *напры́шляй* 'тс' (ляхав., Янк. Мат.). Няясна.

**Напры́шнік** 'частка вуздэчкі' (Маслен.). Утворана ад *прысы* 'пыса ў жывёл' па тыпу *намýснік* (ад *мýса*), *нахрáпнік* (ад *хрáпа*) і пад. (Непакупны, Связи, 46—47).

**Напрэ́ндзіць** 'надуць, уздуць': *trybuch naprendzić* (слонім., Арх. Федар.). Ад *прэ́ндзіць* 'уздуваць' (гл.), відаць, іранічна спаланізаванага ўтварэння, паралельнага да *прудзіць* (гл.).

**Нáпсінь** 'дрэва, пасінеўшае ці пачарнеўшае ад вільгаці' (Нас.), *напсíніць* 'пасінець ад вільгаці, макраты' (Нас.). Гл. *псініць* 'намакаць да гніення, прымаць сіні колер (пра дрэва)', паводле Насовіча (Нас., 316), да *пасінéць*; хутчэй да *псінь* 'непрыемны пах; гніль': *Гето дерево псинь* (Нас.), параўн. *псіна* 'сабачае мяса; дрэнны пах'; параўн. *сапсéлы* 'састарэлы, слабы', усё да *пёс*; магчыма народнаэтымалагічнае збліжэнне з *сіні, сінець*.

**Нáпто** 'вельмі, занадта, залішне' (лельч., Нар. лекс.). Відаць, з *натто (надто)* 'надта, вельмі' шляхам распадабнення зычных. Гл. *надта*.

**Напýганы** 'празмерна адзеты', *напугацца* 'празмерна надзець на сябе, начапляць лішняга', 'надзьмуцца, натапырыцца', 'абкружыцца імглістым кругам (пра месяц)' (ТС). Можа разглядацца разам з *напýгацца* 'нажлукціцца, напіцца' (Нас., Янк., Сцяц.; стаўбц., Нар. сл.; жлоб., Нар. словатв.; Сцяшк.), 'напіцца чаго-небудзь настолькі, каб нельга было самому ўстаць з месца' (Шпіл.), 'нажэрціся' (Янк. 1, Клім., Мат. Гом.), што да *пýгаць* 'сёрбаць, хлябтаць' (гл.), гукаперайманьнага паходжання; значэнне 'празмерна надзець на сябе' праз стадыю 'стаць тоўстым (ад піцця, яды)'. Аднак не выключана, што гэта значэнне развілося на іншай базе, параўн. *напýгаласа, бы пугáч* (ТС), што звязваецца з вобразам птушкі, якая натапырвае пер'е, надзімаецца пры пагрозе; тады хутчэй

да *pǫgy 'патаўшчэнне', параўн. рус. *пу́говина* 'узвышэнне, горб', *пу́говица* 'гузік', літ. *pugulis* 'уздутае ўзвышэнне' і пад.

**Напу́чываць** 'павучаць' (Юрч., СНС), *напуча́ць* 'навучаць, накіроўваць на правільны шлях' (Ян.). Да *пуць* 'шлях, дарога' ў выніку семантычнай кандэнсацыі вядомага царкоўнаславянскага выразу *наставлять на путь истинный* 'настаўляць на жыццёвы шлях, павучаць', параўн. укр. *напуча́ти, напу́чувати* 'паказваць шлях, навучаць', рус. *напути́ть* 'паказаць шлях; навучыць' і інш.

**Напшэ́ціць** 'напсаваць' (Сцяшк. Сл.). Метатэза ад **нашпэ́ціць*<польск. *naszpecić* 'нашкодзіць, нарабіць дрэнна, абы-як'.

**Напыскаць** 'крапіць вуллі воцатам, мёдам, настоем зелля і пахучых кветак для прыманьвання пчол' (Кіркор). Відаць, з *напырскваць*, параўн. *напырск* 'пахучае рэчыва для прыманьвання пчол' (Сл. ПЗБ). Гл. *пы́рскаць*.

**Напы́цца:** *Торбу конскую ў нас яшчэ напыццай называюць* (светлаг., Мат. Гом.). Да *пы́са, пыца* 'морда каня'.

**Напэ́рло** 'чыста', *напэрло памый падлогу* (дзятл., Сцяшк. Сл.). Відаць, ад *пэ́рла* з польск. *perła* 'перл, перламутр', параўн. *бліщчыць, як шкельца* (пра нешта чыста вымытае); ёсць таксама звесткі аб выкарыстанні ракавін пярловіцы (бяззубкі) для шаравання падлогі.

**Напярэ́спяхі** 'навыперадкі' (зэльв., Жыв. сл.), *на-піраспехі* 'наперагонкі, хто каго перагоніць у чым-небудзь' (Нік. Оч.). Ад незафіксаванага **пярэспех* ад *спех* 'спешка', гл. *спяшацца*.

**Напярэ́сцігі** 'напярэймы, наперарэз' (Сцяшк.; зэльв., Жыв. сл.; карэл., Янк. 1), *напярэ́сцікі* 'наўпрасткі, карацейшым шляхам, наперарэз (ісці, бегчы)' (Янк. 1). Ад незафіксаванага **пярэ́сціг* 'абгон', да рэдкага ў беларускай мове — *сціга́нуць* 'дагнаць, дасягнуць' (прасл. **stignǫti)*, параўн. *насці́гнуць* 'нагнаць' (Некр. і Байк.) і пад.; утворана па тыпу *наперахопкі* 'навыперадкі', *наперагонкі* 'тс' і г. д., формы з *-к-* замест *-г-* пад уплывам апошніх.

**Нара́** 'нара, дзірка ў зямлі ці інш.' (Яруш., Байк. і Некр., ТСБМ), таксама *но́ра* 'тс' (Янк. 3), *нура́* 'тс' (віл., Сл. ПЗБ), *нора́* 'нара, глыбокая яміна з вадой' (ТС), укр. *нора*, рус. *нора*, польск. *nora, nura*, чэш., славац. *nora* 'тс'; славен. *nora* 'яма, пячора' лічаць запазычаннем (параўн. Копечны, Zakl. zasoba, 275), аднак наяўнасць адпаведных мікратапонімаў пярэчыць гэтаму (Бязлай, 2, 227). Відаць, лакальнае ўтварэнне па тыпу *жара́* (гл. *жа́рыць*) ад прасл. **noríti*, гл. тураўск. *нора́ць, норня́ць* 'даваць нырца' (ТС), укр. *нори́ти* 'рыць норы', параўн. польск. *norzyć* 'ныраць, заглыбляцца', чэш. *nořiti*, славац. *norit'*, в.-луж. *norić*, славен. *noríti*, серб.-харв. *но̀рити* (з метатэзай *ро̀нити*), балг. дыял. *но́рвам*, макед. *норка* 'тс', *нарне* 'рынуцца'; праблематычна суаднясенне з *ныраць* 'тс', роднасным да літ. *nerìu, nérti, nẽriau, nãras* 'нырнуць, уцячы ў нару', лат. *nirt, nirstu* 'ныраць' і інш. (гл. Фасмер, 3, 82; Махэк₂, 401; Брукнер, 365—366, а таксама: РР, 1975, 1, 101—103).



**Наравíць** 'імкнуцца, намагацца, старацца' (мін., Жыв. сл.; слонім., Нар. словатв.), 'дагаджаць, гадзіць' (Нас., Федар., Сцяшк.), 'уступаць, саступаць' (навагр., З нар. сл.; Юрч.), 'чакаць': *цѣлый часъ норовивъ цебе* (Нас.). Гл. *нора́ў*.

**На́рад** 'нашчадкі' (Сержп. Грам.). Ад *нарадзíць* 'радзіць, даць жыццё'; магчыма, архаізм, у якім захавалася першаснае значэнне 'усе народжаныя, нашчадкі, род', параўн. *народ* (гл.).

**Нара́д₁** 'падрыхтаваныя да ткацтва кросны' (мсцісл., Жыв. сл., Лебед., Мат. Гом.), 'увесь набор ткацкіх прылад' (дзярж., З нар. сл.). Ад *нарадзíць* 'падрыхтаваць кросны да ткацтва', да *рад* (гл.).

**Нара́д₂** 'воз без драбін для вывазкі сена' (Сержп. Земл.), *нара́дка* 'воз, у якім возяць гной' (Жд. 2). Ад *нарадзíць* 'прыстроіць, падрыхтаваць', гл. *рад*.

**Нара́да** (Гарэц., Байк. і Некр., ТСБМ). Гл. *ра́да, ра́дзіць*.

**На́радзень** 'зародак (у яйцы)' (Шпіл.). Ад *нарадзíць*, гл. *радзíць*.

**Нара́дка** 'чары' (чач., Жыв. сл.). Магчыма, да *рад* 'намер' ці да *ра́да* 'работа', параўн. *нарабíць* 'наваражыць'.

**Нара́духа** 'вясёлка' (ТС). Відаць, народнаэтымалагічна асэнсаванае *ра́дуга*, збліжанае з *нарадзíць, нараджа́ць* 'упрыгожваць, прыбіраць'.

**Нара́зе** 'раптам, нечакана' (калінк., З нар. сл.), 'пакульшто' (Сцяц., Сл. ПЗБ), 'адразу' (Сл. ПЗБ). Са спалучэння *на разе*, дзе другая частка — назоўнік *раз* (гл.) у месн. скл. адз. л.; рус. *на́раз* і *нара́з* 'адразу', а таксама распаўсюджанне на беларускай тэрыторыі не даюць падставы лічыць яго запазычаннем з польск. *naraz* 'нечакана, раптам', як гэта прапануецца ў Сл. ПЗБ.

**Наразмíн** 'туды-сюды, адзін другому насустрач' (ушач., Нар. лекс.). Да *размінýцца* 'разысціся', гл. *мінýць, міна́ць*.

**На́разь** 'паасобку' (Бяльк.), параўн. рус. *на́раз* 'асобна'. З **на+розь*, гл. *розны*, сюды таксама *на ро́зь* 'асобна; у розныя бакі', *на́разна* 'асобна' (Нас.).

**Нара́іць** 'даць параду, параіць' (мазыр., Бел. каз. эпас, 75). Для польск. *naraić* 'тс' Атрэмбскі дапускае кантамінацыю *naradzić* 'тс' і *nastróić* 'тс' (Życie wyrazów). Гл. *ра́іць*.

**Нарака́ць** 'скардзіцца, выказваць свой боль, скруху' (Байк. і Некр., БРС, ТСБМ, Сл. ПЗБ), *нарэка́ць* 'тс', укр. *нарíкати*

'называць', 'папракаць', 'скардзіцца', рус. *нарекать* 'называць', 'надзяляць, вызначаць', 'скардзіцца', 'абгаворваць', польск. *narzekać* 'бедаваць, жаліцца, скардзіцца', чэш. *naříkati* 'жаліцца, шкадаваць' і пад. Гл. *рэ́кнуць*.

**На́рап** *(на́роп)* 'дробны, пушысты снег, які скрыпіць пад палазамі' (Нас.), *на́раплівы: наропливая дорога* 'дарога, пакрытая такім снегам' (там жа). Да гукапераймальнага *роп!*, што перадае скрып снегу, гл. *нары́п*.

**На́рапкам** 'імкліва, нечакана?': *Ён паяўляўся нарапкам* (Скрыган). Відаць, з **на-рапт-кам*, першапачаткова **на-раптκі*, параўн. *напрасткі* і пад., гл. *рапт* 'парыў', *раптам* 'нечакана'.

**На́расць** 'нараст' (Гарэц., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *на́расцень* 'тс' (Нас.; бялын., Янк. Мат.; Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС), *на́раснь* 'тс' (Мат. Гом.), *на́расля, наро́сля* 'тс' (Мат. Гом., ТС), *на́расль* 'тс' (Сл. ПЗБ). Ад *нараста́ць*, гл. *расці́*.

**На́рат**₁ 'чорт?': *Каровы нарат не возьме* (Адамчык), *на́ратка: шукаць нараткі* 'шукаць бяды сабе, на сваю галаву' (карэл., Янк. Мат.). Няясна. Магчыма, мае агульнае паходжанне з *нарт* 'упарты, наравісты чалавек' (з **на+ръть* 'вастрыё', гл. Фасмер, 3, 46) або з *нара́дка* 'чары' (гл.). Не выключана сувязь з *на́рат* 'нерат, верша', пераносна 'безвыходнае становішча' ў сувязі з канструкцыяй рыбалоўнай лавушкі.

**На́рат**₂ 'нерат, верша' (Сл. ПЗБ), *нараток* 'тс' (полац., З нар. сл.: докш., Сл. ПЗБ), 'вераўчаная сетка ў форме мяшка, у якую кладуць сена для каня, адпраўляючыся ў далёкую дарогу' (полац., Нар. лекс.; міёр., Нар. сл.; в.-дзв., Шатал.; Сл. ПЗБ). Гл. *норат, нерат*.

**Нара́ў** 'спадоба' (Юрч.), *нараўцо* 'звычай' (Некр.), *нараўцэ́: Дзе сяльцэ, там і нараўцэ* (Янк. 1). Гл. *нораў*.

**Нарачоны** *(наречоный)* 'названы' (Нас.), *нарачоная* 'нявеста' (Сл. ПЗБ), укр. *нарéчений* 'заручоны', 'жаніх', рус. *нареченный* 'названы', 'нарачоны, заручоны', польск. *narzeczony* 'тс'. Да **rekti*, гл. *рэкнуць*.

**Нарачы́та** 'назнарок' (Яруш., Бяльк.), *нарочыта* 'тс' (Растарг.), рус. *наро́чито* 'наўмысна; даволі многа', польск. *naroczyto* 'поўна, дастаткова, значна; урачыста', славац. *naročite* 'ўрачыста', серб.-харв. *на́рочито* 'спецыяльна; наўмысна', балг. *нарочито* 'тс'. Да **naročitъ*, параўн. ст.-слав. **нарочитъ** 'асаблівы, выдатны, праслаўлены', гл. *нарок*.

**На́рва**₁ 'нарыў, болька' (Бяльк.). Ад *нарва́ць*, гл. *нары́ў*; паводле Мяркулавай (Этимология-1978, 97), прасл. **narъva* 'гнайнік' ад дзеяслова **narьvati* 'нагнойвацца, тузаць (пра боль)'.

**На́рва**₂, мн. *на́рвы* 'намаразні' (карэл., Шатал.), *нарва́* 'прыстасаванне, якое кладуць на малыя санкі пры вывазцы бярвення' (навагр., Сцяшк. Сл.), *нарвіна* 'тс' (пін., Шатал.; Бяльк., Мат. Гом.), 'дошка, якая набіваецца паверх вязоў' (Маслен.), ст.-бел. *нарвина* (1684) 'перакладзіна', укр. *нарвина* 'перакладзіна, што ўтрымлівае канцы палазоў у загнутым стане пры вырабе саней', палеск. *наврина* 'бервяно, што ляжыць на сохах і служыць асновай грэбеня страхі' (Полесский этнолингв. сб. М., 1983, 161), рус. *нарва* 'папярэчная дошка для ўмацавання; перакладзіна, што злучае часткі сахі, воза і інш.' Паводле Фасмера (з літ-рай), з с.-н.-ням. *narve*, бавар. *närb, närw* 'засаўка' (Фасмер, 3, 44; Булыка, Лекс. запазыч., 97). Запазычана таксама ў славенскую мову: *narba* 'затычка, засаўка', гл. Бязлай, 2, 214. Пры адсутнасці ў польскай мове застаюцца няяснымі шляхі пранікнення ва ўсходнеславянскія; для беларускіх слоў не выключана другасная сувязь з *навіра́ць* 'насаджваць', асабліва для абазначэння намаразняў, што насаджваюцца на капылы *(нарвы<*наўры?*, параўн. прыведзены вышэй прыклад з метатэзай).



**Наркоз** (БРС, ТСБМ), *нархоз* (Сл. ПЗБ). З франц. *narkose* ці ням. *Narkose* ад лац. *narcosis*, грэч. νάρκωσις 'аняменне, здранцвенне'. Сюды ж *наркотык, наркатычны* з франц. *narcotique* ад лац. *narcoticus*, грэч. ναρκωτικός<ναρκάω 'дранцвець, нямець' (гл. Фасмер, 3, 44).

**Нарог** 'лямеш, сашнік' (Нас., Чач., Шн., Гарэц., Яруш., Тарн., Сл. ПЗБ); паводле Насовіча, назва ўжывалася ў Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губ.; згодна з ДАБМ, у паўночна-заходняй зоне беларускіх гаворак; за межамі гэтага арэала вядомы на Беласточчыне *naroχ* 'тс' (Смул.) і ўсх.-палес. *naroh* 'жалезны наканечнік рагаціны' (Маш.); ст.-бел. *нарогъ* 'сашнік' (Гарб.), польск. дыял. і ст.-польск. *naróg* 'жалезны зуб у сахі'. Празрыстая назва *(на+рог)* акрэслівае этналінгвістычную супольнасць, якая характарызуецца пэўным культурна-моўным адзінствам, у прыватнасці тыпам т. зв. літоўскай сахі (гл. Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. Мн., 1974, 17).

**Наро́д** 'народ, людзі, нацыя' (Яруш., Бяльк., ТСБМ, Сл. ПЗБ), укр. *народ*, рус. *народ*, польск. *naród*, чэш., славац. *národ*, в.-, н.-луж. *narod*, славен. *národ*, серб.-харв. *на́род*, балг. *наро́д*, макед. *народ*. Прасл. **narodъ*, аддзеяслоўны назоўнік (<**na-roditi*) першапачаткова з шырокім спектрам значэнняў, параўн. ст.-слав. **народъ** 'нараджэнне, паходжанне, парода', а таксама 'народжаныя, нашчадкі, род': **народъ людии**, **народъ оученикъ**, ст.-бел. *народоу людско* (XVI ст.), што магло адносіцца і да іншых жывых істот, параўн. чэш. *národ rybí* і пад.; пазней значэнне звузілася да 'людзі; пэўная суполь-

насць людзей' (Махэк₂, 389; Шустар-Шэўц, 13, 991; Фасмер, 3, 45; Бязлай, 2, 214—215; Дегцяроў, Этимология-1974, 90; ESSJ SG, 1, 121). Значэнне 'нацыя' ўзнікла на базе 'мноства, тлум', 'насельніцтва краіны' ва ўсходніх славян толькі ў XVIII—XIX стст. (гл. Ларын, Ист. рус. яз., 25). Гл. *род*.

**Народак** 'наседжанае яйцо' (Некр.), 'баўтун' (светлаг., Мат. Гом.), 'зародак' (ТС), 'сперматазоід' (ЭШ). Суфіксальнае ўтварэнне ад *нарадзіць*, параўн. *зародак, нáрадзень* (гл.).

**Нарожны** 'вуглавы, навугольны, краевугольны' (Нас., Гарэц.), ст.-бел. *нарожный* 'тс' (1508 г.); сюды ж *нарожнік* 'дзве сцяны хлява, зрубленыя ў вугал' (Юрч.), 'падстрэшак' (Ян.), 'рог страхі' (Гарэц., Др.), 'кут у гумне каля варотаў' (Бяльк.), 'наканечнік у драўляных вілах' (Нас.), *нарўожнік* 'вяроўка на рагах валоў' (Бесар.), ст.-бел. *нарожникъ* 'першы капец, ад якога пачыналася вымярэнне ўгоддзяў' (Гарб.). Да *рог* 'рог, вугал'; меркаванне пра запазычанне ст.-бел. *нарожный* 'вуглавы' са ст.-польск. *narożny* (Булыка, Лекс. запазыч.), улічваючы геаграфію і семантыку слоў, не мае падстаў.

**Нарок** 'прадвызначэнне, наканаванне' (Гарэц.), 'прызначэнне, лёс' (Др.), а таксама *нарокам* 'спецыяльна, наўмысна' (Чач., Нас., Гарэц., Бяльк.), 'жартам' (Чач., Нас., Яруш.), *наракавáць* 'прадвызначыць лёсам' (Нас.); рус. *нарок* 'зарок, клятва; намер, мэта', 'паклёп, нагавор; няпраўда, ілжа; хвароба ад дрэнных вачэй', польск. *narok* 'бачнасць', 'намер', 'абавязак пэўных паслуг для сярэднявечнага горада', чэш. *nárok* 'прэтэнзія (юрыдычны тэрмін)', славац. 'намер', славен. *nárok* 'тэрмін, вызначаны дзень', серб.-харв. *нáрок* 'прызначэнне, пастанова', 'шчасце', балг. дыял. *нáрок* 'прадузятасць; наўмысна ствараемы настрой супраць каго-небудзь', *нароча* 'наўмысна абвінавaціць', ст.-слав. **нарокъ** 'голас (за або супраць)', **нарокомь** 'па імені'. З **na* і **rokъ* (ад **rekti* 'сказаць'), гл. *рэкнуць* (Міклашыч, 274; Фасмер, 3, 45; Махэк₂, 300; Бязлай, 2, 215; Скок, 3, 120).

**Нароссыпі** 'на апошнім месяцы цяжарнасці' (Жд.). Ад *рассыпáцца* 'раджаць' (гл.).

**Нароў** 'нораў' (Ян.; мазыр. Бел. каз. эпас), *нароўка* 'нораў, характар' (Бяльк.). Гл. *нораў* 'тс'.

**Нарочна** 'знарок, спецыяльна' (Сл. ПЗБ), *нáрачна* 'тс' (Яруш.), *нарошна* 'тс' (Бяльк.), *нарошне* 'знарок, наўмысна' (ТС, Ян.), *нарошні* 'тс' (Яўс., Мат. Маг.), *нарошня* 'тс' (Мат. Маг.). Гл. *нарок*. Адрозненні ў фанетыцы адлюстроўваюць пераход *чн>шн*, параўн. *рушнік*, і розныя склонавыя формы прыметніка *нарочны*, ад якога ўтвораны прыслоўі (гл. Карскі, 2—3, 73).

**Нарошча** 'спосаб, прыём, метад' (полац., Нар. лекс.), *нарошч* 'раз, спосаб' (міёр., Нар. сл.), *нарóшчы* мн. 'прыступы', параўн.: *«Зуб разбалеўся, учора трыма нарошчамі як уздымецца боль...»* (мядз., Нар. словатв.). Няясна; наўрад ці ад *нарастáць* 'узрастаць, з'яўляцца зноў і зноў', хаця апошні прыклад мог бы сведчыць у карысць такога паходжання слова, параўн. *наварат* 'прыём, заход'. Магчыма, да **orzčęti* 'пачаць', параўн. балг. *начин* 'спосаб' (**načęti* 'пачаць') і пад., або да *рáска* 'столка' (міёр., Нар. сл.) з пераходам *а>о* пад націскам тыпу *штаны/штонікі* і чаргаваннем тыпу *доска/дошчка*.



**Нарт** 'упарты чалавек, які хоча ўсё рабіць па-свойму' (Бяльк.), 'назола, упарты' (Юрч. Фраз.), *нарт* і *нард* 'упартае, сярдзітае дзіця ці жывёла' (Нас.), сюды ж *нарціцца* 'ўпарціцца' (Юрч., СНС). Згодна з Фасмерам, з **na* і **rъtъ* 'вастрыё, шпень' (гл. *рот*), параўн. фразеалагізм *лезці на ражон* 'быць настырным, упартым' (гл. Фасмер, 3, 46); вывядзенне Насовічам *нард<нáрад* 'нараджэнне', параўн. *вырадак*, рус. *урод* і пад., здаецца менш пераканальным у сувязі з малой распаўсюджанасцю форм слова з канцавым *-д*, якія самі маглі ўзнікнуць пад уплывам народнай этымалогіі; балтыйская этымалогія, якую прапанаваў Вяржбоўскі для бел. дыял. *нарт, анарт, нард* 'дэспат, вупар'<літ. *nartùs* 'наравісты, упарты' і якую Лаўчутэ (Балтизмы, 56) лічыць надзейнай, пры наяўнасці назоўніка *nar̃tas* 'нораў' і дзеяслова *nértėti* 'шалець' здаецца больш пераканальнай, асабліва ўлічыўшы лакальны характар беларускага слова. Параўн., *нáрат* 'чорт' (гл.).

**Нáрты** 'лыжы' (Сцяшк., Сл. ПЗБ). У сучасным значэнні слова хутчэй за ўсё запазычана з польск. *narty* 'тс', вядомага з XVI ст. таксама ў значэнні 'канькі', аднак не выключана, што яно існавала і раней, у прыватнасці для абазначэння прылады для хадзьбы па снезе і па балотах на паўднёвым Палессі (Машынскі, Kultura, 1, 641), параўн. таксама рус. *нáрты* 'сані з шырокімі палазамі з лыжаў у паляўнічых', укр. *нáрти* 'касцяныя канькі з рэбраў жывёл', чэш. *nárt* 'верх нагі', 'пад'ём нагі', славац. *nárt* 'тс', в.-луж. *narć* 'пад'ём нагі; перадок', н.-луж. *narś* 'перадок у абутку', славен. *nárt* 'пад'ём нагі; перадок у абутку', куды можна аднесці і бел. *нарты* 'абутак вялікага памеру' (на думку аўтараў Сл. ПЗБ, пераноснае), што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **nar(ъ)ty*, згодна з прынятай этымалогіяй, з **na* і **rъtъ* 'вастрыё, шпень' (гл. *рот*). Другая частка прадстаўлена таксама ў *ірты* 'лыжы' (гл.) (Фасмер, 3, 45; Махэк₂, 390; Бязлай, 2, 215; Шустар-Шэўц, 13, 990; Брукнер, 356). Слаўскі (Lingua Viget, 120—123) лічыць, што форма адз. л. **narъtъ* так адносіцца да *rъtъ*, як бел. *нарог* да *рог* (<прасл. **rogъ*). Праблематычнымі застаюцца адно-

сіны славянскіх слоў да адпаведных угра-фінскіх, дзе яны абазначаюць 'лёгкія санкі, нарты' і маюць шырокае ўжыванне, параўн. саам. *nart*, мард. *nurdo*, вацяц. *nurt*, зыран. *nort* 'тс' і г. д. Большасць даследчыкаў дапускаюць спрадвечнае існаванне славянскага слова, аднак ускладненае ў некаторых арэалах уплывам запазычанага з угра-фінскіх моў слова са значэннем 'лыжы, лёгкія сані' (агляд л-ры гл. Бяднарчук, Acta Baltico-Slavica, 9, 1976, 57—58).

**Нару́б** 'надмагільны помнік; драўляная калода з суком, на якім выразаны крыж' (Клім.), *на́руб, но́руб* 'зруб (у калодзезі і інш.)' (ТС). Ад *наруба́ць* 'насячы' (гл. *руба́ць*), што адлюстроўвае спосаб пабудовы зруба (з вырубаннем гнёздаў на канцах бярвёнаў); назва надмагільнага помніка, відаць, другасная, пра што сведчыць іншая назва рэаліі *пры́хором* (Полесский этнолингвистический сб. М., 1983, 25), а таксама археалагічныя даныя аб рэштках спаленых прамавугольных зрубаў з пахаваннямі (Звод помнікаў гіст. і культ. Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984, 349); параўн. таксама запіс з Кобрынскага р-на: *Нарублéлы нару́бом могы́лу* (Міхайлаў, вусн. паведамл.).

**Нарубéц** 'навыварат' (круп., Нар. сл.). Да *руб, рубец* 'шво (у адзенні)'; мае адпаведнікі ва ўкр. *нарубі́* 'тс', чэш. *naruby* 'тс', славен. *narôbe* 'навыварат, наадварот'.

**Нару́га** 'ўпартасць, свавольства, непаслухмянасць' (Нас., Грыг., Гарэц.), 'здзек, насмешка' (Гарэц., Бяльк., Яўс., Юрч., Сцяшк. Сл.), 'вупар' (Нас.), 'назола' (круп., Макар.), *на нару́гу* 'на зло, насуперак' (Рам., Растарг.), укр. *нару́га* 'здзек, насмешка, ганьба', рус. *нару́га* 'лаянка, здзек, абраза', серб.-харв. дыял. *nȁruga* 'пачвара, вырадак'. Назоўнік ад *наруга́цца* 'насміхацца, здзекавацца, дражніцца', 'рабіць наперакор' (Нас., Гарэц., Бяльк., Жд. 2, Яўс., Сл. ПЗБ), 'надаядаць' (мядз., ул. інф.), роднаснага укр. *наругува́тися* 'закранаць, зачапляць', рус. *наруга́ться* 'здзекавацца; рабіць наперакор', польск. *narągać się* 'наздзекавацца, насмяяцца', славен. *narôgati se* 'здзекавацца', серб.-харв. *нару́гати се* 'здзекавацца, насміхацца, зневажаць'. Усё да **rǫgati* 'сварыцца, здзекавацца', гл. *руга́цца, руга́ць*, для якога Мяркулава (Этимология-1976, 97) дапускае першапачатковае значэнне 'абражацць, зневажаць словам і дзеяннем', параўн. балг. *на́ръгам* 'парнуць, кальнуць' і пад.

**Нару́жак** 'вонкі' (Ян.). У сувязі з ізаляваным характарам у народнай мове хутчэй за ўсё мясцовае ўтварэнне на базе рус. *нару́жу, нару́жи* 'звонку' па тыпу *надворак, навонак* і пад.

**Нару́жнік** 'неслух' (Нас., Гарэц., Бяльк., Яўс.), *нару́жніца* 'непаслухмяная, упартая дзяўчына' (Нас., Яўс.), сюды таксама *нару́жна* 'здзекліва' (Яўс.), *наружонік, наружоніца, наружоны, наруглі́вы* 'здзеклівы' (ушацк., Пытанні лексікал., фразеал. і стылістыкі. Мн., 1985, 51—53), рус. *нару́жник* 'насмешнік, лаяльнік'. Да *нару́га* (гл.), роднаснае польск. *naręzyć* 'парушыць' (Брукнер, 355), серб.-харв. чак. *narùžīt* 'аблаяць, абразіць', сюды ж, магчыма, і чэш. *náruživý* 'заўзяты, заядлы, страшны', да якога Махэк рэканструюе дзеяслоў **na-ružiti* (Махэк₂, 390), іншыя версіі паходжання апошняга слова гл. Шаур, Etym, Brun, 1978, 140 (роднаснае славен. *rúžiti* 'лушчыць, абдзіраць', рус. *ружь, наружу*), Варбат, Куркіна, Этимология-1979, 182 (да прасл. **ruž-* 'драць, рваць').

**Нару́сца** 'наплакацца, нараўціся' (Бяльк.). Да *ру́сьць* 'плакаць, раўці'.

**Наручкі** 'нейкая лінейная мера' (в. Ройсты б. Свянц. пав.; Крывіч, 1927, 12, 106). Няясна, хутчэй за ўсё да *рука́* (гл.).

**Нару́чэ, нару́ччэ** 'бярэмя (дроў), ахапак (сена)' (брэсц., Нар. лекс.), польск. *naręcze* 'абярэмак, ахапак', чэш. *náručí* 'абдымкі; ахапак, абярэмак', славен. *narôče, narôčje* 'абдымкі, прыпол; абярэмак, ахапак', серб.-харв. *на́ручје* 'абдымкі', *нȁручај* 'ахапак, бярэмя', балг. *на́ръч* 'ахапак', дыял. *на́ръче* 'тс'. Прасл. **naročьje*, да *рука* (гл.); Бязлай у славен. *naročje* бачыць зліццё двух розных слоў: **na-rǫčьje* (<*rǫka*) і **na-ročьje*, да апошняга ст.-чэш. *náročie, nároky, náročky* 'scrotum', ст.-польск. *naroki* 'вантробы, унутранасці' (Бязлай, 2, 214; Eseji, 148).

**Нару́шнік** 'ручайка, верацяно з напрадзенымі на яго ніткамі' (Бяльк.), 'манжэта' (Мат. Маг.). Да *рука́* (гл.).

**Нарцы́с** 'расліна Narcissus poeticus' (БРС, ТСБМ), *нарцы́з* 'тс' (Некр. і Байк.). Відаць, праз польск. *narcyż, narcys* 'тс', дзе непасрэдна з лац. *narcissus*<грэч. νάρκισσος, названага так з-за дурманячага паху (гл. *наркóз*).

**На́ры** 'падмосткі, дошкі на козлах для спання' (Яруш., Бяльк.), 'насціл з дошак для спання, палок' (Сл. ПЗБ), 'насілкі для вынасу нябожчыкаў' (Грыг., Сцяшк., Янк.), 'падстаўка пад галаву нябожчыка' (ТС). Не можа разглядацца асобна ад *ма́ры* 'пахавальныя насілкі' (Нас.), насуперак Фасмеру (3, 46), апошняе праз польскую і чэшскую мовы з ням. *Bahre* 'насілкі' (Брукнер, 324; Махэк₂, 352).

**Нарыжава́цца** (*нарыжова́цца*) 'нарумяніцца' (ТС). Відаць, да *ружовы* ці да *ру́ж* 'румяны' (<польск. *róż, różować* з франц. *rouge* 'чырвоны'), збліжанае да *рыжы* 'рыжы, светла-карычневы', параўн. *наружова* 'да падрумяненага стану' (Сл. ПЗБ).

**Нарыжава́ць** 'накласці чаго-небудзь у вялікай колькасці' (віл., Нар. сл.), *нарыжава́цца* 'сабрацца пайсці, паехаць куды-небудзь' (там жа). Няясна; апошняе слова, магчыма, ад літ.

*rýžtis* 'рашыцца, рашацца', параўн. таксама рус. *нарыгнуться* 'наведаць каго-небудзь ці што-небудзь' (СРНГ).

**Нары́йніца** 'эпітэт свінні і мянушка неахайнай жанчыны' (Кліх). Відаць, да *нары́ць* (гл. *рыць*); назва ўтворана, магчыма, з мэтай ахоўнай магіі, параўн. *рыкýння, рыкýха, рыкéля* (пра карову) і пад.

**Нары́каціць** *(нары́коціць)* 'натрапіць, наскочыць незнарок', 'набраць, назбіраць' (ТС). Няясна, магчыма, звязана з *нары́цца* 'наткнуцца, напароцца' (ТС) ад *рыць* 'рыць, разграбаць', *нары́нуць* 'натрапіць' (ТС) ад *ры́нуць* (гл.), параўн. балг. *ри́на* 'разграбаць, ачышчаць' і пад.

**Нары́льнік** 'высыпка, маленькія прышчыкі на губах' (Бяльк.). Да *ры́ла* 'лыч, перан. твар у чалавека', параўн. *рыла́ты* 'які мае тоўстыя, абвіслыя губы' (Нас.).

**Нары́на** 'замеценая снегам дарога' (Касп.). Ад *нары́нуць* 'намесці, наваліць': *снегу нары́нуло* 'навеяла' (полац., Шн. 2, 454), параўн. *нары́нуць* 'напасці, наляцець' (ТС), *нары́нуцца* 'напасці, накінуцца, навалішча' (Яруш., Бяльк., Мат. Гом.), да *ры́нуць* (гл.).

**Нары́нуць** 'напасці, наляцець раптоўна', 'натрапіць, наткнуцца' (ТС). Да *рынуць* (гл.); паводле Мяркулавай (Этимология-1978, 98), для прaслав. **narinǫti sę* характэрна было значэнне 'накінуцца, напасць, наляцець' пры **rinǫti* 'піхаць' (<'выклікаць рух'<'знаходзіцца ў руху'<'цячы, ліцца').

**Нары́п** 'скрып саней пры вялікім снезе' (в. Калядкі, Случчына, ЭШ), *на́рыпень* 'скрыпучы мароз' (ТС), укр. *на́репень* 'снег, які скрыпіць пад нагамі ад вялікага марозу', рус. *на́рыпень* 'шум, скрып ад санных палазоў', *на́репь, на́репень* 'абледзянелы снег, галалёдзіца'. Да *рыпе́ць* 'скрыпець', *ры́пнуць* 'скрыпнуць', параўн. *на рыпý* 'са скрыпам (пра абутак)' (Растарг.), *ры́поцень* 'моцны, пякучы мароз': *Рыпоцень, як едзеш саньмі, то ўсё рыпіць* (ТС); не выключана, што першапачаткова магло быць звязана з прасл. **ripnǫti* 'ступіць', параўн. прастамоўн. *ры́пнуцца* 'зварухнуцца, сысці з месца', рус. *рип!* 'выклічнік, які перадае гук крокаў', балг. *ри́пна* 'скочыць, падскочыць', макед. *рипне* 'скочыць', польск. *rypnąć* 'ступаць, таптаць' і асабліва дыял. *narypnąć* 'наступіць': *narypnoł me na noge* (Варш. сл.), чэш. *výrypovat* 'хутка крочыць', што у сваю чаргу, відаць, гукапераймальнага характару, насуперак Трубачову (гл. Фасмер, 3, 530); дапушчэнне такога развіцця семантыкі магло б вытлумачыць спецыфічнае значэнне паўночнарускага слова, дакладным семантычным адпаведнікам якога з'яўляецца рус. сіб. *на́ступ* 'скарынка лёду на паверхні снегу, шарпак' (=рус. *наст*).



**Нарыпітава́цца** экспр. 'наесціся' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да літ. *rìpyti* 'прагна есці' (там жа).

**На́рыс** (Гарэц., Байк. і Некр., БРС, ТСБМ). Запазычанне з польск. *narys* 'накід, малюнак, зарыс' або паўкалька з рус. *очерк*, гл. *рыса, рысаваць*.

**На́рыск** 'след ваўка, лісіцы' (Інстр. 2), рус. *на́рыск* 'след на снезе ад хутка бягучага звера'. Да *ры́скаць* 'бегаць; кідацца ў розныя бакі', параўн. рус. *нары́скивать* 'тс'.

**Нары́схраст** 'насцеж (пра дзверы)' (в.-дзв., Шатал.). Змененае *наро́схрыст* 'тс', гл. *расхры́станы*.

**Нары́тнікі** 'набедрыкі' (Некр., ТС, Мат. Гом.), 'шляя' (Маслен.; чач., Жыв. сл.), 'паўшоры' (рэч., Нар. сл.), *нарэ́тнікі* 'набедрыкі' (кір., Нар. сл.; гом., Мат. Гом.), *нары́ткі* 'тс' (ТС), *нары́(т)шнікі* 'тс' (Шат.), укр. *нари́тники* 'шляя'. Паводле Непакупнага (Связи, 48—49), корань *-рит-* 'бядро, бок, круп каня' выводзіцца на падставе структурнай паралелі і семантычнага аналага *на-бедр-ыкі* і суадносіцца з літ. *rietas* 'бядро', роднасным ст.-рус. *рить* 'капыт', ст.-ц.-слав. *рить*, чэш. *řit'*, польск. *rzyć* 'anus', а само слова можа разглядацца як паўкалька ці лексіка-семантычны варыянт тэрміна *набедрыкі*. Параўн. таксама *рыткі* 'прыстасаванне для выроўнівання асновы пры навіванні яе на навой (дзве драўляныя планкі з зубцамі)' (ТС, Уладз.), якое фармальна можна суаднесці з *нарыткі* 'набедрыкі', аднак семантычная сувязь застаецца няяснай.

**Нары́ў** 'нарыў, болька' (Сл. ПЗБ, ТС), *нары́ўка* 'маленькі нарыў' (Сл. ПЗБ). Ад *нарыва́ць* 'апухаць і гнаіцца', да *рваць* (гл.); паводле Мяркулавай (Этимология-1978, 97), прасл. **naryvъ* 'гнайнік' ад дзеяслова **naryvati* 'тузаць (пра боль), нагнойвацца'.

**Нары́ўнік**₁ 'казялец, Ranunkulus seceleratus L.' (Кіс.), 'трава (гаючая)' (лельч., Мат. Гом.). Да *нарыва́ць, нары́ў* (гл.), параўн. рус. курск. *нары́в* 'тс', паводле лекавых ці ядавітых (гл. лацінскую назву) уласцівасцей.

**Нары́ўнік**₂ 'жук-гнаявік' (ветк., Мат. Гом.). Ад *нарыва́ць, рыць* (гл.), у сувязі з тым, што жук капае норкі, куды зацягвае камячкі з гною.

**Нарыхтава́ць** 'падрыхтаваць' (Нас., ТСБМ), *нарухтава́ць* 'тс' (Гарэц.), *нарыхтава́цца* 'падрыхтавацца' (Нас., Сл. ПЗБ), *нарухтава́цца* 'падрыхтавацца і чакаць толькі моманту, каб пачаць' (Мядзв.). Гл. *рыхтава́ць*.

**Нары́ца**₁ 'свішч, нарыў (звычайна ў коней)' (Гарэц., Арх. Федар., Бяльк.; рэч., Нар. сл.; карэл., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), *норы́ця* 'хвароба скуры ў жывёл' (Клім.), *норы́ца* 'хвароба коней; бліжэй неакрэсленая ўнутраная хвароба ў чалавека; пашкоджанне ў бульбе' (ТС), укр. *нори́ця* 'фістула, свішч',

рус. *норица* 'язва на шыі ў каня ад намульвання; хвароба вымені ў каровы', польск. *norzyca* 'свішчы і нарывы на шыі ў жывёл', славен. *norice* 'вятранка, ветраная воспа'. Праслав. **norica*, дэмінутыў ад **nora* (гл. *нара*), што звязана з утварэннем паглыбленняў на скуры (норак) у выніку хваробы (Праабражэнскі, 1, 612; Фасмер, 3, 83; Махэк$_2$, 296; Бязлай, 2, 227); літ. *narycia* 'нарыў на хрыбце ў жывёлы' з беларускай, насуперак Міклашычу, які хацеў бачыць крыніцу славянскіх назваў у літ. *narys* 'пухліна', гл. таксама Фрэнкель, 484.

**Нары́ца**$_2$ 'норка': *злавіў нарыцу* (Некр.), 'Mustella lutreola' (Некр. і Байк.), укр. *норіця* 'палёўка, Hypudaeus arvalis', рус. *но́рица* 'норка, мыш', польск. *nornica* 'палёўка'. Да **nora* (гл. *нара*); паралелізм паміж назвамі хвароб і жывёл даволі часты, параўн. чэш. *krtice* 'нарывы на шыі, свішчы' і *krtice* 'крот' (Махэк$_2$, 296), дзе ў аснове ляжыць усё той жа вобраз нары (норкі), якая ўтвараецца пры хваробе. Адносіны пералічаных слоў да рус. *норка*, якое Трубачоў (гл Фасмер, 2, 83) лічыць запазычаннем з фін. *nirkka* 'ласіца', эст. *nirk* 'тс', застаюцца няяснымі.

**Нары́ца**$_3$ 'шкоднік' (Ян.), *норы́ца* 'пранырa' (івац., Нар. сл.). Відаць, не звязаны з папярэднімі; корань *нор-/ныр-* характэрны для слоў з адмоўным значэннем, параўн. *нора́ць* 'ныраць, даваць нырца' (ТС) і *праны́ра* (<*ныра́ць* 'тс', гл. Фасмер, 3, 375), *на́рыць* 'бадзяцца' (Бяльк.) і інш.

**Нарыца́ць** 'называць?': *Нарицай, мати, Ивана своимъ сыномъ* (магіл., Шн. 2, 620). Запазычана са ст.-слав. **нарицати** 'зваць, клікаць, называць' (*ц*<*к* паводле т. зв. трэцяй палаталізацыі), гл. *нарака́ць, нарачоны*.

**Нары́ціцца** 'нарыхтавацца, мець намер' (Бяльк.), 'наважыцца зрабіць што-небудзь' (браг., З нар. сл.), 'намерыцца' (рэч., Мат. Гом.). Паводле Мяркулавай (Этимология-1978, 98), адлюстроўвае прасл. **ryti* 'імкнуцца', паралельнае да **rъvati* 'імкнуцца зрабіць што-небудзь', 'старанна працаваць', параўн. кашуб. *zarëvac (*zaryvati)* 'заўзята працаваць', рус. *наройный* 'старанны' і пад.

**Нары́цца** 'наткнуцца, напароцца' (ТС), 'натрапіць, наскочыць': *Нарыўся на жураўля на балоці* (саліг., Нар. словатв.). Да *рыць* (гл.), пра паралелізм у развіцці прасл. **ryti*, **rъvati* і **rinǫti* гл. Мяркулава, Этимология-1978, 98, параўн. *нарва́цца* 'натрапіць', *нары́нуць* 'тс' і пад.

**На́рыць** 'бадзяцца' (Бяльк.). Разам з *ны́рыць* 'тс' (Бяльк.) да **ner-/nor-/nar-*, што адлюстроўваюць аблаўтныя адносіны прасл. **noriti*, роднаснага літ. *nérti* 'знікаць, ныраць, уцякаць у нару, у лес, у поле', параўн. *шны́рыць* і *шна́рыць* 'шастаць, шукаць', гл. *нара́*.



**Нарэ́ндзіць** 'прыстроіць, нарыхтаваць' (Арх. Федар.). З польск. *narzędzić, narządzić* 'тс', чаму адпавядае беларускае па паходжанню *нарадзіць* 'тс', гл. *нара́д*$_2$.

**Нарэ́пяці́цца** 'прыгожа адзецца, напудрыцца, падмаляваць губы, падвесці бровы' (навагр., Нар. сл.). Да *рэпетыцыя*?

**Нарэ́ў** 'вялікі мядзведзь' (Інстр. 2). Няясна, магчыма, да *рваць* (гл.), прасл. **rъvati*, якое, паводле Мяркулавай (Этимология-1978, 96), магло мець значэнне 'схапіўшы зубамі, адарваць кусок'. Відаць, як і іншыя назвы мядзведзя, табуізаваная.

**Нарэ́чанька** 'назва танца' (светлаг., чач., Мат. Гом.), *нарэ́чэнька* 'від танца': *Нарэчэньку танцэвалі по парах, адзін подпеваў* (ТС), *«на рэчаньку»* 'тс' (Полымя, 1988, 8, 175). Ад слоў песні, якой суправаджаўся танец: «Выйду я на рэчаньку...»

**Нарэ́ч'е** 'мова, голас': *Нема нарэч'я крыкнуць* (ТС), рус. *наречие* 'слова; нараканне', ст.-слав. **нарѣчиѥ** 'прыгавор, рашэнне'. Да **rěkti* 'сказаць', гл. *рэ́кнуць*.

**Нарэ́шце** 'напаследак, урэшце' (Нас., Гарэц., Яруш., Сл. ПЗБ), *нарэ́шці* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нарэ́шця* 'апошнім, пазней за іншых' (навагр., З нар. сл., Сл. ПЗБ), *нарэ́сьце* 'тс' (Жд. 1), *нарэ́шты* 'напаследак, у канцы' (Булг.), *на рэ́што* 'тс' (Нас.). Да *рэ́шта* 'астатак, рэшта' (гл.) або непасрэдна з польск. *nareszcie* 'ўрэшце, напаследак'.

**Насаке́рыцца** 'накіравацца, намерыцца нешта зрабіць (экспр.)' (Цых.). Да *саке́ра* 'дыял. сякера'; наўрад ці мае сувязь з серб.-харв. *nasokériti, nasòkêrim* 'скрывіць, сагнуць' (RHSJ); няяснага паходжання, магчыма, да **sokъ*, **sočiti* 'паказваць'; параўн. балг. *насо́ка* 'кірунак, напрамак'.

**Насампе́рад** 'перш за ўсё, у першую чаргу' (Гарэц., Др.), укр. *насамперéд* 'тс'. З *на+са́м(ы)+пе́рад*, параўн. *на са́мы кане́ц* 'напаследак, у канцы'.

**Наса́р**$_1$ *(носа́р)* 'насаты чалавек' (ТС). Да *нос* (гл.).

**Наса́р**$_2$ *(носа́рь)* 'ёрш-насар, Acerina acerina' (Жук.), *носу́ра* 'тс' (Дэмб.), укр. *носар, носарик, носурик*, рус. *носа́рь* 'данскі ёрш', польск. дыял. *nosacz*. Ад *нос*; паводле Каламіец, назва ўзнікла ў паўднёварускіх гаворках (Каламіец, Происх., 23).

**Наса́тка**$_1$ 'насоўка, насавая хустачка' (Гарэц., Жд. 1, Сл. ПЗБ), сюды ж *насаві́к* 'тс' (Ян.), *наса́рка* 'тс' (Сцяшк. Сл.) і пад. Да *нос*, вынік семантычнай кандэнсацыі спалучэнняў тыпу *насава́я ху́стачка* і пад.

**Наса́тка**$_2$ 'драўляная пасудзіна, бочачка з носікам для напіткаў, алею і інш.' (Нас., Мат. Гом., ТС; чэрв., Нар. лекс.), ст.-бел. *носатка, насатка, насадка* 'адзінка вымярэння вад-

касці', 'ёмістасць, якая змяшчае ў сабе дзве калоды мёду, у выглядзе цэбра, які насілі на каромысле,. ці ў выглядзе посуда з носам' (Нас. гіст.). Да *нос* (Скурат, Меры, 74—75), параўн. *насаты* 'з (вялікім) носам'; формы з *д* — вынік дээтымалагізацыі ці ад'ідэацыі да *насадзіць* 'набіць, насадзіць'.

**Насахава́цца** 'нагаварыцца (з мэтай абгаворваць, згаворвацца)' (слаўг., Нар. словатв.). Няясна; ці не звязана са *схавацца, хавацца?*

**Насе́дала** (насе́дало) 'седала': *Пашлі куры на наседало* (івац., Нар. сл.). У выніку зрашчэння прыназоўнікавага спалучэння *на седала* і канверсіі (ператварэння прыслоўя ў назоўнік).

**Насе́нне,** *насі́нне, насе́не, насе́нё, насе́ня, насе́ньня, насе́ньня* (Мал., Гарэц., Булг., Сл. ПЗБ, Бяльк., Растарг., Сцяшк.), *насе́нье* 'семя', 'яечкі, расплод' (ТС), укр. *насі́ння.* Запазычана з польск. *nasienie*, мн. л. *nasiona*, аддзеяслоўны назоўнік ад *nasiać* 'насеяць', г. зн. 'тое, чым сеюць, засяваюць', спрадвечная назва — *семя* (гл.).

**Насенава́ць** 'убраць; упарадкаваць сена' (валож., Жыв. сл.), *насенаваць* 'нарыхтаваць сена' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *сена, сенаваць* (гл.).

**Насёбы** 'які носяць кожны дзень, у якім працуюць; не святочны (пра адзенне)' (докш., Янк. Мат.). Ад *насьба́* 'нашэнне', назоўнік ад *насіць* 'насіць, апранаць', літаральна 'для насьбы'.

**Насі́л** 'прымус, гвалт' (Нас.), *насі́льства, насі́лства* 'тс' (Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк.), *насі́лам* 'гвалтоўна, прымусам' (Нас.). Гл. *сі́ла, сі́ліць.*

**Насі́лы** 'каромысел' (мядз., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ; петрык., Мат. Гом.), 'жэрдкі, на якіх носяць копны' (Сержп. Земл.; слуц., Нар. словатв., ТС; петрык., Шатал.; Мат. Гом.; Сл. ПЗБ), адз. л. *насі́ла* 'тс' (Янк. 1, ДАБМ, пін., Шатал.), *насі́ло* 'частка калодзежнага жураўля, вочап', 'жэрдка пад столлю каля печы, на якую вешаюць адзенне' (дзярж., З нар. сл.), сюды ж *насі́лкі, насі́льніцы* 'жэрдкі, на якіх выносяць сена з мокрых месц у балоце' (докш., Янк. Мат., ТС), *насі́лка* 'шост для выцягвання вядра з калодзежа' (Тарн.). Да *насі́ць.*

**Насі́ць** у розных значэннях 'насіць', укр. *носи́ти*, рус. *носи́ть*, польск. *nosić*, чэш. *nositi*, славац. *nosit'*, в.-луж. *nosyć*, н.-луж. *nosyś*, славен. *nósiti*, серб.-харв. *но̀сити*, балг. *но́ся*, макед. *носи*, ст.-слав. *носити.* Звязана чаргаваннем з *несці* (гл.).

**Наскава́ць** 'нацкаваць' (Сл. ПЗБ; бабр., Шн. 2; Пятк.), *наскова́ць* 'тс' (ТС), *наскува́ць* 'тс' (Гарэц.). Да *скава́ць* (гл.), параўн. *нацкава́ць* 'тс'.



**На́скі,** *на́ські* 'наш, свой' (Нас., Рам., Яруш., Растарг.; парыц., Янк. Мат.; Мат. Маг., Янк. 1, Бяльк.; міёр., Нар. сл.), *на́скі* 'тутэйшы' (Сл. ПЗБ), *на́ські* 'наш (беларускі)' (Жд. 2), 'тавseparyскі' (Ян.), укр. *наський* 'тс'. Ад *наш (>наш-скі),* паводле Карскага — «займеннікавае ўтварэнне на народнай аснове» (Карскі, 2—3, 54).

**Наскіпа́ць** 'накалоць дробна' (Яўс.), 'нарабіць трэсак' (Мат. Гом.), *наскепа́ць* 'накалоць многа, нашчапаць' (Нас.), *наськіпа́ць* 'нашчапаць, нарабіць трэсак' (Бяльк.). Да *скіпа́ць* (гл.).

**Насланнё** 'насланне, навядзенне чарадзейнай сілаю' (Нас.) 'нашэсце', 'пра таго, хто ў вялікай колькасці з'яўляецца дзенебудзь, несучы шкоду' (полац., Нар. лекс.), 'бяда, гора, няўдача, няшчасце' (бялын., Янк. Мат.), 'напасць' (Яруш.), *насла́нне* 'непрыемнасці, беды, няўдачы, хібы ў справах, усё, што з'яўляецца як бы насланым, пасланым у якасці кары злой сілай' (Гарэц.), 'эпілепсія', 'ачмурэнне': *bo czort u jeho nasłany* (Пятк. 2, 209). Да *насла́ць* 'паслаць', гл. *слаць.*

**Насласні́ць** 'намазаць (тлуста)' (добруш., Мат. Гом.). Відаць, да *сла́сны* 'смашны, прынадны'.

**Насле́днік** 'хорт, паляўнічы сабака, які ідзе па следу' (Гарб.), 'прадаўжальнік, паслядоўнік': *Mikałaj czudatworac, božy naślednik* (Пятк. 2, 144). Першае слова — самастойнае ўтварэнне ад спалучэння *на след* (натрапіць, стаць), параўн. *насле́дзіць* 'вызначыць па слядах' (Нас.), *наследзіць* 'высачыць' (ТС), другое — хутчэй за ўсё запазычанне са ст.-слав. **наслѣдьникъ** 'паслядоўнік, наступнік', параўн. рус. *насле́дник* 'паслядоўнік; наступнік; спадкаемца' (з ц.-слав.).

**Наслу́ніцца** 'пакрыўдзіцца' (смарг., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**На́слыж** 'рыба верхаводка' (гарадоц., Нар. лекс.). Магчыма, звязана з *на́стлыш* 'вада пад снегам' (Касп.), якое можна зразумець і як **верхаводка* 'вада паверх лёду' (хутчэй за ўсё ад *насціла́ць* 'накрываць, пакрываць'); іншая версія — ад *слі́ж* 'назва невялікай рыбкі, што плавае па паверхні вады'.

**Насок** 'посуд для алею, гарэлкі і інш.' (Ян.). Гл. *наса́тка* 'тс'.

**Насомач** 'кароткае бервяно, якое кладзецца ў сцяну паміж вокнамі' (Шушк.). Звязана з *со́мінец, са́мінец* 'тс' (гл.).

**Насос$_1$** 'запаленне нёба (у коней)' (Гарэц., Бяльк.), *насосы* 'пухліна дзёснаў за пярэднімі зубамі' (Клім., Пятк.), рус. *насосы* 'тс', 'малочніца ў дзяцей', польск. *nasosy* 'запаленне дзёснаў у коней'. Да *ссаць* (гл. Фасмер, 3, 47).

**Насос$_2$** 'нагар (у люльцы)' (ТС). Гл. *ссаць* 'смактаць', параўн. *нассацца* 'насмактацца' (ТС).

**Насос$_3$** 'сала, якое соліцца ў расоле' (Сл. ПЗБ). Да *насса́ць* 'насякнуць', гл. *ссаць.*

**Насор** 'смецце, рэшткі': *pad nasoram s siena* (Пятк. 2, 198). Гл. *сор* 'смецце'.

**Насоў** 'нешта, падобнае дла кашулі з палатна, якое сяляне апранаюць на адзенне для аховы яго летам ад дажджу, а зімой ад снегу' (Нас.), 'белы палатняны балахон, які беларусы носяць летам, від летняга паліто' (Мядзв.), 'балахон паверх сарочкі і спадніцы ў жанчын; ён мае невялікія выемкі па баках і на грудзях' (Даўгарукаў), 'беларускі палатняны каптан' (Багд.), 'доўгі балахон у талію з белага палатна, спецыяльна вытканага' (Шн. 3), 'палатняны халат' (Анім.), 'доўгая верхняя мужчынская вопратка без падклада' (расон., Шатал.), 'верхняе адзенне з даматканай тканіны' (Сл. ПЗБ), 'пояс ці рамень' (Анік.), *насоўка* 'адзенне з суровага палатна, якое служыла для захавання кажуха ці бурноса ад дажджу' (карэл., Нар. словатв.), 'вопратка ў выглядзе плашча, якая надзяваецца на кажух' (Жд. 1), рус. *насов, насовец* 'сарочка, від мяшка з даматканага палатна, з прарэхамі ўверсе і з рукавамі, для цяпла, паверх сарафана, або для працы' (Даль), ст.-рус. *насовьць* 'частка аблачэння святара, нарукаўнікі' з 1300 г. (Сразн.). Паводле БелСЭ, асноўны арэал назвы і рэаліі — Віцебшчына, паўночныя раёны Міншчыны і Магілёўшчыны. Ад *насунуць* 'няцягнуць', *насоўваць* 'нацягваць, накладаць зверху'; да *соваць, сунуць*.

**Наспа**₁ 'насып, верх; збожжа, насыпанае звыш меры' (Нас., Яруш.). Паводле Насовіча, ад *сыпаць, насыпаць* (Нас., 319).

**Наспа**₂ 'лес, які расце на ўскраіне поля' (Шн.), *іціць у наспу* 'ісці ў малады лес збіраць грыбы' (Нік. Посл.). Відаць, ад *насыпаць*, гл. *насып* 'насыпаны вал, тэраса', параўн. рус. смал. *наспа* 'насып (земляны)', польск. *naspa* 'тс', чэш. дыял. *náspa* 'тс' (<**nasъpa*, гл. Махэк₂, 390; Бязлай, 2, 215); значэнне 'малады лес' другаснае, узнікла ў сувязі з тым, што звезенае на край поля каменне, ламачча і пад. хутка зарастала хмызняком.

**Наспакудзіць** 'надаесці' (карэл., Сцяшк. Сл.). Няясна; заканчэнне слова ідэнтыфікуецца з дзеясловам *-кудзіць*, што ўваходзіць у склад *пракудзіць* 'вытварыць, вычварыць'; рус. *прокудить* 'тс', параўн. польск. *przekudzić* 'псаваць, надаядаць, наганяць нуду', славен. *kúditi* 'лаяць, ганіць', серб.-харв. *кудити* 'тс', балг. *кудя* 'тс' і інш.

**Наспарацца** 'набрацца, назапасіцца' (віл., Жыв. сл.). Калі гэта не апіска (гл. *настарацца*), то хутчэй за ўсё да *спор* 'прыбытак, нарашчэнне', параўн. *наспарыць* (гл.).

**Наспароміць** 'нарыхтаваць у запас' (Нас.), *наспароміцца* 'назапасіцца, настарацца' (Нас., Растарг.). Гл. *спароміць*.

**Наспарыць** 'нарасці ў вялікай колькасці' (полац., Нар. лекс.), 'назбірацца' (міёр., Нар. сл.). Да *спор* 'прыбытак, нарашчэнне' (гл.).



**Наспасобіць** 'прыдбаць, назапасіць' (жлоб., Жыв. сл.), 'назапасіць у патрэбнай колькасці' (Нас.). Гл. *спасобіць*.

**Наспатычку** 'насустрач' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *спаткаць* 'сустрэць' хутчэй за ўсё па прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі, характэрнай для прыслоўяў, параўн. *нараспашку, навыцяжку* і пад., паколькі цяжка дапусціць прамежкавую ступень у выглядзе назоўніка *спатычка* 'спатканне', хаця тэарэтычна яна здаецца натуральнай.

**Наспашкі** 'ў здольшчыне' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *пахаць* 'рабіць, працаваць (звычайна на полі)'; для прыслоўя зыходным мог быць назоўнік тыпу **спашкі* 'ўраджай, г. зн. 'тое, што атрымана ў выніку сумеснай працы і што дзеліцца паміж кампаньёнамі'.

**Наспець** 'наступіць' (Яруш.). Да *спець* (гл.), параўн. *прыспець* 'надысці', *паспець* 'укласціся ў час' і інш.

**Наспічнік** 'дэталь у коле воза (рэхва, якая набіваецца на калодку каля спіц)' (ТС), *наспішнікі* мн. 'тс' (Маслен.). Да *спіца* 'дэталь у коле' (гл.); паколькі рэхва набівалася не на спіцы, а на калодку, у якую яны ўстаўляюцца, застаецца няяснай зыходная прыназоўнікавая канструкцыя, на базе якой мог утварыцца тэрмін, параўн., аднак, *заспічнікі* 'тс' (Маслен.), дзе матывацыя больш празрыстая; субстытуцыя прыназоўніка — прыстаўкі магла адбыцца пад уплывам дзеяслова *набіваць* 'насаджваць', хаця тэарэтычна яна здаецца натуральнай.

**Наспод** 'навыварат' (Бяльк.). Да *спод* 'ніжняя частка чаго-небудзь; унутраная частка адзення'.

**Настабурчаны** 'непрыгладжаны, непаслухмяны (адносна валасоў)' (ваўк., Сцяшк. МГ), *настабурчыцца* 'натапырыцца' (шчуч., Сл. ПЗБ). Гл. *стабарча* 'старчма, старчаком'.

**Насталак** *(насталок)* 'сякера для кляпання кос' (драг., Жыв. сл., Клім.). Ад *насталіць* 'наварыць сталлю' (Бяльк.), *насталюваты* 'пакрываць сталлю' (драг., Жыв. сл.), *насталіваць* 'наводзіць што-небудзь жалезнае сталлю' (Нас.), да *сталь* (гл.); *насталіць* 'набіць' (Бяльк.) узнікла на базе папярэдняга значэння, параўн. *насталіць зубы* 'ўдарыць па зубах' (Грыг.), *насталіваць* 'перан. рабіць ударамі сіне-барвовыя знакі': *насталиваць, насталиць кому носъ, вочи* (Нас.), з далейшым развіццём семантыкі параўн. *насталіць нос* 'паставіць у няёмкае становішча', *насталиць* (каго-небудзь) 'падгаварыць, сагітаваць' (Растарг.).

**Настаноўнік** 'нейкая лясная лекавая расліна' (ТС). Да *настанаўляць (настоноўляць)* 'настаўляць', *наставіць* 'паставіць' (ТС), у канкрэтным значэнні 'паставіць на месца', параўн.

ілюстрацыю да назвы расліны: *Ек подорвéцца чоловек, то вон помогае,* г. зн. вяртае да нармальнага стану. Гл. *настáўнік.*

**Настаражы́ць** 'настаўляць пастку і пад.', *настарожаны* 'настаўлены, напружаны' (палес., Цыхун, вусн. паведамл.), параўн. укр. *насторожи́ти* 'падрыхтаваць да чаго-небудзь', рус. *насторожи́ть* 'наставить, падрыхтаваць', польск. *nastrożyć* 'наставіць пастку, паставіць вертыкальна; начапіць прынаду і г. д.', чэш. *nastražiti* 'тс', славац. *nastražiť* 'тс'. Усё да *старажыць, сторож* (гл.), параўн. *стóрож* 'калок у пастцы, які ўтрымлівае яе ў раскрытым стане; нацягнуты шнурок у рыбалоўнай прыладзе і інш.' (ТС), рус. *насторóжка* 'пастка на звера', *нáсторож* 'прынада ў пастцы'. Махэк$_2$ (390) раздзяляе па паходжанню словы са значэннем 'наставіць пастку і пад.' ад слоў са значэннем 'наставіць вушы, насцярожыць', узводзячы іх да **strěžiti* (роднаснае літ. *striegti*, лат. *striẽgt* 'ставіць прынаду') і **storžiti* 'насцярожыцца'. Гл. таксама Борысь, JP, 56, 1956, 124—127.

**Настáрчыцца** 'назапасіцца, старанна ўдосталь нарыхтаваць чаго-небудзь' (Нас., Сцяшк. Сл.), укр. *настарчáти* 'прыпасці, даставіць удосталь'. Відаць, запазычана з польск. *nastarczyć (się)* 'успець дастаць што-небудзь; задаволіць патрэбу', ад *starczyć* 'зрабіць дастатковым' (гл. *стáрчыць*), што паводле Брукнера (514), з першапачатковага *statczyć* (да **stati,* параўн. *дастáтак, дастатковы* і пад.), гл. *стáчыць* 'быць дастатковым'; параўн. *настáчыцца* 'набрацца' (Юрч.), укр. *настáчитися* 'назапасіцца' рус. *настáчиться* 'запасціся чым-небудзь у дастатковай колькасці' і г. д.

**Нáстаўка** 'рыбалоўная прылада, якой ловяць рыбу з лодкі' (ТС). Ад *настаўля́ць* 'накрываць зверху', да *стáўляць; стáвіць* 'ставіць'.

**Настáўнік** 'выкладчык' (Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), 'настаўнік; натхніцель' (ТСБМ); яшчэ ў 20-я гады ўжывалася ў літаратурнай мове побач з русізмам *вучыцель, вучыцелька.* Відаць, семантычны наватвор на базе народнага *настáвіць* 'навучыць', першапачаткова з *наставіць на пуць,* параўн. *наставіць пуць* 'абраць жыццёвы шлях' (Сл. ПЗБ), *настаўля́ць* 'павучаць' (там жа), або праз рус. (ц.-слав.) са ст.-слав. **наставьникъ** 'кіраўнік, майстар, правадыр', што атрымала больш вузкае значэнне 'духоўны настаўнік, натхніцель'; параўн. *настáва* 'наглядчык, наглядальнік' (Сл. ПЗБ). Да *стáвіць, стаўля́ць* (гл.).

**Настаўні́к,** *настаўні́ч* 'талакнянка' (пух., Жыв. сл.). Таго ж паходжання, што і *настаноўнік* (гл.); да *ставіць.*

**Настацце̂,** *настацё* 'з'яўленне маладзіка' (карэл., Сцяшк. Сл.; зэльв., Жыв. сл., Сл. ПЗБ, Растарг.). Ад *настáць* 'з'явіцца' (да *стаць* 'наступіць'), параўн.: *молодзік настае́* (пра першую квадру месяца, ТС).



**Настáчыцца** 'набрацца, мець магчымасць' (Юрч.). Гл. *настáрчыцца.*

**Настая́шча** 'досыць многа': *Грыбоў настаяшча назьбіралі* (мядз., Нар. словатв.), 'многа, як належыць' (брасл., Сл. ПЗБ; шчуч., Сцяшк. Сл.), 'як мае быць' (Сцяц.), 'даволі', 'добра', 'поўнасцю' (Сл. ПЗБ, Жд. 2), сюды ж *настая́шчы, настоя́шчы* 'сапраўдны, праўдзівы': *Сягодня настаяшчая пагода* (Некр., Сцяц., Сл. ПЗБ, ТС), 'даволі значны' (ТС). Запазычана праз рус. *настоя́щий* 'сапраўдны' са ст.-слав. **настоѩшть** 'тс', параўн. **хлѣбъ настоѩштааго дьне,** ад **настоꙗти** 'павінен быць; быць прысутным' (гл. *стаяць, стаць),* сінонім **насѫштьнъ** (ад **sǫtь* 'ёсць', параўн. *сутнасць, прысутнасць* і інш.).

**Нáстлыш** 'вада пад снегам' (Касп.). Няясна, магчыма, ад *насцілáць* 'падсцілаць, рассцілаць', параўн. рус. *нáстлище* 'лён, рассцелены на сцелішчы'.

**Настóй$_1$** 'выцяжка з траў, раслін' (Сл. ПЗБ), *настойка* 'настоеная на ягадах гарэлка' (ТС), *настоенка* 'засыпаныя цукрам ягады' (Ян.). Ад *настойваць, настоіць* 'зрабіць настой'; *настоить водку* 'зрабіць настойку з ягад, траў, пладоў' (Растарг.), *настая́цца* 'доўга пастаяць' і пад., да *стая́ць* (гл.).

**Настóй$_2$** 'гной' (ДАБМ). Ад *настая́ць, стая́ць,* параўн. *стойла* 'месца, дзе стаіць буйная рагатая жывёла' і інш.

**Настóльнік** 'абрус' (Гарэц., Бяльк., Янк. Мат., Сл. ПЗБ, ТС), *настýльник* 'тс' (Зн. дыс.), *nastilnyk* (Тарн.), *настольніца* 'тс' (Гарэц., Жд. 3, Тарн., Сцяц., Сл. ПЗБ, Ян., ТС). Да *стол* (гл.), узнікла ў выніку семантычнай кандэнсацыі, параўн. яшчэ ў Насовіча *настольная скацерка* (320).

**Насторч** 'старчаком, старчма, усторч' (Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), сюды ж *насторчыць* 'вывіхнуць, выкруціць' (слонім., Нар. лекс.), гл. *сторч, старчáць* 'тырчаць', параўн. *nastorczyć oko* 'пашкодзіць вока' (Арх. Федар.), г. зн. 'накалоцца, напароцца на што-небудзь'.

**Настрáмак** 'невялікі воз (сена, канюшыны, саломы)' (Янк. 1, Жд. 3, ТС, Ян.), *nastràmak, nastràmacz* 'малы воз сена — палова або чвэрць нармальнага воза' (Пятк.), укр. *настря́мок* 'невялікая колькасць, невялікі воз сена, саломы, дроў'. Відаць, ад *настрамíць* 'неакуратна налажыць, накідаць абы-як', параўн.: *Як накласць, то много ўлезе на воз, а так настроміў, настроміў — то мало дроў* (ТС, 3, 163); параўн. таксама *астрáмак* (гл.). Усё да прасл. **stramъ/stromъ* з шырокай семантыкай, звычайна ў адносінах да «тырчачых», выступаючых дэталей і частак, параўн. *стром* 'завіслае дрэва', чэш. *strom* 'дрэва', польск. *stram* 'капыл (у санях)', славен. *strama*

'вертыкальны апорны брус у санях', славац. *stram* 'від саней', серб.-харв. *stràmica* 'прыстаўная лесвіца, драбіна' і г. д. Параўн. Фасмер, 3, 166 (пад *остро́мок* з развіццём семантыкі ад 'стог сена вакол шаста' да 'кладзь сена ў адзін воз'); Махэк₂, 583; Бязлай, Eseji, 119; Борысь, SFPS, 24, 1987, 115—126. Гл. *стромак*.

**Настраміць** (*настроміць*) 'неакуратна налажыць, накідаць абы-як' (ТС), *настрамя́шыць* 'скласці абы-як' (клецк., Жыв. сл.), 'падняць, задраць' (любан., Жыв. сл.), параўн. палес. *настромля́ть вощи́ну* 'насаджваць вашчыну на крыжавіну для прываблівання пчол' (Анох.), укр. *настроми́ти* 'наткнуць'. Гл. *стром, страмля́ць*.

**Настрапаліць** 'падвучыць, падбухторыць ' (навагр., Жыв. сл.; слонім., Нар. лекс.; стаўбц., З нар. сл., Яўс., Юрч.), 'настроіць супраць каго-небудзь' (навагр., Нар. словатв.), рус. *настропали́ть* 'навучыць', 'настроіць супраць каго-небудзь', 'наладзіць, падрыхтаваць', *настропи́ть* 'падгаварыць, падбухторыць'. Няясна; магчыма, роднаснае да рус. *стропота* 'крывізна; ілжывасць', *стропти́вый* (<ц.-слав.), якое Фасмер (3, 782) звязвае чаргаваннем галосных са *струп*. Звяртае на сябе ўвагу фармальнае падабенства з балг. *стропо́ля* 'зваліць, разбурыць', якое можа быць цалкам выпадковым (параўн. *тропо́ля* 'стукаць'); аднак параўн. *уз-бу́рыць* 'падбухторыць, падбіць'. З улікам рус. *настропи́ть* не выключана сувязь са *строп* 'вільчык', *стропкі* 'стромы, круты', рус. *стропи́ла* 'кроквы', зыходнае значэнне пры гэтым было б 'натапырыць, наставіць', адкуль 'настроіць супраць', нарашчэнне *-ал- (-ол-)* мела б узмацняльны характар.

**Настрэнчыць** 'настроіць (пастку)' (Нас.), 'настроіць, падбухторыць, падгаварыць' (ТС), 'нараіць' (свісл., Сцяшк. Сл.; маст., Сл. ПЗБ), *настрончыць* 'падгаварыць' (лід., Сцяшк. Сл.), укр. *настре́нчити* 'настроіць, узбудзіць'. Паводле Булыкі, ст.-бел. *настренчити* 'прапанаваць які-небудзь тавар' (1692 г.) са ст.-польск. *nastręczyć* (Булыка, Лекс. запазыч., 83); адносна сучасных форм гл. Сл. ПЗБ, 184 (<польск. *nastręczać* 'рэкамендаваць'). Гл. *стрэ́нчыць*.

**Наступнем** 'гвалтам, прымусам' (ТС), параўн. укр. *на́ступцем* 'наступальна, рашуча'. Ад незафіксаванага **наступень*, хутчэй за ўсё сінанімічнага да *на́ступ* 'напад, наступленне' (Нас.); да *ступа́ць* (гл.), параўн. *ступа́* і *ступе́нь* 'крок'.

**Наступны** 'наступаючы, чарговы, прышлы, які мае наступіць' (Нас., Гарэц., Некр. і Байк., ТСБМ), *насту́пнік* 'нашчадак, пераемнік; намеснік' (Нас., Гарэц., Некр. і Байк., ТСБМ), *насту́пца* 'тс' (Нас.), укр. *насту́пний* 'наступаючы, чарговы', *насту́пник* 'пераемнік; нашчадак', польск. *następny* 'наступны, маючы адбыцца; спадчынны; наступальны, агрэсіўны' *następnik, następca* 'нашчадак, пераемнік; агрэсар'. Арэал распаўсюджання сведчыць аб беларуска-ўкраінска-польскай семантычнай інавацыі, параўн. славен. *nastopen* 'уступны', серб.-харв. *на́ступни* 'наступальны; што мае характар прыступаў' і іншыя ўтварэнні на базе **nastǫpiti*, гл. *ступа́ць*. У іншых славян значэнне 'наступны' перадаецца словамі, утворанымі ад **slědъ*, **slěditi*, параўн. рус. *сле́дующий*, балг. *сле́дващ*, макед. *следен*, серб.-харв. *сле̏деħи*, славен. *naslednji*.



**Настурка** 'дэкаратыўная расліна з пахучымі кветкамі, звычайна Tropaeolum majus L.' (ТСБМ), *насту́лька* 'тс' (Нас., Некр. і Байк., Сцяшк. Сл., Ян.), *насту́рцыя* (Некр. і Байк., ТСБМ; міёр., Жыв. сл.), *насту́рція* 'тс' (Жыв. сл.). Апошнія формы перадаюць лацінскую назву кветкі — *Nasturtium* (<*nasitortium* ад *nasus* 'нос', бо выклікае чыханне, Скок, 2, 505; Бязлай, 2, 211), астатнія — вынік адаптацыі ў адпаведнасці з распаўсюджанай мадэллю назваў кветак на *-ка* (параўн. *аўду́лька, наго́тка* і пад.) і зблізкэння з уласным імем *На́ста, Насту́ля* (рус. *Наста́сья, Анастаси́я*).

**Настучыць** 'настаяць' (Ян.). Няясна.

**Настыбурчыцца** 'наставіцца, наставіць вушы' (Цых.). Гл. *настабу́рчаны*.

**Настыгнуць**, *насты́гці* 'выстыць, настыць' (Нас.), *настыга́ць* 'настываць' (Нас., Сл. ПЗБ). Гл. *сты́гнуць*.

**Настырны** 'ўпарты, настойлівы' (ТСБМ, Сцяшк.), 'упарты, задзірысты' (ТС), *nastyrniony* 'тс' (Пятк. 2), сюды ж *настыра́цца* 'псаваць адносіны, задзірацца' (ТС, Жд. 2), *nastyrniàcsa* 'задзірацца' (Пятк. 2), *насты́рыцца* 'завесціся, пасварыцца' (ТС), параўн. укр. *на́стирний* 'надаедлівы', рус. *насты́рный* 'назойлівы, нахабны', славен. *nástoren* 'упарты, надаедлівы, злы'. Відаць, звязана чаргаваннем галосных таксама з балг. дыял. *наста́рам са, насто́ра са* 'падбухторваць, паклёпнічаць, псаваць адносіны', серб.-харв. *nastoriti* 'адчуваць агіду', якія разам з серб.-харв. *nástor* 'нянавісць, злосць', славен. *nástor* 'упартасць, варожасць' узводзяць да **na-sъ-tor-* ад прасл. **terti*, **tьrǫ*, гл. *церці* (Варбат, Слав. языкозн.-1973, 98; Морфонологические и словообр. аспекты реконстр. и этимологизации праслав. лексики. АДД. М., 1980, 14); адносна чаргавання галосных параўн. *це́рціся* і *ты́рыцца* 'аціраццца' (Нас.). Сюды ж, відаць, і рус. *сты́рить* 'дражніць; сварыцца; спрачацца, упарціцца і інш.', паводле Фасмера (3, 789), няяснага паходжання, якое, аднак, чаргаваннем галосных можа быць звязана з паўднёваславянскімі формамі і польск. *storzyć* 'хваліцца, ганарыцца, задавацца' (Брукнер, 517, да **stor-*, **ster-*, параўн. *стара́нá, распасце́рці*).

***Насýгавата,** *насýговато* 'пахмурна, змрочна, туманна' (ТС). Несумненна, звязана з укр. *осýга* 'слой тлушчу на паверхні вадкасці, налёт на вадзе, іржа на вадзе', *восýга* 'пара на шыбах, тлушчавыя плямы на вадзе'; чэш. *osuhlý* 'пахмурны, хмарны, імглісты', славац. *osuhel* 'густая імжа зімой; галалёд на дрэве; сухі мароз'<**o-sęg-lъ* ад прасл. **sęgti*, гл. *сягáць* (Зубаты, Studie, 167—170). Сюды ж рус. дыял. *осягáться, осяжáть(ся)* 'асядаць', гл. Варбат, Этимология-1970, 380. Інакш з польск. *oszgly*<*osędly* ад *szady* 'сівы, пакрыты шэранню' выводзіць чэшскае і славацкае словы Махэк₂ (421), што здаецца малапераканальным.

**Насуліць** 'надбавіць цану' (Нас.), 'прапанаваць' (ТС); магчыма, сюды ж *насуліць на душы* — 'сапсаваць настрой' (Сл. ПЗБ). Да *суліць* (гл.).

**Насулотаць** 'забрудзіць' (шчуч., Сл. ПЗБ). Гл. *сулотаць.*

**Насýпа** 'пануры, злосны чалавек' (Марц., Бяльк.), *насупавáты* 'няветлівы, змрочны чалавек' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *насупя́чыцца* 'нахмурыцца' (ТС), *насýпіцца* 'пакрыўдзіцца да слёз' (Юрч. Сін.), 'нахмурыцца; натапырыцца' (Сл. ПЗБ, ТС, Пятк. 2), ст.-бел. *насупиласѧ кожа на лици* (XVI ст., Карскі, 2—3, 283), укр. *насýпитися* 'нахмурыцца', *насýпуватий* 'які мае суровы выгляд', рус. *насýпиться* 'нахмурыцца'. Да *сýпіць* 'хмурыць' (гл.).

**Насýперак** 'наперакор' (ТСБМ), *насýперакі* 'тс' (Гарэц.). З *на+су+перак(і)*, параўн. *на+по+перак* 'тс', гл. *пéрак* (прасл. **perkъ*, **perky*).

**Насупор** 'насуперак, напроціў' (Шуба, Прысл., 138), балг. *насупор* 'напроціў, наадварот, наперакор'. Звязана з *пéрці, пру* (гл.), параўн. славен. *sôpər* 'насустрач' і пад.

**Насупраціў,** *насупраціўку* 'напроціў; наперакор' (Нас.), *насýпратив* 'тс' (Растарг.), рус. *насупротив* 'тс', укр. *насýпротив*<**na*+**su*+**protivъ*, гл. ESSJ SG, 1, 224. Гл. *супроць.*

**Насýпраць** 'наперакор; напроціў' (Растарг., ТСБМ, Сл. ПЗБ), *насупрóць* 'тс' (Др., ТСБМ), *насýпроця* 'тс' (Нас., Бяльк.). Гл. *сýпраць, супроць.*

**Насурніць** 'нахмарыць': *нешта насурніла, каб дошч ні пайшоў* (Мат. Маг.). Цёмнае слова. Найбольш верагодная сувязь з дыял. *сур* 'смецце' (Нас., Бяльк.), *сýрный* 'засмечаны', *сурінка* 'парашынка' (Нас.), аднак семантычны пераход 'смецце'>'воблачнасць' цяжка абгрунтаваць тыпалагічна. Дапушчэнне сувязі з *сурміло* 'непрыветны, змрочны чалавек' (ТС), магчыма з **сурніло,* застаецца толькі здагадкай, што патрабуе далейшага вывучэння.

**Насýстрач,** *насустрэ́чу* (Гарэц., ТСБМ, Бяльк., Растарг.). Да *сустрэ́ча* (гл.).



**Насýтыч** 'упрытык, вельмі блізка' (ТС). Са спалучэння прыназоўніка *на* і назоўніка *сýтыч*, параўн. *сутычка* 'сутыкненне' ад *су-тыкáцца,* гл. *тыкаць.*

**Насцáк** 'выспятак' (Ян.; браг., Нар. словатв.), 'выспятак, штуршок' (Сцяшк.), параўн. *носца, носцэм* у выразах: *даць носца (носцэм)* 'даць выспятка' (ТС). Як паказвае апошні прыклад, у аснове ўтварэння ляжыць незафіксаванае **носец* 'насок', паралельнае да сучаснага *насáк* 'насок, пярэдняя частка ступні': *даць насакá* 'даць выспятка' (Мат. Маг.), *насок* 'пярэдняя частка абутку': *даць наском* 'ударыць пальцамі нагі' (Сл. ПЗБ), усё да *нос* (гл.). Разглядаемае слова ўтварылася суфіксальным шляхам на базе формы *носца* (род. скл. адз. л. ад **носец),* успрынятай як прыслоўе тыпу *басякá* 'басяком', *дрáла* 'бягом' і пад.

**Нáсцеж** 'на ўсю шыр, поўнасцю' (ТСБМ, ТС), *нáсьцеж* 'тс' (Др., Бяльк.), *нáсцяж* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нáсціж* 'тс' (Сл. ПЗБ), укр. *нáстеж, нáстіж, настéжи, настéжір,* рус. *нáстежь, настежý,* польск. *naścież, naoścież, naściеżaj,* славен. *na stežaj,* балг. дыял. *настьеш.* Са спалучэння прыназоўніка *на* з назоўнікам *сцеж(а),* для якога ўзнаўляецца значэнне 'слуп, шула', параўн. *на всю стэжу* 'насцеж': *На всю стэжу очыняны* (драг., З нар. сл.), *сцежэя́* 'задняе шула ў варотах' (ТС), польск. *ściеżaj* 'завес', славен. *stežaj* 'тс', ц.-слав. *стежеръ* 'тс', чэш. *stežeje* 'завес, стрыжань' і пад. роднасныя да *сцéжар* (гл.) (Фасмер, 3, 48; Брукнер, 354); першапачатковае значэнне 'раскрыць так, каб быў бачны слуп, стрыжань ці завесы, на якіх трымаліся вароты, дзверы', тыпалагічна падобнае развіццё семантыкі гл. у *нáпіта* 'насцеж'. Формы з *-я-,* магчыма, ад *сцяж: у сця́ж* 'у адзін рад' (палес., Нар. сл.) (да прасл. **steg-*). Гл. таксама Шуба, Прысл., 116 (параўноўвае з рус. *за-стег-ну-ть),* Атанасаў, БЕ, 37, 1987, 1—2, 102—104.

**Насцігáць** 'даганяць; прымушаць, дабівацца' (Юрч. Фраз. 1), 'даганяць, наганяць' (ТС), *насцігнуць* 'дагнаць' (брасл., Сл. ПЗБ). Гл. *сцігаць.*

**Насціл** 'насціл, памост' (ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), *насціль* 'тс' (Мат. Маг.). Ад *насцілáць,* гл. *слаць;* праблему складае неарганічная мяккасць *л* у слове з Магілёўшчыны, магчыма, у выніку асэнсавання рэаліі як зборнага назоўніка, параўн. *сутон* і *сутонь* 'тонкі лядок на вадзе' (ТС), рус. *наслуд* і *наслудь* 'наледзь' і пад. Не выключана, што мяккасць канцавога зычнага з'явілася ў выніку семантычнай кандэнсацыі спалучэння тыпу **насцільны мост*>*насціль,* у той час як словы з цвёрдым *л* на канцы — аддзеяслоўныя назоўнікі.

**Насцыпáць** 'нарваць': *Идзи, дочушка, насцыпли яблыкоў сватам* (віц., Шн. 2, 96). Да *нашчыпáць* 'нарваць' з цоканнем.

**Насцябáцца** 'напіцца да ап'янення' (Нас.), *насцібáцца* 'напіцца ўдосталь' (Мядзв.), *насцёбацца* 'напіцца гарэлкі' (лях., Янк. Мат.). Да *сцябáць* 'сячы, хвастаць; піць залпам і інш.', развіццё семантыкі 'біць'>'піць', гл. *цяпнуць* 'выпіць', *урэзаць* 'тс' і г. д.

**Насыпаваты** 'пахмурны, сумны' (навагр., З нар. сл.). Гл. *насупа,* да фанетыкі параўн. *сыпоня* 'супонь' (Сл. ПЗБ), *сыбóта'* 'субота' (Мат. Маг.) і інш.

**Насыпня́** 'бочка для захавання збожжа' (Клім.). У выніку семантычнай кандэнсацыі спалучэння *насыпнá(я) бóчка* 'тс' (палес., З нар. сл.; ТС).

**Нáсырава** 'начыста, зусім': *душа вылазіць насырава* (калі нясуць непасільнае, Ян.). Няясна, магчыма, да *сыравы́* 'суравы' (Ян.), г. зн. 'без апрацоўкі, у сырым выглядзе', аднак семантычная сувязь застаецца праблематычнай.

**Насыціць**1 'накарміць, задаволіць ежай' (Нас.). Да *сыты* (гл.).

**Насыціць**2: *насыціць сыты́* 'падсаладзіць мёдам ваду' (Ян.). Да *сытá* (гл.).

**Наськапáць** 'нашчапаць' (віл.; раг., Сл. ПЗБ). Да *ськапáць* 'шчапаць', што ў сваю чаргу са *скяпáць (скепáць)* 'шчапаць, калоць' (Нас.) у выніку «пераносу» мяккасці з другога на першы зычны, што прывяло да ліквідацыі нетыповага спалучэння *-кя-*.

**Нáські**1 'таварыскі' (Ян.), *нáській* 'нашага краю, нашага звычаю, наш' (Нас.), 'наш, свой' (Бяльк., Мат. Маг.). Гл. *нáскі.*

**Нáські**2: *нáські веліќдзень* 'наўскі вялікдзень, чацвёрты дзень веліќоднага тыдня' (ТС). Гл. *нáўскі.*

**Насэ́нтарыць** 'накласці, напакаваць надта многа' (Сцяц., Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, іранічнае ўтварэнне ад выдуманага кораня з «польскай» назалізацыяй.

**Нася́дваць** 'псавацца': *Вочы насядваюць ад курынай слепаты* (дзятл., Сл. ПЗБ). Да *сядáць, сéсці* 'аслабнуць, згубіць энергію, вастрыню', параўн. *зрок сеў,* сучаснае *сеў акамулятар* 'страціў зарад' і пад.

**Насякáнік** 'кіёк з насечкамі, зробленымі спецыяльна яшчэ на растучым дрэве', 'насмешлівая назва рабога' (Нас.), *насякáнка* 'настырная, з вострым языком дзяўчына' (Нар. сл.), *насякáйло* 'рабы чалавек' (Мікуц.). У выніку семантычнай кандэнсацыі спалучэнняў з *насекáны(й)* 'сукаваты; рабы' (Нас.); да *сячы́* (гл.).

**Нася́кнуць** 'нацягнуць, набрацца' (Пятк. 2). Гл. *сякáць.*

**Насялéнец 'жыхар'** (Сл. ПЗБ), *населéнец* 'наежджы' (ТС), рус. дыял. ***населéнец*** 'пасяленец, каланіст'. Да *насялíць,* гл. *сялíць;* дакладная словаўтваральная паралель славен. *naseljenec* 'пасяленец, каланіст'.



**Нася́ра** 'вялікі нос'. (Цых.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *нос* з рэдкім суфіксам *-яр(а),* параўн. *каця́ра* (ад *кот)* і пад.

**Нат** *(на'т)* 'нават' (Гарэц., ТСБМ, ТС). Скарочана ад *нáват* (гл.), што ў сваю чаргу з польск. *nawet* (<*na wet* 'напаследак', ад сярэдневяковага ням. *wet,* сучаснага *Wette* 'заклад, пары'), не раней XVII ст., параўн. у Бярынды: *Лáкомый на веты на канфекты* ('на дэсерт'). Паводле Карскага (1, 337), праз стадыі *нáэт — нáат,* зафіксаваныя ў Федароўскага. З бел. *нат*>літ. *net* 'тс', збліжанае народнаэтымалагічна з формамі з адмоўем *ne-,* гл. Трубачоў, Зб. Курыловічу, 334.

**Натагáніць** 'наліць, накласці з верхам' (жлоб., Жыв. сл.), укр. *натагáнити* 'многа накласці, многа наварыць', рус. *натагáнить* 'наварыць (у вялікай колькасці)'. Відаць, да *тагáн* 'падстаўка пад кацёл для прыгатавання ежы ў полі', першапачаткова наварыць *на таганé,* г. зн. 'многа'. Няясна, ці звязана са смал. *натагáн (тянуть)* 'у розныя бакі (цягнуць)'.

***Натакрок,** *натакрýок* 'на будучы год' (Бес.). Гл. *такрок.*

**Наталíць** 'насыціць; задаволіць' (ашм., Сцяшк. Сл.), 'насыціць (у ядзе, адзенні)' (Янк. 3), *натолы́ты* 'тс' (Клім.). Гл. *талíць.*

**Натальмахý** 'няёмка, нязручна': *Ехаў натальмаху* (Сцяшк. Сл.), *трымаць натальмахý* 'не датыкаючыся (да чаго-небудзь)' (Сцяц.). Няясна, магчыма да *ты́льма* 'бабка ў каня', *на ты́льмах (ехаць)* 'ледзь трымаючыся (ехаць)', параўн. *(ехаць) на запятках* 'прычапіўшыся ззаду (ехаць)'; або да польск. дыял. *tylma* 'ледзве, амаль'.

**Натапы́рыць** 'падняць, расставіўшы, пер'е; пышна адзецца' (Нас.), 'настаражыць вушы; наставіць шэрсць, расставіць пер'е з перапуду, ад дажджу і пад.; растапырыць, ускалмаціць' (Гарэц.), *натопýрыць* 'наставіць, прыўзняць' (ТС), *натапы́рыцца, натупы́рыцца* 'распусціць пер'е; надзьмуцца, разгневацца' (Нас., Сл. ПЗБ; Ян.), *натопýрыцца* 'тс' (ТС), рус. *натопы́рить* 'падняць, паставіць дыбам пер'е, шэрсць; наставіць вушы; надуцца; пышна адзецца', *натопы́риться* 'напыжыцца, ашчацініцца; надуцца, зазлаваць', польск. дыял. *natoperzyć, natoperzyć się* 'тс'; сюды ж, відаць, і балг. дыял. *натопóра, натопóрвам* 'паднімаць, задзіраць угору'. Паводле Пятлёвай (Этимология-1984, 200), *на-то-пырить, на-то-пыриться* пры параўнанні з *на-пыриться* 'наткнуцца на што-небудзь вострае' дазваляе вычляніць узмацняльны элемент *-то-,* які ўяўляе сабой архаічны непрадуктыўны суфікс, параўн. смал. *на-то-пыжить, на-то-пыжиться* 'пышна апрануцца; ашчацініцца, прыняць ваяўнічы выгляд'; у такім разе да *пы́рыць* 'распіраць,

пучыць' (гл.). Аднак варыянты з іншым вакалізмам, якія сустракаюцца ў славянскіх мовах, параўн. прыведзеныя вышэй балгарскія словы і рус. дыял. *топориться* 'франціць', *растопорить* 'рассунуць, растапырыць', чэш. *topořiti* 'стаяць калом, не згінацца' і інш. (Махэк₂, 647 лічыць зыходным корань *stop-*, што параўноўвае з літ. *stapìnti* 'рабіць тугім, цвёрдым'), прымушаюць аднесці разглядаемыя словы да *тапырыць* (гл.).

***Натаракох,** *натороко́х* 'напагатове, у чаканні' (ТС). Да *торак* 'сцежка, якой ходзіць звер' (гл.), літаральна — 'як паляўнічы, які стаіць *на тораку*'.

**Ната́рыць** 'надраць бульбу на тарцы' (Жд. 1, Ян.), *натарква́ваць* 'тс' (Сл. ПЗБ). Гл. *та́рыць, таркава́ць*.

**Ната́тка** 'заметка' (ТСБМ), 'запісанае на памяць' (Бяльк.). З польск. *notatka* ад лац. *notātus* 'адзначаны', *notāre* 'рабіць заметкі'.

***Нататое,** *натото́е* 'наўмысна, назло' (драг., З нар. сл.). Вынік замены другой часткі слова тыпу *на-зло* займеннікавым спалучэннем *тато́е* 'тое самае' (рэдуплікацыя ўказальнага займенніка, гл. *той*), магчыма, з-за табуізацыі. Параўн. падобныя ўтварэнні ў іншых славянскіх мовах: рус. *нарастото́ (на-рас-тото)* з *на распустинку* 'асаблівы спосаб завязвання хусцінкі на галаве ў жанчын' (Фасмер, 3, 446), польск. *nietota* 'расліна Lycopodium' з **nie to ta*, «бо чараўнічых раслін нельга называць па імені» (Брукнер, 362), чэш. *toten* 'расліна Sanguisorba' са спалучэння *to ten* 'гэта той', сапраўдная назва табуізуецца, каб расліна не страціла сваіх магічных здольнасцей (Махэк₂, 648). Бел. *тоя* 'рагулькі', відаць, з **мацер божэй то е* 'што належыць божай мацеры', параўн. *мацер божое слёзкі* 'дрыгучка' (ТС).

**Ната́цыя** 'павучэнне' (Бір. Дзярж.), 'праборка' (Бяльк.). Ст.-бел. *нотация (нотацыя)* 'заўвага' (1617 г.)<ст.-польск. *notacyja* (з XVII ст.), з лац. *notatio* 'заўвага, ганьбаванне' (Булыка, Лекс. запазыч., 57).

**Натко́сьнік** 'меншы брат ці родзіч маладой' (віл., З нар. сл.). Гл. *надко́снік* 'тс'.

**На́тля** 'перад сабой' (гродз., Сцяшк. Сл.). Няясна. Карскі (1, 281) параўноўвае нейкае *на тл'ă (на тле)* з *датла (дотла)* 'дашчэнту', што адносяцца да *тло* 'глеба, аснова' (прасл. **tьlo*), параўн. польск. *na tle* 'на падставе', аднак семантыка разглядаемага слова не дазваляе звязаць яго з указаным прыназоўнікавым словазлучэннем. Больш верагодна сувязь з *навотля* 'ад сябе', што выводзіцца з *наво́тліў* (гл.), у гэтым выпадку адносіны названых слоў былі б падобны да польск. *naścież* і *naoścież* 'насцеж'.



**Натма́шша** *(нытма́шша)* 'наводмаш' (Бяльк.). З **на-от-машье*, да *маха́ць*, параўн. *натпа́шша* (гл.).

**На́тмыч** 'дагары' (Мат. Маг.), параўн. рус. *на́тмачь* 'наводмаш', *засучи́ть на́тмачь* ('угору'?). Магчыма, да *мы́каць* 'смыкаць' (**на-от-мыч*).

***Натомасць,** *нато́мосьць* 'узамен' (драг., З нар. сл.), укр. *натомість, натомісць, натомісь* 'замест таго, затое', рус. *натомест* 'вместо того, чтобы', *натме́сто* 'замест', польск. *natomiast* 'замест таго', стар. *natemieście, natemieść* 'тс'. Са спалучэння **на то место* ў выніку фанетычных змен, некаторыя з іх цяжка вытлумачыць унутраным развіццём: *-мосьць* замест **město*, відаць, пад уплывам укр. *натомісць* з заменай *і (<ѣ)* на *о* ў закрытым складзе; або з *-масць*, дзе *-ма-* па тыпу *машо́к* 'мяшок', зменена пад уплывам окання.

**Натомес** 'на тое месца' (клец., Бел. дыял., 134). З **натомес(ца)*, гл. папярэдняе слова.

**Натосьнік** 'колца атосы, што надзяваюцца на канец восі' (Бяльк.). З **на-атосьнік*, да *ато́са* (гл.).

**Натоўп** 'тлум, мноства людзей' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), у 20-я гады таксама *на́таўп* (Некр. і Байк.). Аддзеяслоўны назоўнік, параўн. *нато́ўпіцца* 'набіцца гурбою, мноствам людзей' (Нас.), да *то́ўпіцца* (гл.).

**Натпа́шша** 'наводмаш' (Бяльк.). З **на-от-пашье*, параўн. рус. *паха́ть* 'месці', *рас-пахну́ть* 'расхінуць' і інш. Гл. *пахну́ць*, параўн. *натма́шша* (гл.).

**Натрубі́цца** 'наесціся да адвалу, да болі ў жываце' (полац., Нар. сл.), экспр. 'напіцца' (ТС). Да *трубі́ць* — іранічна 'есці, піць'.

**Натрудзі́ць** 'стаміць, давесці да хваравітасці' (Сл. ПЗБ), 'патрывожыць, натаміць і без таго стомленыя ці хворыя часткі цела; прычыніць боль, муку таму, хто нямоглы, хваравіты' (Нас., Гарэц.), 'навярэдзіць' (Некр., ТС). Гл. *труд, трудзі́ць*.

**Натру́шчыцца** экспр. 'наесціся' (ТС.). Да *тру́шчыць* 'есці' (гл.).

**Натрэскацца** 'наесціся многа' (Грыг.). Да *трэскаць* 'есці'.

**Натрэтны** 'назойлівы, надакучлівы' (Жд. 2), *натрэнтны* 'напорысты' (Сл. ПЗБ), 'навязлівы, назойлівы' (Нас.), 'настойлівы' (Сцяшк. Сл.). З польск. *natrętny* 'назойлівы, надакучлівы', параўн. ст.-бел. *натрентъ* 'нахабнік' (1627 г.)<ст.-польск. *natręt* (Булыка, Лекс. запазыч., 125).

**На́тта** 'надта, вельмі' (Бяльк., Сл. ПЗБ), *натто* 'тс' (Кліх, Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'звыш, залішне' (Нас., Мал.). Гл. *надта*.

**Нату́га** 'напружанне' (Нас., Яруш., Гарэц., Бяльк.), 'празмернае напружанне сіл' (Сл. ПЗБ), *натужыць* 'нацягнуць, напружыць' (Бяльк.). Гл. *тугі́, ту́жыць*.

**Нату́ра** 'характар' (Яруш., Некр., Бяльк., Пятк. 2, Сл. ПЗБ, ТС), 'прырода, характар' (Рам., Гарэц.), 'упартасць' (Нас.), ст.-бел. *натура* 'прырода; характар' (1580 г.)<ст.-польск. *natura* (з 1461 г.)<лац. *natura* 'прырода, характар і інш.' (Булыка, Лекс. запазыч., 139). Гл. таксама Кюнэ (Poln., 90), які лічыць сучаснае бел. *натура* запазычаннем з польскай.

**Натура́льны** 'прыродны, не штучны, звычайны' (Некр. і Байк., ТСБМ), ст.-бел. *натуралный (натуральный)* 'тс' (1615 г.)<ст.-польск. *naturalny* (фіксуецца з XVI ст.)<лац. *naturalis* (Булыка, Лекс. запазыч., 195). Паводле Кюнэ (Poln., 90), сучаснае бел. *натуральны* з польск. *naturalny*.

**Натурлівы** 'схільны да самадурства, упарты, капрызны' (Гарэц., Анім., Сл. ПЗБ, Яўс.), 'наравісты' (Нас., Бяльк., ТС). Да *натура*, літаральна 'той, хто паказвае свой характар'.

**Нату́рысты** 'ўпарты' (Нас., Гарэц.; навагр., Нар. словатв.; мазыр., З нар. сл.; Сл. ПЗБ, ТС). Да *нату́ра* 'характар'.

**На́тха** 'вонь' (Нас.), 'адрыжка' (бяроз., Шатал.), укр. *на́тха, на́дха* 'адрыжка з непрыемным пахам'. Да *тхаць, тхнуць* (гл.).

**Натхне́нне** 'рус. вдохновение' (Нас., Гарэц., Бяльк., ТСБМ). Утворана ад *натхнуць* 'унушыць каму-небудзь спосаб свайго мыслення' (Нас.), гл. *тхаць, тхнуць* 'дыхаць, веяць'; у сувязі з гэтым няма падстаў лічыць калькай з рус. *вдохновение* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 120), таксама як і *натхняць* — калькай з укр. *надихувати* 'тс' (параўн. Баханькоў, Весці АН БССР, 1981, 1, 121). Параўн. паралельнае ўтварэнне ад *натхаць* 'унушаць свой спосаб мыслення, свае думкі' — *натханне* 'ўнушэнне' (Гарэц.), *нытханне* 'задуменне, задума' (Бяльк.).

**На́тша** 'на галодны страўнік' (Сл. ПЗБ), *на́тшча* 'тс' (Нас.). Гл. *на́шча* 'тс'.

**Наты́хмест** *(на тыхъ мѣстъ)* 'імгненна, раптам' (Нас.). Параўн. польск. *natychmiast* 'тс', з якога, відаць, і запазычана беларускае слова.

**Нау́знік** 'малы пчаліны вулей, які ставяць у лесе на дрэве для прываблівання раёў' (Кос.). Гл. *навузнік*.

**Нау́ськаць** 'падвучыць, падбухторыць' (стаўб., Жыв. сл.). Гл. *вуськаць*.

**Нау́тхаць** 'загадзя мецъ на ўвазе' (Мядзв.). Відаць, з *на-* і *ўтхаць* 'унюхаць, пачуць', вытворнае ад *тхаць* 'веяць, дыхаць', параўн. фразеалагізмы *трымаць нос па ветру* 'адчуваць, куды схіляюцца справы', *чуць, куды вецер дуе* 'прадбачыць ход спраў' і інш.

**Наў**₁ прыназ. 'у': *наў прымы ідзе* (смарг., Сл. ПЗБ). Са спалучэння прыназоўнікаў *на* і *ў*, аб'яднаных значэннем мэты: *на+у+прымы.* Магчымы ўплыў прыстаўкі *наў-*.

**Наў**₂ 'навіна, новы ўраджай': *Пазычця мне гарнцы два круп да наві* (Бяльк.). Да *новы;* незвычайны вакалізм можа тлумачыцца ўплывам акання ў ненаціскных складах (да *наві?*). Найбольш верагодна, што гэта — позняе ўтварэнне ад *навіна* 'новы ўраджай' шляхам адсячэння *-ін-а,* успрынятага як суфікс адзінкавасці, што вельмі пашыраны на Мсціслаўшчыне, параўн. *сахыріна* 'адна асобная частачка ў *са́хары* (цукры)', *салі́на* 'адна асобная частачка ў солі' (З нар. сл., 131); у такім выпадку *наў* выступае як паралельнае ўтварэнне да рэчыўных назоўнікаў *сахар, соль* і пад.



**Наў-** у прыслоўях тыпу *наўбе́жкі* 'бягом', *наўго́н* 'наўздагон', *наўдага́д* 'наўгад', *наўкруг* 'кругом', *наўкры́ж* 'накрыж' і пад. Звычайна па значэнню адпавядае прыстаўкам *на-* ці *ў-* і выкарыстоўваецца як іх семантычны эквівалент, параўн. *наўпрамік//напрамік; наўшчэнт//нашчэнт//ушчэнт; наўкруг//укруг,* або з'яўляецца «пустым» элементам, параўн. *наўпроціў//проціў.* У многіх выпадках утварэнні з *наў-* могуць разглядацца як вынік кантамінацыі прыслоўяў з пачатковымі *на-* і *у-,* што, відаць, і стварыла ўмовы для ўзнікнення названага прэфіксальнага комплексу, параўн. *напрамую*×*упрамую*=*наўпрамую; накася́к*×*укася́к*=*наўкася́к* і г. д. Параўн. *наўз-*.

**Наўве́це** 'на прыкмеце; на чарзе да выканання; у думках, на ўвазе' (Нас., Гарэц.), *наўве́ці* (Бяльк.), *наўве́те* (Растарг.). Да прасл. **vět*ъ, якое захавалася ў дэрыватах *ветлы, вывет* 'выключэнне', *савет,* рус. *ответ, наветка* 'намёк, напамінак' і інш., на думку Мельнічука (Восточносл. и общ. яз., 109), вытворнага ад **větiti* 'гаварыць', для якога было характэрным першапачатковае значэнне 'адзначыць галінкай, памячаць' (прасл. *větь* 'галінка'); тады **на ў-веце,* як *на ў-вазе* (гл. *ува́га*). Параўн. *наўме́це* (гл.).

**Наўга́д** 'наўздагад' (Нас., Гарэц.; калінк., З нар. сл.), 'наўрад' (Гарэц.), *наўгады* 'наўгад, усляпую' (Ян.; пін., Нар. лекс.; ТС). Да *гадаць*.

**Наўгод** 'на выбар' (Гарэц.). Да *год, гадзіць* (гл.).

**Наўгру́нь** 'галопам' (бялын., Янк. Мат.), *наўгру́м* 'навыперадкі' (Сцяшк. Сл.). Гл. *угру́нь*.

**Наўда́,** рэдка *на́ўда, ноўда* 'карысць, выгада' (Шпіл., Сл. ПЗБ, Арх. Федар., Сцяшк. Сл., Цых., шчуч., З нар. сл.), 'патрэба, неабходнасць' (Федар., Сл. ПЗБ), 'навіна, дзіва' (Шн. 3, Яўс., Янк. БП; бялын., Нар. сл.), 'асаблівасць, важнасць', звычайна іранічна ў выразе: *вялікая наўда* (Чач., Нас., Яруш., Гарэц., Шат.), 'смутак, бяда' (Яруш., слуц., чэрв., Мат.). Бясспрэчны балтызм, у якасці крыніцы ўказваюць літ *naudà* 'карысць, выгада, грошы, дабро', лат. *nauda* 'тс', гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 48 (з л-рай), сюды ж прус. *Nauden*

(ул. імя), гл. Непакупны: Балт. яз. и их взаимодействие, 22; упершыню ў якасці літуанізма адзначыў Насовіч, спасылаючыся на літ. *nauda* 'дробная манета' (Нас., 300), што павінна тлумачыць іранічнае ўжыванне слова ў беларускай мове ў значэнні 'асаблівасць, важная рэч'; адзначаецца спецыфічнае ўжыванне лях. *найдá,* калі гаворыцца аб з'явах, якія адбываюцца незалежна ад жадання і волі чалавека: *найда ўпасці* (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1971, 1, 94); значэнне 'годнасць, прыгажосць', параўн. *найда яна на морду,* адзначанае Арашонкавай і інш., выводзіцца хутчэй за ўсё са значэння 'дабро, вартасць', параўн. літ. *naudà mergà* 'добрая, удалая дзяўчына' (БЛ, 3, 1973, 31, там жа карта распаўсюджання слова ў межах БССР). Краўчук (Лекс. балтызмы, 15) безпадстаўна аддзяляе *найда* 'смутак' насуперак Карскаму (Труды, 393) ад *найда, ноўда* 'карысць' і ўзводзіць яго да прасл. **nav-, *nу-* 'смерць, зморанасць, стомленасць', параўн. ст.-рус. *навь,* чэш. *unaviti* і г. д., на падставе чаго **навьда* 'смутак', што малаверагодна, паколькі значэнне 'смутак' магло ўзнікнуць на граніцы арэала ў выніку народнаэтымалагічнага збліжэння са словамі *нудá* 'журба, смутак, маркота'. У беларускую літаратурную мову ў значэнні 'патрэба, справа' слова ўведзена Ф. Багушэвічам (Мар. дыс., 50) і шырока ўжывалася ў мастацкай літаратуры ў 20-я гады XX ст., з другой палавіны 30-х гадоў ужываецца рэдка (Германовіч, Аб нек. асабл., 10—12; Гутшміт, ZfSl, 19, 1974, 2, 268).

**Наўдáку** 'наўрад, наўрад ці' (Нас., Яруш., Растарг., Юрч.), 'наўрад, малаверагодна, на ўдачу' (Гарэц., Бяльк.), *наўдачу* 'тс' (Яруш., Нас.). Да *удацца, удача* (гл.), заканчэнне *-ку,* відаць, пад уплывам іншых прыслоўяў, дзе яно адлюстроўвае канчатак род.-месн. скл. назоўнікаў на *-къ* (гл. Карскі, 2—3, 69), паколькі назоўнікаў тыпу **удак* няма; няправільна збліжаецца з *найда* 'карысць, маёмасць; асаблівасць, важнасць' (гл.) на аснове значэння 'нічога асаблівага, нічога важнага', перш за ўсё па лінгвагеаграфічных меркаваннях (параўн. Арашонкава і інш., БЛ, 3, 1973, 31).

**Наўдобу** 'нібы, быццам бы' (Юрч. Фраз. 1). Ад незафіксаванага **удоба,* сінанімічнага да *падоба* 'падабенства'.

**Наўдое** 'капрызнае': *Зусім наўдое стала дзіця, як захварэла* (маст., Сцяшк. Сл.). Да *наўдá* (гл.), значэнне ўзнікла на базе *нáўды* 'няма нічога добрага, няма чым хваліцца' (Гарэц.), *не наўды́* 'не бяда' (Яруш.), адкуль без адмоўя *наўды* магло быць асэнсавана як прыметнік м. р. адз. л., ад якога быў утвораны прыметнік н. р. адз. л. са значэннем 'дрэнны, слабы', параўн. процілеглае развіццё семантыкі 'добры, удалы' — *наўда дзяўчына,* дзе назоўнік можа ўспрымацца як прыметнік ж. р. адз. л.



**Наўдолькі** 'ў абход' (смарг., Сл. ПЗБ). Магчыма, ад *удоль* 'наўсцяж', параўн. рус. *вдоль* 'тс', або з **на-ўдалекі,* гл. *далёкі,* з «узнаўленнем» *о* пад націскам, параўн. дыял. *штаны,* але *штонікі* і пад.

**Нáўечка** 'сукенка, якую надзяваюць дружкі на вяселлі' (Жд. 1). Няясна.

**Наўз-** *(наўс-)* у прыслоўях тыпу *наўздагон* 'следам', *наўзбоч* 'збоку', *наўскрыж* 'накрыж', *наўскасы* 'наўкос, коса' і пад., сінанімічных адпаведным прыслоўям з *на-* або *уз- (ус-),* параўн. *наўздагон/уздагон, наўскрыж/накрыж* і пад., часам мае тое ж значэнне, што і прэфіксальны комплекс *наў-* (гл.) у прыслоўях, параўн. *наўдагон, наўкры́ж* і інш. У многіх выпадках можа разглядацца як вынік кантамінацыі аднакарэнных прыслоўяў з *на-* і *уз- (ус-): надоўж×уздоўж=наўздоўж, накрай×ускрай=наўскрай,* пры гэтым створаны ўмовы для фарміравання комплексу *наўз- (наўс-),* які ў далейшым стаў ужывацца незалежна ад наяўнасці адпаведных прыслоўяў або паралельна з імі, параўн. *наўзрост* 'навыраст' (ТС), *наўспрамік* 'напрасткі' (Янк. Мат.) і г. д.

**Нáўза** 'прылада, да якой прымацоўваюць воск у вуллі' (Некр.), 'вашчына', 'рамка для вашчыны ў калодачным вуллі' (Сл. ПЗБ), таксама *наўс* 'тс' (там жа). Гл. *навуза.*

**Наўзáвады** 'наўскач' (дзярж., Нар. сл.), 'хутка (бегчы)' (ковен., Мат. 2), *наўзавады* 'ўскач' (Сцяшк. Сл.), *наўзавад* 'вельмі хутка' (Сцяшк.), укр. *навзаводи, навзавод.* Да *заводзіцца* 'пачаць спрэчку, спаборніцтва'; фармальна прыслоўе суадносіцца з прыназоўнікавай канструкцыяй з він. скл. назоўніка (Карскі, 2—3, 74).

**Наўзлакотках** 'абапёршыся на локці' (Юрч. Фраз. 2), *наўзлакоткі* 'тс' (Растарг.). Да *лакоткі,* гл. *локаць.*

**Наўзнáк** 'дагары' (Гарэц., Сл. ПЗБ, ТС), *наўзнач* 'тс' (Янк. 1; карэл., Янк. Мат., Ян.), *навознач* 'тс' (стол., Жыв. сл.), укр. *навзнак* 'тс', рус. *навзнак, навзначь* 'тс', польск *nawznak, naznak,* чэш., славац. *naznak* 'тс', серб.-харв. *нäuznak.* Прыназоўнікавае спалучэнне з прасл. **vъznakъ* 'тс', параўн. ст.-слав. **възнакъ**, балг. *възнак,* славен. *vznak,* польск. арх. *wznak* і інш., адносна якіх існуюць розныя меркаванні. Паводле Фасмера (3, 34), магчыма, з **na-kъ,* аналагічнага да **per-kъ* (гл. *перак*), параўн. серб.-харв. *наком* 'пасля, ззаду', *накјучê* 'пазаўчора' і інш. Махэк₂ (392) выводзіць чэш. *naznak* з **na jьz-na-nikъ,* гл. *назнанак, назнайніцу* 'навыварат', што, здаецца, сведчыць у карысць апошняй версіі (у прыватнасці,

магчымае народнаэтымалагічнае асэнсаванне падабенства каранёвай часткі слоў).

**На́ўзніч** 'наўзнак' (ТСБМ, Растарг.), рус. *навзник, навзничь* 'тс'. Да *нікаць, нікнуць* 'схіляцца', *ніц* 'тварам уніз', 'адваротны бок тканіны', *нічма́* 'ніц', славен. *vnic* 'наадварот, наўзнак', гл. Фасмер, 3, 34.

**Наўзрок** 'на выгляд, на вока' (Нас., Др.). Да *ўзіра́цца* 'глядзець', *узро́к* 'зрок, бачанне', параўн. рус. *навзгляд* 'на вока, прыблізна'.

**Наўзрэх** 'агрэх' (Сл. ПЗБ). Няясна; фармальна блізкае рус. пск. *навзрих* 'не падумаўшы, як папала', магчыма, сведчыць пра прыслоўны характар беларускага слова, параўн. таксама *узрэх* 'агрэх' (Нас., Сл. ПЗБ, Сцяшк.) і *ўрэх* 'тс': *Пагарай на ўрэх* (Сл. ПЗБ). Магчыма, да *рахацца* 'корпацца, кратацца' (ТС), рус. *рехнуться* 'страціць розум', відаць, таксама і 'скрануцца', параўн. сінанімічныя выразы *тронуться, сдвинуться* 'здурэць', сюды ж, магчыма, балг. *рехам се* 'брысці', параўн. Фасмер, 3, 477. Збліжэнне з *грэх* другаснае. Гл. *урэх, узрэх.*

**Наўка́з** 'прыкладна, для страху' (ТС). Да *ўказаць* 'паказаць, правучыць', *ука́з* 'указанне'.

**Наўкола** 'кругом' (Гарэц., Яруш., Бяльк., ТС). Гл. *навокал.*

**Наўколенцах** 'на каленях, стаўшы на калені (што-небудзь рабіць)' (Мележ). Паводле Шубы (Прыслоўе, 115), у выніку кантамінацыі спалучэнняў *на каленцах* і *ў коленцах* 'тс', гл. *наў-*; да *кале́нца, кале́на* (гл.).

**Наўле́чка** 'навалачка' (Нік. Очерки; дзярж., Нар. слова; маладз., Янк. Мат.; слуц., Полымя, 1988, № 7, 203), *на́ўлечка* 'тс' (Жд. 2). З польск. *nawleczka* (няпоўнагалоссе, гл. Бел.-польск. ізал., 10); перанос націску на першы склад сведчыць аб адаптацыі слова, параўн. бел. *навалка, навалачка* 'тс' (гл.), адваротны ўплыў у навагр. *navałočka* (Кліх). Параўн. *навуле́чка* (гл.).

**Наўманкі́** 'наўгад, прыблізна' (браг., З нар. сл.), *наўма́нкі* 'навобмацак' (Сцяшк. Сл.). Да *ўмані́ць* 'убіць сабе ў галаву', *мана́* 'абман; здань'.

**Наўме́** 'ў галаве, у думках', *на́ўме, на́ўмех* 'тс', звычайна з адмоўем: *не на́ўме, не на́ўмех* (ТС). З прыназоўнікавага спалучэння **на ўме* (месн. скл. адз. л.), **на ўмех* (старая форма месн. скл. мн. л.), гл. *ум.*

**Наўме́це,** *наўмеці* 'на прыкмеце': *Была наўмеці добрая сасонка — нехта забраў ужо* (бялын., Янк. Мат.). Да *ме́та* 'прыкмета', *меціць* 'пазначаць'; структурная паралель *наўве́це* 'тс' (гл.).

**Наўме́цца** 'набрацца, назапасіць' (слонім., Нар. лекс.), 'мець удосталь, хапіць' (Сцяшк.). Да *мець, наў-*, відаць, на месцы *най- (*на-иметься).*



**Наўмі́згі** *(ны-умизги)* 'на любоўнае спатканне' (Мат.; Нік. Посл.). Паводле Карскага (2—3, 74), з прыназоўнікавага спалучэння з наз.-він. скл. мн. л. назоўніка *ўмізгі, умызгі* 'залёты, заляцанне' (Нас.).

**Наўмі́ць** 'давесці да розуму, даць зразумець' (Нас., Гарэц., Др.). Са спалучэння *на ўм* (навесці), гл. *ум.* Сюды ж, відаць, *наўмені́ць (ныўмянуць)* 'напомніць' (Бяльк.).

**Наўмор** 'насмерць, зусім' (ТС). Да *ўмары́ць* 'замучыць да смерці', гл. *мор.*

**Наўмы́сля** 'знарок, назнарок' (Гарэц.; бялын., Янк. Мат., ТСБМ), *наўмы́сле* 'тс' (Сцяшк.), *наўмы́сня, наўмы́сне* 'тс' (Сл. ПЗБ, Ян., ТС, Янк. 2), *надумысне* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *наўмысно* 'тс' (ТС), *наўмысна* 'тс' (ТСБМ). Паводле Карскага (2—3, 78), гэта — дзеепрыметнік у функцыі прыслоўя, гл. *умысля*; па аналогіі з прыметнікамі сюды пранік *н*; паводле Шубы (Прыслоўе, 115), відаць, да *ўмысл* (гл.), у сувязі з чым у формах, што заканчваюцца на *-я*, назіраецца «дэфармацыя суфікса» (правільна *наўмысле*<**на ўмысле* — месн. скл. адз. л.); *наўмы́сна*<**наўмы́сльна* (там жа, 158).

**Наўнэт** 'вельмі': *Наўнэт спужалася* (свісл., Сцяшк. Сл.), 'зусім' (Адамчык); параўн. *на ўнэт* 'ушчэнт' (Сл. ПЗБ), што выводзіцца з польск. *wnet* 'зараз' (там жа, 212), у сваю чаргу запазычанага з чэш. *hned* 'адразу, неадкладна, зараз' (Брукнер, 627; Махэк$_2$, 213). Гл. *унэт.*

***Наўпа,** *на́впа* 'малпа; жэўжык' (драг., З нар. сл.). Да *ма́лпа* (у народным вымаўленні *ма́ўпа*) у выніку распадабнення губных; параўн. смал. *навпа, павпа* 'сірэна' (Черепанова, Мифологическая лексика русского Севера. Л., 1983, 95), якое можа быць дастаткова старым і ўплываць на змену формы і семантыкі запазычанага *ма́лпа* (гл.).

**Наўпа́кі** 'насуперак, наадварот; паўторна' (Гарэц.), *наўпакі, наопакі, наво́пакі* 'надварот; навыварат; насуперак' (ТС). З *на* і *опакі* 'ў адваротны бок, наадварот' (прасл. **opakъ* 'тс'), параўн. у закляцці, калі робяць завітку: *Кручу, верчу на опакі, шоб у его не было ні сем'і, ні товару, ні хлеба, ні мукі (на опакі* значыць наадварот, бо закручвалі жыта, збожжа, расліну з захаду на ўсход) (пін., Кольб., 444). Параўн. укр. *на опаки*, рус. *на́пако*, чэш. *naopak*, славац. *nápaku* (Махэк$_2$, 415), серб.-харв. *на̏опак, на̏опако*, славен. *naópak* (Фасмер, 3, 42; Бязлай, 2, 213—214), балг. *на́опако*, макед. *наопаку, наопачки.* Гл. *опакі.* Значэнне 'паўторна', відаць, да *пак* 'яшчэ' (гл.).

**Наўпаміна́нне** 'напамінанне' (Нас., Яруш.), *наўпаміна́ць*

'угаворваць, пераконваць', *наўпамянýць* 'угаварыць; напомніць' (Нас.). Відаць, у выніку кантамінацыі *напамінаць* 'прыпамінаць' і *ўпамінаць* 'пераконваць; напамінаць' (Нас.).

**Наўправíк** 'прама, проста' (ТС). Да *прáва (прáво)* 'прама', *прáвы* 'прамы' (ТС), гл.

**Наўпрокі** 'папрокі' (Ян.). Адаптаваны пры дапамозе ўзмацняльнага *на-* русізм *упрёкі* 'тс', магчыма, пад уплывам *наракаць* 'скардзіцца'.

**Наўпроці** 'супраць, насупраць' (Гарэц., Бяльк.), *наўпроціў* 'тс' (ТС). Ад *проці(ў)*, гл. *наў-*.

**Наўпярод** 'перад, перш за ўсё' (навагр., Шн. 3, Кліх). Да *пярод, перад,* гл. *наў-*.

**Нáўра** 'настырны, пранырлівы чалавек' (докш., Сакалоўская, вусн. паведамл.). Магчыма, да *навіраць* 'натыкаць, насаджваць; вешаць на жэрдкі для сушкі гарох, траву і інш.', зак. трыв. *наўраць* (гл.), літаральна 'той, хто ўсюды лезе', параўн. укр. *навратливий* 'навязлівы, надаедлівы'; або да *наўрэць* 'нечакана сустрэць' (гл.), параўн. фармальна ідэнтычнае укр. букав. *нáвра* 'слата, нягода', *нáўрышча* 'напасць, ліха, бяда'; аднак найбольш блізкім па семантыцы з'яўляецца *наврытытыся* 'намерыцца, паставіць на сваім' (пін., Жыв. сл.).

**Наўрáд** 'наўрад, наўрад ці, малаверагодна' (Нас., Бяльк., ТСБМ, Пятк., ТС), укр., рус. *навря́д* 'тс'. З **на+в+ряд,* гл. *рад* 'шэраг', параўн. рус. *вряд* 'наўрад, малаверагодна' (<*въ+рѧдъ*, Фасмер, 3, 35).

**Наўрáць** 'навешаць на жэрдкі для сушкі гарох, траву; падплясці лапці і інш.' (бешанк., Нар. сл.). Форма зак. трыв. да *навіраць* (гл.), параўн. таксама *аўраць, ураць* 'вешаць на жэрдкі для прасушкі гарох, траву; падплятаць лапці' (гл.), якія могуць быць другаснымі ўтварэннямі ад *наўрáць*.

**Наўродзе** 'накшталт' (Бяльк.), рус. *навроде* 'тс'. Запазычана з рускай мовы ці ўтворана самастойна на базе рус. *вроде* 'тс' (да *род*) пры дапамозе ўзмацняльнага прэфікса *на-*.

**Наўрок** 'урокі, чары' (Бяльк.). Да *ўрок* 'тс' з узмацняльным *на-* (магчыма, з мэтай адрозніць ад *урок* 'вучэбныя заняткі') або непасрэдна ад дзеяслова *наўрочыць* 'сурочыць' (ТС).

**Нáўрышча** 'напасць, гора, ліха, бяда' (жлоб., Жыв. сл., Ян.), *наўрэць* 'неспадзявана сустрэць, убачыць, напаткаць': *вужаку наўрэў* (Купала), *наўрэцца* 'напаткацца' (Жд. 2), *наўрáцца* 'выпадкова набрысці, натрапіць, нечакана сустрэцца' (Гарэц., Бяльк.), *наўрыцца* 'знячэўку спаткаць, натрапіць' (маладз., Янк. Мат.), параўн. *выпадак (вýпадок)* 'няшчасце, непрыемнае здарэнне' (ТС). Да *ўраць* 'натыкаць, насаджваць', гл. *наўраць, навіраць, наворышча, вор₂*; да семантыкі



параўн. *наткнуцца* 'нечакана сустрэць', *спаткацца* 'сустрэцца' і пад.

**Наўсёды** 'заўсёды' (Яруш.). Відаць, наватвор пачатку XX ст.; *на-* замест *за-*, пашыранага ў большасці славянскіх моў у адпаведніках бел. *заўсёды* (гл.), магчыма, пад уплывам рус. *навсегда* 'назаўсёды', дакладнай структурнай копіяй (не калькай!) якога з'яўляецца разглядаемае слова; аднак параўн. *наўсёгда: помні наўсёгда* (ТС), *наўсягды́* 'назаўсёды' (Жд. 1), *наўсю́дых* 'усюды' (Нас.), *наўсю́ды* 'тс' (Бяльк.), што можа сведчыць аб старажытным характары пачатку слова, пра фарміраванне пачатковага словаўтваральнага комплексу гл. таксама *наў-*.

**Наўскапытá** 'наўскач, галопам' (Колас, ТСБМ). Да *капыт* (гл.), магчыма, ад *ускапыціць* 'узараць зямлю капытамі' або *скапыціцца* 'зачапіцца капытом, нагою пры бегу'.

**Наўскасá** 'коса, наўскасяк' (Юрч.), *наўскасы́* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нáўскась, наўскось* 'тс' (Пятк. 2, Юрч., Бяльк., Растарг.), *наўскася́к* 'тс' (ТСБМ, ТС, Растарг.), *наўкася́кі* 'тс' (Ян.). Паводле Шубы (Прыслоўе, 158), ад **ускася, ускасы* і пад., якія не ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове. Да *коса, касы* (гл.).

**Наўскáч** 'галопам, скачкамі, вельмі хутка' (Нас., Гарэц., Яруш., Янк. 1, Бяльк., ТСБМ), *нáўскачы, нáўскачак, нáўскачкі* 'тс' (Ян.), *нáўскачка* 'тс' (Гарэц., Янк. БП). Ад *ускач,* гл. *скакаць*.

**Нáўскі:** *нáўскі вялікдзень* 'чацвер вялікоднага тыдня' (Інстр. II), *нáўські: Radaйnica albo Naŭški Wielikdzień* 'вясення дзяды' (Пятк. 2), параўн. *наські: наські велíкдзень* 'тс', іншая назва *мертвых велікдзень* (ТС), укр. *навський: навський великдень* 'вялікдзень мёртвых, паводле народных вераванняў, у чацвер на апошнім тыдні вялікага посту', рус. маск. *навский: навский день* 'рэлігійны звычай памінання памерлых на магілах на працягу тыдня пасля вялікадня', чэш. дыял. *navski: navská kost* 'цвёрды нараст', славен. *natški: natška kost (*navьska kostь)* 'тс'. Да прасл. **navь*, параўн. ц.-слав. *навь* 'мярцвяк', рус. *навь, навье* 'тс', укр. *навка, мавка* 'душа дзяўчынкі, што памерла да хрышчэння', ст.-чэш. *nav* 'магілка, пекла, той свет', *unaviti* 'забіваць', чэш. *unaviti* 'стаміць', *unava* 'стомленасць, знямога', славац. *nava* 'прыстанак добрых душ', славен. *navje* 'душы няхрышчаных дзяцей', *nâv* 'душа нябожчыка', балг. мак. *нави* 'злыя духі, злыдні', гл. таксама *ўнáўя: загоніць унаўя* 'на той свет, у магілу' (Мат. Маг.). Дакладныя адпаведнікі: лат. *nâve* 'смерць', nāvêt, nāvît 'забіць', літ. nõvė 'цярпенне, смерць', *novis* 'мучэнне', *nõvyti* 'душыць, знішчаць', ст.-прус. *nowis* 'тулава, пень', гоц. *naus* 'мярцвяк', ст.-ісл. *nar* 'мярцвяк, труп'; звязана чаргаван-

нем галосных з *ныць* 'марнець, чахнуць', *уныць, уныв́аць* 'траціць жыццёвыя сілы' (гл.), гл. Фасмер, 3, 35; Махэк$_2$, 391; Бязлай, 2, 216; робяцца спробы звязаць слав. **navь* з і.-е. *nau-* 'карабель', якія грунтуюцца на ўяўленнях, што шлях на той свет вядзе па рацэ ці праз мора, а таксама на назвах абрадаў, параўн. рус. *навской (номской, навский) день, навьи проводы* 'летнія дзяды, памінкі; пахаванне' (Седакова, Балтославян. этнокультурные и археологические древности: Погребальный обряд. Тез. докл. конф. М., 1985, 73), а таксама рус. *навий день* 'дзяды', *навья косточка* 'цвёрды нарост', літ. *navikaulis* 'тс' з лат. *veļa kauli* 'костачка ў ступні, звязаная з пэўнымі павер'ямі', *Veļu laiks* 'памінанне мёртвых' (Іванаў — Тапароў, Слав. языкозн., М., 1973, 168). Параўн. таксама Талстой, БСИ, 1977, 87; Іванаў — Тапароў, Иссл., 68—69; Кобилянський, Мовознавство, 1980, 1, 46; Буга, Rinkt., II, 503. Гл. *навец*.

**Наўскура́ць** *(nauskurać)* 'паспець, успець' (Арх. Федар.). Гл. *ускура́ць* 'спяшацца'.

**Наўспяце́нь** *(ныўспяце́нь)* 'наадварот': *прыставіць дзверы ныўспяцень* (Бяльк.). Магчыма, да рус. *вспять* 'назад' (да *пята,* гл. Фасмер, 3, 363); аднак, зыходзячы з ілюстрацыі і ўдакладнення рэдактараў слоўніка, якія дадалі значэнне 'ўгару, увысь, высока', можна звязаць з *успяць* 'падняць угару' (да *пяць, пну,* гл.). Прымаючы пад увагу магіл. *на́піта, на́пята* 'насцеж' (гл.) і *пя́тнік* 'вушак, да каторага прыладжваюцца дзверы завесамі', мае права на існаванне і іншая версія: да *пята* 'ніжняе гняздо, у якое ўстаўлялася драўляная вось дзвярэй', тады *наўспяце́нь* значыла б 'не тым канцом восі (устаўлены дзверы)' ці пад.

**Наўспя́чча** з няясным значэннем, тлумачыцца як 'выкінуць нагамі' (Растарг.). Магчыма, да *вы́спятак* 'удар нагой' (гл.), параўн. укр. *ўспятки* 'абцасы', або да іншага дэрывата ад *пята́, пя́тка*, што значыў хутчэй за ўсё 'выбрык, удар нагой назад (напр., у каня)' *(*ус-пятье?)*.

**Наўсцяж** 'на працягу, на ўсёй працягласці' (Нас.), 'цугам; кругам, суцэльнай паласой, сцяной, кальцом' (Гарэц.), 'адзін за адным, гужам, цугам (пра коней)' (Мал.), 'адзін за адным, выцягнуўшыся (пра бег коней)' (Янк. 2), 'насцеж' (Сл. ПЗБ), укр. *навстяж, навстіж* 'тс'. Гл. *усцяж* 'удоўж, на працягу'; значэнне 'насцеж' узнікла ў выніку збліжэння блізкіх па гучанню слоў (Шуба, Прыслоўе, 116), параўн. *наўсцеж* 'насцеж' (Ян., ТС), гл. *насцеж*.

**Наўсягды́** 'назаўсёды' (Жд. 2). Да *ўсягды́* (гл.).



**Наўтэ́нт,** *нафтэ́нт* 'наскрозь' (Бузук, Паўдн.-бел., 164). Няясна.

**На́ўхрасць** 'накрыж' (Ян.), *на́ўхрысць* 'тс' (Бяльк.), *на́ўхрэст* 'тс' (Кос.). Да *хрэст* 'крыж', магчыма, пад уплывам *хрэ́сці* 'хрэсці, масць у картах', *хрысціць*.

**Наўцяняні́** 'нацяняні, проста, не дарогаю' (Бяльк.). З **на*+*уцямкі*, гл. *уцямкі* (да *цяміць* 'разумець, заўважаць'), параўн. *нацяняні́* 'тс' (гл.).

**На́ўчань** *(на́учень)* 'вучань' (Анім.), рус. пск. *на́учень, на́ўчень* 'вучань (якога аддалі ў навучанне, на вывучку)', смал. *на́ушень* 'падручны каваля'. Ад *на́ўчаны (на́ученый)* 'навучаны' (Нас.), *наўчы́ць* 'наставіць, навучыць; настроіць' (Нас.), параўн. *ву́чань* (гл.).

**Наўчва́ль** 'галопам (пра хуткі бег каня)' (беласт., Ніва, 10 жніўня 1980 г.), *науджва́л* 'тс' (пін., Жыв. сл.). Гл. *учва́л*.

**Наўя́** 'наяву' (Бяльк.). Відаць, з **на*+*уяў*, гл. *уяўля́ць, уяві́ць*, параўн. *ява* (гл.).

**На́фта** 'нафта' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), 'газа' (Сл. ПЗБ, Бес.). Запазычана праз польск. *nafta* з лац. *naphtha* (<грэч. ναφθα<перс. *näft* 'тс'). Ст.-бел. *нефть* 'нафта' (1519 г.) з тур. *neft* (апошняе з перс. *näft*), гл. Булыка, Лекс. запазыч., 142.

**Нафталі́н** (хімічнае рэчыва) (БРС, ТСБМ), *нафталі́на* 'тс' (Некр. і Байк.; маладз., Янк. Мат.). Запазычанні, першае — праз рус. *нафталин,* другое — праз польск. *naftalina* (абодва тэрміны ад лац. *naphtha* 'нафта').

**Наха́ба** 'напасць' (Нас., Грыг., Др., Яруш., круп., ЭШ), 'напасць, непрыемнасць; нахабства' (Гарэц.), 'гора, навалач' (Макар.), 'няшчасце, навала; нахабнік' (Бяльк.), 'навязаны клопат, абуза; нахабнік, нахабніца' (Янк. 2, Ян.), 'назола, прыставака, бессаромнік' (парыц., Янк. Мат.), 'нахабнік' (Клім., Пятк. 2), 'здань' (касцюк., Арх. ГТ), *наха́біца* 'пошасць, хвароба' (ТС), 'назола' (івац., Жыв. сл.), *наха́бны* 'навязлівы, прыдзірлівы' (Нас.), 'наглы' (Бяльк.), укр. *наха́ба* 'бяда, напасць; нахабства', рус. *наха́ба* 'напасць, нечаканая непрыемнасць; клопат, абуза; нахабнік, нахабніца'. Ад *наха́біць* 'нападаць, паклёпнічаць, безпадстаўна абвінавачваць у злачынстве' (Нас.), да незафіксаванага **ха́біць*, параўн. ст.-бел. *ахабивъ,* зафіксаваную форму з аканнем ад дзеяслова **охабити* (Карскі, 1, 136), параўн. ст.-польск. *ochabić* 'абхапіць', што ўзыходзіць да гукаперараймальнага *хав-* (Бернекер, 381) і можа суадносіцца з *габа́ць* 'браць, хапаць' (Фасмер, 4, 215; Махэк$_2$, 410). Некаторыя значэнні развіліся, магчыма, пад уплывам **xabiti* 'псаваць', гл. *ха́баль, хабе́та*; да семантыкі параўн. *нахваці́цца*

'з'явіцца знянацку' (Ян.), *нахапіцца* 'накінуцца' (Растарг.) і пад.

**Нахáкаць** 'нашкодзіць': *чорт нахакаў* (ТС). Няясна; параўн. *хáкаць (хáкъць)* 'цяжка дыхаць' (мёр., Нар. сл.), *хáкаць* 'пазяхаць' (Жд. 3).

**Нахáлам** 'нахабна, бесцырымонна' (Сл. ПЗБ), 'нахабна, назойліва' (ТС), сюды ж *нахáльны* 'вялікі, моцны': *даждж́э нахáльныя* (Сл. ПЗБ), *нахáлны* 'нахабны', *нахáльніца* 'празмерна цікаўная асоба, назола' (ТС), рус. *нахáл* 'зб. няпрошаныя госці; нахабнік', *нахал делать* 'паводзіць сябе нахабна', *нахальный* 'нахабны; дармавы'; 'гвалтоўны': *нахальная смерть* (смал., СРНГ). Значэнні і формы, прадстаўленыя ў рускіх і беларускіх словах, прымушаюць звязаць з рус. *хáлко* 'хутка, паспешна; моцна', *халовой* 'танны, дурны, недарэчны', *хал* 'дарэмшчына', *хáлкать* 'прагна глытаць', да якіх належаць таксама бел. *ахáлкам* 'не пераж оўваючы, вялікімі кускамі (есці)', *хáлкаць* экспр. 'есці', *халькам* 'абы-як', што, відаць, гукапераймальнага паходжання. Развіццё значэнняў, як у *нáглы* (гл.), параўн. рус. *нагáл* 'заклік, крык ці песня ў такт працы'; у сувязі з гэтым наўрад ці звязана з **xoliti* (параўн. Фасмер, 3, 50; з л-рай).

**Нахалды́кацца** экспр. 'напіцца' (ТС). Ад гукапераймальнага *халды́*, параўн. *халды́-балды́* 'несур'ёзнасць' (Нас.).

**Нахапок** 'спяшаючыся, у спешцы' (ушац., Нар. лекс.), 'хутка, абы-як', *нахапкí* 'наперагонкі' (Яўс.), *нахапý* 'на скорую руку' (Жд. 2, Сл. ПЗБ). Да *хапáць, хап* (гл.).

**Нахахорыцца** 'надзьмуцца, натапырыцца' (Колас). Да *хахорыцца* 'тапырыцца', відаць, гукапераймальнае ці гукавыяўленчае, параўн. *шашэ́рыцца* 'тс', рус. *хорохóриться, фуфы́риться* і пад. Параўн. таксама *начачýрыць* 'натапырыць' (гл.).

**Нáхаць** 'нахабніца (пра свінню)' (салігор., Нар. словатв.). Няясна; параўн. салігор. *хасцíна* 'пражэрлівая скаціна' (гл.); **на+хасць?*

***Нахібавáць**, *нахыбовáты* 'завяршыць верх страхі' (бяроз., Шатал.). Да *хіб* 'верх страхі, вільчык' (гл.).

**Нахілáцца** 'пад'есці' (карэл., Марц.). Няясна.

**Нахíльнік** 'расліна Atropa belladonna L., красаўка' (палес., Бейл.). Ад *нахіліцца* 'схіліцца, пахіліцца', *хілíць* 'нахіляць, схіляць, звешваць', відаць, названа так таму, што на ноч ці на дождж схіляецца ўніз, параўн. *ахíлкі* (гл.).

**Нахлабýчыць** *(ныхлабýчыць)* 'сядзець як папала' (чавус., Нар. сл.), сюды ж *нахлабýчка* 'праборка, натацыя' (Бяльк.), рус. *нахлобýчить* 'накрыць чым-небудзь зверху; набіць, пакараць', *нахлобýчка* 'высокая шапка' і інш. канкрэтныя значэнні, а таксама 'біццё' (СРНГ). Рускія словы выводзяць са спалучэння *на* і *клобук* 'высокая шапка' (Праабражэнскі, 1, 316, 596; Гараеў, 266) у якасці экспрэсіўнага ўтварэння пад уплывам *хлóпать* 'стукаць' (Фасмер, 3, 50); беларускія словы, магчыма, арэальнае пранікненне на беларускую тэрыторыю з рускай, на іх экспрэсіўны характар і семантыку маглі ўплываць дзеясловы тыпу *хлабыстáцца* 'шлёпацца' (рагач., Шатал.) і пад. Параўн., аднак, балгарскія паралелі *нахлбýча, нахлбýчвам* 'нацягваць шапку і інш. нізка на лоб', на якія звярнуў увагу Талстой (ZfSl, 1976, 6, 834 і інш.), што могуць сведчыць аб значнай старажытнасці слова.



**Нахлапны́:** *нахлапная балка* 'апошняе суцэльнае бервяно, якое кладзецца над сточанымі бярвеннямі' (Сл. ПЗБ). Да гукапераймальнага *хлопаць* 'стукаць, ляскаць; стукаць, накрываць зверху', параўн. *нахлю́пісты, ахлýп* (гл.).

**Нахлáшч** 'наросхрыст, шырока, размашыста' (калінк., З нар. сл., Сцяшк.): *Парашчыняў нахлашч дзверы* (Місько); сюды ж *нахлáшч* 'насцеж' (Сцяц.), што дазваляе звязаць названыя словы з дзеясловам *хлáстаць* 'біць наводмаш', параўн. *Дзверы атхлáшчыў* (Сцяц.), з іншым вакалізмам — *хлыстáць, хласцíць* 'біць' (гл.).

**Нахлепястáцца** 'насмяяцца' (Яўс.). Гл. *хлепястáцца* 'рагатаць'.

**Нáхлесткі** 'падоўжныя бакавыя планкі, што насаджваюцца на капылы ў санях' (Сл. ПЗБ), параўн. рус. *нахлёстка* 'верхняя падоўжная планка ў возе ці планка, што набіваецца на капылы ў санях'. Да *хлястáць* 'біць', *нахлястáць* 'набіць', параўн. *у нахлёст* 'зверху, наверх (набіць, накласці і інш.)'.

**Нахлюмéндзіцца** 'наплакацца' (Яўс.). Экспрэсіўнае ўтварэнне; параўн. *хлюма* 'неахайная жанчына' (Яўс.), гл.

**Нахлю́пісты** *(нахлю́пыстый)* 'занадта нахілены ўніз' (драг., З нар. сл.). Да *хлю́паць* 'падаць', *хлю́плы* 'прысадзісты, нізкі', параўн. семантычна падобнае *спáдзісты* 'пахілы, схілены' ад *пáдаць*; звязана з *нахлýпіць* 'насунуць' (Растарг.) з іншым варыянтам кораня **xlup-* гукапераймальнага характару, параўн. Махэк$_2$, 200. Гл. *ахлýп*.

**Нахмáрыцца** 'пакрыцца хмарамі; нахмурыцца' (Нас., Гарэц., Растарг.), *нахмýрыцца* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *хмарыць, хмурыць* 'станавіцца пахмурным, змрочным', параўн. семантычную паралель балг. дыял. *нъоблъчвъм съ* 'станавіцца пахмурным, насупліваецца' (ад *облак* 'хмара').

**Нахохліцца** 'натапырыцца (пра пер'е)', *нахохліць* 'натапырыць' (в.-дзв., Шатал.), 'начасаць, падкруціць' (ТС). Да *хахол, хохлік* 'чуб' (гл.).

**Нáхрап** 'цураючыся паху, духу' (Нас.), 'блізка': *Нахрап не*

*пускае нікога* (Ян.). Відаць, са спалучэння _*на храп_, гл. *храпéць, храп*.

**Нахрáпам** 'раптоўна, гвалтоўна, супраць жадання' (Нік. Оч.; Мядзв.), 'нахабна' (Ян., Растарг.), *нáхрыпым* 'дзёрзка, нахабна' (Бяльк.), *нахрапкі* 'тс' (Ласт.), рус. *нахрáпом* 'тс' укр. *нахрапом* 'тс'. Ад *хрáпаць, хропаць* 'ламаць з трэскам, біць з шумам', параўн. рус. *нахрáп* 'напралом; моцна, вельмі', *нахрапкú* 'напралом (задзірацца, лезці)' (СРНГ); менш верагодна ад *храпéць* 'хрыпець', укр. *храп*, польск. *chrap* 'злосць' (параўн. Бернекер, 1, 401; Праабражэнскі 1, 595; Фасмер, 3, 50). Варбат (Слав. языкозн., 1988, 74) прапануе рус. *нахрáп* 'дзёрзкасць, нахабства', польск. *chrapka* 'жаданне', славац. *sxrapit'* 'схапіць', каш.-славін. *sxrapnǫc* 'украсці' аддзяляць ад гукапераймальнага _*xrap-_ і ўвесці ў гняздо прасл. _*rap-_ з семантыкай 'хапаць, рваць' з магчымым пачатковым *x-* экспрэсіўнага паходжання.

**Нахрáпнік** 'зацяжны дождж' (Ян.). Тлумачыцца, як пераноснае ўжыванне, відаць, ад *нахрапнік* 'нахабнік': *Вот ужэ дождж, такі нахрапнік, погноіць усе* (там жа, 212), параўн. рус. *нахрапник* 'бессаромны чалавек, нахабнік'; аднак не выключана, што ў аснове дзеяслоў *накрáпваць* 'патроху капаць', ад *крáпаць* 'капаць, імжаць'.

**Нахрапýдзіцца** экспр. 'надзьмуцца'. Няясна, магчыма, да *хрáпа* 'морда, пыса' (гл.).

**Нахрáць** *(ныхрáць)* і *нахрáт* (?) 'гвалт, насілле' (Нік. Оч.), *нахрáтым* 'гвалтоўна, сілай' (там жа); *нахры́ццю* 'нахабна': *Ён нахрыцьцю лезе ў вочы* (Ласт.), *нахрáццю (нахратью)* 'зламысна' (Нік. Няч.), *нáхрыць (нáхриць)* 'той, хто ўздзейнічае на іншага насіллем, хто паводзіць сябе насуперак прынятым правілам і ўмовам жыцця' (Нік. Оч.), *нахрáтны (ныхрáтный)* 'дзёрзкі, гвалтоўны' (там жа), рус. *нахрáт* 'нахабнае нападзенне, грабеж; дзёрзкасць з насіллем, бессаромнае нахабства і раптоўнасць дзеяння' (зах., Даль), 'бессаромны чалавек, нахабнік', *нахрáтом* 'дзёрзка, нахабна; гвалтам'. Паколькі словы ў беларускіх гаворках ужываюцца паралельна з *нахрáп, нахрáпам* (гл.), магчыма дапусціць падабенства ва ўтварэнні, параўн. *ахрáпкі* 'бацвінне, абрэзкі' і *ахрáткі (ахря́ткі)* 'аб'едкі', з другасным паўнагалоссем *ахарáткі* 'тс' (гл.); што да незафіксаванага _*храт-_ (<_*храціць, *храць_ 'біць, кідаць'), параўн. славен. *hrétiti se, hreti se* 'выклікаць агіду', славац. *chriatit' sa* 'рабіць высілак, сіліцца', што ў сваю чаргу, магчыма, звязана з *кратаць* (гл.), параўн. славац. *nakriatnut'* 'прыгнуць, нагнуць, прымусіць сілай' (Махэк$_1$, 162; Бязлай, 1, 202—203).

**Нáцемак** *(нáцімак)* 'адвячорак' (Яўс.). Да *цьмá* (гл.).



**Нацíкнуць** 'напомніць, нагадаць' (Ян.), *нацекнýць* 'намякнуць' (ТС), *націкáць* 'найсці на след, напасці на след' (Гарэц., Др.). Да *цік* 'памяць, кемнасць', параўн. *па cik* 'на памяць': *па cik nie prychodić* (Арх. Федар.), *цíкнуць* 'раптоўна ўцяміць', *нецікáвы* 'з аслабленымі разумовымі здольнасцямі' (ТС), гл.

**Нацíна** 'бацвінне, лісты гародніны' (Нас., Гарэц., Янк. 1), 'сцябло агародніны' (Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), 'сцябло агуркоў' (Ян.), 'бульбоўнік' (Мат. Маг.), 'сцёблы рэпы' (Пятк. 2), 'ежа, прыгатаваная з лістоў рэпы' (Крачк.), 'квашаныя верхнія лісты капусты' (Вешт.), *нацíня* 'раска' (Сл. ПЗБ), укр. *нáтина* 'дзікая лебяда і ежа з яе', *натúня* 'сцябло; бульбоўнік', *нать* 'вусік, прычэпка ў расліны', рус. *натúна* 'сцёблы агародных раслін', польск. *nać, nacina* 'лісты, сцёблы агародніны', чэш. *nat'*, славац. *nat* 'тс', в.-луж. *nać*, н.-луж. *naś* 'тс', славен. *nât* 'тс', серб.-харв. *nat* 'расток, сцябло'. Прасл. _*natь, *nati_, род. скл. _*natere_ (падобна да _*mati, *matere_, гл. *маці*), дакладныя адпаведнікі толькі ў балтыйскіх мовах: ст.-прус. *noatis* 'крапіва', літ. *notrẽ, nõterė* 'тс', лат. *nâtre* 'тс' (Міклашыч, 211; Фасмер, 3, 48; Скок, 2, 505; Шустар-Шэўц, 13, 979; Бязлай, 3, 215). Менш верагодна прасл. _*natь<*nakti-_, роднаснага літ. *nókti* 'спець' (Трубачоў, ZfSl, 3, 1958, 5, 668) або збліжэнне з чэш. *nýti, naviti* (гл. *ныць*) па тыпу літ. *vìrkšti* 'бульбоўнік', *virkščià* 'гарохавіска' ад *vìrkšti* 'жаўцець, вянуць' (Махэк$_2$, 391). Прапанаваная яшчэ Насовічам (324) версія ад *цяць, цінаць* 'рэзаць, сячы' знайшла працяг у этымалогіі Варбат (Прасл. морфонология, словообраз. и этимология. М., 1984, 200—201): форма _*natь_ ад дзеяслова _*tęti, *tьnǫ_ узнікла ў выніку пераразлажэння ў першаснай форме _*na-tina>nat-ina_ і адваротнай дэрывацыі; удакладненні гэтай этымалогіі грунтуюцца на рус. дыял. *тúна* 'націна, бульбоўнік', вытворнага ад _*tęti_ 'цягнуць' і рэальнасці развіцця ў гняздзе і.-е. _*ten-_ другаснай семантыкі 'апускаць' (літ. *tìnti*), 'згуртавацца, стварыцца' (ст.-рус. *сътятися*), што пацвярджаецца роднасцю слав. _*bъtъva_ з _*botěti_ (Варбат, АДД, 32), параўн. таксама тураўск. *сценýць, сцінýць* 'ахапіць (вокам, холадам і інш.)'.

**Нацíнка** 'прымус да яды і работы' (Нік., Оч.), 'зацён, нораў (у каня)' (Бяльк.), сюды ж *націнáць* 'настойваць' (Сл. ПЗБ). Да *цяць, тну*, параўн. *ацяцца* 'згубіць жаданне есці' (гл.), *зацíн* 'прымус', *зацíнлівы* 'наравісты' (Гарэц., Сцяц.), *затнýцца* 'занатурыцца' (Сцяц.), *зацяты* 'ўпарты' і інш.; развіццё семантыкі ад 'рэзаць, біць' да 'стаць упартым' або 'пераадолець упартасць' звязана, відаць, з архаічным спосабам уздзеяння на аб'екты, што характарызуюцца незвычайнымі паводзінамі, параўн. палес. *зацінаць* 'заткнуўшы нож у дрэва, чараваць'.

**Націра́ць** 'змятаць з абмалочанага збожжа пустыя каласы' (барыс., талач., Сл. ПЗБ, Шатал.). Відаць, да *це́рці, націра́ць* 'шараваць, шморгаць', што адлюстроўвае тэхналогію ачысткі абмалочанага збожжа, параўн.: *Мятлой націралі жыта* (Сл. ПЗБ).

**Наці́ць** 'уцягваць ніткі ў бёрда' (воран., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, ад *ніці́ць* 'тс' з заменай *і* на *а*, якую цяжка вытлумачыць; або звязана з *наці́на, наць* (гл.).

**Нацкну́ць** 'падтыкнуць, прыпомніць, навесці на думку' (Арх. Федар.). Каранёвая частка дзеяслова атаясамліваецца з адпаведнай марфемай у польск. *ocknąć* 'разбудзіць, вывесці са сну', якое выводзяць з **octnąć* (Варш. сл., 3, 556), адпаведнага чэш. *oc(i)tnouti*, славац. *ocitnúť* 'прывесці да прытомнасці', параўн. чэш. *cititi* 'адчуваць' і пад.; калі прыняць этымалогію Махэка (Studie, 41) — з прасл. *ot-jьtnǫti*, што адпавядае літ. *atjùsti, atjuntù* ад *jùsti, juntù* 'адчуць'; усходнеславянская форма ў гэтым выпадку была б **от-чтнуть*, параўн. рэальна зафіксаваныя рус. *очкнуться* (КСРНГ), бел. *ачхнуць*, гл. *ачнуцца*. Такім чынам, па форме *нацкнуць* трэба разглядаць як запазычанне, аднак у польскай мове такога дэрывата не выяўлена. Затое названая форма вельмі блізкая да *нацу́кнуць* 'падбухторыць', якое Насовіч адносіць да *цу́кнуць* 'нацкаваць; падбіць на дрэнны ўчынак' (гл.), параўн. таксама *наці́кнуць* 'напомніць, нагадаць' да *ці́кнуць* ' раптоўна ўспомніць' (гл.), што можа сведчыць пра іншае паходжанне слова.

**Нацму́ліцца** 'напіцца малака з бутэлькі' (Растарг.). Да *цмуліць* 'паволі, прапускаючы праз зубы, піць са збанка малако' (Растарг.), гл.

**На́цса** 'гэта значыць, так сказаць': *natpy, nacsa zwiery takije* (Пятк. 2). Алегра-форма да *значыцца*, параўн. *на́ча* (гл.), *ля́* (з *паглянь*), *ач* (з *бач*) і інш.

**Нацу́біць** 'накласці многа' (Жд. 2). Да *цубіць* 'біць, лупцаваць' паводле распаўсюджанай мадэлі *біць — набіць* 'адлупцаваць' і 'накласці многа' і пад.

**Нацу́дзіцца** 'напіцца многа' (Нас), *нацу́дліцца* 'нацадзіцца, наліцца, напіцца праз меру' (Бяльк.). Да *цу́дзіць* 'піць, цадзіць (паволі)' (Нас.).

**Нацукрава́цца** 'наласавацца' (Янк. 3). Да *цу́кар* (гл.).

**Нацу́паць** 'намацаць' (Нас., Гарэц.). Да гукапераймальнага *цуп!*, што перадае хуткае хапанне (Нас.), гл. *цу́паць*.

**Нацурбоніць** экспр. 'наліць' (Нас). Да *цурбоніць* 'ліць', паводле Насовіча, ад гукапераймальнага *цуррр!*, што перадае гук ад вадкасці, што паволі льецца струменьчыкам (Нас., 691), гл. *цурком, цурок*.

**Нацуркава́ць** 'упэўніць, пераканаць' (кап., Жыв. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне, у якасці асновы можна дапусціць *цу́ркаць, цы́ркаць* 'журчаць, цвыркаць' ад гукапераймальнага *цур!* або *цыр!*, што перадаюць шматразовае паўтарэнне аднастайных гукаў і пад.



**Нацу́рудзіць** экспр. 'наліць' (ТС). Параўн. *цуруле́ць* 'струменіць' і іншыя ўтварэнні з коранем *цур-*, што перадае гук вадкасці, якая льецца струменьчыкам, гл. *цурком, цурок*.

**Нацурыць** 'намеціць, назначыць' (Шпіл.). Відаць, ад *цур* 'чур', параўн. *чураць* 'крычаць *чур!* або *чур у месці!* пры знаходках, якая ў такім выпадку належыць таму, хто першы яе зачураў (г. зн. адзначыў)' (Нас.).

**-на́ццаць,** частка складаных лічэбнікаў: *адзіна́ццаць, двана́ццаць* і пад., часам выступае ў форме *-на́нцаць: адзіна́нцаць, петна́нцаць* (ДАБМ), *двана́нцаць* (ТС) і інш. Паводле Карскага (2—3, 95), у ст.-бел. мове ўжывалася самастойна ў спалучэнні з парадкавымі лічэбнікамі, якія абазначалі адзінкі: *первый надцать* (Статут 1529 г.), *четвертое надъцать* (Статут 1588 г.) побач з *дванадъцатое, шеснадъцатое* і г. д. Сустракаюцца і больш архаічныя формы: *четвер'того надесѧть* (Тайна тайных XVI ст.), якія адлюстроўваюць зыходнае спалучэнне **на десѧте** (прасл. *na desęte*, параўн. *dъva na desęte* '20'), гл. *дзесяць*. Формы з *-нанцаць* тлумачацца па-рознаму. Карскі (2—3, 93) лічыць, што *н* перад *ц* з'явілася пад уплывам «узмоцненага вымаўлення» *н* у *-на-* з *-нна-* ў лічэбніку *адзінаццаць* і па аналогіі ў іншых лічэбніках. Сабалеўскі супастаўляе беларускія формы з балгарскімі тыпу *пендесет, девендесет* і дапускае, што ў гэтых выпадках мела месца дысіміляцыя зубнога зычнага *т (д)* (ЖМНП, 314, 10, 64). Такой жа думкі прытрымліваліся Эндзелін (РФВ, 13, 113), Чарнышоў (Сб. Милетич. София, 1933, 196—198), адносна балгарскага матэрыялу Мірчаў (Неврокопският говор. София, 1936, 13—14). Іншыя версіі і меркаванні гл. Будэ, Изв. ОРЯС, 3, 3—4, 930—932; Чабярук, Лічэбнік, 37—38.

**Нацыкава́ць** *(нацыкова́ць)* 'нацкаваць' (Сл. ПЗБ). Да *цкава́ць* (гл.), варыянты *цыкава́ць, цукава́ць* 'тс', магчыма, пад уплывам *цу́каць* 'нацкоўваць, напускаць (сабак)' (Нас.).

**Нацы́каць** перан. 'нагаварыць' (Ян.). Гл. *нацкнуць*.

**На́цыя** 'нацыя, нацыянальнасць, народ' (Яруш., Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), *на́цыя* 'парода' (Растарг.), *на́цая* 'нацыя; мова; вёска' (Ян.). Ст.-бел. *нацыя (нацея, нация)* 'народ, народнасць' (1589 г.) са ст.-польск. *nacyja*, што ў сваю чаргу з лац. *natio* (Булыка, Лекс. запазыч., 32); магчыма, паўторнае запазычанне ў сучасную беларускую літаратурную мову з рус. *нация* (Крукоўскі, Уплыў, 81), адкуль трапіла і ў гаворкі; падобным шляхам праніклі таксама *нацыянальны, нацыяна-*

*ліст, нацыяналізм* і інш. з адпаведнай адаптацыяй да норм новай беларускай літаратурнай мовы (*-ыя-* на месцы рус. *-ио-* і інш.). Цікава, што ў выніку самастойнага развіцця ў народнай мове ўзноўлена адно з першасных значэнняў лац. *natio* — 'парода'.

**Нацъ** 'зварот (да каго-небудзь)' (Касп.). Паводле Блесэ (St. baltici, 5, 1935—1936, 16), з лат. *nāc*! ад *nākt* 'ісці, прыходзіць', што разглядаецца як лакальнае запазычанне ў межах беларускай мовы (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 70).

**Нацэ́пніца** 'памылка пры снаванні красён', *нацэ́пуха* 'тс' (Сл. ПЗБ), *нацэ́піца, начэ́піца* 'тс' (Уладз.). Да *цэп, цапок (цэпок)* 'дэталь у кроснах', параўн.: *У ніту на одном цыпку да две кобылкі — нацэ́піца* (там жа).

**Нацэ́ўнік** 'манжэта (частка рукавіцы)' (Жд. 1). Да *цэ́ўка* (рукі) 'запясце', г. зн. 'тое, што надзяваецца на запясце'.

***Нацюга́каць,** *натюга́каты* 'насварыцца, адчытаць' (Клім.), сюды ж, відаць, лаянкавае *нацю́га* (Глобус, Маладосць, 1988, 4, 146). Да выклічніка *цюга́! (цю-га!)*=рус. *ату! ату его!*, якім наганяюць звера на паляванні.

**Нацюцю́рыцца** 'натапырыцца, напыжыцца, наставіць пер'е' (Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне на базе гукапераймальнага комлексу *цюцю́р*, гл. *цюцюрэ́ць* 'надзімацца, натапырваць пер'е' (Сл. ПЗБ), параўн. *начачу́рыцца, нашашэ́рыцца* 'натапырыцца' і пад.

**Нацяґіч** 'бандарная прылада для нацягвання абручоў' (Сержп. Грам., гродз., Нар. сл.), 'пруток для нацягвання, замацавання палатна ў кроснах' (зэльв., Жыв. сл.; браг., Нар. сл.; мазыр., Шатал.), *нацяґавіч* 'тс' (Бяльк.), *нацяґач* 'прылада для нацягвання абручоў на бочку або шын на колы' (ТС; драг., З нар. сл.), *нацяві́ч* 'тс' (гродз., Нар. сл.; Сл. ПЗБ, З нар. сл.), *нацяґавіч* 'тс' (Дэмб., Бяльк., лях., Сл. ПЗБ), *нацяжыч* 'тс' (ТС), *нацяжавіч* 'тс' (Дэмб.), *нацяґуш* 'тс' (там жа). Ад *нацягну́ць, нацягаць*, да *цягнуць, цягаць* (гл.).

**Нацяжка** 'адзежына, якая надзяваецца паверх на кажух або іншую верхнюю вопратку; бяльмо на веку' (ТС). Ад *нацяга́ць*, гл. *цягаць, цягну́ць*.

***Нацяка́ць,** *натяка́ты* 'намякаць' (брэсц., Нар. лекс.), *натякну́ті* 'напомніць' (бельск., Ніва, 6 мая 1979 г.), укр. *натяка́ти, натякну́ти* 'намякаць, намякнуць'. Відаць, не можа разглядацца асобна ад *націкнуць* 'напомніць, нагадаць', *нацкну́ць* 'тс' (гл.), што дэманструюць розныя варыянты кораня, прадстаўленага ў *цік* 'памяць, кемнасць', *ці́кнуць* 'раптоўна ўспомніць', *цекну́ць* 'раптоўна прыйсці ў галаву' і інш.

***Нацяле́мкацца,** *нацеле́мкацца* 'наесціся, напіцца ўволю' (ТС). Відаць, да гукапераймальнага **цяле́м (целе́м)*, параўн. *целе́мацъ* 'разумець', *целеме́ш* 'поўнае дзіця' (ТС), параўн. *нацопацца* 'наесціся; напрацавацца і г. д.', *нацёпкацца* 'наесціся, напіцца ўволю' (ТС) і пад.



**Нацяле́скацца** 'пад'есці' (Сцяц.). Няясна; магчыма, да гукапераймальнага **цяле́сь!*, параўн. *цяле́п! цяле́м!*, што перадаюць гукі і дзеянні, якія перыядычна паўтараюцца. Не выключана, што суадносіцца з *целясо́, це́ла* (гл.), параўн. *целесова́ты* 'поўны, у целе' (ТС).

**Нацямкі́** *(ны-цямкі)* 'на вакамер' (віц., Мат.). Са спалучэння *на цямкі* (назоўнік у він. скл. мн. л., гл. Карскі, 2—3, 7), да *цямкі́* 'прамая на вока дарога' (Нас.), *ціміць* 'глядзець у цёмную далечыню з напружаннем' (Нас.). Гл. *нацянькі́*.

**Нацянькі́** 'напрасткі, бліжэйшай дарогай' (Гарэц., Др., Яруш., Некр., Бяльк., лях., Янк. Мат., Сцяшк.), 'кароткім шляхам' (Сл. ПЗБ), *нацянькі́* 'напрамік, наўпрост' (слуц., Нар. словатв., ТС), параўн. *нацянёк* 'кароткім шляхам' (лаг., Сл. ПЗБ), укр. *давати натенькú* 'намякаць'. Да *цянькі́* 'бліжэйшая прамая, але глухая, цяністая ці небяспечная дарога, ідучы па якой лёгка збіцца': *Цянькі бываюць на тры дзянькі* (Нас.), *Цянькі дома не начуюць* (Сл. ПЗБ), як відаць, звязанае з *цень, цянёк*, параўн. дыял. *на́цень* 'тс', што можа быць вынікам народнай этымалогіі; параўн. іншую версію: з *на-цям-кі*, ад *цяміць* 'помніць, кеміць, заўважаць' (Шуба, Прыслоўе, 141). Гл. папярэдняе слова.

**На́ча** 'нібы': *Ходзіць нача пава* (браг., Нар. словатв.), 'быццам, нібы; хіба' (Ян.), *на́чай* 'быццам, нібы' (там жа), *на́чэ* 'як, бы': *Zwiery takije by nacze ludzi* (Пятк. 2), укр. *на́че* 'быццам, як быццам', 'нібыта', параўн. *неначэ* 'тс'. З **не иначе* 'не інакш' (гл. *на́чай, іна́чай*) з наступнай універбізацыяй і скарачэннем складоў: *нейна́ча*>*н'на́ча*>*на́ча*, або адпадзеннем адмоўя *не* ў выніку дээтымалагізацыі. Шаур (ESSJ SG, 2, 435) разглядае разам з рус. дыял. *на́ча*, славен. дыял. *nače* 'інакш' (<*jьnače*), аднак у гэтым выпадку застаецца няясной спецыфічная семантыка, ужыванне беларускага і ўкраінскага слоў і функцыя адмоўя ва ўкр. *неначе* (паводле Шаура, «збыткоўная», гл. там жа, 447). Гл. таксама Бязлай, 2, 210.

**Нача́іць** 'прадказаць', *нача́іваццa* 'чакаць' (Нас.). Да *ча́іць, ча́яць* (гл.).

**На́чай,** *на́чэй, на́чэ* 'інакш, іначай' (Кліх, Сцяшк., Жд. 1, Сл. ПЗБ; кап., Жыв. сл.; лельч., Нар. лекс.). З *іна́чай* 'тс' (Карскі, 1, 392; ESSJ SG, 2, 435), гл. *інакш*.

**Начакве́т** 'букашнік горны, Jasione montana L' (віц., Кіс.), іншыя назвы: *начнік, начніца, паўночнік* (там жа). Складанае слова, першая частка (да *ноч*), відаць, сведчыць пра раскры-

ванне кветкі ў начны час (параўн. іншыя назвы), другая — да *квет(ка)*, гл.

**Начакеніцца** 'прыбрацца' (Ян.). Звычайна *начачэніцца* 'тс', гл. *чачэніцца; к* на месцы *ч* пад уплывам *чакáць*?

**Начакý** *(начыкý)* 'напагатове' (Бяльк.), рус. *начекý* 'напагатове; блізка да завяршэння; на віду'. Звязана з *чакáць (быць начакý*=быць у чаканні), гл. Фасмер, 4, 324—325; назоўнік *чак* лічыцца страчаным ва ўсходнеславянскіх мовах, параўн. серб.-харв. *чек* 'месца, дзе паляўнічы чакае звера' (КЭСРЯ, 286).

**Начáльнік** 'хто кіруе, загадвае чым-небудзь' (Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), параўн.: *nastaulaju naczalnikam nad waйkami* (Пятк. 2, 144), укр., рус. *начáльник* 'тс', польск. *naczélnik* 'хто стаіць на чале, кіраўнік, правадыр', чэш. *náčelník* 'тс', славац. *náčelník*, славен. *náčelnik*, серб.-харв. *нáчелник*, балг. *начáлник*, макед. *началник*. Са ст.-слав. **начѧльникъ** 'правадыр, кіраўнік' ад **начѧло** 'пачатак', параўн. рус. *под начáлом* 'пад кіраўніцтвам'; для шэрагу славянскіх моў дапускаецца змяшэнне асноў *načęti, načьnǫ* 'пачаць' і *čelo* 'лоб, пярэдняе месца' (гл. *чало*), параўн. *на чале*, польск. *na czele*, славен. *na čelu* 'на першым месцы, пад кіраўніцтвам', гл. Бязлай, 2, 210; Махэк₂, 97 і інш.; параўн. таксама польск. *naczelnik* 'павязка на лоб; рамень у вуздэчцы, што знаходзіцца на ілбе ў каня', якое разам з *naczelnik* 'загадчык, кіраўнік, камандзір' выводзяць ад *czoło*, гл. Брукнер, 80; Варш сл., 3, 24.

**Начапýрыцца** 'прыбрацца' (жлоб., Жыв. сл.), *начэпýрыцца* 'тс' (Нас.; лунін., Шатал.; Янк. БП), *naczapúrycsa* 'надуцца, наставіць пер'е' (Федар.), укр. *начепурúтися* 'тс', рус. *начепýрúться* 'тс', чэш. *načepýřiti se* 'нахохліцца, натапырыцца, надуцца', славен. *načepériti se* 'вычварна апрануцца'. Адзначаныя славянскія словы, відаць, самастойныя экспрэсіўныя ўтварэнні ў кожнай з моў, пра што сведчыць варыянтнасць асновы, параўн. славен. *našeperiti, našopiriti* 'тс', серб.-харв. *нáшепурити* 'тс' і пад. Ад *чапуры́цца* 'прыбірацца', *чапуры́ць* 'прыбіраць' (гл.). Параўн. Бязлай, 2, 210; Махэк₂, 106.

**Начáтак** 'пачатак' (Сл. ПЗБ), *начáткі* мн. (ТСБМ): *начáткі робіць* 'пачынаць якую-небудзь справу' (ТС), рус. *начáток* 'пачатак', польск. *naczątek* 'тс', славен. *načetek* 'тс', серб.-харв. *начéтак* 'пачатак; скібка', ст.-слав. **начѧтъкъ** 'пачатак'. Прасл. *načętъkъ*, да *načęti* 'пачаць', гл. *начáць*.

**Начáць** 'пачаць' (Сл. ПЗБ, ТС), рус. *начáць* 'пачаць; меркаваць; быць у стане', польск. устар. *nacząć* 'пачаць', в.-луж. *načeć* 'пачаць (хлеб)', н.-луж. *naceś* 'тс', славен. *náčeti* 'тс', серб.-харв. *нàчети* 'пачаць; надкусіць (хлеб і інш.)', балг. *нáчна*,



*начéна* 'пачаць', макед. *начне* 'пачаць; надкусіць', ст.-слав. **начѧти** 'пачаць'. Прасл. *na-čęti, na-čьnǫ*, іншая ступень чаргавання *канец, кон* (гл. там жа і этымалогію слоў, параўн. Бернекер, 1, 168; Фасмер, 3, 51; Шустар-Шэўц, 13, 978—979). Меркаванні пра другаснасць слова ў беларускай мове (<рус. *начать*, гл. Сл. ПЗБ), відаць, не маюць падстаў, параўн. спецыфічныя дэрываты тыпу *начáны* 'пачаты' (там жа), архаічныя выразы тыпу *робіць начáткі* (ТС) і інш., а таксама шырокую распаўсюджанасць слова ў славянскіх мовах.

**Начачýрыць** 'натапырыць' (Сл. ПЗБ), *начачýрыны* 'натапыраны (пра пер'е)' (там жа). Да *чачэ́рыць* 'тапырыць, настаўляць'.

**Начвалавáць** 'нацкаваць': *Начвалуй, начкуй собаками* (Арх. АН СССР, ф. 216-4-260-11). Да *чвал, чвалавáць* (гл.).

**Начвáч** 'пузан; абжора' (Цых.; зэльв., Жыв. сл.; клец., Нар. лекс.; карэл., Янк. 1). Відаць, ад *ночвы* 'начоўкі': 'які мае жывот, як ночвы' ці 'які з'ядае поўныя ночвы ежы', суфіксацыя пад уплывам *пузач, брухач* і пад.

**Начвоґаць,** начвíґаць 'насцябаць, нахвастаць' (ТС). Да *чвоґаць* 'сцябаць, біць пугай' (гл.), відаць, гукапераймальнае.

**Начворыць** 'навырабляць, нарабіць шкоды' (ТС). Да *чворыць, чвэ́рыць* (гл.).

**Начвэ́ндзіць** экспр. 'надыміць, накурыць' (шчуч., З нар. сл.). Да *чвэнд (чвэнт)* 'непрыемны пах', гл.

**Начлéг** 'начоўка; пасьба коней ноччу' (Яруш., ТСБМ), 'вывад коней на пашу ўначы' (Бяльк.), *ночлéг* 'тс' (ТС), сюды ж *начлягавáць* 'пасвіць коні ноччу' (Жд. 2), 'начаваць' (Сл. ПЗБ), *начлéжкі* 'вячоркі' (Мат. Маг., Сл. ПЗБ), *начлéжнік, начлéзьнік* 'той, хто пасе коней ноччу' (Шн. 2, Сл. ПЗБ; навагр., З нар. сл.), *ночлéжнік* 'той, хто водзіць коней на начлег; той, хто просіцца пераначаваць або начуе ў чужых' (ТС), *нацлéжнік* 'хто начуе не дома; начны сторож коней, што пасуцца ў полі' (вілен., гродз.; ковен., Нас.), укр. *ночлíг* 'пасьба коней ноччу пастухамі', рус. *ночлéг* 'начоўка; пасьба коней ноччу', польск. *nocleg* 'месца начнога адпачынку і сам адпачынак па-за домам', *noclegować* 'начаваць у час падарожжа; пасвіць коней уначы', чэш. *nocleh* 'начоўка', славац. *nocľah* 'тс'. Ад *ноч* і *ляжаць*, гл. Фасмер, 3, 86; утворана шляхам непасрэднага словаскладання, што сведчыць пра архаічны характар слова, параўн. ст.-рус. *ночьлѣгъ*.

**Начнíк**₁ 'мыльнік, Saponaria officinalis L.' (брэсц., Федар.), 'букашнік горны, Jasione montana L.' (віц.; гродз., Кіс.), рус. *ночнúк* 'кветка начная прыгажуня', серб.-харв. *нòћник* 'тс'. Ад *начны́* 'які цвіце ноччу', у выніку семантычнай кандэнсацыі складаных назваў з такім азначэннем.

**Начнік**₂ 'кажан', рус. *ночник* 'тс'. Ад *начны́*, названы так за начны спосаб жыцця, параўн. тыпалагічна падобнае ўтварэнне балг. дыял. *но́шно пи́ле* 'тс'.

**Начніца**₁ 'начная птушка' (Яруш.), 'казадой' (Інстр. 2), 'ляляк звычайны' (Веснік БДУ, 1981, 1), 'пішчуха' (столін., там жа), 'сава' (віц., Зап. Сев.-зап. отд. РГО, 1910, 1), укр. *ночни́ця* 'кажан; казачная сляпая птушка, якую водзіць малая птушка: у летнюю ноч яна жаласна крычыць', рус. *ночни́ца* 'казадой'. Да *начны́* 'які вядзе начны спосаб жыцця', параўн. Антропаў, Веснік БДУ, 1981, 1, 26 (выказваюцца сумненні адносна пішчухі, паколькі яна дзённая птушка), хутчэй за ўсё ўтворана ў выніку семантычнай кандэнсацыі спалучэнняў тыпу *начная птушка, начная мыш* і пад.

**Начніца**₂ 'начны матылёк, цьма' (Пятк. 2), польск. *nocnica* 'тс', славац. *nočnica* 'тс', серб.-харв. *ноћница* 'тс'. Да *начны́* 'які лятае ноччу'; паводле народных уяўленняў, можа ўвасабляць нячыстую сілу (гл. *начні́ца*₃), параўн.: *Preklatyje naczпісу (ćmy) letajuć* (Пятк. 2, 169).

**Начніца**₃, часцей *начні́цы* 'злыя духі, якія ў начны час турбуюць дзіця' (Сл. ПЗБ), 'злыя начныя істоты' (Федар. 1), 'начныя здані' (Ян.), 'выдуманыя, фантастычныя істоты, начныя ведзьмы' (Сцяшк.), 'маленькія і злыя духі ночы' (барыс., Шн. 3), 'дзіцячая хвароба' (Касп.), *ночны́ця* 'нячыстая сіла, якая ноччу знішчае птушанят у гнёздах і яйкі, калі сказаць пра іх месцазнаходжанне пасля заходу сонца' (Клім.), *ночні́ца* 'бяссонніца' (ТС), укр. *ночни́ця, нічни́ця* 'бяссонніца; адзін са злых духаў (паводле вераванняў гуцулаў)', рус. *ночни́ца* 'бяссонніца; дзіцячая хвароба, крыксы', польск. *nocnica* 'начны дух, мара; начны прывід', *nocnice* 'дэманы, што мучаць спячых дзяцей', славац. *nočnica, noclica* 'мара; міфічная істота, што душыць у сне', серб.-харв. *но̀ћница* 'здань, прывід; мара'. Да *начны́* 'які з'яўляецца ноччу', параўн. субстантываваныя назвы: *ночны́* 'начны дэман' (ТС), рус. *ночна́я* 'персаніфікацыя начной бяссонніцы ў дзяцей' (параўн.: *Из-под кровати как бы женщина поднялась и в дверь ушла. Это, говорит, ночная ушла. Ребенок сразу спать стал,* гл. Черепанова, Мифол. лексика рус. Севера. Л., 1983, 37), балг. дыял. *но́шно* 'здань, мара' і пад.

**Начніца**₄ 'паўночнік, Jasione montana L.' (віц., Кіс.), *ношні́ца* 'тс' (Жд. 2), *ночны́ця* 'кветкі, якія распускаюцца ноччу' (Клім.), польск. *nocnica* 'дэкаратыўная расліна, Nyctago gortensis', славен. *nočnica* 'начная фіялка'. Гл. *начні́к*₁, параўн. рус. *ночна́я цари́ца* 'Matthiola annua L.' Пра народнаэтымалагічную сувязь назвы расліны, якая можа служыць асновай яе магчымай функцыі, і *начніца*₃ 'бяссонніца' сведчыць наступны кантэкст: *«Дзяцей, якія ноччу ні сьпяць, купаюць у нашніцах»* (Жд. 2, 107).



**Начні́чнік** 'паўночнік, Jasione montana L.' (Арх. Федар.). Відаць, ад *начні́цы* 'дзіцячая хвароба, крыксы'; 'злыя начныя духі' (гл.); паводле Будзішэўскай, са спасылкай на архіў Федароўскага, на Беларусі супраць іх ужывалася расліна *nocznicznik* (Rozpr. Kom. Językozn. Łódź. Tow. Nauk., 32, 1986, 37).

**Начны́**, рэдка *ночны* 'які мае адносіны да ночы' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), *ночны́* субст. 'начны дэман' (ТС). Прасл. **noktьnъjь* (Трубачоў, Проспект, 65), да *ноч* (гл.).

**Начола** 'напасць' (Грыг.). Няясна; згодна з тлумачэннем (там жа), паралельнае ўтварэнне да *наха́ба* (ад **чоліць?*, параўн. балг. дыял. *начо́нвам* 'нападаць, задзірацца з кім-небудзь').

***Начосаваты,** *начо́соваты* 'задзірысты', *начо́совы* 'пакручасты, з нароўнымі слаямі (пра дрэва)' (ТС). Відаць, да *часа́ць* 'абчэсваць, склюдаваць' ('які дрэнна чэшацца'?).

**Начоўкі** 'ночвы' (Грыг., Гарэц., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Янк. 1, Растарг.), рэдка *начо́ўка* 'тс' (маладз., П. С., Сл. ПЗБ), укр. *ночо́вки* 'тс', рус. *ночёвки, ночёвка* 'тс', польск. *niecki* 'тс', чэш. *necky* 'тс', дыял. *necůvky* 'карыта', в.-луж. *mjecki* 'тс', н.-луж. *mjacki* 'цэбар; дзежка', палаб. *nact'ai* 'карыта', славен. *nečkê* 'дзежка', дыял. *nàčkə* 'тс', балг. дыял. *нѣщки* 'тс'. Памянш. да прасл. **nьktjy*, род. скл. **nьktjьve*, або **nьktva* (гл. *ночвы*), параўн. Брукнер, 360; Шустар-Шэўц, 12, 917; Махэк₂, 393; Бязлай, 2, 218. Меркаванні пра балтыйскае паходжанне бел. *начо́ўка, нечо́ўка* (з літ. *pakočià, niekočià* 'карыта' або пад яго ўплывам, гл. Грынавяцкене і інш., Lietuv. kalbot. klausimai, 16, 1975, 183) недастаткова абгрунтаваныя (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 146) у першую чаргу па лінгвагеаграфічных прычынах — формы на *-а* вядомы на рускай тэрыторыі далёка за межамі балтыйскіх уплываў (як у паўднёварускіх, так і ў паўночнарускіх гаворках, гл. СРНГ).

**Начу́бадь** 'нацягаць за валасы, пабіць' (ТС). Да *чу́бадь*, гл. *чуб*.

**Начумі́цца** 'наесціся занадта' (Ян.). Няясна; магчыма, да *чума́* 'хвароба', тады **наесціся да чумы*, як прастамоўнае *да халёры* 'вельмі многа, шмат'.

**Начу́рыць** 'начараваць' (Шпіл.). Да *чу́р* (гл.).

**Начы́нка** 'фарш' (Растарг.), 'нафаршыраваная рыба, парася і інш.' (ТС), *начына́нка, начы́ненка, начыня́нка* 'тс' (Ян.). Да *начыня́ць* 'фаршыраваць', гл. *чыні́ць*.

**Начы́нне** 'інструменты, прылады' (Яруш.), 'драўляны посуд;

набор рамесніцкіх прылад, інструментаў' (Нас.), *начыньне* 'набор прылад': *начыньне кросна ткаць* (ТС), *начыння, начыне, начынё, начэнё* 'ўвесь посуд у хаце; інструмент' (Сл. ПЗБ), *начынё* 'сталярны інструмент' (навагр., Нар. словатв.), *начэнё* 'рамесніцкія прылады' (Кліх), *начэня* 'сталярны інструмент' (нясвіж., З нар. сл.), 'начынне, рэчы' (лід., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *начине* 'сукупнасць прадметаў, прыналежнасць якога-небудзь ужытку; посуд markdown рознага прызначэння; рамесніцкі інструмент' (Дасл. (Гродна), 121), укр. *начиння* 'посуд; інструмент, прылады; частка кроснаў', польск. *naczynie* 'ёмістасці, посуд; прылады, інструменты', чэш. *náčiní* 'рамесніцкія прылады; кухонны посуд'. Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 94), ст.-бел. *начинье (начынье)* 'прылада, інструмент' (з пач. XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *naczynie* 'тс'; улічваючы геаграфію, хутчэй можна гаварыць пра арэальную інавацыю, цэнтр якой знаходзіўся, відаць, на чэшскай моўнай тэрыторыі (параўн. ст.-чэш. *náčiní* 'інструмент; посуд'). Да *чын* 'спосаб', параўн. *такім чынам* 'так, такім спосабам', паралельнае да *надаба, надоб'е* 'хатнія рэчы, прылады' (славен. *dob* 'спосаб, рад'), параўн. балг. *начин* 'спосаб' і інш., першапачаткова 'рэчы, што прызначаюцца для пэўнага спосабу працы; адпаведным чынам выкарыстоўваюцца', гл. Махэк₂, 387; Брукнер, 82. Маг. *начыньня* 'вантробы' (Бяльк.), фармальна тоеснае разгледжаным словам, мае іншае паходжанне: ад *начыняць, чыніць* 'фаршыраваць'.

**Начырыць** 'начарціць' (Ян.). Ад *чырыць* 'чарціць, праводзіць лінію'.

**Начэльнікі** 'абіўка з тонкіх дошак у вушаках' (гродз., КЛА). Да *чало* 'пярэдняя частка', параўн. рус. *начельники* 'два брусы над чалом печы' і інш.

**Начэпніца** 'памылка пры снаванні кроснаў' (Сл. ПЗБ). Гл. *нацэпніца* 'тс'.

**Наш,** укр. *наш,* рус. *наш,* польск. *nasz,* чэш., славац. *náš,* в.-, н.-луж. *naš,* палаб. *nos,* славен. *nàš,* серб.-харв. *на̑ш,* балг., макед. *наш,* ст.-слав. **нашь**. Прасл. **našь*, з і.-е. *nōs* з расшырэннем **-jь*<**-i̯os*, гл. Фасмер, 3, 51; ESSJ SG, 2, 440.

**Наша** 'кіслае малако' (Мат. Маг.). Няясна; магчыма, да *наш* (гл.), параўн. эўфемізм *нашанно (нашъ-онъ-но)* 'кал, дрэнь' (Нас.); сувязь з рус. *няша* 'іл, рэдкая гразь; плесня, цвіль', якое выводзяць з комі *ńaša* 'пена, асадак, гушча, іл' (Фасмер, 3, 95), нягледзячы на значную фармальную і семантычную блізкасць, здаецца праблематычнай, перш за ўсё па лінгвагеаграфічных меркаваннях; па семантычных меркаваннях цяжка звязаць з літ. *pašà* 'ўраджай'.

**Нашабуняць** *(нашыбуняць)* 'хутка што-небудзь зрабіць' (чавус., Нар. сл.). Ад *шабуняць* (гл.).



**Нашакаляць** 'нашчапаць', *нашакаліняць* 'насмяціць' (Сл. ПЗБ). Ад *шакаль, шакаліна* 'трэска, аскепак' (гл.).

***Нашалдзіцца,** *нашалдітысь* 'набалбатацца' (драг., З нар. сл.). Гл. *шалдзіць*.

**Нашалэндзіць** экспр. 'нагаварыць' (Сл. ПЗБ). Гл. *шалэндзіць*.

**Нашаморыцца** 'нахмарыцца' (Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, ад гукапераймальнага *шамор*, параўн. *шаморхацца* 'шамацець', звязанага з *шамрэць* 'мігцець, няясна бачыцца' (гл.).

**Нашапёрыцца** 'натапырыцца' (любан., Сл. ПЗБ), *нашопўрыць* 'узбіць, ускалмаціць' (ТС), параўн. рус. *нашапериться* 'зазлаваць', славен. *našepériti, našopíriti* 'вычварна апрануцца', серб.-харв. *на̏шепурити* 'тс'. Экспрэсіўныя ўтварэнні з характэрнай варыянтнасцю асновы, паводле Махэка₂ (98), уключаючай узмацняльнае **še*<**če*, параўн. *рашчапёрыць* (<*рас-чаперыць*) 'растапырыць', *пёрыць* і пад., гл. *чапўрыць*.

**Нашармака** 'абы-як, як-небудзь' (Сцяшк.), 'дарэмна, на дармшчыну' (ТС, Растарг.), рус. *нашармак, нашармака* 'задарма, на чужы кошт, дарэмна'. Цёмнае слова. Паводле Шубы (Прыслоўе, 142), вынік адвербіялізацыі ўстойлівага словазлучэння, у якім форма він. скл. назоўніка супадала з формай род. скл.; назоўнік **шармак* можна звязаць з устарэлым польск. *szerm* 'мах, замах, удар, укол', параўн. асабліва *prostym szermem* 'проста, не думаючы', *szermować językiem* 'трапаць языком', *szermować* 'выхваляцца; жартаваць', якое запазычана з чэш. *šermovati* 'змагацца, фехтаваць' (<с.-в.-ням. *schërmen* 'тс', гл. Брукнер, 547; Махэк₂, 605).

***Нашарэпіць,** *нашэрэпіць* 'натапырыць, наставіць', *нашэрэплены* 'натапыраны' (ТС). Экспрэсіўнае ўтварэнне, у складзе якога ўзмацняльнае *-ша-* (<**še*<**če*) і *рэпіць*, параўн. *рэпнуць* 'лопнуць, трэснуць', *рэпіца* 'кончык хваста', гл. *шарапенне* 'ламачча'.

**Нашатырыцца,** *нашатўрыцца* 'натапырыцца' (Сл. ПЗБ; слонім., стаўбц., Жыв. сл.; Нар. сл.), *нашатэрыцца* 'надзьмуцца' (Жд. 2), *нашатыраны, нашатўраны* 'натапыраны; насцярожаны' (Сл. ПЗБ; мін., Жыв. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з варыянтнай асновай, у склад якой уваходзіць узмацняльнае **še (<*če),* каранёвая частка можа суадносіцца з *тыраць, тыркаць* (гл.), параўн. *шатырыць* (гл.).

**Нашаўкацца** экспр. 'наесціся' (Сл. ПЗБ). Ад *шаўкаць* 'чвякаць, есці'.

**Нашверкаць** 'шапялявячы нагаварыць' (Некр.). Ад *шверкаць* (гл.).

**Нашкарадзіць** 'нашкодзіць, напаскудзіць' (Яўс.). Ад *шкарадзь* 'дрэнь, брыда' (гл.).

**Нашла́па** 'бервяно ў зрубе, якое накладваецца паверх на асаду акон, дзвярэй' (ТС), 'бервяно, якое кладзецца над вокнамі і дзвярыма; бервяно, якое ляжыць на бэльках і служыць асновай пад кроквы; аполак, які закрывае прамежак паміж дошкамі ў столі; верхні вушак у дзвярах' (палес., Нар. сл.), *нашла́п* 'тс' (там жа), *нашла́піць* 'накрыць зверху' (ТС), укр. палес. *нашлопа* 'бервяно, якое кладзецца над вокнамі і дзвярыма'. Да *шла́пацъ, шла́пнуць* 'наступіць наверх; прыціснуць, накласці зверху', параўн. *ашла́п, ашла́піць* (гл.).

**На́шлыг** 'накрыж' (чач., Жыв. сл.). Відаць, да *шлыгаць, шлыгаваць* 'звязваць часткі плыта'.

**Нашовы** 'вышыванне' (Бяльк.). Да *шыць*.

**На́шскі** 'наш, свой, уласцівы нам' (Гарэц.). Гл. *на́скі*.

**Ншта́лт** 'падобна да, зусім як' (ТС). Гл. *накшталт*.

**Нашто** 'навошта' (Сл. ПЗБ), *на́шта* 'тс' (Растарг.), *на́шчо* 'тс' (ТС). З *на* і *што (шчо)*.

**Нашу́лка** 'ахапак чаго-небудзь (акрамя сена), які бяруць пад паху' (навагр., Нар. сл.), 'ношка' (іўеў., маладз., Сл. ПЗБ), *нашу́лкі* 'насілкі; дзве жэрдкі, на якіх пераносяць сена' (ашм., смарг., Сл. ПЗБ). Памянш. да *но́ша* 'груз, вязка, якія нясуць на сабе ці з сабой', *но́шы* 'насілкі' (гл.); *у*<*о* пад націскам, відаць, адлюстроўвае закрытае або дыфтангічнае вымаўленне галоснага, характэрнае для названага арэала, гл. Нарысы па бел. дыял., 37 і інш. Параўн. *нашоўка, нашоўкі, нашолкі* 'ношка' (навагр., іўеў., Сл. ПЗБ).

**Нашупы́рыцца** 'наставіць пер'е (пра курэй)' (Бяльк.). Гл. *нашапу́рыцца, нашапе́рыцца*.

**Нашу́хацца** 'многа надзець на сябе' (ТС). Да *шу́хацца* 'шамацець', ад гукапераймальнага *шух* 'шась' (гл.).

**Нашу́шкацца,** *нашу́штацца* 'многа надзець на сябе' (ТС, жытк., Жыв. сл.). Да *шу́шкацца* 'апрануць на сябе шмат' і 'поркацца, шамацець, шаптацца', параўн. *нашу́шкацца* 'нагаварыцца шэптам' (Нас.), а таксама рус. *нашу́шкаться, начу́чкаться* 'многа на сябе адзець' (дан., СРНГ).

**На́шцы,** *на́сцы* 'наскі, тутэйшы' (ТС). Няясна; магчыма, глыбокі архаізм адпаведна да *на́шскі* 'тс' з пераходам *-кі*>*-цы*, параўн. *уро́цы*<*урокі* 'хвароба ад дрэнных вачэй', *кадуцы*< *кадукі*, ад *кадук* 'бяда, няшчасце', адносна апошніх гл. Карскі, 1, 365—366; параўн. заканамернае польск. *litewscy* 'літоўскія' пры *litewski* 'літоўскі' і пад. Гл. *на́скі*.

**На́шча** 'не еўшы нічога' (Нас., Мядзв., Шпіл., Грыг., Гарэц., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ), 'на пусты жывот пасля начнога сну' (полац., Нар. сл.), *на́шчо* 'тс' (мін., Шн. 2, навагр., Сл. ПЗБ), *па czczo* 'тс' (Федар.), сюды ж *нашчако́м* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ), *на́шчы* 'які з раніцы не прымаў ежы, пусты' (Нас.), *на́шчыцца* 'есць што-небудзь на галодны страўнік, закусваць пасля выпіўкі' (Нас.), 'апахмяляцца' (Яўс.; мсцісл., З нар. сл.), укр. *нащé* 'на галодны страўнік; дарэмна', польск. *naczczo* 'нічога не еўшы з раніцы', балг. *нащé* 'тс'. З больш ранняга *натшча (натще)*, зафіксаванага яшчэ ў Насовіча, дзе *т* выпала «ў выніку вялікага збегу зычных» (Карскі, 1, 356), што ў сваю чаргу з *на-тъщ-ѣ* (Шуба, Прыслоўе, 116), або *на тъште* (Карскі, 2—3, 73) ад прасл. **tъščь*, гл. *тшчы, тошчы* 'пусты; чысты; дарэмны', параўн. славен. *teščè* 'на пусты страўнік', пры *tèšč* 'пусты, парожні'. Гл. *нашчэ́серца*.

**Нашча́дак** 'наследнік, патомак' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), укр. *наща́док* 'тс'. З *на* і **шча́дак*, параўн. укр. *ща́док* 'тс', ст.-польск. *szcządek* 'патомства', *szczęd (szczęt)* 'рэшткі' (гл. *шчэнт)*, ст.-чэш. *ščědie* 'пакаленне', што ў сваю чаргу з **iz-čędьje*, параўн. ст.-слав. **иштѧдиѥ**; усё да **čędo*, гл. *чада* (Брукнер, 542; Махэк$_2$, 92—93; Бязлай, 1, 76).

**Нашчама́ць** 'нашчапаць': *нашчамай шчэпак* (ст.-дар., Нар. сл.). Ад *шчама́ць*, гл.

**Нашчогацца** 'насёрбацца' (пух., З нар. сл.). Ад *шчогаць (гл.)*, відаць, гукапераймальнае.

**Нашчот** 'наконт, пра' (Бяльк., зэльв., Жыв. сл.). Запазычана з рус. *насчёт* 'наконт, адносна'.

**Нашчэ́нт** 'ушчэнт, дарэшты' (брасл., Сл. ПЗБ), 'дашчэнту, датла' (ТС), 'зусім, поўнасцю, канчаткова' (ТСБМ). Да *шчэнт*, гл.

**Нашчэ́серца** 'на галодны жывот' (калінк., З нар. сл.), *нашчосе́рцэ, нашчэсе́рцэ* 'нашча, не еўшы' (ТС), у іншым графічным афармленні: *на́ шчэ сэрца (на́ ще сэрца)* 'тс' (Нік., Приметы, 65), укр. *нащéсерце* 'на галодны страўнік; дарэмна', серб.-харв. чарнаг. *наштȅсрца, насре-ср̏ца*, косаўск. *на̏ште ср̏це* 'на галодны страўнік, перад ядой', балг. *нащѐ сърце* (Гераў), *на ще сърце* 'тс'. Са спалучэння **na tъšte sьrdьce*, ад **tъščь*, гл. *тшчы, тошчы* 'пусты, парожні', *на тшчэ серца* побач з *на́тшча серца* 'тс' (Нас.), параўн. в.-луж. *nać (nač) wutrobu* 'тс'<*na tšći wutrobu* (Шустар-Шэўц, 13, 979); назоўнік *сэ́рца* (**sьrdce*) ужыты тут у старым значэнні 'ўнутранасці, вантробы, страўнік', у такім жа значэнні ўжываецца і назоўнік *жывот*, параўн. у Насовіча: *на тщее серце, на тщій животъ* побач *на нащее серце, на нащій животъ* (327, 645), дзе прыметнік *на́шчы (на́щій)* утвораны шляхам зліцця (універбізацыі) прыназоўніка з прыметнікам *тшчы*, гл. *на́шча* (Брукнер, 74; Фасмер, 4, 130; Рачава, ЕЛ, 1987, 3, 89).

**Нашы́кацца** экспр. 'напіцца (гарэлкі)' (ТС). Паводле каментарыяў складальнікаў слоўніка, выключна «жаночае» слова, адпавядае «мужчынскаму» *наклю́кацца* 'тс' (там жа),

што дае падставы бачыць у ім экспрэсіўнае ўтварэнне на базе гукапераймальнага *шы́каць* 'цвыркаць, шаптаць, выдаваць гук *ш-ш-ш* і г. д.', параўн. *нашы́кацца* 'нашаптацца', хутчэй за ўсё вобразны эўфемізм.

**Нашы́льнік** 'частка збруі — рэмень ад хамута да пярэдняга канца дышля' (ТСБМ), укр. *наши́льник* 'тс', рус. *наши́льник* 'назвы розных частак збруі'. Запазычана з польск. *naszelnik* 'тс' яшчэ ў старабеларускі перыяд, параўн. ст.-бел. *нашельникъ, нашилникъ, нашыльникъ* 'частка збруі' (з 1631 г., Булыка, Лекс. запазыч., 121), а праз беларускую — у рускую, дзе, як і ў іншых усходнеславянскіх, магло зблізіцца з *шы́ла* (гл. Фасмер, 3, 52); для беларускага і ўкраінскага тэрмінаў больш верагодны ўплыў назоўніка *шыя (шия)*, параўн. *нашы́йнік* 'ашыйнік', а таксама чэш. *nášijek* 'ланцуг ад хамута да дышля', якое Махэк₂ (391) лічыць зыходным для чэш. *nášlík*, славац. *nášelník*, польск. *naszelnik* і ўсходнеславянскіх слоў (<**našijьnikъ*) з ад'ідэацыяй да чэш. *šle*, польск. *szla, szelka*, бел. *шляя́* (гл.) і пад.

**На́шына** 'мясцовае асяроддзе' (Ян.), параўн. рус. *нашина́* 'наша частка', в.-луж. *našina* 'наша маёмасць'. Ад *наш*, параўн. *чужына* 'чужы, незнаёмы край, людзі' і пад. (гл. ESSJ SG, 2, 440), серб.-харв. *своjѝна* 'ўласнасць, маёмасць'.

**На́шынец** 'наш, тутэйшы, зямляк' (Сабаленка), 'чалавек з мясцовага асяроддзя' (Ян.), *на́шчанец* 'наш чалавек, свой брат' (Нас., Гарэц.), *на́шчыніц* 'мясцовы чалавек, тубылец' (Нік. Очерки; мсцісл., З нар. сл.), рус. *на́шенец* 'наш, свой чалавек', ст.-польск. *naszyniec* 'тс', чэш., славац. *našinec* 'тс', славен. *našinec* 'наш, зямляк, суайчыннік', серб.-харв. *на̏шинац* 'тс', балг. *на́шенец* 'тс', макед. *нашинец* 'тс'. Утворана ад **нашынскі* (<*на́шына*, гл.), параўн. рус. *на́шинский, на́шенский* 'наш, належачы нам', чэш., славац. *našinský*, серб.-харв. *на̏шински*, балг. *на́шенски*, макед. *нашински* (гл. ESSJ SG, 2, 440) або ад **нашын*, параўн. рус. *на́шин* 'наш' (пск., цвяр., СРНГ); формы з *-шч-* ад **нашчынскі*, што магло быць утворана ад *наскі, наські* (гл.).

**Нашы́пкацца** 'набіцца, назбірацца' (Ян.). Экспрэсіўнае ўтварэнне, суадноснае з *нашы́цца* 'тс', гл. *шы́цца* 'лезці', параўн. *шып* 'маленькі чарвячок, што водзіцца ў рэчцы, які будуе вакол сябе хатку' (Сл. ПЗБ) і *шы́цік* 'тс' (там жа).

**Нашыпулі́ць**, *нашыпуля́ць* 'накрышыць; дробна насячы' (Сл. ПЗБ). Ад *шыпулі́ць* 'дробна шчапаць, рэзаць, калоць', што з літ. *šipuliúoti* 'шчапаць, біць', гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 74 (з л-рай).

**Нашы́цца**₁ 'налезці, набіцца' (ТС). Да *шы́цца* 'лезці' (гл.).



**Нашы́цца**₂ экспр. 'напіцца гарэлкі' (ТС). Відаць, ад *нашы́кацца* 'тс' (гл.) шляхам «зняцця» т. зв. *к*-суфіксацыі.

**Нашы́шкацца** 'налезці, набіцца' (Сл. ПЗБ, карэл., Нар. словатв.). Відаць, экспрэсіўны варыянт да *нашы́цца* 'налезці, набіцца' (ТС), ад *шы́цца* 'лезці, тачыцца' (гл.), утвораны шляхам рэдуплікацыі каранёвай часткі слова і *к*-суфіксацыі, параўн. чэш. *šiškati* і *šišati* 'стрыгчы' (Махэк₂, 610), рус. *наши́шкаться* і *наши́каться* 'нагаварыцца, нашаптацца', славен. *naše̋škati* 'пабіць, адлупцаваць' і пад.

**Нашэ́мацца** 'многа надзець на сябе', *нашэ́мкаць* 'нацягнуць' (ТС). Утворана паводле распаўсюджанай семантычнай мадэлі экспрэсіўных дзеясловаў 'многа надзець'<'марудна варухацца, выдаваць ціхія гукі', параўн. *нашу́шкацца, нашу́хацца* 'тс' і пад., у якасці зыходных дзеясловаў могуць выступаць *шэ́мкацца* 'корпацца', *шэ́мкаць* 'корпаць' (ТС) і гукапераймальны комплекс *шэм- (шам-)*, параўн. *шэмеля́хнуць* 'перакуліць', *шамята́ць* 'ціха есці' і пад., прадстаўлены, магчыма, і ў славенскім адпаведніку *našemiti* 'прыбраць, безгустоўна ўпрыгожыць, надзець маску' ад *šemiti* 'прыбіраць'.

**Нашэ́рсціцца** 'натапырыцца' (Сл. ПЗБ). Да *шэ́рсць*, літаральна 'наставіць шэрсць'.

**Нашэ́шкацца** 'многа адзець на сябе' (ТС). Параўн. славен. *našeškati* 'пабіць, адлупцаваць', што, магчыма, сведчыць у карысць вядомай семантычнай мадэлі ўтварэння экспрэсіўных дзеясловаў, гл. *нашу́шкацца*; зыходным мог быць дзеяслоў тыпу *шашчэ́ць* 'трашчаць, храбусцець', відаць, звязаны з *ша́стаць*.

**Нао́дзіць** 'падгаварыць' (Сл. ПЗБ), параўн. рус. каўк. *наюдить* 'данясці, напляткарыць'. Ад *ю́дзіць* 'спакушаць, падбухторваць; зводзіць', *ю́да* 'прадажнік, здраднік', параўн. *наюда́шыць* 'здрадніцкі ўзвесці паклёп', *юда́шыць* 'хітрыць, ілгаць; ашукваць, здраджваць' да *юда́ш* 'няшчыры чалавек' (Нас.). У сувязі з гэтым параўнанне з літ. *sujùdinti* 'падгаварыць', на якое звяртаюць увагу складальнікі слоўніка, мае неабавязковы характар.

**Ная́** 'а як жа, так' (Ян.). Відаць, з **ну а як жа*, параўн. *ая́* выкл. 'баюся я цябе' (гл.), укр. *ая* 'так'.

**Ная́ве** 'сапраўды, на самай справе, у рэчаіснасці' (ТСБМ), *на́яве* 'на вачах, увачавідкі' (ТС), рус. *ная́ве, наяви́, наяву́* 'на віду, яўна, бачна', польск. *na jawie* 'не ў сне', чэш. *najevě* 'адкрыта, яўна, у рэальнасці', серб.-харв. *на ja̋ви*, балг. *ная́ве* 'не ў сне; яўна, адкрыта', макед. *наjаве* 'на віду, у рэальнасці'. Са спалучэння *на* і *я́ве* — месн. скл. назоўніка *я́ва* 'рэальнасць, рэчаіснасць' (гл.), параўн. ст.-бел. *наѧвѣ* ў Евангеліі 1616 г. (Карскі, 2—3, 76). Сюды ж *ная́ўны* 'прысутны, фактычны,

існуючы', *наяўнасць* 'існуючае ў рэальнасці; наяўнае ў пэўны момант'.

**Наядна** *(наядно)* 'дакучліва, надрыўна' (брэсц., Нар. лекс.). Відаць, суадносіцца з *надаесці, надаядаць* 'дакучаць, назаляць' (гл.), што да *есці, ядá,* параўн. *пераядаць дýшу* 'надакучаць' рус. *наядный* 'надаедлівы'. Магчыма сувязь з *яд* 'атрута', параўн. асабліва балг. *яд* 'смутак, пакута; злосць', макед. *яд* 'тс', серб. *на̀јадити* 'апрыкраць, раззлаваць' і пад.

**Наядрыцца** 'набухнуць' (Сл. ПЗБ), рус. *наядриться* 'нарваць, успухнуць; выспець, наліцца (пра збожжа)', польск. *najędrznieć* 'набухнуць; наліцца', серб.-харв. *наjѐдрати* 'наліцца', макед. *наjадри* 'наліцца, напоўніцца сокам'. Да *ядрыцца*, гл.

**Наяжджомы** 'наезджы' (Сл. ПЗБ). Ад *наязджаць, наехаць*, гл. *ехаць*, паводле характэрнай для паўночнага захаду Беларусі мадэлі ўтварэння дзеепрыметнікаў тыпу *аромы* 'ралейны' ад *араць* і пад.

**Не**$_1$, адмоўе і злучнік (Нас., Бяльк., Растарг., ТС), *не, ні, нэ, ны* (Сл. ПЗБ), укр. *ні, не,* рус. *нет, не,* польск. *nie,* в.-, н.-луж. *ně,* чэш. *ne,* славац. *nie,* славен. *nè,* серб.-харв. *не,* балг., макед. *не,* ст.-слав. **не**. Прасл. *ne, найбольш блізкія адпаведнікі літ., лат. *ne/ne-*, ст.-інд. *na*, лац. *nē,* гоц. *ni*; хутчэй за ўсё паходзіць з т. зв. дзіцячай мовы (гл. ESSJ SG, 2, 449—450; Фасмер, 3, 52; Бязлай, 2, 217). Ст.-бел. *нѣ: ты есте*$^{с}$ *сы*$^{н}$ *мой иса*$^{в}$*, чили нѣ* (XVII ст.), а таксама народнае *не: А не! бронь Боже, не чепай* (Нас., 6) разам з укр. *ні*, луж. *ně*, славац. *nie* (адмаўленне) выводзяцца з *ne je, параўн. ст.-слав. **нѣ**: **и нѣ vудо**, г. зн. з адмоўя і 3-й ас. адз. л. цяп. ч. дзеяслова *byti* (<*ne-jestь), або з эмфатычнага падаўжэння, гл. Карскі, 2—3, 77, 455; ESSJ SG, 2, 474; Шустар-Шэўц, 13, 997, параўн. таксама: *А ліпы ў нас не* (=*няма*, ТС); адносна апошняга гл. таксама Васільеў, ИОРЯС, 13, 1908, 3, 187.

**Не**$_2$ — прыназоўнік 'каля': *Не вакна доўга пелі* (Ян.). Няясна; магчыма, з *ле* (<*коле*) 'каля' (гл. *ля* 'тс') пад уплывам *недалека*; тэарэтычна можна дапусціць узнікненне прыназоўніка з т. зв. збыткоўнага («пустога») адмоўя тыпу серб.-харв. *некмоли//камоли* 'негаворачы ўжо; тым больш', укр. *наче//неначе* 'нібы', бел. *мярэча//немярэча* 'топкае балота' і пад. (больш падрабязна гл. ESSJ SG, 2, 447), зыходным у гэтым выпадку магло быць утварэнне тыпу *нéкала: Некала каго шкелить, дак давай нада мной* (Растарг., 174), значэнне выказвання захаваецца і пры *некага шкелить, дак...,* а таксама пры *кала каго шкелить, дак...,* адсюль можа быць выведзена *не=калá* 'каля'.

**Не-** *(ня-)* адмоўная часціца ў якасці прэфікса і ў складзе



словазлучэнняў, вядомая ўсім славянскім мовам. Прасл. *ne-, ідэнтычнае па паходжанню адмоўю *не (гл. *не*$_1$); у шэрагу выпадкаў выконвае чыста структурную функцыю, утвараючы назвы прадметаў з «адмоўным» значэннем, параўн. *нягода* 'дрэннае надвор'е' пры *пагода* 'добрае надвор'е', *няслáва* 'ганьба', *няволя* 'палон' і пад.; выступае як дээтымалагізаваны элемент, параўн. *небарáка* 'нябога', *ненавідзець* (гл.), часам у якасці т. зв. збыткоўнага («пустога») адмоўя, параўн. *неўбой* 'неслух' (Растарг.) і *ўбой* 'тс', якое можа выкарыстоўвацца для табуізацыі, параўн. *нéвад* (гл.), *нячысцік* (гл.), *нядóбры* 'вуж' (ТС) і пад. (гл. ESSJ SG, 2, 446—448; Шустар-Шэўц, 13, 1006—1007; Талстой, Зб. Рэфармацкаму, 282—287; Папова, ФН, 1971, 1, 81—92). У складзе словазлучэнняў: *не (ў)ва што* 'няма ў што' пры *нéвашта* 'тс' (Растарг.); *не ў змогу* 'сіл не стае; няма сілы' (Нас.), *не ў чóм* 'ах як; вось чаму; вось табе і' (Нас.) пры *неўчом* 'нездарма, то-та ж' (ТС) і пад.

**Нéа** 'не (адмова)': *неа, ні пайду* (мсцісл., З нар. сл.), 'тс' (Грыг., Гарэц.; бялын., Янк. Мат.; ТС), *нé-а* 'тс' (Янк. 1), *нéка* 'тс' (Цых.). З *нé е(сць)* (<*ne jestь) у выніку выпадзення *j* у інтэрвакальным становішчы і змены *э*>*а* ў занаціскным складзе, як у *знáа*<*знае, сырóа*<*сырое* (гл. Карскі, 1, 270), параўн. чэш. дыял. *ne'e*, славен. дыял. *na'a*, апошняе можа выступаць і ў форме *naka*, параўн. таксама і балг. радоп. *нáка* 'не', што адпавядаюць чэш. дыял. *ne' (nek)* з прыдыханнем (гл. ESSJ SG, 2, 437, 441); адпаведна з гэтым гродз. *нéка* ўзнікла ў выніку ўстаўкі *-к-*. Іншыя версіі: *неа*<*нéка*, дзе *-ка*, як у *немáека, тýтака, тáмака, ёсцека* і пад., або з *нéкаць* 'гаварыць *не*', здаюцца менш верагоднымі.

*__Неаболіць__, *необóліць* 'зайздросціць, крыва глядзець' (ТС), *нэобóлыты* 'не спрыяць, не жадаць дабра' (пін., Нар. лекс.; камян., З нар. сл.), *ныобóлыты* 'тс' (кобр., Нар. лекс.), *ныобвóлытэ* 'рабіць наадварот, не спрыяць, насміхацца' (драг., нар. словатв.), в.-луж. *njebolić* 'плявузгаць, сплетнічаць' (гл. Шустар-Шэўц, 13, 1008). Ад *аболіць* (гл.), зыходная форма захавалася ў *обволытэ* 'спрыяць, хацець, жадаць (каб так было ў таго, каго *обволять*)' (драг., Нар. словатв.).

**Неабхолы**, *неапхолы* 'які не дае ўсходаў (пра зерне)' (брасл., Сл. ПЗБ). Да *апхолы* 'ўсхожы', відаць, ад *холіць* 'песціць, даглядаць' (<*аб-хóліць*), літаральна 'дагледжаны'; няяснасць зыходнай формы *(аб-* ці *ап-)* прымушае шукаць і іншыя рашэнні (запазычанне з літоўскай?).

**Неагýрны** *(неогурьный)* 'непаслужлівы' (Арх. АН СССР, ф. 216-4-260-11). Ад *агýрны* 'непаслухмяны', гл. *агýраць*.

**Неадмéнны** 'абавязковы; пастаянны' (ТСБМ). Меркаванні Баханькова (Весці АН БССР, 1981, 1, 120) аб калькаванні

ў беларускай літаратурнай мове рус. *непременный* 'тс' могуць адносіцца толькі да ўжывання слова ў адміністрацыйнай сферы (*неадменны сакратар=непременный секретарь*, пасада ў дарэвалюцыйнай Расіі), паколькі *неадменны* 'абавязковы, які нельга адмяніць' фіксуецца яшчэ Насовічам: *неодменное даю слово* (333).

**Неаднаколы** 'неаднолькавы' (круп., Сл. ПЗБ). Да *аднаколы* (гл.), з *аднаковы* 'аднолькавы', *неаднаковы* 'неаднолькавы', якія хутчэй за ўсё з польск. *jednakowy* 'аднолькавы', *niejednakowy* 'неаднолькавы'.

***Неастырка́цца,** *ныостырка́тыся* 'не бываць, рэдка паказвацца' (кобр., Нар. лекс.). Да *асторкнуць* (гл.), *осто́ркнуты* 'спыніцца, пасяліцца, знайсці дах' (Клім.), параўн. таксама *нызасторкнуты* 'не затрымлівацца' (кобр., Нар. лекс.); паводле Мяркулавай (Этимология-1979, 175), узыходзіць да этымалагічнага гнязда з коранем **tъrk-/*stъrk-* 'тыкаць, піхаць', параўн. семантычна падобнае *не стыкацца* 'не бываць, не затрымлівацца': *Днямі не стыкаецца дома* (ТС), экспрэсіўнае значэнне ў рус. *торча́ть* 'доўга знаходзіцца, затрымлівацца дзенебудзь'.

**Не́ба,** *не́бо* 'нябёсы' (Яруш., БРС, ТСБМ, Бяльк., ТС, Ян.), 'паднябенне' (Бяльк., Пятк. 2, ТС, Ян.), 'скляпенне ў печы' (Мат. Маг., Шушк., ТС, Ян., браг., петрык., Шатал.), 'верхняя частка ткацкага станка, на якую падвешваюць ніты і набіліцы' (браг., Нар. сл.), укр. *не́бо* 'нябёсы', рус. *не́бо, нёбо* 'нябёсы; верхняя частка скляпення ў печы; верх бярлогі', польск. *niebo* 'нябёсы', чэш. *nebe* 'тс', славац. *nebo* 'тс', в.-луж. *njebjo* 'тс', н.-луж. *njebjo* 'нябёсы, паднябенне', славен. *nebȏ* 'нябёсы; паднябенне; балдахін', серб.-харв. *нѐбо* 'нябёсы; паднябенне; балдахін', балг. *небе́, не́бо* 'нябёсы', макед. *небо, небе* 'тс', ст.-слав. **нєбо**, род. скл. **нєбєсє** 'тс'. Прасл. **nebo* адносілася да балта-слав. асноў на *-es*, роднаснае літ. *debesis* 'воблака', лат. *debess* 'неба' (з другасным *d*), ст.-інд. *nábhas* 'туман, пара, неба', грэч. *νέφος* 'воблака', лат. *nebula*, с.-в.-ням. *nebul* 'туман', хец. *nepiš* 'неба' (да і.-е. **nebh-* 'імгла, воблака'), гл. Покарны, 315; Фасмер, 3, 53; Махэк₂, 392; Бязлай, 2, 217; Шустар-Шэўц, 13, 1007.

**Небажа́ты** 'пляменнікі, унукі' (ТСБМ) і адз. л. *небажа́* («гаворыцца з пагрозай і больш у дачыненні да няпоўналетніх», Нас.), *небажа́та* 'ўнукі' (Ян.), *небожа́та*, адз. л. *небо́ж* 'ласкавы зварот да малых, маладзейшых з боку старэйшых' (ТС), 'пляменнікі' (пін., Сл. ПЗБ), *небажаня́та* 'тс' (любан., лях., Сл. ПЗБ). Гл. *нябога*.

**Не́балазя** 'нядобра' (віл., Сл. ПЗБ; дзярж., Нар. сл.), паўн.-рус. *небо́лозе* 'дрэнна, непрыемна'. Ад *балазе́* 'добра'; сюды ж *не́балазь* 'смецце; блазнота' (жлоб., Жыв. сл.).



**Небакра́й** 'небасхіл; гарызонт' (ТСБМ). Наватвор, аўтарства якога прыпісваецца паэту А. Зарыцкаму (М. Стральцоў у кн.: Слова наша роднае. Мн., 1986, 125): паэтычны сінонім да *небасхіл* (гл.), параўн. рус. *небозем* 'гарызонт' (аўтарства прыпісваецца Далю), польск. *niebokrąg* 'акружнасць неба' і пад. Хутчэй за ўсё з укр. *небокра́й* 'тс' (яшчэ ў Шаўчэнкі). З *не́ба і край* 'канец, мяжа'.

**Небара́к** 'бядак' (Нас., Грыг., Гарэц., Федар., Яруш., ТСБМ), *небора́ка* 'тс' (Нас., Мядзв., Бяльк., Сл. ПЗБ), 'чалавек, якога сустракаюць няўдачы' (Янк. 1), *нябара́ка* 'бядак, няшчасны чалавек' (Мал., Сл. ПЗБ), *небора́ка* 'бядак, гаротнік' (ТС), памянш. *небарачок, небара́чка* (Сл. ПЗБ, ТС), укр. *не́бір, небара́к, небора́ка* 'бядак', рус. *небора́к* 'бядак; непаваротлівы чалавек', польск. *nieborak* 'чалавек, варты жаласці; бядак', славац. *neborák* 'тс', н.-луж. *njaborje* 'бядак, бездапаможная істота', славен. *nebȏrec, nebȏre* 'бядняк'. Звычайна лічыцца аднаго паходжання з *нябога* 'няшчасны, абдзелены жыццём і людзьмі чалавек' (гл.), параўн. рус. *небожак* (Даль), чэш. *nebožák* 'бядак' (Махэк₂, 393; Брукнер, 34; Курашкевіч, JP, 37, 1937, 124), далей да *бог*, параўн. *убогі* 'бедны'; *r* замест *ž* тлумачаць па-рознаму: славенскія формы зменены пад уплывам ратацызму (*ž>r*), характэрнага для часткі паўднёваславянскага арэалу (Міклашыч, 16; Бернекер, 1, 67; Бязлай, 1, 34), параўн. серб.-харв. *бо̀ра ми* замест *бо̏га ми* (кляцьба); на думку Добрава, апошняе, як і польск. *nieborak* замест *niebożak*,— вынік дэфармацыі фанетычнага вобліку слоў з мэтай ахоўнай магіі (прафілактыкі ад уплыву звышнатуральных сіл), параўн. серб.-харв. *за бо̀ра* замест *за бо̏га* 'богам прашу', дзе адсутнічаюць умовы для ратацызму, а таксама *бро̀да ми, гло̀га ми* замест *бо̏га ми* (Добраў, СЕ, 8, 1983, 2, 94). На падставе каш. *bora* 'сілач' і ст.-польск. *Borek, Boruta* (ул. імя) ад **boriti* 'змагацца' Папоўска-Таборска рэканструюе прасл. дыял. **ne-borę, *ne-bor-akъ* (ZfSl, 24, 1979, 104; Kaszubszczyzna, Warszawa, 1980, 37; а таксама Шустар-Шэўц, 13, 1006), што па семантычных меркаваннях здаецца менш пераканальным. Паводле Кюнэ (Poln.), беларускае слова запазычана з польскай мовы. Гл. таксама Цвяткоў, Працы класа філалогіі, 1, 1928, 51.

**Небаскроб** 'вышынны будынак' (БРС, ТСБМ). Калька з рус. *небоскреб* (Крукоўскі, Уплыў, 129), што ў сваю чаргу з англ. *skyscraper* 'тс' (Фасмер, 3, 53); параўн. таксама *хмарачос* 'тс' (Караткевіч) з укр. *хмарочос* (калька з ням. *Wolkenkratzer*).

**Небасхíл** 'небакрай; гарызонт' (Яруш., Гарэц., Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), укр. *небосхил* 'тс'. Відаць, разам з польск. *nieboskłon* 'скляпенне неба; небакрай', рус. *небосклон* 'небакрай', *небосвод* 'скляпенне неба' — кніжнае ўтварэнне, магчыма, калька (для рускай мовы ўказваюць на нямецкую крыніцу калькіравання, гл. Бранд. О языке И. Северянина. М., 1916, 138).

**Нéбудзь** 'зло; хвароба' (Ян.). З *не* і *быць*, параўн. *небулíца (=*небыліцы)* 'небыццё' (ТС), хутчэй за ўсё табуізаваны выраз для паняцця 'смерць', параўн. *нéмач* 'хвароба', *нéжыць* 'тс', *небы́т* 'смерць' і пад.

**-нéбудзь,** часціца ў складзе неазначальных займеннікаў і прыслоўяў *што-небудзь, хто-небудзь, куды-небудзь* і пад. (Гарэц., Некр. і Байк., БРС, ТСБМ, Бяльк.), таксама дыял. *-нібýдзь* 'тс' (Цых.), укр. *-нéбудь* 'тс', рус. *-нибýдь* 'тс'. У выніку кантамінацыі выразаў тыпу *хто б ні быў* і **хто-будзь*, гл. укр. *хто-будь* (часцей *будь-хто*) 'тс', польск. *kto bądź* 'тс', параўн. яшчэ ст.-бел. *лечатсѧ в кого нибѫ*[ди] (XVI ст.), дзе выступае форма загаднага ладу 3-й ас. адз. л. ад *быць* (Карскі, 2—3, 269); адмоўе ў складзе гэтых выразаў мае ўзмацняльны (афектыўны) характар (ESSJ SG, 2, 323, насуперак Фасмеру, 3, 72, які бачыць тут параўнальную функцыю).

**Нéбыты** 'нястача, недахоп' (слаўг., Нар. словатв.). Відаць, ад *не быць* 'адсутнічаць', параўн. *нябыт, небыццё* 'неіснаванне'. Гл. *быт* 'існаванне, наяўнасць'.

**Небяспéка** 'стан пагрозы' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), у мінулым стагоддзі і ў пачатку XX ст. звычайна *небеспячэнства, небязпячэнства* 'тс' (Нас., Яруш.), што сведчыць пра запазычанне з польск. *niebezpieczeństwo* 'тс'. Гл. *бяспека*.

**Нéвад** 'вялікая рыбалоўная сетка, нерат' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'вялікая рыбалоўная сетка з двума крыламі і кулём пасярэдзіне' (полац., З нар. сл.), *нéвод* 'самая вялікая перасоўная рыбалоўная аднасценная сетка з заходам' (палес., Крыв., ТС), *нэ́вуд* 'тс' (Бес.; пра распаўсюджанне назвы і рэаліі ў Беларусі больш падрабязна гл. Браім, Рыбалоўства, 48—49), укр. *нéвід*, рус. *нéвод, нёвод*, польск. *niewód*, чэш. *nevod*, в.-луж. *njewod*, н.-луж. *nawod*, балг. *нáвод, нъвóд*, ст.-слав. **неводъ** 'рыбалоўная сетка'. Прасл. **nevodъ*, паходжанне якога застаецца няясным; пры наяўнасці рус. пск. *вод* 'вельмі вялікі невад', славен. дыял. *vada* 'доўгая рыбалоўная сетка з двума крыламі', літ. *vãdas* 'сетка', лат. *vads* 'вялікая сетка, крыло невада', літ. *vedė̃ja* 'рыбалоўная сетка, якую абслугоўваюць два чалавекі' хутчэй за ўсё звязана чаргаваннем галоснага асновы з **vesti (<ved-ti)*, параўн. згадку Пярвольфа аб наяўнасці ў балтыйскіх славян назвы рыбалоўнай сеткі *невед* (nyewede in vulgari vocatur, гл. Первольф, Германизация балт. славян. Спб., 1876, 113). Адмоўе тлумачыцца табуізацыяй назвы («каб рыбы не пазналі небяспечнага для іх прыстасавання», гл. Фасмер, 3, 55; Махэк$_2$, 398) ці непрадуктыўным словаўтваральным тыпам усходнеславянскіх назваў з *не-* для аб'ектаў, што падобныя да адпаведных ім аб'ектаў, але маюць прыкметныя адрозненні тыпу рус. *клен*~*нéклен* 'Acer campestris', *егла* 'ёлка'~*нéгла (*неегла)* 'лістоўніца', тады *вод*~*нéвод* 'не надта вялікая сетка' (Маркаў, ЭИРЯ, 8, 1976, 114—115). У рамках той жа этымалогіі тлумачацца аманімічныя формы балг. *навод* 'невад' і ткацкі тэрмін 'прасоўванне нітак асновы праз берда' — ад **navesti*, у прыватнасці 'прыстасаванне, пры дапамозе якога рыбы накіроўваюцца ў сетку, лавушку' (гл. Герай-Шыманьска, БЕ, 31, 1981, 49). Гл. таксама Шаур, SP, A 24, 33—37. Неперакanальна Ільінскі, IF, 50, 1932, 59—62 (збліжэнне са *сновать*+суф. *-од-*). Махэк$_2$ (398), улічваючы шырокае распаўсюджванне слоў тыпу паўн.-ням. *Wate*, швед. *vada*, фін. *nuotta*, эст. *noot* 'невад', лічыць слова «праеўрапейскім», параўн. *ват* 'тс' (гл.).



**Неварóўны** 'неасцярожны' (брасл., Сл. ПЗБ). Ад *варавáць* 'ахоўваць, зберагаць'.

***Нéваруш,** *нéворуш* 'неруш, бязлюднае месца' (ТС). Да *варушыць* 'кратаць', параўн. *неворýшэны* 'некрануты' (там жа), паралельнае ўтварэнне *нéруш* (ад *рýхаць* 'кратаць').

**Нéвесь** *(нéвісь)* 'невядома, немаведама': *невісь што дзелыць* (Яўс.), *невець* 'тс': *невець колько* (Сл. ПЗБ), *нíвісь* 'тс' (Нас.). Паводле Насовіча (там жа), з **невѣсть*, гл. *вéдаць*. Сюды ж *нéвешчына* 'нешта незвычайнае, рэдкае, экзотыка' (ТС), якому фармальна і этымалагічна адпавядае серб.-харв. *невештѝна* 'няўмельства, няўдаласць' (ад *нѐвешт* 'няўмелы, нялоўкі').

**Нéвідась** 'навіна; незвычайная, апетытная смачная яда з новага ўраджаю; незвычайнае дзіва, цуд' (пух., З нар. сл.). Ад *невідáны* 'нябачны': *Невиданое и нечуваное дзиво!* (Нас.), да *відáць* 'бачыць'; заканчэнне слова пад уплывам назоўнікаў на *-сць* тыпу *нéвесь (<*не-весць)*, параўн. *невідáль* 'дзіва, навіна', *невідáліца* 'дзіўная рэч' ад *невідáлы* 'дзіўны; нябачаны' (Нас.).

**Невідомка** *(ńavidomka)* 'шапка-невідзімка' (Вяр.). Ад *невідомы* 'нябачны' (Нас.), да *відзець* (гл.).

**Невірýтнік** 'паганец' (Броўка). Да *вірýтнік* 'разбойнік, злачынец' (гл.), адмоўе *не-*, відаць, пад уплывам *недавя́рак* 'злыдзень, прахвост' з ад'ідэацыяй да *верыць*, г. зн. 'той, каму цяжка давяраць' або 'той, хто не верыць (у бога і г. д.)'.

**Невісне́ць** 'пацямнець': *Вочи мои невиснѣюць* (Нас.). Гл. *нявісны.*

**Не́вук** 'неаб'езджаны конь' (лельч., Жыв. сл.; ТС), 'неадукаваны, недасведчаны чалавек' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ, Бяльк.), 'гультай, хто не хоча вучыцца' (Растарг.), *не́ук* 'гультай; непрывучаны да вупражы (пра каня і пад.)' (Нас.), 'малады бык ад 2 да 3 год' (Гарб.), укр. *не́ук* 'неадукаваны чалавек; неаб'езджаны конь', рус. *не́ук* 'тс', ст.-рус. *неукъ* 'тс', польск. *nieuk* 'тс', славен. *neuk* 'нявучаны; нявопытны', серб.-харв. *нѐук* 'неадукаваны; непрывучаны (пра жывёлу)', балг. *не́ук* 'неадукаваны; нявучаны', макед. *неук* 'нявучаны'. Да *вучыць*, параўн. *на-вука* (Фасмер, 3, 69), той жа корань у смал. *безук* 'добры цясляр' (*без-ук*, ад прасл **uk-* 'вучыцца, навука'), якое Краўчук (БЛ, 5, 1974, 64) тлумачыць як 'той, хто (добра працуе, добры цясляр) без навукі' (мае прыродны дар), *самавук* і пад.

**Не́га** 'дагляд, пялегаванне, ласка', *не́жны* 'прывучаны да ласкавага абыходжання, далікатны', параўн.: *А ты, Аўдулька, нежная дитятка!/Ти пиринясеш ты матулькину негу/ К свёкру на падвору?* (чэрык., Рам. 8, 197), рус. *не́га* 'раскоша, пяшчота, ласка', *не́жный* 'пяшчотны, далікатны', чэш. *něha, něžný* 'тс' (з рус., гл. Махэк$_2$, 394), славен. *nega* 'дагляд, пялегаванне', *nežen* 'далікатны, пяшчотны', серб.-харв. *нѐга, нѐжан* 'тс', балг. *не́га, не́жен* 'тс', макед. *нега, нежен* 'тс'. Прасл. **něga*, роднаснае лат. *naigât* 'мець патрэбу, жадаць', зблі-жаюць таксама са ст.-інд. *sníhyati* 'любіць' (Махэк$_2$, 394; сумненні ў Фасмера, 3, 56).

**Не́гадзь** 'непагадзь' (Янк. 3, рэч., Нар. сл., Некр., Пятк. 2, Яўс.), 'працяглае даждлівае ці снежнае надвор'е' (Янк. 2), *не́годзь* 'тс' (ТС, петрык., Шатал.), сюды ж *негадзі́на* 'непагадзь; час суровых выпрабаванняў' (Сцяц.). Гл. *нягода*; параўн. таксама Фалоўскі, ZNUJ, Pr. język., 74, 1983, 60.

**Негадзя́й** 'нягоднік, паганец' (Ян.), *негодзя́й* 'нlanguageздольны да працы, ні да чаго не варты чалавек; гультай, нягоднік', *негодзя́йка* 'няздатная да працы, няўмелая жанчына' (ТС), *неґаджа́й (ніґаджай)* 'неахайны чалавек' (Сцяц.), укр. *негодя́й* 'няварты, няздольны да дзеяння чалавек', рус. *негодя́й* 'няздольны для справы чалавек; гультай'. Аддзеяслоўны назоўнік, параўн. *не гадзіцца (негодзицьца*, Нас.) 'быць непрыгодным', *негадзі́вы* 'непрыгодны' (Некр.). *негадзя́вы, негадзя́шчы* 'паганы; непрыдатны' (Сл. ПЗБ), 'няздатны; непрывабны, непрыгодны; нядобры, паганы' (Ян.), 'няздольны да працы, слабы' (ТС), *не́гадзь* 'няздольны чалавек' (Растарг.). Суфіксацыя, як у *валача́й* 'валацуга' і пад. (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 23, а таксама Львоў, РР, 1969, 4, 100—101). Гл. *нягоднік.*



**Не́ґалда**, *не́ґелда* 'няўдалы; неахайны чалавек' (Сл. ПЗБ), *не́ѓалда* 'несамастойны, непрыстасаваны (пра дзяцей)' (докш., Міхайлаў, вусн. паведамл.), *не́галда* 'тоўстая, нязграбная, непаваротлівая жанчына або дзяўчына' (Растарг.). Відаць, звязана з *голда* 'высокая, худая, даўгатварая дзяўчына' (там жа), прыводзіцца як сінонім да *не́галда, не-* ў гэтым выпадку ўзмацняе «адмоўнае» значэнне экспрэсіўнага слова, апошнім, відаць, тлумачыцца і *ѓ* (узрыўное), аднак яно можа сведчыць пра запазычанасць выходнага слова, параўн. *галдава́ць* 'прыслужваць, дагаджаць, даваць паблажку', *галдо́ўнік* 'патуральнік' (Нас.), крыніца якіх знаходзіцца, магчыма, у мове ідыш, што відаць з ілюстрацый, якія прыводзяцца ў слоўніку Насовіча. Пра сувязь з *галда́* 'галас, шум' (гл.) па семантычных меркаваннях гаварыць цяжка, што не выключае магчымую фармальную блізкасць названых слоў (параўн. Фасмер, 1, 385; Шанскі, 1 (Г), 14). Спроба вывесці этымалагізуемае слова з літ. *negvald-ùs* 'які лёгка вылушчваецца' (Грынавяцкене і інш., LKK, 16, 1975, 184) непераканальная перш за ўсё з семантычнага і лінгвагеаграфічнага бакоў (гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 146, дзе названае слова аднесена да тых, балтыйскае паходжанне якіх недастаткова аргументаванае); больш верагодна ўтварэнне ад літ. *negalė́ti* 'недамагаць, хварэць, быць нездаровым; не быць у стане', што адпавядала б семантычна іншым экспрэсіўным утварэнням такога тыпу *негадзя́й* (гл.), *нягоднік.*

**Негалю́зны** 'несамавіты, плюгавы' (барыс., Шн. 2), 'няўклюдны' (Янк. 1), *негілю́зны* 'непрыглядны' (Ян.). Магчыма, да літ. *negalúoti* 'недамагаць, хварэць, быць нездаровым'; дзеепрыметнік, аналагічны да *негадзя́вы, негадзя́шчы* (гл.).

**Негара́зд** 'не вельмі-та, дзе там' (Растарг.), *негара́ст (nieharast)* 'нязручна; нешчасліва' (Арх. Федар., Федар. 7), укр. *негара́зд* 'нядобра, дрэнна', рус. *негора́зд* 'не вельмі, няўдала'. Ад незафіксаванага **гара́зд*, параўн. рус. *'гора́зд* 'лоўкі, удалы, вопытны', укр. *гара́зд* 'добра, шчасліва', чэш. *horazditi* 'сварыцца, бушаваць, шумець' (<венг.<слав., гл. Махэк$_2$, 149), якія выводзяцца з мяркуемага гоц. **garazds* 'які разумна гаворыць' (<*ga* і *razda* 'голас, мова'), гл. Фасмер, 1, 439, што даволі праблематычна. Параўн. таксама Шаур, SP, A 24, 33 і інш. (адносна чэш. *nehorázný*); Фасмер, 3, 57 (рус. *негора́здок*).

**Не́гдзе** 'недзе; няма дзе' (Сл. ПЗБ, Пятк. 2), *не́гдзя* 'тс' (карэл., Нар. лекс., Сл. ПЗБ), рус. *не́где* 'тс', польск. *niegdzie* 'недзе', каш. *ńegʒe*, чэш. *někde*, славац. *niekde*, в.-луж. *něhdźe*, н.-луж. *něgźe*, славен. дыял. *negde*, серб.-харв. *нѐгде*, балг. дыял. *не́где*, макед. *негде*. Прасл. **někъde*, утворана шляхам

аглютынацыі з часціцы **ně-* (гл. *не-*) і пытальнага займенніка **kъdě* (гл. *дзе*); аманімічныя формы са значэннем 'няма дзе' ўзніклі ва ўсходнеславянскіх мовах са спалучэнняў тыпу **не есть где>не е(сть) где>негде,* напр., *негдзе перайсці* (ESSJ SG, 2, 481; Шустар-Шэўц, 13, 998). Параўн. *нéдзе, нéйдзе.*

**Нéгды,** *нéгдысь* 'некалі, калісьці' (Нас.), польск. *niegdy, niegdyś*, чэш. *někdy*, дыял. *negdy, nehdy*, арх. *někdys*, в.-луж. *něhdy*, н.-луж. *něgdy* 'тс'. Прасл. **někъdy*, утворанае з *ně-* (гл. *не-*) і **kъdy* (параўн. польск. *gdy* 'калі', чэш. *kdy* 'тс', серб.-харв. *кад* 'тс', роднаснае літ. дыял. *kodù* 'тс', лат. *kad*, ст.-прус. *kaden*, ст.-інд. *kadā* і інш.), якое ў сваю чаргу ўтворана з займеннікавага элемента *kъ-* і канцавой партыкулы *-dy*, да якой можа далучацца таксама часціца *-si* (гл. ESSJ SG, 2, 481; 384—385).

**Нéгенькі** 'далікатненькі' (Нас.). Ад *нéга* (гл.), незвычайнае для беларускай мовы спалучэнне *-ге-* сведчыць пра позні або экспрэсіўны характар слова.

**Нéгле** 'нельга, немагчыма' (ТС). У выніку перастаноўкі зычных ад *нéльга* 'тс'; канчатак *-е* можна вытлумачыць па-рознаму: або **нéгля>нéгле* пад уплывам адпаведных прыслоўяў на *-е* тыпу *добрэ* (на думку Карскага, 2—3, 76, з польскай ці ўкраінскай), або як захаванне старажытнай формы дав. скл. ад *льга* (гл.), параўн. ст.-слав. **нельзѣ**, з узнаўленнем непалаталізаванага зычнага *г*. Фармальна падобнае рус. *нéгли, неглú* 'хіба, няўжо' мае іншае паходжанне *(нег-ли?)*.

**Негр** (БРС, ТСБМ), *нэ́гар* (побач з *мýрын*, Некр. і Байк.), укр. *негр*, рус. *негр*. Ст.-бел. *нигръ* (з 1598 г.) са ст.-польск. *niger*, вядомага з XVI ст., куды трапіла з сярэдневяковага лат. *niger* 'чорны' (Булыка, Лекс. запазыч., 126), параўн. таксама ст.-бел. *нигритъ* 'тс' з той жа крыніцы (там жа). Сучасная форма, відаць, паўторнае запазычанне з рус. *негр*, што з франц. *nègre* (<лац. *niger*), параўн. Фасмер, 3, 57.

**Неграмéчы** 'непераборлівы ў ежы' (карэл., Марц.). Відаць, ад *грумéчаць* (варыянт — *глумéчаць*) 'грэбаваць' (ТС), што можа быць звязана з літ. *grùmti* 'мяць, умінаць', *grōmaloti* 'перажоўваць'; варыянтнасць вакалізму, як у *гром, грымець*, параўн. таксама *грумéць* 'грымець' (ваўк., Сл. ПЗБ).

**Негуля́шчая** 'цяжарная' (Ян.). Эўфемізм, характэрны для назваў, звязаных з цяжарнасцю (параўн. *тоўстая, чараватая*, балг. *непрáзна* і пад.); да *гуля́ць* 'быць вольным, незанятым'.

**Неда-** — прэфіксальны комплекс у складзе слоў тыпу *недаесці, недасеяць, недаспелы* і пад., што надае дзеясловам і вытворным ад іх значэнне непаўнаты, недастатковасці дзеяння, якасці і г. д., утварыўся аб'яднаннем адмоўя *не* з прыстаўкай *да-* ў дзеясловах: *не дакурыць>недакурыць*, параўн. *недакý-рак* 'акурак' (карэл., Нар. словатв.) або ў спалучэнні з прыназоўнікам *да*, параўн. *недарэчны* 'неразумны, дзіўны, бесталковы' з *не да рэчы*; пазней пры дапамозе гэтага прыставачнага комплекса ўтвараюцца словы, якія могуць не мець суадносных утварэнняў без *не-*, параўн. *недабачáць* 'дрэнна бачыць' (Растарг.), *недамагáць* 'адчуваць недамаганне' (Сл. ПЗБ). Утварэнні тыпу *недачалавéк* 'непаўнацэнны чалавек' узніклі, відаць, як калькі з ням. *Untermensch* 'тс'. Параўн. Махэк$_2$, 393.



**Недабой** 'загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам' (гродз., Нар. сл.; в.-дзв., Шатал.; Жд. 1). Ад *недабíць*, з *не-* (гл.) і *дабíць* 'прыбіць', параўн. *недасéк* 'тс', гл. *неда-*.

**Недаборны** 'пераборлівы' (ваўк., Сл. ПЗБ). З *не дабраць*, да *дабрáць* 'падабраць, знайсці падыходзячае'.

**Недабратá** 'хвароба; цяжкі душэўны стан' (Марц.). Ад *недабры́цца* 'нездаровіцца, нядужыцца' (пух., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), параўн. *недóбро* 'дрэнна (пра адчуванне)', *недобрыцца* 'нездаровіцца' (ТС). Гл. *добры*.

**Недавéрак** 'той, хто не верыць' (Бяльк., ТСБМ): *Niedawierki każuć, szto czerwiaka zubatocza nieta na świeci* (Пятк. 2), 'дысідэнт, не адной веры' (Нас.), *недавя́рак* 'недаверлівы чалавек' (Сцяц.), 'злыдзень, прахвост' (дзярж., Нар. сл.), укр. *недовíрок* 'рэнегат; малаверны', польск. *niedowiarek* 'няверны, ерэтык, адшчапенец; няверуючы, атэіст; малаверны чалавек'. Здаецца, што тут аб'ядналіся розныя па паходжанню словы; адны з іх утвораны ад *не давяраць* або з больш ранняга спалучэння *не да веры* (польск. *nie do wiary*) 'цяжка паверыць', якія маглі з'явіцца самастойна ў кожнай з моў, іншыя запазычаны з польскай мовы, куды, як мяркуецца, трапілі з чэш. *nedověrek* 'ерэтык, адступнік' (параўн. Урбаньчык, ZPSS, 1988, 457).

**Нéдагадзь** 'асоба, якой цяжка дагадзіць' (слаўг., Нар. словатв.). З *дагадзíць*, гл. *гадзíць*.

***Недагоніч,** *недогóніч* 'недаразвітае зерне ў коласе; запозненыя ў развіцці каноплі; парасткі збожжавых культур, якія затрымаліся ў сваім развіцці на стадыі кушчэння', *недогóніца* 'недаразвітае зерне ў коласе; дробная недаспелая ягада' (ТС). Ад *не дагнаць*, г. зн. 'тое, што не змагло дагнаць у росце іншых'.

**Недакáрак** 'акурак' (Ян.). Відаць, дэфармаванае *недакýрак* (ад *курыць*), незвычайны вакалізм выкліканы ўплывам слоў тыпу *недагáрак* 'галавешка, недагарэлае палена' (Сл. ПЗБ, ТС), параўн. польск. *niedogarek* 'недагарэлае палена, лучына; папяроса'.

**Недакормны** 'худы' (Марц.). З *недакарміць* 'недастаткова выкарміць', гл. *неда-*.

**Недалýга** 'ненармальная, недаразвітая з нараджэння істо-

та' (мсцісл., З нар. сл.), 'нямоглы, хваравіты чалавек' (Мядзв., Макар.), 'няздольны, няздатны чалавек' (Сцяшк.), 'няўдаліца' (Яўс.), *недалўгі* 'хваравіты, слабы' (Федар., Рам., Мат. Маг., Ян.), 'неправорны, непрыгодны да справы' (Сцяшк.), 'няўклюдны' (Сл. ПЗБ), *недалўжны* 'ганебны, няўдалы, непрыгожы, мізэрны' (Яўс.), 'бездапаможны, слабасільны; закінуты, сіратлівы, няшчасны' (Гарэц.), 'слабасільны, нездаровы' (Нас.), *недолўжны* 'слабы, хворы' (ТС), *недалўжнік* 'слабасільны чалавек', укр. *недолўга* 'тс', *недолўгий, недолўжний* 'бяссільны, слабы, нямоглы', рус. *недолўга* 'слабы, худы чалавек; капун', *недолўгий, недолўжный* 'хворы, хілы; няўмелы', польск. *niedołęga* 'слабы, хілы, бездапаможны чалавек; калека; няздольны мець дзяцей', 'слабасць, бяссілле, няздатнасць', 'недахоп, адсутнасць чаго-небудзь'; *niedołężny* 'які мае фізічныя недахопы, слабы, няздатны', чэш. дыял. *nedoluha* 'хвароба', *nedolužný* 'неразвіты ў разумовым і фізічным плане'. Прасл. **nedolǫga, *nedolǫžьnъ* утворана пры дапамозе прыставак *ne-do-*, якія абазначаюць недастатковасць (гл. *неда-*), і каранёвай марфемы *lǫg-/lǫž-*, роднаснай ням. *langen* 'быць дастатковым, хапаць', што чаргуецца з *lęg-* (гл. *недалягаць*), параўн. Махэк₂, 393—394. Слав. **nedolǫžьnъ* разглядаецца звычайна як паўночнаславянскі дыялектызм, аднак мае працяг у славенскай і заходніх сербахарвацкіх дыялектах (гл. Борысь, SOr, 36, 23—30).

**Недалэ́нга** 'недалужная асоба; недарэка, няўклюда' (стаўбц., Жыв. сл.; Сцяшк.), *недалэ́нга* 'тс' (Сцяц.; шчуч., мёр., З нар. сл.), 'нязграбны чалавек' (Сл. ПЗБ), *недалэ́нгі* 'няздольны, няздатны' (Жд. 2), 'няякасны (пра зерне)' (Сл. ПЗБ), *недалэ́нжны* 'няздольны, няздатны' (свісл., Шатал.), *недалэнгаваты* 'нязграбны, няўдалы' (Жд. 2). З польск. *niedołęga, niedołężny*, гл. *недалуга*.

**Недапе́ка** 'дурань, дурніца' (Яўс.), *недапёка* 'недавучка' (Нас.), 'нязграбны чалавек', *недапе́клы* 'не зусім разумны', *недапе́чаны, недапячоны* 'тс' (Сл. ПЗБ), з *неда-* 'недастаткова' і *пячы* (іранічна), параўн. *недапе́чаны* 'недапечаны; недавучаны; неразумны, дурнаваты'; магчымы ўплыў дзеяслова *пячыся* 'клапаціцца, даглядаць'.

**Недара́йда** 'неахайны чалавек; няўклюда' (Сл. ПЗБ), *недаральда* 'тс' (там жа), польск. *niedorajda* 'расцяпа, няўклюда'. Хутчэй за ўсё ў беларускай мове запазычанне з польскай, у якасці зыходнай формы можа быць спалучэнне адмоўя з дзеясловам *doradzić* 'даць рады, парадзіць', літаральна 'чалавек, які не можа сабе даць рады', або *doraić* 'параіць' (Варш. сл., 3, 274). Неправаканальныя спробы вывесці названыя словы з літ. **nedadairà* (з метатэзай у беларускай мове), якое па-



раўноўваецца з *neapdairùs* 'неабачлівы чалавек' (Грынавяцкене і др., LKK, 16, 1975, 184; параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 146), або з літ. *nedereivà* 'расцяпа, няўклюда' (Сл. ПЗБ, 205).

**Недарэ́ка** 'абмежаваны чалавек; заіка' (Гарэц.), 'няўклюда, неахайны чалавек' (Сл. ПЗБ), *недарэ́кі* 'неразумны, бесталковы; картавы, заікасты' (Ян.), 'косназыкі' (пух., Жыв. сл.), *недарэ́члівы* 'картавы, заікасты' (Ян.), *недарэ́чны* 'няўдалы' (Сл. ПЗБ). Магчыма, тут змяшаліся розныя па паходжанню словы: адны ўтвораны на мясцовай глебе з *неда-* 'недастаткова' і *рэ́кці* 'сказаць' (гл.), другія хутчэй за ўсё запазычаны з польск. *niedorzeczny* 'неразумны, дурны, няўдалы', што ўзыходзіць да спалучэння *do rzeczy* 'трапна, талкова' з пэўнай фанетычнай адаптацыяй (так Кюнэ, Poln.) або ўтворана ў беларускай мове з аналагічнага спалучэння, параўн. *дарэ́чы* 'ў належны час, у належным месцы'.

***Недапе́ўніцца,** *недопе́ўніцца* 'канчаткова не дамовіцца' (ТС). З *допе́ўніцца* 'дамовіцца', гл. *пеўны*.

**Недапошлы** 'хворы' (Сл. ПЗБ). Відаць, з *неда-* 'недастаткова' (гл.) і *пайсці*, параўн. *недошлы* 'слабы, хваравіты', што, магчыма, з'яўляецца зыходнай формай для названага слова, узнікшага пад уплывам слоў тыпу *пошліна* 'хвароба, пошасць' (Сл. ПЗБ).

**Недасе́к** 'загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам' (чэрв., Нар. лекс.; Ян.; круп.; гродз., Нар. сл.; лунін., Шатал.; Жд. 1; Уладз.; Сл. ПЗБ), *недосе́ка* 'тс' (ТС), *недосі́ка* 'тс' (пін., Нар. лекс.). З *неда-* (гл.) і *сячы* 'біць, часта ўдараць', параўн. іншую назву *недабой* (гл.); аднак балгарская дыялектная назва *недосег (недосѣгъ)* 'калі пры тканні не дастаецца бёрдам да палатна' (тырнаўск., Гераў) прымушае дапусціць, што названае збліжэнне можа быць другасным у выніку пераасэнсавання першаснай асновы ад **sęgti, sęgati* 'дастаdensваць, хапаць' (гл. *сяга́ць*), параўн. *дасягаць* 'дабівацца', у такім выпадку можа быць рэканструявана прасл. **nedosęgъ* як ткацкі тэрмін, магчыма, дыялектнага распаўсюджання на славянскай моўнай тэрыторыі, які звязвае беларускія і балгарскія дыялекты.

**Недасе́ка** 'насмешлівая мянушка таго, хто нарадзіўся ў Мсціславе' (Нас.). Назва грунтуецца на гістарычным факце: «у 1654 годзе князь Трубяцкой спаліў Мсціслаў і выразаў 30 000 чалавек у 33-тысячным горадзе, а тых, хто застаўся, і па сённяшні дзень не-не дый завуць «недасекамі» (Крыніца, 1989, 2, 18). Параўн. укр. *недоломок* 'прадмет не зусім зламаны, надламаны' і 'пагардлівая назва людзей, часткова страціўшых сваю нацыянальнасць пад націскам чужой' (Грынч.). З *неда-* 'недастаткова, не поўнасцю' і *сячы* 'біць, рэзаць і пад.'.

**Недасі́лак** 'слабы, хілы чалавек': *Заплыве недасілак — магутам стаў* (Бічэль-Загнетава). Магчыма, паэтычны наватвор па ўзору *асілак* (гл.), з *неда-* 'недастаткова' і *сіла* 'моц, сіла', параўн. *недаростак* 'чалавек малога росту', *недаморак* 'заморак' і пад.

**Недасканáлы** 'які мае недахопы' (Некр. і Байк., БРС, ТСБМ). Паводле Кюнэ (Poln.), запазычанне з польск. *niedoskonały* 'тс'.

**Недаснýй** 'памылка пры снаванні, калі снуецца менш пасмаў, чым павінна быць' (расон., Шатал.; Уладз.). З *неда-* 'недастаткова' і *снаваць* паводле распаўсюджанай мадэлі ўтварэння назваў розных заган пры тканні, параўн. *недабой, недасек, недахоп* і інш.

**Недастойны** 'які не заслужыў спрыяльнасці, ласкі, спагады, паблажлівасці' (валож., Жыв. сл.), рус. *недостóйный* 'няварты, нягодны', польск. *niedostojny* 'тс', чэш. *nedůstojný* 'несур'ёзны, няварты', балг. *недостóен* 'тс' і пад. Цяжка вызначыць народны характар слова, параўн., аднак, яшчэ ў Насовіча *недастоіць, недастоіла (недостóиць, недостóило)* 'не павінна, непрыстойна', *дастоіла (достóило)* 'павінна быць, варта'. Гл. *дастойны*.

**Недатопак** 'атопак, стаптаны лапаць' (пух., Жыв. сл.). З *неда-* (гл.) і *таптаць* па ўзору *атопак* 'тс' (гл.).

**Недаты́ка** 'незачэпа' (Жд. 2), 'самалюбівы чалавек' (Растарг.), літаральна 'чалавек, які не любіць, каб да яго дакраналіся; чалавек, які крыўдзіцца за кожную дробязь' (Нас.), *недоты́ка* 'незачэпа' (ТС), *недаты́чка* 'неразумны' (Бяльк.), укр. *недотúка* 'незачэпа', рус. *недоты́ка* 'тс'. Ад *не датыкаць (-цца)* 'не дакранацца', параўн. укр. *недотóрка*, рус. *недотрóга* 'незачэпа'; значэнне 'неразумны', магчыма, пад уплывам слоў тыпу *недапёка, недацёпа, недаробак* і пад. Да *ты́каць* (гл.).

**Недаўмéць** 'не разумець, недамысліваць' (Мат. Маг.), *недаўміць* 'недадумаць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Сюды ж *недаўменне* 'здзіўленне, стан нерашучасці як вынік неразумення' (ТСБМ), рус. маск. *недоумéть* 'не здолець, дрэнна зрабіць што-небудзь'. З *не* і *даўмéць* 'дапяць, уразумець', да *ум* 'розум'.

**Недахачý,** *недохочу* 'ўволю, удосталь' (ТС). Хутчэй за ўсё ў выніку перастаноўкі (метатэзы) адмоўя і прыназоўніка ў спалучэнні **до не хочу* (1-я ас. адз. л. ад *хацець*), параўн. *до нéхоця* 'да адвалу' пры *нéхоць* 'нежаданне, неахвота', і універбізацыі ўсяго спалучэння ў якасці прыслоўя, пры гэтым магчымы ўплыў распаўсюджанага прыставачнага комплекса *неда-* (гл.).

**Недахвáт** 'недастача', *недохвáт* 'нястача, беднасць; недахоп, брак' (ТС), *недахвáтка* 'тс' (Растарг.), *недахвáтнасць* 'недахоп' (Мат. Маг.). З *неда-* і *хватáць* 'хапаць; быць дастатковым'.



***Недахода,** *недохóда* 'памылка пры снаванні', *недоходня́* 'тс' (ТС, Уладз.). З *неда-* 'недастаткова' і *ход, хадзіць* або з *не* і *даходзіць* паводле распаўсюджанай мадэлі называння розных недахопаў і заган пры тканні, параўн. *недасек, недасну́й* і пад., гл. матывацыю назвы ў тлумачэнні: 'памылка пры снаванні, калі тая, што снуе, не дайшоўшы да наступнага калка, вяртаецца і накладвае аснову на той самы калок у другі раз' (Уладз.).

**Недахоп** ' памылка, хіба; патрэба ў чым-небудзь' (ТСБМ), *недохóп* 'нястача' (ТС). З *неда-* 'недастаткова' і *хапáць* 'быць у патрэбнай колькасці' і інш., параўн. *недахвáт*.

**Недацёпа** асудж. 'дурны чалавек' (міёр., З нар. сл.), *недоцёпа* экспр. 'недагадлівы чалавек' (ТС), укр. *недотепа* 'няздольны, няўмелы чалавек', рус. *недотёпа* 'няўклюда' і 'памылка пры тканні — прапушчаная ці выцягнутая нітка ў аснове' (пск., СРНГ). З *неда-* 'недастаткова' і *цепсці* 'біць, трапаць' або *ця́паць* 'стукаць', якія ў экспрэсіўным ужыванні могуць мець і іншыя пераносныя значэнні, у тым ліку 'разумець, цяміць, кеміць', параўн. укр. *дотеп* 'досціп', *дотéпний* 'дасціпны'; калі дапусціць наяўнасць падобнага, незафіксаванага ў беларускай мове слова, то з *не* і **дацёпа* ці **дацяпа*, параўн. *расця́па* 'разява'; рус. *недотя́па* 'няўмека'; ткацкі тэрмін у рускай мове сведчыць аб магчымай крыніцы слова ў сферы тэрміналогіі з пераходам канкрэтнага значэння ў экспрэсіўнае, што здараецца вельмі часта, тады развіццё значэння ад 'недастаткова выцягнуты', 'нестаранна зроблены' (параўн. *цёпкаць* 'выцягваць ніткі з тканіны') да 'няўклюдны' і 'дурны'.

**Недачупáлле** 'недарэка, някемлівы чалавек' (пух.; чэрв., Жыв. сл.), *недачупáлы* 'недаразвіты, мізэрны' (там жа), 'не зусім разумны' (Сл. ПЗБ). Відаць, з *неда-* і *чýпаць* 'экспр. есці' (чэрв., Сл. ПЗБ), параўн. дакладны структурны адпаведнік названаму прыметніку — *нядошлы* 'слабак, хваравека' (ТС); для некаторых значэнняў не выключана сувязь з *шýпіць* 'кеміць, цяміць'. Праблематычнай застаецца сувязь з літ. *čiupáila* 'неразумны', якую прапануюць аўтары «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», у сувязі з няяснасцю паходжання самога літоўскага слова (вытворнае ад *čiupti* 'хапаць'?)

**Недашмыгі** 'не да смаку, неадпаведна жаданню, нораву' (Нас.). Са спалучэння **не да шмы́гі*, параўн. *да шмыгі* 'да твару, падыходзіць', параўн. укр. *не-до-шмúги, не-до-чмúги* 'не падыходзіць, недаладу, недарэчы'. Гл. *шмы́га*.

**Нéдзе,** *нéдзя* 'дзесьці; няма дзе' (Сл. ПЗБ), *(недзьзя)*

'няма дзе, няма куды; дзесьці, у нейкім месцы' (Мал.), 'дзесьці, у дакладна неакрэсленым месцы; няма дзе' (ТС), *нéдзе, нéгдзе, нéйдзе* 'дзесьці, кудысьці, у нейкім месцы; няма куды' (Гарэц.), *нéдзека* 'дзесьці' (Сцяшк., докш., Янк. Мат.). Гл. *нéгдзе* 'тс'.

**Нéедзь** 'ежа': *Ена умрэ без нееді* (Ян.). Незвычайнае тлумачэнне слова ўдакладняецца прыведзенай ілюстрацыяй, з якой вынікае, што першаснае значэнне яго павінна быць 'неядзенне', што дакладна адпавядае засведчанаму ў іншых гаворках *неедзь* 'голад, недаяданне' (Янк. 2), да *есці*.

**Нéжань** 'эпілепсія, прыпадак' (Ян.). Няясна, магчыма, звязана з *нéжань* 'нежанаты, марцовы кавалер' (Некр.), што, відаць, тлумачыцца тым, што пры эпілепсіі не жаніліся з-за дрэннай спадчыннасці, ці табуізаваная назва хваробы ад *гнаць* (гл.).

**Нежывéць** 'траціць прытомнасць': *Як былі прыступы, яна нежывела* (Сл. ПЗБ). Відаць, мясцовае наваўтварэнне на базе спалучэння *як нежывы́* 'непрытомны'.

**Не жывацéй!** 'сцеражыся' (полац., Нар. лекс.), *не жыватáй!* (вокрык з пагрозай) 'жыў не будзеш' (Растарг.). Да *жыватáць* 'цешыцца здароўем' (Нас.), параўн. палес. *жывотíтэ* 'груб. існаваць' (драг., Нар. лекс.), усе да *жывот* 'жыццё' (гл.).

**Нéжыт** 'насмарк' (драг., Жыв. сл.), *нэ́жыць, ныжы́д* 'тс' (брэсц., Сіг.; Мат. Брэст.), *нéжыт* 'высыпка на целе ў дзіцяці' (петрык., Шатал.), *нежы́тоўка* 'вялікая скула' (лунін., Шатал.); 'скула, скулка' (ТС), укр. *нéжит, нéжить, нéжид* 'насмарк', рус. *нéжить* 'сукравіца', *нéжид* 'насмарк; сукравіца ў нябожчыкаў', польск. *nieżyt* 'катар; боль; нарыў', чэш. *nežit, nežid* 'фурункул', серб.-харв. *nežit, nežid* 'абсцэс у вуху', *nežić* 'тс', балг. *нежит* 'запаленне дзёснаў', *нéжет* 'рана на дзёснах, рана на вымені' (радоп.). Шырокае распаўсюджанне сведчыць аб праславянскім паходжанні слова; звычайна разглядаецца як вытворнае ад **žiti* 'жыць', параўн. Махэк₂, 393, які на падставе чаргавання *ži-/goi-* (параўн. *зажыць≈загаíцца*, аб ране) выводзіць зыходнае значэнне 'язва, якая не гоіцца'; формы з *-d* тлумачацца ад'ідэацыяй да *žid (жыд)*; Скок, 3, 682 лічыць слова аднаго паходжання з фалькларным *nežitak* 'чорт, злы дух, які пасяляецца ў галаве', адкуль і назва хваробы; параўн. таксама паўночнарускую агульную назву нячыстай сілы — *нéжить* (гл. Черепанова, Мифол. лексика рус. Севера. Л., 1983, 67). Прынцыповую магчымасць такіх утварэнняў дэманструе *нéжыцё* 'ліхая доля, кепскае жыццё' (слонім., Нар. словатв.), серб.-харв. *nežitak* 'неспакой, хваляванне, сварка' і пад. Разам з тым нельга не звярнуць увагу на блізкасць да разглядаемых слоў літ. *niẽžas* 'сверб', *niežai* 'кароста', *niẽžėti* 'свярбець, часацца', *man nósį niẽžėti* 'ў мяне свярбіць нос' і г. д., параўн. балг. радоп. *нежети са* 'загнойвацца (пра рану)', тлумачэнне Герава да назвы хваробы *нежит*: «дзёсны зубоў робяцца чырвонымі і свярбяць» (Гераў, 6, 228, 314). З улікам гэтага збліжэнне з **živeti* можа мець народнаэтымалагічны і другасны характар. На гэтым фоне спроба вывесці ст.-бел. *нежитъ* 'катар, фурункул' (з 1517 г.) са ст.-польск. *nieżyt* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 130) здаецца непераканальнай.



**Незабáвам** 'адразу, хутка, без затрымкі' (Др., Пятк. 2), *незабáўна* 'неадкладна, хутка' (Нас., Гарэц., ТС), *незабáўка* 'нядоўга, хапае часу' (Нас.). Ад *забáвіцца* 'затрымацца', *забáва* 'затрымка' (гл.).

**Незабáрам** 'хутка, без затрымкі' (Растарг.), *незабáром* 'хутка, неўзабаве' (ТС), укр. *незабáром* 'тс'. Ад *забáрыцца* 'затрымацца' (да *бары́цца* 'марудзіць', гл.).

**Незабýдка** 'расліна Myosotis palustris Lam., незабудка' (Кіс., Яруш., міёр., Жыв. сл.), *незабýдзька* 'тс' (карэл., Шатал.), *невзабýдка* 'тс' (пін., Шатал.), *незабудкі* мн. 'расліна Myosotis silvatica (Ehrh.) hoffm., незабудка лясная' (Бейл.), укр. *нéзабудь* 'расліна Myosotis palustris', рус. *незабýдка* 'істод, дубраўка, валоўнік, чарнакорань, фіялка, гваздзіктравянка і інш.' Ад *не забудзься*, гл. *забыць*; калька з ням. *Vergissmeinnicht* 'тс' (з XV ст.), франц. *le ne m'oubliez pas* 'тс', англ. *forgetmenot* 'тс', польск. *niezapominajka* 'тс' і інш. (Фасмер, 3, 59). Параўн. *незапамінáйка* 'тс' (гл.).

**Незадáлы** 'няўдачы' (Нік. Оч.). Магчыма, да *задацца* (да *даць*) 'удацца', параўн. *незадáча* 'няўдача' (гл.). Паводле Карскага (2—3, 331), мн. л. назоўніка «для абазначэння псіхічнага стану» мае архаічны характар.

**Незадáча** 'няўдача' (Юрч.), рус. *незадáча* 'тс'. Да *задáцца* 'ўдацца' (ад *даць*).

**Незалéжнасць** 'самастойнасць, аўтаномнасць' (Яруш., Некр. і Байк., БРС, ТСБМ), укр. *незалежність* 'самастойнасць, непадпарадкаванасць'. Запазычана з польск. *niezależność* 'тс' непадпарадкаванасць'. Запазычана з польск. *niezależność* 'тс' або ўтворана на мясцовай глебе ад *залéжны, залéжнасць* 'несамастойнасць', якое ў сваю чаргу, відаць, запазычана з польск. *zależny, zależność* 'тс', ад *zależeć* 'быць залежным, несамастойным' (<*za-leżeć*, гл. *ляжáць*). На базе гэтай жа мадэлі прыназоўнік **za*+дзеяслоў стану (спакою), аднак з іншым лексічным напаўненнем, утвораны рус. *незави́симость* (ад *за-висеть* 'залежаць'), чэш. *nezávislost*, славен. *nezavisnost*, серб.-харв. *незáвисност*, балг. *независи́мост*, макед. *независност* і г. д.

**Незапамінáйка** 'незабудка' (Жд. 2; воран; Шатал.). З польск. *niezapominajka* 'тс' (ад *zapominać* 'забываць', параўн.

*запамінáць* 'засвойваць, трымаць у памяці'), якая ў сваю чаргу калькуе заходнееўрапейскія назвы, гл. *незабýдка*.

**Нéзбалазь** 'ахвота': *Ікáя вам нéзбылызь грязь іціць мясіць* (Юрч. Фраз. 1). Гл. *небалазь*.

**Нéзгаль** 'слота' (Марц.). Цёмнае слова.

**Незграбоцце** *(нізграбóцё)* 'нязграбны чалавек' (Сцяц., Сцяшк.; навагр., Жыв. сл.). Ад *нязгрáбны* (гл.).

**Нездалéка** 'той, у каго мала фізічнай сілы' (Янк. 3), *нездаля́ка* 'тс' (Пятк. 2), *нездалéтнік* 'нямоглы, слабы чалавек' (Янк. 3), ад *нездалéць, ніздалéць* 'быць слабому здароўем, нядужаму, хвораму' (Янк. 1; глус., Янк. Мат.), *нездалéтны* 'нямоглы, фізічны слабы' (Янк. 1), з *не здолець* 'не адолець, не мець сілы што-небудзь зрабіць'; гл. *здолець*.

**Нéзла** *(нéзло)* 'даволі добра' (Нас.). Адаптаваны паланізм *nieźle* 'добра, нядрэнна' (ад *źle* 'дрэнна').

**Незумы́сня** 'ненарокам, выпадкова' (Колас). Паводле Шубы (Прыслоўе, 115), у выніку кантамінацыі блізкіх па значэнню і па форме прыслоўяў *несумы́сля* і *ненаўмы́сна* (гл.).

**Нéйдзе** 'дзесьці; мусіць, мабыць' (Янк. 1), 'няма дзе' (Грыг., Растарг., Бяльк.), 'дзесьці; мусіць, мабыць; няма дзе' (Нас.), *нéйдзі* 'тс' (Мат. Маг.), *нéйдзя* 'кудысьці' (Сл. ПЗБ), *нéйдзе, нéйдзі* 'дзесьці; кудысьці; няма дзе', *нéйдзека* 'тс' (ТС). Паводле Карскага, *-й-* (*-i̯-*) устаўлена паміж адмоўем і прыслоўем, каб надаць «плаўнасць» маўленню, параўн. веліж. *нéйгдзе* 'тс', горац. чэрык. *дáйжа* (<рус. *дáже* 'нават') і пад. (Карскі, 1, 305). Гл. *нéгдзе, нéдзе*.

**Нéйкі,** *нéкі* 'якісьці, незнаёмы; абы-які; які-небудзь' (ТС, Сл. ПЗБ, Грыг., Мал., Бяльк.), 'якісьці' (Нас.). З *не+які*.

**Нейлон** 'штучнае сінтэтычнае валакно' (ТСБМ), *нейлонка* 'нейлонавая мужчынская кашуля' (лаг., Жыв. сл.). Запазычана праз рус. *нейлон* з англ. *nylon* — штучна створанай назвы; націск на апошнім складзе, магчыма, сведчыць пра французскае пасрэдніцтва пры запазычанні ў рускую мову.

**Нек** 'неяк' (Жд. 2, Сл. ПЗБ). З *нéяк*>*нéік*>*нéйк*>*нек*, параўн. *нéйкі, нéкі* (гл.); у выніку дээтымалагізацыі прыстаўка *не-* страчвае сваю функцыю словаўтваральнага элемента (Шуба, Прыслоўе, 166). Форма *нéко* '**неяк, аднойчы**' (слонім., Жыв. сл.) з **неяко (*pějako), гл. некася*.

**Нéка** 'не; ніяк' (бешанк., Нар. сл.; Цых.). Магчыма некалькі тлумачэнняў паходжання слова, якія маюць права на існаванне, асабліва пры допушчэнні аманіміі форм: *нéка*<*нéа* (адмаўленне, гл.) шляхам устаўкі *к* паміж галоснымі; *не+ка* (часціца, як у *тута-ка, тама-ка, нямаша-ка, немае-ка* і г. д.); утворана ад дзеяслова *нéкаць* 'гаварыць «не»', гл.

**Нéкалі** 'няма калі, няма часу' (Нас., Грыг., Гарэц., Мал., Сл. ПЗБ, ТС, Растарг.), 'няма калі; калісьці' (докш.; бых., Янк. Мат.; Бяльк.), 'калісьці, даўно' (Сцяшк.), 'некалі; у будучым, у хуткім часе' (Яўс.), параўн. таксама з нарашчэннем часціц: *нéкаліка, нéкалікі, нéкаліцька, нéкакаліцькі* (Яўс.), рус. *нéколи* 'няма калі, няма вольнага часу', ст.-слав. **нѣколи** 'калісьці, аднойчы'. Прасл. **několi*, з *ně* (гл. *не*) і *koli* (гл. *калі*), гл. ESSJ SG, 2, 478.



**Нéкальства** 'недахоп вольнага часу; мітусня' (Нас., Гарэц., Ян., Юрч.). Ад *нéкалі* 'няма калі', параўн. таксама дзеяслоў *нéкаліцца* 'затрымлівацца, марудзіць' (Яўс.).

**Некаторы** 'паасобны' (Сл. ПЗБ, Некр. і Бойк., БРС, ТСБМ), *нéкоторы* 'асобны; пэўны' (ТС), рус. *некоторый* 'паасобны, пэўны', в.-луж. *někotry* 'тс', н.-луж. *někotary* 'тс', ст.-слав. **нѣкоторъ** 'тс'. Прасл. **ně-kotorъ*, гл. ESSJ SG, 2, 479; Шустар-Шэўц, 13, 998; Фасмер, 3, 60.

**Нéкась** 'леташняя няскошаная трава' (Сл. ПЗБ), 'позняя асенняя трава' (мядз., Нар. сл.), 'сенажаць дрэннай якасьці' (Ян.), *нéкось* 'участак сенакосу, непрыдатны для касьбы; няскошаны ўчастак' (ТС), *нэ́кош* 'няскошаны луг, поплаў' (пін., Нар. лекс.), *нéкаш* 'няскошаная трава' (Сл. ПЗБ). З *не* і *касіць*; формы з канцавым *ш* хутчэй за ўсё са спалучэнняў *някошаны луг, някошаная трава*.

***Нéкася,** *некось* 'неяк; калісьці' (ТС). З **pějako* і партыкуламі *sę, si* (гл. *-ся, -сь*), гл. ESSJ SG, 2, 477, параўн. польск. *niejakoś* 'тс'.

**Нéкаць** 'аднекваціца, гаварыць «не»' (Нас.). Ад *не* шляхам т. зв. *к*-суфіксацыі, пры дапамозе якой утвараюцца дзеясловы ад выклічнікаў, гукапераймальных слоў і г. д., параўн. *нукаць, нокаць* (ад *но!*) і пад.

**Некерко** 'гваздзік-травянка, Dianthus deltoides L.' (гродз., Кіс.). Няясна; магчыма, дэфармаваная з мэтай ахоўнай магіі назва, параўн. іншыя назвы расліны *іскаркі, сярдзечнік*; ва ўсякім разе спалучэнне *-ке-* не з'яўляецца характэрным для названага арэала, аднак смал. *некенький* 'якісьці; не варты ўвагі' можа сведчыць аб прыналежнасці назвы да «шыфраваных» найменняў раслін тыпу польск. *nietoto* і пад., параўн. і польск. дыял. *niekiery* 'некаторы, няпэўны'.

**Нéклус** 'маленькі вулейчык, які ставіцца для лоўлі раёў' (Сцяшк.). Няясна, улічваючы геаграфію слова, можна выказаць здагадку аб сувязі з польск. *kłusować* 'бясправна паляваць', *kłusanie* 'бадзянне' і пад.; параўн., аднак, рус. *неклеус* 'маленькі вулей' (іван., СРНГ). Гл. таксама *навуз, навузнік*.

**Нéкрут** 'рэкрут' (Нас., Пятк. 2, Растарг., ТС), 'навабранец, рэкрут; няспрытны, непаваротлівы' (Бяльк.), *нéкрутка* 'салдатка' (ТС), укр. *нéкрýт* 'рэкрут', рус. *некрут* 'тс'. З *рэкрут* (гл.),

фанетычныя змены тлумачацца аналогіяй ці т. зв. падвойнай аналогіяй (гл. Апель, РФВ, 1880, 2, 197—224; Альшанскі, Мовазнаўства, 1987. 6, 70—72), народнай этымалогіяй (з *некруціць*, Карскі, 1, 315).

**Нéкства**, род. скл. *нéксці*, зборн. 'яўрэйства, рэдка — пра татар і цыганоў' (Нік. Оч.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ств-* ад **нексць* 'нехрысць', што ў сваю чаргу ад *не* і *ксціць* 'хрысціць' (гл.), *ксціцца* 'хрысціцца' (Нас.), параўн. серб.-харв. *нѐкрст* 'нехрысць', зборн. 'нехрысці'.

**Нéксьці** 'якісьці' (Сцяшк.). З **не-які-сь-ці*, гл. *някі*.

**Нéкся** 'некалькі дзён назад' (карэл., Янк. Мат.). З **не-як-ся*, гл. *неяк*.

**Некульцяпісты** 'нязграбны, няўдалы' (Юрч.). Да *кульця́па*, *кульцяпісты*, гл. *куляць*.

**Некуцáвый** 'неядомы (грыб)' (Мат. Маг.), *нікуцáвый* 'ніякі, дрэнны' (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.). Відаць, ад *куцаць* 'доўга перажоўваць што-небудзь' (Сл. ПЗБ).

**Нéлад** 'нéпарадак, нязгода' (Нас.), *нэ́лад* 'нелады' (драг., З нар. сл.), укр. *нéлад* 'бязладзіца, непарадак', рус. *нéлад* 'раздор, нязгода'. З *не* і *лад*, гл. *ладзіць*; сюды ж *неладом* 'не ў лад, бязладна' (Ян.).

**Нелапы** 'ладны, дастатковы па велічыні, вазе і памерах': *мае парасята ужэ нелапые* (слуц., Нар. словатв.), *нелапы́* 'няладны, нядобры' (ТС), параўн. ст.-рус. *не лапъ* 'ужо не, больш не', укр. *не лапі* 'няхутка', польск. *nie łapie* 'няхутка; нялёгка', ст.-чэш. *nelap* 'нялёгка, з цяжкасцю, ледзь'. Выводзіцца з прасл. **lapati, lapъ!*, што выражае хуткі рух з мэтай схапіць, злавіць і г. д., гл. *лапаць*. Развіццё семантыкі ад 'што трапіла, абы-што' да 'не абы-што', пры гэтым адмоўе не ўносіць новага семантычнага адцення, параўн. ст.-чэш. *lap kto, lap który* 'хто-небудзь'; больш падрабязна гл. Махэк₂, 320; Фасмер, 2, 459; Слаўскі, 4, 475.

**Нéлень** 'дуб, які захоўвае на сабе сухія лісты аж да новых і пачынае распускацца ў першай палове мая, прыблізна на два тыдні пазней за звычайны' (Пятк. 2), *нелéнь* 'тс' (Маш.), *нéлень* і *нéлін* 'тс' (ТС), *нелíн* 'тс' (лельч., Жыв. сл.), часта ў спалучэннях *нéлень-дуб, нéлін-дуб* 'тс' (ТС); укр. *нéлинь*. Да **lěniti, *lin'ati* 'лінуць', параўн. славен. *léniti* 'тс', гл. *лінуць*; першапачаткова прыметнік як азначэнне пры назоўніку *дуб*, які пасля ў выніку дээтымалагізацыі субстантываваўся; паўторна зближаны з *лень, лянівы* (гл.), адсюль другасная апісальная назва *лянівы дуб*, параўн.: *Кажуць леніву дуб, бо вон позно розвіваецца* (ТС, 3, 21), а таксама шляхам апушчэння адмоўя — *лень-дуб* (там жа).



**Нéлупак** *(нéлупык)* 'неслух, свавольнік' (Яўс.). Відаць, з *не* і *лупіць* 'біць, лупцаваць' ('біць да здзірання скуры', Нас.), г. зн. 'той, каго не білі'.

**Нéльга** 'не можна, няма магчымасці' (Мал., Гарэц., Пятк. 2, Бяльк., ТС), *нельгá* 'тс' (Нас., Растарг.), *няльгá* (Гарэц.), *нільгá* 'тс' (маг., Шн. 2), *нельжá, нільжá* (Мал., Кліх), *нéльзя* 'тс' (Нас.), *неззя́* 'тс' (Растарг.), ст.-бел. *нелга* 'тс' (1478 г.), рус. *нельгá, нéльзе, нельзé, нéльзи, нельзи́, нéльзя, нельзя́* 'тс', ст.-рус. *нельзѣ, нельзя, нельза* 'тс', польск. дыял. *nie lza* 'тс', ст.-польск. *nie ldza, nie lza, nie lża* 'тс', чэш. дыял. *nel'za, nejza* 'тс', ст.-чэш. *ne-lzě* 'тс', славац. арх. *nel'dzä, nel'dze, nelze* 'тс', ст.-слав. **не льзѣ, не льѕѣ** 'тс'. Утворана ад прасл. **lьga* (гл. *льга*), назоўніка ці субстантываванага прыметніка ад **lьgъ*, што чаргуецца з **lьgъkъ* (гл. *лёгкі*), з развіццём семантыкі ад 'лёгкі' да 'мажлівы'; тут з адмоўем абазначае 'немажлівасць'. Праблему складае варыянтнасць канца слова. Формы тыпу *нельзя* адлюстроўваюць дав. скл., прадстаўлены ў ст.-слав. **нельѕѣ** (Карскі, 2—3, 73). На формы тыпу *нельжá* паўплывалі, відаць, адпаведныя польскія, што тлумачыцца ўздзеяннем роднасных слоў польск. *lżejszy* 'лягчэйшы', *ulżyć* 'аблегчыць' (гл. Зубаты, 1, 61—76). Адсутнасць т. зв. трэцяй палаталізацыі ў формах тыпу *нельга* тлумачыцца па-рознаму: семантычнай сувяззю з коранем **lьg-* (параўн. *лёгкі, адліга* і пад.), уплывам германскіх запазычанняў і пад. (Lunt H. G. The progressive palatalization of Common Slavic. Skopje, 1981), непаслядоўнасцю правядзення пераходу $g > \check{z}$, што адлюстроўваюць не толькі названыя формы, але і рус. *польга* 'карысць', палаб. *pü'ölga* 'тс', польск. *ulga* 'паслабленне і інш.' (Беляев, ВЯ, 1986, 2, 112), а таксама нераўнамернай геаграфічнай распаўсюджанасцю гэтага пераходу. Больш падрабязна гл. Фасмер, 3, 61; Слаўскі, 4, 85—87.

**Нéлюдзь** 'нелюдзім' (слаўг., Нар. словатв.; Яўс., Сл. ПЗБ), 'вылюдак, ідыёт' (Юрч.), 'нечалавек' (Сцяц.), 'непадобны да людзей' (ТС), сюды ж *нéлюддзя, нéулюддзя, нелюдзяддзё* 'тс' (слаўг., Нар. словатв.). Назоўнікі, утвораныя ад *нелю́дзкі* 'дрэнны' (Сл. ПЗБ), 'нелюдзімы, дзіклівы' (ТС), 'няўжыўчывы; неспагадлівы; нетутэйшы, неўласцівы тутэйшым людзям' (Нас.), *нелюдзя́чы* 'нягодны; непрыгожы; слабы, хворы' (Ян.) і пад. Гл. *лю́дзкі*.

**Нéма**₁ 'моцна, роспачна (крычаць)' (Сл. ПЗБ, Жд. 1), *нéмо* 'страшна, дзіка; глуха': *немо горaць ногі; удырыло нéмо*

(ТС). Супрацьлеглыя значэнні аб'ядноўваюцца зыходнай семантыкай прыметніка *нéмы* 'страшны, замагільны', гл.

**Нéма**$_2$ 'тварам да зямлі' (Чач.). Калі гэта не развіццё семантыкі папярэдняга слова ('глуха'>'тварам да зямлі'), то можна меркаваць пра глыбокі архаізм, які грунтуецца на старажытным проціпастаўленні верх — ніз, неба — зямля, гэты свет — той (падземны) свет і г. д., пры гэтым для першага элемента проціпастаўлення характэрна наяўнасць голасу, для другога — немата, параўн. чэш. *věhlas* 'свядомасць, дасведчанасць' і *nevěglas* 'недасведчанасць; язычнік', таксама тураўск. *невéглас* 'смерць' (гл.), г. зн. 'тое, што належыць таму свету, які не ведае голасу (=нямому)'.

**Немавéдама** 'невядома' (Сл. ПЗБ), *німавéдама* 'тс' (Янк. 1; бых., Янк. Мат.; Бяльк.). У Насовіча яшчэ як спалучэнне *нямá вéдама*, дзе *вéдама (вѣдомо)* 'паведамленне', да *вéдаць*. Той жа дзеяслоўны корань прадстаўлены ў *німавéд* 'невядома' (рэч., Карскі, 2—3, 78), *немовéдкі, немовéдзь* 'тс' (ТС), *нымовúдь* 'невядома, надта, неверагодна, страх, цуд' (Клім.; кобр., Нар. лекс.).

***Немавéсць**, *немовéсць* 'немаведама' (ТС), *нэмовíсты* 'тс' (пін., Нар. лекс.). Параўн. у спалучэнні *немá вéсці* 'тс' (ТС), да *весць* 'паведамленне, слых, чутка' (гл.).

**Немазнáць** 'немаведама': *Немазнаць што там робяць* (Ян.). Хутчэй за ўсё ў выніку субстытуцыі (падмены) другога элемента ў спалучэнні *немавесць* дзеясловам *знаць*.

**Немайдáма** 'невядома' (Бяльк.). З *немавéдама: немá (в)éдама>немаéдама>немайдáма*.

**Немалáду** *(німалáду)* 'невядома' (Янк. 1), 'без прычыны, немаведама за што' (Некр.), *немаладý* 'невядома; вельмі многа' (саліг., гл. Мат-лы науч.-теор. конф. Мин. пед. ин-та. Мн., 1966, 9). Са спалучэння *нямá лáду*, гл. *лад*.

**Нéмам:** *нéмам сядзéць* 'сядзець моўчкі' (Сл. ПЗБ). Магчыма, тут захавалася субстантываваная форма прыметніка **němъ* 'нямы, безгалосы', прадстаўленая тв. скл. адз. л., або адбылося другаснае афармленне прыслоўя *нéма* (ад *нямы́*, гл.) паводле распаўсюджанай мадэлі на *-м*: *нáгба* і *нагбóм*, што здаецца менш верагодным.

***Нéмаразь**, *нéморозь* 'дрыжыкі, жах' (ТС). Хутчэй за ўсё з *нéмарасць* (гл.) з ад'ідэацыяй да *мароз*, параўн. фразеалагізм *аж мароз па скуры* (пайшоў) 'вельмі страшна, жахліва'.



**Нéмарасць** 'псіхічнае расстройства, выклíканае моцным жаданнем дасягнуць чаго-небудзь, зайздрасцю і інш.' (навагр., Жыв. сл.), 'прыгнечаны стан духу' (Некр.), 'бязрадаснае адчуванне' (Гарэц., Др.), 'роспач, цяжкае становішча; слабасць' (Сл. ПЗБ). Лічыцца запазычаннем з літ. *nērimastis* 'турботы', пры гэтым адбылася перастаноўка складоў і адаптацыя да фанетычных асаблівасцей беларускай мовы (Грынавяцкене і інш., LKK, 16, 1975, 184), параўн. там жа форму без метатэзы-воран. *нéрымасць* 'тс', што суадносіцца з іншым балтызмам *рымсціць* 'цярпець, вытрымліваць' (Лаўчутэ, Балтизмы, 70). Сюды ж *нéмарасціцца* 'нездаровіцца' (лід., Сл. ПЗБ).